БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя І. Мастацкая літаратура*

Галоўны рэдактар
«Беларускага кнігазбору»
***Кастусь Цвірка***

Выканаўчы дырэктар
МГА «Беларускі кнігазбор»
***Генадзь Вінярскі***

УДК 882.6-8
ББК 84 (4Бен) 6
А 85

Укладанне і каментар
Лідзіі Савік

Прадмова
Алы Сямёнавай



ISBN 985-6638-55-0

# НА ШЛЯХУ СУСВЕТАЎ

Habent sua fata scriptores. Пісьменнікі маюць свой лёс.

Асабісты і творчы.

Канцэнтраванае Быццё. У нечым абумоўленае знешнімі абставінамі і падзеямі. У нечым — адстароненае, адчужанае ад іх. Пад Знакам Лёсу. Знакам вызначанасці.

Лёс Наталлі Арсенневай быў багаты на знакі абранасці. Ад самага нараджэння — вэлюм паходжання, што лучыў яе з адным з самых вяршынна таленавітых паэтаў, з лёсам трагічным і адметным. Яна з таго роду, што даў свету М. Ю. Лермантава. Гэтыя філагенетычныя перадумовы, выхаванне ў адукаванай сям'і, валоданне замежнымі мовамі, соцыянарматыўная культура (эстэтычныя, этычныя ўяўленні і нормы), безумоўна, мелі свой уплыў на тое, што прынята называць станаўленнем творчай асобы.

Вучылася Наталля Арсеннева ў «кузні беларускіх дзеячоў» — у Беларускай гімназіі, у Вільні. Сярод настаўнікаў гімназіі — Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч, усе — краса і гонар Беларускага Адраджэння. Уявіце сабе ровень шкалення!

Першыя вершы Наталлі Арсенневай прачытаў і ўхваліў не хто-небудзь, а сам Максім Гарэцкі!

Паэткай захапляліся, ёй прысвячалі вершы Максім Танк і Міхась Машара.

«Песня твая зацвіла зачарованай казкаю...» — словы Максіма Танка з таго самага верша, звернутага да паэткі, — «Нашы шляхі».

Пачынаўся ж верш словамі: «Нашы дарогі расходзяцца даўна пад зорамі....» Лёс сапраўды вызначыў так, што словы гэтыя прароча спраўдзіліся ў жыцці. Дарогі разышліся, мабыць, куды больш далёка, як маглі сабе ўявіць Максім Танк і Наталля Арсеннева, упершыню сустрэўшыся ў 1937 годзе ў Вільні, на пасяджэнні Беларускага навуковага таварыства. Народны паэт Беларусі, старшыня Саюза пісьменнікаў, літаратар, якога ведалі са школьнай лавы. І — паэтка эміграцыі, нават прозвішча якой некалькі дзесяткаў гадоў было пад забаронай.

У кожнага з іх свой жыццёвы шлях, свая драма душы, свой духоўны свет. Свая творчасць. А найперш менавіта творчасцю яны цікавыя нам. Творчасцю, у нечым непасрэдна звязанай з біяграфіяй, а ў нечым — адстароненай, адчужанай. Абумоўленай найперш духоўным досведам, памкненнямі вышэйшага парадку.

Асоба Наталлі Арсенневай пасля дзесяцігоддзяў забыцця і забарон для адных набывае асаблівую падфарбоўку, нават німб: пакутны лёс выгнанніцы — адпрэчылі ад радзімы, выкраслілі з літаратурнага ўжытку, раскрыжавалі знявагай маўчання. Пячатка трагічнага, кожным разам, — драматычнага лёсу... Для іншых, нават цяпер, пасля яе смерці, яна існуе з тымі самымі адмоўнымі адзнакамі, што і цягам доўгіх дзесяцігоддзяў.

Паспрабуем падысці да яе творчай асобы цвяроза, аналітычна, аб'ектыўна, гледзячы на яе творчасць і жыццёвы шлях не правінцыйна-замілавана і не толькі настраёва-натхнёна. І ні ў якім выпадку не сацыялагічна-асуджальна. Спрабуючы наблізіцца да таго галоўнага, патаемнага, што меціць творцу, што надае сутнасны сэнс моўленаму.

Антон Адамовіч, адзін з самых прыкметных крытыкаў беларускай эміграцыі, ва ўступным артыкуле да кнігі Наталлі Арсенневай «Між берагамі» (Нью-Ёрк, 1979) увесь час падкрэслівае «натуралізацыю» паэткі ў беларушчыне, маючы на ўвазе яе расійскія карані. Хто яго ведае, ці мае ён рацыю. Неяк у беларусаў, што займелі вядомасць як расійскія ці польскія творцы, ніхто не спяшаецца вызначыць іх «некарэннасць». У лепшым выпадку — а propos — фіксуецца сувязь з пэўнымі геаграфічнымі мясцінамі. Ды і ўвогуле тэрмін гэты, натуралізацыя, ужываюць вельмі асцярожна, нават калі ёсць на тое падставы: Конрад, Апалінэр, Шамісо... Загадка творчай асобы, знак лёсу — мабыць, гэтае дапушчэнне бліжэй да той таямніцы і наканаванасці.

І была найвышэйшая воля ў тым, каб беларус Максім Багдановіч, што гадаваўся і вучыўся ў Расіі, свой талент, сваю творчую думку аддаў усё ж зямлі продкаў — Беларусі. І было высокае казанне ў тым, што патомная Арсеннева, пабачыўшы свет жыцця ў Баку, не толькі радзімай, але і месцам нараджэння лічыла Вільню, «дзе... фактычна расла і гадавалася ад першых месяцаў свайго жыцця». І — менавіта ў гэтай сувязі з Бацькаўшчынай: радасць і боль, светлае і трагічнае, надзея і туга.

Складаныя абставіны, складанае жыццё... А ў каго яны былі простыя? У каго было простым жыццё — з тых, хто прыйшоў на свет на пачатку XX стагоддзя, перажыў дзве сусветныя вайны, жыў у краіне, якую кроілі, дзялілі, вызначалі межы, дзе адзін жорсткі рэжым змяняўся другім?

Лёс Наталлі Арсенневай быў няпросты, як у большасці яе літаратурных раўналеткаў. Дзе б яны ні знаходзілі сабе жыццёвы прытулак, — на радзіме ці чужыне — у розных кутках планеты Зямля. У тых, хто па часе раней прыйшоў у літаратуру, і ў тых, хто прыйшоў пазней. Рубэн Дарыо, Габрыэла Містраль, Федэрыка Гарсія Лорка, Райнер Марыя

Рыльке, Чэслаў Мілаш, Юліян Тувім, Барыс Пастарнак, Марына Цвятаева, Анна Ахматава... Etc, etc, etc. Маю на ўвазе не ступень вядомасці таленту, размова — пра трагічнасць лёсу...

А нарадзілася Наталля Арсеннева 20 верасня 1903 года ў сям'і службоўца, як пазначала сама паэтка — «расейскага ўрадаўца». У сям'і Арсенневых было чацвёра дзяцей — тры сястры і брат. Маці, былая настаўніца, жанчына строгая і адукаваная, сама займалася падрыхтоўкай дзяцей да гімназіі. У дзесяць гадоў Наталля Арсеннева на «выдатна» здала ўступныя экзамены і была залічана адразу ў другі клас віленскай Марыінскай гімназіі. Вучылася два гады. А далей навуку спасцігаць давялося ў Яраслаўлі, куды эвакуявалі сям'ю Арсенневых, калі пад час Першай сусветнай вайны фронт наблізіўся да самай Вільні. Гады жыцця ў Яраслаўлі супалі з цяжкімі гадамі — вайна, голад, рэвалюцыя... Вырашылі вяртацца на радзіму, у Вільню. Дабіраліся да Вільні больш за год. Усе дзеці перахварэлі на гішпанку. Сястра Наталлі Галіна памерла.

А ў Вільні кватэру Арсенневых занялі чужыя людзі. Усё дабро, што пакінулі пад час эвакуацыі, знікла. Трэба было ўсё набываць наноў. 16-гадовая Наталля мусіла даваць урокі французскай і нямецкай моваў, каб дапамагчы сям'і. Было цяжка, аднак, як згадвала сама паэтка, «з прыгнечання, а часта з гаркое роспачы ратавала... Першая беларуская гімназія», бо «людзі, што вучылі... ў Вільні ў 1919-м, 1920-м, 1921-м, 1922-м ды пазнейшых гадах, навучылі на ўсё жыццё й мяне, і шмат каго з маіх аднагодкаў горача палюбіць Беларусь, стацца ейнымі пільнымі служкамі назаўсёды». Адтуль — творчы, жыццёвы, грамадзянскі гарт. Адтуль — непахісная воля. Адтуль — бачанне гістарычнай перспектывы, цвярозая ацэнка падзеяў сучаснасці, адтуль — быційнае апірышча.

Атэстат аб набыцці сярэдняй адукацыі — «матуру» — Наталля Арсеннева атрымала ў чэрвені 1921 года. І распачала працу ў адной з беларускіх віленскіх школаў. Паступіла таксама на гуманістычны факультэт Віленскага універсітэта. Адначасова друкавалася ў розных заходнебеларускіх часопісах і газетах.

А праз год Наталля Арсеннева ўзяла шлюб з Францішкам Кушалем і з'ехала з Вільні. У Заходнюю Польшчу.

...Новае жыццё. Новы свядомасны стан. Наталля Арсеннева — маці двух сыноў, Яраслава і Уладзіміра. Паводле прызнання самой паэткі, «перажыванні, найглыбейшыя... і найшчаслівейшыя — пачуцці і перажыванні маці».

І — існавала быццё духу, таямнічая стыхія, падсвядомыя і свядомыя рухі інтэлекту, той стан, калі суіснуюць ідэі і чыстыя эмоцыі, асацыяцыі і аналогіі, дзе ўсё падпарадкоўваецца не толькі і, можа, не столькі гістарычнаму, як «унутранаму часу» — і ўсё гэта, уступаючы ў нейкую гарманічную суадноснасць вобразаў, меркаванняў і абстракцый, вызначае тое, што фактаграфічна падсумоўваецца шматлікімі творамі. Вершы, вершы, вершы... Зборнік «Пад сінім небам» (1927), падрыхтаваная да друку кніга «Жоўтая восень»...

Наталля Арсеннева жыла, творча асэнсоўвала рэчаіснасць, гадавала дзяцей...

А жыццё рыхтавала новыя выпрабаванні. Другая сусветная вайна. Паводле пакта Молатава—Рыбентропа Заходняя Беларусь і краіны Прыбалтыкі ў 1939 годзе далучаны да СССР.

Пачынаючы менавіта з гэтага моманту — калі ў Вільню прыйшлі саветы, у большасці незычліўцаў і ўзнікаюць пытанні да Наталлі Арсенневай. У кожным выпадку — прычыны і матывацыі далейшых учынкаў паэткі трэба шукаць, пачынаючы з гэтага перыяду.

Тым часам горад трох культур — беларускай, польскай і літоўскай — Вільню пераўтвараюць толькі ў летувіскі горад Вільнюс. У горадзе зачыняюць усе беларускія выданні. Наталля Арсеннева ад'язджае да сваякоў у Вілейку, дзе пачынае працаваць у мясцовай газеце.

Муж яе апынуўся ў засценку, у савецкім палоне. У 1940 годзе паэтку высылаюць у Казахстан, разам з абодвума сынамі. Прычынай высылкі, паводле шматлікіх звестак, было знаходжанне Францішка Кушаля ў турме.

Успаміны Наталлі Арсенневай «У казахстанскай ссылцы», мабыць, не самыя жахлівыя з таго, што нам давялося прачытаць пра ГУЛАГ і засценкі ДПУ. Тым больш што заканчэнне ў тых успамінах, так бы мовіць, з разраду happy end. Дзякуючы хадайніцтву Саюза пісьменнікаў БССР, яна вярнулася са ссылкі ў траўні 1941 года. Але гэтыя ўспаміны — яшчэ адно сведчанне таго, які бывае вынаходлівы чалавек на кпіны і здзекі, на бяссэнсіцу. Гісторыя багатая на факты. А XX стагоддзе, паводле сцвярджэнняў даследчыкаў і дадзеных статыстыкі, паставіла тут ці не рэкорд. Фашыстоўскія лагеры, карныя акцыі, масавыя расстрэлы, у СССР — памянёны ўжо ГУЛАГ, розныя «навацыі» НКУСа, МУСа...

Успаміны Наталлі Арсенневай пра казахстанскую ссылку дадаюць красамоўныя старонкі ў сумны летапіс. Даюць зразумець многае ў настроях і паводзінах паэткі. Раптоўная, без следства і суда, высылка. Ніякіх афіцыйных абвінавачванняў... Дарога ў таварняку са шчыльна зачыненымі дзвярыма. Холад, голад, бруд. Ані скарынкі хлеба за першыя тры дні. Усе высланыя ў таварняку — жанчыны, дзеці. Дваццаць дзён пакут вытрымалі далёка не ўсе. Тых, хто выжыў, выгрузілі (выраз Арсенневай) на нейкай станцыі. Ніякіх сродкаў для існавання. «У каго няма грошай... можа пабатрачыць у калгаснікаў». За посцілку і ручнікі — «кватэра» — куточак у хаце, на глінянай падлозе. За пшаніцу і хлеб яны мусяць «капаць гліну, мясіць яе ў ямах з сечкай, лазіць на стрэхі, мазаць іх глінай, рабіць «саман», цягаць ваду із студняў». Найвялікшы зароблены далікатэс — малако. У чужым краі няўтульна, нязвыкла, сцюдзёна зімой, спякотна «распаленым казахскім летам». А галоўнае — незразумела і балюча: за што?

Год пакут, год крыўды, год пакарання — не абумоўлены ніякімі юрыдычнымі падставамі. Выклік у Маскву — незразумела, дзеля чаго.

Хіба што дзеля прапановы скасаваць шлюб з мужам. Была такая. Муж яе тым часам быў у Маскве, побач, за кратамі, на Лубянцы.

У Маскву паэтка прыехала знямоглая — усю дарогу хварэла. А вяртаючыся ў Казахстан, ішла да месца ссылкі з райцэнтра пешшу — 32 кіламетры за адзін дзень. Па мокрым снезе, у разбухлых валёнках, з нагамі, сцёртымі да крыві. Апошнія 5 кіламетраў — босая, вясновай снегавой хлюпатой…

Толькі каля двух гадоў са свайго доўгага жыцця пражыла Наталля Арсеннева «за саветамі». За гэты час — вымушаны ад'езд з Вільні, горада-радзімы, гістарычнага цэнтра беларускага друку, цэнтра беларускай культуры, горада, дзе ў 20—30-я гады віравала культуровае і літаратурнае жыццё, у якім яна брала чынны ўдзел. Гвалтоўная высылка ў Казахстан, уладнае нахабства «брутальных энкавэдыстых», «няветлыя ваколіцы савецкага краю», дзе «шмат якія калгасы год у год галадалі». Нечаканае папярэджанне Алеся Кучара — у Мінску! у беларускай сталіцы! — «Ведаеце, не гаварыце так голасна па-беларуску — у нас гэта не прынята».

Беларусь, Бацькаўшчына і новая ўлада сталіся для Наталлі Арсеневай паняткамі адрознымі. На Беларусі гаварыць па-беларуску — непажадана, затое выправіць у Казахстан — калі ласка, па этапе. Абвясціць калыску трох культур Вільню толькі летувіскім горадам — можна. Пазбавіць магчымасці працаваць — не забаронена, нягледзячы на гарантаванае канстытуцыяй права на працу. Заўважыла, безумоўна, Наталля Арсеннева і адсутнасць у культуровым цэнтры Беларусі Мінску былых сваіх выкладчыкаў, што так імкнуліся трапіць у Савецкую Беларусь: Максіма Гарэцкага і Браніслава Тарашкевіча. Дзе яны знаходзяцца — мала хто ведаў, але знікненне іх, арышты — тое было ўсім вядомым «сакрэтам».

Мы мелі магчымасць у сваю пару чытаць у Максіма Танка, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка, што іх вабіла ў тых пераменах, якія былі прынесеныя з Усходу на Беларусь: бясплатнае навучанне, бясплатныя бібліятэкі, бясплатная зямля, урэшце — прывідная ці не — аднак абвешчаная ў канстытуцыі роўнасць для ўсіх. Названыя пісьменнікі — людзі, якіх не папракнеш у артадоксіі ці выслужванні перад уладамі. І такім было іх уражанне. (Да таго ж — Максім Танк, напрыклад, і Піліп Пестрак зазналі смак знаходжання за кратамі ў Лукішках.)

Наталля Арсеннева да прыходу саветаў засценкаў не паспытала, высылак — таксама, жыла адасобленым ад грамадскіх і сацыяльных праблем жыццём, пісала, друкавалася. У замужжы была забяспечаная матэрыяльна.

І ад мужа яе ніхто не прымушаў адмаўляцца. Саветы ж, бальшавікі, паводле ўсяго, пра што ішла гаворка вышэй: арышт мужа, ссылка, вымушаны ад'езд з Вільні, страта працы — успрымаліся як чужынцы, ворагі. Як людзі, што не ўмеюць ні гаспадарыць, ні службу правіць, а яшчэ і Бога адмаўляюць.

Кожны вызначаў сваё... У кожнага была свая рацыя, пацверджаная фактамі і аргументамі.

І немцы, на думку Арсеневай, былі акупантамі. Амаль як саветы. Была і — ці то недасведчанасць, ці то наіўная ілюзія — што «немцы ж ані не цікавіліся, якой мовай паняволеныя імі людзі гавораць, чытаюць, пішуць, нікога за гэта не каралі, і таму беларускія патрыёты адразу з гэтага скарысталі й узяліся за працу», «таму гэтыя жахлівыя, нялюдскія гады, яны каштавалі нашай Бацькаўшчыне і ўсім, хто іх перажыў, безліч ахвяраў, як гэта ні дзіўна, а прычыніліся ў вялікай меры да адраджэння беларускае нацыянальнае свядомасці, нішчанае і дужанае і на ўсходзе, і на захадзе (і ў Польшчы, і ў СССР)». Гэта словы Наталлі Арсеневай з дыялога з Леанідам Пранчаком. Але ж даследчыцкія працы апошняга часу (найперш, можа, А. Літвіна і Ю. Туронка) досыць выразна, аналітычна выверана і дакументальна аргументавана не пацвярджаюць гэтай стыхійнай неагляднасці фашыстоўцаў. Палітыка вермахта ў Остляндзе, у прыватнасці, стратэгія гаўляйтэра Кубэ, была і досыць выверная, і мела канкрэтныя мэты. Адкрыццё беларускіх школ, прагімназіяў (няпоўная сярэдняя адукацыя), інстытутаў, падтрымка нацыянальнага друку — усё, безумоўна, дзеля карысці вермахта, Трэцяга рэйху. Немцы арыентаваліся, перш-наперш, якраз на заходнікаў, для якіх саветы былі з'явай новай, нязвычнай, акупацыя ж фашыстоўцаў для многіх — чарговай зменай уладаў.

А людзі нацыяльна і нацыяналістычна выяўленых настрояў з атачэння Наталлі Арсеневай пад час вайны разлічвалі, безумоўна, на чарговы перападзел карты свету пасля Другой сусветнай вайны. Таму, між іншым, зусім невыпадкова Другі кангрэс беларусаў праводзіўся менавіта ў 1944 годзе, калі ў небе Беларусі ўжо гулі савецкія самалёты і з усходу былі чуваць савецкія гарматы. Аднак адначасова ўжо існаваў — рэальна — другі фронт. Існавала Антыгітлераўская кааліцыя. І былі там краіны зусім не пракамуністычнага, бальшавіцкага кшталту: ЗША, Англія... На шанец стварэння самастойнай Беларусі пад час перападзелу Еўропы разлічвалі Кастусь Езавітаў, Францішак Кушаль, Васіль Мікула і інш. Брала ўдзел у Другім кангрэсе і Наталля Арсенева, якая на тую пару кіравала аддзелам літаратуры Беларускага культуровага згуртавання.

І вось тут ёсць яшчэ адзін важны і далікатны момант. Што датычыць тактыкі і стратэгіі вермахта на Усходзе і канкрэтна на Беларусі, дык не толькі навучальныя, адукацыйныя беларускія ўстановы ўсталёўваліся і падтрымліваліся новымі ўладамі. Былі ўтвораны Беларуская самаахова, Беларуская краёвая абарона, падкантрольныя нямецкаму кіраўніцтву. І Францішак Кушаль, муж Наталлі Арсеневай, быў камандуючым Беларускай краёвай абаронай.

Якую ролю адыграў, што чыніў гэты чалавек пад час вайны — пра гэта размова асаблівая і сур'ёзная. Дзе тут доля патрыятычнай самаахвярнасці, дзе— трагічных памылак, магчыма, канфармізму і нават калабарацыянізму (вайна — адзін крок у бок, і ўсё кардынальна змяняец-

ца, гэта ж не дэбаты ў парламенце). Дык вось, усё гэта будуць высвятляць даследчыкі. У нас гаворка пра яго — як пра чалавека з асабістага жыцця Наталлі Арсенневай. Постаць гэта драматычная і неадназначная. Безумоўна. Прафесійны вайсковец расійскай царскай арміі, старшыня Беларускай вайсковай камісіі ў 1919—1920-х гадах, афіцэр польскай арміі ў 20—30-я гады.

Чалавек з такой біяграфіяй і такім паслужным спісам — гэта зусім не тое, што савецкі вайсковец або які французскі афіцэр пад час Другой сусветнай вайны, для якіх было — адназначна — Савецкі Саюз ці Францыя — па адзін бок, фашыстоўцы і бошы — па другі.

Тут, маючы на ўвазе Кушаля, была мара. Пра незалежную, самастойную Беларусь з усімі атрыбутамі дзяржаўнасці: урад, армія, праваахоўныя арганізацыі... Таму — старшыня БВК, таму — камандуючы БКА. Зазірнем у гісторыю, дарэчы. Згадаем польскі корпус Напалеона, легіёны генерала Яна Дамброўскага. Для ваяроў на тую пару былой Рэчы Паспалітай, для тых, хто меў на ўвазе ўзнаўленне Вялікага Княства Літоўскага, Банапарт быў зусім не той постаццю, што для расейцаў. І за прывідную ідэю — бо французскі імператар, што прыйшоў пад трыкалёрам рэвалюцыі, зусім не збіраўся насамрэч ўзнаўляць правы гэтых зямель: нават куртаты досвед ажыццяўлення тых мар — Варшаўскае Княства — нядоўга праіснавала, дык вось за гэтую прывідную ідэю зусім рэальна легіёны сплацілі крывёю пад сценамі Сарагосы, пад Лейпцыгам, на Бярэзіне. Наўрад ці былі такія ілюзіі наконт Гітлера — усё ж не абвяшчаў яго ніхто, як Гегель Напалеона, сусветнай ідэяй на кані.

Увогуле ж у межах гэтай размовы не выпадае весці канкрэтную гаворку пра стасункі БКА і асабіста Францішка Кушаля з дывізіяй СС «Нібелунгі» і з яе сумнавядомым на Беларусі камандзірам Зіглінгам, пра вайсковы шлях мужа Наталлі Арсенневай. Хіба што пра псіхалагічныя матывы ўчынкаў, пра абставіны падзей. Пра тое, што магла ведаць і на што магла рэагаваць ці ўплываць паэтка.

Бо тая постаць, што нас цікавіць тут, — Наталля Арсеннева. Яна — пісала вершы, перастварала па-беларуску замежных класікаў. А ніякіх абвінаваўчых дакументаў, што кампраметавалі б яе, у адкрытым друку не было. Хаця быў атрыманы медаль. Ад акупацыйнай улады.

А ў 1944 годзе Наталля Арсеннева разам з сынам выехала ў Германію, дзе нейкі час знаходзілася ў лагеры для перамешчаных асоб.

З 1950 года паэтка з сям'ёй жыла ў ЗША, спачатку — у Нью-Ёрку, пазней — у Рочэстэры.

А творчасць Наталлі Арсенневай, незалежна ад абставін яе асабістага лёсу, — набытак Беларусі. Ва ўсім свеце, нават ацэньваючы належным чынам палітычныя погляды і грамадскія ўчынкі таленавітага пісьменніка, але адкрытага калабарацыяніста Кнута Гамсуна, друкуюць і чытаюць яго творы. І афіцыйнага паэта рэжыму Мусаліні Габрыэле д'Анунцыо таксама не выкрэсліваюць з літаратуры, аб'ектыўна

ызнаючы суровую праўду. Арсеннева ж сама пазначыла ў інтэрв'ю І. Пранчаку: «Я не палітык, я паэт».

Паэт з тых, хто адчувае пацверджаную вякамі культуру паэтычнага слова і абнаўленчы рух, што распачаўся напрыканцы XIX стагоддзя і па-рознаму ў розныя часы і ў розных геаграфічных кропках выявіў сябе ў XX стагоддзі. Паэт з тых, хто рэагуе на ўсе праявы рэчаіснасці і навакольнага свету, маючы на ўвазе іх лірычную, філасофскую, чуйную важкасць. Вёсны, восені, зімы, зоры, росы, туманы, мройныя адчуванні, сэнсы і планы — нібыта «на пороге как бы двойного бытия» (Ф. Цютчаў)... Гэта той тып светаўспрымання, калі чалавечая творчая ўвага канцэнтруецца на пэўных перажываннях і на пэўных імгненнях, калі ўсё існае ўспрымаецца як цуд тварэння, як радасць — нечаканая, але заканамерная. Лёс чалавека для Наталлі Арсенневай непарыўны, неадлучны ад лёсу Натуры, а быццё ўспрымаецца як будзённае свята, як шматгранная сукупнасць, калі падзейная канва застаецца толькі канвой, а злосны хаос гісторыі яшчэ застаецца недзе на перыферыі свядомасці. Свет гарманічны, свет і чалавечае «я» — у сулучнасці, сугучнасці, сувымернасці. А быційна-верагодны зрэз жыцця мае бясконцую колькасць вызначэнняў, значэнняў і сэнсаў. І гэтая бясконцасць выяўляецца ва ўсім — нават у будове, метрыцы верша. А гарманічна арганізаваная сістэма сусвету вызнаецца ў, здавалася б, простым, звычайным, шэраговым.

Ціха плыў месяц між хмараў празрыстых,
зоры гублялі халодныя слёзы,
вецер зрываўся між клёнаў бязлістых,
вецце калышачы голых бярозаў.
.....................................................................
Нейкая дзіўная сіла ўставала
ў сэрцы, да сяння пакорліва-хворым,
месяц, здаецца, рукою б дастала,
зоры б зрывала з паднебнай прасторы.

(*Ціха плыў месяц*)

Наталля Арсеннева, калі мець на ўвазе першыя два зборнікі, ды і многія вершы пазнейшай пары, творы эміграцыйнага перыяду, успрымае існасць свету як суладную дадзенасць, як падарунак існавання. Нават у самыя скрушныя моманты жыцця паэтка ўмее шукаць выратаванне ў самым звычайным, чароўным, першатворным. У таварняку, шчыльна набітым людзьмі, на шляху ў Казахстан, у ссылку, паэтка спрабуе бачыць тое, што дадзена паэтам. Праламалі хлопцы шчыліну, відзён акраец сіняга неба — і з'яўляюцца радкі: «Толькі вясною бывае неба такое сіняе, толькі вясною бываюць далі такія чыстыя...» Або ўжо за акіянам, дзе ўсё было напачатку вельмі няпроста: фабрыка, канвеер, вясна не давала загрузнуць у твані будзёншчыны «колеру цвілі» (Г. Флабэр):

Увіхаецца вецер растрэсці
і красу
й весніх думак жмут..
Хай жывеш
у вялізным месце, —
запыняюцца
вёсны й тут.
Трэба толькі заплюшчыць вочы
так,
што й сонца нап'ецца з іх, —
і на ўсе галасы
заплюскоча
ўсё,
што надзіць гэтта ў маі.

(*Галіна*)

Мы знойдзем у вершах Наталлі Арсенневай роздум, знойдзем клічнікі захаплення: «Неба сіняе, сіняе, сіняе, ані межаў у ім, ані дна». Знойдзем адбітак выяваў прыроды і адбітак успрымання суб'ектыўнага: «Светлы дзень дагарае над сумнай зямлёю...», «З кажнай хмаркі ў небе празрыстым, з кажнай лужынкі светлай і чыстай усміхаецца ясна вясна», «Смугой жамчужнай хмары абвязалі нябёсы...»

Наталля Арсеннева ва ўсіх жыццёвых абставінах мае давер да чараўніцы Натуры, да створанага Вышэйшым Розумам. І яна будзе весці гаворку пра гэты цуд выратавання, абавязковага і надзейнага:

Калі людзі пакрыўдзяць цябе,
калі хочацца плакаць, маліцца, —
ты ідзі вузкай сцежкай у лес,
там так лёгка на крыўды забыцца!

(*Калі людзі пакрыўдзяць цябе*)

Праявы натуры, найбольш прыдатныя для Наталлі Арсенневай: вясна, восень, вечар, ноч. Стрыманасць, высакародная размеркаванасць. Недасканаласць светапарадку ў ранняй Арсенневай нібыта і не заўважаецца ёю, дыскурсіўнае, эмпірычнае недзе на ўзбочыне настрояў паэткі; прыгажосць свету, яго эстэтычная дасканаласць — менавіта гэта мы знойдзем у яе вершах.

Восень выходзіць у поле
ў белым вянку з павучыння,
восень на ўзмежку, паволі,
з цяжкай пасажнае скрыні
цягне сувоі туманаў...

(*Восень* (*«Восень выходзіць на поле...»*)

Увогуле — спосаб суадносін з рэчаіснасцю не новы, не новы ён і ў беларускай паэзіі, тагачаснай таксама. Аднак — згадаю: гаворачы пра вершы 17-гадовай Наталлі Арсенневай, Максім Гарэцкі пазначыў: «...Новая паэтка, якая ўжо сёння ці не перавышае Канстанцыю Буйло сваім талентам». Я не маю на мэце праводзіць тут канкрэтныя паралелі ці займацца параўнаўчым літаратуразнаўчым аналізам. Проста пазначу — за ўзоры паэзіі Наталля Арсеннева мела, мабыць, Янку Купалу і Максіма Багдановіча, ведала еўрапейскую, рускую, сусветную паэзію. У арыгіналах. Яна валодала французскай, нямецкай, англійскай мовамі. Да таго ж — яе светапогляд, яе вызначанасць былі абумоўленыя і яе духоўнай адстароненасцю, яе незалежнай ментальнасцю, але — і размаітым, складаным культуровым і літаратурным жыццём Заходняй Беларусі, Польшчы, Еўропы. Ва ўзросце творча-вырашальным яна была вольная ад павеваў «будней великих строек», прымітыўнага сацыялагізму, барабаннага пафасу і ўстаноўчых дырэктываў, боязі вымавіць тое, што можа і павінен мовіць паэт.

Яна жыла жыццём душы. Хаця — у нас гэта часта разумеюць як прыніжана-пачуццёвы, нібыта толькі эмацыйны тонус творчасці. Аднак калі М. Цвятаева, напрыклад, піша, што «душа сбылась», яна мае на ўвазе, і так яно і ёсць, — выявіўся і інтэлект, і светапогляд, і светаўспрыманне, выявілася сутнасць. Так, паэтка да пэўнага часу жыве па-за сацыяльнымі ўзрушэннямі, аддалена ад канкрэтных падзей, ёй далёкія палітычныя і публіцыстычныя захапленні. Яна выяўляе сваё ўласнае «я», вызнае спосабы дзеяння, дзе ёсць свая музыка, свой чар, свой цуд, свая меланхалічная думка, свая містыка, калі хочаце.

Наталля Арсеннева наўмысна вядзе гаворку нібыта сама з сабой, падкрэслена выяўляе тужлівую экзістэнцыю, нібыта праграмуе сваё адстароненае быццё. Адчужана адыходзячы ад звыклых кантактаў з улюбёнай атрыбутыкай паэзіі. Часам ёй патрэбныя гэтыя эзатэрычныя вышыні. І вызначаная самота. І меланхалічная туга.

> Я —
>         не жыву вяснои...
> ......................
> Я —
>         й летам не жыву...
> ............................
> А ўвосені узноў —
> заміж мяне асіны
> чырвоны гасяць жар у рэдкім тумане,
> і плача дробны дождж так нудна, несупынна
> па сонцы і вясне,
> але...
>         заміж мяне.
>
> (*Заміж мяне*)

Гэта былі настроі і духоўныя трансфармацыі, але гэта не было зломам душы. Паэтка самаахоўна падтрымлівала свой духоўны і душэўны лад, стварала паэтычныя кампазіцыі, падпарадкоўваючыся сваёй унутранай сістэме каштоўнасцяў.

Дзень стуліў залатыя расніцы,
супачыў недзе ў попеле хмар.
Квола зорная рунь каласіцца,
квола месяца ззяе пажар.
Невымоўна глыбокая ціша
тчэ трывожны, дзіўны супакой.
Ноч і надзіць,
і кліча,
й калыша,
ноч гуляе з душою людской.

Верш гэты мае назву «Незгаданае». А ў другім творы мы прачытаем: «Ці разумееш у начы… што яшчэ нехта ў вечар туманны тужыць... з табой па нязнаным?» Незгаданае, нязнанае... А памятаеце, у Ясеніна — «несказанное»? У Блока — «Мировая Несказанность»? Сярод духоўных выпадковасцяў — гэтае нібыта і невыпадковае, «скіраванае» да інтымнага патаемнага пазнання творцы.

І сумна, сумна мне, і сумна невымоўна,
і хочацца ісці, знайсці *нязнаны* шлях (курсіў мой. — *А. С.*)
туды, дзе ўжо вясна, дзе пышна і чароўна
красуе белы сад, салодкі сее пах.
Дзе матылі мігцяць, яскравыя, бы краскі,
калышуцца й шумяць зялёныя жыта,
дзе шчодра самахоць сплывае сонца ласка,
дзе цешыцца жыццём — і чар і любата!

(*Восень*)

Як ужо пазначалася, паэтка адчувае сувязь з жыццём як сувязь з Натурай, у астатнім — адасабляецца ў сабе, вызнае і прызнае толькі сваю сістэму каардынат, захоўвае і хавае ад іншых скарбонку сваіх позіркаў, успрыманняў, імпрэсій. Пакуль што яна адстойвае і аберагае гэтае сваё права існаваць над жыццём — па-за грубай рэчаіснасцю падзей, мітуслівых фактаў, грамадскіх узрушэнняў.

Я б хацела гарэць і змагацца, як вы,
разам з вамі каваць так чаканае ранне,
але дні мае іншыя маюць правы,
сыпкім золатам ліпаў маняць і цыганяць.

(*Маладым паэтам*)

Паэтка прыглядаецца да Быцця ў перспектыве гістарычнай, з пазіцый агульначалавечага сэнсу і «здравого смысла». Раздумвае над ходам жыцця, поступам гісторыі. Чалавецтва прайшло нялёгкі шлях, і горкі досвед яго чамусьці аніяк не паўплываў на ўчынкі асобных людзей і волю народаў. «Мала іх пошасці, войны з пажарамі білі, аж слёзы плылі, як рака?», «Досі ўсцяж шчасця шукаць па аселіцах, шчасце ж людское, як казкі, — мана» і г. д.

Безумоўна, Наталля Арсеннева расчаруе тых даследчыкаў, што ўмеюць і любяць скрупулёзна вывучаць абставіны жыцця творцы, лічачы, што грунт кожнаму вершу — пэўнае здарэнне. Вось адбылося тое — верш, спаткаўся з тымі — яшчэ вершы. Тут ёсць рацыя, але паэт — не летапісец. Размова нават не пра тое, пра што, шырока цытуючы Гегеля, разважае Антон Адамовіч у прадмове да кнігі «Між берагамі»: вось быў верш на выпадак «у вузкім сэнсе», а пазней стаўся «вершам на выпадак у шырокім сэнсе». Гаворка, калі можна так пазначыць, пра вершы «супраць выпадка», «супраць падзей».

Наталля Арсеннева не падначальваецца плыні жыцця. І духоўная рэальнасць яе паэзіі, вызначальныя кантрапункты яе, танальныя рэгістры, што мецяць творчасць паэткі, далёка не заўсёды не толькі не супадаюць з фактамі і падзеямі жыцця, а нібыта нават падкрэслена накіраваныя насуперак жыццёвай лініі. Мы не знойдзем канкрэтнага верша з нагоды найгоршай трагедыі — у 1943 годзе загінуў яе старэйшы сын: ад выбуху міны ў Мінскім гарадскім тэатры. Можа, таму, што, паводле яе ўласнага прызнання, «боль гэты жыве ўва мне недзе глыбака і сяння». Тым жа, 43-м годам, яна пазначыць: «Так, жыццю дагадзіць немагчыма... Лёс — пражэрлівы, прагны стары...» Але тут жа адпрэчыць: «...Трэба, зубы заціснуўшы, глянуць проста ў злосныя вочы жыццю». І дадасць: «Нашу долю мы ймклівей за ветры здагонім, а для гэтага варта змагацца і жыць!» І ўжо ў эміграцыі яна будзе ўпарта паўтараць: «Не, буду зноў пяяць, і верыць, як даўней, і спадзявацца Свята Ўваскрасення...»

Але вось на пачатку 20-х гадоў, калі, здаецца, адбываецца ўсё толькі добрае і светлае: замужжа, нараджэнне сыноў, у яе вершах з'яўляецца танальнасць яе геннага продка. «Што шэпчуць мне тыя ночы?»; «Шчасце — як сонца: маленькая хмарка пройдзе па небе ціхім сярод дня, — сонца ўжо свеціць так жутла, няярка, момант — і сонца няма»; «Шчасце — як светлыя, ясныя мары: рэзкае слова, заўвага адна, — і дагараюць яны у пажары, момант — і мараў няма». Ёсць нават такое: «На матыў хаўтурнага маршу».

Няма ў Наталлі Арсенневай вершаў «на выпадак» ці «з выпадку», няма і канкрэтыкі сітуацый, яркіх дэталяў, накшталт ахматаўскага: «Мне очи застит туман, сливаются вещи и лица, И только красный тюльпан, тюльпан у тебя в петлице». Няма і таго надрыву, воклічаў носьбіткі «страстной судьбы», як у Цвятаевай: «Вчера еще в глаза глядел, А нынче — все косится в сторону! Вчера еще до птиц сидел, —

Все жаворонки нынче вороны!» Размова, безумоўна, не пра нейчыя перавагі — рускіх паэтак ці Арсенневай. Размова пра асаблівасці творчай манеры, рознасці лірычных сюжэтаў, пра пэўныя трансфармацыі думкі і пачуццяў, стыхійныя і свядомыя...

Наталля Арсеннева, перажываючы асабістую драму, не стане падаваць канкрэтныя яе знакі ў вершах. Мы можам толькі прыкідваць, здагадвацца, дадумваць. Нават у вершы, прысвечаным Францішку Кушалю, не пазначана ніякіх падрабязнасцяў: месца, часу, канкрэтыкі атрыбутаў, ніякіх «пальчатак» і «тульпанаў»... Храм — лес. І — маўчанне, мова прыроды, шапаценне лістоты, код цішыні, якi вядомы — Ёй і Яму.

Лес вітаў нас нячутнымі словамі:
нам смяялася неба празрыстае,
а над намі, ўгары над дуброваю,
хмаркі таялі, лёгкія, чыстыя.
.......................................................................
Штось шасцеў лес... Дубровай зялёнаю
слаў із ветрам нам шэлехі зводныя,
і здавалася дзіўна знаёмаю
мова іх, і чужая, і родная.

(*У лесе*)

Дарэчы, параўнанне гэта з рускімі паэткамі прыходзіць міжвольна. І міжвольна думаецца — якія розныя, яркія, незвычайныя таленты! І як лёс (кон?) вызначыў кожнай сваю жыццёвую драму...

Наталля Арсеннева аддае перавагу вясне, восені, вечару, ночы. Адыход дня, змярканне….Звычайнае, здаецца Арсенневай, бліжэй да скону дня пераўтвараецца, прырода адкрывае свой патаемны сэнс, выяўляе сябе ў душы і відавочным вобразе мастацтва:

Растуць у лесе вершы ўвечары...
Разлёгся лес імхамі, плесняю.
Іду сцяжынай непрыкмечанай
і цешу сэрца новай песняю.
Нялёгка йсці праз нетры слоўныя...
.......................................................................
А ўсё ж,
люблю тварыць я ўвечары!

(*Часіны творчасці*)

Паэзія Наталлі Арсенневай вабіла абаяльнасцю інтанацыі, складаным і размаітым узорам рамантычных матываў, свежасцю рыфмаў, цікава трансфармаванымі фальклорнымі рэмінісцэнцыямі. Актыўная духоўная свядомасць, што выключала з паэтычнага досведу друз турботаў матэрыяльнага існавання, сацыяльных і палітычных варункаў,

прыцягвала многіх чытачоў. Гэтую пазіцыю, мяркуючы па прысвечаных Наталлі Арсенневай вершах, разумелі і ўспрымалі Максім Танк і Міхась Машара. Хаця не вызнавалі яе творчыя арыенціры, аднак паважалі і цанілі яе як асобу. Не прымалі і не ўспрымалі даваенную творчасць Наталлі Арсеннвай Антон Навіна (Антон Луцкевіч), які пазначыў сваю пазіцыю ў рэцэнзіі на кнігу Арсенневай «Пад сінім небам», і Уладзімір Калеснік, яркі і своеасаблівы крытык, аднак з тою доляй суб'ектыўнасці, калі напісанае паводле адных творчых законаў разглядаецца паводле законаў іншых.

У межах нашай прадмовы не выпадае весці разгорнутую лінію доказаў, аргументаў, аспрэчванняў. Але духоўны свет Наталлі Арсенневай, яе даваеннае літаратурнае быццё і быццё духоўнае маглі мець і мелі менавіта тую эстэтычную і слоўную субстанцыі, што выяўляліся ў жывой сістэме паняткаў, сэнсаў, гукаў, словаў, у тым, што было натуральна ўласціва таленту Наталлі Арсенневай і яе светапогляду, менталітэту і пачуццям. Так — і не інакш.

І прыйшоў час — паэзія Наталлі Арсенневай у нечым застаецца такой жа, а ў нечым дыяметральна змяняецца.

Былі на тое прычыны. Жыццё перарвала мроі даваеннай пары. У вежу, «кастэлю» Наталлі Арсенневай ўварвалася рачаіснасць: жорстка і незваротна. Усё вымушана, усё пад прынукай. Ад'езд з Вільні, арышт мужа, высылка... Той, прыгаданы ўжо, год у далёкім Казахстане, мусіць, ішоў за дзесяць іншых. У адчаі безвыходнасці. Здалёк адчуванне радзімы становіцца абвостраным, з мінорна-элегічнага — выбуховым, актыўным, абвострана-чуйным. Канкрэтыку гісторыі абмінуць было нельга, падняцца над ёю было немагчыма. Яна ціснула — «грубо, зримо». І ў паэзіі Наталлі Арсенневай з'яўляюцца матывы, дагэтуль зусім ёй не ўласцівыя, раскрываецца напал эмоцый, што раней нават не ўгадваўся ў натуры паэткі. Наталля Арсеннева пазбаўляецца ў пэўнай ступені адстароненасці, узвышанай адчужанасці. Яе творчасць набывае іншую танальнасць, рытміку. Паэтка спрабуе наблізіцца да іншай мастацкай логікі. Недзе ўзбуйняючы, канцэнтруючы, недзе свядома расслойваючы «галоўны сэнс». Высвечваючы новыя грані свайго лірычнага «я», што ў нечым саступаюць глыбіннай выснаванасці ранейшага, але ўражваюць грунтоўнасцю верагоднага. Не толькі самота, туга — але і ваярскі гарт, ледзь не фаталістычная вера ў будучыню Беларусі, якая да таго выяўлялася і праяўлялася ў творчасці паэткі толькі апасродкавана, лірычна-інтымна: настроі, вечары, зоры, пагоркі, узлескі...

> О, родны край!
> Другі такі ці ж ёсць на свеце,
> ад сонца залаты, сівы ад туманоў,
> і белы
> і густым, вясновым, пенным веццем,

і чыстаю, як снег,
душой тваіх сыноў!

(*О, родны край!*)

І калі ў толькі што цытаваных радках спалучылася тая і другая Арсеннева, то вось тут — адкрыты публіцызм, лозунгавасць, заклік:

Беларусь!
Наша маці-краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей,
Не загінулі мы і не згінем,
покуль Ты нас наперад вядзеш!
Пастаім за Цабе, як асілкі,
нашы сэрцы палаюць агнём...

(*Прысяга*)

Тое, чаго і прыблізна не было ні ў кнізе «Пад сінім небам», ні ў падрыхтаваным да друку зборніку «Жоўтая восень», раптам прарываецца ў зборніку «Сягоння». Менавіта тут змешчаны напісаны рэлігійна-патрыятычны гімн, што стаўся ледзь не драматычным сімвалам лёсу беларусаў.

Магутны Божа! Ўладар сусветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменне Свае хвалы.
......................................
Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот,
зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу і наш народ!

(*Малітва*)

У зборніку «Сягоння» з'яўляецца гістарычная канкрэтыка — гісторыка-патрыятычныя вершы: «Песня каліноўцаў» і верш да 25-х угодкаў склікання Усебеларускага кангрэса. Друкуюцца ўзнёсла-патрыятычныя вершы, з відавочным аптымістычным настроем: «А ўсё ж будзем жыць», «Жыве Беларусь», «Хай грыміць», «У дажынкі» і інш.

І — ні ў адным вершы перыяду вайны няма гаворкі непасрэдна пра акупантаў, пра фашыстоўцаў: ані добрага, ані кепскага слова.

Вайну Наталля Арсеннева, калі меркаваць па вершах, успрымала як няшчасце наогул. Па-чалавечы. Па-жаноцку. «Колькі ж, колькі віхор вайны сэрцаў людскіх разбіў, пакалечыў». Невясёла раздумвала пра долю сваіх суайчыннікаў (менавіта так — інакш Арсеннева не ўспрымала беларусаў, не было ў яе гэтага адчування «некарэннасці»). Навала за навалай, вайна за вайной.

1941 год... Адкуль гэтае спадзяванне: «Хай кон сёння ў вочы нам схлусіць, Хай сцёбае, нішчыць угрунь, — а будзем з крыніц Беларусі мы жменяю чэрпаць зару!» Увогуле — на што спадзяецца паэтка? На незнішчальную жыццястойкасць зямлі і людзей? На шчаслівы лёс? На гістарычны выпадак? Ці гэта спроба падмануць сябе і іншых? Спапялёны Мінск... Беларусь пад уладай фашыстоўцаў... Але — што можна сцвярджаць безумоўна: гэта паэзія патрыятычная. Хаця досыць у зборніку вершаў, дзе пераважае даўняя пазіцыя «над спохваткай», роздумная рэфлексія. Ваганні, пытанні — сабе і іншым. Адчуванне складанасці часу і таго лёсавызначальнага гістарычнага моманту, у якім давялося існаваць.

«Але пра што пісаць? Прарокам быць па часе? Нізаць каралі рос, вянок асенні віць?»; «пісаць аб салаўях, аб снежнай белі вішняў? Замоўклі салаўі пад медны рык гармат...». Паэтка відавочна пакутуе, страціўшы тую раўнавагу светаадчування, якая давала, звычайна, моц душы. Нават туга мела ўсё ж грунт у зямным суладдзі, можна было адхіліцца ад эмпірыкі асабістага існавання, узвысіцца душою; адчуць неабдымнасць, бяскрайнюю прастору духоўных даляглядаў, спазнаць сябе равесніцай вечнасці. Цяпер рэчаіснасць такой магчымасці не пакідала. Ці амаль не пакідала. Бо Наталля Арсеннева — Паэт! — шукае выйсце ў духоўным, незалежным ад пэўнага часу быцці: «Мне лёс даў, можа, болей, як каму...» І паэтка знаходзіць апірышча ў слове, як у асноўнай сваёй сіле, тут яе адзіны ратунак: «Не, паэт не матыль — у агні... Паэт жа — асілак!»; «з чаду, з шэрага дыму руін, з віску куляў, гарматных грымотаў ён, падумаўшы, выплавіць гімн гэткі ж жудасны, гэткі ж смяротны...»

Наталля Арсеннева пакутліва задумваецца — дзе яна, гармонія свету, дзе раўнавага сіл душы, стыхій свету, дзе яна — карысць ад самапазнання? «Я ж пішу... Навошта я пішу? Для каго? Па шчырасці — не знаю. Бо ж не вершы ў свеце ўзнімаюць шум і не рыфмы шум той сунімаюць». Дзе ён, той невымерны, нечуваны гімн? Дзе музыка сфер? Дзе той, хто выратуе родны край? І хто выратуе чалавецтва? «Паэты — гэта міт камічна-недарэчны у наш нахабны, злы, кусліва-злосны час...»

Сапраўды, не паэты вызначаюць лёс краін, не яны змяняюць карты зямлі, не яны вядуць войны і падпісваюць пагадненні на дзяржаўным узроўні. Аднак паэтам падуладнае тое, што не дадзена ўладарам. Уменне пераадолець немасць рэчаіснасці, правесці душу жывую па лабірынтах трывог, спадзяванняў, надзей; адчуць і перадаць словамі гармонію светапарадку, задумацца над сэнсам жыцця...

> Яшчэ не знойдзены жывымі
> натхнёнай песні ідэал.
> Імкні ж, паэт,
>             разліся ў гімнах!
> Дзіўны, святы ці чуеш пал?
> ..........................................................

Ці ж раз у белай поўні росквіт
ты верш, па слове слова, куў,
ці раз агонь распальваў Боскі
у целе з гліны і пяску?

(*Імкні, паэт!*)

Радзіма, прырода, паэзія, паэт — не проста тэматыка, што пераважае ў творчасці Наталлі Арсенневай. Гэта тое, чым яна жыве. Тое, што дае ёй сілы духоўна выжыць і выстаяць. Хаця — былі часы, якія, паводле словаў самой паэткі, «пісанню вершаў не спрыялі».

У чэрвені 1944 года яна з сынам пакідае Мінск: Берлін, Амберг (Баварыя), лагер для перамешчаных асобаў. Урэшце, з 1950 года, — ЗША, дзе ёй напачатку давялося пакаваць гуркі на фабрыцы кансерваў, мужу — быць ліфцёрам, а сыну паліраваць сталы на фабрыцы мэблі. Але — заўважце! — нават там у яе не з'яўляюцца вершы накшталт цвятаеўскіх: «Тоска по родине! Давно разоблаченная морока! Мне совершенно все равно. Где — совершенно одинокой быть...» Хаця ў рускай паэткі гэта таксама фронда, якую яна сама і «выкрывае» напрыканцы верша: «Всяк дом мне чужд, всяк храм мне пуст, И все равно, и все едино, Но если по дороге куст Встает, особенно — рябина...» Шчымлівая, пранізлівая нота — яна ўсё тлумачыць... Мы разумеем невымоўную горыч Марыны Цвятаевай, побач з жыццёвай драмай якой самы скрушны лёс выглядае прывабна-светлым...

Дык вось — у Наталлі Арсенневай такіх вершаў няма. Яна свой боль, сваю роспач не хавае, не спрабуе накінуць саркастычна-ёрніцкае покрыва на раны душы. Яна ўвесь час нібыта хоча абвясціць усім, нават выкрычаць — ёсць такая краіна Беларусь, гэта яе, адзіная, Радзіма, яна яе любіць да самазабыцця, горача, адчайна, да скону! З надзеяй і верай.

Я не тужу сягоння па краіне.
Сягоння —
        Бацькаўшчына й мы — адно.
У кажным сэрцы тут яе аскепак сіні
мігціць,
запаўшы глыбака на дно.
Балюча ёй —
        і мы віёмся з болю,
а крыўдна —
        й мы сціскаем кулакі.
Яе туга —
        і нас шыпшыннай дзідай коле,
бяда —
    ўбівае й нам
            у сэрца клін.

Жывём айчынай мы...
Айчына — намі...

(*Чаго тужыць*)

Беларусь... Беларусь... Беларусь... Яна абавязкова прысутнічае ў вершах Арсенневай, нават калі, здавалася б, аб радзіме гаворкі няма. «Тут гэткае завуць — зіма! У нас такой зіме й назову не прыдумаць!»

І — як другому паэту, вялікаму беларусу, так і ёй: «...Сняцца... нашыя нівы, і роднага неба дыван...» Сны аб Беларусі... І ёсць спадзяванне: «Мы вернемся дамоў! З адкрытай галавой і з сонцам у душы...»

Наталля Арсеннева спадзявалася... На вяртанне. На Свята Уваскрэсення. Для сябе. Для Радзімы.

Стаіцызм, самаахвярнасць, надзея — усё гэта Наталля Арсеннева шукае ў Тым, за Кім ідзе ўвесь хрысціянскі свет, на Яго надзея, за ім — праўда:

Ён уваскрос,
Ён — дзесь між намі,
Ён там, дзе ў срэбным пыле лоз,
у сіняй смýзе над палямі
вісіць вясна...
Ён уваскрос.
Ускрос,
і зноў па Беларусі
перад сабой ідзе Хрыстос...
............................................
Устань жа, ўстань,
ускрэсні сяння,
мой Край, як уваскрос Хрыстос!

(*Ускрэсні!*)

Нягледзячы на выпрабаванні штодзённасці, на ўсе жыццёвыя недарэчнасці і згрызоты, Наталля Арсеннева захавала тое, што робіць людзей паэтамі: захопленасць навакольным светам, адчуванне харраства, чуйную радасць быцця: «Цвіце магнолія... мільёны матылёў, бялейшыя за снег, трапечуць на галінах».

Гэта ў Нью-Ёрку, сярод муроў, што не вельмі спрыяюць і адпавядаюць натуры паэткі, што вырасла ў іншым гарадскім антуражы і прывычаілася да іншых гарадскіх абрысаў, ёй бачацца святыні, будынкі, кожны з якіх мае сваё аблічча, той непаўторны шарм, які дае старая архітэктура Еўропы:

Места мярэсціцца ўнізе, далёка,
вежы касцёлаў у неба глядзяць,
цэркваў блішчаць залатыя галовы,
цёмнымі плямамі дрэвы ляглі...

(*Восень у Вільні*)

Цікава, што Наталля Арсеннева, чалавек горада, і тут, на чужыне, абвострана, і на радзіме — натуральна, як першароднае, галоўнае, успрымае існае — зямлю і ўсё, што расце на ёй, мае корань, «першую прыроду», паводле вызначэння Гегеля. А жыла Наталля Арсеннева ў той час, калі паэты-урбаністы абвяшчалі пра сябе досыць упэўнена і напорыста.

Не, і там, дзе «бетонаў шэрасць» і «здзічэлая чырвань рэклам», ёй на вока і «на душу» кінуцца магнолія, клён, вярба... І паэтка пасля гуду трансмісій, сярод засмужаных атрутным дымам даляглядаў адкаснецца ад панылай будзёншчыны і ўнікне ў сутнасць красы звычаёвага, навакольнага: «Мне ж дзівам найбольшым вецце, якое залоціць восень»; «срэбным каўшом цішыню п'е за аселіцай месяц»; «лісцё — віхор іржавых зор — над шахаўніцай вуліц кружыць». А потым прыслухаецца да рухаў сваёй душы: «А мо пайсці глядзець, як сонца сеці топіць над шэрым плёсам хмар, плысці з людзьмі ў туман? Навошта?»

Гэтыя знакі прыроды, рэаліі існага нагадваюць ёй — зноў — пра родны край... З яго гісторыяй, да якой паэтка зазнала з цягам часу імпэт, асабліва да нядаўніх, вызначальна-патрыятычных момантаў. І з'яўляюцца — ужо ў эміграцыі — вершы да ўгодкаў Слуцкага паўстання, у гонар 25 Сакавіка... Складае яна і вобразныя аповеды на біблейскія тэмы — «Радасць», «Каласы», «І была там вясна...». Зноў і зноў вяртаецца да тэмы Радзімы.

Часам гэтыя бясконцыя звароты да Радзімы могуць падацца залішне эмацыйнымі, аднак — уявіўшы сабе тугу па роднай краіне, доўгую, бесперапынную, пачынаеш разумець гэтыя бясконцыя звароты-заклінанні. «Куды тугу мы дзенем?» Згадваю, як на фотаздымку Анатоля Клешчука жанчына са слязьмі абдымае бярозу — на радзіме, у Беларусі, ужо ў дэмакратычны час. Як родную сястру... «Не, буду зноў пяяць і спадзявацца... Свята Ўваскрасення...» — гэтыя словы за Арсеневай маглі паўтарыць многія беларусы, што трапілі на чужыну, хай сабе і ветлівую, і багатую, але ж — чужыну.

Лірычныя медытацыі, філасофскі ці, хутчэй, філасофска-лірычны роздум, пейзажныя замалёўкі, вершы грамадзянскага складу. Паэмы. Пераклады паэтычных твораў. Пераклады п'ес. Оперныя лібрэта. Перастварэнне лібрэта з іншых моваў.

Чалавек еўрапейскай культуры, Наталля Арсеннева перакладала на беларускую мову Ё.-В. Гётэ, У. Шэкспіра, А. Міцкевіча... Перастварыла па-беларуску славутую «Песню пра зубра» Міколы Гусоўскага. Слынны беларус напісаў яе на латыні, але як арганічна гучыць яна на яго роднай мове!

У беларускай моўнай інтэрпрэтацыі Н. Арсеневай існуе п'еса, што пэўным часам была адной з самых рэпертуарных на сцэнах Еўропы: «Затонуты звон» вядомага нямецкага аўтара Герхарда Гаўптмана. Гэта менавіта тая п'еса, у спектаклях паводле якой многія актрысы свету мелі вялікі поспех у ролі Раўтэндэлейн (М. Ф. Андрэева, напрыклад).

Наталля Арсеннева пераклала з нямецкай таксама «Разбіты кубак» Генрыха фон Кляйста, цікавага драматурга і чалавека незвычайнай біяграфіі.

Паэтка дала магчымасць пачуць слухачам, як гучаць па-беларуску оперы «Вяселле Фігаро» і «Чарадзейная жалейка» В.-А. Моцарта, «Вольны стралок» К.-М. фон Вебера і «Кармэн» Ж. Бізэ. А таксама — усе арыі «Яўгенія Анегіна» П. І. Чайкоўскага. І лібрэта аперэты Ё. Штрауса «Цыганскі барон» Н. Арсеннева перастварыла з нямецкай.

Урэшце — мы маем плён творчай садружнасці, пра якую, пэўна, даследчыкі будуць весці асобную гаворку: паэтка Наталля Арсеннева і кампазітар Мікола Шчаглоў (Куліковіч). Пяру паэткі належаць лібрэта да яго опер «Лясное возера» і «Усяслаў Чарадзей», да аперэт «З выраю» і «Купалле», словы да кантаты «Сакавік». Як і словы патрыятычных, гісторыка-патрыятычных, лірычных песень кампазітара М. Шчаглова: «Песня каліноўцаў», «Беларусь, наша маці-краіна», «У гушчарах» і г. д.

Стварэнне і пераклады лібрэта вымагалі не толькі паэтычнага таленту, але і ведання прынцыпаў драматургіі, законаў сцэны, адчування спецыфікі жанраў оперы і аперэты — замаруджанае сцэнічнае дзеянне, акцэнтоўка лірычных момантаў, што перадаюць душэўны стан (напрыклад, арыі), схематычнасць сюжэту, лапідарнасць тэксту, ну і найперш — падпарадкаванне яго законам кампазіцыі. І з кожным годам творчая спадчына Наталлі Арсенневай робіцца ўсё больш вядомай чытачам.

На жаль, толькі спадчына. Сама Наталля Арсеннева са сваімі чытачамі на радзіме, з радзімай больш не сустрэлася. 1944 год стаўся годам расстання назаўсёды...

27 жніўня 1997 года Наталля Арсеннева пакінула гэты свет. У ЗША. У Рочэстэры.

Аднак словы Паэткі застаюцца замест яе на зямной арбіце, на яе радзіме і за яе межамі. На «шляху сусветаў», у тым суплёце задыяка, калі сыходзяцца думкі і пачуцці розных паэтаў, розных эпох, розных лёсаў. Калі духоўны свет узбагачаецца — старым, але не састарэлым. І — новым. Усімі, хто вычувае гэтае — сакральнае і вечнае: «Veni creator spiritus!» — «Прыйдзі, стваральны дух!»

*Ала Сямёнава*

## МОЙ РОДНЫ КРАЙ

Паўдзённы край — мой родны край,
Але яго я і не знаю...
К далёкім мора берагом
Я толькі ў думках залятаю...
Ні рож здзічэлых Аджыкента[1],
Ні гордых, мглой акрытых гор,
Ні векавечнай песні мора,
Што кліча ў сіні свой прастор, —
Нічога гэтага не знаю,
А палюбіла край другі:
Няма там гор, няма там мора,
Але я зведала там гора,
Там — сіла вырасла душы!

*[1920]*

## ПАД СІНІМ НЕБАМ

Ад злых, нязветлых песняў гора,
ад змораў шэрае зямлі
у неба сіню, ў неба мора
ты зрок прысталы падымі.
У сінім небе няма распачы
глухой, што гасіць паволі ўсё,
пад сінім небам усё інакш —
здаецца светлым, як сны, жыццё,
такім нязнаным, дзіўным, узлётным,

жыццём-натхненнем без слёз, турбот.
У сінях неба несмяротных
бясконцым святам сплывае год.
Дык гэй у неба, у край без сценяў,
ад зла, нязбыўнага ў жыцці,
на белых крылах летуцення,
Пясняр,
па слова-чар ляці!

*[1920]*

## ЛЕТУЦЕННІ

Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны,
Дзе такі там хорам важна збудаваны,
Што мне замянілі б хату і бярозкі,
Хату і бярозкі беларускай вёскі?

*Я. Купала*[1]

Часам, як толькі заплюшчу я вочы,
бачу я край той, дзе мора плюскоча,
бачу я фарбы паўдня.

Бачу я мора духмянае кветак,
белыя дрэвы, прыгожа ўсё гэтак
ў ласках гарачага дня.

Бачу нябёсныя сінія далі,
ўзоры, што зорныя ночы саткалі
з кроз, успамінаў, надзей...

Гэта — краіна маіх нарадзінаў,
тая, што сніцца мне ночнай часінай,
праўда, радзей а радзей.

Толькі чаму ж маё сэрца не йрвецца
ў тую краіну, чаму яно б'ецца
ціха, спакойна зусім?

Мусіць, чужыя паўдзённыя чары —
новы абраз — гэны, колішні, стары,
выціснуў ў сэрцы маім.

Нашага кволага сіняга неба,
нашых палосак няспелага хлеба
сяння адных я хачу.

Сум нашых срэбрам раззораных ночаў,
рэчкі, што ў лозах зялёных плюскочуць, —
толькі яны уваччу.

Ці ж мне заменіць блакітнае мора,
ці ж мне заменяць няўсяжныя горы,
зораў паўдня калассё —

нашае цьмянае сонца ціхое,
любае думкам і сэрцу ўвясною,
любае мне над усё?

Не, бо ля светлага сіняга мора
вечна аб радасці хвалі гавораць,
там ад яе не ўцячы,

бо там без працы, а родзяць зярняты,
бо там чужое нам вечнае свята,
тамака сэрца маўчыць.

Тут жа ж, у нас, па гайкох, пералесках
посля зімы зацвітаюць пралескі,
сцюжу змяняе вясна.

Тут пасля гора жыцця шлях святлее,
тут пасля слёз расцвітаюць надзеі,
тут і у сэрцы вясна!

*1920*

## ВОСЕНЬ

Хай жаўцее, сціхае сад з кажнай гадзінай,
сонца косы гарачыя ўсюды не сее,
хай гарыць, як агонь, ліст чырвонай асіны,
хай апошнія кветкі у садзе жаўцеюць, —
будзем чакаць вясны!

Хай паўзуць над зямлёю калматыя хмары,
хай цямнее рака, хай жыццё замірае,
не агорнуць нас восені горкія мары,
кажны з нас яшчэ светлае шчасце пазнае, —
будзем чакаць вясны!

Хай у душах надзея на долю канае,
зло мінецца, бы летнім дзяньком навальніца,
прыйдзе час — сонца ў сініх нябёсах заззяе,
закрасуе вясновай красою зямліца, —
будзем чакаць вясны!

*1920, Вільня*

* * *

Светлы дзень дагарае над сумнай зямлёю...
Ліпаў лісцейка фарбай гарыць залатою,
сад пажоўклы цямнее, маўчыць.

Каля яблынак сцені кладуцца густыя,
пацямнелі ігрушы й кляны маладыя,
зараз ясны заход дагарыць.

Аджываюць нячутна жаданні
ў гэты час, час маўклівы змяркання.

Я хачу на часінку забыцца аб горы
і глядзець, як у ружавым заходу моры
сонца косы бярэцца тапіць.

Я памерці хачу вось такою парою,
хваляй сонца залітая ўся залатою,
больш каб слова не чуць: «Пацярпі!»

Аджываюць нячутна жаданні
ў гэты час, час маўклівы змяркання.

Я хачу ў гэты момант пазнаць сваю долю,
я хачу зведаць шчасце, хачу я на волю,
ў далі родных, шырокіх палёў!

Я хачу, я хачу... Ды няма ў мяне сілы,
каб не думаць аб тым непрыхільным, нямілым,
сумным часе апошніх гадоў!

Аджываюць нячутна жаданні
ў гэты час, час маўклівы змяркання.

Сад маўчыць... Не пяе, як раней, як вясною,
аб тым шчасці, жыло што калісьці са мною,
сад маўклівы і цёмны стаіць.

Каля яблынак сцені кладуцца густыя,
пацямнелі ігрушы й кляны маладыя,
зараз ясны заход дагарыць.

Засынаюць нячутна жаданні
ў гэты час, час маўклівы змяркання.

*1920*

## ЦІХА ПЛЫЎ МЕСЯЦ

Ціха плыў месяц між хмараў празрыстых,
зоры гублялі халодныя слёзы,
вецер зрываўся між клёнаў бязлістых,
вецце калышачы голых бярозаў.

Таялі плямы туманныя сценяў,
срэбра снягоў залівалі зімовых.
Светла было мне ад белых праменняў,
шчасна было мне ад думак тых новых.

Нейкая дзіўная сіла ўставала
ў сэрцы, да сяння пакорліва-хворым,
месяц, здаецца, рукою б дастала,
зоры б зрывала з паднебнай прасторы.

Долі пайшла б паляваць далёка
я для зямліцы, што спіць без прасвету,
і разліла б, як сягнуць можа вока,
шчасце над белым, аснежаным светам.

*1921, Вільня*

* * *

Ночкай сягоння мне ў самыя вочы
месяц зімовы глядзеў і смяяўся:

— Сумна табе? — ён як быццам пытаўся, —
праўда, не спіцца у светлыя ночы?
Ўстань і зірні на акно, што адзета
тонкаю сеткаю з рож серабрыстых,
пэўна, як глянеш, прыпомніш ты лета,
яркія красак у садземаністы.
Пэўна, прыпомніш ліпнёвыя ночкі,
зорак узор, прыгажэйшы за сонца,
сонна прыціхлыя ліпкі, дубочкі,
цёмнае неба без краю, бясконца.
Ўспомніш, як ціха бывала ў пакоі,
ўсе ужо спалі, а ў вокны глядзела
мляўкая цемра, паўночча глухое.
Ўспомніш, аб чым ты тады летуцела,
ўспомніш, як бралася плакаць парою,
ўспомніш, як сэрца чагосьці шукала,
ўспомніш, аб чым гэткай ночкай з сабою,
толькі з сабою адной гаварыла.
Ўспомніш, як глянеш на срэбныя краскі,
ўсе свае думкі, надзеі дзіўныя,
сумныя, быццам зімовыя казкі,
ясныя, быццам вяснянкі лясныя.
Ўспомніш пра ўсё, што тады ты хацела,
ўсё, што ў жыцці ты яшчэ не пазнала,
твары няясныя тых, што нясмела
толькі у снох, у лятунках кахала...

Ў снох... а не спіцца у светлыя ночы,
сон мой сягоння так рана парваўся,
бо цераз вокны мне ў самыя вочы
месяц прыгожы глядзеў і смяяўся.

*1921*

## ЛЮБЛЮ Я СОНЦА ЗАЛАТОЕ

Люблю я сонца залатое,
люблю прыгожаю вясной,
калі ўсё новае, святое
смяецца радасна са мной.

Люблю нябёс вясняных ласкі,
цалункі цёплых ясных кос,
што песцяць дрэвы без падказкі,
што грэюць лісцейка бяроз.

Аджыў наш сад. Да сонца дрэвы
галінкі цягнуць, бы ў паўсне.
Направа сіні сцень, налева —
усё ўсміхаецца вясне!

Цвіце чаромха і чарэшня,
паненкай яблынка стаіць,
з ёй ветрык песціцца, і песня
святлу, вясне ўвушшу звініць!

Вясна, вясна, дачка лятункаў,
нясі ж святло, нясі жыццё,
нясі атруту пацалункаў,
красуй, вясна, кахай усё!

Любі, тулі, сагрэй каханнем
жыццё зямлі, жыццё людзей!
Табе адкажа сад пяяннем,
дый сэрцу будзе весялей.

Цалуй лясы, ідзі гуляці
ў палі, ў лясы пагодным днём.
Кахай, кахай зямліцу-маці,
палі яе, палі агнём!

***1921***

Зак. 634

## КРЫНІЦА

За ніўямі, балатамі,
за хваёвымі барамі
ёсць празрыстая крыніца.
Ўсе атруты, ўсе пакуты
з сэрца людскага, бы путы,
зніме дзіўная вадзіца.
Лечыць цела, што збалела,
і душу, калі змарнела,
веру, моц ліе у грудзі.
Вось гадамі з калітамі
да яе й брыдуць лагамі
горам гнобленыя людзі.
Толькі ж горкая дарога
да яе... Людскім нябогам
гэтым — смеласці ды сілы
не дастала... З паўдарогі
іншых пушчы і разлогі
завярнулі... Тых вунь збілі
з ног ці гора, ці турботы,
ці мо слёзы адзіноты.
Зноў жа гэтыя згубілі
веру ў долю, ў свае сілы,
ў сілу дзіўнае крыніцы.
А без веры — стой дзень цэлы,
не, не дасць здароўя целу
жыццядайная вадзіца.
Ды нялёгка і далёка
нават з вераю глыбокай
дашукацца той паляны,
дзе зялёнаю лагчынай
мкне удалеч ручаіна,
гоіць сэрца, гоіць раны
над вадою над жывою,
дзе ківаюць галавою
сіняватыя вярбіны,
дзе на словы людскай мовы
свежы, сонечны, бы новы,
грае бор на ўсе галіны!

Тут у цішы ўбогі, хворы,
пазабыўшы крыўды й гора,
неўзабаве схамянецца.
Сілы — дасць яму крыніца,
веру — сонца, што іскрыцца,
смеласць — неба, што смяецца.
Дзень спяе пра шчасце з воляй,
ноч спаўе ціхой патоляй,
замірыць з жыццём нямілым...
Гляне ў неба — й зноў паўстане
на няроўнае змаганне
верны сын зямелькі шчырай!

*1921*

## КАЛІ ЛЮДЗІ ПАКРЫЎДЗЯЦЬ ЦЯБЕ

Калі людзі пакрыўдзяць цябе,
калі хочацца плакаць, маліцца, —
ты ідзі вузкай сцежкай у лес,
там так лёгка на крыўды забыцца!
Быццам прыйдзеш ты ў хорам дзіўны,
дзе няма ані слёз, ні маны,
дзе пачуеш у шэптах лісця:
«Ты даруй неразумным, як я...»
І адыдзе туга, шугане
ў вышыню, бы ўстрывожаны рой.
Зразумееш, што ўсё праміне
у жыцці, нават гора з бядой...

## КАЛІ НОЧ ЗАПАНУЕ

Любяць людзі прыгожыя песні,
любяць сумныя гукі жалейкі,
як пагодныя дні напрадвесні,
як раздолле, як спеў салавейкі.

Любяць казкі аб дзеях мінулых,
аб жыцці сваіх продкаў свабодных,
аб гушчарных бароў шумах-гулах,
аб прадоннасці рэк мнагаводных.

Любяць песні аб славе, аб долі,
аб асілках вялікіх, магутных,
аб братох, што каналі ў няволі,
аб часінах старонкі пакутных.

Не было запраўды мо нічога,
мо і песні і казкі мінучы, —
чуе сэрца ў іх гукі былога,
а душа уздыхае балюча.

Тыя ўздыхі мо ветрык падхопіць,
панясе і развее у полі...
А калі ён сканае паволі,
калі ў хмарах бліск сонца утопіць

і туман папаўзе над лясамі,
над асінаў сям'ёй палахлівай,
над зялёнай няспелаю нівай
дарагімі, маўляў, паясамі,

калі ноч запануе усюды,
калі выпаўзуць ночныя чары,
духі-сцені агорнуць абшары,
сны сплятуцца, сны-мары і цуды,

калі смутныя ночныя гукі
паліюцца з-за хваляў туману
на глухую лясную паляну
і замрэ ўсё ад дзіўнае мукі,

як жыццё прыабернецца казкай,
калі з казкаю сэрца зліецца, —
мо старое ў душы страпянецца
і прывабіць нязведанай ласкай?

Явай стануцца гожыя песні,
явай стануцца гукі жалейкі,

светлай явай, як дні напрадвесні,
як раздолле, як спеў салавейкі.

*1921*

## НОЧЫ Й ДУМКІ

Ёсць ночы белыя, ёсць цёмныя, глухія.
Ёсць гаманлівыя — і ёсць зусім ціхія.
Іх — больш за ўсё люблю з лядзяным ззяннем зор,
што на шаўкох нябёс празрысты ткуць узор.
Люблю за супакой, хоць сонны, а чароўны,
люблю за сіні змрок, за смутак невыслоўны,
што на душы ляжыць, калі сяджу адна
і ў глыбіню гляджу нябёсную без дна...

Ёсць думкі светлыя, ёсць чорныя, благія,
ёсць думкі, як і ноч, зусім-зусім ціхія.
Іх — больш за ўсё люблю, з манлівасцяй надзей,
з усім, што лекам тут зямной душы людзей.
Люблю за цішыню дзіўную ў сэрцы, тую,
з якою я нідзе й ніколі не сумую,
за тое, што гарыць із імі дух, расце
і кажа жыць не так, як тут жывуць усе!

*1921, Вільня*

## ВЯСНА

З кажнай хмаркі ў небе празрыстым,
з кажнай лужынкі светлай і чыстай
усміхаецца ясна вясна!

Надзяць сіняй нябёсныя далі,
ручаі звон і грукат узнялі,
запраўды, надыходзіць вясна!

Снег ляжыць яшчэ коўдрай ваўнянай
пад узгоркам, а вецер вясняны
ўжо прымчаўся ні згэтуль, ні стуль,

абсыхаюць у садзе сцяжыны,
і набраклыя яблын галіны
прагна йрвуцца да сонца касуль.

Сэрца б'ецца трывожна, няроўна,
мне і сумна, й вясёла-чароўна,
вусны ціха шапочуць: «Вясна...»

Недзе радасці дзіўнай падзецца,
ўсё сягоння зрабіла б, здаецца,
бо папраўдзе на свеце вясна!

*1921, Вільня*

## ПРАЛЕСКІ

Мілыя, мілыя сінія кветкі,
светлай вясны улюбёныя дзеткі!
Кветак ёсць шмат, што за вас прыгажэй,
толькі, пралескі, вы сэрцу бліжэй...

Гляну я ў вашыя сінія вочкі —
і быццам бачу гайкі і лясочкі,
дзе з-пад снягоў пазіраеце вы,
мілыя дзеці вясны!

Толькі зірну я на вашыя краскі,
ўспомню вясновыя шчырыя ласкі,
ласкі і сонца й нябёс,
песні, што ветрык прынёс
з ясных палёў, дзе зямля абсыхае,
сонца дзе з рання да ночкі гуляе.

Вашыя вочкі ў сабе адбіваюць
сіняе неба і хмаркі, што таюць,
будзіце ціхі, родны мне сум,
нібы у лесе вясняны той шум,
будзіце сілы, што ўзімку драмалі,
будзіце думкі, што скутыя спалі,
будзіце шэпты надзей,
што мне за ўсё саладзей...

Поўныя рожавай мглы пералескі
вас гадавалі, красуні-пралескі,
неба вас песціць, вам сонейка шле
золата кос, пацалункі нясе
ветрык вам весні... вас любіць вясна,
вас па лясох рассыпае яна.

Вы усцілаеце сцежку вясне,
вы яе сымбаль, адзнака яе...
Мо вы таму мне за ўсё й саладзей,
дзеці вясняных надзей?

*1921*

## МАЙ

Абляцелі вішні... Пагусцелі клёны,
зашумеў, бы ўлетку, свежы, новы гай,
праляцеў нячутна красавік зялёны,
на зямлі пануе светла-пышны май.
Пасінела й неба... Ласкай залатою
залівае сонца поле і мяне.
Пасмаю сівою проста прада мною
таюць плямы-горы недзе ў тумане.
Сонца шчыра грэе. Хораша у полі,
зацвітаюць краскі між травы густой.
Чую ўсёй душою, што я зноў на волі,
што узноў у сэрцы — веснавы настрой!
Сцень паклаўся сіні ад бярозаў тонкіх
на дыван, залітьі залатым святлом.
У красе калінаў, у лісткох рамонкаў
свецяцца расінкі, з маладым лісцём
ветрычак жартуе, а ўгары, ў нябёсах
белыя хмарыны заплятаюць сецьш.
Пад гарой палоскі маладых калоссяў
зырка зеляненюць... Хочацца глядзець,
заглядаць бясконца у блакіт празрысты,
аб нічым не думаць, толькі сніць а сніць,
сніць аб сінім небе, гэткім чыстым-чыстым,
і аб сонцы й шчасці, што мне значаць дні.

*1921, Вільня*

## ВОСЕНЬ

Як не любіць мне восень залатую,
калі праз вопратку асін густую
тон прабіваецца чырвоны, слаўны тон,
і ў золаце стаіць маўклівы пышны клён?

Як не любіць мне восень залатую,
калі на ніву зжатую, пустую
ліецца уначы, як малако, туман
і павучынне скрозь на хмызняку палян.

Як не любіць мне восень залатую,
як не любіць мне частку года тую,
калі я веру ўсім, калі душа гарыць
і хочацца так век,
хоць сумаваць, а жыць...

***1921, Вільня***

## ВОСЕНЬ У ВІЛЬНІ

Клёны апалі, і золата й фарбы
крыюць зямлю дарагім дыванам.
Поўныя жмені лістоў тых узяў бы,
восеньскім сплёў бы іх пышным вянком.
Таюць аблокі у небе высокім,
хвалі туману над Вільняй стаяць.
Места мярэсціцца ўнізе, далёка,
вежы касцёлаў у неба глядзяць,
цэркваў блішчаць залатыя галовы,
цёмнымі плямамі дрэвы ляглі,
сіняй палоскаю бор нат хваёвы
ледзьве відаць за істужкай Вяллі...

Чуюцца, чуюцца восені чары
ў фарбах, у тонах лісця і нябёс,
лёгкім дрыжэнні кляноў у пагары,
свежасці йльдзістай, што вецер прынёс...

***1921***

## СЫПЛЮЦЦА З КЛЁНАЎ ЛІСТЫ

Сыплюцца з клёнаў лісты,
сыплюцца ціха, маўкліва,
крыюць зямлю і кусты
пражаю жоўтай, шасцівай.

Сыплецца саду краса,
кроплі дажджу, як раса,
ззяюць сцюдзёнай палівай.
Восень... дык дождж і не дзіва.

Сыплюцца з клёнаў лісты,
сыплюцца ціха, маўкліва,
крыюць зямлю і кусты
пражаю жоўтай, шасцівай.

Сэрца і б'ецца й баліць,
плача па небе й зямлі,
тоне у сумах, сумлівах.
Восень...
дык сум і не дзіва...

## НА МАТЫЎ ХАЎТУРНАГА МАРШУ

Гукі ўрачыстага маршу хаўтурнага
ціха ў паветры імглістым плывуць.
Сэрцы ад свету няветлага, хмурнага
ў свет неспазнаны, таёмны вядуць.
Гукі трымцяць, наплываюць, зліваюцца,
плачуць, растуць, ад зямлі адрываюцца.
З імі — і сэрца дрыжыць:
досі ўжо, досі ўжо жыць!
Што нам з жыцця недарэчнага, сумнага,
з лішняга дня, што, як рэшта, не згас?
Ляж адпачні, дзіцянё неразумнае,
з доляй змагацца не моц і не час.
Гукі хаўтурнага маршу з ёй, доляю,
добрай, благою — не хочуць гуляць.

Чуеш? Ціхой заліваюць патоляю
сэрца, і восень, і жальбы галля...
Досі ўсцяж шчасця шукаць па аселіцах,
шчасце ж людское, як казкі, — мана.
Ледзьве, бадзяжнае, недзе аселіцца, —
нехта парупіцца ўраз адагнаць...
Досі ж... А гукі трымцяць, разліваюцца,
плачуць, растуць, ад зямлі адрываюцца...
З імі і восень дрыжыць:
досі ўжо, досі ўжо жыць...
Што ў той нязнанай краіне за хмарамі
можа сыноў чалавечых злякаць?
Мала іх пошасці, войны з пажарамі
білі, аж слёзы плылі, як рака?
Там жа — ні слёзаў няма, ні гарачага
болю, калі — няма як памагчы.
Там, як калісьці гадамі дзіцячымі,
возьмуцца сны нашы душы лячыць.
Чуеш... як пошчакі маршу хаўтурнага
ціха ў паветры імглістым плывуць?
Сэрцы ад свету няветлага, хмурнага
недзе ў нязнаную далеч вядуць?
Гукі трымцяць, наплываюць, зліваюцца,
плачуць, растуць, ад зямлі адрываюцца...
З імі і сэрца дрыжыць:
досі ўжо, досі ўжо жыць!

*1921*

## НЕДАСЯЖНАЕ

Мая душа ад скраю і да дна
наліта светлай нейкай сілай.
Мне ўсё здаецца ясным, мілым:
і неба сіняе, і хвалі тумана,
і ніў далечыня, і залатыя клёны,
і хвояў баравых убор чорна-зялёны.
Здаецца,
шчасце дзесь каля мяне, так блізка,
здаецца, я магу узяць яго рукой.

Ды не сягну... Вось так, як над ракой
схінаюцца галлём вярбіны нізка, нізка,
а ўсё не здолеюць напіцца тэй вады,
што надзіць іх і дні, і тыдні, і гады.

*1921*

## У ЛЕСЕ

*Ф. К.*

Лес вітаў нас нячутнымі словамі,
нам смяялася неба празрыстае,
а над намі, ўгары над дуброваю,
хмаркі таялі, лёгкія, чыстыя.
Па узгорках, па травах уквечаных
косы сонца нізкога туляліся,
у аўсох запыняліся нечага,
адплывалі, із ценем зліваліся...
Штось шасцеў лес... Дубровай зялёнаю
слаў із ветрам нам шэлехі зводныя,
і здавалася дзіўна знаёмаю
мова іх, і чужая, і родная...

*1921, Вільня*

## ПЕСНЯ

Па вузкіх палосках, па нівах
Ляціць яна ў сумную даль,
І чутны ў яе пералівах
Заўсёды — ці смутак, ці жаль.

Не шэпчуць ў задуме бярозы,
Не жаліцца рэчцы чарот —
Не, гэта адвечныя слёзы
Свае вылівае народ.

Не хіліцца ў полі каліна,
Вітаючысь з яснай зарой —
Не, гэта гаруе дзяўчына
Над доляй гаротнай сваёй.

Не ветры у полі шырокім
Панура і глуха шумяць —
Не, жней гэта горам глыбокім
Цягучыя песні звіняць.

Відаць, што гаротна іх доля,
Што шмат у іх жќцці клапот,
Бо ў песнях нячутна ніколі
Вясёлых ці радасных нот...

*1921*

* * *

Выйдзі ўночы у чыстае поле
І злічы ў небе свечачкі зор...
Не злічыць іх ніколі, ніколі,
Бо ўсё болей іх знойдзеш і болей,
Асыпаючых з Божае волі
Неабсяжны нябесны прастор.

Выйдзі ўранні на бераг лясісты
Адбіваючых сонца вазёр,
І знайдзі у іх хвалях празрыстых
Хмарак будучых пыл серабрысты
Ці жамчуг дробных кропляў расістых,
Іх — не знойдзеш у хвалях вазёр...

Выйдзі ўдзень ты у гай нерухомы
І услухайся ў шэпты галін.
Сум пачуеш у ім ты знаёмы.
Дык скажы, чаму гай той зялёны
Такі сумны, лістоў жа мільёны
Плачуць, плачуць усе, як адзін?

Выйдзі ўвечары к ніве няспелай
І зірні на чырвоны заход.
І душой паправуй ты збалелай
Разгадаць, скуль той ветрык нясмелы,
Нівы, неба, дым хмарачак белы,
Тыя самыя з года у год.

Скуль усё: ўночы смутныя зоры,
Ўранні золата сонцавых кос,
Ўдзень ціхія лясоў разгаворы,
На заходзе — хмар яркае мора,
А ў душы вечна дзіўнае гора,
Горкі смутак нявылітых слёз?

Скуль усё, хто стварыў нашу долю,
І каму нам маліцца уноч?
Ды й ці трэба маліцца? — Без волі
Не здабудзецца шчасце ніколі:
Будзеш плакаць, як вецер у полі,
Грудзі рваць будзе сум без патолі, —
Й без адказу адыдзеш ты проч!

*1921*

* * *

Я ішла... Нада мной разгараўся узор
Светлых, сумных жамчужынак-зор.
І хоць неба паволі рабілась цямней, —
Зоркі ззялі ярчэй і ярчэй...
Вось сарвалась адна, паляцела стралой
І загасла, зацягнена мглой...
І хоць яркай яна, гэта зорка, была,
Не прымеціць, што знікла яна...

Я ішла... Прад вачмі рад таполяў цямнеў
І аб нечым таемным шумеў...
І хоць слоў я пачуць, зразумець не магла,
Іх душа зразумела мая.
Раптам вецер шугнуў угары галіны,
Чорны цень перабег па зямлі.
І хоць вецер той зараз далей паляцеў,
Доўга ліст на таполях дрыжэў.

Я ішла.. Ціхі месяц глядзеў з вышыны,
Рассыпаючы ласкі і сны.
І хоць прыкра ў той вечар балела душа,
Я глядзела у неба і йшла...

Ціша, неба і зоры, і сад у паўцьме, —
Ўсё вітала ласкава мяне.
Й хоць балюча ў той вечар на сэрцы было,
Іх таксама вітала яно...

## У КЛАСЕ

Шумна у класе, шумна і нудна,
Сцены шырокія душаць мяне.
Словы вучыцеля ціха, марудна
Льюцца, іх слухаць не хочацца мне.
Там, ля дзвярэй, так вясёла смяюцца,
Тыя — чытаюць, другія — крычаць,
Я... я гляджу на праменні, што йрвуцца
Ў цёмны клас і у шыбах гараць.
А з-за вакна мне шапочуць таполі,
Неба сінее, прыветная даль,
Даль, што не зведаць яе нам ніколі,
Светла-празрыстая, быццам крышталь,
Дыхае свежасцяй сад пажаўцелы,
Ў залі «Адвеку мы спалі» пяюць...
Нудна сядзець мне у класе дзень цэлы,
Як цераз вокны нячутна, нясмела
Восені гукі плывуць...

*1921*

* * *

Я люблю песні ветра у полі
І вясёлых сняжынак гульню,
Калі ў хаце не хочацца болей
Мучыць думкамі душу сваю.

Я люблю выйсьці ў час, калі хмары
Дагараць, калі захад загас,
Калі цені агорнуць абшары
І змяркання зімовага час...

Ў вёсцы ціха — ўсё снегам адзета,
Ў белай рызе рабіны стаяць.
Ў вокнах зоркі чырвоныя светла
Тут і там, загарэўшысь, дрыжаць.

Засыпаючы сад каля школкі,
То барждж..., то паціху ізноў
Пылам сыплюцца лёгкім іголкі
З неабсяжных нябесных палёў.

Густа, густа лятуць яны, йрвуцца,
Мчацца з ветрам у белы прастор,
То — рассыплюцца, ў вольхах саб'юцца,
То — хаваюць агеньчыкі зор...

Ўсё змяшалася ў полі, здаецца,
Віхор круціцца, б'ецца, пяе.
Мо змагаецца з кім, мо смяецца?
Мо хавае надзеі свае?

Лес, дзе хвойкі, сасонка ў сасонку,
Ў ясны дзень выраcталі сцяной, —
Мглы агорнуты белай пялёнкай,
Мглы, што неба змяшала з зямлёй.

І ўсю ноч у бялеючым полі
Карагоды сняжынкі вядуць,
То баюкаюць песняй аб долі,
То хаўтурныя гімны пяюць.

***1921***

## ЗАЧАРАВАНЫ КУТ

Ой вы, казкі, казкі-чары!
Із надзённасцяй зударыць
вас —і трэскі палятуць!
Каб не вы, ці мала ўбогіх,
нехлямяг, у паўдарогі
пазрывалі б каліту,
завярнулі, не дапялі,

паталіліся б у жалі,
звягай сцятыя, зляглі?
А пад вашаю атрутай
хоць навомірг скінеш путы,
ўбачыш казку й на зямлі!

Дрэмле багна... На балота
ўжо кладзецца пазалота,
зырка чыркае ваду —
месяц гэта ўзняў павекі,
на бары зірнуў, на рэкі,
на дуброваў чараду.
Там, дзе згрудзіліся ў змроку
вербалоз, трысцё, асокі,
качкі б'юцца на начлег,
млын ляжыць, як воз паловы,
і вачмі сляпымі ловіць
тую зорку, што спялей.
Млын — не млын... Страхі — нізвання,
ветругі змялі, не сяння
учарнеў, прыгнуўся зруб,
і даўно здубела кола,
ўжо не сноўдае наўкола,
каб надраць на кашу круп.
Ды не спяць у сенцах сцені:
ўночы ў поўню хтосьці пеніць
пену ў заставе сухім,
нехта іскры ў цемры крэсіць
і рагоча ў цёмным лесе,
насыпаючы мяхі...
Ды не годзе, на заходзе
ўлетку, ў лётным карагодзе
ймкнуць туды русалкі — піць,
а напіўшыся удосыць,
чэшуць хмель зялёны косаў,
аж, як шоўк той, зарыпіць...
Ноч насоўваецца з бору,
жабы рыпу ўтораць хорам,
гостра тхне багінне, тхля...
І тады вось тамка зводы,
здані, страхі з-пад калодаў

выпаўзаюць спакваля!
Кажаны тапырацъ вушы:
ці не рой шуміць дзе мушы,
крылаў стрымліваюць гон,
совы вухкаюць панура
з вершалінаў дрэваў бурых
на загубу, на праклён...
Там, апоўначы бяззорнай
вадзянік вылазіць чорны,
бруха мокрае скрабе
і рукой слізкой, зялёнай
вее жвір на хлеб надзённы
вадзянісе і сабе.
Там... сам слівень, у кароне
залатой на слізкай скроні,
з багны, скрут у скрут, паўзе,
спорнік змеем прамяністым
зносіць грошы ды маністы,
знае сховы, балазе.
Там лясун ідзе у скокі
з лесавіцай крутабокай,
векавечны маладзён!
Маладзік там ведзьмы сочаць,
зелле йрвуць па роснай ночы,
чорны, злы, атрутны плён...
Ды, калі пявун гарласты
прапяе у вёсцы, — шастаць
у бары сціхае ўсё.
Ціха зноў... І толькі зоры
гладзь балотную сузорацъ
ды калышыцца трысцё...

*[1921]*

## БАЛОТНІЦА

Хто там так плача, хто там галосіць,
помачы ў поўначы чорнай не ўпросіць?
Сыплюць тужлівае рэха лагчынай

сіні сасоннік, рудая ляшчына,
рэжучы ў сэрцы барозны зыркія.
Пошчаку ўтроп — вусціш цягнецца з кіем.
Стане за кустам, прыложыць да вуха
з кіпцямі пальцы... Пашэпча штось глуха
й зноўку брыдзе...
А той, нехта, галосіць,
нешта нясцішна у поўначы просіць...

Высака плавае месяц халодны.
Поўня...
ў балоце за полем бясплодным
сіта чаротаў ледзь цэдзіць густое
срэбра вады. Там, у цёмным настоі,
мые лазняк каўтуністыя косы,
сцелюць туманы палотны ўскосам,
рукі выцягваюць з хвалі, аж чорнай,
зморы — карчы, плесню шэрую горнуць...
Вусцішна, глуха ўначы над балотам:
шоргаюць целаў тычыннем чароты,
шастаюць суха трысціны над тоняй,
сочачы знічкі у небных сутонях.
Часам, апоўначы як засынае
ўсё, і нат зоры ў багне патанаюць,
з твані балотніца ціха выходзіць...
Выйдзе, устане й на чорнай калодзе
кідае, сее пялёсткі лілеі,
сее й варожыць, варожыць і сее...
Вочы балотніцы свецяцца трухляй
жутла-зялёнай, засвецяцца — й зжухнуць,
косы — агню зелянкавага хваля,
цішкам дакнешся — і пальцы апаляць,
ноч ані сівер іх ззянь не астудзіць,
белае цела, сцюдзёныя грудзі.
Кіне іх ветру на пешчы, на гулі,
жабія ногі ў багінні затуліць, —
плача балотніца, плача-галосіць,
помачы ў змрочнае поўначы просіць.
Толькі ж няможна ёй дацца, даць веры:
знадзіць, урокшы, на ўлонне — у нерат,
косамі спутае, шыю ахопіць,

гледзячы ў вочы, задушыць, утопіць.
Будзе тапіць пакрысе, цаль па цалі —
ўзніме, занурыць, узніме — і ў хвалі!
Будзе тапіць і смяяцца ці плакаць,
можа, з уцехі, а мо, з пералякаў:
«Ой, бяда мая, бяда горкая
ўсцяж не збудзецца, сэрцам торкае.
На нядолю маю, на няшчасцейка
загубілі мяне вочы, ластаўку,
загубілі, з бядою сасваталі
бровы цёмныя ды крылатыя.
З імі соладзі не найрвала я,
загубіла адно душу шчырую.
Дзе ж спачну цяпер, нестрывалая,
ой, нямашака мне нідзе выраю!
Мела любага... З ім хадзілі мы
ў сутань сцежкамі неастылымі.
Ой, любіла яго я, ой, песціла,
а ён... знік, не сказаўшыся, дзесьцейка…
Кон дзявоцкі мой, бяда горкая
ўсцяж не збудзецца, сэрцам торкае!
Не магла я жыць, не адна ж была,
хай адна, адна насупроць сяла:
не дзяды, нат малеча ўсміхалася,
як я вулкай ішла, калыхалася,
як у спёку пад світкай ваўнянаю
я хавала ад іх несхаванае...
Аж дадзела мне доля без сонейка,
ночкай рынула я у прадоннейка.
Цяжка, важка мне на жвірастым дне,
не суцішыў скон сэрца горкага,
тужыць, сніць усцяж неба з зоркамі.
Падыдзі ж сюды, я сама ў багне,
прытулі, сагрэй, абдымі мяне!
Цалаваць цябе буду, сокала,
ажно дзень закрасуе навокала!»

Плача балотніца, плача, галосіць,
гора таму, каго грэшная ўпросіць:
п'яўкам ды чорным ракам для спажывы

згіне навечна ў чаротах шасцівых...
Хтось мо паплача, прыстоіць ля веснiц,
гляне удалеч, ухопіцца песні...
Можа, нат прыйдзе удзень пад балота,
мо перагорне чаротаў уплёты,
стане, загляне сюдою, тудою,
нізка прыгнецца над цёмнай вадою...

Ды, дзень па дні, —
і забудзецца згубы.
Што ж, як адзін дзесь і згубіцца любы?

*[1921]*

## ЛЯСУН

Гулка грымелі ў бары тапары,
гул не сціхаў ад зары да зары.
Падалі з енкам пакутным сасонкі,
стан выгінаючы тонкі і гонкі.
Дзесьці ў гушча́ры на днішчы лагчыны
ў жаху няўсцішным дрыжэлі асіны,
смягнуў маліннік на лядах, і сох
шэры, карчамі развораны мох...

Плакаў чарот, па бары, над балотам,
грагаў крумкач-гарладзёр пералётам,
шэрыя совы начы не чакалі,
вухкалі скрозь, што ім бор высякалі.
А у гушча́ры, прысеўшы на пнішча,
плакаў сутоннямі дзед-лесунішча.
Плакаў стары, абціраючы вочы,
слёзы буйныя сплывалі равочкам
з твару ў кары й лішаёх сіваватых,
ззялі расою на вусах калматых.

Плакаў лясун, што лясы высякалі,
роў, ажно рэха гуло па-над галяй
бору, віхурай валоссі сівыя
ўзняўшы, за хвоі чапляў баравыя,

блытаў-ірваў у вяршалінаў голлі,
зоры змятаючы з небнае столі.

У доўгай кашулі, русалкамі тканай
з лыкаў лазовых і сцёблаў трысцяных,
падперазаны паўзкой дзеразою,
хвояй тхнучы ды грыбамі з вузою,
тупаў лясун, уздыхаючы глуха,
раз — занямелы, слабы ад сукрухі,
раз — равучы, як той тур крутарогі,
топча урочышчы ў злосці й разлогі.
Гуд ідзе борам... Пужлівыя совы
ў дуплах сляпыя хаваюць галовы,
моўчкі зайцы касавурацца ў страху,
хмарай зрываюцца чорнаю птахі...
Людзі, пачуўшы знячэўку грымоты
з яснага неба, жагнаюцца ўпотай,
пацеры шэпчуць,
а сіверкі вечар
першае жоўтае лісце камечыць,
круціць віры з яго, кружыць, калыша
ў жухлай, нямой, насцярожанай цішы,
чуйна двары углядаюцца ў змрок,
спаць і не слухаць складаюць зарок...

*1921*

## КРАСАВІК

*Максіму Гарэцкаму*

Неба сіняе, сіняе, сіняе...
Ані межаў у ім, ані дна.
На зямлі ж прыгажуняй-княгіняю
пазірае мне ў вочы вясна.
Лазнякі срэбным пухам акрыліся,
вецер пыл па-над імі мяце,
тут — пралескі ў раўку затаіліся,
сірацінай фіялка цвіце,
там — жаўцеюць вяночкі вясновыя
красак нейкіх нязнаных яшчэ,

там — ізноў — залатыя, ліловыя...
З іх вясна дываны свае тчэ.
Як тут ціха, ні гулу, ні гоману,
пачынае нат сум засынаць,
ды душою жывою, нястомнаю
чую ўсё ж я, што ўсюды вясна.
І нічога мне ўжо не жадаецца,
ні кахання, ні светлых мінут,
у душы маёй штосьці зрываецца,
што няўзнак адцвітае, а тут —
тут фіялкі цвітуць цёмна-сінія,
сеюць водар салодкі вясны,
што брыдзе прыгажуняй-княгіняю,
рассыпае вясновыя сны.

## ТОЛЬКІ ЎЧОРА

Толькі ўчора, здаецца, плылі ручаі
і вяснянае сонца зямлю цалавала,
а сягоння ўжо жутла жаўцеюць лісты,
а сягоння ўжо восень бязмала.

Толькі ўчора, здаецца, пралескі цвілі
і ў шаўкі прыбіраліся цішкам бярозы,
а сягоння ўжо яблыкі з дрэваў знялі
і па шкле плывуць восені слёзы.

Толькі ўчора, здаецца, над змрочнай ракой
салавей заліваўся,
мы ж — дыхаць не смелі,
а сягоння ўжо поўніцца сэрца тугой,
быццам шчасця й тады мы не мелі...

***1922, Вільня***

## УВЕЧАРЫ

Смутак няясны зышоў на душу...
Кленчыць, маліцца?
Чаго я хачу?
Лёгкія хмары плывуць спакваля,
мглою чырвоны ўбіраючы шлях...
Гукі і гоман нясуцца здалёк,
быццам хто гора задзержаць не ўзмог
і закрычэў, застагнаў на ўвесь свет...

Не, гэта места шуміць так... і след
гукі глухія кладуць на душу.
Сонца заходзіць...
Чаго я хачу?

Хочацца любасці нечай да мукі,
хочацца сціснуць халодныя рукі,
хочацца кінуць усё і пайсці,
думкі развеяць мне хочацца...
ці
ўзяць і заплакаць, каб сцішыць душу.
Цемра надходзіць... Чаго ж я хачу?

Можа, хачу я таго, што ўжо маю,
можа, хачу недасяжнага раю?
Не, не зямных я хацела б уцех,
радасцяў дробных праз слёзы і смех...
Я... я б раззорыць хацела душу.

Цемра надходзіць... Чаго я хачу?

*1922*

## ПЕРАД НОЧАЙ

Цямнее заход над палоскаю бору
далёка... далёка... Над самаю ж скроняй
шапочуць галіны расцвілае ліпы,
што цвет залаты долу сыпле і сыпле.
Успыхнулі першыя зоры ў прадонні

над цёмнай, далёкай палоскаю бору.
І ноч агарнула свет сіняй тугою,
і сціхлі ў той сіні апошнія гукі...
Ды думкам, хаценням — няма супакою,
плывуць яны, думкі, як хвалі ракою,
аж хочацца выцягнуць, выкінуць рукі
у ноч, што накрыла свет сіняй тугою...

*1922, Вільня*

* * *

У небе палаюць чырвоныя хмары.
Як горкія мары, на нівы, папары
кладуцца вячорныя сцені.

Ад пахаў гарачых рака, бач, самлела,
нячутна, нясмела святло адляцела,
сплёў месяц прывідныя сеці.

Ноч сонныя дрэвы прывабіла ласкай,
таёмнай, нянаскай, нячутаю казкай
апошнія сцішыла гукі.

Закінуў у далечы вецер жалейку,
што хмару-зладзейку будзіла зняцейку,
адкінуў і ў вецці схаваўся.

Адна ноч над цёмнай зямлёй варажыла,
сны-чары насіла, галлё варушыла,
і горка а дзіўна маўчала.

Ды хто ж разгадаў яе сумы-трывогі —
гушчары, разлогі ці месяц двурогі?
Не — кволае сэрца людское!

*1922*

## ШЭПТЫ НОЧЫ

Што сумна шэпчуць мне тыя ночы,
калі на краскі кладуцца росы,
губляе месяц між цемры косы,
як быццам срэбрам праліцца хоча...

Калі з душою душа гавора
аб вечных болях, аб вечных муках
і пад цяжарам бязмерным гора
губляе голас у начных гуках,
калі здаецца, вось-вось уцяміш,
пазнаеш тайны жыцця і Бога
і пойдзеш новаю дарогай;
калі ўжо золак далечы пляміць,
а сэрца плача і смерць прароча...

Што сумна шэпчуць мне тыя ночы?

***1922***

## НЯЎЖО

Недаверліва ноч надыходзіць,
нешта слухае... Дых пераводзіць...
Цішыня... цішыня... цішыня...
Ў сінім сцені схаваліся вулкі,
гоман места, далёкі ■ гулкі,
знік з апошнімі косамі дня.
Ў небе зоры смяюцца праз слёзы,
і хоць ліпы дрыжаць ад марозу,
а смяюцца чагось і яны.
Дык няўжо ж нас жыццё так стаміла,
што не знойдзем хацення ці сілы
усміхнуцца праз слёзы і мы?

***1922, Вільня***

## ЛЕС ШУМЕЎ

Лес шумеў... Ледзьве чутнымі гукамі
гоман соснаў высокіх сплываў.
Вецер дзіўна-прыгожымі згукамі
новы шэпт, новы спеў выклікаў.

Між камлямі хваінаў чырвонымі
ззяў крывавы асенні заход.
Далячынямі неба прадоннымі
выплываў белых зор карагод.

А між імі, з усмешкай халоднаю,
ўсходзіў месяц, прыбраны ў імглу...
Гэны вечар малюнкамі роднымі
выклікаў нейкі смутак, тугу.

Смутак рос, калыхлівымі хвалямі
плыў а плыў у душу ён маю...
Так туман, неабсяжнымі далямі,
залівае увосень зямлю.

*Вільня, 1922*

## МЭТА ЖЫЦЦЯ

Мэта жыцця,
кажуць людзі без сілы,
мэта жыцця — дачакацца магілы.
Як пражывеш ты, сумленна ці не,
ці не ўсё роўна, — бо смерць не міне.
Мэта жыцця,
кажуць поўныя сілы,
з доляй змагацца да самай магілы,
веры не траціць і страху не мець,
смела байцамі памерці, згарэць.
Мэта жыцця, яшчэ кажуць,
не йрвацца
ў неба, а толькі зямлі прыглядацца.
Зведаць грахі ўсе, ўсяго спрабаваць,
каб не так горка было паміраць.

Мэта жыцця, ўрэшце кажуць,
хавацца
з сэрцам ад смутку, з слязіма не знацца.
Думкі аб праўдзе? Дурное — і ўсё!
Мэта жыцця — захаваць жыццё!

*1922, Слонім*

## ПАМЯЦІ ЯДВІГІНА Ш.

Ціха з шэрых нябёс белы падае снег,
А учора смяялась вясна,
Сонца першыя косы так светлы былі,
Усміхаючысь, хмаркі ў блакіце плылі,
І ласкаў, і звадзіў гэты смех.

Вецер — той нават дыхаў у твары вясной,
Ўжо чарнела дзе-недзе зямля,
Ўсюды з грукатам срэбным плылі ручаі,
Ты памёр, не прыждаўшы чароўнай вясны,
Спі жа з чыстай, спакойнай душой.

Тут, на шумнай зямлі, ты і жыў, і цярпеў,
Ты народ свой гаротны кахаў,
Ты да мэты ішоў без пуці, без дарог,
Працаваў, не шкадуючы сіл, пакуль мог,
Не прыждаўшы вясны, дагарэў.

Дагарэў... але светлая памяць твая
Не развеецца лёгка, як дым.
Не забудуцца простыя словы твае,
І, як сына найлепшага, прыме цябе
Беларусі пакутнай зямля.

*1922*

## ЖОЎТЫЯ КЛЁНЫ

Жоўтыя клёны, у фарбах асіны,
Гронкі крывавыя ў веццi рабіны,

Сіняе неба... Ў начныя часіны
Дождж з дагараючых зор.

Ў травах пажоўклых бліскучыя ніці —
Людзям ніколі танчэйшых не звіці,
Астры астатнія ў садзе — не рвіце:
Восені гэта убор.

Восень, прыбраўшыся ў кроў і у сонца,
Ў золата — лісце, ў жамчуг — валаконцы,
З ліры сваей здабывае бясконца
Струнаў глухі перабор.

Раняць душу ледзьве чутныя гукі —
Самі сабой апускаюцца рукі, —
Родзяць у сэрцы жаллівыя згукі,
Восені песню-жальбу.

Родзіцца песня і ў небыт сплывае
Разам з лістамі, што клён абтрасае,
З сонцам, што ў чырвані дрэў дагарае,
З першаю кропляй дажджу...

*1922*

## КАБ КРЫЛЫ...

Злавілася сонца у сеці,
у сеці, сатканыя з хмар...
Каб крылы саколія мець мне
ды дзесь па-над хмары ўзляцець мне
у сонца нясцерпны пажар!

Хай вочы мае занявідзяць,
хай змоўкне навекі мой спеў,
хай людзі мяне зненавідзяць, —
а дух мой да сонца ўзляцеў!

*1922, Хэлмна*[1]

## ШЧАСЦЕ

Шчасце — як сонца: маленькая хмарка
пройдзе па небе ціхім сярод дня, —
сонца ўжо свеціць так жутла, няярка,
момант — і сонца няма.

Шчасце — як вішняў вясняныя краскі:
вецер павее, заплача вясна, —
сыплюцца снегам на дол яны гразкі,
момант — і красак няма.

Шчасце — як светлыя, ясныя мары:
рэзкае слова, заўвага адна, —
і дагараюць яны у пажары,
момант — і мараў няма.

*1923, Слонім*

## ЖЫЦЦЁ

Клічуць вечарам зоры ў сусвету прасторы...
Поўны нейкае зморы ці прыгноблены, хворы —
не ідзе чалавек...

Ночкай месяц варожа так прынадна, прыгожа...
Гэй, паслухаеш, можа, кінеш жыцце, нябожа?
Не, не йдзе чалавек...

Не, не йдзе, хоць паволі сэрцам рвецца да волі,
штодня нудзіцца болей — і жыве мімаволі,
несвядома амаль,

хоць да самага рання лёс ягоны — змаганне,
сумаванне па шчасці ці па долю сяганне,
неакрэслены жаль...

*1923*

## ВЯСЕЛЛЕ

Ці не вецер над грэбляй галосіць?
Не вярбіны йрвуць з плачам валоссе?
Не, спраўляе вяселле ля млыну
вадзянік, бярэ з рэчкі дзяўчыну.

Ледзь брыла маладая, схудзелым
белым тварам у цемру глядзела,
вусны сінія шчытна сціскала,
пальцы ломячы, нешта шукала...
Пышны йшоў малады, пасміхаўся,
да свае маладой пахінаўся,
сам вялікі, няскладны, цыбаты,
з барадою зялёнай, калматай...
Не сваты маладых запівалі,
як спрадвеку дзяды наказалі, —
заручылі бяда іх і гора,
не запуснай нядзеляй, а ўчора.
Не баяркі сяброўку ўбіралі,
расплятаялі касу русу кралі —
расплятаялі касу рыбкі-плоткі,
павымаўшы шаўковыя ўплёткі.
Не браты тыя ўплёты хавалі —
акунькі іх па дне расцягалі.
Не радня маладую дарыла —
хвалі ў вочы сыпнулі ёй жвірам.
Не ў царкве маладых павянчалі —
на дне віру вянцы ім трымалі
не баяры у жычках ды ў ботах,
а гнілыя карчы над балотам.
Не маліліся поп ды з дзякамі —
здані-вербы шасцелі сукамі,
на налоі не свечкі гарэлі,
а трухля балацяная з прэляй.
Не гулі ім дуда, ні цымбалы —
ветругі голым веццем шургалі,
не йшлі ў скокі з хлапцамі дзяўчаты —
вадзянік адзін тупаў калматы.
Ой жа ж тупаў, дзікі, рагатлівы,
абымаўся з сваёй чарнабрывай!

А яна... А яна галасіла,
каравай свой слязіма расіла:
— Зашумі, лес, зялёна дуброва,
уздымецеся, ветры буйныя,
залятайце да роднага таткі,
залятайце да роднай матулі.
Уставай, уставай, татка родны,
ды вынось абраз, родная маці,
баслаўляйце дачушкі вяселле,
ой, дзіўное вяселле гуляці!
Не шуміць лес, зялёна дуброўка,
не ўздымаюцца буйныя ветры,
не ўстаюць, не, не йдуць татка з мамкай
баслаўляці дачку на вяселле.
Ой, сасонка мая баравая,
ой, галоўка мая палавая!
Была маткай мне ночка глухая,
родным таткам быў сплаканы ветах,
выпраўлялі мяне браты-ветры,
галасілі па мне сёстры-зоры.
Ой, і моцна ж званы там нам гралі,
ой, і зырка ж нам свечкі міргалі,
ой, прыгожа ж папы нам спявалі,
калі хвалі мяне спавівалі,
толькі ж я, ой, матуля, матуля,
ні званоў тых не чула, ні гуляў...

Ці не вецер над грэбляй галосіць?
Не лаза йрве із плачам валоссе?
Не, спраўляе вяселле ля млыну
вадзянік, бярэ з рэчкі дзяўчыну.
Вераб'іная ж ноч над вадою
аер тузае, ледзьве устоіць,
разлівае счарнелае срэбра
хваль па кола струхлелага рэбрах,
ды яно у пясчаных сувоях
супачыла, даўно нежывое...

*1923*

## КАЛЫХАНКА

Ноч рассыпала зораў агні,
ў сінім небе яны патанулі.
Вее сон над прасторам зямлі.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

З гэтых зорных чырвоных агнёў
я спляту прамяністы вяночак.
Над галоўкай павешу тваёй,
люлі ж, люлі, засні, мой сыночак.

Будуць зоры маленькаму ззяць,
будуць светлыя сны пасылаць.

Ціша ўсюды і сонны спакой...
Вербы гнуткае вецце схінулі
над сцюдзёнаю, змерзлай ракой.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Я падслухаю шэпты вярбін,
я падслухаю шэляхі ночкі
і ў напеў пазбіраю адзін.
Люлі ж, люлі, засні, мой сыночак.

Будуць вербы шасцець, шапатаць,
Будуць снамі цябе асыпаць.

Як бы плачучы, ў кропельках слёз
прыгажуні бярозы паснулі.
Гэта ў перлы прыбраў іх мароз.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Тыя перлы-слязінкі збяру,
наніжу з іх пацёркаў шнурочак
і на шыйку завешу тваю.
Люлі ж, люлі, засні, мой сыночак.

Будзе з імі малы засынаць,
ручкай пацеркі-слёзы кранаць.

Ноч рассыпала зораў агні,
ў сінім небе яны патанулі...

Спіць усё, й ты, маленькі, засні.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

*1924, Слонім*

## РАЗВІТАННЕ

Тонкай мглой абвязаліся сінія далі,
сінія-сінія далі на ўзмежжы нябёс.
Па жытох расплыліся вятраныя хвалі,
ветру плаўныя хвалі, што вечар прынёс...

І паволі, паволі чырвоным пажарам
занялося чырвоным пажарам усё:
і жыты, і кляноў верхавіны, і хмары,
й нат будзённае, шэрае ў шэрым, жыццё.

Дзень канаў з недаверлівай, кволай усмешкай,
з прыкрай, горкай усмешкаю хворых людзёў,
і звінелі яму развітанне узмежкам
зелянкавыя конікі — дзеці палёў.

Развітанне з жыццём, развітанне навекі,
развітанне навекі з жыццёвай маной,
калі чорная ноч моцна сцісне павекі,
моцна сцісне павекі над сцерплай зямлёй...

*1924, Хэлмна*

## РОДНЫ КРАЙ

Сонца заходзіць... На вежах кляшторных
скрозь загараюцца тысячы зорных
зырка-чырвоных агнёў...
Хораша... Сэрца ж міжвольна імкнецца
ў край, што яшчэ харашэйшым здаецца,
родны, найлепшы з краёў.
Там... Там усё быццам так, а іначай
хваляй у сэрца ліецца гарачай,
там... Там усё мне мілей:

сіняе, сіняе неба бясконца,
шчыра вясёлае, яснае сонца,
далеч бязмежных палей.
Там, там у гожыя, цёплыя ранкі
песняю срэбнай вітаюць жаўранкі
першыя праблiскі дня,
песняю будзяць ціхія лагчыны,
дзе яшчэ пасмам густым, цёмна-сінім
сонна калышацца ймгла.
Сонца расу там усмешкаю сушыць,
вецер там краскі калыша, варушыць,
хваляй плыве па лугох,
хвоек зялёных шумяць верхавіны,
ў жаху адвечным трапечуць асіны
ў змрочных, гушчарных барох.
Вёсны там... Пешчы нясмелыя сонца
будзяць жыццё пакрысе у старонцы,
робіцца неба сіней,
вецер крыніцай пад небам плюскоча,
нешта зямлі веснавое шапоча,
звоніць, пяе ў лагчыне́.
Леты там... Хвалі па жыце лунаюць,
колер зялёны на срэбны мяняюць,
срэбны на сіні, сівы...
Сцежкай вузкой у жытох заблудзіцца —
золатам можна накрыцца, заліцца:
жыта — вышэй галавы.
Восень там... Постаці жоўтых бярозаў,
ліст, парудзелы ад першых марозаў,
скрозь пад нагамі шуміць,
плавае з лёгкаю хваляю ветру,
срэбрам блішчыць у празрыстым паветры
ніць, павучыная ніць...
Зімы там... Песні дзікія завеі,
ночы глухія, у небе лілеі —
краскі сцюдзёныя зор,
бор, што прыбраны у снежныя шаты,
высіцца пышны, магутны, багаты,
топчачы сценяў узор...
Вёскі там... Мох, саламяныя стрэхі,
чырвань рабін у садку для пацехі,
студня з даўгім жураўлём,

куст недацвілай, апалай паўрожы,
крыж учарнелы ў канцы раздарожжы,
дах ад дажджу над крыжом.
Вечарам травеньскім тут, на растані,
людзі пяюць, адмаўляюць літанні,
кленчаць на цёплай зямлі...
Кленчаць, а сонца за вёскай знікае,
ніткай густой, залатой падтыкае
крыж, і людзей, і палі...
Верай магутнаю, светлаю сілаю
вее над гэтай грамадкай пахілаю,
надзіць прыгожасцяй май...
Нават адзін абразок гэткі ў полі —
й сэрца цябе не забудзе ніколі,
родны мой край!

*1924, Хэлмна*

## ВЯЧОРНЫ АБРАЗОК

Змярканне...
З яснага блакіту
знікаюць фарбы, бліскі дня,
і чыстым золатам заліта
ціхіх палёў далечыня.

Істужкай сцежка ўецца ў жыце,
збягае ўніз, паўзе вышэй,
праз ручаёў сталёвых ніці
бяжыць кудысь далей, далей...

На ўзгорку млын-вятрак ляніва
крыламі часам узмахне,
і статак галубоў пужліва
з-пад даху ў неба-выш памкне...

Лятуць, купаюцца ў паветры,
знікаюць, круцяцца узноў
лісты, што ўвосень носяць ветры,
а захад іх фарбуе ў кроў.

*1924*

## СНЕГ ПАДАЎ

Снег падаў з неба іскрынкамі зор...
Ён крыў зямлю карункаў дыванамі.
Ледзь вецер шапацеў між голымі клянамі
і зноў ляцеў туды, дзе сніў прастор,

ды пасам зубчастым сінеўся бор
над анямелымі даўно палямі,
што скутыя ляжалі маразамі,
адпачываючы ад летніх змор.

Адпачывала ўсё — і лес, і поле,
і неба глыбіня... Ды не людская доля.
Людская доля бо — усцяж цярпець,
шукаць чагось з няўтомнаю тугою,
глядзець на крыўды, зло...
і летуцець
аб соладзі нязнанай супакою.

*1924, Слонім*

## ПЫТАННЕ

Даль, нябёсаў туманная даль
тае, гасне над ліпаў калонамі,
што усталі суцэньмі зялёнымі
паміж доляй ды мною, на жаль,
і звіняць пад дажджом, як крышталь.

Цішыня... цішыня над старонкаю.
Ў срэбнай золкасці травы дрыжаць.
Нат жаўронак із песняю звонкаю
ў гэткі дзень не ўзляціць — сенажаць
срэбрам гукаў з нябёс бласлаўляць,
ані з зоркай рамонкавай тонкаю
летні вецер не прыйдзе гуляць...

Божа! Дні мае, хіба што шчасныя,
ціха сходзяць, сплываюць удаль,
па сабе пакідаючы жаль,
па мінулым — тугу перадчасную,
што звініць, быццам кропляў крышталь.

І пытаюся з болем міжвольным я:
што ж ты робіш з душою, з сабой,
як праходзіш жыцця пуцінай,
што ты робіш із воляю вольнаю,
бо мінуць — і не вернеш, на жаль.

***1924, Хэлмна***

## ВЯЧОРНАЮ ПАРОЮ

Вечар неба фарбуе ў гарачыя тоны,
чыстым золатам густа залоціць рабіны,
і здаецца паветра густым і зялёным,
бы вада у вазёрах, зялёных ад ціны.

Гаснуць косы на вежах гатыцкіх касцёлаў,
запаляючы шыбы дзіўнымі агнямі.
Зоры —
вочы малых засмучоных анёлаў —
мігацяць у хмурынах, парваных над намі.

Час таёмны — не ноч, ані дзень, калі сцені,
сцені ночы зліваюцца з косамі сонца,
калі хочацца раптам устаць на калені
і стаяць так, без руху, маўкліва, бясконца...

Ў гэты час аджывае у думках старое,
ўспамінаюцца даўныя сэрца хваробы...
І так лёгка душою — вячорнай парою —
зразумець свету сумы, сумлевы й жалобы!

***1924, Хэлмна***

## УНАЧЫ

Ноч спакоем чаравала,
сцені ціхія сплятала
у бярозах, апавітых
срэбнай, снежнаю імглой.

Знекуль думак, сноў забытых,
іх, штодзённем скутых, збітых,
нечаканы выплыў рой...

Аджылі ўспаміны, здані
дзён калішніх, сны, жаданні,
неба весняга павець...

Захацелася уночы
ў змрок зімовы не глядзець,
а, спусціўшы твар і вочы,
не любіць і не цярпець.

*1924*

* * *

Сонца вяснянае ў золаце косаў,
срэбныя вербы на плёсах бялёсых,
восені зырка-чырвонай пажары,
ночныя зводы і ночныя чары,

сэрца развагі і сэрца парывы,
песні, што ўлетку сплываюць на нівы,
плач лесуна, сінь вазёр лебядзіных,
жахі глухое паўночнай гадзіны,

долі пакора і з доляй змаганне;
роднай старонкі ціхое каханне, —
ўсё, што у думках нясцішных пяе, —
вершы мае.

*1925*

## УВЕЧАРЫ

Не ўцячы ад тугі. (Залацістыя сеці
ясны вечар накінуў на нівы й лугі.)
Затрымаліся, ў вышу не хочуць ляцеці
мае думкі крылатыя, дзеці тугі.

Жаль чагосьці, чаго? (Сіняватыя сцені
праз дарогу ляглі, і сцямнела ў лагох.)
Абудзіліся казкі душы — летуценні,
штось шапочуць, і надзяць, і плачуць, чаго?

Нешта ў сэрцы расце... (Па-над срэбрам аблокаў
моўчкі ўзняў маладзік свой заплаканы твар.)
Яшчэ момант... і рыне паводкай шырокай
мая песня — натхненне, жыцця майго чар!

*1925, Хэлмна*

## НА СЕНАЖАЦІ

Косы звіняць... Спеўна ўзносяцца зыкі,
поўняць жыццём жаўтацвет-сенажаць
майстры дзіўныя з нязнаных музыкаў,
косы звіняць...

Кмена пах цягне па мокрых пракосах,
водарыць сенам у пухкіх капах!
Дыхае поле у сонцавых косах,
кмену йдзе пах...

Песню жанкі запяялі нясмела,
і — звоніць уся сенажаць,
з гукамі — ўдалеч, здаецца б, ляцела...
Косы звіняць...

*1925, Доры*[1]

## ВАСІЛЬКІ

У жытох расцвілі, расцвілі васількі...
На прасторах шырокіх, не нашых палёў,
між маўклівых, зялёных яшчэ каласоў,
на чужацкай зямлі расцвілі.

Расцвілі, па узгорках пясчаных бягуць...
А ўнізé, пад гарой, зеляне́юць кляны,

асыпаюцца яблыны — слёзы вясны,
і цвітуць васількі і ў лагу.

Краскі любыя, памяткі іншых палос,
белых дзічак на межах, сцяжынак-шляхоў,
краскі — памяткі песні званкіх жаўрукоў
пад паветкаю сініх нябёс...

Там, у родных палёх, вы не гэтак цвілі,
гэткі сум не імгліўся у вашых вачох,
гэтак хутка ваш стан не хінуўся, не сох,
краскі роднай, далёкай зямлі!

## НОЧ

Загаслі апошнія косы
кароткай маёвай зары.
І чыстыя зоры, як росы,
як слёзы, заззялі ўгары.
Растаялі лёгкія хмары,
і сталася неба — без дна.
Спавіўшы імглою абшары,
там ноч панавала адна.
Акрыўшыся хусткай туманаў,
ступіла яна на зямлю,
над светам, паснулым да рана,
раскінула ўладу сваю:
спляла сіняватыя сцені
між цёмных кляновых камлёў,
і месяца косы-праменні
сыпнула у цемру палёў.
Збудзіла зноў ночныя змовы,
шэпт-шэлех густое травы,
ўзняла з жабім хорам размовы,
заплакала ў плачы савы.
Да сэрца людскога паволі
вужакай слізкой падпаўзла,
старыя, забытыя болі
з прадоння узноў узняла.

Збудзіла ў адных, не іначай,
як важкай крануўшы рукой,
найгоршае пекла распачы,
а ў іншых — дзіўны супакой.

*1925, Хэлмна*

## ВЯСНОЮ

Ізноў вясна... Блакіту ззянне,
І сонца ласкі, й фарбы рання,
І ветру ў вочы пацалункі,
І чар увесь зямлі-пястункі,
Што, прабуджаючысь паволі,
Яшчэ праз сон смяецца ў полі,
Смяецца ў мглістых пералесках,
У сініх зорачках-пралесках,
Смяецца ў месце нават чорным,
Смяецца смехам ясным, зорным, —
Усё, усё даўно знаёма,
Ўсё пералсыта мною дома...
Але душа дрыжыць, вітае
Вясну, што вечна парывае.
Вясну, што будзіць сны, жаданні,
Няясны сум — натхнення ранне,
Што нават тутка, у чужыне,
Прамень яснейшы ў сэрца кіне.

## НОЧКА

Ночка ціха́я, расістая
Йшла над палямі-лагчынамі.
Зоры паліла празрыстыя
Ў небе, паміж аблачынамі.

Кідала кроплямі роснымі
Ўправа, улева, ўгару.
Пахамі мляўкімі, млоснымі
Дыхала ў сонным бару.

Чуць варушылі галінамі
Ліпы, красой абсыпаныя.
Ў шэляху траваў з травінамі
Чуліся гукі нязнаныя...

Над балатамі бяздоннымі
Ззялі агні дзе-нідзе,
Млелі струхлелыя, сонныя
Івы ў ліпкім тумане...

Ночка, тваймі гэта чарамі,
Ночка, тваймі гэта дзівамі
Збуджаны зоры між хмарамі,
Сплецены мглы па-над нівамі...

Ты гэта, вечна чароўная,
Ў соннае сэрца ўвайшла —
Думкі мае невымоўныя
Ўсе зразумела, знайшла...

*1925*

## УЗНОЎ ВЯСНА

Тонкім прадзівам сонечных, ясных праменняў
сад асыпаны, ў белым стаіць захапленні,
пышнай цешыцца, весняй красой.
Зноў вясна... Яшчэ раз у жыцці пералётным
бачу чары вясны маладой, несмяротнай,
вечна новай і вечна жывой.

Быццам морскія хвалі ўзбярэжжам —
мкне па выраі вырай бязмежжам.
Зноў вясна... Яшчэ раз... Колькі ж іх прамінула,
колькі ж іх пражыла, ды ці шмат іх адчула
я няўважнай, нясталай душой?
Ці ж падумала я, што жыццё уцякае,
што чагось ад мяне спадзяецца, чакае,
і нічога не зроблена мной...

«Кінь стаяць на жыцця узбярэжжы», —
кліча вырай у сінім бязмежжы.

Добра, птахі! Растаеце ў небе-прадонні,
я ж пайду напярэймы жыццю хоць сягоння
разам з сонцам, зямлёю, вясной,
разам з садам, што ў прадзіве ясных праменняў
сам у ясным, у белым стаіць захапленні,
пышнай цешыцца, весняй красой.
А над ім, быццам хвалі ўзбярэжжам,
мкне па выраі вырай бязмежжам.

*1927, Хэлмна*

## ІШЛА ВЯСНА

І пярловыя хмаркі вяночкі плялі
над паўсоннай імглістай прасторай зямлі,
і цалункі гарачыя сонцавых кос
з сініх-сініх празрыстых сплывалі нябёс,
і пралескі ўсміхаліся ў цені лагчын,
і ў мутной, але сіняй вадзе калаін
запаляліся сонцам мільёны агнёў, —
бо вясна йшла у руні палёў.
І дрыжэлі знаёмыя струны ў душы,
пазрываныя ў часе зімовай цішы,
і хацелася некуды йрвацца, ляцець,
і хацелася крылы птушыныя мець,
і хацелася свет абымаць, цалаваць,
і пяяць, і пяяць, і пяяць, і пяяць, —
бо йшчэ раз за маіх пералётных гадоў
ішла вясна ў зеляніне садоў!

*1928, Хэлмна*

## НА ПАРОЗЕ

На парозе ночы затрымаўся дзень,
дзень ціхі, зімовы, спавіты ў ліловы
далікатны сцень...
І хоць вабіць неба фарбай залатою,
і хоць ззяюць хмары ружавым агнём, —

цяжка развітацца з сонечным святлом,
цяжка спавівацца ночы туманом...
Бо здаецца сонца дарагім бясконца,
бо жыццё здаецца проста без цаны,
і жудой халоднай у чужой староңцы
выдаюцца чорнай ночы туманы...
Гэтак перад смерцяй сэрца замірае
пры адзінай думцы, што ідзе... туды,
хоць само ірвецца ў край, што сном завецца,
хоць смуціцца, б'ецца,
каб як адляцецца
ад нягод, пакутаў, ад важкой нуды,
адляцець... туды.

*1928, Хэлмна*

## ПЕРШЫ СНЕГ

Сяння раніца й сонца ўставалі
у вянку з каляровых агнёў
і карункамі йльдзянымі ззялі
залатыя галіны кляноў.
Нетутэйшыя, дзіўныя краскі
загараліся ў шыбах вакон...
Было ранне — старонкаю з казкі,
было ранне, як казачны сон.
А пасля... неба згасла... сцямнела...
вецер голлем сухім зашасцеў,
з шэрай вышы, і чысты і белы,
снег густы паляцеў, паляцеў.
Ён паблытаў дзіўныя узоры
у галлі разварушаных дрэў,
ён маркотныя ніваў разоры
снежна-белай плёнкай адзеў,
сыпкіх гурбаў намёў, перайначыў
свет, хаду нашых чынаў і дзён.
Згасіў зоры й агні, каб зазначыць,
што ўсё ж доля — не казка й не сон.

*1928, Хэлмна*

## ТУГА

Лёгка-замглёныя восені далі
ў ясна-зялёным блакіце стаялі.
Гаснучы, сыпаўся дзень пазалотай
з неба на тонкіх бяроз пераплёты.
Чырваняй кволай старой акварэлі
клёны й асіны у лесе гарэлі.
Дзень дапаліўся, і цемра нядбала
ў шэрасці фарбы жывыя схавала.
Лес у густым, мутнаватым тумане
ў змрок адышоўся, як шэрае зданне...
Цёмна... Бярозы нябачна у полі
сыплюць асеннія слёзы паволі.
Ўслухайся ў плач іх, жаллівы без меры.
Ці разумееш у плачы тым шэрым,
што яшчэ нехта у вечар туманны
тужыць усупал з табой па нязнаным?

*1930, Хэлмна*

## ЧАСТА ЎВЕЧАРЫ

Часта ўвечары, так, напрадвесні,
калі гасне заход, перад ночай,
гэтак хочацца выліцца песняй,
а так мучыць пачуцце нямочы!
Усе словы здаюцца малымі,
ўсе — не тымі, што выцвісці хочуць,
бо ніяк не параджу я з імі,
што здалёк і смяюцца й сакочуць.
Словы — ветры на крылах птушыных,
словы — зоры са шляху сусветаў,
словы — перлы з нязнаных глыбіняў,
словы — будзьце слухмяны паэту!
Слова — музыка першых грымотаў,
слова — павадка яблынь вясновых,
слова — думкі нястрымнай узлёты,
слова — будзь жа паэту слухмяным!
З цябе вытку пояс шматкалёрны,

каб агнём у ім ніткі гарэлі,
упляту ў яго ззянні ды зоры,
раззваню скрозь жаўронкавай трэляй,
аджыўлю ў табе зыркасць зарніцаў
і шум-шэлях расістага жыта,
ўспомню ўсё, што забытым маніцца,
ўспомню ўсё, што даўно пераджыта.
Не ўцякай жа нябёснай пуцінай,
не хавайся ў далéчах нязнаных...
Слова — вецер на крылах птушыных,
слова, будзь жа мне, будзь паслухмяным!

*1930, Хэлмна*

## ТАЕ ВЕЧАР

Тае вечар, пачаты на росных лугох.
Ціша... ціша...
З даляў выліўся вецер, пайшоў па кустох,
ледзь калыша...
Смакам свежым паветра густое абмыў,
пахам бору,
закруціўся і ў цёмную далеч адплыў,
недзе ў зоры.
Зорам цесна у небе, як нам на зямлі,
ймглой трымцівай
ноч абсыпалі, снегам ляглі на галлі
йгруш над нівай...
Белы пыл, як туман серабраны, залёг
нізам, вышай...
Стаяў вечар, пачаты на росных лугох,
ціша... ціша...

*1932, Хэлмна*

## ВЯЧОРНАЯ МІСТЭРЫЯ

Сплёў вечар вянок прамяністы
з шыпшыны і макаў чырвоных,

у небе павесіў прачыстым,
на ясных нябёсных загонах...
А сонцу вянок спадабаўся,
у чырвані сонцу да твару...
Так — захад у фарбы прыбраўся,
так вечар заняўся пажарам.
Усё, што такім было знаным,
адразу зрабілася дзівам:
настольнікам, золатам тканым,
пасланіся жытнія нівы,
агнём загарэліся стрэхі,
сады і вяршаліны бору,
і густа праз хмараў узрэхі
сыпнулі, як зерняты, зоры.
Бярозаў зялёныя рукі
застыглі, бы ў часе малітвы,
прачнуліся ночныя гукі,
нячутыя ў дзень працавіты,
затросся лазняк з пераляку,
пачуўшы крок чорнае ночы...
І росамі вецер заплакаў,
у змроку хаваючы вочы...

*1932, Хэлмна*

## ПАРАЛЕЛЬ

Ціхі вечар, маркотны, ласкавы,
так паволі, паволі зышоў,
і зліліся у змрочнасці лавы
пад прысадай густых каштаноў.
Заляглі цёмна-сінія сцені
у завулках, у цёмных кутох,
дзе міргаюць і гаснуць праменні
у разбітых мутных ліхтарох.
Ноч абмыла пяшчотаю парнай
камяніцы і вочы вакон,
і прарваўся з блізкое кавярні
неспакойнае музыкі тон...
Гаручковая смеласць размовы,

недарэчны адрывісты смех,
голад шчасця, спрадвечны а новы,
ўсцяж жывое жаданне уцех
пад прысадамі змрочнымі лавы,
дзе купляюць на ноч пачуццё, —
гэта места спрадвечнае права,
гэта места старога жыццё...

А далёка, далёка, далёка
сніць аб лепшым вячорны прастор...
Там жыты падняліся высока,
звоніць рэзвых казёлчыкаў хор,
там туман сіняватай сцяною
спавівае ужо сенажаць,
там так ветла над соннай зямлёю
тоняй сіняю зоры дрыжаць,
там паволі, маркотна, ласкава
спавівае ноч нівы й палі...

Там, не тут, там спрадвечнае права,
праўда вечная маці-зямлі.

*1932, Хэлмна*

## ЗІМОВАЯ НОЧ

Загарэліся зоры агнямі
на палотнах нябеленых хмар.
Дзесь высока, высока над намі
поўнач б’е невядомы званар.
Змрок зімовы калышацца нізка
па лагчынах, сівых хвайніках, —
ткаць нам дзіўную казку ўзяліся
ноч
і ціша,
і месяц — утрох.
Туманамі, што таюць, ірвуцца,
усплываюць над здані хваін,
мост з праменняў плятуць, каб даткнуцца
ў небе вытканых зорных тканін.

А каб сум па нябёсных прасторах
кажны й тут супакоіць бы мог, —
запаляюць мільённыя зоры
у прадонных зімовых снягох...

*1932*

## ЗАВЕЯ

У нясмелай, замлелай цішы
ўстаў туманны, нявeтлы ранак,
ціха вецер галлё калыша,
недзе плачуць званочкі санак,
нізка, нізка сівыя хмары
над зямлёю ціхой клубяцца...
Ціша...
раптам — віхор ударыў,
стаў заводзіць, гусці, смяяцца.
А з віхурай прыйшла завея,
ўсё змяшала,
змяла,
парвала,
разгайдала галлё ў алеях,
паблытала...
«Месца, месца,
волі, волі!»
Мкне у месце,
мкне у полі,
беліць вочы белай беляй
гнеўна-спеўная завея,
б'ецца,
ўецца,
скача,
плача,
сыпкім снегам сее, вее,
не лякаецца няўдачаў
гнеўна-спеўная завея!

*1933, Хэлмна*

## НОВАЯ ЗІМА

У абыймах дзіўнога спакою
спіць палёў неабсяжны прастор...
Зноў на шыбах мастацкай рукою
тчэ зіма далікатны узор.
Зноў сінее зімовая далеч,
зноў зяленяцца змрокі, як лёд,
і гарыць пурпуровай эмаляй
нежывы і халодны заход...
А нядаўна, здаецца, учора,
на блакітных палотнах нябёс
ткалі шоўкам зялёным узоры
маладыя галіны бяроз,
пахла мёднай ліпой у паветры,
дыхаў пешчай гарачаю змрок,
і змяталі вячорныя ветры
пыл з распаленых сонцам дарог...
Так нядаўна, учора, здаецца,
хоць мяцеліца сяння мяце
і на сэрца жывое кладзецца
пыл лядзяны гусцей а гусцей.

*1933, Хэлмна*

## ЦІША

Ціха... Між клёнаў бязлістых
туліцца змрок надвячорны.
Месяц сцюдзёны і чысты
выплыў у небе прасторным.
Сцішаны спевам мяцеліц,
дзень дапаліўся вятраны,
сінімі робяцца белі
даляў чужых і нязнаных.
Сумна... дадзела праменнасць
зыркіх зімовых заходаў.
Хочацца нейкай адмены,
непеpажытых прыгодаў.
Хочацца летніх палудняў,

палкасці й золата ніваў,
звону чмялёў — перагудаў,
смелых, гарачых парываў...
Дзе ж там!
Між клёнаў бязлістых
дзень дапаліўся зімовы.
Месяц сцюдзёны і чысты
выплыў у небе ліловым...

*1933, Хэлмна*

## ВЕЧАР

Вецер вячорны на клёнах
шпарка праймкнуўся... і згінуў,
кінуўшы ўслед палатніну
пахаў зялёных.
Дзесь па кутох між дамамі
сцень сіняваты гусцее...
Гасіць калёраў завею
вечар над намі...
Ў цемры жывой і гарачай
ззяюць дзе-недзе ліхтарні.
Сонна ў далёкай кавярні
музыка плача...
Ломяцца ў змроку вясняным
дзіўна-маркотныя гукі.
Выцягнуў шэрыя рукі
вечар над намі...

*1933*

## ВЯЧОРНАЯ ЧАСІНА

Дрыжаць над вадою вячорныя сцені
дзіўною, няўхопнай, бадай, чарадой,
і моўчкі хінуцца старыя вярбіны
ў бясслоўнай малітве вячорнай часіны,
часіны натхнення — над соннай вадой.

А захад згарае у зменных адценнях
прадзіўнае фарбы шыпшынна-жывой,
і пылам ружовым здаюцца аблокі,
што таюць бязмежнай, бязмернай, далёкай —
як цяг пакаленняў — нябёс пуцінай.
Так ціха... Не, штосьці дрыжыць і спявае,
спявае наўкола, ўгары, над зямлёй...
Мо рэчныя хвалі шасцяць у вярбінах,
мо конікаў песня звініць несупынна,
мо вецер гуляе з вярбінкай малой?
І рэчныя хвалі пяюць малітвенна,
і конікі звоняць нямоўкна мяжой,
і вецер шасціць у галінах вярбінаў, —
ці ж дзіва, што чар перадночнай часіны
расцвіў палыменна ўва мне й нада мной?

*1933, Хэлмна*

## НОЧ

Згас у хмарах заход прамяністы,
і ўзняла ноч паволі павекі,
варажыць узялася ўрачыста,
уваходзячы ў бору засекі:
«Ад бяссонных пакутаў распачы,
і ад вусцішы чорнай паўночнай,
ад спякоты гарачага плачу,
ад паглядаў нядобрых, урочных,
ад сноў-мараў, што могуць прысніцца,
ад злых думак, гаркіх а зрадлівых, —
я краплю бор халоднай расіцай.
Адгані сум, лес-бор шапятлівы,
неківайце, калматыя хвоі,
чорнай пражаю тонкіх галінаў:
белы месяц усходзіць вышою,
заглядае у змрочнасць лагчынаў,
і туман ручнікам белатканым
ужо сцелецца нізка і роўна...
Не шасцеце ж аб страхах нязнаных,
незгаданых, як доля, бясслоўных».

Шэпча ноч і кідае расою,
навакола кідае ўрачыста...

Там, высока, за хмар паласою,
згас, датлеўшы, заход прамяністы.

*1933, Хэлмна*

## ХАЦЕННІ

Як калоссе ў жытняй ніве,
цягне дух мяне ўгару.
Тут — нічога больш не дзівіць,
тут — нічога не збяру.
Нежывой, зімовай ночай
сніцца мне ліпнёвы змрок,
а ўвясну — пляла б ахвоча
я ўжо восеньскі вянок.
Цемрывою, бездарожжам
аднаго пайшла б шукаць:
што ніколі мець няможна,
што ніхто не можа даць!

*1933, Хэлмна*

## ПРЫВІДЫ

Апусцілі бярозы зялёныя рукі ў распачы,
больш не хочуць расці, зелянець, ані гутарак весці,
шэры змрок над зямлёю паўзе, ноч і цемру сцюдзёную весціць,
ледзь калматы лазняк варушыцца ў лагчыне ды дзесьці
здань-сава глуха плача...
А ноч чорнае кола сціскае наўкола, сціскае,
ўсе бліжэй і шчытней, аж зацісне, задушыць, здаецца.
Цішыня уздыхае цішком, а мо кпліва смяецца.
Сэрца б'ецца трывожнай бяскрылаю птушкай у клетцы,
ў чорнай ночы ратунку шукае...
Не, парвецеся струны гудлівыя — начныя гукі,
расступіся, калматая ноч, і пусці маё сэрца на волю,
да жыцця, да святла, да натхнення, да шчасця без болю!

Срэбнай стужкай туман-пустацвет знік, растаяў у полі
і ўгару узнімаюць бярозы зялёныя рукі...

*1933, Хэлмна*

## ВЯСЁЛКА

Лягла вясёлка мастом трымцівым,
мастом, сатканым з калёраў кволых,
ад мокрых сцежак, ад росных ніваў
у бор сасонны, сівы й вясёлы.
Красою чыстай ты цешыш вочы,
красой нясталаю, як доля...
Чаго ж прыйшла ты, чаго ты хочаш,
чаго ўзрунела, вясёлка, ў полі?
Пацешыць хочаш нязвычнай казкай,
узняць з нізінаў у вышу вока?
Гарыць вясёлка нянаскай краскай,
мастом трымцівым лягла высока.
Мастом тым здані да нас зыходзяць
з паднебнай вышы, з нязнаных даляў,
вясняным чарам нас надзяць, зводзяць,
калышуць спеўным напевам хваляў...
З краіны дзіўнай маны й надзеі
і сны сплываюць па ім, няйначай.
Шчаслівы ж той, хто сніць умее,
шчаслівы той, хто іх пабачыць!

*1933, Хэлмна*

## У ЗАДУШКІ[1]

У вогкім ад дажджоў паветры,
паміж крыжоў — туманных зданняў —
міргаюць свечкі жоўтым ззяннем
на хваравіта-ўпартым ветры.

Няма ўжо вас... Вы там, няўрокам,
дзе свецяць зоры серабрана,

дзе чарнатканыя туманы
хаваюць дзень... Вы дзесь далёка...

Нядаўна й тут вясна нясмела
цвіла, дымела срэбрам далеч,
і над крыжамі красавалі
каліны пышна, пахка, бела...

Нядаўна й тут звінела лета
ў гарачы поўдзень гудам пчолаў,
і пахла мёдным пахам зёлаў
з магілаў, косамі прыгрэтых...

А сяння вось, з упартым ветрам,
стаіць асенні змрок над вамі,
і плача вецер над крыжамі
у вогкім ад дажджу паветры.

Няма і вас... Дзе вы? Ў нязнаным...
Ці лепей вам, ці там мо горай,
вы нам не скажаце, й з пакорай
прымаем вашае маўчанне.

Гады ці дні — й над намі ласка
жывых, трымцець тут будуць свечы,
ды вецер на крыжох нявечыць
зноў будзе,
нашыя ўжо,
краскі.

*1934, Хэлмна*

## ВОСЕНЬ

Восень выходзіць у поле
ў белым вянку з павучыння,
восень на ўзмежку, паволі
з цяжкай пасажнае скрыні
цягне сувоі туманаў,
тканых на дне балацяных,
голых,
бязлістых лагчынаў.

Гінуць у шэрасці далі,
гаснуць у шэрасці гукі...
Йгрушы на межах распялі
цёмна-пальчастыя рукі...
Цяжка над ржавым іржышчам
стогне,
заводзіць і свішча
вецер, адданы на мукі.

*1935, Хэлмна*

## МЕСТА

Над местам у полымі белым
жалезнае рэха стаіць
і цягне бясконца, дадзела
цягуча-пявучую ніць...
Мы топчам рытмічна і гулка
асфальты, нас гоніць паспех,
пад намі каменне завулкаў
зігзагамі значыць свой бег.
Над намі — бетонаў штодзённасць
і шэрасць панурая сцен,
над намі нябёсаў зялёнасць
парэзалі сеткі антэн,
мы слухаем воўчыя песні
сірэнаў і гоманы крам,
дзе скрозь запаляецца й чэзне
здзічэлая чырвань рэклам,
мы дыхаем горкай бензінай,
муроў абмінаем рады
ды ймкнём наўздагон і гадзінам
і дням, невядома куды
бяжым... і у смазе пякучай,
што гоніць цікаўных нас жыць,
не бачым, што ніткай бліскучай
вясна у паветры дрыжыць,
не бачым, што гнуткія лозы
ўжо срэбны размотваюць пух,

што дзесь, па-за нашаю прозай, —
праўдзівая радасць і рух!

*1935*

## ЗІМОЮ

Пастрасалі, разнеслі ўначы ветругі
нежывое, пажоўклае лісце бярэзін.
Шкляным пылам іскрыцца мароз на галлі,
беліць далі густыя і мутныя снежань.
Па іржавых паўтонах асенніх гадзін —
навакола паўсонная белая пустка
ды над гойстрымі вежамі цёмных хваін
шэра-сініх нябёсаў зімовая хустка.
Што зіма — пазнаю не па белі галля,
а па тым, што ў душы маёй мова маўчання:
першы снег, ранні змрок дакучаюць, баляць,
кажны крок паўз жыццё — запыняюць і ганяць.
Не люблю я, не ўмею падкаджваць зіме,
красавацца на шыбах зімовай шыпшынай,
покуль холад зімовы дарэшты задзьме
мае думкі й парывы апошнія спыніць.
І жыву я ўзіму толькі тым, што было:
йду між пальцамі золата восені сыпаць
ды ў дадзелым маўчанні галля без лістоў
слухаць шуму пажоўклых кастрычніцкіх ліпаў.

*1935*

## ЗОРЫ

У лагох, налітых туманамі,
белым статкам пасуцца таполі.
З цёмна-сініх глыбіняў над намі
ноч зыходзіць спакойна, паволі.
Ззяюць зоры, міргаюць вачыма,
узнімаюць густыя расніцы,
быццам сочаць і пільна й няспынна,

што за сон нам сягоння прысніцца...
Калі ўгледзецца ў зорныя светы
простым, людскім прыгашаным зрокам,
мала быць расспяваным паэтам,
нават мала — натхнёным прарокам.
Хто ж бо ўцісне у словы пустыя
чар нябёсаў, адвечны і сталы?
І метафар на свеце замала,
і ўсе рыфмы здаюцца не тыя,
і не праўдзяць ні формы, ні меры,
рытм найлепшы — здаецца ніякім, —
можна толькі ў захопленні верыць
ясным зорам з глыбінь задыяка.

*1935, Хэлмна*

## ЧАСІНЫ ТВОРЧАСЦІ

Растуць у лесе вершы ўвечары...
Разлёгся лес імхамі, плесняю.
Іду сцяжынкай непрыкмечанай
і цешу сэрца новай песняю.
Нялёгка йсці праз нетры слоўныя,
якія йлгуць, тварыць нязнанае
і рытмы уздзіраць дзірванныя,
шукаць метафары разменнае
у думках — жоўтых пыльных хронікаў
і ў словы выліваць штодзённыя
глухія гутаркі сасоннікаў...
А ўсё ж люблю тварыць я ўвечары!
Цямнее лес сцяною точанай...
Іду сцяжынкай непрыкмечанай
па ймхох, расой вячорнай змочаных.
Туман кладзецца між хваінамі,
трасуць асіны пазалотаю,
і цягне вільгаццяй лагчыннаю,
вадой стаячай і чаротамі...
Ўнізе́, смалой налíты чорнаю,
ляжыць ставок, затканы плесняю.
Іду, ў ваду гляджу узорную

і цешу сэрца
новай песняю!

*1935, Равіч*[1]

## МЕСЯЦ

Месяц мокры і срэбны вылазіць з балота...
Расхінаючы гушчу пасохлых чаротаў,
па-над чорнай вадою, бліскучы й харошы,
лічыць золата жоўтае, золата грошай,
і кідае мядзяную рэшту нядбала
у слізкую ваду, дзе ўжо скарбаў ці мала.

За балотам, за шляхам, пад цёмнай сярмяжкай
горад дыхае хрыпла, задышліва, важка...
У вечным грукаце, скрыгаце й стогне каменным
лічыць грошы ці грошы шукае нязменна,
а бліскучую рэшту, зусім бестурботна,
гэтаксама шпурляе ў слізкое балота...

*1935*

## АСЕННІ ВЕЧАР

Чырвоны бляск асенні захад
праз рэдкі кужаль хмараў цэдзіць,
густы сасоннік крые бляхай
з рудава-жоўтай чыстай медзі.
Чырвона й сіне ў соснах гонных,
на ймхі кладуцца пасмай сцені,
і пах гаркі, лясны, сасонны
ўстае з зямлі, як сон асенні.
Яшчэ часіна — і з гушчараў
маўчком, нячутна выйдзе цемра,
ўнізé, паміж камлёў няздарных,
клубком разблытаецца шэрым,
павісне зрэб’ем нечасаным
над лесам сцішаным, над намі...
О, ноч, жывога дня нірвана,

прыйдзі
й суціш, суціш нас снамі!

*1936, Равіч*

## АСЕННЯЯ ЭЛЕГІЯ

Дзень устаў яснай цішай
над сцішаным полем асеннім,
усміхнуўся пажоўклым асінам
праз сіні настылы туман,
растапіў асцярожна
ў барознах залеглыя сцені,
а тады...
зашумеў у лазе,
балазе загулялы цыган.
Закруцілася слупам рыжавым
іржавае лісце ігрушаў,
загула разнаструнна
над руняй іглістай імгла,
ўсё ён, дзень,
у палёх пагартаў,
расцягаў, разварушыў,
пахам восеньскім, моцным,
урочным упіўся, відаць.
На пажоўклыя дрэвы
з напевам хрыплівым зваліўся,
пакрышыў, пераблытаў
пабітыя пальцы сукоў,
а пасля...
уздыхнуў і уміг
перасціх, занямеў, засмуціўся,
лёг на ўзмежку нязручна
ў анучах зрудзелых лістоў...
Так і ў нас
перасціхнуць калісьці,
як лісце, парывы, змаганні,
прамінуць усе праўды,
папраўдзе парвуцца, як ніць,
азірнёмся назад

на бязладныя сцені,
хаценні, жаданні,
ляжам з восеняй слёзнай
ў барознах слізкіх
супачыць...

*1936, Равіч*

## ПРЫЗАБЫТАЕ

Ад палёў паўзе холад восені.
Над рудым жніўём, над пракосамі
ймгла звіваецца.
Ў сон зямлі сырой, цяжкі, зморany,
сыпле дробны дождж зярнё спорнае,
увіхаецца...
Час праз пальцы йдзе ніткай шэраю,
ніткай шэраю яго й мераю,
йрву ды блытаю.
А здалёк, з павучыння няпамяці,
устае, каб ізноў мяне раніць, —
прызабытае...

*1936, Равіч*

## ФЕСТЫВАЛЬ

Слата... Асенняе змярканне
глядзіць вачмі сляпымі ў змрок,
дзе парудзелым мокрым зданнем
плывуць бярозы праз пясок.
Плывуць і белымі рукамі
ірвуць густы, густы туман,
а над слатой, над туманамі
нябёс палатаны рызман...
Бязлюднай пушчай выдаюцца
нябёсы, сінія даўней,
у сценях восеньскіх, у пустцы
штораз пусцей, штораз цямней.

І толькі рад бярозаў нема
з вачэй сляпых страсае жаль...

Спраўляюць восень, ноч і цемра
глухі, распачны фестываль.

*1936, Равіч*

## ВОСЕНЬ У ГАІ

Ціха восень да ймшы пахавальнай
жаўтатканы дыван рассцілае
на дне ціхай, вільготнай лагчыны.
Ціха восень да ймшы пахавальнай
паліць жоўтыя свечкі у гаі —
ўсё бярозкі малыя, асіны...
Сіняй хваляй клубяцца туманы
і правідным, пахучым кадзілам
спавіваюць пажоўклыя дрэвы...
Сумнай песняй, няўхопнай а знанай,
песняй-жальбай забытых магілаў
лес заводзіць, пануры, зжаўцелы...
А у тон яму вецер высока
штось шапоча ў бязлістых каронах,
мо літанні да яснага сонца,
мо малітвы да сіняў глыбокіх,
да вясняных жывых перазвонаў
ў неабсяжнай нябёснай старонцы...

*1936, Равіч*

## КАЛІ СКОНЧЫЦЦА ДЗЕНЬ

Толькі ўночы жыву я душою узлётнай,
аб якой гэтак часта не помню зусім,
і зайздросціць магла б тады качкам дзікім,
што ўзнімаюцца з крыкам над сонным балотам
рухам вольным і дзіўна мяккім.
Я ляцела б за імі над пасмай зялёнай
шэрым крыллем касіць парудзелы чарот,

я пазбыцца хацела б клапотаў, нягод,
як той дзень, што ў прадонныя, зорныя тоні
адплывае над плесняй балот.
Але тое, што збуджана, сцішыць няможна
супраць волі, а сэрца начамі гарыць
супраць волі, ўсё лёгкім здаецца згары,
хай у цесным жыцці, як за кратай астрожнай,
так няўдзячна, так цяжка тварыць!

*1936, Равіч*

## ВЯЧОРНЫ АБРАЗОК

Вятраны змрок... Старыя вербы
над рэчкай пранікамі пяраць
па шэрай воднай палатніне.
Ўгары, праз хмараў рэдкіх шчэрбы,
зіркае месяц круглатвары,
зялёна-сіні.
Зіркае ў цемру, што лагчынай
паўзе і вільгацяю свежай
дубцы лазы надрэчнай мочыць.
А вецер трэпле балачыны
ўгары раскіданай адзежы
і ў ноч валочыць...

*1936, Равіч*

## НОЧНЫЯ ГАДЗІНЫ

Ліжа страх нежывое аржонне
і хінецца да межаў рызманых.
Сенажаць балацяная тоне
ў фасфарычна-зялёным тумане.
Ледзь кульгаюць самотнай дарогай
здані бурыя — вольхі старыя.
Пуста, вусцішна й глуха...
Нічога,
зараз цемра ўсё чыста пакрые.

Ноч расцягне паўцені на межах,
пачарніць фасфарычныя хмары,
вецер песняй глухою, начлежнай
разварушыць альшэўнік няздарны,
пойдуць вольхі самотнай дарогай,
а над шляхам іх цёмным, нізінным
белы месяц бліскучым нарогам
ноч парэжа на скібы-гадзіны...
Паплывуць яны, ночы гадзіны,
недзе ў цемру бязмэтнай штафетай[1].
Не стрымаеш, не вернеш, не спыніш
іх — нязнаныя дзеці сусветаў...

*1936, Равіч*

## ВУГОРСКІЯ СКРЫПКІ

Да шыбаў ноч ільгне вільготнай жоўтай мглою,
ў жмутох лісця чагось шукае шамятліва
і, не знайшоўшы, дзьме ў каштаны песняй злою,
плюе на плямы шыб дажджом — сліною шклівай...

Пад столяй радыё гудзе, як рой, музыкай,
дрыжыць на шкле вакон, як звонку дождж і восень,
вугорскіх скрыпак плач, зыркі, гарачы, дзікі.
Так пуштай залатой імкнецца навальніца,
так рэжуць шэрасць хмар ліпнёвыя грымоты
й зялёны шумны дождж прадзе ў паветры ніці,
а скрыпкі — ўсё пяюць гарачай, шчырай нотай...
Высокі, светлы тон пярэчыць дню пустому,
вядзе мяне з жыцця па залатым праменні,
і плача, хай праз смех, і мкнецца строма, строма,
змяніўшы ноч і дождж у сонца зігаценне!

*1936*

## АСЕННЯЮ ЦІШАЙ

Над мутнай вадой каляінаў,
над бураю гонтаю дахаў
у страху
калматыя елкі
з імглістага футра галінаў
выцягваюць сінія пальцы
у цёмнае неба...
У кацелкі
там зоры гуляюць, як мальцы:
блісне, загарыцца, сарвецца,
пакоціцца зорка —
і згіне.
Здаецца, на мокрай галіне
завісне, згарыць, расплывецца.
І ўзноў супакой, і сіне
і зорна
у небе прасторным,
як можа быць толькі у вышы
асенняю цішай.

***1936, Равіч***

## ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСНЯ

Дзень пусты і крыклівы прылёг цішынёю на межах.
Трэскі смольныя вечар у хмарах сівых запаліў.
І над жоўтым натоўпам асін у рызманнай асенняй адзежы
горкі дым смалякоў туманамі паплыў і паплыў.

Гэтак ціха й чароўна-прыгожа ўсё ў белых абыймах туманаў...
Дзіўным, казачным морам пад ногі плыве сенажаць...
Скуль бяруць вечары гэткі змрок, і густы й серабраны,
і ці можна у словах іх чар невыслоўны аддаць?

Але прыйдзе мой дзень, і знайду я патрэбныя словы,
тыя словы, якія цяпер не пачую ніколі й нідзе,
буду ўмець і чмялямі гусці ў раззалочаным цвеце ліповым
і шаўковай шасцець асакой на зялёнай, зацвілай вадзе.

4 Зак. 634

Усё па праўдзе скажу я тады, для сябе не пакіну нічога,
ўсе памылкі, ўсе ўзлёты злічу і расою рассыплю ў лагох.
Доўг жыццю заплачу, рэшту з добрага, рэшту з благога,
паспрабую аддаць яму, хай не злічу ці не ўспомню ўсяго.

Раскажу аб мяцеліцах ночных, няспаных да рання гадзінах,
супакоі асенніх змярканняў у яснасці сплаканых зор...
А ўсе словы у песню злучу я прыпевам нязнаным, адзіным,
а ўсе песні — ў адзін, шчэ не чуты, магутны акорд!

Зашумяць, запяюць у акордзе мядзяныя хвалі калосся,
пахінуцца зялёнай сцяной, загалосяць вяршаліны дрэў,
туманамі заплача над жоўтымі пожнямі восень.
Лебядзінаю песняю людзі ахрысцяць мой спеў!

***1936, Равіч***

## НАПРАДВЕСНІ

Шэры дзень пазірае ў акно
шэры дзень, як той пух на вярбіне.
Пуста, сіне
й туманна ў палёх навакол.
Ручаінамі звоняць равы
пад лазою, налітаю сокам.
Гэт, высока
ў даль сівую плывуць журавы.
І хоць снег яшчэ ў лесе ляжыць,
хоць з-за хмар льецца жаўранка песня,
ўжо прадвесне,
і так хочацца цешыцца й жыць!

***1936***

## НОЧ

Ад зораў — аж бела.
З паднебнай раллі
ноч пільна, ноч смела
глядзіць у палі.

Лілова й зялёна
дыміць сенажаць,
дзе мокрым пласконнем
туманы ляжаць.
Разбуджаны месяц
павіс на галлі,
і пальцы, ўсе дзесяць,
камлі абнялі
так моцна, так шчыльна,
што сцішаны ўздых
скаціўся у шыльнік
з хваін маладых,
парваў, расцярушыў
бель месячных кос
і, ўзноў непарушны,
прыльгнуў да палос...
Боль, горычы, наўды
зляцелі дзесь проч.
Ілгуць усе праўды, —
адна праўда — ноч!

*1936, Равіч*

## АХРЫСЦІЎ МЯНЕ НЕХТА Ў ЗЯЛЁНАЙ ДУБРОВЕ

Не ў царкоўцы малітвай, святою вадой —
ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.
Як паганін,
я пушчы пяю залатой,
разумею палёў васільковых размовы.
Да мяне
не з імглой, не з мутой ручаін
надыходзіць вясна і не снегам счарнелым, —
мне смяецца яна жоўтым пухам вярбін,
срэбным звонам жаўронка ў палёх зарунелых.
Не спякотаю й лета мне дыхае ў твар,
не вятрамі красу абівае з чарэсняў, —
каласістая ніва —
адвечны пясняр —
залатыя, гарачыя спеліць мне песні.

Восень зноў
не залой, не сцюдзёным дажджом,
не тугою цягучай душу маю раніць, —
мне яна павучынне пляце над мяжой,
сном ціхім на сівое кладзецца аўсянне.
І зіма —
не марозамі страшыць мяне,
не сляпою мяцеліцай засціць мне вочы, —
над снягамі, на сінім нябёс палатне,
распаляе яна серабраныя ночы...
І заўсёды,
заўсёды паганскай жудой
маё сэрца сціскаецца ночай зімовай.

Не ў царкоўцы малітвай, святою вадой —
ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.

*1936, Равіч*

## ПАЭТ

Свет гарыць...
Патайком і адкрыта
б'юцца людзі... Не злічыш нязгод...
А над светам, маною спавітым,
восень жоўта цвіце, як штогод.
Ты, паэт,
хоць і бачыш пажары
дзесь здалёк, хоць і ты барацьбіт,
але, ўпіўшыся восені чарам,
лічыш вершаў разбуджаны рытм.
Сочыш сцень балачын над аўсяннем,
сінім змрокам малюеш палі...
Для цябе сяння
гнеў ці змаганне —
па-за межы жыцця адплылі.

*1936, Равіч*

## МАЛАДЫМ ПАЭТАМ

Вам дадзелі пакора, цярплівасць і Бог,
як старцы, вы па шчасце не цягнеце жмені.
Вершы вашыя пугамі б'юць па людзёх,
агнявымі маланкамі паляць сумленні.

Я б хацела гарэць і змагацца, як вы,
разам з вамі каваць так чаканае ранне,
але дні мае іншыя маюць правы:
сыпкім золатам ліпаў маняць і цыганяць.

Мае дні
над аржоннем цвітуць туманом
і плывуць серабраным удаль павучыннем,
і звіняць алавяным асеннім дажджом,
і ў лясох верасамі мядзянымі стынуць.

Нібы жоўтая восень,
стаю над жыццём
і гляджу на яго,
хоць навокал — змаганне.
мае вершы —
над сонным балотам трысцё,
ймгла сівая асенняга рання...

***1936, Равіч***

## ЗАМІЖ МЯНЕ

Я —
не жыву вясной...
Рунеюць сенажаці,
курэе сіні дым над кратамі палёў,
і за мяне
цвіце над шэрай пасмай гаці
празрысты, белы пух вярбін і тапалёў.
Я —
й летам не жыву,
бо за мяне сінеюць
у полі васількі й хінуцца каласы,

і жаляцца-пяюць на жоўтых пожнях жнеі,
маёй
зыркой тугой дрыжаць іх галасы.
А ўвосені узноў —
заміж мяне асіны
чырвоны гасяць жар у рэдкім тумане,
і плача дробны дождж так нудна, несупынна
па сонцы і вясне,
але...
заміж мяне.

*1936, Равіч*

## СЯГОННЯ

Мне кажуць, што пісаць заўсёды, ўсюды можна.
Папера, алавік, натхненне... верш гатоў.
Паэт, абы прысеў, а верш змайструе, зложыць
з радкоў, як з сена, ўміргг патрапіць скідаць стог.
Але пра што пісаць?
Прарокам быць па часе,
нізаць каралі рос, вянок асенні віць?
Пажарышчаў дзікіх мой верш і так не згасіць,
не змые з душ людскіх пурпуравай крыві.
Дапраўды, што пісаць і заўтра
і сягоння?
Трупоў не ўваскрасіш санетам аб вясне...
Сягоння кожны верш хаўтурным звонам звоніць,
найлепшай рыфмай рот галодны не заткнеш...
Пісаць аб салаўёх, аб снежнай белі вішняў?
Замоўклі салаўі пад медны рык гармат,
а белы вішняў снег таксама смешна лішні —
сталёвы, гойстры штых напіша вершаў шмат...
Няхай жа свет гарыць, хай плавіцца у горне
грымотных новых дзён, куецца, як нарог.
Нарэшце мо й паэт харэі, ямбы згорне
і зноў пачне пісаць, гуслярыць...
Быў бы Бог!

*1941, Менск*

## ПЯСНЯР

Трэба быць песняром і цяпер,
калі дзень наш —
із смерцяй братанне,
калі ночы, як ранены звер,
дзесь па норах залізваюць раны.
Не, паэт не матыль — у агні
па-матыллю апальваць крылы,
на пажарышчах плеснець і гніць
ён не будзе...
Паэт жа — асілак!
Ці ж не ён
з трапятання асін
укладае асеннія песні,
ўмее словам бліскучым скасіць
рунь увесну,
чар казачны здзейсніць?
З чаду,
з шэрага дыму руін,
з віску куляў, гарматных грымотаў
ён, падумаўшы, выплавіць гімн
гэткі ж жудасны, гэткі ж смяротны.
Загрыміць новы гімн, шугане
аж у неба крывавай пагоняй,
сэрцы чорнай дугою сагне...
Трэба ж быць песняром
і сягоння.

*1941, Менск*

## ПАЛЕГЛЫМ

Дзень гас цьмяным агнём прыкручанай газніцы...
Асенні ранні змрок папоўз, кладзецца ніцма
на бурае лісцё, на мох руды...
Глядзі —
бляшанай конаўкай, прыпаўшы да крыніцы,
сцюдзёную ваду п'е прагна маладзік.
Іду паволі ў змрок насустрач першым зорам...

Над пусткаю палёў атрад варонаў чорных
узняўся, завірыў...
Цяпер ім слаўна жыць!
Яшчэ часіна — й ноч у сетку цемры згорне
мяне і іх, і хвой зламаныя крыжы...
А ўсюды —
тут і там — не хвояў верхавіны,
не спаленыя пні — ваенным днём даніны —
запраўдныя крыжы растуць уздоўж дарог.
Пад крыжам, без крыжа, падцятаю галінай
на жорсткі, гойстры жвір спаць ці адзін прылёг...
Змяшалася з пяском чупрына маладая,
боль выпіў сінь вачэй і свежых вуснаў кроў.
Васковаю свячой над імі восень тае,
і сніць
адзін пра Рэйн, а іншы — пра Дняпро.
Не рупіць іх нішто... Жахлівыя змаганні,
магутны чар вайны, крывавыя світанні
больш не хвалююць іх...
Яны прайшлі свой шлях.
Але, йдучы на бой паўз лянішчы, аўсянні,
палеглых успамін нясуць сябры,
як сцяг.
Усцяж растуць крыжы пры ўзбураных дарогах.
За працу для сярпоў, за працу для нарогаў,
за шчасце й супакой няспынны бой ідзе.
Пахучай свечкай з воску залатога
канае
над палеглымі
асенні дзень...

*1941, Менск*

## ТАМ НА ПОЛІ

На куроснах селі на заходзе хмары,
ходзіць жоўты вецер, ходзіць па імшары,
знізвае на нітку кроплі журавін...
Пахадзіў бы, вецер, ты валей па полі,
назбіраў бы ягад сакавітых болей —
поўныя далоні людскае крыві...

Ой, кіпіць там праца, аж даешся дзіву!
Ўздоўж і ўшыр снарады барануюць ніву,
танкі прыбіваюць, баразняць — штыхі.
Ў пыл зямлі нясытай спраўна, спрытна, ўмела
сеюць, сеюць зерне — маладыя целы,
спадзяюцца плёну — каласоў важкіх.

Дробны дождж асенні ўсмак зямлю напоіць...
Прарастуць зярняты чорнаю тугою
на шырокім полі, у людской душы.
Не накормяць жытняй лустаю сіротаў,
не загояць ранаў лекамі, пяшчотай,
не патрапяць вочы матак асушыць....

На куроснах селі на заходзе хмары...
Распачаць,
жахацца,
наракаць,
пляткарыць —
не паэтаў справа, не пяснярскі тон.
Хай і рунь узыдзе, хай і плён даспее, —
будзем вершам латаць прорәзі падзеяў,
спатыкаць спакойна
кажны новы скон.

***1941, Менск***

## АСЕННІ ВЕЦЕР

Асенні вецер зноў гайсае
па жоўтым лянішчы палян.
Мятуць бярозы валасамі
нябёс запылены дыван.
Лісцё рабін, крушыны, бэзу
палае медзяй і агнём,
над свежым ворывам гарэзіць,
ваюе з ветрам вараннё.
І дзіўнай соладзяй кладзецца
зноў на душу асенні дым,
гарыць пявучым смуткам сэрца,
як плаўкім золатам — сады,

бо страсянула раннем сінім
з сябе я даўных спраў цяжар,
знайшла свой шлях... Іду з краінай
пад новы плён араць папар.
І хоць упарта, аднастойна
пляткарыць вецер у галлі,
няхай на сэрцы неспакойна, —
я веру ў лёс свае зямлі.

*1941, Менск*

## У СОНЕЧНЫ ДЗЕНЬ

Я зачэрпнула сягоння
жменю сонечных праменняў
і гуляла з імі доўга:
перасейвала ў далонях,
рассыпала на каленях,
зноў збірала, каб не стылі,
яны ж
пахлі хмельна, сонна,
сяння выбраным пласконнем,
і было так люба, міла
рассяваць іх жоўтым пылам.
Свет здаваўся сіні-сіні
і бязвінны, як калісьці.
Летуцелася, што з сэрцам я магла б,
нібы асіннік,
стрэсці жах штодзённай смерці,
скінуць жаль пажоўклым лісцем,
што магла б разблытаць шэрасць
нашых дзён, пачаць ад старту.
І яшчэ хоць раз даць веры,
што жыццё чагосьці варта!

*1941, Менск*

## ХОЦЬ УСЮДЫ РУІНЫ

Падыду незнарок да акна,
гляну —
            ўсюды руіны, руіны...
Дзень асенні з хмурын церушыць
дакучлівай сівою кастрой...
Што рабіць,
каб забыцца вайны на малую, малую хвіліну,
змусіць светлыя казкі пісаць
паслухмянае ўчора пяро?
Хіба досыць і жаху й тугі,
досыць слацца пад ногі каберцам,
замятаць валасамі зямлю,
сыпаць слёзы — рабінавы цвет.
У грудзёх маеш толькі адно
неспакойнае, людскае сэрца,
за ўвесь свет,
за ўсіх чыста,
за ўсё —
            не наплачацца нават паэт!
Пачакай...
перакоціцца гром,
праплыве навальніца ракою,
праліецца краплістым дажджом,
змые з чорнай, крывавай зямлі,
з чалавечай душы спаласне
ўсё малое, благое, дзікое,
закалыша, утуліць, спаўе
ўсё, што смуціць, трывожыць, баліць...
П'яна сонцам уп'юцца сады,
замяцеляцца снегам ружовым,
урачыста,
ўладарна, як гром,
загрымяць і заграюць бары.
Святкаваць будзем новыя дні
звонкай песняй і радасным словам,
на шырокіх, шырокіх палёх
                                    будзем
                                            новае шчасце спарыць.

Набліжаюцца ясныя дні з кажнай шэрай,
цяжкою гадзінай,
з кажным рэхам грымотных гармат,
з кажным крокам крывавых падзей.
Кіну ж,
рыну на вецер тугу,
хоць усюды руіны, руіны
і кастрою сівой церушыць
абыякавы
восеньскі дзень...

*1941, Менск*

## АСЕННЯЯ ДАРОГА

Золата, мосяж і медзь сонца дакоўвае раннем,
не раскуе толькі ймглы, што спавіла сенажаць...
Зноў напілася зямля соннага зелля туманаў
і у рудое рыззё лісту зарылася спаць.
Крокам, нага за нагу, цішу разблытваюць коні.
Зорная шрэнь апляла шыю, і грыву, й клубы.
Вецер у шкляным галлі мерзлых шыпшыннікаў звоніць.
Не адгукаецца даль, сытая жоўтай сяўбы...
Ціша асенняга дня, йржавая пустка наўкола...
Цяжка даць веры,
што свет душыць за горла вайна,
цяжка даць веры,
што ён аж захлынаецца болем,
чорнай гарачай крывёй,
мусіць цярпець і канаць!
Так,
разбадзялася смерць,
люба ёй зрэзваць калоссе,
ляскаць клыччом,
вылупляць ямы вачэй без павек.
Ды не скасіць ёй жыцця,
нат чалавека не скосіць, —
ён —
несмяротны, як свет.
Свет ёсць, дык ёсць чалавек!

А пакуль ёсць чалавек —
можна з крыві і руінаў
веліч ідэяў снаваць, найпрыгажэйшых за ўсё,
можна натхнёна гарэць за чалавецтва... і гінуць,
каб на руінах жыцця зноў красавала
жыццё!

*1941, Менск*

## ТОЛЬКІ ЎВЕСНУ

Толькі увесну бывае неба такое сіняе,
толькі увесну бывае далеч такая чыстая...
Кіну ж у неба, высака, гора маё палыннае,
слёзы зніжу на нітачку,
хай жа звіняць маністамі.
Смуткі мае між хмарамі згаснуць рудой пагараю...
У годы грымот, пажарышчаў, ў дні змагароў і волатаў
іншаю мерай мерыцца ўсё,
нашы сэрцы старыя
нанава лёс перакоўвае казачна-цяжкім молатам.
Горан палае зорамі... Зоры імкнуць каметамі,
свет на ляту падпальваюць, гасяць жыцці мільёнамі...
Дзе ж маім смуткам мерацца з плачам — тугою усветнаю?
Буду ж трываць, угледжвацца ў далі палёў зялёныя!

*Менск, 1941*

## НЕ ХОЧАЦЦА

Доўга на вуліцах ліпы жоўтае лісце лічылі,
а палічыўшы,
сыпнулі ў ледзьве прымерзлую гразь...
Неяк не хочацца словам зноўку развязваць крылле,
рыфмы ў далонях туліць,
сэрца тугою араць.
Так, бо пісаць і тужыць — сяння адно, сінанімы.
Кажнае слова баліць, колець іржавым цвіком,
з кажным знізаным радком зноў устаюць успаміны

ночных пажараў, трупоў, ледзьве прыкрытых пяском.
Хочацца бегчы, шукаць нейкія новыя словы,
словы, якія з жыцця ветрам гарачым змялі б
жоўтыя рукі крыжоў, шэрыя твары палонных,
целы, што гойдае ноч на шыбяніцах галін.
Дзе іх шукаць?
Ці ў душы,
ці — у заплаканых хатах,
ці мо ў лісці, што лягло ў ледзьве прымерзлую гразь?
Слоў гэткіх сяння няма...
Вось і не хочацца кратаць
рыфмамі чорныя дні, сэрца тугою араць...

*1941, Менск*

## СТАРЫ СЫМОН

Замялі бярозы жоўты шлях за сонцам
і сустрэлі шэра-серабраны змрок.
Блеючы́, авечкі праплылі ў прагонцы,
маладзік над лесам паляваць залёг.
У палёх, у вёсцы
скончылі работу:
празванілі звонка вёдры пра удой,
прарыпелі нешта пра сяўбу вароты,
папаўзлі кутамі ціша й супакой.
З ліхтаром і з кіем, з неразлучнай люлькай
на пярэклець моўчкі сеў стары Сымон.
Уздыхнуў... пачухаў грудзі пад кашуляй,
закурыў, каб лепей адагнаць той сон...
— Вось і маем змену...
Ці ж бы хто даў веры,
што на столькі дзіваў прыйдзецца глядзець?
Здзекамі, галечай дні і тыдні мераў
кажны ў іхнай вёсцы, век плаціў бядзе.
Вось і ён, Сымонка, — роўна сем дзесяткаў
калупаў сахою посную раллю.
Паарала гора твар, калісьці гладкі,
сотнямі баразнаў, сотнямі калюг...
Зжыў свой век дзядуля, як усім жылося, —

за цара, за веру біўся-ваяваў,
спіну гнуў, як гнуцца жытнія калоссі,
перажыў Кастрычнік, голад і развал...
Прычакаў калгасаў...
Большы сын у горад
ад калгаснай долі на завод уцёк.
Меншы —
хоць нічога не зрабіў благога,
у тайзе ссякае з хвоямі жыццё...
Сын сярэдні й тутка перажыў даволі,
учарнеў, знядужаў, высах без пары:
невясёла пырнік-лебяду на полі,
на калгаснай ніве гадаваць-спарыць.
Ссох і дзед памалу і адно ўжо думаў:
легчы на магільнік, у сыры пясок,
адпачыць ад крыўдаў, ад цяжараў, глуму,
ўнукам свой галодны адступіць кусок.
Ды іначай выйшла...
Загулі, запелі
цёплым сінім раннем галасы гармат,
галашэннем-плачам бабы да аселіц
выправілі ўзятых на вайну салдат.
Паплылі у вырай плоймы самалётаў,
ноч крывёй чырвонай хмары заліла,
папаўзло «начальства» па кустох, чаротах,
і ўздыхнула важка родная зямля...
Аджыла надзея... Яшчэ раз... Ці ўцэліць?
«Каб з які гадочак, — б'ецца ў галаве, —
паглядзець бы дзеду, ці з будзён дадзелых
хай крыху-ткі лепшы, а надыдзе век».
Ды дасі ж ты веры, каб штыхом ці куляй
хтось прынесці шчасце або й волю мог?
Дось крыві старому,
і зямля-матуля
не штыхоў чакае... Ёй карціць нарог.
Б'ецца ўсё-ткі сэрца... Хочацца й старому
загрудзі узяцца з лёсам злосным, жыць...
Вось каб толькі хлопцы ўсе прыйшлі дадому
ды пад сінім небам не раслі крыжы.
Устаў Сымон...
У неба ўзняў старыя вочы.

Воз з жамчужным дышлем коціць паміж зор,
Млечны Шлях бруіцца, ручаём балбоча,
сыпле пырскі-блескі на прыціхлы двор.
Аб халяву вытрас дзед паволі люльку,
пасмактаў, падумаў: ну і год жа, год!
І старэчых думак раскруціўшы шпульку,
пакульгаў паволі ў ночны свой абход.
Хай спрабуе ўночы падцікацца злодзей,
хай захоча вораг дзеда спадманіць, —
хоць дзесятак восьмы за сабой ён водзіць,
хай жыццём наложыць — будзе бараніць!
Голас мае гучны. Ўраз узднме гоман,
адгукнуцца рэхам сонныя палі...
Не, не падвядзе ён, як яму, старому,
долю роднай вёскі вартаваць далі.
Спіць яна глыбока ў серабраным сцені,
канапляным п'яна ўпіўшыся віном.
Можа, толькі недзе
маці на каленях
плача й ловіць рэха крокаў за вакном...
Ціхама падаўся дзед пад хлеў, да коней,
прашаптаў: «Што, косі, мо й жывы сынок?
Мо дахаты прыйдзе заўтра ці й сягоння?»
І рукой дрыжачай спрабаваў замок...
Падышоў пад свіран... абышоў навокал...
Шэры сцень кашэчы спудзіў на страсе...
Ціха ў свеце, ціха...
Ледзь чуваць здалёку
брэх сабачы й грукат колаў на шасе...
Пабялелі зоры... Воз жамчужны дышаль
павярнуў да ўсходу...
Высах Млечны Шлях...
Вецер з ніў па вольхах праляцеў і ціпту
раскалоў надвое
гутаркай галля.

*1941, Менск*

## НЕ ЗАПЛАЧУ БОЛЕЙ

Выпраўляў із голлем жоўты вецер гулі,
шамятліва поўзаў па страсе няўтульнай,
увайсці у сэрца ўсё-ткі не наважыў,
хоць за поўнач думкі, чорныя, як сажа,
я віла на шпулю разам з пражай.
Навівала, прала пачась[1] і кудзелю,
адляцела цемра з шыбаў запацелых,
перасціхлі мышы грызці ночы лішак,
залатою ніткай золак неба вышыў, —
прасці не дадзела мне у цішы...
Як насыпле сонца на вакно пшаніцы, —
калаўрот адстаўлю, выйду да крыніцы,
набяру ў дайніцу серабра густога,
уздыхну у неба шчыра, каб не торгаў
сэрцам жаль па любым ані ў хаце ніцай,
ні дарогай.
Праўда, цемнавокі мой Габрусь далёка,
эх, адсюль не згледзяць ні каршун, ні сокал,
праўда, рукі віснуць у тузе павесмам, —
але прычакаю зноў хлапца увесну,
як наллюцца лозы залацістым сокам,
сэрцу стане цесна.
Ён увойдзе ў хату, вымытую бела
сонцам і вясною, чубам замяцеліць,
крыкне: «Гэй, дзяўчына, годзе стыньма стынуць,
глянь, ужо ж благое за высокім тынам,
ужо кроў не пляміць ні душы, ні цела,
можна адпачынуць!
Чуеш?
        Спяць гарматы, смерць не ладзіць святаў,
і не йдзе па ночы роспач сэрцы кратаць,
шчасце — ява, праўда, не адно — надзея,
васільковай цішай Беларусь сінее,
пойдзем шчэрбы латаць,
долю сеяць!»
Сэрцу не параю, хоча верыць, знаю,
што мінецца ліха дзесь зялёным маем,
хай штоноч спраўляе сяння восень гулі
із асеннім ветрам на страсе няўтульнай

і кастрывай ніткай смутак навівае
мне на шпулю.
Не заплачу болей, хай журбота коле,
як іголкай, сэрца, хай туга скуголіць
пад вакном сабакам...
Што за радасць плакаць?
Перажыць патрапім мы й пяць бедаў з гакам,
але ўспыхне, ўспыхне
ўрэшце й наша доля
ў полі макам!

*1941*

## СПАРЫШЫ

Выйшла я серпам зубчатым
срэбра калосся крышыць.
Пахла дакучліва мятай,
я ў жыце знайшла спарышы.
Смехам сыпнулі сяброўкі:
«Ой, сцеражыся глядзі!»
Сноп я вязала, аж змоўклі,
моцна ж вязала, наўздзіў...
Што ж, каб Васіль тут на полі
зносіў за мною снапы, —
я не ўтуліла б ніколі
вачэй,
не баялася кпін.
Гэтак хацеў ён жаніцца,
так супакойваў мяне...
Усё панясла навальніца,
я ўсё адступіла
вайне.
Змёў, наляцеўшы на вёску,
хлопцаў вясковых віхор,
чырвань пажараў расплёскаў
усюды —
з зямлі аж да зор...
Жудасна, доўга дымілі
гэнымі днямі бары...

Сэрца трывогаю стыла...
Няхай яно лепей згарыць!
Хай спапяляцца на попел
сэрца і ўсё у жыцці!
Як прычакаць цябе, сокал,
сынка як табе нарадзіць?
Дзе успаміны закінуць?
Як тут прысыпаць пяском
ночы струмень цёмна-сіні,
сузор'і — луску акунькоў,
росную мяккасць пракосаў,
здушаны шургат галля,
дзяцельнік ссохлы у косах,
распалены шэпт Васіля?
Эх, Васілёк,
мой хлапчына,
з кім ты начуеш і дзе?
У пыле сыпкім каляінаў,
ў цвілым багавінні ў вадзе?
Выпіў ты ўжо
ці не выпіў
чарку да дна?
Не спяшы...
Пахнуць дакучліва ліпы.
Я ў жыце
знайшла спарышы.

*1941, Менск*

## МАЦІ

— Годзе ж плакаць, ну, дось — сягоння
ці мо заўтра, а прыйдзе сын.
Ён, напэўна, даўно ў палоне...
Годзе ж плакаць,
чакай вясны!
Гэтак кажуць табе суседзі,
гэтак ты запаўняеш дні...
Але ж ночы?
Як іх праседзець?

Як іх звесці, як спадманіць?
Чорны твар яны шчыльна туляць
да затканых марозам шыб, —
пачынаеш дзіўныя гулі
з успамінамі з дна душы.
Ўспамінаеш яго галоўку
у калысцы і першы крок...
Падпаўзае галодным воўкам
боль,
высмоктываць з сэрца кроў.
Ўспамінаеш трывожны дотык
кволых, цёплых, дзіцячых рук:
— Мама, мама!
— Чаго ж, чаго ты?
Не, не бойся, я не памру.
Ты сцалоўваеш шкло слязінкаў,
песціш шоўк палявы валос,
ночы ў вочы кідаеш: «Сынку!»
А далей —
не стае ўжо слоў.
Нестрымана дрыжаць расніцы,
пад рукамі палае твар,
і упарта,
упарта сніцца —
пааранны вайной папар,
абгарэлы нямы сасоннік
і няўмыты зімовы дзень,
адубелыя трупы коней,
дзіўна знаны, распяты сцень...
Твар у гліну рудую туліць,
жах смяротны ў сівых вачах,
захлынаецца —
ой...
матуля...
А табе тут:
«Чакай, не плач!»
Збляхне ноч...
Запалае макам —
відуком балачын града...
Сны — мара́!
Кінеш, маці, плакаць,

зноў пачнеш спадзявацца, ждаць.
Але толькі па сотні ночаў
і па сотні, ці болей, дзён
глянеш лёсу нарэшце ў вочы,
адгадаеш яго закон.
Тады ўспомніш без слёз пра сына
і угнешся сухім трысцём...
Зразумееш, што смерць, руіны —
гэта ў будучыні
жыццё!

*1942, Менск*

## КРАІНЕ

*Прысвячаецца ўсім зняволеным*

Днём, што ціснуўся ў зморы да крат,
і да скону гатоваю ночай
вашы крокі гадамі дзяўблі,
уздзіралі халодны бетон...
Заціскаўся ў бяссіллі кулак,
прагна ў краты ўзіраліся вочы,
разам з вершам зрываўся, канаў
над астрожнаю юрцай
праклён.
Вёсны кідалі вам на вакно,
на жалезныя йржавыя краты
зырка-сіняга шоўку малы,
недарэчна малы шкуматок,
лета ліпла кашуляй да цел,
спёкай горла сцінала зацята,
восень —
сыпала ў шыбы, ў душу
алавяны атручаны шрот.
Белым пылам чарэмхаў, ігруш
на вас вечар вясновы не веяў,
цёплы вецер не песціў рукой
па гарачым твары, валасох...
Некаторых — сібірскай пульгой
замяла назаўсёды завея,

іншых зноў,
як сабак, без крыжа,
жвіраваты прысыпаў пясок...
Нат і тым,
што пялі ўсяго
пра асеннія жоўтыя ранні,
ткалі сінія вершы аб тым,
як расой асыпаецца ймгла, —
у бяскрайных палынных стэпох
успамінам краіны каханай
сотні дзён,
сотні дзікіх начэй
давялося душу калыхаць!
Хто вярнуўся, хто не...
А тады —
у паветра ўзляцела штодзённасць,
пралілася над краем крывёй
навальніца сусветных падзей,
і каго не змяла яна ў роў,
не засыпала жвірам сцюдзёным, —
па шляхох, перарытых вайной,
ўсе зышліся,
мой край,
да цябе.
Дні за рукі ўзяліся, ідуць
шэрым, жудкім, глухім карагодам,
абіваючы з душаў,
з галін
цвет вішнёвы ці прагу жыцця,
ўтроп цікаецца голад,
на нас
вышчарае клыччо мімаходам, —
ды жывём мы і з ім, бо дзе Ты,
там і наш сяння высіцца сцяг.
Калі ж хто адышоў
і ў гушчар цішком воўкам запоўз
і чакае
ці праменьвае важкія дні
на спакой ці на сыты абед, —
ён не наш. Без такіх
мы прыжджом

бела-бела успененых маяў,
залатога пяску каласоў...
Возьмем шчасце
сабе і Табе!

*1941—1942*

## ВЕЧАР

Змрок папэцкаў куты і парог,
пачыркаўшы іх чэрняй крэсак,
падпаліла бабуля стог
кучаравых пахучых трэсак.
Сцені кінуліся пад столь,
забубнілі крыламі ў вокны.
(А мо гэта не сцені — боль
шэрай прэляй на шыбах мокне?)
Пазяхаюць у куце багі...
Пахне хлебнай кіслёю і потам.
Моўчкі ўём мы тугу на калкі,
цягнем, цягнем душу
з калаўротаў.
За ільняную нітку даўжэй
цяпер доўгія, чорныя ночы.
Во й зыходзіцца прасці кужэль
да бабулі
ўвесь статак дзявочы.
Ўецца, ўецца, не скончыцца ніць,
завіхаюцца пальцы, аж млеюць...
Толькі думак ніяк не зманіць —
плачуць, скачуць вірлівай завеяй.
Сумна... Цяжка...
У Зоські браты
недзе ў вырай крывавы зляцелі,
Ганька — паліць у сэрцы масты
за адной векапомнай нядзеляй...
У Агаты — мужык на вайне.
Тыдзень толькі жылі, дык не сточыць
успамінаў і трызніць у сне
аб пахучых чаромхавых ночах.

А ў мяне...
ные, ные нутро:
«Не, не прыйдзе наш Янка ніколі,
ўжо даўно нат ягоную кроў
восень жоўтым абцерла прыполам».
Янка, Яначка, галубок,
на каго ж ты нас тут пакінуў?
І ўзноў сыплю ў кудзельны мох
я слязьмі — ільняною мякінай...
Есца ў вочы хваёвы дым...
Уздыхае бабуля пры печы...
Колькі ж, колькі віхор вайны
сэрцаў людскіх разбіў, скалечыў!
Не стрываю, парву, парву
плач глухі калаўрота і нітку,
зарыдаю, ўтулю галаву
у бабуліну шэрую світку.
Заміргаюць багі ў куце...
Гляне бабка на смутак іх скоса,
нахінецца, папесціць, спляце
калассё маіх спелых косаў...
— Годзе, ўнучка, не плач, не плач,
я — дапрала жыццёвы кужаль...
Давялося мне — і выбачаць,
і прасіць, і цярпець, і нядужаць...
Не хаўтуры наш кон
дый не баль,
кон — гарачы і дымны горан.
Хтось куе там і смех, і жаль,
перакоўвае наша ўчора.
Трэба жыць,
аж зжывеш свой век,
не спяшацца і не марудзіць...
Шчасце, ўнучка, не салавей,
ноч у ночку пяяць не будзе!
Але ведаю я адно:
чуе сэрца, трымціць старое,
што не пойдзе наш свет на дно,
хай найгорш — час усё загоіць...
Не надарма пад віскат куль
кроў сцірае там недзе восень.

Дзеткі,
слёзы ды боль з пяску
залатым узрастуць калоссем.
Скінем з плеч развітанняў цяжар
і забудзем гарматны рогат...
Хай не нам, але ж прыйдзе год —
засмяецца зноў свет... Так,
з нічога!

*1942*

## ЯРЫЛАЎ[1] КОНЬ

Прывыкла сэрца ўжо даўно
да гарадское каламуты.
Бадай што кпінай ці маной
здаецца ў полі ветраў тупат...
Не помніш неяк між руін,
у чорных пастках пажарышчаў,
што дзесь вясна ў палёх бруіць,
вясна —
якой ніштo не знішчыць!
Так,
забываешся: жыта
ўжо дзесь туман зялёны веюць,
плывуць, і гнуцца, і шасцяць,
і хлебам пахне мякіш глею...
Не йдзеш сачыць,
як сіні квас
жыцця з лагоў плыве расцвілых,
як у ярыну на папас
імчыцца белы конь
Ярылы!
Не чуеш, не,
як ён храпе
і б'е падковай серабранай,
як быццам брагі не паспеў
напіцца сонечнай ад рана...
А ўсё ж, хай так...
Зямля! Зямля!

Пахучы вецер з межаў свежых!
Жаўронкам сэрца я узняць
хацела б з вамі у бязмежжы!
А там
у сонечны пясок
занурыць крылле і забыцца,
што на палёх баёвых лёг,
лёг перад смерцяй свет наш —
ніцма.
Чакай!
Ярылаў белы конь
праменьмі, ўплеценымі ў грыву,
прапаліць смерць,
і спеў падкоў
абвесціць свету дзень шчаслівы.
Ці сяння будзе гэта, ці
тады, калі ўжо зложым крылы, —
не нам гадаць,
але зляціць
калісь бяду скасіць Ярыла!
На край знямоглы,
на людзей
сыпне ён сонечныя стрэлы.
І расцвіце, і загудзе
жыццём
пустэча пагарэлішч!

*1942*

## ЗОРЫ СІТЦА

Пока не требует поэта
К свящнной жертве Аполлон,
В заботы суетного света
Он малодушно погружен.

*А. С. Пушкін*[1]

Ці ж гэта так,
скажы мне, свет сляпы й зайздросны?
Скажы, ці хто душу паэта раскусіў?

Што й як рабіць, што піць,
як есці й плесці косы,
каб свет сказаў:
«Але, о, ён паэт наўздзіў!»
Што ж трэ рабіць?
Забыцца й вусны сціснуць,
як пальцы, у бядзе,
згасіць вачэй агні?
Без сонца, ў цемры дзесь
спяліць тых вершаў вішні,
фальшыўствам гандляваць,
а шчырасці — ані?
— Паэт — надчалавек, і піць ваду далоньмі,
як кажнаму, зусім няхораша яму, —
пачуеш тут і там, —
абраннік зорных тоняў
ці ж можа ўсмак смактаць жыцця зямнога муць?
— Зямная муць, — скажу ў адказ я, —
гэта шчасце
адзінае, што мы тут маем на зямлі.
У ёй і пекла, й чар,
праклён і сонца —
снасці,
з якімі слоў званы паэты могуць ліць.
І каб паэтам быць, —
дык трэба ўсіх крыніц напіцца,
а не хавацца ў змрок
і не ўцякаць ад іх...
Таму я і гляджу ўначы у зоры Сітца,
напіцца ўсмак хачу ўсіх радасцяў зямных!

*1942, Менск*

## ПАСЛЯ БУРЫ

Загрымела,
відаць, на «бывайце», у полі...
Уздыхаючы хрыпла, між зблытаных зёл
адпаўзае ў бязмежнае хмара, паволі
падымаючы цяжкі, намоклы прыпол.

Над чупрынай хваінаў чырвоным алоўкам
нехта цёмнае неба чыркнуў яшчэ раз.
Вецер срэбныя кроплі пасцягваў з чаромхаў
і павёў у вячорную даль — на папас.
Я злавіла адну з іх...
Заціснула ў жмені,
ды сплыла паміж пальцаў яна неўпрыцям.
Не злавіць,
не ўтрымаць,
белым хмелем не ўспеніць
і няўлоўнае шчасце людскога жыцця!

*1942, Менск*

## ХТО ЁН, ПАЭТ?

Хто ён, паэт?
Біблейны мытар,
прарок натхнёны, свету лекар
ці чалавек з душой, ускрытай
лязом хістанняў, скрозь нясыты
жыцця і смерці,
славы, здзеку?
Мячом ягоным
шэпт ці крыкі?
Пра што і як пісаць ён мае?
Лавіць нябёс вясновых зыкі
ягоны кон
ці свету сыкаць
у твар за зло, за злыдні лаяць?
І трэба ж слоў баяцца сяння?
Той кажа:
— Час спаліць, падзерці
стары канон вершаскладання,
бо не краса, не мроя паняй
у век крыві, агню і смерці.
Не замалюеш долі свету
цяпер вішнёвай пеннай беляй,
жыццё — зусім не акварэля,

і ў час вайны не да санетаў,
не да мадоннаў Рафаэля[1]...
Той зноў —
з кута шасціць другое,
узвёўшы вочы дзесь у хмары:
— Пясняр — мастак паўтонаў, мрояў,
ён гнойных ран людскіх не гоіць,
на бруд не кваціцца,
ён — марыць.
Яго стыхіяй — неба тоні
ці чар мядзяных лістападаў,
ён на ўспалох, як звон, не звоніць,
ён не грыміць...
а як сасоннік
шасціць ціхой і мудрай радай...
Вось суд людскі...
Каго ж з іх слухаць,
куды ляцець,
з якою плоймай?
Ці ні на што не весці вухам,
ці йсці, плысці з усіхным рухам,
шалее свет — шалець падвойна?
Што, што пачаць, каб быць заўсёды
на грабяні чароднай хвалі,
каб чуць сябе —
душой народа
заўжды
ў зару і у нягоду,
што б свет ні гуў,
што б ні казалі...
І ці калісь
хтось
слова кіне,
што песняра як след асвеціць,
якіх даць вершаў, ветраў, плыняў,
каб сіне ўрэшце, сіне, сіне
было і ў сэрцах
і на свеце!

*1942, Менск*

## З ВЫРАЮ

Як засмаглы за песнямі шчыгел,
прыляцела із выраю й я...
Зноў ступаю няўмытай Нямігай,
зноў сугуччамі думкі пыляць.
Так іх шмат,
што не зловіш рукамі,
у адмераны рытм не ўвагнеш.
Белай брагаю пырскае, пляміць
твар мой
першы, йшчэ восеньскі снег!
Сэрцу цесна у сетцы адзежын,
столькі сіл назбірала я ў ім!
Сяння —
    ўсе я пазносіла б межы,
сяння —
    ў пекла пайшла б, як у дым!
Гнуць спіну прад бядой —
перажытак,
шчэ дурней —
шчэцяй рунай дрыжэць...
Не баяцца давайма,
    а жыта
нашай долі выспельваць барзджэй!
А як кон напару і ударыць
кулаком алавяным з пляча
па вятрамі распаленым твары —
шкода сілаў і слёз —
    распачаць!
Лепей жылы сухія напружыць,
сціснуць пальцаў пругкіх пецярні —
міма сцежак чужых
і калюжын
выйсці шчасце сваё бараніць!

*1942, Менск*

## ВОСЕНЬСКІЯ ЧАРЫ

Сярэднявечны маг-алхімік
у асіннік
зашыўся... Падаслаў
пад ногі шэры порт —
з іртуці й мглы,
з іржы
змярканняў нясупынна
скарб плавіць залаты,
што жоўтым лісцем стыне
на дне лагчын — сівых, запыленых рэторт.
І столькі ўсюды іх,
тых залатых крупінак,
на гладкіх шыях ліп,
на пальцах тапалёў,
у валасох асін і увушшу калінаў, —
што куляй залатой
пакоціцца і згіне,
здаецца,
нават дзень, што на узлессі лёг!
Ды надыходзіць ноч...
І чарадзейскі тыгель
губляе неяк моц і кідае бурлець,
і пеніцца, й кіпець,
а сэрца мага — шчыглам
не скача, быццам кроў
із жыл маніцца выгнаць,
але, як свет увесь,
сцішаецца ў імгле...
І калі ўранні я выходжу — кажурынай
сівой акрыты свет,
трапеча снежны пыл
і туліцца да губ,
што на марозе стынуць,
як быццам расцвісці
камусь
маглі б шыпшынай
яны у гэткі дзень,
пануры і сляпы!

*1942, Менск*

## КРОПЛІ ЗОЛАТА ВОСЕНЬ ГУБЛЯЕ

Кроплі золата восень губляе
з перапоўненай чары жыцця...
Што да чараў,
дык пэўна — я ляік,
а жыццём я іду —
напрасцяк.
Мо таму хіба й смагі не маю,
хоць асенняе пахне віно
ні то вераснем мне,
ні то маем,
кружыць голаў знямогай ляной.
Жоўты свет
ім упіўся дап'яна,
я ж
цвярозая ўдалеч іду.
Досыць маю асінавых панік,
снегападаў кляновых
і дум.
Але сэрца па-свойму
і шчасцем,
і тугою няўлоўнай баліць...
Мо таму, што з сабой яго нашча
я ў рудыя забрала палі,
мо таму,
што ў асенняй трывозе
ёсць атрута, нязнаная нам,
і цыкутаю жоўтаю восень
труціць нашыя сэрцы няўзнак?
Не!
Ў паэтаў яна не пацэліць,
не патрапіць іх долу прыгнуць.
Скажуць:
«Вішні вясной запылелі», —
й кажны ў сэрцы
пачуе вясну!

***1942, Менск***

## ВОСЬ ТОЛЬКІ ВЫПІШУСЯ ТРОХІ

Сціскаць няварта думы, словы
ў цясноце сэрца...
На паперы
ім павальней — мільгаюць, ловяць
адны адных —
якраз у меру.
Калі ж зашмат іх набярэцца —
як там ні сні, усіх не высніць,
асвіным джалам джгаюць сэрца,
ля пясцяў рук павесмам віснуць...
І мімаволі мроі мроіш,
і ломіш рытм жыцця ў жаданнях,
уцелаўляешся ў герояў
паэм, якіх няма ўжо сяння...
Як бы не хочучы, стаўляеш
сябе адну — у цэнтр сусвету
і па сабе згінаеш баі
старых і новых запаветаў.
А дзе ні глянь —
мільёны жыццяў
ірвуцца ніткай перапрэлай,
мільёны зноў —
шукаюць сыці,
руін разблытваючы шэрасць.
Як тут ні йсці за імі следам
і як на леры ім не бразгаць,
каб пылам слоў прысыпаць беды,
прыцяць зубоў галодных лязгат?
Вось толькі выпішуся трохі
аб жоўтых восеньскіх узлессях, —
зноў бестурботным скамарохам
пайду руіны песняй песціць,
узноў пачну смуціцца штодня
чужой тугой,
душу шыпшыніць
чужой вясёласцю й паходняй
гарэць на ветры
за краіну!

*1942, Менск*

## ПЕСНЯ КАЛІНОЎЦАЎ

Палыном і быллём парaслі нашы нівы,
як ні б'ёмся, ні гнёмся над імі у крук,
плён адвеку чужынцы збіраюць, не дзіва,
што канае народ твой і ты,
Беларусь!

Але годзе!
Мы ўстанем!
Ціхім раннем, на ўсходзе,
ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару
і ў сталёвым ад кос і ад песняў паходзе
возьмем волю сабе і табе,
Беларусь!

Каліноўскі нас кліча і агніста іі зацята
на змаганне за свята для мазолістых рук,
за зямлю для аратых
і за сонца у хатах,
за увесь твой народ, за цябе,
Беларусь!

Дык ударма, як гром, дык лінем навальніцай,
дык праб'емся ж крыніцай
з-пад зямлі угару,
каб мядзянай пшаніцай мог зігцець-каласіцца
наш загон і бязмежжы твае —
Беларусь!

Гэй, смялей,
гэй, далей,
не лякаймася смерці!
Нашы целы і славу сыны падбяруць.
Хоць і зложым на пожнях гарачыя сэрцы,
але ты будзеш жыць і расці,
Беларусь!

*1942, Менск*

## ТКАЛЛЯ

Наснавала дваццаць губак
на пасаг, на ручнікі.
Як зара чырвоным чубам
махане над бору зрубам,
паўкідаю ў бёрда іх.
Нат не буду задумляцца,
ці пашле той кон сватоў, —
запяю і буду ткаці,
як вучыла дзеўку маці,
у дванаццаць у нітоў!
Жоўтым вокам пазірае
скрыва, скоса ў шыбы дзень....
Я пры кроснах не гуляю,
прыбіваю, датыкаю
мо ўжо губку, мо ўжо дзве...
Зігаціць асновы кужаль
бы цымбальных струнаў гладзь.
Эх, заграю!
Мушу здужаць!
Чаўнакі расстаўлю гужам,
скіну хустку, буду ткаць!
Калі ж вечар змочыць бровы
мне зарой
і на сцяну
кіне полымем, — я словы
песні зблытаю ў палове
і уток пакіну снуць,
бо ў яры,
ў зялёным гудзе,
у чаромхавых дымох
хтось чакаць на ткаллю будзе,
каб хоць сяння не змарудзіць,
шчасце сплесці удваёх...
Што з таго,
што ўсцяж гарматы
выюць дзесь на маладзік,

што галосіць смерць па хатах,
па барох?
Не бойся, сватай,
а на рэшту — не глядзі!

*1942*

## ПЕРАД БУРАЙ

Неба пеніцца сіваю шумаю хмараў.
Прыціскаючы крылле да сэрца, у сіні,
як п'яныя, куляюцца ластаўкі...
Парыць...
Сонна пчолаў сузор'і зігцяць у шыпшынах...
Ся...
Грыміць...
Так, здалёк, з-над балотаў і плёсаў
глуха коцяць грымоты, згінаючы лозы,
быццам нехта спяшаецца з поля ў калёсах
па няроўнай, дзікой, камяністай дарозе.
Далеч пахне налітымі мёдам вуллямі,
ажно чуецца дзіўная соладзь на вуснах,
і здаецца жыццё залатым караваем,
а не місаю брыдка накрышаных лустаў.
Нат вайна —
ўжо не боль, толькі стрэмка-дакука,
хоць часамі так зблізка загляне у вочы,
што асмаліць мне вейкі,
апырскае рукі
журавінавым сокам...
Сэрца жахам падточыць.
Так, хоць часам,
часамі і сціснуцца грудзі,
хоць заломяцца пальцы у гойстрай журбоце, —
сонца жвірам мядзяным спяшаецца-студзіць
успаміны...
Усмешкай за смуткі мне плоціць.
Бо й навошта тужыць,
калі хваляй калосся
ўжо за год ураджай усплыве на магілах

і заплачуць на даўных баёвішчах восі,
каб снапоўе на сініх аржоннях не стыла.

*1942, Менск*

## СТАЛЁВЫ ЗВЯЗ

Не досьць крычаць аб Беларусі
і захлынацца ўласнай слінай,
не досыць верш слабы згарусціць
і прысвяціць яго краіне.
Не той,
хто трубіць аб пачуццях
па цемнакуццях, —
патрыёта.
Без чыну —
слова не скалмуціць
нат твані лужыны балотнай.
А што казаць,
яшчэ вось сяння,
аб акіяне людскіх душаў?
Іх,
хоць кругіч сабе да рання,
спяваннем жабім не ўзварушыш.
Не словаў трэба,
а хаценняў,
і сіл асілкавых, і згоды,
і гарту ўпартага, каб сцені
на шлях не палі перашкодай.
Нат больш...
Каб справы не скалечыць,
каб не праспаць узноў світання,
высілкаў трэ нечалавечых
і процьмы цёплага кахання.
Тады...
тады мы звяз сталёвы
з блакітнай Бацькаўшчыны звяжам,
і раз нарэшце моцным словам
не нам,
а мы штось свету скажам!

*1942, Менск*

## ПУСТАЦВЕТЫ

Летась... Сёлета... Налета...
Ўсцяж адно: пажухлы ветах
гоніць хмар пужлівых стаю,
дзьмуць віхры,
і пустацветы
год па годзе адцвітаюць.
Хай вясна, хай бела, пенна, —
ў нашых рухах сум і ленасць,
уваччу сутонне мрояў,
і не кленчым маліцвенна
мы ні ў змрок, ні прад зарою,
не цвіцём вішнёвым веццем,
не кідаем наўзвейвецер
чынаў, вартых нейкай славы,
ды нічога тут на свеце
мы не бурым, ані правім.
Каплюць дні пякучым варам...
Мы ж, мы стыгнем і ў пажары,
бо на сэрцах нашых латы,
ў думках золь, ну, а на тварах —
маскі, маскі Гіпакрата[1]!

Дось! Хадзем! Няхай і пеша!
Што за ліха? Ці мы ўрэшце
так быллём благім і ссохнем?
Што ж грызе нас,
што нас цешыць,
вечных марных скамарохаў?
Дось!
На прызбах, на парогах
мы не выстаім нічога,
хтось яшчэ мо й словам зраніць.
Дось! Хадзем!
Хай ныюць ногі
на пясках, прыгрэтых раннем!
Хай крывыя дугі сцежак
нас вядуць, куды належыць,
хай прадуцца тонка, тонка,
хай віюцца на бязмежжы,
на сухі руды сасоннік!

І не будзе ўсё, як летась,
хай у небе жутлы ветах
гоніць хмар пужлівых стаю...

Гляньце!
Новым, веснім цветам
дні прад намі расцвітаюць!

*1942*

## ВЫ ХОЧАЦЕ

Вы хочаце вершаў бадзёрых,
не горам атручаных вершаў,
а поўных магутных сугуччаў,
пякучых паэмаў аб лепшым.
І мне б тут хацелася прасці
аб шчасці ў паўтонах, паўценях...
Ды лён мой сівы, валакністы
ўвесь чыста спаліўся пламеннем
тады, як гарэлі злавесна
нябёсныя бездані, хмары
і збітыя ў статак хваіны
ў нізінах, гараных пажарам,
калі галасілі гарматы
над кратамі ніваў аб смерці,
калі саламяныя стрэхі
кос вехці хапаліся дзерці.
З чаго ж вам напрасці пякучых
сугуччаў, усцешаных вершаў?
Гарэць, захапляцца ўрачыста
ўсім чыста — і рана і смешна.
Вось лепш вам скажу аб штодзённых
зялёных і сініх змярканнях,
аб тым, як мы ловім надзею
з падзеяў, паўсловаў, жаданняў,
аб тым, як сівым сырадоем
нас поіць завея дзікая,
аб тым,
як над кажнай няўдачай

не плачам,
а зубы сціскаем.

*1942, Менск*

## А ЎСЁ Ж БУДЗЕМ ЖЫЦЬ

Сцюдзёныя хмары паўзуць у руіны,
настыглую цэглу ліловяць і сіняць...
І ходзіць па месце змяркание у зрэб'і,
ссінелымі пальцамі сэрцы цярэбіць.
Не ўцяміш —
ці змрок нам туманіць галовы,
ці пыл успамінаў,
ці водгулле словаў,
пачутых калісьці, —
і даўна й нядаўна,
а можа, й ніколі нікім не складаных.
А тут —
перад намі йшчэ студзень і люты,
тут — вогкага ветру прастуджаны хлюпат,
і неба — прадонны ў нязнанае вылам,
і пустка руін, што нарэшце астыла...

А ўсё ж будзем жыць!
І не так, «бабы з возу»,
інакш —
каб у сэрцах пылеліся лозы,
і кроў бурбалела бярозавым сокам,
і можна было б і на долю зацмокаць!
Жыць так, каб далося нам выпіць із смагай
і поўнаю чарай жыццёвую брагу,
а выпіўшы —
чаркаю вобземлю кінуць,
каб рэха на свеце звінела з гадзіну
на зайздрасць і злосць усялякім суседзям,
што й сяння йшчэ —
нас тут не ўмеюць угледзець!

*1942, Менск*

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Радасць жаўранкам звоніць над хмарамі,
хай не згледжу яе, не збяру...
Дні насталі важкія, змагарныя,
зноў
 спрабуе расці
 Беларусь.
Зноў спрабуе,
із думкамі нашымі,
з дзіўнай, кволаю музыкай слоў...
Слоў,
 што кпілі з іх ворагі, страшылі,
што ледзь ветрам іх не замяло.
Наша ж мова —
 цудоўная, спеўная,
ўмее спелым калоссем шумець,
галасіць навальніцай улеўнаю,
вераснёваю медзяй звінець.
Мова наша — выкутая з золата —
не йржавее,
блішчыць,
зігаціць.
Гэта мова паэтаў і волатаў,
скарб, які нас трымаў пры жыцці.
Каб не мова,
 даўно б мы растаялі,
расплыліся б імглой між чужых,
збеглі ў вырай гусінаю стаяю...
Але з мовай —
 і мы будзем жыць.
Будзем жыць!
Днямі яснымі, новымі
пойдзем, пойдзем з табой у гару,
наша жытная
і васільковая,
несмяротная Беларусь!

***1942, Менск***

## ХАЙ ГРЫМІЦЬ

Прагрымела над краем навальніца...
Віднее...
Мятны вецер з налёту размятае імглу.
Напілася ралля і крыві і падзеяў,
выйшаў раны заворваць, адварочваць плуг.
Пакрысе надышлі і аратыя, жнеі,
думаў, сэрцаў знайшлося залатое зярнё...
Год мінуў...
Паплыла кволым сонечным сценем
ураджаю змяна зноў на родных ніўёх.
Паплыло,
зацвіло,
наліваецца,
спее
столькі слоў беларускіх —
жывых каласоў!
І з іх кажнае — наша,
ў кажным гарт і надзея,
і драбочак душы — наша, нашае ўсё!
Хай грыміць...
Хай ірвуць хмараў зрэб'е маланкі...
Мы — упарта працуем,
мы — упарта жывём!
У палёх, узараных нарогамі танкаў,
беларускага слова падбіраем жніво.

*1942, Менск*

## У ДАЖЫНКІ

Над шэрай краінаю тае
апырсканы золатам дзень.
Пялешчацца жвавая стая
сцягоў у нябёсаў вадзе.
І йдуць,
і плывуць,
і мінаюць,
і граюць, шасцяць, шалясцяць

вянкі ды калоссе...
Ой, раю!
Мы свята спраўляем жыцця,
дажынкі спраўляем сягоння
на зжатых вайною палёх,
а ў сэрцах сумлевамі звоняць
надзея
і восень — удзвёх.
Надзея на заўтра
без плачу,
на хлеб залаты на стале,
на тое, што будуць іначай
вясёласцяй сэрцы пылець,
што доля маністы із смеху
парве,
і пакоціцца ён
па краі сярэбраным рэхам
пад песняў дажынкавых тон.
Хай кон сяння ў вочы нам хлусіць,
хай сцёбае,
нішчыць угрунь, —
а будзем
з крыніц Беларусі
мы жменяю
чэрпаць зару!

*1942, Менск*

## НАВАЖНАСЦЬ

Вось, вось, здаецца,
жвавы травень
чубы бярозаў кучаравіў,
вясновай наквецяй сінеў, —
а столькі ўжо таго благога
вузкой жыццёваю дарогай
мінула моўчкі паўз мяне...
Ды мы жывём, і сонца ловім,
і ветрам дыхаем ліловым,
і ўдалячынь ідзём, бы ў дым, —

у век наш бурны, навальнічны,
знайшліся ж сэрцы, што крынічыць
жывой крывёй маглі б гады.
З сіла́ грудзей мы іх не вымем,
не бразнем вобзем...
Жоўты жнівень
шасціць снапамі на тарпе,
а і ў лагох, і на узвышшах,
хай за імглой дагэтуль прышласць,
грызе жыты упарты серп...
Усюды, ўсюды рух, змаганне.
Ні ночны жах,
ні смутак ранняў
нас ад жыцця не аджане,
ці радасці налье вішнёвай
нам у далоні кон, ці новай
бядой
у вочы нас кальне.
У панцыр сэрцы мы закулі,
нат не пакінулі адтулін,
уцехам кінулі «бывай».
Яшчэ нам вынесеш, краіна,
на ручніку ільняным сінім
вясельны белы каравай!

*[1942]*

## ЖЫВІ

Над раскіданым логавам мест
дагараюць пабітыя ліпы...
Вечар, новы спраўляючы хрэст,
іх расою чырвонай асыпаў...
Так,
шчаслівы, хто йдзе праз жыццё
ў дні вялікіх, як свет, пераменаў,
раскідае старое шмаццё,
разбівае зацесныя сцены,
не схіляе нідзе галавы,
на глухіх раздарожжах не стыне,

не баіцца
у мора крыві
перажытыя праўды укінуць!
Нашым векам сталёвым —
гасцём
быць у кузні грымотнай не варта:
толькі той, хто дае з сябе ўсё,
мае права на лепшае заўтра.
Дык жыві!
Хай над логавам мест
дагараюць пабітыя ліпы...
Вечар, новы спраўляючы хрэст,
іх расою чырвонай асыпаў.

*1942*

## ПАКУЛЬ ЖЫЦЦЯ

Хтось
заместа зор
у вышу кінуў
жменю серабранага аўса.
Ды зярнё дарэмна ў небе стыне:
ні сініц, ні соек у шыпшынах,
не лятуць пад зорамі гайсаць...
Пэўна ўжо мяцеліцы дасыта
напіліся ў згорбленым суччы.
Ну й дала ж яна,
дала нам сяння пытлю!
Мо пахучай вікаю аблытаць
прыйдзе сон
і нас і далячынь?
Мо прысніцца нам, што доля поіць
нас усмак не палкім палыном,
а духмяным накіпам ліповым,
што гаркія сіраты і ўдовы
ў зыркім шчасці
грэюцца даўно?
Але штось і ў сне —
не выпіць думаў,

у крыві — агнішчаў не згасіць.
Ні то з радасцяй дзіўной,
ні то із сумам
мы і ў сне брыдзём шукаць па гумнах
неабітых доляй каласін...
Бо пакуль жыцця —
відаць, нязменна
трэба ўжо у бразгу жаляззя
нам люляць і песціць летуценні,
растрасаць упарта сціры сценяў,
каб нарэшце
сонца ў рукі ўзяць!

*1942, Менск*

## ДОСЫЦЬ

Досыць, як зерні пацёркаў,
перасыпаць у далонях
жаль запляснелы і горкі,
смутак салоны.
Досыць —
даволі па горла
думак галодных аб страве,
слоў аб крыжох,
аб памёрлых,
згаслых без славы.
Кіньма хістацца, заводзіць
следам слязлівай завеі,
ў новым з карэннямі годзе
знойдзема, зловім надзею,
моцна заціснем у жмені,
болей не пусцім у вырай,
хай
з сэрцаў выдзеўбе сцені.
І —
дні расступяцца шырай,
кроў варам думкі абварыць,
рукі узнімуцца й грудзі...

Кліць будзем з крыўдаў, udaраў,
хай далей будзе, што будзе!

*1942*

## СЛОЎ НЕ ТРЭБА ШУКАЦЬ

Слоў не трэба шукаць...
Словы — самі злятуць,
што за сэнс — штучна ў сэрцы распальваць золак?
Прыйдзе час —
і праб'юцца яны праз чмуту,
і уколюць душу срэбрам зорных іголак.
Дзесь адыдзець усё,
што балела удзень,
шалупіннем з душы адпадуць успаміны,
пойдзе жыламі кроў, як кругі па вадзе, —
будзеш сам сабе й Духам тады ты і Сынам!
Як цудоўна Сусветам,
як дзіўна ўладаць,
рухам пальцаў затрымліваць гронку сузор'яў,
недзе ў Вегу[1] нацэльвацца
з лука Стральца[2]
ці спіральных імгліцаў падпальваць порах!
Так,
паэт — чараўнік!
Ці ж у моры на дне,
разагнаўшы медуз, ён пясчынак не злічыць,
ці ж на струнах зары
ён вяселля не ўтне,
не запаліць ірдзеннем Сусвету аблічча?
Ці ў натхнёным палёце
ён знае мяжу?
Ці ж не фікцыяй —
час для яго і прастора?
Нават смерць яму — пыл,
бо цялесны кажух
ён скідае часам, як стаптаны апорак!
Так, паэт — валадар!

Ён — патрапіць усё,
толькі долі ды шчасця для свету не знойдзе.
Ў сэрцах прагных, завідных
яго калассё
неяк з ветрам зялёным не ўнадзіцца гойдаць.
Свет гарыць
незагаслым,
крывавым агнём,
ці маўчаць,
ці співаюць, як шчыглы, паэты.
Нат сумлеўна,
ці ў радасць яшчэ мы спаўём
лёс наш —
жутлы, маркотны і стомлены ветах.
Ды не сціхнуць паэты спяваць,
хай і так...
Яшчэ мёду нап'ецца і людскае шчасце!
Словы — самі злятуць,
слоў — не трэба шукаць,
толькі ціха,
ціхутка,
пяшчотна прылашчыць...

*1942, Менск*

## ГОДЗЕ!

Ціха клёны лісцё наземяць,
перажыўшы сваё
на свеце...
Ці ж, як мы тут, журбой асенняй
будуць песціцца й нашы дзеці?
Дзіўна ж сум нам уеўся ў косці,
неяк самі хінуцца спіны,
хай бадзёрымся часам: «Досыць!»
Петушымся: «Нас не запыняць!»
А паціху — і той закіне,
ну, і гэты ў радкі уцісне:
«Край наш ніцы, дзяды, дзяды мы,
не дае лёс нам шчасця высніць!

Век нам муляе карак зрэб'е,
мы ў лапцёх пагнаілі ногі,
на застоллях у нас —
бясхлеб'е,
пазбівала бяда парогі...»
Годзе!
Годзе нарэшце,
годзе
чарвякамі звівацца, поўзаць!
Хоць нас доля й дагэтуль зводзіць,
хоць ісці нам парой і коўзка, —
насмяёмся яшчэ і з ліха!
Досыць падаць прад кажным ніцма!
Лепш на момант
агнём успыхнуць,
чымся літасцяй век давіцца!
Што далі нам калі чужыя?
Ці калі хто — наш плач усцішыў?
Досьь!
Напружым пастронкі жылаў,
самі злыбеды нашы скрышым!
Ціха клёны лісцё наземяць,
пераҗыўшы сваё на свеце.
Не,
не будуць журбой асенняй
так, як мы тут, смуціцца дзеці!

*1942*

## САЛАЎІ

У сырадой пахучы ночы
я нырца дам з галавой.
Запяю
і заахвочу
ў жоўтых лозах салаўёў.
Зазвіняць яны...
пасыплюць
трэляў шкляную капель.

Пад чаромхай роснай вып'ю
я па кроплі іхны спеў.
Буду піць, каб чар не знішчыць,
аж да рання,
аж да дня,
пакуль сінія агнішчы
у лагох не задымяць,
пакуль сонца бель ігрушаў
жоўтым шоўкам не затчэ,
пакуль дзень не запарушыць
пыльным золатам вачэй.
А тады...
ніхто не ўловіць,
ці пяю я сонцу гімн,
ці ў налітых сырадоем
лозах
звоняць салаўі.
Не ўцяміць,
ці то трэляў
мкне кіпенны снегапад,
ці п'яную радасць меле
поўны пчол і сонца
сад?

*1942*

## ТУГА

У небе зор агні збягаюцца на веча,
трывожна ў звон гудзе мядзяны маладзік...
Узноў,
як шмат разоў,
чырвоным ветрам вечар
мне у душу
тугой дзіўною накадзіў...
Іду, ірву, як шоўк,
штодзённых справаў сеці,
трымаю палатно кашулі на грудзях,
але гуляе з ім усё ж крывавы вецер,
знайшла усё ж туга ...

кружлівы ў сэрца шлях.
І загуло яно віхурай пурпуровай
у ветразях сівых і бура-шэрых хмар:
«Усё мара́ — і жаль,
і ўспышкі вершаў новых,
і жах, якім жыве ўвесь свет, —
усё мара́...
Ты думаеш, што ты штось робіш, штосьці варты
і дум тваіх узлёт,
і белых словаў снег?
Сто, тысячу разоў вартней мо той, хто жартам
зрывае каласы жыцця,

[illegible] сум жане.

Паэты —

гэта міт камічна-недарэчны
у наш нахабны, злы, кусліва-злосны час,
што добрае калісь —
сягоння гне й камечыць,
а ўбачым,

ці спляце штось лепшае для нас...»
Я адказаць хачу, крычу «спляце», ды гасіць
змярканне й веча зор, і ў ноч ціхую ўступ.
Так, для тугі няма адлежнасцяў, ні часу:
усюды і заўжды яна із намі, тут!

***1942***

## ЭЛЕГІЯ

**Ветах поўна ў гліняны гладышык**
**нацадзіў залатое зары...**
**Душны вецер шалее у вішнях,**
**туліць вусны да гладкай кары,**
**песціць вечна нясытыя вочы**
**лёгкай грацыяй гнуткіх галін...**
**Ледзь віднее,**
**ды з ложка саскочыў**
**сон мой ранні**

[illegible] **і збег у палі.**

Пазяхаючы лена, вітаю
я народзіны новага дня.
Неяк цяжка дрымоце параіць
вочы сонцу насустрач падняць.
Так дадзела
— навонкі спакойна —
мерацць шэрыя лёсу шляхі...
Ўсцяж шасцяць перасохлай лускою
ў сэрцы жах задаўнёны, глухі.
І не скінуць яго,
не абтрэсці,
не пазбыцца —
на свеце вайна,
і тут, блізка,
і тамака дзесьці
смерць наш свет абкрадае няўзнак...
Душны вецер шалее у вішнях,
прагна песціць рудое лісцё,
жоўты ветах расплёскаў гладышык
залатое зары — і уцёк.
Эх, паэт не скупы,
хай жа кіне
з ветрам жалі, што ўчора сабраў.
Заўтра ж зноў,
як асенні асіннік,
загарыцца у сэрцы зара!

*1942*

## СУТУНКІ

Як сумаваць —
дык так, каб аж канала сэрца,
а цешыцца —
агнём на ветры палымнець.
Паўфарбамі цвітуць адно змярканні й верас,
а іх ужо даўно, даўно засыпаў снег.
Не,
не да верасоў ліловых ці сутункаў
сягоння нам... Не іх наш край на пальцах рук

рахуе, раз-параз мыляючы рахункі, —
яму баляць крыжы,
што цягнуцца ўгару...
Іх — шмат... Іх — штораз больш...
Загуслая жывіца
залоціцца на іх, маўляў, рудая кроў,
і думкаю ля іх з нас кажны сутуніцца,
хоць ці на момант мо і не прыпыніць крок.
Спыняцца — нельга нам...
Хто спыніцца — не зойдзе
туды, куды імкне п'яны крывёю свет,
дый шмат лягчэй пад рытм жывой хады разгойдваць
у сэрцах помсты злы, гарачы сухавей.
Ён загудзіць яшчэ!
Ужо дрыжыць, трапеча
і родзіцца агонь на дне настылых душ,
хоць і цвіце яшчэ нам верасамі вечар,
хоць сутуніцца й той, і гэты на хаду...
Ужо й цяпер, калі пра гэта роіць станеш
сутункам залатым, — па жылах мкне агонь,
як быццам той, па кім сумуеш, нечакана
на сэрца палажыў гарачую далонь!

*1942, Менск*

## НА ДОСВІТКУ

Ночы срэбны паўмісак на золку
зматавеў, пачарнеў...
Ці урок
хто, ці ў ім не запраўднае, толькі
«накладное» было серабро?
Не ўсё роўна?
Цёр ветах заспаны
яго, праўда, рызманнем з імглы,
упацеў нат ружовым туманам,
злы,
у сеці чаротаў заплыў, —
ды не сцерліся шчэрбы і рысы,
як ні мыў ён сцюдзёную гладзь...

Хіба ўстаць
і кашулю расхрыстаць,
губы ранняму ветру падаць?
Увайсці ў пыл туманны па шыю,
бестурботна ўсміхнуцца камусь?
Эх,
ці ёсць дзе йшчэ золкі такія
як у нас із табой,
Беларусь!

*1942*

## ПЕСНЯ

*М. Забэйду-Суміцкаму*[1]

Не тады, ведай, родзіцца песня,
калі просяць паэта:
«Пішы», —
а тады, калі пенай чарэсняў
яна ўспеніцца недзе ў душы,
калі сэрца зярняты пачуццяў
ператрэ, перамеле на мак,
калі ўдасца закелзаць і спутаць
моцнай рыфмаю слоў маладняк.
Так было тут і з нашай сустрэчай
ды із музыкай песняў тваіх.
Іх паслухаць мы йшлі, як на веча,
хай нам звон вечавы не званіў.
У той вечар — твой голас быў звонам,
ён — званіў з нашым сэрцам у лад,
ён — у душы нам сыпаў «лявоніх»
залацісты, агністы апад,
ён у вочы пылеў нам,
не песняй —
нашай шэрай, нішчымнай вясной,
ён — іскрыпкаю спеўнай ля весніц
сустракаў каласістую ноч,
цьмяным смуткам пад ногі нам слаўся,
зыркім вогнішчам кроў распаляў,

і смяяўся задзірыста, й плакаў,
змазваў з душаў штодзённасці лак...
Ён — з няшчырасці нас абяззбройваў,
а што нам над усё даражэй —
ён, твой голас, —
гарачай тугою
па краіне таптанай дрыжэў...
О, пясняр!
Ты так дзіўна упесціў
нас, што з душаў пяшчоты не змыць!
Хай жыве ж беларуская песня,
несмяротная — так, як і мы!

*1942, Менск*

## МЯЦЕЛІЦА

Прамінула мая улюбёная
жаўтаклённая шкляная восень.
Ужо з тыдзень гугнавай мяцеліцай
па аселіцах нема галосіць.
Наглыталіся белага соладу,
ажно робіцца горка у роце,
ды дагэтуль
 зімовую моладасць,
хоць і Каляды[1] ўжо, —
не змалоцім.
Быльнягом хіба легчы пад межамі
безбярэжнымі, аж да прадвесня,
вочы шчытна заціснуць павекамі,
падзасекамі снегу заплеснець
і чакаць,
 аж кальчастымі стрэламі
сонца
проста у сэрцы пацэліць,
ажно соладзяй млявай, аернаю
наліюцца настылыя целы,
аж усё,
 што увосені згублена

на пусткоўях зрудзелых урочышч,
зноў аднойдзецца
зеленарунную
і багуннай вясноваю ночай!
Бо што знойдзецца дзесь між галінамі —
што ж тут дзіўнага?
Толькі б імкненне,
й зноў асмужым вятранымі плынямі,
сінімі-сінімі,
нашу штодзеннасць!
Тае сілы,
што ў нас заварожана,
не прыспіць, бо і не перакрынічыць
нат мяцеліца,
колькі б над пожнямі
незагаслым ні ўспыхвала знічам!

## ВЕЧАР У ВІЛЬНІ

Расплёў, размёў віхор пярэстых хмараў дым...
Дзень адпаўзае ў змерк вузкіх завулкаў лазам.
І вее на мяне з кутоў, з муроў рудых
сівым, як даўніна, даўно забытым сказам.
Мне чуецца ці смех, ці плач, ці штось яшчэ
ў сімфоніі ціхой вячорных гукаў места.
Лязом мяча Вялля спрабуе заблішчэць,
і полымя зары Пяруна[1] хорам песціць.
Над дахамі, у выш узняўшы бель крылля,
стаіць, усё ў вагні, Трохкрыжжа на старожы,
і кленчыць перад ім лясоў ліловых шлях
ды налітыя ймглой далечы бурых пожняў...
Як тут люблю я ўсё:
чырвоны вулак брук
і залатым пяском асыпаныя дахі...
Манюся тут сваю апошнюю зару
я сустракаць,
адсюль —

пайсці адвечным шляхам.
Але пакуль жыву — хоць дзе — цяжкім каўшом
хачу я піць жыцця і мёд, і нават дзёгаць.
Хачу, каб лёс мяне на шумных кірмашох
вадзіў,
вадзіў,
вадзіў,
як лерніка сляпога.

## АБСПЯВАНАЕ

Напісаў, хоць на жарты, адзін —
абспяванае
ўсё ў жыцці,
ад звычайнае рэдзькі — да выраю,
і няма ужо слова, для вуха нязнанага,
і няма ужо думкі, па шчырасці шчырае.
Што ж, здаецца, і праўда...
Разоў, мoжа, з тысячу
навіталіся ў вершах мы вёснаў і восеняў,
анапесты, і ямбы, й гекзаметры крышачы,
зачыналі нанова зажынкі, закосіны.
Перад намі —
ўсё чыста на сіта прасеялі,
спрабавалі пяяць на мажор, па-мінорнаму,
нашы продкі йшчэ
следам паўзлі за падзеямі,
гаму колераў, гукаў разбілі, разгорнулі...
І таму мо цяпер,
хоць унукам і ўспыхвае
сэрца з кажнаю новай вясною па-новаму,
хоць і пішам аб вёснах, што сінія, ціхія, —
ажно палімся іншымі выпець іх словамі.
Мо такімі,
якія да плыні вясёлкавай
дадалі б яшчэ з дзесяць нязнаных нам колераў,
накурылі б у душах купальскімі зёламі,

запарушылі б вочы вішнёвымі зорамі...
Толькі ж дзе іх знайсці?
У якім яны вырai
шчасце шчыплюць багуннае, хмельнае, п'янае?
Так... усё у жыцці —
і найбольш нават шчырае —
захапанае пальцамі рук...
Абсяпванае...

*1942, Менск*

## УСТАНЬ, ПЯСНЯР

Так балюча, што ты не жывеш,
Што ты спіш так далёка ў чужыне.
Ў нас — вясняны п'яны сухавей
Жоўтым дымам курыць у лагчынах.

Сінім лакам малюе вясна
Вочы неба і ніваў далоні, —
Сяння ў нас люба выйсці й абняць
Свет, што пеніцца, пахне і звоніць!

Ты не з намі... Ды жаль не ў вясне ...
Ўстань,
пясняр наш найбольшы,
наш волат!
Ўстань, прыйдзі і зайграй, як раней,
На імгле, што распальвае золак.

Раззвані бомы зор залатых
На ўсе тоны, бы ўспыхнулі душы,
Каб натхненне і творчы уздым
Нас маглі ахапіць, узварушыць.

Каб мы выйшлі плячо у плячо
Лёс узяць у магутным разгоне, —
Ўдар, удар нас у сэрцы мячом
Старадаўняй Крывіцкай Пагоні!

Не шкадуй ні рукі, ні мяча,
Наш пясняр найвялікшы,
наш волат,
Ўстань, прыходзь тут між намі спаткаць
Наш вайною распалены золак!

*[1942]*

## ХАРАСТВО

Лакам рожавым апырскаў неба вечар...
Я —
іду удаль з паніклай галавой.
Трэба воўчае, даправўды, мець жа сэрца,
каб бясклопатна
піць сяння хараство...
Столькі едкае бязглуздзіцы наўкола,
столькі тайніцаў
пякучых і гаркіх,
што нат сорамна вышэй узняць нам голаў,
крок жвавей сыпнуць
на шэрыя шляхі...
Хараство...
Антычны свет..
Санет Пятраркі[1]...
Ну а кроў,
трупоў грымасы — гэта што?
Як спяваць,
калі ахвота злосна гаркнуць
або сэрцам бразнуць з роспачай
аб ток?
Што з таго,
калі й цвітуць зарою вейкі,
водбліск вечару трапеча уваччу?
Душыць,
душыць нас смугой слізкой і клейкай
задаўнёны жаль,
а лепшага — не чуць!

Ці адзін тут з нас
Крывіччыне пад ногі
ўчора скінуў з плеч
апошні свой рызман?
Дзіў,
 што гне цяпер,
захлыстваe трывогай
нас
 падзей і слоў бурлівы ураган...
Ды
 не даць яму ўсё ж рады із народам,
не,
 не знішчыць нас —
нікому у жыцці.
Дык чаго ж чакаць нягодаў, з пекла родам?
Лакам рожавым —
нам вечар зігаціць!

*1943*

## У НАВАГОДНІ ВЕЧАР

Рвецца,
рвецца,
парвалася,
знікла
ў хмарах неба вячорная ніць:
новым вершам я,
новым іх цыклам,
пачынаю зімовыя дні.
Зоры снегу скідаю з расніцаў
(цалаваць — хай цалуюць у твар).
Кружа ў думках,
мігціць,
мітусіцца
нейкіх словаў няздзейсненых чар.
Хай мігцяць...

Усё роўна збяру я
іх у верш ці паэму пасля,
а цяпер...
размяту па-над руняй
снегавой...
Сяння я — не гусляр
не паэт...
Па-вясенняму сіне
уваччу, серабром пад дугой
заліваецца сэрца, бо гіне
год стары й новы родзіцца год!
Можа, будзе да нас ён ласкавы,
а не гэткі — з слязьмі і крывёй,
з кажным днём, можа,
з кажнаю справай
праўдзівей, праўдзівей зажывём...
Пералічым крыжы
і павернем
забываць,
будаваць
і тварыць,
новай праўды прарошчваць зерне
на папелішчы праўдаў старых!

*1942—1943*

## З КАМАРЫНАЙ ПЕСНЯЙ

Ледзь астыг над руняй маладою
залаты, гарачы жвір зары, —
пацягнулі з песняй камары
у лагі,
ўпівацца сырадоем...
І чамусь —
надумалася й мне
скінуць з плеч штодзённасці пастронкі
й з камарынаю гурбою звонкай
патануць у цёплым тумане...

Бо дадзела
усцяж па нечым плакаць,
у далонях крыць настылы твар,
кажны страх,
і крыўду,
кажны ўдар
пераЖоўваць сто разоў, як жваку.
Збрыдла жар надзей з-пад друзаў выграбаць,
і назад пужліва аглядацца,
і цярпець,
каб хіжым рыжым пацам
грызла сэрцы нам змярканнямі журба...
Не, дарма!
Нас выстругаў калісьці
не з мяккой, струхлелае асіны кон,
але з дубу моцнага, пад звон
рэзвых ветраў і буйнога лісця.
І таму —
не ў дол, а дагары
мы глядзім, зрадніўшыся з жудою,
хай плывуць над руняй маладою
з недапетай песняй
камары...

*1943, Менск*

## НАШЫМ ПАЭТАМ

У кажнага з нас, песняроў, свае мроі,
у кажнага з нас, песняроў, свае вершы.
Ці варта
скрыжоўваць і словы і зброю,
ці варта спрачацца,
хто «першы ды з першых»?
Паэту ж адно — абы ясна і сіне!
Збірае ён з роўнаю, пільнай уцехай
і белую наквець вясновых калінаў,
і восеньскіх клёнаў зрудзелыя вехці,
патрапіць набрацца прыгожасці дзіўнай

і з россыпаў зорных,
і з сонечных пасмаў,
і з чорна-крывавых рабрынаў руінаў,
абдзёртых са скуры жывое і мяса...
Не!
Зайздрасці горкае знаць не павінна
дрыготнае, ўзлётнае сэрца паэты.
Ніхто ж яго ў лёце імклівым не спыніць.
Айчынай ягонаю — сіні сусветаў,
ён з песняю Млечнай вандруе дарогай,
парослаю росным сівым малачаем,
ён — месяцу спрытна прыкручвае рогаў
і ў продань міжзорных прастораў лучае,
глядзіцца адважна і ў мглістую прышласць
і даўных падзеяў разблытвае шэрасць,
захоча —
гекзаметр Гамеравы[1] крышыць,
захоча —
йрве краскі граху із Бадлерам[2]...
І свету
адны толькі вінны ён ласкі:
захоўваць памеры і рытм беззаганны,
у ладкі над горам народным не пляскаць
і смехам не сыпаць на свежыя раны...
А ранаў тых шмат:
ад мячоў
і ад словаў,
ад восеньскіх бураў,
ад мрояў,
ад вершаў...
Зальем жа вадою гаючай, жывою
іх мы, песняры,
ці апошні, ці першы!

*1943*

## НАПРАДВЕСНІ

Паўшываў у хусцё палявін
вечар прошвы ружова-сінія,
далеч хмелем сівым завіў,
пачыркаў соткай мяккіх лініяў.
Пад нагамі галосіць снег
палазянай,
рыплівай нотаю,
але штось аб блізкой вясне
сэрца мроіць з лянрй ахвотаю.
Хоць і знаеш яе, вясну,
за найбольшую ў свеце зводніцу, —
дзіўна соладка піць ману,
з ёй і думкі й хаценні
годзяцца.
І хоць гэтулькі іх ўжо было —
вёснаў бела-зялёна-ўспененых, —
яшчэ раз
да яе ў палон
пойдзе свет,
каб цвісці й зяленіцца!

*1943*

## ЛЯТУЦЬ ЛІСТЫ

Лятуць лісты пуцінай жураўлінай
у вырай сонечны даўно.
Мо крылы й нам,
і нам узяць раскінуць
і ў сіню рынуць, аж на дно...
Мо мераць дні, як залатыя вёрсты,
і выглядаць гранічных вех,
аж не прысыплюць снежныя пялёсткі
і слёзы нашыя,
і смех...

Лятуць лісты пуцінай жураўлінай
і вабяць нас удалячынь.
Ды з жоўтых пожняў роднае краіны
дай, кон,
у свет нам не ўцячы.
Мы неаглядна сэрцы застрамілі
каханнем палкім і дзіўным.
Няхай лятуць лісты сівыя мерацъ мілі —
там,
без Цябе,
што ж варты мы?

***1943***

## МОЎЧКІ НОЧЫ СУЗОР'ЯМІ КАПАЮЦЬ

Моўчкі ночы сузор'ямі капаюць
на стаптаны, скамечаны снег.
Над хваінай сівой, сівалапаю
месяц дугі ад вечара гне...
А у думках — гады пераэкытыя,
безліч белых да прыкрасці зім,
ніткі тропаў, што гурбы аблыталі,
нудны спеў, што вядуць палазы,
белых стрэхаў снапы, абабітыя
злой, куслівай Ягой — ветругой,
мроі, што пад аснежаным выкратнем
закілзаць не даюццай тугой!

Ды чаму б
і не ўпесціцца мроямі,
аж пачне над радзімаю днець!
Моўчкі капаюць ночы сузор'ямі
на стаптаны, скамечаны снег...

***1943, Менск***

## ЧАГО ТУЖЫЦЬ

> Не заірдзіцца у кустох ружова ранне,
> І толькі ў чужыне прысніцца мне.
>
> *Л. Геніюш*[1]

Я не тужу сягоння па краіне.
Сягоння —
Бацькаўшчына й мы — адно.
У кажным сэрцы тут яе аскепак сіні
мігціць,
запаўшы глыбака на дно.
Балюча ёй —
і мы віёмся з болю,
а крыўдна —
й мы сціскаем кулакі.

Яе туга —
і нас шыпшынінай дзідай коле,
бяда —
ўбівае й нам
у сэрцы клін.
Жывём айчынай мы...
Айчына — намі...
І мы тугой яе не важымся карміць.
Што слёзы прадзяўбсці патрапяць нават камень,
ну, гэта і стары,
й зусім няўдалы міт...
Нам не да міту ж тут...
Па воўчых тропах ловім
мы змрочнай ночай крок паўночных валацуг,
мы вучымся ніжэй не пахіляць галоваў,
як толькі да зямлі,
хадзіць нага ў нагу...
Здараецца,
што той і гэты з нас прыстане,
у шэры пыл падзе, смяротным сцяты сном, —
апусцім вочы —
й дальш!
Хто ж долю купіць танна?

Нам смерць —
не страх, не дзіў,
калісь — усе ж памром.
Чаго ж тужыць па Бацькаўшчыне сяння?
Не ворагам,
а нам туга — у сэрцы нож!
Мы паміраем тут,
каб з песняю сялянкі
маглі і заўтра йсці
«дарогай басанож»!
Каб зноў было ў палёх ад белай грэчкі бела,
каб з матчыных вачэй
навечна сплыў адчай,
каб слова роднае ніколі не датлела,
«упаўшы дзесь у польны малачай».

*1943*

## ТУМАН

Вечар...
Па бурым аржонні нябёс
бродзіць сузор'яў разгублены статак...
Месяца плёнчык з-пад хмараў прарос
і задрыжэў, заківаўся, заплакаў
ў лужынах срэбным рассыпаным макам...
Недзе згукаюцца восі калёс
крыкам, вырва́ным дзіўным пералякам.
Вецер іх крык падхапіў і панёс
проста ў каноплі, сівыя ад рос.
Выпаўз, прываблены рэхам тужлівым,
з цемры рызманны туман — на спажыву.
Выпіў ён скаргу сялянскіх калёс,
высмактаў вецер вячорны, скуглівы,
вылізаў зоры і шэрасць нябёс,
сыты —
разлёгся да рання на нівах...
А у душы,
як на злосць цішыні,
ўспыхнулі думкі агнішчам начлежным.

Крыўдна ім даць дагарэць у вагні
і не насыціць душы як належыць
словам ды рыфмай —
пяснярскаю ежай.
Буду ж пяяць...
толькі ціха, бо сніць
шчасце мо свет пад дзяружнай адзежай.
Шкода будзіць, блытаць ясную ніць,
можа, адзіную ніць, што спыніць
шэрым людзям не дае падарожжа
шляхам жыццёвым, цяжкім і варожым...
Нат шкадаваць я не буду ані,
калі мяне не пачуе, быць можа,
сяння ніхто...
У мутной цішыні
свету шлі сны толькі светлыя,
Божа!

*1943*

## ПРОСТА Ў ВОЧЫ ЖЫЦЦЮ

Так, жыццю дагадзіць немагчыма...
Лёс —
пражэрлівы, прагны стары...
Ён не сцішыцца, покуль не выме
духу з цела без права й пары...
У спагадай сагрэтыя рукі
ён чужое душы не бярэ,
не спяшаецца кволых адхукаць,
не імкнецца вандроўных сагрэць.
Можаш, молячы, моргаць вачыма,
можаш слацца пад ногі, як дым,
ён табе яшчэ пальцы ушчыміць,
яшчэ ўсмак насмяецца з бяды!
А наважыш із ім прававаца,
свае праўды даходзіць — канец!
Ён не раз і не дзесяць, не дваццаць
цябе з роду у род пракляне!

Хай жа лепш і кусае і раніць
сэрца
болю калючы асцюк, —
трэба, зубы заціснуўшы, глянуць
проста ў злосныя вочы жыццю.
І яно
іх апусціць нязручна
і усмешкаю выкрывіць рот...

Хто прад лёсам віхляе анучай,
той і звацца не варты «народ»!

*1943*

## ПРЫСЯГА

Беларусь!
Наша Маці-Краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і не згінем,
пакуль Ты нас наперад вядзеш!
Пастаім за Цябе, як асілкі,
нашы сэрцы палаюць агнём,
дружна, мужна
за лёс Твой расцвілы
супраць Чорнае Моцы мы йдзём.
Не шкада нам жыцця маладога,
не шкада нам гарачай крыві,
абы толькі праменнай дарогай
крочыў горда народ наш жывы!
Прысягаем
                Табе мы сягоння,
што пакуль хоць адзін з нас жыве, —
нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
мы не зганьбім,
                мы ўславім яе!

*1943*

## ВЕЛІКОДНЫМ РАННЕМ

Налілася далеч радасцяй зялёнай...
Нават думкі тыя — рой пчаліны зор —
аб вясне і сонцы й сінім ветры звоняць,
пахнуць залацістым мёдам і вузой!
Расчынілі сэрцы мы вясне наросцеж, —
хай нуду сівую вымеце як след,
хай апаліць вечнай пеннай маладосцяй
нашыя хаценні
дый ляціць далей!
Дзень яшчэ ці дзесяць —
і пялёсткаў снежных
май насыпле ў сеці яблынных садоў,
выйдзе свет заворваць быльнік на узмежжах,
выглядаць на руні сонцавых слядоў!
Праўда, не адно нам давялося знесці,
праўда —
й наша сяння шчасцем не тутніць,
ды яшчэ так хутка не астынуць песні,
не прыстануць сэрцы,
не датлеюць дні!
Эх, чаму ж вясняным велікодным раннем
не сягнуць крыламі ў сонца, як Ікар[1],
не сысці нарэшце з вечнага расстання,
з крыжавых дарогаў
нам з табой, наш край?
І чаму на гнуткіх і пявучых струнах
новых пуцявінаў, сцежак і дарог
не пайсці вось гэткім раннем цёмнарунным
рэзаць маршы жвавым, рэзвым смыкам ног!

*1943*

## НА ПАРОЗЕ ВОСЕНІ

Прарыпелі гарачыя дні
залатымі важкімі вазамі.
Тыдзень, два —
ўзноў іржою запляміць

восень пожні скачаныя ніў,
перадчаснай сівізнай ссівеюць
пад парканам крывым быльнягі...
Толькі ж нам
з імі разам не гніць,
нам
не суджаны сон і бяздзейнасць.
Давялося нам жыць і тварыць
у грымотныя дні навальніцаў.
Мы —
народ не ціхі ўжо, не ніцы,
Мы — ці хочам, ці не —
змагары!
Мы закулі у панцыры сэрцы,
ні трупы́ нас не кволяць, ні кроў,
ды за роднага краю дабро
мы гатовыя
штодня памерці.
І хай раз за разом нас той кон
туга скручанай сцёбае пугай, —
праз мутой налітыя калюгі
мы ідзём,
пакуль сілаў і дзён.
Не спыніць нас...
«Пад камень ляжачы, —
кажуць людзі, —
й вада не цячэ».
Нашы ж сэрцы — не камень яшчэ,
нам карціць не адно яшчэ ўбачыць.
Дык няхай у прадонне плывуць
дні й здарэнні нястрымнай улевай,
хай нат сэрцы ушчэнт зайржавеюць, —
не угнём
прад жыццём
галаву!

*1943*

## МЫ — МОЛАДЗЬ

Мы — праўда,
мы — сіла,
мы — радасць,
мы — рух!
Выцягваем крылы
мы ў сонца, ў зару!
Мы ймкнём на узвышшы,
нам — межаў няма,
здаецца нам прышласць
праменнай, як май!
Мы — шчырасць!
Сваволя!
Мы — песня!
Мы — смех!
Вітае нас доля
мільёнам уцех.
Бядзе, ураганам
смяёмся мы ў твар,
вясёла, шматззянна
нам зоры гарадь!
Ніхто нас не спыніць
у лёце да зор!
Мы — імпат няспынны,
мы — моц!
Мы — віхор!
Мы выйшлі з народа,
з крывіцкай сям'і,
і ў кожнай пагодзе
з ім побач стаім.
Мы з краем каханым
расцём угару.
Мы — свежасць!
Мы — ранне!
Мы — радасць!
Мы — рух!

*1943*

## АСЕННІ ВЕЦЕР

Асенні вецер зноў гайсае
Па жоўтым ляніпічы палян.
Мятуць бярозы валасамі
Нябёс запылены дыван.

Лісцё рабін, крушыны, бэзу
Палае меддзю і агнём.
Над свежым ворывам гарэзіць,
Ваюе з ветрам вараннё.

І дзіўнай соладдзю кладзецца
Зноў на душу асенні дым.
Гарыць пявучым смуткам сэрца,
Як плаўкім золатам сады...

Я страсянула раннем сінім
З сябе ўчарашніх спраў цяжар,
Знайшла свой шлях... Іду з краінай
Пад новы плён араць папар.

І хоць упарта, аднастойна
Пляткарыць вецер у галлі, —
Я па-асенняму спакойна
За прышласць роднае зямлі.

*[1941—1943]*

## ВАРТА ЖЫЦЬ

Пазмятала даўно кволай жоўтай далоняй
восень пену лістоўя з пажоўклых сцяжын.
Адцвілі верасы, ад'ірдзеліся клёны,
але ж трэба і сяння
змагацца і жыць!
Кажны з нас яшчэ ж верыць у нешта святое:
хто ў Хрыста,
хто у Край,
а хто — проста ў сябе,
і пад вейкамі смагі жыццёвай не ўтоім
мы,

як нізка ні гнула б нам гора хрыбет.
Варта жыць!
Варта вечна чагось спадзявацца,
чуцца часткай айчыны, малой а жывой,
песціць сцерплыя пальцы адвечнаю працай,
развіваць слоў і чынаў бясконцы сувой
і тварыць...
Заўтра ж з неба зарою крамянай
не зляціць
і не выцвіце з нетраў зямлі.
Наша заўтра народзіцца з нашага сяння,
з усяго, што нас цешыць
і што нам баліць.
Калі ж мо й давядзецца няўсцішныя сэрцы
йшчэ ці раз нам снапоўем злажыць на таку, —
не бяда!
Ўжо нікому наш след не зацерці
на гасцінцах зямных,
нашай сілы — не скуць!
Хай цвітуць верасы,
хай мядзяняцца клёны,
хай мяцеляцца зімы над беляй сцяжын.
Нашу долю мы ймклівей за ветры здагонім,
а для гэтага варта
змагацца
і жыць!

*1943*

## АСЕННІ ХОЛАД

Так неяк збрыдла мне усё.
Жыццё даўно ў жалобнай раме.
Стаптаны мрой сівы драсён,
трэ зачыняць, здаецца, краму.
Ні новых тэм, ні слоў няма,
усё абсмоктана, бы костка.
Хто ж днём асеннім пераймаць
памкне бель яблынных пялёсткаў?
Хто з шэрай сівернай імглы
наткаць патрапіць ясных тонаў?

Хто пераўе сухі палын
на шоўк вясны, мяккі й зялёны?
Бадай у кажнага ў грудзёх
трымціць асінавае сэрца.
Не чуе свет з трывогі ног,
ці ж да актаў яму, да тэрцын?
Спявай сабе, як салавей, —
на радасць песні не спатрэбіш.
Пагардай сяння дарэць верш:
з яго ж не вымеш булкі хлеба,
не затаўчэш ім і куцці,
не вернеш тых,
каго не стала.
Скрозь нудна, шэра у жыцці,
навін так шмат —
і гэтак мала!
Дык хоць гарыць лісцё асін
чырвоным сполахам наўкола,
сінеюць пальцы, і ў душы
такі асенні, золкі
холад...

*1943, Менск*

## МАЛІТВА

Магутны Божа! Ўладар сусветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларуссяй ціхой і ветлай
рассып праменне Свае хвалы.
Дай спор у працы будзённай, шэрай
на хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласць — дай!
Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу і наш народ!

*1943*

## УСПАМІНЫ

Дзедка, чаго ты? Ну, ведама, дзеці,
вось і смяюцца. Смех іхны йшчэ танны.
Лепш адпачні тут у сонцы... На свеце
сяння ж такое блакітнае ранне!
Вецер вясновы спаўе цябе, змые
з вуснаў і горыч, і... слова благое...
Досі ж у гневе размахваць кіем,
гора, дзядуля, і так ты не ўтоіш.
Кажаш — згадала я?
Кажаш, забралі
сына на бойню у першае ж ранне,
йшчэ калі сонца між хмарных прагалін
жутла-чырвонай крывавіла ранай,
глуха вароты рыпелі на вёсцы,
плач маладзіцаў ірвучы на пасмы,
недзе ж за лесам у ладкі хтось плёскаў
гулка, грымотна і страшна?
Кажаш, за ім
із акрайцам апошнім,
высахлым, бегла, не збеглася, баба,
кажаш,
адгэтуль вось нейкая пошасць
кіпцямі сэрца спанатрыла скрабаць?
Жвавасць згубілі няўтомныя рукі,
прысачкам шэрым засыпала вочы,
селі на карак бяссоннай дакукай
полымем злітыя ночы?
Кажаш,
быў хлопец адзінай удачай,
хіба, тваёй у жыцці... ну й загінуў...
Дзедка, паслухай —
хто ж сяння не плача
ці па бацькох, ці па сыне?
Хто не згубіў у вірлівым разгоне
дзеяў
ці ўсмешкі, ці сэрца, ці шчасця?
Эх, каму, цісночы рукі,
сягоння

гора не крышыць і пальцаў, і пясцяў?
Толькі — што з гэтага?
Глянь у засценкі
шэрых руінаў, прадонні пажарышч:
сонечным мёдам, салодкім і пенным,
зноўку залоцяцца іхныя чары,
зноў васількамі красуе паднеб'е,
зноў аж заходзяцца смехам зялёным
лозы,
        і мякка, пяшчотна цярэбіць
вецер вясновы чупрыніны клёнаў...
Дзедка,
        так будзе штогод...
І астыне,
        хочаш ці не, — найдзічэйшая роспач,
і адцвітуць пакрысе успаміны,
як пустацвет, неўсцярэжна і проста...
Ну, дык чаго ж ты?
Кінь, ведама, дзеці,
вось і смяюцца... смех іхны йшчэ танны.
Лепш адпачні тут у сонцы...
                                        На свеце
сяння ж такое блакітнае ранне!

*1943, Менск*

## СТУДЗЕНЬ

Студзень снегу назмятаў са свету,
зраўнаваў бель стрэхаў і аселіц.
Матылём ля гурб віецца вецер,
сонцу соннаму пасцелю сцеле.
Вечар сцені ў засенях успеніў,
накідаў калод упоперак дарогі.
На маіх вячорных летуценнях
хіба чорт
і той паломіць ногі.
Ну й аб чым нам можа сяння сніцца?
Нат няведама,
з чаго й пачаць такое.

Шчасця не прымчыць з далеч сініца,
слава мне не ўсмак з часоў старое Троі[1].
Трэба жыць, і ўсё.
Аб чым тут мроіць?
Мроі свету не вядуць наперад.
Сяння
імі ранаў не загоіш
і не ўкінеш нашай дзіўнай долі ў берда.
Смешна сяння ў трубадура ўцелавіцца,
аб Раландах спеў цягнуць пад тынам:
кажны з нас тут сам
Раланд[2] і рыцар,
Рансевальскаю далінаю — Краіна.
Не да «ніцых» нам сягоння летуценняў,
рытмы маршаў адбіваюць ногі,
хай змярканне пасмы сініх сценяў
і кідае ўпоперак дарогі.
Хай змятае студзень снег са свету,
бель раўнуе стрэхаў і аселіц,
хай ля гурб віецца з песняй вецер,
сонцу соннаму пасцелю сцеле.

***1944, Менск***

## О, РОДНЫ КРАЙ!

Мне вечар разгарнуў пурпурныя балоны
вялізнай бібліі,
якую зваць «жыццём».
Яе лістаю я, а сонца дыск чырвоны
збіраецца тым часам науцёк.
Не затрымаць яго,
як не стрымаць жаданняў,
як не стрымаць гадзін і дзён,
што лёс дае.
Яшчэ часіна, дзве...
і з дна начы вяснянай
устане цьмяны сон і шыю абвіе.

І будзе спаць,
хто спаць яшчэ сягоння ўмее,
і смачна грызці сны, бы яблык сакаўны,
хай ці адна бяда яшчэ над светам спее,
хай і гудзе вакол дзікі пажар вайны.
Дзіўныя ночы й дні мы кідаем за плечы,
дзіўнейшыя яшчэ нам прыйдзецца спаткаць.
І добра!
Шмат каго мо лёс і пакамечыць,
ды сілы набяруць і сэрца і рука!
А сілы трэба нам,
магутнай,
чараўнічай,
каб выкуць светлы лёс,
каб зло перамагчы,
каб Нёманаву сінь і Буг, і срэбра Пцічы,
і ветлы наш народ
як шчасцю навучыць.
О, родны край!
Другі такі ці ж ёсць на свеце,
ад сонца залаты, сівы ад тумаnoў,
і белы
і густым, вясновым, пенным веццем,
і чыстаю, як снег,
душой тваіх сыноў!

***1944, Менск***

## САЛАВЕЙ

*М. Забэйду-Суміцкаму на 15-я ўгодкі*
*ягонае пяснярскае працы*

З выраем звонкім, што з ветрам плыве,
зноў ты да нас прыляцеў, салавей,
роднаю песняй нас песціць.
Зноўку твой голас узбурыць да дна
нашыя сэрцы, як сонца й вясна,
госці ў закураным месце.

Дык заспявай нам, заліся, вазьмі,
як у зялёным хмыззі салаўі
вечарам сінім у траўні.
Пей нам аб сонцы, што ў лозах густых
жоўта-сярэбраны гойдае дым
рухам павольным і плаўным,
пей аб вясне, што ружовы туман
сцеле ўваччу і на свеце на зман,
пей аб тузе і уцехах.
Песняў тваіх раззалочаны сум
ветры па рунях сівых панясуць,
збудзяць вясновае рэха.
І заліецца ўвесь край, загудзе,
ажно кругі паплывуць па вадзе,
яблыні ўздымуць завею.
Пей, салавей, хай па свеце гучыць:
слаўна ж умеюць спяваць крывічы,
з песняй — іх лёс не ссівее!

*Менск, 1944*

## СМЕЛА, НАПЕРАД

Лёс мне казаў сяння быць амазонкай[1],
меч даў у рукі, а сэрцу адвагу,
годзе спяваць па сасонніках гонкіх,
годзе змярканні абдорваць увагай.
Смела наперад,
не ў сонечны вырай,
як бы ні вабіў ён мёдам і хлебам,
але праз шэры трыпутнік і пырнік
бацькаўскай сцежкай, радзімаю глебай.
Смела наперад,
насустрач лагчынам,
вольхам, апырсканым травенскай цвіляй,
хмарам пярэстым, падзеям і чынам,
дзе пехатою, а дзе і на крыллі.
Іх не зламала нам горкае ўчора,
іх нам не зможа й змагарнае сяння.

Смела наперад,
хай рэха уторыць
нашаму маршу па сцежках жарсцвяных.
Клікаць жыццё, жыць пустою надзеяй
смешна,
пакору час пылам распыліць.
Сяння мы самі жыццём паланеем,
сяння мы самі — надзея і сіла.
Смела ж наперад,
не ў вырай прывольны,
як бы ні вабіў ён мёдам і хлебам,
але па нашую ўпартую долю,
птушку,
што ўсё йшчэ
лунае ў паднеб'і!

***1944, Менск***

## НЯХАЙ ЖЫВЕ ЎПАРТАЯ РУКА

Без сонца жыць не ўмее калассё,
а без таго драбочка шчасця — людзі.
Таму праз асаты ды праз трысцё
мы ймкнём, каб долю ўзяць за грудзі.
Не час цяпер, як ляльку, спавіваць
яе ў пяшчоту слоў ды просьбаў лопат.
Каб ніваў пух не ўкрыла ўсцяж трава,
ці ж пары дужых рук не хопіць?
Дык хай жыве
упартая рука,
пяро ці плуг
яна трымае сяння.
Дзядамі босымі ды з торбамі блукаць
мы ўжо не хочам на світанні,
не прагнем больш часінку супачыць
у пыле
коламі ўзаранага гасцінца,
з пакорай стукацца пад вокнамі ўначы
і кажнай цешыцца і костцы, і скарынцы.

Мінуць,
маўляў, вада вясновая, сплывуць
і гэтыя гады завей і падняволля.
Узноў у сонца мы узнімем галаву,
і мо адно ўспамін
праймаць нас будзе болем...
Забудзецца і ён...
Працуйма ж, распачаць
аб хлебе заўтрашнім
і позна, і зарана.
Няхай жыве упартая рука,
пяро ці плуг яна трымае сяння!

*1944, Менск*

## ВЯСНОВАЕ

Мне вясна ў галаве закруціла,
и сягоння п'яная вясной.
Зацвітае вясновай цвіляй
у сасонніках сіні сон,
сонца золатам косы чаромхаў
падплятае,
мігціць у траве,
сяння сэрца усё навонках,
хоць з вятрамі вазьмі развей!
Глянь!
У руні радкой яшчэ, тонкай
зерне сонца дзяўбуць крумкачы,
з неба песняў жамчуг жаўронкі
сыплюць,
робячы першы пачын...
Сыпце й вы серабраныя кроплі
слоў раззвончаных,
вершы мае!
Мо званчэй мы за ўсіх ухопім
сяння гімн адспяваць вясне.

*1944, Менск*

## ДЫСАНАНС

Сыпле цёплым жвірам
сонца проста ў твар,
уваччу ўсё шырай
залаты пажар.
Скачуць па балонках
«зайчыкі» й пяро.
Каб хутчэй із сонцам
скочыць за парог!
Не сядзіцца неяк
мне сягоння тут:
заўтра ж вішні белай
беляй зацвітуць.
І здаецца — гэткай
кволай вішняй я
аб вясне над светам
буду зноў пяяць.
Гэта я, не вішня,
белы, сыпкі снег
буду сыпаць цішкам
у мой верш,
ці ж не?
Я — пачую радасць, —
прызабыты скарб —
я дам жалям рады,
уздыхнуўшы: «Каб,
каб хутчэй, нарэшце...»
І... стае пяро...
Ну, й каго тут цешыць,
калі ўсюды —
кроў?

*1944, Менск*

# НЕ АСТЫЦЬ НАМ

Залатою мяцеліцай кружаць лісты,
дываны залатыя па вуліцах сцеляць.
Нам, сябры,
й на чужыне, відаць, не астыць,
не пачуцца старымі ні сэрцам, ні целам.
На змярканні,
калі аб брусы каміноў
месяц серп свой стары і зазублены гойстрыць,
калі цягне усё да лятункаў, да сноў, —
лічым мы і далей
адно крокі ды вёрсты.
Навіліся ўжо туга на шпулю шляхі
крывічоў — нашых продкаў, бацькоў,
ну, і нашы,
але ўсцяж прад вачыма адно небасхіл,
зоры й далечы ўсцяж нас і надзяць, і страшаць.
Мы ўсцяж верым,
што нашыя сцежкі ў тупік
не вядуць, так упарта чакаем світання, —
і яно расцвіце,
Край яго не заспіць,
ці ж дарма столькі год уздыхалася:
станься!
Хай сабе сівер трэпле шматкамі лісця,
й трэплюць нашымі сэрцамі тут успаміны.
Як лісцё: мы іх кінем у ймглісты прасцяг,
не яны сяння твораць важкое,
а чыны.
Найяснейшы ўспамін — гэта толькі ўспамін,
хай сабе дарагі, хай упойны...
Нам, воям,
што па ім, калі лёс наш мудрэйшы за сны,
калі кажная жылка ў нас б'ецца крывёю,
калі нам і ў чужыне ніяк не астыць,
не пачуцца старымі ні сэрцам, ні целам,
хоць і восень ужо, й залатыя лісты
дываны залатыя па вуліцах сцеляць.

***1944, Берлін***

# ІМКНУЦЬ ДНІ

Імкнуць, як на ветразях, шпаркія дні,
няўтомна, няўлоўна, без смеху, без сыці.
Ды люба душу непакоем дражніць,
асенняй трывогай трымцець, залаціцца...
Хто ведае,
можа, пакутай, жудой
нам быў бы дзядоўскі спакой ці пакора
і ў шчасці —
із прагай дзікой, маладой
шукалі б мы дробных аскепачкаў гора.
Сягоння, прынамсі, жывём запраўды
мы й кажнаю думкай
і кажным імкненнем.
Не трэба нам праўды з манoccю гадзіць,
не рупіць —
мы грэшныя болей ці меней.
Нат шчасце —
і тое інакшае ў нас:
не сон супакойны, а чын і змаганне.
Інакшаю ўцехай нас поіць вясна,
інакшай тугою нас восені раняць...
І цяжка нас слоўкам пустым спадманіць,
спаіць палыном мест купальскага зелля.
Імкнуць, як на ветразях, шпаркія дні,
у лепшае заўтра
дарогу нам сцеляць.

*1944, Форст*[1]

# НЕ

Узмахнула зыркім крыллем
над руінамі зара,
і расцвіў ружовай цвіляй
пажарышчаў смутных рад.
Зноў узорыліся дзесьці
прорвы чорныя вакон...
Мітуслівы гоман места
сцяў нарэшце чуйны сон.

І адно па рэйках звоніць
капытмі Пегас[1] — трамвай.
Сню...
і ў снох маіх сасоннік,
ціша,
росы
і трава...
Эх, каб нам, маё натхненне,
выйсці сяння у палі
у вагнішчах палыменных
грэчак сум стары паліць
і цвісці разом чаромхай,
і шыпшынай, і ліпой,
а не кручай дзікай, стромкай
недзе ў змрок брысці ступой.
Дык хадзі ж,
пакінем брукаў
паблытаныя шнуры.
Слёз чужых набраўшы ў рукі,
цяжка, ведаеш, тварыць.
А тут сяння
кажны камень
зліты нечыяй слязой...
Не?
Ну што ж,
хай месяц раніць
сэрца й нам крывым лязом.

*1944, Берлін*

## УСМЕШКА

Як малое дзіця,
ён шукае рукі —
апякункі, бы ў шэрую цемру не рынуць.
Кіем ловіць прастор...
Маладзенькі такі...
А навокал —
руіны, руіны, руіны...
Ранкам жнівеньскім сонца бадзяжыць у іх,
ночай — плачуць над іхнай пачварнасцяй зоры...

Свае зоры — блакітныя вочы — ў баі
ён за сонца для іншых аддаў із пакорай.
Як штодня,
места ймкне, мітусіцца, бяжыць,
аж не ляжа на ходзішчы попельны вечар.
Ён стаіць...
Больш ні мэты ў яго, ні мяжы...
Для сляпых жа ні сцежак няма,
ні далечаў.
А для нас, лёс?
Для краю, што ў неба гарыць?
Для абкрадзеных матак?
Чым гэтых суцешыць?
Чым ім жыць, адкажы!
І вось тут... на твары
без вачэй
расцвіла, задрыжэла усмешка.
Быццам сілай наліў нехта чару нябёс...
Зноў пасыпалі ліпы залочаны прысак...
Не,
падступны, кусьлівы, насмешлівы лёс,
нат ахвяраў сваіх
ты не змусіш скарыцца!

***1944, Берлін***

## НЕ ПЛАЧЦЕ

Не плачце...
Не таму, што слёз шкада.
Ці шкадаваў іх хто калі дзеля краіны?
Але таму, што лёс яе нам зноў аддасць,
тут, на чужыне,
нас не кіне.
Мы вернемся дамоў!
З адкрытай галавой,
із сонцам у душы і песняю на вуснах
мы пройдзем па шляхох, парослых злой травой,
апырсканых крывёй, —
і ў пыл затопчам вусціш.

Як зоры,
на вачох у кажнага сінець
каралі будуць слёз,
хоць выплакана столькі.
Ды вецер з родных ніў журботу аджане
і павымае з душ тугі дзікое голкі.
Прысеўшы на пяску пад ніцаю вярбой,
падставім мы вятром паніклыя чупрыны
і скажам:
— Родны Край,
даў Бог, мы зноў з Табой.
Дазволь служыць Табе,
мы ўсё з пакорай прымем.
І усміхнуцца нам, аж сэрца забаліць,
і усміхнуцца зноў, аж у грудзёх заколе,
Крывіччыны мае блакітныя палі,
каханыя ў чужой краіне,
як ніколі.
Не плачце ж,
не таму, што слёз шкада.
Ці шкадаваў іх хто калі дзеля краіны?
Але таму, што лёс
яе нам зноў аддасць,
тут, на чужыне,
вас не кіне!

***1944, Берлін***

## ЯШЧЭ КРЫХУ

Заміж сноў сакаўных, зялёных,
мроі жоўтыя сніць зямля...
У ачко із жыццём і сконам
мне дадзела ўжо гуляць.
Ды гуляй — не гуляй,
а з касою
ўсцяж вакол пахаджае смерць,
чорным макам нас пільна поіць,
лютай сцюжай у вочы дзьме.

Ссябраваліся мы, як з сябрам,
і з чужой бядой,
і з сваёй.
Сяння ж свет увесь — дзікі табар,
дзе адзіны пан —
пугаўё.
Але нашыя спіны цвярдыя,
іх не зломіш,
баржджэй — батог.
Ці ж дарма нас ніўя пустыя
гадавалі
і пыл дарог?
Ці смакуе не роўна востра
нам і радасць цяпер
і жаль?
Ці жывём мы не ўсцяж па-свойску,
хоць далёка свая мяжа?
Шчэ крыху —
і параім смерці,
і загонім у кут бяду,
хай сабе нас цягаюць чэрці
паўз агонь, жаляззё й ваду!

***1944**, Берлін*

## ЗВІНІЦЬ МЯДЗЯНЫМІ ЗВАНАМІ

Звініць мядзянымі званамі
над галавой метал лісця...
А мы
пытаемся ў жыцця —
варажбіта,
што ж будзе з намі?
Куды цяпер нас павядзеш
ты, наш стары крывіцкі Коне,
ці наша змрочнае сягоння
йшчэ зменіш ты на ясны дзень?
Ці мы у сіняе світанне
яшчэ узнімем з верай зрок?
Ці з пылу крыжавых дарог

калі на ногі моцна ўстанем?
Усё далей, далей, далей,
дзесь у сівыя далячыні,
сплывае шчасце...
Смазе чыну
ў грудзёх, аднак, не спапялець.
Яна не згіне нават з намі,
бо ўслед нашчадкі возьмуць сцяг.

Звані ж, звані, метал лісця,
ўгары мядзянымі званамі!

*1944, Берлін*

## БЕЗ ПЕСНІ ЖУРАЎЛІНАЙ

Сказалі ўсё, што мелі, адшасцелі
аб залатой вясне асіны ды кляны
і скінулі лісцё...
Канец навеле...
Пачатак новае, так іншай ад вясны.
Ці шкадаваць старой,
ці захапляцца новай,
якую нам ужо тчэ восеньская ноч?
Не знаю...
Ды дрыжаць узноў на вуснах словы,
і сэрца ўзноў снуе ў грудзёх, маўляў, чаўнок.
Гудуць гудкі, грымяць па бруках колы...
У думках — смерць... жыццё...
жыццё і смерць.
Каго хвалюе тут, што восень поліць
лісцё прысад,
каму
па іх тугу займець?
У месце, між руін, пад гуд машынаў
нячутна ж, як звіняць у небе журавы,
у вырай летучы...
Тут, на чужыне,
як ні глядзі, іх вокам не злавіць.

А што ж за восень
без журботы жураўлінай,
без павучыння і без сініх туманоў?
Таму—
хоць не цвілі,
на вуснах вянуць словы,
і сэрца —
не снуе, ледзь-ледзь трымціць —
чаўнок.

*1944, Берлін*

## УНОЧЫ

Калматыя чорныя бровы
суровая хмарыць ноч.
Лірычныя мроі ды словы
адкінула я даўно.
Ісці праз жыццё з санетам —
сягоння, дапраўды, смех:
нат з вострым штыхом да светных
ты сяння не дойдзеш вех.
Не слова сягоння,
а куля
парадак вядзе у нас.
Паэт лепшы той, хто туліць
гранату ў руках...
Вайна...
Інакшых і рыфмы і рытму
жадае людскі натоўп.
Іх з вёснаў ці сноў не вытчаш,
спрабуй хоць бы пораў сто.
А ўсё ж,
як ніхто не бачыць,
ледзь ноч начапляе зор
на неба, —
лірычным плачам
зноў плача маё пяро.
І сняцца мне нашыя нівы
і роднага неба дыван...

Аб іх успамінаў не змыеш
із сэрца,
як ні змывай!

*1944, Берлін*

## СУСТРЭЧА

На станцыі
свісткі, хаос, перапалох.
Снуе натоўп, патраціўшы галовы.
Над клумкамі пярэстымі
удзвёх
стаяць дзяўчаты з «Остам»[1] на грудзёх,
і свет здаецца ім страшным і новым.
Яны
нядаўна з Случчыны...
Яшчэ
нат не даелі чорнага акрайца,
што маці ім паклала ў торбу, бо пячэ
ён штось у горле сяння... Шмат начэй
не спалі...
А куды цяпер? «Парайце!»
Паказваеш ім, дзе, куды й нашто.
Пайшлі...
Забарбанілі колы нудны марш па рэйках.
Іду і я...
І пахнуць мне палі
і саснікі мае айчыны, як калісь,
і сум пякучы паліць вейкі...
Ну, а яны, дзяўчаты, пэўна, спяць
ужо ў куточку дзе і сняць,
што свежым
асеннім ранкам на сяле рыпяць
вароты,
што курыць імглой лісцё куп'я
і што вакол —
спакой бязмежны...

*1944, Берлін*

## БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Восеньскае волава
капае з галля.
За крыніцай з жоравам
мокры дрэмле шлях.
Па шляху, па лужынах,
босыя, ў лапцёх,
моўчкі сцені сунуцца,
кленучы жыццё.
Як ваўкоў, вартуюць іх
колкія штыхі.
Сэрцы ж не ўтаймуюцца,
мкнуць на небасхіл,
дзе тырчаць з папелішча
ў неба каміны,
дзе й свае
між целамі
засталіся гніць...
Мой, распяты ворагам,
шматпакутны край,
не тужы,
йшчэ ў сполахах
расцвіце зара.
Усе з далёкіх выраяў
мы дамоў зляцім.
Накш,
скажы па шчырасці,
што нам па жыцці?

*1944, Берлін*

## ПРЫЙДЗЕ ЧАС

У чаромхавай у мяцеліцы,
у бярозавых туманох,
па загу́менні, па аселіцы
слала дзеўчына палатно.
І піло яно росы цёплыя,
плынны, сонечны, жоўты мёд.

Мела дзеўчына працы з коптарам,
ды й турбот не менш — ля гумён.
Ці кідаць усё чорту лысаму,
прад навалаю уцякаць,
ці застацца мо
і пад прысакам
куль і здзекаў жыццё сукаць?
Шкода скрыні цяжкой, пасажнае
з дыванамі у шмат нітоў,
мірты буйнай... А як адважыцца
кінуць край свой,
сваіх братоў?
Ды смугою далéчы хмарацца,
глуха шыбы ўначы бразджаць,
з крыкам кружаць над хатай галіцы,
рэжуць сэрцайка без нажа...
І... звіліся палотны трубамі —
хай нябеленыя ляжаць.
Запрагай каня, бацька, й лубінам,
нацянькі, на шлях выязджай!
Чым з нядоляй пазнацца жорсткаю,
лепш, як прыйдзецца, —
і пагалець,
мо упоперак горла косткаю
і не ўстане чужацкі хлеб?
Прыйдзе ж час,
прыйдзе час —
па аселіцы,
у бярозавых туманох,
у чаромхавай у мяцеліцы
будзем зноў мы слаць палатно!

*1944, Берлін*

## УЦЕКАЧЫ

Віюцца, як кужаль блакітны,
на шпулю калёсаў шляхі...
На возе — [illegible]
малыя, мяхі...

Навокал —
ніўя ды ракіты,
імшары, сасоннікі, сітнік,
сівы небасхіл...
Смяюцца малыя й скуголяць,
сысолячы чорны сухар.
Бацькі ж...
Быццам плёхае вар
на сэрца ім нехта няўмольны,
калі расцвітае над полем
уночы пажар.
Ён топча ім здаўна па пятах,
лапочачы крыллем рудым.
Грызецца у вочы, бы дым:
ці гэта не родная хата?
І рвецца да нівы нязжатай
душа...
        каб туды...
Віюцца нячэсаным зрэб'ем
дарогі на шпулі калёс.
Жаўцее на ўзлессі галлё,
звіняць журавы у паднеб'і,
сумуюць палі:
дзе наш сейбіт,
куды ўжо занёс яго лёс?
А ён —
у чужыне,
ён чэзне
па краі, бы ўвосень быльнёг.
І сняцца яму, абы лёг
па працы, —
                дзядоўскі бярэзнік,
і сонца, і вецер гарэзны,
і звон аваднёў.

*1944, Берлін*

## СІВОЙ ВЯРБОЙ

Слата і змрок...
Душа пустуе,
ў смузе маркотнай далячынь...
Сівой вярбой хіба пайду я
над плёсам цішу сцерагчы.
Ўрасту карэннем моцна ў гліну,
карой адзенуся рудой,
шырока рукі разгаліню
над шэрай соннаю вадой.
І буду жыць,
як жыў спрадвеку
увесь вакольны, вольны свет:
піць тумаоў надрэчных лекі,
пух белы сеяць на траве.
І браць, раскінуўшы галіны,
із прагай сонца і цяплынь,
у гуд услухвацца пчаліны
і ціха зерняты спяліць.
Ці раз вярбіну ўпесціць лета,
ці раз да сну утуліць снег, —
і я забуду ўсё, што ў свеце
мяне змушала паланець.
І пад карой маёй,
на ветры,
не будзе біцца ўжо й званіць
нямоўчны звон —
людское сэрца,
крыніца праўды і маны.

*1944, Берлін*

## ЗДАГОНІМ СОНЦА

Малоціць дождж снапоўе стрэхаў,
аж шэры пыл вакол курыць...
Хто ж рассыпкім прысыпле смехам
сягоння смутак наш стары?
Ўжо ж не здагнаць цяпла і сонца
на крылах навет жуpавом.

Ды трэба жыць, каб шлях свой скончыць
як мае быць,
і мы жывём...
Ірвёмся, ймкнём, сварымся, просім,
а шчасця ў рукі ўсё не ўзяць.
Ці не няпрошаныя госці
мы на балі тваім, зямля?
Як так — не думай, што пазбыцца
ты нас патрапіш абы-чым.
І мы у твар заўмеем выцяць
каго патрэба,
хоць маўчым.
Малоціць дождж па стрэхах пясцяй,
аж золкім дымам дзень дыміць...
Здагонім сонца ўсё ж і шчасце,
калі не журавы, —
дык мы!

*1944, Берлін*

## СНЕЖАНЬ НА ЧУЖЫНЕ

Снежань...
Не такі, як там, у нас,
расшываны прошвамі бярэзін
і хваін,
пабелены да дна
серабранаю завеяй...
Чысты...
Свежы...
Тут — яшчэ ўсё восень, золь, дажджы
і шнуры аслізлага асфальту.
Тут,
калі й прыжджэш, рады ў гады,
як мяцеліцы —
дапраўды, жалю варта!
Тае ўмомант жменька сакаўных
яблынных пялёсткаў пад нагамі,
не паспееш нават і сасніць
аб далёкім,
родным, аб каханым...

7 Зак. 634

Аб парошах, гурбах, што нагроб
каля весніц вецер, азяродах,
дзе тырчыць яшчэ забыты сноп
канюшыны, збіты непагодай...
Каб туды як сяння,
распыліць
сум, упіўшыся дап'яна белым сокам,
хай трашчаць, з рабінаў срэбны пыл
абтрасаючы,
сварлівыя сарокі!

*1944, Берлін*

## ЖЫЦЦЁ

Жыццё —
як бярозавы сок,
жыццё —
як салодкая брага:
п'еш, п'еш —
і, маўляў, хто урок,
яшчэ горшая чуецца смага.
Ледзь верасень, спрытны каваль,
у медзь закуе далячыні, —
нам хочацца ўжо, каб трава
узноў зелянела ў лагчынах.
Ледзь цёплаю сіняй пляхне
вясна па марцовым рызманні,
ледзь ветры пазлізваюць снег, —
зноў сняцца нам восень, туманы..
Адразу жадаем абняць
мы ўсё (не пакінуць нічога):
прасцяг каласся і сасняк,
і продані неба сівога.
З кульгавай, гугнявай нудой
сустрэцца цяпер цяжкавата.
Не звіць ёй між намі гняздо,
калі ўсцяж —
ні ўцехі, ні свята,
калі не ўтаймуеш бяды,

хай сэрца жывое ёй вымі,
а кон —
мо узноў на гады —
сыноў разлучыў із радзімай.
Не дзіва, што п'ецца, як сок,
сягоння штодзённасць, як брага,
дык быццам знарок хто урок,
яшчэ горшая чуецца смага.

*1944*

## ХОЦЬ ДАВОДЗІЦЦА СЯННЯ ПЛАКАЦЬ...

Пазалочанай дзідай захад
скруткі хмараў наскрозь працяў...
Хоць даводзіцца сяння плакаць,
як, аднак,
не любіць жыцця!
Як із прагай не браць іскрынак
шчасця, не пераймаць тугі,
хоць і тое і гэта згіне
заўтра, як на вадзе кругі...
Залатым нябачаным птахам
маладзік над зямлёй усплыў...
Так, хоць хочацца сяння плакаць, —
мы рассейваем сум, як дым.
Не удасца, праўда, забыцца
нам тут нашых сівых бяроз,
васільковых узмежкаў, ніцай
хаты, дзе ад дзіцяці рос.
Але жаль па іх нас не скосіць
і не выкруціць сілы з рук.
Хоць навокал і золь і восень, —
верым мы у сваю Беларусь.
Маці любая, пэўна, сяння
уздыхаеш па нас і Ты.
Не тужы,
ў мітусні выгнання
не дадзём мы душы астыць.
З гераічнай не выйдзем ролі,

у балота не схілім сцяг
і не здрадзім нідзе й ніколі
ні сябе,
          ні Цябе,
                    ні жыцця!

*1944*

## НЕ ТАК ЛЁГКА

*Прысвячаю пакліканым*
*і непакліканым крытыкам*

Не так лёгка гаркою, агорклай агудай
змусіць нашыя вершы
навечна заплеснець.
Яшчэ доўга блукаць
па гасцінцах мы будзем,
раздаваць пакрысе
свае сэрцы у песнях.
Ці адна яшчэ ў свеце вясна
у далоні
нам ружовых вішнёвых
пялёсткаў насыпле.
Ці ў адзін яшчэ верасень
залатаклённы
мы душою
          і сэрцам трывожным уліпнем?
Ці не ўдосыць наплачамся мы па краіне,
аж уздымем у песнях яе
на узвышшы,
ці не раз непаэты
апырскваць слінай
будуць нас або й славай ахутваць пышнай?
Ды хай вусны праклёнамі ў раны калечаць
ці хвалой захлынаюцца крытыкі свету, —
што нам іхнае ройна-шумлівае веча?
Не забраць ім ні неба,
ні сонца ў паэтаў.
Ані неба, ні сонца,
ні слёз, ні усмешак,

ні ўсяго, што нам кажа
успыхваць і гаснуць.
Тут, у свеце злачынным,
у свеце бязгрэшным,
не яны —
мы аднойдзем няўлоўнае шчасце!

*1944*

## ЛЕПШ ПІЦЬ ДА ДНА

Лісцё — віхор іржавых зор —
над шахаўніцай вуліц кружыць...
Каб як лучыць у іхны хор
і нашым душам недалужным!
Каб навучыцца пазіраць
на ўсё, што робіцца, —
з узвышша,
з усмешкай боль пякучы браць,
спяваць,
хоць крыўда сэрца крышыць.
Мінаць калекаў і сляпых —
як наваколле — з лёгкім сэрцам
і не кідацца ніцма ў пыл
ні прад жыццём,
ні перад смерцяй!
Ці ж гэтак цяжка із лісцём
пусціць на вецер і пачуцці?
Пачуцца тут адно гасцём,
нічым не звязаным,
не скутым?
Тады —
жылі б мы, балазе,
і парасталі ў поўсць і сала,
і спін не гнулі б у тузе
ні прад Хрыстом,
ні прад Ваалам[1].
Адно —
ці б гэта нам дало
дасюль нязнойдзенае шчасце,

ці з сэрцаў скінула б далоў
усё, што ўсцяж яго нам засціць?
І ці тады,
йдучы паўз нас,
паэтаў, свет бы ўслед не кінуў:
«Чым гэтак жыць,
лепш піць да дна
бяду і здзек
або і згінуць!»

***1944***

## ПАЭТАМ

Не крыўдуйце, што вашыя словы
йдуць так часта каменнем на дно.
Яшчэ ў нерат напяты іх зловяць
рыбары,
пачакайце адно...
Свет бязвінны, што ў чадным хаосе
братабойнай, упойнай вайны
ён забыўся аб ветрах, аб росах,
аб зялёных агнішчах зарніц...
Свет бязвінны, што вочы людское
чарады
не красу далячынь
сяння сочаць,
а лекі на раны,
кут, куды б ад пакут уцячы.
Боль, які песняроў раз'ядае,
не турбуе нікога...
Баліць
сэрца ў кажнага...
«Цяжка ж, каб зграяй
бед асочаны, ў песню уліп,
захлынаўся паэмай ці одай,
упіваўся йшчэ й вашай тугой.
Не крыўдуйце ж,
хай людства пяройдзе
праз дзікі, ненажэрны агонь,

хай ачысціцца з гною і бруду,
ўзніме скібы цяжкія павек,
зноў адчуе
як водарыць лубін,
як раса зігаціць на траве...
А тады —
прыйдзе час і на слова,
што жыць будзе ў вагні і ў вадзе.
І, схіліўшы з пакораю голаў,
свет прад песняю ніцма падзе!

*1944*

## ЖЫЛІ МЫ Й БУДЗЕМ ЖЫЦЬ

Калісь, бывала, ўпотайкі
асенні сухавей
жывою пазалотаю
крапіў з крапіла свет.
Засвеціць сонца — капае
яна, як мёд густы,
з лясоў у жоўтых лапінах,
з лагчынаў залатых.
А выйдзеш за аселіцу —
пад ногі ўсё гусцей
чырвоная мяцеліца
чырвоны снег мяце!
Цяпер —
стаптаны правілы:
слатою восень дзьме.
Вятры чужын расплавілі
нат восеньскую медзь,
ашчэрылі дні чорнымі
зубамі пажарышч,
жыццё з дарогі торнае
звялі у гушчары.
Ці ж дзіў, што шэрай снедзяю
паростае нат верш
і што і сам не ведаеш —
жывеш ці не жывеш?

Але дарма,
йшчэ полымя
не згасла у крыві,
яшчэ рукамі голымі
мы шчасце ймкнём лавіць.
Хоць сяння з ім, няласкавым,
і йдзём мы на нажы,
хоць восень нас аплаквае, —
жылі мы
й будзем жыць!

*1944*

## Я СУЦЯШАЮ НЕ ІНШЫХ — СЯБЕ

Я суцяшаю не іншых —
сябе,
і найчасцей,
як суцеха — ў аблоках,
хоць, як на злосць, як галоднаму хлеб,
мроякца словы спагады глыбокай.
Толькі сабе
я ўпарта цвярджу:
«Смела, наперад, хай смутна, хай шэра...»
Можа, бяздумна накручаны жмут
рыфмаў —
папраўдзе параіць няверы?
Мо дапамогуць камусьці і з вас
вершы мае над собой не заплакаць,
і не рассыплю я ўсё ж надарма
сэрца вішнёвую, пенную наквець?
Тое, што крышыць сягоння ваш гарт,
вочы й мае
злой маркотаю засціць.
Хоць і смяюся я колькі мага,
сэрца чамусь не смяецца,
і часта
мне тут даводзіцца ў смутку гібець,
толькі мо плачу я трошкі іначай...

Я суцяшаю не іншых —
сябе,
а найчасцей як суцехі не бачу.

*1944, Берлін*

## О, ШЫПШЫНА МАЯ, БЕЛАРУСЬ!

О, Беларусь, мая шыпшына...

*У. Дубоўка*

Грае люты на струнах завей
далікатнае, смутнае scherzo[1].
Пачакаю, аж зноў весялей
будзе трохі на сэрцы.
Аж затліцца ізноў у крыві
хваляванняў блакітны агеньчык,
аж і сцюжа, і дні без навін
шэры час свой ад'енчаць.
Аж ізноў баразной пабрыдуць
дні вясны у вадзе па калені,
аж мы скарбы пачуццяў і дум
зноў на словы разменім...
Цёплых слоў гэтых трэба усім
нашым часам суровым і збройным.
Што ж ты свету сягоння дасі,
як не песню, не мрою?
Як прымусіш паверыць сваіх,
што яшчэ расцвіце наша доля,
што ніць шчасця йшчэ будзем мы віць
пад крывіцкаю роднаю столяй?

Грае люты на струнах сучча
далікатнае, смутнае scherzo...
Не, не буду чакаць, аж маўчаць
маё знудзіцца сэрца.
А удару па цяглiцах струн
із тугою, із сілай нячутай:
«О, шыпшына мая, Беларусь,
маё шчасце й пакута!»

*1945*

## ЗАМАЛА

Вітала колькі год я восені у месце:
асфальт і цэгла,
мітусь, грукатня...
Аж давялося мне цяпер адну вітаць
на ўзлессі,
дзе яна прыйшла сініць і плесці
узоры з верасоў,
імглы,
лістоў апалых...
Як гэткіх дзён зыркіх мне ўсцяж, усцяж замала!

Бо ўсё ж вакол зігціць,
гарыць і паланее,
ні росам ані ймгле шугання не суняць.
Няхай спамінам,
снам спрыяе цішыня, —
жывуць мае і тут, у лісцяных завеях,
здаецца, дні кружыць я б з імі не прыстала!
Як гэткіх дзён зыркіх
мне ўсцяж, усцяж замала!

*[1945]*

## ТАКІ НАШ КОН

Свет на ахвярніку усцяж ахвяры паліць.
Паўзе пурпурны дым паўз месты, паўз шляхі...
Не насумуешся па тых, каго не стала,
не стане дзён аплакаць сяння ўсіх.
Чырвонымі слязьмі скрывавілі рабіны
дарогі ў далячынь...
Каб нагарнуць, набраць
аж прыгаршчы тых слёз пякучых і палынных,
асыпаць імі наш народ,
наш горкі край!
Лынуць крывёй яны, лынуць смалой гарачай
на душы, спапяляць сасмаглую кару,
што атуляе іх...

Але — найгоршым плачам
не купіцца усё ж зварот у Беларусь...
Таму —
няхай ідуць дажджы крывавых ягад.
Не апалошчам мы ні рук у іх, ні душ...
Змагацца за свой край, за супакой, за радасць —
наш кон...
Відаць, так нам судзіў ён на раду.

***1945***

## РАБІНА

Асыпала попелам сыпкім змярканне
акно і паперу, пяро і мяне...
Пад небам зімовым
над шэрым парканам
рабіна галіны шкляныя хіне.
І столькі спакойнае, простай пакоры
прад лёсам з вятрамі ды сцюжай у ёй,
што гасне імкненне падзеі паскорыць
і цішаю поўніцца сэрца
й маё.
І хочацца шрэняй ахутацца срэбнай,
таксама хістацца на ветры й чакаць
із верай глыбокай —
аж з сіняга неба
хлыне на зямлю залатая рака,
аж сокі густыя закружаць у жылах,
аж сэрца заб'е ў залатыя званы
і сном недаснёным растае ў расцвілых
далечах
туга
прад аблiччам вясны!

***1945, Берлін***

## ЗАБУДЗЕМСЯ

У ночвах завулкаў вечар
марознай імглы намясіў...

Цалуе у твар мяне вецер,
згарнуўшы набок валасы.
Прыемны мне смелы дотык
ягоных сцюдзёных губ.
Хай будзе, што будзе, потым, —
дап'ём наш п'яны багун!
Забудземся хоць на ймгненне,
што сочыць, як той ганчак,
смерць нашы сляды і сцені,
што шмат хто — ужо зачах,
што трэба ісці наперад,
хоць сяння
і гэным — ноч,
праз сілу, без смаку й меры,
крывавае піць віно...
У ночвах завулкаў вечар
марознай імглы намясіў...
Да рук маіх туліцца вецер,
згартае набок валасы.
Абвій жа мне шыю,
варта
даткнуць маіх цёплых губ.
Хай будзе, што будзе, заўтра, —
дап'ём наш п'яны багун!

*1945, Берлін*

## ТАМ...

Студзеньскі попельны змрок.
Твар ад марозу гарыць.
Рвуць серабраны уток
тонкіх галінаў
вятры.
Думкі, як пыл снегавы,
мкнуць то уніз,
то ўгару.

Не прытрымаць, не злавіць
іх, матылёў, упару.
Ды і нашто?
Хай плывуць
із ветругой прад сабой.
Я ж
пахілю галаву,
стану пад белай вярбой
і апынуся... далёк,
там,
          дзе не гэткі мароз
туга паскручваў галлё
сплаканых горка бяроз,
дзе натаптана у снег
столькі сягоння бяды,
дзе ў папялішчах, на дне,
чорны качаецца дым...
Гэта — радзіма мая,
дзён маіх мклівых зажын,
край, дзе так дзіка рыпяць
сяння праклёны чужых...
Зыркай паходняй гарыць
сэрца маё за яе.

З плачам змятаюць вятры
сыпкі, як попел той, снег...

***1945, Берлін***

## ПАЧАКАЙ

Мы прыйшлі сюды з вузкіх загонаў,
раззалочаных мятліцай і званцом,
з-пад нябёсаў сініх і прадонных,
ад народам складзеных канцон.
Дзе ж у свеце ройным і шумлівым,
між вянкамі іскрыстымі зор,
ёсць такія йшчэ, як нашы, нівы,
ёсць такая ціша і прастор?
Дзе яшчэ
          [illegible] знічом чырвоным паланее

гэтак голле восеньскае ліп?
Дзе такія сінія завеі
мкнуць навыперадкі ўвесну паўз палі?
Дзе
прад абразом нябёсаў светлым
ночы паляць столькі зорных свеч,
дзе,
дзе ж гэткі вось шчаслівы й ветлы,
як у нас,
быць можа чалавек?
Толькі ўспомніш гэта ўсё — і паліць,
цісне сэрца нешта,
не сагнаць.
І блакітным ладанам удалеч
найшчырэйшая плыве туга...
Ды няхай
сівы палын на межах
сяння звоніць па табе,
мой край,
зноў чаромхавым пахучым снегам
кон цябе асыпле,
пачакай!
Зноўку ўспыхнуць напярэймы ветрам,
над палеткамі тваімі песні жней,
і далёка,
за сівыя нетры,
ты свой смутак церпкі пражанеш!

*1945, Берлін*

## НОЧ

Трасецца свет ад гуду танкаў,
бадзяжыць смерць,
збірае плён.
А ноч —
ноч месяца баханкай
спакойна ломіцца з зямлёй.
Як Вечны жыд[1],
яна ці тое
ў сваёй вандроўцы па шляхох

ужо тут бачыла...
Пустою
гульнёй і боль ёй,
і спалох.
Міне вайна...
Чырвонай парай
з палёў баёвых кроў сплыве...
Зноў вёсны мёдных зёл напараць,
сінь разліюць...
ды чалавек —
ці здрадзіць ён
баёвым ранкам,
крыжом, крыві, атруце слёз?
Што, ноч?
Ды месяца баханкай
ноч моўчкі ломіцца з зямлёй...

*1945, Амберг*[2]

## БУДУ СЯННЯ

Сыпле раніца ў аканіцы
раззалочаны сонца жвір.
Выйду ў сіню вятрамі ўмыцца,
косы росамі перавіць.
Накіпаюць вясной далéчы,
дым зялёны паўзе з лагчын...
Дзе ж устоіць тут смутак нечы,
дзе ж увесну яго зберагчы?
Не патраплю я й так у распачы
праклінаць і людзей і жыццё.
Ўсёй бяды,
як ні плач — не аплачаш,
хай нат веры слязам дасцё.
Вось і буду — вясне уторыць,
із вятрамі ў платох спяваць,
аж расою сівой, вячорнай
наліецца ў лагох трава,
ажно белыя плечы йгрушаў
туманамі накрые ноч,

ажно вочы мне зацярушаць
іскры —
месяца серабро!

*1945, Амберг*

## СНЕЖАНЬ

Свежым снегам асыпаў снежань
вастраверхія дахі вежаў,
камяніцы, каменне брукаў,
бровы жвавых наўздзіў людзей.
Пад аснежаны сэрца стукат
выплятаю я сетку сцежак
на бязмежным прасцягу снежным,
дзе ружовы разліўся дзень.

Места спіць... Ды ужо званіцы
клічуць пышных і клічуць ніцых
выйсці, вочы узняўшы ў вышу,
хай сабе не маліцца — спачыць.
Белы вецер нясе, калыша
гэты кліч... І далёчам сніцца:
нехта белы, найбельшы кліча
іх, блакітных, ад злога ўцячы.

А куды уцячы нам, нясытым
ні усмешак, ні слёз,
не блакітным,
не аснежаным белым снежнем —
толькі шэрым і думкай, і ўсім.
Хай заходзіцца з плачу ў вежах
звон па звоне,
ніхто ж карытаў,
поўных клунь, у зямное ўшыты,
не пакіне, дарма прасіць!
Свежым снегам асыпаў снежань
вастраверхія дахі вежаў,
камяніцы, каменне брукаў,
бровы жвавых наўздзіў людзей.

Пад аснежаны сэрца стукат
дапляла я мярэжу сцежак
на бязмежным прасцягу снежным,
дзе ружовы разліўся дзень.

***1945, Рэгенсбург***[1]

## І СНІЦЦА МНЕ

Люблю я летуцець,
калі рука чыясьці
стаўляе прасніцы з кудзеляю сівой
і пачынае ніткі дажджавыя прасці
над галавой.

Няма канца дажджу, ні гуду верацёнаў.
Віецца з песняй ніць на шпулю, на душу,
і сніцца мне, што звоніць наш сасоннік
у сэрцы і ўвушшу...

Што ў засенях сасон сузорыць сон ліловы,
жывіцай плачуць з радасці камлі,
і новых песняў строй у голлі вецер ловіць,
страсаючы з крылля
зялёны пыл далін.

Кахалі й вы, як я,
старыя нашы пушчы,
віхрамі ўспенены, шумлівы акіян.
Ці горкі сум па іх
тут вашых душ не сушыць?

Баліць мая...
Блакітная, далёкая Радзіма,
калісь — штодзённы хлеб,
а сяння — толькі сон,
мы вернемся, чакай,
хай хворымі, старымі,
а вернемся!
Так дай нам, Кон!

***1945, Рэгенсбург***

## ЛЯВОНІХА[1]

Іржавым пяром на балонах лісцін
кладзе лістапад свой раскідзісты росчырк.
Праймаюць і смутак і золь да касці,
няма ім упынку ні раннем, ні змрокам.
Гэй, вятры, вятружыны —
завірухі,
засыпайце лужыны
белым пухам,
пад глухія тэрцыны
цёмных хвояў,
леце, леце ў сэрцы нам
белы солад.
Паслухалі ветры... «Лявоніху» йдуць
па шэрым памосце іржышчаў ды ляніпіч,
распырскваюць з песняй балота, ваду,
як быццам пад'елі дзе ўсмак дурнап'яну:
«Ой, Лявон Лявоніху
маладую,
сваю ўцеху-сонейка
не шкадуе,
як прыцісне пруткую,
пойдзе ў скокі,
вірам хата круціцца
сінявокай!»
Імклівей, імклівей, шпарчэй і шпарчэй,
рагочачы, скача над гурбамі вецер.
Гадзіна, другая — і скрозь разатчэ
ён срэбрам ды беляй і нівы і веццэ.
А тады усцешыцца:
«Й я не зломак»,
усміхнецца месяцу
залатому,
усміхнецца хвойнікам
і дубровам,
як Лявон Лявонісе
чарнабровай.

***1945, Рэгенсбург***

## ПЕРШЫ СНЕГ

Упілілася ў сэрца радасць,
а спытаўся б хай хто — чаго?
Мо таму, што над беляй лядаў
белы, снежны імкне вагонь?
Мо таму, што марозны вецер
пыл сузорны у твар мяце,
што ўшываецца ліпаў вецце
срэбнай шчэцяй усё гусцей?
Снежань, снежань,
чаго ашукваць
нас тут свежасцяй, чысцінёй,
непарушную бель рассукваць
на пачуццях,
на свежых пнёх,
пасцінаных блізу да кораня
існаванняў людскіх?
Душа
й так у кажнага перагорана,
пераранена... Ціха, ша...
Упілілася ў сэрца радасць,
хоць і знаю — усё мана.
Мкне завея над беляй лядаў
у няўхопнае... Не суняць...
Задзірасты, марозны вецер
пыл сузорны у твар мяце,
і ўшываецца ліпаў вецце
срэбнай шчэцяй усё гусцей.

*1945, Рэгенсбург*

## КАЛУМБ[1]

Знаёмы краявід: барак, падгнілы плот,
дзве-тры бязлістыя маркотныя таполі,
калода з кіненай пры ёй старой пілой,
кашуля ў латах на шнурку... Што ж болей?

Ах, лужына яшчэ, ледзь-ледзь не акіян,
мутна́я, рыжая, без конца і без краю,

ды вечар сіні, зыркі... Колькі я
такіх чужых — праводжу й сустракаю!

Ля лужыны — дзятвы! У хустках, каптанох,
із лапкамі ссінелымі й насамі.
Смяюцца, плёхаюцца, б'юцца, хоць даўно
час у цяплейшы кут — да печкі і да мамы.

Штораз цямней... Чырвонае крыло
заходу саслізнулася з баракаў.
Павеяла важкой вільготнай мглой... Праз плот
пайшлі малыя... Ціха, як пасеяў макам.

Ды хто ж гэта сапе над лужынай? Адзін
маленькі карапуз стаўляе цэглы рубам
і скача праз ваду далей, далей. Глядзі,
ці ж ён не чуецца цяпер Калумбам?

Чароўны свет нязнаных далячынь!
Прадонныя, успененыя тоні!
Што ж там? У далечы ж! Пачын
яшчэ не ўсё: канцы — ўсяму карона!

І б'ецца сэрца дробнае тугой
па чымсь не знойдзеным яшчэ, хоць прадчуваным.
Далей! Хай хлюпае у боціках. Яго
не спыніш. Ён — здабыўца сяння!

Ды пахіснулася знянацку цагліна,
і — боўць у лужыну здабыўца нецярплівы.
Прарэзлівы дзіцячы плач узняў
з таполяў стаю галіцаў крыклівых.

Нярадасны канец імкненняў, мрой... Але...
ці ж не праняў бы й нас ён холадам і сумам?
І ціха й я іду дахаты ўслед
за ім, нядошлым, сплаканым Калумбам!

*1946*

## МАЦІ

Маці!
За кужэльную нітку даўжэйшы твой смутак па нас,
за кужэльную шэрую нітку з твайго калаўрота.
Хай вішнёвай паводкаю плешча у вокны вясна —
да Цябе яна прыйдзе адно разам з нашым зваротам.
Маці!
І мы прагнем, як светлага Прыйсця, тых дзён,
калі радасцяй зыркай ізноў загарацЬ Твае вочы.
І хоць нашыя сэрцы ўкавала на камень жыццё,
вызнаём:
да Цябе мы, як дзецьмі калісь,
прытуліцца так горача хочам!

*1946*

## ЁН ДАЙШОЎ

Горкі хлеб чужацкі,
хай і белы,
хай аж просіцца — пад'есці ўсмак.
Лепшы там,
у хаце — заімшэлы,
з асцюкамі вострымі праснак.
Зашчымела сэрца у хлапчыны,
штораз горай... Не перадыхнуць,
аж і ён із выраем гусіным
у вясновых сінях патануў...
Доўга йшоў вандроўнік
ці каротка, —
хто сачыў?
Звінелі журавы,
зелянелі ў затанях чароты,
лапухом успыхвалі равы.
Дні рабіліся цяплейшыя, аж вішні
срэбнай пенай пырснулі на свет.
На балі вясновым, пышным лішні
ён ішоў па росах, па жарстве.
Ногі ранамі крывавымі зайрдзелі,
вецер стрэчны вочы прыгасіў.

Аж адною ночай,
белай, белай,
ён дайшоў...
Шчаслівы, хоць без сіл.
Мёдам капалі густым, салодкім ліпы,
пыл мяккі пад ногі слаўся, піў сляды,
хтосьці росамі у вочы госцю сыпаў,
абтрасаючы вішнёвыя сады.
Стая... дзве... І ў засені парканаў
хата вырасце пад шапкаю страхі.
Каб хутчэй адно дабегчы... глянуць...
Грудзі сціснула...
ўваччу кругі... кругі...
Вось нарэшце й вербы... Ніткі срэбра
мігацяць між імі... Свіслач...
Што?
Чорны комін... Чорнай хаты рэбры...
Пажарышча
ўжо
парос
асот.

На бакі рассунуў хмары ветах:
хто там лёг, ды крыжам, у вуглёх?
Ну, і трэба ж была бегчы столькі свету,
каб сатлелы абдымаць парог?
І чаго шукае ён, чужынец,
там, дзе поўзае вужом у друзах жудзь?
Можа, ў мораку яму шыпшынай
кроплі згуслае крыві цвітуць?
Мо у чорных сценах папялішчаў,
каля коміна, што ўсіх пературываў,
ён знайшоў усё ж сваіх,
каханых,
блізкіх,
і прыпаў ім ногі цалаваць?

Пасма белае дзень выткаў на усходзе,
ніткі пацерак рассыпаў Млечны Шлях,
да вады прыльгнула шчыльна ймгла на бродзе,

сына
раз яшчэ
праводзіла зямля.
Ён ішоў, нікому не патрэбны,
із тугой, якой ужо нічым не змыць.
А ўздагон яму глядзелі вербы
невідучымі, старэчымі вачмі.

*1946, Рэгенсбург*

## СЛАВА

Добра жыць на зялёнай зямлі
з сэрцам простым, малым, чалавечым.
Расцвісці і зярнят наспяліць,
і у вечнасць
сплысці, як лісцё.
Не ўзірацца ў блакітны туман
недасяжных, далёкіх сузор'яў
і уцехі і крыўды прымаць
із пакорай,
як гнецца трысцё.
Але гора таму, у каго
не на меру прыкроена сэрца,
ў кім адвечны шугае агонь,
хто й памерці
не ўмее і жыць,
хто не стоміцца зá грудзі браць
наймацнейшых,
каб лёс наш палынны
ўрэшце вывесці — хіба ж пара! —
на гасцінцы
з вузенькіх сцяжын.
Гора тым, хто сніць сінь, далячынь
непазнаных успененых мораў,
хто імкнецца з зямлі уцячы
у міжзор'і,
хай трапіць на дно.
Сто раз гора таму, хто сваіх
любіць больш, чымся собскае цела,

каго пенным віном не ўпаіць
на вяселлях чужых
шаптуном.
Адно дзіўна, а славяць здаўна
не пакорных, што гнуцца да стомы,
не таго, хто наспеліць зярнят
і лісцём душу скіне сваю.
Казак, песняў аб гэткіх няма.
Ні цымбалы аб іх не зазвоняць,
ні дзяўчаты, зару пераймаць
ідучы на загон,
не спяюць.
Не, плятуць у нас славу чамусь
тым якраз, каму мрояцца ўзвышшы,
хто не гразне ў жыццёвую муць,
дзід не крышыць
за скарбы зямлі.
Пяюць песні у нас аб святых
змагарох, палыменных, шалёных
пераможцах, паэтах — аб іх,
аб натхнёных,
мы славу сплялі...
Хай жывецца ж на жытнай зямлі
добра з сэрцам малым, чалавечым,
хай, хто ўмее зярняты спяліць,
і у вечнасць
сплывае лісцём.
Мы глядзелі
і будзем глядзець
у туманы няўхопных сузор'яў
і не будзем з пакорай цярпець
зло й дакоры,
гнучыся трысцём.

*[1946]*

## У ГАСПОДЗЕ ПАДУАНСКАЙ

Гудзе гаспода. Ў Падуі[1] старой
такі ўжо звычай: жыць, пакуль жывецца
і цешыцца...
Ды тут — ледзь чутны песняў строй.
Гуляе па стале, заставе рэзвы рой
праменняў...
У вакно чырвоны б'ецца вечар.
Кранецца чары ён —
і з чары залатой
італьскае віно пагарай праліецца.
Адно не да віна Францішку Скарыне.
Упіўся сяння ён, ды не віном, а славай!
Ён — доктар лекарскіх навук! Гадней
за іншых мо аб роднай старане
засведчыў, аб сабе.
Ён — «Падую уславіў»,
сказаў Мусаты. Бач, із торбай на гарбе
ненадарма гады гібеў на чужыне,
пяскі чужых дарог таптаў
і... трызны правіў.
Але чамусьці ў сэрцы бы асцюк
сядзіць аўсяны, колкі...
Не — і ўколе...
Засланы бела стол нагадвае Куццю
у Полацку, у хаце,
Палату[2]
імклівую, а за мурамі поле,
дзе гэтаю парой снягамі ўжо цвітуць
так бела
межы й дзічак голле!
Хацелася б ісці, ляцець, імкнуць туды,
бадзёра друкаваць сляды на чыстых, на харошых
балонках першае парошы,
піць густы
марозны вецер, срэбныя ляды,
бары мінаючы у шпаркіх палукошах,
і так спяваць, каб віўся снежны дым
над пожнямі
ды плыў з сівых далечаў пошчак!

Што ж, чараў тут няма:
і звер у гушчары
свой логаў знае,
птах — гняздо у гаі мае,
у рэках рыбы чуюць родныя віры,
руплівая пчала, што ў грэчках ад зары
гудзе, вулля свайго бароніць із адчаем.
Таксама й чалавек: малеча ці стары —
да роднага кутка дзіўною ласкай тае.
І ласкі гэтай смыль
патрапяць прысушыць
адно хіба вятры зялёнага Наддзвіння...
Пара туды, пара!
Хай золата кашы
братом і не прыдбаў ён тутка, на чужыне, —
ад цела недужаў і недужаў душы
ён лек дзіўны знайшоў,
што гора й боль суніме.
Маўчыць гаспода ў Падуі старой,
і толькі ў Скарыны мігціць агеньчык ніцы.
Там, разгарнуўшы кніжыцу ў рудой
ціснёнай скуры,
зноў лацінскіх словаў рой
ён сочыць пільна.
А праз аканіцы
ў камору ноч глядзіць, і ў чары залатой
італьскае віно сузор'ямі іскрыцца.

*1946, Рэгенсбург*

## ВОСЕНЬСКАЕ

Як тварыць? З чаго, калі часы такія, —
ўсё вакол адно імкнецца спаць.
Сінім шклом шкліць раніцы глухія,
тут і там бярэцца лістапад.
З цел аголеных зрываюць у прысадах
ліст апошні жоўты тапалі.
І маркота восеньская скрадам,
нейк няўзнак, імкненні папяліць.

Не нальеш з пустога, а у кожным
сэрцы і ў далечах пусціня.
Із кійком і торбай падарожнай
не памкнеш гасцінцам пераняць
долю, песні...
Ў вырай з жураўлямі
адляцела ўсё ці мо палегла спаць.
Шкліць шляхі ламлівым сінім шклівам
тут і там канчае лістапад.

*1946, Міхельсдорф*[1]

## КАЛІ...

Калі на клёнах залацістых
дрыжаць апошнія лісты
і сівер сіліцца расхрыстаць
сівую восеньскую стынь,
калі віном старым крынічаць
каўшы мядзяныя лагчын
і кветкай дзіўнай, экзатычнай
канае сонца на суччы,
калі сівее з жалю й далеч
і межаў жоўтая трава, —
тады,
тады так смутак паліць,
што ўжо, здаецца, не стрываць!
І смажыць смага вусны, сэрца,
як дзень асенні,
скончыць шлях...
Адно,
ці нас утуліш смерцяй?
Ну, добра, смерць,
а што пасля?
Хто ж, хай над ім гадоў завея
курган навее, ўзніме мур, —
засне з нас гэтак, што заўмее
цябе забыцца, Беларусь?
Хто шчыра так памрэ, што згасіць
нязгаслы, палыменны зніч,

які калісь, а ўпаліць шчасцем
і наш прасцяг,
і нашы дні!

*1946*

## НА ПАРОЗЕ НОВАГА ГОДА

Мінае год стары...
Падходзіць моўчкі новы.
Ці спадзявацца нам чагосьці ад яго?
Не кажны ж у сіло ці спор ці долю зловіць,
хоць скочыў бы па іх, здаецца, у агонь.
Мінае год стары...
Прыгрэтыя чужынай,
ды мерзнучы усё ж, мы з ім злісталі дні.
І шмат каму ён з рук апошні козыр выняў,
і шмат,
ой, шмат каго —
і звёў і спадманіў.
Нам страшна запраўды ізноў у нешта верыць,
ізноў аб нечым сніць,
ізноў з тугі гібець.
О, Бацькаўшчына, любая без меры,
ці злучыць новы год выгнаных —
і Цябе?
Мінае год стары...
Надходзіць новы, лепшы,
Зняверанныя, ўсё ж мы верым прагна ўсцяж.
Хай гэты новы год хоць трохі нас пацешыць —
багаслаўлёны й ён,
і вечны чар жыцця.

*[1947]*

## У ЛІПЕНІ

Залатыя жыты
і спякотнае сонца,
пахі мёдныя мяты, чабору і ліп!
Дзень ліпнёвы, здаецца, нават душы залоціць,
непакоі, клапоты — й тыя дзесь адплылі.
Неахвота ні думаць, ні рабіць...
Звоняць пчолы
у званы залатыя над маёй галавой.
Каб у гэткім вось сонцы,
гэтак звонка, вясёла,
й нам судзіў лёс збіраць залатое жніво.
Ды не знаем мы радасці працы —
няўмела,
із-пад кія гаруем... Бо, і праўда ж,
прасцей,
да узмежку прыпаўшы распаленым целам,
у ліпнёвай спякоце, як жыты, залацець!

*1947, Міхельсдорф*

## СКРОЗЬ ЗОЛАТА

Скрозь золата... У небе, на зямлі.
Мільёны лужынак зіяюць, як чырвонцы,
аж і ўваччу чырвона, аж баліць
глядзець на свет, на залатое сонца.

Усімі вокнамі угледзеўся барак,
наш апрыкрэлы «дом», у залатую далеч.
Мо і яго, як нас, пякуча так
туга па выраі, па крылах паліць?

Ах, каб пачуць, пачуць іх важкасць за плячмі,
ўзмахнуць і ўзняцца ў залатую вышу,
далей ад лагера, баракаў, звяг,
дзе мы
сябе на дробныя драбочкі крышым.

Не людзі ж, чуем, мы,
а друз і парахно,
хай гэтак хочацца зноў чуцца чалавекам!
Скрозь золата...
Ды не, мы галавы не ўгнём,
у сонца радасна ўзнімаюцца павекі!

*1947, Міхельсдорф*

## ЛІСТАПАД

Дагараюць, таюць свечкі ліпаў... Восень.
Кроплі воску — лісце — ўслалі мох.
Хоць тугі у госці мы не просім,
тут яна...
і тужыцца само.
Зараз зноў рудое зрэб'е змроку
лістапад пачне вакол спяліць,
зноў успомнім мы (не зняць урокаў)
змагароў, што злеглі у зямлі.
І ці раз павесмам звіснуць рукі
і на вейках слёзы зацвітуць.
Ды не сціхне сэрца мерны стукат,
ды змаганне з доляю — і тут.
Наліюцца наквецяй вясновай
і яны калісьці, родныя палі.
Ласкавейшае для нас кон знойдзе слова
хай за тое, што ў распачы
па сынох, па згубленых братох
мы жыцця не выплакалі ў плачы,
не зышлі з гасцінцаў у быльнёг.
Дагараюць, таюць свечкі ліпаў... Восень.
Кроплі воску капаюць на мхі...
Перад намі — ходанне із лёсам,
новы боль
і новыя шляхі.

*1947*

## МЫ ЙШЛІ...

Гула штосьць глуха ноч,
сляпая, чорная.
Чарнейшыя — ці ёсць у лістападзе?
Да гэткай цемры золкай не прыгорнешся.
Гарнуўся ўсё ж і той і гэты —
што ж парадзіш?

Каторую пару брылі мы несупыннаю,
нярадаснай хадой ад ку́ста да куста́.
І найжвавейшыя жадалі ўжо хваінамі
нязрушнымі навечна тут прыстаць.

Мы йшлі, не здзеіўшы таго,
што ў зыркім полымі
гарачае крыві зрадзілася, цвіло.
Затое ў клёнах, восеняй аголеных,
за намі паланела роднае сяло.
Мы йшлі, а нашы слуцкія сасоннікі
тулілі нас бязрадна ў туманы.
Мы йшлі...
Ды не на ўсход,
у вязь старое хронікі
уплесці новы чын...
Ішлі на захад мы...
Ці помніў хто, што накш
нядаўна сэрцы біліся,
што накшы правадыр,
не боль глухі, нас вёў?
Крывавілі шляхі апошнімі рабінамі
і першаю юнацкаю крывёй?

Гула штосьць глуха ноч,
сляпая, чорная.
Чарнейшыя ці ёсць у лістападзе?
На душаў дно,
на восеньскія ворывы
асенні, золкі сум залою падаў.
А мы —
ішлі, ішлі, ішлі, хаваючы,
ратуючы гадоў апошніх жменю.

Ішлі на захад мы... Няхай...
А дачакаемся:
завернем на ўсход
і мы, і наша змена.

*1947*

## МОЛАДЗІ

*Прысвячаецца другому выпуску матурыстаў[1] Беларускае гімназіі імя Я. Купалы[2]*

Усе мы знаем: лёс наш несумольны,
урэшце кажнага затруць гады.
Як малыя йгрушкі-дзічкі ў полі,
быць няможна вечна маладым.

На палёх памерлага «калісьці»
не ўзрунее спорная трава.
Раз апаўшы, лістам залацістым —
хоць вясна — ізноў не красаваць!

Моладзь,
любая, пакрыўджаная моладзь!
Хай і так — не здраджвай маладосць.
Пі удосыць год юнацкіх церпкі солад,
паланей, пакуль сама не скажаш «досць»!

Паланей за нас, за Край, за свет далёкі,
за усё, што варта ходання ў жыцці.
І не мер, не ліч ні сіл, ні міль, ні крокаў,
не сумуй, што давядзецца й адцвісці.

Адцвітаць не страшна...
Страшна вёсны
затаптаць у гразь, братоў сваіх
між сабой сварыць... З уцехай злоснай
верадзіць іх раны, не гаіць.

Бо няма на свеце злыдні больш нягоднай,
чыну, вартага й праклёну і суда,

чымся юдам стацца для свайго народа,
чым братоў ці здрадзіць, ці прадаць.

Плямы гэткай нат гады не змыюць
ані з душ сацьмелых, ані з рук...
Помні, моладзь:
хто згінаць прывыкне шыю —
ўжо вачэй не ўзніме угару.

А там — сонца...
Дык імкні ж!
Хай свежасць
і тваю затруцьь каліcь гады, —
захацеўшы, з дзічкамі на межах
можна быць
і вечна
маладым!

*[1946—1947]*

## ЗАРАНА

Дадзела мне у бубны і літаўры
нямоўчна біць,
сябе ды іншых суцяшаць.
Чакае й на мяне калісьці недзе старасць,
хоць я й паэт, і я — звычайная душа.
І мне жадаецца уцехі і спагады,
і я б хацела выплакацца ўсмак
па тым, што некалі я называла «радасць»,
а заўтра «смуткам» назаву ці як...
Даволі!
Іншы хто трапеча хай на ветры!
Хоць кроў, як вар, бурліць, —
нам свету не сагрэць.
Грабар із воўчымі вачыма мэтрам
яго ўжо вымераў, мармычачы:
«Памрэ».
І сіл у нас няма прагнаць за рэкі
яго і тую, што слядом за ім брыдзе.

8 Зак. 634

Ну што ж,
пара і нам, відаць, самкнуць павекі
і лагаўя шукаць, як кажны звер.

Навіснуць нізка шэрыя галіны
ялін над намі...
Шыльнік, як дажджом,
прысыпле цела,
безліч ночаў сініх
у зоры разатчэ наш новы дом.
І ціха будзе ў нас, і супакойна,
хай лютуюць вакол пажары і вайна.
Хай ці адна яшчэ зямлю угноіць
крывавая
ці восень,
ці вясна...

Ды не!
Не!
Не!
Зарана зашывацца
у логава на сон,
кідаць у горы свет.
Багаславёныя змаганне, боль і праца!
Праз іх, хоць плачам мы, ірвёмся —
ды жывём!
Нявесела,
а будзем у літаўры,
у бубны біць,
сябе ды іншых суцяшаць,
дарма, што нас усіх захліставає варам
туга,
што і у нас — звычайная душа.

*[1947]*

## БЕЛАРУСІ

Ёсць людзі, што ў Цябе і вераць і не вераць,
якім Ты «сіняю вачэй яшчэ не расцвіла».
Іх лёс няласкавы, іх шлях імглісты й шэры.
Ці нам каменне ў сэрцы іх шпурляць?

Ды ёсць і іншыя, якіх Ты вылюля́ла
найшчыршай песняй матчынай, якіх
карміла лустай жытняю бязмала
да ўчора
і што сяння кажуць: «Кінь!
Якія мы твае,
а Ты якая наша?
Цябе няма, Цябе хтось выдумаў на смех!»
І вышчараюцца й клянуць Цябе,
а часам
клыччом за горла...
Зрадзе ж не сацьмець!
Даруй ім, Краю наш, калі патрапіш,
хай нат прабачання для іх няма.
Няхай наш боль, усё змаганне наша
для іх — пад ногі кінены лахман.
Дзень прыйдзе —
Ты сама іх, Маці, пакараеш,
прапаліш роспачай і целы, й сэрц кару.
Для нас,
выгнаных сяння з Краю, —
была Ты,
ёсць
і будзеш,
Беларусь!

***1947—1948, Міхельсдорф***

## ЗНЯВАЖАНЫМ СЦЯГОМ

Калі у туманы нязведаных прастораў
Магутная армада слала караблі, —
раскінуўшы крыллё над імі і над морам,
па славу й родныя сцягі плылі.

І кажны карабель нёс горда і пышліва
свой сцяг на мачце найвышэйшай праз вятры.
Радзімай быў ён ім, у сінім морскім шкліве
загубленым здабыўцам,
юнгам ці старым.

І нас няветлы лёс ад Бацькаўшчыны мілай
размёў па свеце сяння, як лісцё.
Тут, на чужацкіх кручах і пахілах,
нам бел-чырвона-белы сцяг —
усё.

Хай не на гордай мачце ён, і не ў блакіце,
і не па славу тут із намі, — ён
для ўсіх нас — Бацькаўшчына,
Нёман, апавіты
пяслівай песняю... аб родных сёлах сон...

Усё, што ў нас было, што ёсць, усё, што будзе,
у бел-чырвона-белае ўваткана палатно.
І вось яно стаптанае у пыле й брудзе,
з узвышшаў ворагам нізрынена на дно...

Ды ці патрапіць хто арлам падрэзаць крылы,
прымусіць поўзаць тых, што створаны лунаць?
Шугайце ж гэн, у сінь, сцягі Радзімы мілай,
дарма, што топчуць вас, на славу
вам
і нам!

*1948, Міхельсдорф*

# ВЕР!

*3-му выпуску нашых матурыстаў*

Дзень па дні адцвітае дажджом,
ветраў песнямі, сонцам асеннім,
працай, снамі... (іх гэтулькі ўжо
мы наснілі, як зор у начы),
а із намі — ізноўку пачын,
туманы, мігатлівыя сцені,
і няма ні пагнацца за чым,
ні куды запраўды уцячы.

Ў нашых жутлых, зліnялых часох
ты адна, моладзь, — чыстае зерне.
Для цябе для аднэйварта мо
падстаўляць пад удары плячо.
Хай з вас гэты ці гэны знічом
і не ўспыхне, угнецца, заверне, —
шмат хто здолее ўсё ж рассініць
васількамі прасцяг каласін.

І таму, хоць і хочацца нам
кінуць, рынуць парою ў прадонне
дні, парослыя ў крыўды, у зман,
у каменне, што вечна ля ног, —
мы трываем і нат на парог
не пушчаем тугі, бо Пагоняй,
вер нам, моладзь, імкне наўздагон
наш праменны, наш сонечны кон!
Вер у гэта! Як мы, выглядай
срэбнай збруі ў сатлелых далечах.
Вер, благое сплыве, як вада,
нат не згледзіш, куды і калі.
Вер і выкінь усё, што баліць,
увесь сум на рассінены вецер.
Вер — хай будзе, што будзе, — а вер,
што Край Родны
ізноў аджыве!

***1948, Міхельсдорф***

## 25-ТЫ САКАВІК[1]

Ён прыйдзе, гэты дзень!
Ён не прыйсці не можа!
Ён прыйдзе —
й загудзе вясновы буралом,
пакрышыць, размяце,
раскідае, зніштожыць
усё, што нам шляхі да хаты замяло!
Ці чуеце?
Аб ім
шасціць быльнёг аселіц,
пяюць вятры ў лазе
і звоніць крыгаў лёд.
Ахвяраю крыві
а Слова стане Целам,
і ўжо ніколі больш не ўстане Чорны Год.
Няхай бярэмя він
прыгнула нас, і крылы
апалі,
й хлеб чужы нясмачны і важкі,
няхай нас апавіў
тугой агорклы вырай, —
трывайма!
Ён ідзе —
Вялікі Сакавік!
Ідзе...
й пад ногі рунь
яму кладзецца, таюць
снягі, на паплавох зяленіцца трава...
Радзіма!
Беларусь!
Каханая, святая!
Багаславі нас жыць
і веру захаваць!

*1950*

## ВЕРЦЕ!

Вам горка, што няма таго,
чаго мы столькі год чакаем,
што сцежка нашая вузкая
усцяж не выб'ецца з лагоў?
Што заплылі вадой разоры
парослых лебядою ніў,
што Бог судзіў нам несці сны
аб родным краі аж за моры?
Дарма!
Ці ж не спяваюць скрозь
узімку золкія завеі?
Ці ў душы вусціш нам не сее
асенні дзень, цяжкі ад слёз?
Ды надыходзіць рассініць
далечы год у год прадвесне,
зноў малачай гарыць ля весніц,
залоцяцца й рунеюць дні...
І ніваў сонечны прасцяг,
і пушчы, сінія ад сценяў,
святкуюць Свята Ўваскрасення.
Такі спрадвек закон жыцця...
Чакайце ж,
верце,
прыйдзе Ён,
Вялікі Дзень, і ў нашу хату.
Пашле і нам нарэшце свята
дзіўны, нязнаны Божы кон!

*[1951]*

## РАЗВІТАННЕ

Шмат нам цвіло,
шмат нам свяціла
ужо ў жыцці трымцівых зор,
ды ўсё сыпкім
нясталым пылам
размёў на ростанях віхор.

Ён долю ўспеніў,
пакамечыў,
нас, як лісцё, сарваў з галля,
пагнаў па пушчах,
па пустэчах,
дзе не аруць і не спяляць.
Мы дапаляліся
і гаслі,
мы зноў шугалі угару,
змянялі выганы і яслі
ў адным імкненні: «Беларусь!»
З адною думкай:
«Зноў пабачыць»,
з ліпнёвай радасцяй
гарачай
прыльгнуць да роднае мяжы.
І вось сягоння
чабарэе
нам не яна, а далячынь
салёных мораў,
плачуць рэі,
віхор у ветразях гучыць.
І ўсё далей
сплывае ў шэрасць,
у змрок той Край, дзе люба ўсё.
О, Беларусь, хай так
мы з верай
Цябе і ўдалеч панясём!

*[1950—1952]*

## НАД ПАЎСТАНЦКАЙ МАГІЛАЮ

Кастрою срэбнаю прысыпаны кусты.
Кранешся —
і кураць густым і белым дымам...
Тут пахаваны, кажуць, нехта з тых,
што аддалі жыццё,
каб жыць магла Радзіма.

Зацерлі золь, слата
няўзнак
імёны, год.
Із наспай роўнае ўзнялося пустазелле.
Ды запыні, спытай абы-каго.
«Жывыя, — скажа ён, — хай целы і сатлелі!»
Крыжы стаяць, няхай пакленчылі яны.
Ці ж лёгка несці год важкіх і чорных ношу?
Не ў памяць, пэўна, й ім, каго тут кон спыніў,
ні колькі іх злягло,
вясёлых і харошых...
Ці йшлі яны у бой із песняй маладой,
ці доўга неслі боль, аж палі гэтта ніцма,
ці на Дзяды[1] мядзяныя, увосені,
з бядой
прыходзіць хто па іх паплакаць,
памаліцца?
Ці горка ім было, як znічкі, дагараць,
ледзь да прысягі Бацькаўшчыне ўзняўшы
рукі,
ці ведаюць яны,
што за народ, за край
крывавяць скрозь яшчэ браты, сыны ды
ўнукі?
Ці звоняць з года ў год ім звонкія лісты
і «памяць вечную», і «са святымі»?
Ці знаюць —
не памрэ ніхто й ніколі з тых,
што аддалі жыццё,
каб жыць магла Радзіма?
Ідучы за Яе у немінучы бой,
як сцяг, ахрышчаны крывёю, кожан
змагар іх памяць панясе з сабой...
І — пераможам!

*1952*

## НА МОРЫ

Вакол зяленіцца вада,
бягуць зялёныя узгоркі.
Здаецца,
толькі зажадаць, —
і чабары запахнуць горка,
рамонкаў бель замігаціць
на грабянёх, прыбраных пенай,
і ўрэшце, раз яшчэ ў жыцці,
нам стане мора па калена!
Усё сон... Салоны подых твар
не песціць, толькі шчыпле,
нетра
гудзе пагрозліва, і вар
зялёны ходаецца з ветрам.
Вада вакол... вада... нідзе
нічога больш між намі й светам.
І хутка йшчэ і гэты дзень
патоне ў мора непрыкметна.

*[1950—1952]*

## А БЕРАГ ДАЛЁКА

Зноў вецер і хвалі,
зноў мора і мора...
Зноў кагарак плоймы крыламі гудуць,
зноў сыплюцца, сеюцца белыя пёры
і сонца
ў сівую, густую ваду.
Каторы ўжо дзень?
Ці мо час тут знядужаў,
ці часу, як кажуць, няма наагул?
Паўзе дзесь за намі успененым вужам
усё-ткі наш след, і далéчы бягуць.
Бягуць запаволі...
Баюся, каб песням
між небам і морам навек не застыць.

У сініх прасторах ім сумна, ім цесна,
не цешыць ні вецер,
ні дзень залаты.
Раіцца у хвалях адвечная вусціш,
няма ў іх уцехі,
яна — на зямлі.
Зямля — мае думкі і песні,
дык, мусіць,
ім бераг зялёны вазьмуся суліць.
Далёка наш бераг, далёка...
Між намі
над хвалямі кагаркі ўспенілі сінь.
Ці хтосьці там сяння, купальскімі днямі,
уцеху спяліць у густым калассі?
А мы,
ці дзе згледзім уцеху,
ці межы
бадзянню дзе знойдзем?
Каму ж адгадаць...
Навокал ні межаў, ні следу, ні сцежак,
сінеюць адно далягляд і вада.

*[1950—1952]*

## ЗОРЫ

Мне спаць не хочацца...
Даўно ужо згасіла
змярканне на вадзе пагары зыркай плямы,
і зоры расцвітаюць сінім пылам
адны ўгары, другія — пад нагамі.
Пакорнае лягло ў прадонне мора,
у цемры дыхаюць ледзь чутна хвалі.
Вятры іх песнямі паілі ўдзень, дык морыць
іх важкі сон цяпер,
і не цікавіць далеч...
Я ж,
я ж усцяж гляджу на цяг бязмежжаў цьмяных,
стараюся пазнаць, што пахавана ў цішы...

Дарма... скрозь цемра й змрок,
хай угары над намі
блакітны Млечны Шлях у зоры неба вышыў.

*[1950—1952]*

## КАБ СЭРЦЫ ВІКІНГАЎ[1] МЫ МЕЛІ

Сягоння мора колеру, якога
бывае лёд зялёны недзе ля Грамніц[2].
Урэзаўся ў яго, шукаючы дарогі,
наш параплаў,
а ён —
звініць, звініць, звініць...
Аб чым?
Што весціць нам ягоны звон зялёны?
Чаго мы слухаем яго, куды плывем?
Што загубілі мы й чаго шукаем сёння,
за сонцам імкнучы?
Нязнаны, новы свет?
Калісь, напяўшы цяглiцы і кужаль
галодных ветразяў,
імкнулі, як і мы,
удалеч вікінгі...
А з імі ймкнулі мужнасць,
і прага тайніцаў, і зменнай славы дым.
Каб сэрцы вікінгаў і ў нас званамі білі,
мы б завярнулі ветразі тут, зараз,
на усход.
Туды, дзе у крыві, у роспачы зацвілай
і слёзы і душу ўжо выплакаў народ.
Ды мы не вікінгі....
О, Новы Край,
як гулі
спыніўшы, хваля нас да порта прыжане,
будзь нам прытулкам цёплым і утульным,
але не Бацькаўшчынай,
не!

*[1950—1952]*

## ЗНАЮ

Шэры дым — дробны дождж — над вадою курыць.
Кроплі сыплюцца густа на рукі, на твар.
Як іх прагна пілі б і лісты і трава!
Ды навокал адно,
і ўнізé, і ўгары
хваляў шэрых дрыгва,
хваль сівых гушчары,
і на сэрцы дрыгва...
Як параіць сабе,
каб яшчэ раз паверыць чужыне... і жыць?
Парваліся із роднай зямлёю гужы,
ды сумую па ёй я не менш, не слабей,
хоць бяжыць без сцяжын
да другой карабель.
Дробны дождж над вадой тчэ сівыя радкі,
кроплі таюць на вейках салонай расой,
але знаю ўжо я,
што смалою сасон —
захачу — і запахне мне вецер марскі,
што мы скрозь панясём
сон аб родным краі!

*[1950—1952]*

## ПЕРШАЯ ВОСЕНЬ

Асенні дзень паўз места йдзе.
Хай дзе-нідзе рудзее медзь
лісця,
ўжо ясна, што па ўсім.
Дзень знае: ззяе далячынь,
але вясны не надтачыць,
дык змоўк і сціх.
Прыціхла й я, руды лісток,
што ймкне,
куды — ці знае хто,
адно далей, далей, далей

над пасмай ходзішчаў,
дзе скрозь,
як і у нас, лісцё бяроз
і сціплых ліп лягло... сатлець.
Так проста... Ці у нас, ці тут,
лісты рудзеюць і лятуць
па месце ў восеньскі прасцяг.
Адно ці й тут бярэ ў палон
вясна муры й сівы бетон —
не знаю я.
Такой бяды! Яшчэ трымціць
часамі й сонца у лісці,
і мне не ў думцы засынаць,
дык будзем жыць як набяжыць —
аж зноў зазвоняць капяжы:
— Вясна, вясна, вясна!

*[1950—1952]*

## ТУТ ГЭТКАЕ ЗАВУЦЬ — ЗІМА

Тут гэткае завуць — зіма!
У нас такой зіме й назову не прыдумаць.
Да снегу непадобную, густую каламазь
дзяўчаты басаножкамі распырсківаюць сумна,
скуголяць тармазы задыханых машын,
нязграбна слізгаючыся на павароце...
Кляне ўсё места слоць удосыць, ад душы,
а снег ідзе, канаючы у лёце.
Ды ў парку, дзе цяпер няма чаго шукаць,
ні ценю, ані модаў на уборы,
ён мокрага галля чапляецца, штукар,
малюючы яго у дзіўныя узоры.
І на часіну сад, пакуль не абтрасе
з галінаў лётны пыл,
здаецца белай казкай,
такою чыстаю, дзявочай у красе,
што ажно хочацца ў захопленні заляскаць!
Ніхто не пляскае,
бо й хто тут мае час

зірнуць на Божы свет адкрытымі вачыма?
Імкне натоўп,
і енчаць і вішчаць
машыны ў гоне,
міма,
міма,
міма...

*[1950—1952]*

## У МУРОХ

Зяленіцца галлё...
Мне лёгка, хай ад працы
шчымяць і ныюць пальцы...
Доля ўжо такая,
Ды радасці маёй няма дзе разгуляцца,
муры, муры, муры зусюль яе сціскаюць.
Няма як прывітаць вясну,
душу наросцеж
ёй адчыніць, напіцца сонца, сіні.
Яна тут, як і мы, вандроўніца і госця,
ўцякае, ледзь лістом акрыюцца галіны.
Мо хочацца і ёй па-гаспадарску, жменяй
ячмень буйны з сяўні рассеяць па бетоне,
мяккую глебу збаразніць,
ды й сценю
зямлі няма нідзе,
адно каменне звоніць.
Няхай сабе,
яна, вясна, у сэрцы, ў песнях,
вясна ўва мне, яе ніхто ў мяне не возьме.
І ці збярэцца плён,
ці сон удасца здзейсніць —
зяленіцца галлё,
і вецер твар барозніць!

*[1950—1952]*

## ВЯСНА

Я думала:
якая тут вясна
у шэрай пушчы неабсяжных вежаў,
дзе за каменнямі сцюдзёнымі не знаць
нат пядзі тэй зямлі, што ў нас нарогі рэжуць?

Ажно і тут яна ускрэсла і цвіце
і ў сіні зыркай над ярамі вуліц,
і ў плямах сонечных на цёмнай цэгле сцен,
і ў красках, што да губ дзяўчаты туляць.

Усюды, дзе ні глянь,
адно людзям няўцям,
яна, зялёная, свае сукае ніці,
мільёнам парасткаў імкнецца да жыцця
із кажнай шчэрбіны у вулічным граніце.

Смяецца ў галасох гарэзнікаў малых,
хвалюецца ў гудкох прарэзлівых машынаў...
І зноў бярэшся радасна спяліць
сны, што сплылі былі із выраем птушыным.

Хто ведае,
мо ўлевай веснавой
напоеныя, ўзыдуць, зарунеюць,
пад ногі лягуць залатым жнівом
і ціха зашасцяць: «Вяжэце, жнеі!»

Я думала:
якая тут вясна?
Не вылузацца ёй з каменнага палону.
Ажно гляджу... і з кажнага гранітнага звяна
смяецца ў твар яна вяснова і зялёна!

*[1950—1952]*

## МЕЛОДЫЯ

Нат места ноч прыцішыла...
                                        Так гулка
мой крок звініць у ночнай цішыні.
Набраклі песнямі за дзень пляцы й завулкі
ці мо душа мая?
                        Ліловы змрок звініць.
Адно я не злаўлю мелодыю мяккую,
што апляла мяне і пахне, як трава,
і свечкі каштаноў, і сіні бэз...
                                        Такую
вясновую у месце не сарваць,
не стрэсці з галіны мястовых пыльных клёнаў,
з каменных ходзішчаў пад імі не падняць.
Мо з паплавоў сюды прыйшла яна зялёных,
адтуль, адкуль і я, і гэтая вясна?
Звініць мелодыя...
                        Калышуць цішу тоны,
пяе ўсё аб вясне ліловы змрок.
І гукі места ў ёй, непераможнай, тонуць.
Чуваць адно яе і мой упарты крок.

*[1950—1952]*

## ІЗНОЎ ВОСЕНЬ

Так, пэўна ж, праміне
усё:
        нябёсаў сінь,
і вецер, любы мне,
й кругі на воднай роўні,
і колас поўны,
і сцябло гірсы,
патрэбнае, ці не,
усё міне ўсё роўна...
Як выйдзеш дзе далей,
за места —
                зігацяць
яшчэ ў траве асот і чыстацела зоркі,

ды кінулі пылець уцехаю жыцця
і сэрцы,
й шэрых вуліц столкі.
Зноў восень... Зноў гарыць
над кудрай каміноў
увечары агонь пагары крывяністай,
і людзі і муры
ў сцень туляцца ізноў,
і жутлыя, і сонныя ўсе чыста.
Я ім не памагу
ні сонца распаліць,
ні стрэсці з вейкаў сон.
Іду и раннем цьмяным
разблытваць той ланцуг,
што выкаваў калісь
нам на пакуту кон,
да сяння не пазнаны.

*[1950—1952]*

## СПЯКОТА

Сягоння, быццам збан,
выпальваецца ў печы
наш горад... Спеката — аж бела уваччу.
Маўляў кісель, трымціць паветра, брукі, плечы
замлелых камяніц...
а я так піць хачу.
Нярварта, запраўды:
ледзь, ледзь паспееш выпіць,
а смага зноў шчыпае і пячэ.
Чуваць вакол адно —
ўсе сварацца на ліпень,
у сонца аніхто не ўскідвае вачэй.
А ў нас цяпер жыты хінуць калоссе,
дзічкі
на ўзмежках церпкі плод залоцяць,
у быллі
палуднічкі гудуць,
а вецер твар казыча,

і сонца п'юць усе, і людзі і палі.
Спрабую ж піць яго і тут,
гарачым сокам
нальюся ўся,
каб цешыцца і з ліп,
і з крыку кагарак над сіняю затокай,
скуль адплываюць у далéчы караблі.

*[1950—1952]*

## КАБ МОЙ ГНЕЎ

Зліў крывёю злавесны асенні заход
вочы ўрослых карэньмі у зрок небасягаў.
Гнеўны вецер
гарой гоніць хмары на сход,
долам — горне лісцё у рудыя засягі.
Каб мой гнеў быў, як гэты віхор, што гудзе
ў арфах гнуткіх антэнаў, зрываючы струны,
прыкрай золяй асенні апырсквае дзень,
у раз'ятраных хвалях рагоча пярунна,
каб мой гнеў быў агнішчам, што паліць на пыл
і крамнёвыя скалы,
й сумленні злачынцаў,
што маланкай запальвае вочы сляпых,
што палае без часу, канца і пачыну,
каб мой гнеў не баяўся руін, ні крыві,
абяртаючы сёлы у попел і жужаль,
я б зрабіла канцы із бядою,
завіць
не ўдалося б ёй новы, засморганы вузел.
І сутоннем і ўдзень пад вакном у мяне
мо ўжо з тыдзень трапеча лісток на галіне...
Раззлуюся, спрабую, мо гнеў ператне
век ягоны бязмэтны, зрудзелы
і згіне,
мо пакорліва ляжа ў сцюдзёную гразь,
можа...
Чую, як кроў мне захліствае вочы,
як агнём наліваюцца жылы, гараць

і аблічча і думкі,
як сэрца грукоча.
Але ціха калышыцца жоўты лісток
на галлі, ззелянелым ад песні асенняй.
Ужо ў восеньскай цемры, густой і ліпкой,
ён здаецца не рэчай, не явай,
а сценем.
І мне робіцца сорам і горка стаяць
пад вакном, твар у твар із сутоннем
і клёнам,
бо я так бы хацела, каб роспач мая
пакарала таго,
хто Радзіму палоніць!

*[1950—1952]*

## ВУСЦІШ

Сівым сутункам ішла я... жыць.
Лісты шасцелі,
я йшла усцяж.
Ад іх жаўцелі гужы сцяжын,
ад іх ратунку ужо нямаш.

Здаецца, жоўцяй наліўся дзень,
рудая вусціш паўзе зусюль,
у кажным кусце...
Душу нідзе
ад смерці жоўтай я не ўтулю.

Ды, змяўшы шорах,
віхор узняў
дождж жоўтых зораў з маіх сцяжын.
Сатлелі дзесьці яны да дня,
я ж, я паўз места паймкнула... жыць.

*[1950—1952]*

## АСЕННІЯ ЛІСТЫ

Як плойма вераб'ёў,
што шуганула ў сінь
ды хмараю рудой ізноў зямлю ўскрыла, —
яны ўзнімаюцца у свой асенні вырай,
каб ссыпацца й сканаць на леташнім лісці.

Але пакуль яны імкнулі ў вышу,
у свет
як палыменных слоў разгойданая нізка,
пазбыўшыся зямное цягі й ціску,
яны жылі, як з нас ніводзін не жыве.
Бо мы глядзім адно пад ногі,
як брыдзем
размытаю дажджом жыццёваю дарогай.
Не сніцца нам сысці з яе на ногаць,
хай знаем —
завядзе у продань ці нідзе.
Мінае дзень па дні...
Штогод — цяжэйісці,
ужо не паляцім, каб нават мелі крылы...
I вось, маўляў лісцё, што зноў зямлю ўскрыла,
сканаем недзе й мы,
не шугануўшы ў сінь!

*[1949—1952]*

## КУДЫ ТУГУ МЫ ДЗЕНЕМ?

Без веры, без імкненняў сэрца — пусціня,
адцвілая, зрудзелая, сухая,
дзе ўздыхае
адно бясплодны сухавей,
дзе цішыня
і то, здаецца, не такая.
Нічым ты гэтай пусціні не налієш,
ні радасцяй пустою, ні уцехай,
не ўспеніш рэха
па імклівых песнях,
што былі калісь мае,

а сяння — непатрэбны, сцерты вехаць.
Мне сумна, што ізноў на свеце лістапад,
што лічаць ліпы зноў свае чырвонцы,
што сонца
так мала,
што хаценняў —
не дапяць,
што давядзецца ўсё калісьці скончыць.
Не,
буду зноў пяяць, і верыць, як даўней,
і спадзявацца Свята Ўваскрасення,
інакш, дзе сцені
асеннія, й чужога места снедзь,
і ўсю тугу мы дзенем?

*[1949—1952]*

## ХОЦЬ МЫ ЛІСТЫ

Хоць мы лісты, што восеньскі віхор,
разгойдаўшы, мяце па далячынях сініх, —
карэнні нашыя ўліліся у падзол
радзімай глебы, і таму —
не гінем.
Не выкарчаваць нас сякерай ці агнём,
сталёвай сеткаю ўкавалі мы суглінак.
Калі вярнуць — вярнеце нас з зямлёй
і з спадчынай дзядоў,
інакш яе не кінем.
Адно, ці стане ёй, Радзіме, на гады
жывой вады й пажывы для згалелых?
І ў восеньскім лісці хтось, вецер мо, шасціць:
Трывайце...
З вамі я...
Адзіны лёс мы дзелім.

*[1950—1952]*

## ГАРЫ, ЗАХОД!

Няма нічога, што цвіло й жыло б аднойчы.
Няма такога, што гарэла б толькі тут.
Каханне ці вясна, з якімі сяння скончым, —
ізноў, калі не ў нас, —
у іншых зацьвітуць.
Усё, што мелі мы,
паспеюць зноў загудзіць
нашчадкі, дні жыцця жнучы заместа нас.
Нічога новага няма і ўжо ж не будзе,
хай свет перашукаць ад берага да дна.
Але ці ж варта ў сцень затым сысці з дарогі,
што столькі ўжо дзядоў таптала цёплы пыл?
Было ўсё так ці не — не ведаю нічога,
чужою праўдай мне вачэй не засляпіць.
Гары ж, гары заход,
як мо гарэў спрадвеку.
Я хараство тваё вітаю ўпершыню
і ў чорны змрок раней не узніму павекаў,
пакуль сама ўсе сны, ўвесь чар не перасню!

*[1949—1952]*

## МОЙ СКАРБ

Мне лёс даў, можа, болей, як каму.
Жыццё мне дорыць сны блізу на кажным кроку.
Што для адных
нуда і каламуць —
мяне пранізвае балюча і глыбока.
Ды я, маўляў скупы,
над скрыняй не дрыжу
і золата сваё пад ключам не трымаю.
Мой скарб і ў шуме веснавым дажджу,
і ў голасе галля, умаенага маем,
і ў колерах, якімі дагарае дзень,
і ў сініх сценях на зімовых сцежках...
У дробных радасцях,
будзённасці,
бядзе —

угледжу я усюды нешта.
Вось і сягоння... Слоць...
Нанізваюць вянкі
бліскучых пацерак драты паміж слупамі,
рукамі мокрымі у шыбы б'юць сукі
сацьмелых ліп,
і цешыцца — не ў памяць.
А я стаю ужо гадзіну ля вакна,
заклясці ў словы ймкнуся
і мігценне
празрыстых кропляў, і мутны туман,
і ссутунелыя на бруку сцені.
Мне хочацца навечна, назаўжды
няўхопны чар слаты расплесці з тайніц сяння.
Як той Тамаш Няверны[1],
зверадзіць
сусвету незагоеныя раны.

*[1949—1952]*

## НЯМА КАЛІ

Снег стаяў кагадзе,
ды ўсцяж блішчаць галіны
адценнем жутлага, старога серабра.
Усе ходзішчы ў вадзе,
і гэтак сіне, сіне,
ўгары, дзе растае клубок ваўняны хмар.

Такую чысціню
і глыбіню нябёсаў
ці можа выспяваць найлепшы нават верш?
Я так люблю зямлю,
яе вясну і восень,
што ува мне яна й без слоў жыве.

Не ўціснеш у радкі
нязграбных літар песні,
лістом ненапісаным хай ляжыць.
Нябёсам сінь пакінь,
а песням — нівы песціць,
сам — праз жыццё шукай сцяжын.

Не бойся, не мінеш:
шырокія, вузкія,
парэзалі яны на крыж, на сто прасцяг.
Калісь — раней, пазней,
як торбы з плечаў скінем,
мо запляцём у верш красу жыцця.

А сяння нашы дні
ў сіло злавіла праца.
Гадзіны ймкнуць, імкнуць,
за імі ймкне рука...
І сіні, чысціні
у грукаце й гарачцы
счарнелай фабрыкі няма калі шукаць.

*[1950—1952]*

## ЗАЛАТОЕ

Шалее вецер...
Плешчуць у далоні
і скачуць «Крыжачка» й «Лявоніху» лісты.
Рудыя... Залатыя... У палоне
асенніх песняў,
пэўна ж, залатых.
І нешта і мяне ўзнімае закруціцца,
заплёўшы рукі — гнуткае галлё —
мяцеліцай асенняю над ніцай
імглою залатой пустых, рудых палёў.
Але зашмат, відаць,
я збаразніла сцежак
жыццёвых, не рудых і ўжо ж не залатых,
а шэрых ад штодзённасці і... рэшты.
Мне ў залатую высь не ўзняцца, як лісты.

*[1950—1952]*

## НАД МОРАМ

Не ўсё ж адно рабіць...
Хай пальцы адпачынуць,
а вочы ўзнімуцца вышэй хісткіх антэн
у чырвань, золата і сіню, сіню
ці неба, ці вады, дзе сцені ўсё гусцей.
Шалёны акіян,
пан тайніцаў прадонных,
з глыбінямі — магіламі культур
памерлых, аб якіх не баяць баек,
сёння
загаслы і дзіўны лёг супачыць пад мур
нябёсаў, дзе гарадь ужо
і гаснуць зоры —
камусьці кіненая жменя медзякоў.
Суладна і ў мяне на сэрцы... морак
вячорны і яго працяў наскрозь.
Я слухаю ізноў із прагай... цішу,
як спеў сірэн лавіў калісьці Адысей[1].
І кажны іншы тон чужы мне сяння, лішні,
хіба... каб перапёлкі голас па расе...
Каб косаў звон хіба,
калі размахам цесна,
а целу радасна крывёю паланець...
Ці жніўная туга, заклятая у песнях,
і жадная вада ў гладышыку на дне.
Дарма... Пяе прастор аб нудных даляглядах,
аб тых, чыю яны загойдвалі тугу,
аб лабірынтах скал, Калхідах[2], лядах
абтокаў казачных,
аб харастве лагун.
Нат ночы не згасіць аркестры стройнай мора.
Прыслухайся — гудзе смыком віяланчэль,
а скрыпак галасы звіняць высока, ўзгорна,
як над чыёй труной, аж уваччу пячэ.
Што ж, хай сабе плыве сімфонія ў сутонне.
На сяння і жыццю і музыцы — бывай.

А ўранні кажны гук патоне ў жудкім гоне
трансмісіяў і кол...
Пайду я — працаваць.

*[1950—1952]*

## МЕСТАВЫ ВЕЧАР

Саромечыся, нейк няздатна
шугнула сонца за муры.
Яшчэ адна малая залатая латка, —
і цемрай места закурыць.
І пабягуць шнуры меставых дрэваў
хавацца ад агнёў рэкламаў, фар,
ад пахаў з брамаў, ад гугнявых спеваў,
ад смеху ў брук урослых пар.
А мне захочацца такое цішы,
якое тут няма,
а толькі ў нас.
У зоры вышытых узвышшаў
і сноў без вёслаў і стырна.

*[1950—1952]*

## ГАДЗІННІК

Гадзіннік таххае...
Мо сэрца нашай хаты
заклятае у ім?
І хаты, і маё?
Няёмка дыхаць з ім не ў тахт,
ніякавата
суцішыцца, маўчаць,
калі нясцішны ён.
Ды мне не хочацца спяшацца жыць сягоння.
Да шыбаў туліць твар згалелы лістапад,
і тчэцца верш, такі ж, як сцені чорных клёнаў
на запацелым шкле...

Што поўнач — неўздагад.
Гадзіннік таххае...
Мо хто душу сусвету
ўсяго закляў у ім?
Няхай, мая — жыве.
Пакуль павесіць ноч на чорным небе ветах,
я кужалем сівым няўзнак датку мой верш.

*[1950—1952]*

## ПРАЎДА

Што, каб душу адчыніць
шчыра, дарэшты, наросцеж,
хай словы спадошчуць
з яе намулелыя дні,
ночаў сатлелыя звенні,
сцені
сноў, што ні збыць іх, ні сніць.
Хай бы імкнула яна,
праўда, па вогкіх завулках,
па ходзішчах мулкіх,
дзе ходзіць, зблукаўшы, вясна,
кратала стрэчныя сэрцы,
што верыць
мо і умелі б, калі б не мана.
Толькі людская сям'я
сыдзе з дарогі ёй... Неяк
нават не ўзнімуцца вейкі
з праўдаю погляды сцяць.
Ці не таму мо паэты
свету
праўды не кажуць, як я?

*[1950—1952]*

## ДЗІЎЛЮСЯ Я САМА

Прароблена ўсё...
Я маю крыху часу.
Хоць гэта й дзіўна — часу для сябе.
Пакуль сутонне сіню дню пагасіць,
суцішуся й сягну ў душу як найглыбей.
А мо пайсці глядзець, як сонца сеці топіць
над шэрым плёсам хмар,
плысці з людзьмі ў туман?
Навошта?
Гоман, рух, і вуліцы, й натоўпы, —
усё ўва мне. Іх жаль ці радасць — я сама.
Я ведаю усё, што не заўсёды й сніцца,
што ўсцяж жане людзей аднекуль ці кудысь.
Дзіўлюся я сама,
ці ёсць яшчэ крыніца,
з якое б я не чэрпала вады?
І часам, як цяпер, кажу я проста:
досыць,
што можа мне жыццё пад ногі йшчэ паслаць?
Ды дзень міне, і зноў імкну я ў золь і восень
шукаць крыніц, з якіх вады я не піла.

*[1950—1952]*

## МАЙМУ ЖЫЦЦЮ

Жыццё,
цябе я пакахала
яшчэ тады, калі не ўмела
цябе назваць, а дзіўным палам
тваім сагрэць малое цела.
Хадой хісткою із жадою
я ў свет імкнула па дазнанні,
хоць «жыжа» плачам і бядою
мяне вітала,
як і сяння...
Хоць сінякі мне давялося
збіраць блізу на кажным кроку —

маўляў зялёнае калоссе,
няўзнак я налілася сокам.
І зацвіла так, як умела,
як ты надумала із мною.
Мая нядошлая даспеласць
была мне тайніцай упойнай.
Міналі дні...
Гады у вырай
злятапі клінам жураўліным.
На твой загад глыбока, шчыра
ўрасла я ў бацькаўскі суглінак.
Ён падарыў мяне пахучай
жытнёвай лустаю і песняў
мяне наўчыў,
якіх не вучыць
ніхто нідзе у местах цесных.
І так я стала... чалавекам.
Благім і добрым,
так, як трэба,
каб із пакораю павекі
ўзнімаць у сонечнае неба.
Заўмела плакаць і смяяцца
і над сабою,
і над светам,
пазнала й пот спякотны працы,
і ўсе захопленні паэты.
Магла, калі хачу, астынуць
ці разгарэцца зырка, ўзлётна,
вылучваць веліч з лушпавіння,
а з чынаў велічных — балота.
І дні лістала (што таіцца),
спіны не хілячы прад конам,
піла із кажнае крыніцы
удосыць чыстай і прадоннай,
бывала ўцехай і... журбою,
і нічыёй была, і нечай, —
заўсёды, ўсюды, ўсцяж табою
зачараваная навечна.
Жыццё,
не шмат ужо дарогі,

штораз пусцей, цямней наўкола.
Дык дай мне роднага парога
даткнуць,
пакуль замкнецца кола!

*[1950—1952]*

## ПЛАЧ

Дзень згас... і чорная паводка
па шыю места заліла.
Плыве віць нанач гнёзды горад
пад бункеры, на змрочны пляц.
Ніхто не дбае, што над тынам
муроў не ўспыхнуў маладзік.
Ад дзён, калі глядзелі ў сіню, —
мінула вечнасць,
не гады.
І толькі сполахі агнішчаў,
што ноч распальваць пачала,
патрапяць раззваніць у цішы
чыйсь нечакана шчыры плач.

*[1944—1952]*

## НА ЭЛЕГІЙНЫ ЛАД

Вартуюць зрэбны змрок
счарнелыя руіны —
мінулых, жорсткіх дзён
нязжатае дабро,
хай нічыя рука
не ймкне разблытваць сіню,
у попеле шукаць
прысыпаных імён.
Няма ж каму гады
губляць на папялішчах:
бурлее, круціць вір
жыцця, ўсцяж маладзы,

нясыты навіны,
што успаміны нішчыць,
што песнямі звініць
над сеткай палявін.
Вартуюць цішыню
гурты руінаў чорных,
стаяць, маўляў крыжы
над сотнямі магіл.
Ды жаль на карані
завяў...
I пройдуць спорна
гады ці шмат сцяжын, —
усё прысыпле пыл.

*[1944—1952]*

## МАЛАЧАЙ

У вокнах шыб няма.
Даўно няма і даху.
Асколкамі пакрышаны фасад.
Абапал — хай і май,
а дыхаецца пахам
гарэліны,
няўцям, што дзесь — краса,
што дзесь цяпер цвіце
ліловы бэз пад хатай
і чыста вымыты буйной жарствой парог...
Парог?
Няма...
гусцей затое латы
ды чырваняй гарыць сцяны разбіты рог...
А на рагу — гульня:
збіраючы аскепкі
пакрышанага шкла, каменьчыкі, вуглі,
малыя, што па нас
жыццё мо лепей злепяць, —
дзятва будуе дом, які не спапяліць.
Спрачаюцца... крычаць,
і плешчуць у далоні,



Наталля Арсеннева.
1955 г.



Наталля Арсеннева.
Здымак з кнігі «Пад сінім
небам». Вільня, 1927



Наталля Арсеннева.
1935 г.



Наталля Арсеннева з Максімам Танкам.
1936 г.



Наталля Арсеннева
з Максімам Танкам
і Янкам Шутовічам. 1930-я гг.



У трывожным 1939-м



Першы з'езд акруговых кіраўнікоў Беларускай народнай самапомачы ў Мінску ў 1942 г. Сядзяць: Сымон Кандыбовіч, Рыгор Зыбайла, Вацлаў Іваноўскі, Наталля Арсеннева, Іван Ермачэнка, Галіна Вайтэнка, Юльян Саковіч, Адольф Клімовіч, Аляксандр Скурат. Стаяць: Пецюкевіч, Жверблянка, Іван Касяк, Антон Адамовіч, Аляксей Сянькевіч, Часлаў Найдзюк, Антон Сокал-Кутылоўскі, д-р Вайтэнка, Канстанцін Якуцэвіч, Барыс Рагуля, Янка Гінько



З мужам Францішкам Кушалем



Дом у Рочэстэры (ЗША), дзе жыла паэтка



Наталля Арсеннева
пасля сваёй літаратурнай вечарыны
з украінскім паэтам
Барысам Аляксандравым.
Таронта, 1969 г.



Наталля Арсеннева з беларускай моладдзю.
Таронта, 25 сакавіка 1971 г.



У гасцях у Раісы і Вінцэнта Жук-Грышкевічаў.
Бэры (Канада), 1973 г.



З сябрамі і паплечнікамі. Злева направа:
Аляксандра Саковіч (2), Наталля Арсеннева (4),
Рыгор Крушына (6), Уладзімір Сядура-Глыбінны (8).





Асвячэнне Памятнага Крыжа 5 верасня 1988 г.
На пярэднім плане Я. Каханоўская,
Н. Арсеннева, А. Шукелойць,
В. Жук-Грышкевіч, А Надсан.

Памятны Крыж. Устаноўлены
ў Мідляндзе (Канада) ў гонар
1000-годдзя Хрысціянства ў Беларусі



З міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятром Краўчанкам. Рочэстэр, 1992 г.



Наталля Арсеннева чытае свае вершы



З сынам Уладзімірам і ўнучкай Наталляй. Рочэстэр, 1994 г. Фота А. Клешчука



4 красавік 1991

Даражэнькі Янка, праз якія-колькі тыдняў надыйдзе сумная гадавіна чарнобыльскае трагедыі. Даўно хацела прысвяціць ёй хоць пару радкоў, але ўсё то адкладала, то губляла ўжо напісанае. На жаль, запраўды добры верш пра Чарнобыль напісаць цяжка, калі нават магчыма, занадта гэта для нас, беларусаў, вялікая трагедыя, дык насылаю, што патрапіла напісаць маё пяро, ці варта-ж гэты "твор" друкаваць, рашай сам.

Чаму-ж я ўпісала ў верш хлопчыка, гэта крыху дзіўна. Справа ў

Аўтограф Наталлі Арсенневай. Ліст Янку Запрудніку

і смехам саграюць астыглыя муры, —
зялёны малачай,
што, выраслы ў сутонні,
каліся вяснова ў сонцы загарыць!

*[1944—1952]*

## ЛІСТ

Ён ёй прыслаў учора ліст:
«Капае ўсцяж...
журба старая.
Адно, што жоўтыя лісты
звіняць і кружацца над гаем...
А так... усё, як і было...
Папухлі рукі, есці мала,
ды фронт бліжэй.
І смех і злосць —
відаць, ізноў масты папаляць!
Але не час адно чакаць,
ці хутка смерць пяском прыгорне.
Імкне паводкаю рака
падзеяў, дзён...
Зноў будзе зорна.
А як яна?»
Нуда, нуда...
Лепш дачытае ліст уранні.
Гады паспелі загайдаць
нат сэрца... што было — не ўстане.
А што галодны... І яна ж...
Штодня нішчымныя лупіны.
(Нат і аб іх часамі сняць
пазначаныя «Остам» спіны...)
Гудуць... Ізноў гудуць гудкі,
і тупат ног аж б'е у сцены.
Хутчэй
дабегчы б да слізкіх
і чорных нор, сагнуць калені,
і пахінуцца, і маўчаць,
аж не прамчыцца навальніца.

Як ён пісаў?
«Не час, не час,
адно схіляцца і маліцца».
А гул ужо над галавой,
ён увушшу, у сцерплым целе...
Гудуць чмялі... пяе жніво
пад серпам маці,
жмені сцеле...
Там... на акопах... золь... слата...
Што?!
Ўсё дрыжыць, нат зоры,
зоры...
І ўжо не ўдасца дачытаць
недачытанае учора.

*[1944—1952]*

## ДАЙ, ДОБРЫ КОН

*У Сакавіковыя ўгодкі*

Я ведаю найлепш, як на выгнанні косіць
туга наш гарт,
але ж туга — адно звяно.
Па восені страсаць лісты не прыйдзе восень,
не ляжа па начы ў лагчыны ноч ізноў.
На шчасце, ўсё ў жыцці мінае:
тлеюць эры,
йржавеюць смага й боль,
дапальваецца зло,
каб у сухім лісці, у папялішчах шэрых
нанова году год заломліваў залом.
Нас доўга лёс касіў...
Мы хадаліся з доляй,
стаўлялі ўздоўж усіх дарог зямлі крыжы,
кахалі Родны Край, хто колькі й як адолеў,
жылі, каб паміраць,
ішлі на смерць, каб жыць.
І чара нашых дзён, я думаю, наліта
гаркім вінóм бяды блізу па берагі.
Пара, правечны Кон, пакрыць каменнай плітай

крывавыя гады,
сказаць няпраўдзе: «Згінь!»
Не пойдзем, а памкнём Пагоняю нястрымнай
з Табой мы ўсе ў прасцяг засекі раскідаць.
Ці мала выкрасяць падковы іскраў, гімнаў,
а сэрцы радасці?
Пашлі нам толькі, дай
мячы і вочы ўзняць,
раскінуць прагна крылы,
пачуць у жылах вар гарачае крыві!
Дай веру у Цябе, ў сябе, у нашы сілы,
дарма, што скрозь дрыгва,
вярні нам Сакавік!
Не выпусцяць Яго,
не згубяць больш далоні,
каб вочы плакалі з тугой, балюча:
«Дзе ж?»
Дай, добры Кон, ізноў вясне,
вясне зялёнай
абвесціць сяння нам:
«Ускрэсла і жыве!»

*[1952]*

## УСКРЭСНІ!

Ён уваскрос,
Ён — дзесь між намі,
Ён там, дзе ў срэбным пыле лоз,
у сіняй смўзе над палямі
вісіць вясна...
Ён уваскрос.
Ускрос,
і зноў па Беларусі
перад сабой ідзе Хрыстос...
Здымае з душ настылых вусціш,
багаслаўляе соладзь кроз,
сяліб раскіданых прысады,
муры нязлічаных вязніц
і тых,
што пагублялі радасць

па кроплі кропля й дзень па дні...
Ідзе Хрыстос... Над Ім дугою
ўстае густы блакіт нябёс,
а ногі ў ранах незагойных
кладуць сляды на шэрань рос...
Дык прыпадзем
і вусны спалім
на тых слядох, што Бог Хрыстос
губляе, моўчкі йдучы ўдалеч,
бо Ён ускрос,
Ён уваскрос!
Няхай над родным папялішчам
усцяж галосіць нема лёс,
няхай крывавяць нас і нішчаць, —
ускрэсне Край,
бо й Ён ускрос!
Мацней за смерць,
за ўсё,
каханне
зямлі, дзе ад дзіцяці ўзрос...
Устань жа, ўстань,
ускрэсні сяння,
мой Край, як уваскрос Хрыстос!

*1953*

## ІМКНІ, ПАЭТ!

Яшчэ не знойдзены жывымі
натхнёнай песні ідэал.
Імкні ж, паэт,
разліся ў гімнах!
Дзіўны, святы ці чуеш пал?
Няхай у такт тваіх сугуччаў
і не трапляе сяння свет,
імкні!
Ці ж раз
адзін
над кручай
тварыў ты ўжо свой запавет?

Ці ж раз у белай поўні росквіт
ты верш, па слове слова, куў,
ці раз агонь распальваў Боскі
у целе з гліны і пяску?
Імкні!
Ці ж сум агністым джгалам
цябе не джгае да крыві?
Ці мо яшчэ табе замала
у нашай мове слоў жывых?
Іх шмат, як зор, як зерняў жвіру
на срэбных плёсах нашых рэк.
Вучы ж прысталых дыхаць шырай,
шугаць, за Родны Край гарэць!
Імкні!
Лаві ў крылатым лёце
чар слоў, што ймглою растае...
Хай знае свет:
з усіх смяротных
іх дакрануў адно паэт!

*[1944—1954]*

## КАБ ПАЭТЫ МАГЛІ

Срэбным каўшом цішыню
п'е за аселіцай месяц.
Плача ў тумане канюх...
Вершы ты йрваць, можа, выйшаў?
Любы паэт!
Не растуць
вершы яшчэ па канавах,
на прытаптаным пяску
тропаў вузкіх і каравых.
Недзе ў глухім гушчары
папараць казачным птахам
крыллем лапоча ў старых
елках...
Туды лепей плакаць
рыфмамі сяння ідзі.
Гэнам твой плач зразумеюць

совы ці дзед-вадзянік,
дзівы ці гадзіны-змеі.
Іх, як калісьці Арфей[1],
ты й зачароўвай песняй.
Свету не ты ў галаве,
іншыя песні ён весціць...
Вось каб паэты маглі
дзіды ці полымя коўтаць,
конскія жарты смаліць
перад карчомным натоўпам,
сажай упэцкаўшы твар,
з собскай душы скамарошыць, —
мелі б удосыць пітва,
ежы,
        і славы,
                і грошай...
Блазнаў вясёлых зямля
мае ў пашане і сяння.
А... каму ў свеце баляць
крыўды чужыя і раны?

*[1944—1954]*

## РАДАСЦЬ

Разгалініўся дзень балачынамі,
у душы ж —
                як вішнёвы сад.
Вось, здаецца, за рогам адчыніцца
мне і тут веснавы далягляд,
мітусь белую ўзніме над ходзішчам,
як на ўзлессі чарэмхаў сцяг,
з гудам звонкім пачнём валаводзіцца
з імі —
        пчолы,
                і сонца,
                        і я.
І хоць воўчай тугой завыўнаю
галасіць не сціхаюць дні, —
залатымі вяснянымі ліўнямі
ў сэрцы радасць звініць, звініць...

Лёгка, соладка дыхаць вогкаю
цеплынёю красавіка,
мескім пылам, шпаковым цоканнем,
запыняцца,
глядзець,
чакаць
нейкіх словаў, якіх не вымавіў
шчэ ніколі ніхто нідзе,
хоць шукаюць паэты стымулаў
да паэм
у вагні й вадзе!

*[1944—1954]*

## ВЯСНА

— Ой, вясна красна,
што ты нам прынясла...

*Беларуская народная песня*

Ячменным асцюком у вочы коле дзень.
(Ці ж дзіва?
Ад Пакроў[1] — няспорны морак хаты.)
Дзень гэткі залаты і ў сонцы, і ў вадзе,
і ў радасці, сцярожаю прыцятай:
здаецца, за парог —
і апячэ агнём
карэлы, шэры свет, прытрэсены саломай.
Ды — вецер веснавы качаецца кульнём
па вулцы, й нечы смех сам сыплецца ў далоні.
Часіна — й навакол вясёлы босы гурт...
Мчаць трэскі-чаўнакі із пеннай ручаінай
туды, дзе вербы берагам кудысь бягуць
із крыгамі ў нячэсаных чупрынах...
І гэткай зырчынёй расцвечаны й яны,
і стрэхі, й вераб'і, й дзятвы крыклівай зграя,
што, не стрываўшы шчаснасці вясны,
дахаты, плачучы, ідзе малая...

*[1954]*

## ЛЕТА

Ой, жала ж я да вечара,
Баліць мая сярэдзінка...

*Беларуская жніўная песня*

Маўляў той жытні сноп, уціснула спякота
пярэвяслам тугім расцяглы далягляд...
Кусае лыткі тонкія асот ласкотны,
і ў жменьку дробную уторкнуў серп Ілля[1].

Няспорна праца йдзе... Ірдзяняцца крывяна
малыя пальцы, твар, сярэдзіна смыліць,
і уваччу плывуць, куляючыся п'яна
ў плаўкой гарачыні, пяшчаныя палі.

Да полудня — гады, а пахне луста хлеба
і квас у гладышы — салодка ўжо цяпер.
І мроіцца лука — рака ў зялёным зрэб'і
карузлых вербалоз і водарны аер...

Гарыць агнём лязо сярпа ў радкой саломе.
Кладуцца за плячмі снапы... снапы... снапы...
Пярэвяслам тугім уціснуўшы, палоніць
спякота далягляд, замлелы і сляпы...

*[1954]*

## ВОСЕНЬ

Туман, туман па даліне...

*Беларуская народная песня*

Плыве пластамі дым... То ўпіліцца галін
падголеных асін у чорнай грудзе гнёздаў,
сініць аўсяння клін, дзе лежацца ляны,
аблытвае сцяблы... То поўзае ў баразнах...

Пад кудрай на раллі зыркі трашчыць агонь.
Ды рады ці ж дасі падпаскам-падшывальцам?
Наклалі бульбы й ім, малым, — куды, чаго?
Самі ж — дык горнуць, дзьмухаючы ў пальцы.

Гарчыць, як чэмер, дым... Не згледзець за слязьмі,
што ў попеле суцьмы руды асіннік тоне,
што й сонца прысак згас...
Знянацку: «На, вазьмі!»
І бульбіна — вялізная — ў далоні.

І ўзноўку ўцеха... смех... А рэха ўсё нясе
услед у туманы, ў сацьмелыя далечы,
скуль руняю, ступою, па расе
нячутна крочыць вераснёвы вечар.

*[1954]*

## ЗІМА

Вароты скрыпяць,
Марозы чуваць...

*Беларуская народная песня*

Расплецены снапы...
Праз шчыліны ў шчыце
крамнёваю стралой у ток цаляе сонца.
Мяцеліцай над ім мякінны пыл мяце,
із цоканнем цапы салому тнуць і комчаць...

Так хочацца туды! Хусцінне цішыні
вісіць над галавой дзяцiннай нізка, нізка.
Адно ўвесь дзень: вакно, скуль тне пацiху стынь
і згорклая гаворкая калыска.

Прахухала было, узлезшы на услон,
у папарці зыркой прамерзлых шыб палонку.
Зайгралі сонца, снег, застыглы ў срэбры клён...
Ды ўслед занёс мароз усё лістоўем звонкім...

Ніжэй, ніжэй, ніжэй хінецца на брыжы
рукаўцаў твар...
І ўжо — яна не тут, а дзесьці...
Зноў звончаць ручаі... Аджытае ж ляжыць
пярэвяслам расплеценым ля весніц.

*[1954—1955]*

## МАГНОЛІЯ

Цвіце магнолія...
Мільёны матылёў,
бялейшыя за свет, трапечуць на галінах.
Замерла ў пешчах белых крыл галлё,
салодкай млоснасці на брук не скіне.
Ён чорны і брыдкі, як побач, зрэшты, ўсё,
ды б'юць, бы ў бубна дно, ў яго людскія ногі
па годзе год...
Аплёў, аблытаў, як драсён,
той гуд не толькі брук,
але й хаценні, змогу.
А ўсё-ткі, за снягі бялейшая, усцяж,
ледзь красавік,
цвіце магнолія пад мурам.
Жалезнай логікі адвечнага жыцця
нішто, відаць, што людскае, — не збурыць.
Ну, а па мне — усё, як ёсць і мае быць.
Маленства... вёсны... восені... магільнік...
Сяўба без жніваў... Жнівы без сяўбы...
Узвышшы ўсцешныя... Туга, якой не выліць...
Я дзякую табе за ўсіх,
за ўсё, мой кон,
хоць мо й нязвыклы ты ціхой людской падзякі.
Пайду... ды ведай —
рэшту сініх дзён
маіх дап'ю я ўсё ж із смакам!

*[1954]*

# БРАМЫ

Апоўначы манах пастукаў тройчы
у браму ціхую й святую...

*М. Сяднёў*[1]

## 1. НЯЁМКА МНЕ

Я —
брамаў не люблю
ціхіх, ні гаманкіх,
хіба якая з іх —
наросцеж,
проста ў сонца.
Знайшла я ключ у ўспень,
прасцяг, надкі такі.
Не дам, аж будзе дзён —
ліпець адно на донцы.

У брамах — стынь, сутонь.
Пад брамамі — калек
рыззё, нудзьга ды ныдзь.
За брамамі — спачынак.
Мне ж,
каб не згас агонь,
і собіла ж на лек
нягойны і дзіўны:
лічыць далéч бачыны.

І вось, лічу...
Вятры, ўсе сінія вятры
расою уваччу
зы мной зігцяць увесны.
А ў лістапад —
зірнуць, як я ды свет гарым,
асіннікі брыдуць,
дзе ад красы аж цесна.

Зрынаюць дні кунег,
дні працы
у ваду.
Ужо не ўзняць,
адно
душу кругамі плямяць.
Няёмка толькі мне,
што не дайду
я ўсё ж ніяк да ціхай брамы.

*[1955]*

## 2. НАРАДЗІНЫ ПАЭТЫ

За поўнач. У брамах-пячорах
змор чорныя рукі прасцяг.
Расцягвае белы сцяг
напорна
над брукамі месяц.
Кацячы пяе трубадур.
Ды сэрца майго не прыгорне,
адно ж у мяне...
Іду
і вершы чытаю старожым,
пахмурым муром,
бо й каму?
Жывыя п'юць сноў каламуць,
няпратаны комчачы ложак.
Ізноўку ў руках медзякі,
на вуснах — няшчырыя божбы...
Мне й вершам —
іх смак загаркі.
Не любяць і нас. Нат прыязні
баімся мы горш, як агня.
І добра...
Не трэба мяняць
душу на каменне, ні гразнуць
па вушы ў нясцішнай чмуце...

Іду...
а над горадам-вязнем
ноч цёмныя сцені мяце.
Ўраз
белых пялёсткаў палова
знячэўку упесціла твар:
гарыць сямірукі ліхтар
каштану над брамай,
скуль словы
і светлы
кладуцца наўскос.
Смяюся...
Паэта новы
вось-вось тут на свет прарос.

*[1955]*

### 3. АЛЬФА Й АМЕГА[1]

Дзве прыступкі...
Брамы чорнай шулы...
На прыступцы —
пупышка цвіце ружовая —
дзіця.

Жменькай згортае з парогу
бруд, касулі...
Ды благія нешта з мескай брамай гулі,
часіна —
і слёзаў шчырых не прыцяць:
белы пальчык, парастачак чулы,
ушчаміла, злая, неўпрыцям.

А ля брамы, ўмурзанай, як дзёгаць,
бома* сцень кудлаты на сцяне
абкідае сонца неахайным сцегам.
Пляшка...
Твар — скурат...

---

* Бом — постаць нью-ёркскага дна, невылечны бадзяга-алкаголік.

У зморшчынах — кунега...
Весні цвет у снёным гэтта сне...

Ззянь і сцень.
Там — альфа,
тут — амега,
Няўцямнага пачатак
і канец.

*[1955]*

## 4. САМОТНЫЯ

Галіны, у цвеце галіны,
запесцяць вас веснія ветры,
ўсё люляюць,
туляць да брам...
Ваш дотык пачуўшы,
із нетры,
з брам стыні
выходзяць сцені.
Надзея на тварах сцертых.
— У імя Айца і Сына,
мо хтосьці прыпомніў? —
каленам
і сэрцам аж млосна...
— Хто там?
Скрозь моўкнасць.
Нікога.
Дый дзе б там?
Нізкія парогі, каб госці...
А ключ —
непатрэбны —
ў руках...
А ногі марудзяць чагосьці...
А вушы ўшываюцца ў цішу...
Не кратайце ж брамаў,
не ўзносце
далоняў, галіны у срэбры:

за брамамі крыўды калышуць
самотныя,
з вамі не ў тахт.

*[1955]*

## 5. ЦІХАЯ, СВЯТАЯ...

Ёсць тут адна такая — мосяж,
счарнелы дуб
і словаў вязь.
У лоз узвівы заплялося:
«Твары, будуй,
не дай душы завяць».

За брамай — спяць у пераплётах
вякі збіраныя — сягай! —
усе нізрыненні,
узлёты,
гарчынь,
сумота —
людская ўся туга.

І перад ёю із пакорай
стаіш... нішто,
адна з пылін...
Сплываюць з сэрца нагаворы,
злых плётаў шэпт,
няпамяць,
што баліць...

Выходзіш крозны, светлы — ў места.
Задуха, крык
і гул густы...
Ідзеш і доўга ў думках песціш:
«Будуй, твары,
не дай душы астыць».

*[1955]*

## 6. ПРОШЧА[1]

Выходжу й гукаю,
гляджу, выглядаю — нямашка...
У ходзішча шчэрбах каштанавы тае снег.
Праз дошкі кастрывыя
крыва ўсміхаюцца крамы.
(Наяве ўсё гэта? У сне?)
Чыйсь крок невясёлы і важкі.
— Дзе Вострая брама[2]?
— Нямашка.
Імкну, як Няўверны Тамаш,
свае пальцы пакласці у раны.
Паўз мулкасць завулкаў,
праз строму... Прачуўся? Зманіў?
Вось.
        Вочы не хочуць — «няма!».
Забралі, раструшчылі прошчу.
Знік коннік на сміглым кані.
Тулюся да плітаў стаптаных.
Малюся у мітусь, у пошчак
за дні на выгнанні...
За прошчу...
За раны...

За заўтра не смею,
не ўмею так прагна, так пільна.
Зярнём урастаю ў каменне —
каменне гудзе.
Дзесь
        звончаць мячы, капытамі комчаць хвойнікі коні,
йдзе сонца мячом насустрэчу... і дзень.
На веча!
Стаконна,
                стамечна,
                                стамільна
йрве
        з ветрам
                        Пагоня
у
  Вільню.

*1955*

# З ЦЫКЛА «ПРЫВІДЫ»

Мне бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі!

*Я. Купала*

## ЗАМІЖ ПРАДМОВЫ

Зляцелі ў вырай мы, у новую айчыну
(мне ж «бацькаўшчынай цэлы свет!»[1]).
Хто й гнёзд ужо навіў, а ўсё — не збыць пачыну:
сусвет прынад для нас усцяж — мяжа ў траве
й паснулая над ёй бабулька-йгрушка,
якой маленства наша давялося гушкаць.

І запраўды: імкнём, маўляў, кудысьці маем,
зялёным, сёмушным, нат рэдчас маем дні,
а гэта ж Бацькаўшчыну мы адно шукаем
у змерклай далечы, ў расцвілай блізіні...
І ловім водар ніў у цвілі мескай нетры,
шум баравых сасон у кажным цёплым ветры...

Дзівосы свету мы адно да іх умільна
раўнуем, сочачы із прагай цьмень:
— Зусім як і у нас!
Вось так было і ў Вільні!
Вось гэткі ж клён калісь і ў Менску мне шумеў,
ледзь-ледзь драўляныя вакенніцы-павекі
расплюшчаць вокны ў свет,
дзе — межы і засекі...

*[1955]*

## 1. ВЕЖА

Бярозай белай вежа
над крыжам рвецца ўгору,
ў прастор, дзе сінь — насцежай.
Не ўвеціць — адарвецца
увомірг ад каменных
муроў, хай толькі вецер...
І хіляцца калены...
Не перад ёй, не гэтай —
прад гэткаю ж, за светам
падзетай... недзе ўчора...

*[1955]*

## 2. ЗАВУЛАК

Сцень — ад сценаў да сценаў...
Скуль тут гэткі завулак?
Крок б'е ў бубен, а рэха не ўпросіць.
Боль пакорпаў цагляны
мур, у шчэрбах ён, ранах...
І — ужо успамінаў не здзену:
рэха, гэткае ж рэха старэчае чула
я, малая, із коскай
радзенькаю,
мулкай,
прабягаючы вулкаю
Росай[1].

*[1955]*

## 3. ДАМОК

Дамок дзераўляны... Пад гонтай...
А побач, як бор, небасягі
каменнымі пнуцца камлямі.
Устала б з зямлі Пакагонта[1] —
ізноў бы сканала ад смагі
па тым, што і сны ўжо не пляміць.

Дамкі... Небасягі — адно ёй,
зязюлі з зялёных гушчараў...
А мне —
зноў няма мне спакою:
я знала калісь на Панарах[2]
дамок гэткі,
з гэткай страхою...

*[1955]*

## 4. САД

Бяжыць, як жэўжык, сцежка
ў кунежную зялёнасць,
хай недзе побач места
й расце, як цеста ў дзежцы...
На клёне,
на агрэстах —
стазвонны рой пчаліны...
Сады гадоў дзіцячых,
навечна, без аддачы,
чаму ваш чар загінуў?

*[1955]*

## 5. УВЕСНУ

Расцягнула сонца кужаль залацісты
паміж струнамі антэнаў пруткіх.
Быццам кросны ў хаце ў чэцвер чысты[1],
зігацяць яны і ўтокам, і асновай,
то звіняць цымбаламі, то дудкай,
маё сэрца, як чаўнок вясёлы, ловяць...
І так хочацца йшчэ раз, хоць раз, іскрысты
сіні лён сукаць
і славіць спеўным словам
пах зямлі, бярозавага лісту,
зыркасць радасці няўгойнае,
вясновай!

*[1955]*

## 6. ГОТЫК

Готык неперсаможаны!
Готык імклівы, вечны!
Келіх лілеі Божае!
Наквець грамнічнай свечкі!
Вырaслы з твані шэрае
грэшных Садома й Гаморы[1]
веры прамень над няверaю,
гвалтам,
            пагардай,
                        пакорай!
Стрэла цябе я, аздобнае
дзіва — й адкрылася рана:
сёстры вы,
сёстры вы родныя
з краскай
зыркой —
святой
Ганнай[2]!

*[1955]*

## 7. УЗБЯРЭЖЖА

Срэбным пылам стыгне узбярэжжа
пад нагамі мора сіняга, ціхога...
Сяння — сцяла яго цяжкая знямога,
заўтра — скіне стому,
раз'юрыцца,
ніцы
пас пяскоў затчэ мярэжай
белай пены,
будзе плакаць, кідацца, сварыцца,
зломы
скалаў біць — перш гнеўна, потым — лена,
ажно, зможаным асілкам-воем,
ніцма рынецца й замрэ, як нежывое...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Сінь рахманая... Зялёнае бязмежжа...

Срэбны пыл пяскоў...
Мо гэта чары?
Дзесь шасціць чарот, мой слых кунежыць...
Мне здаецца... гэта ж Нарач,
Нарач!

*[1955]*

## 8. А МНЕ СНІЦЦА

Шчоглы гонныя звоняць рыпліва на ветры,
б'юць сцягоў палатніны паветра.
Нат каменне — і тое, здаецца, трапеча
навальніцаю колераў, бураю ззянняў —
выйшла пышна на веча
шэра-бурая нетра —
места
сяння.
Рвуць мядзяныя трубы гудам сэрцы і вушы,
ловяць пошчак, падкідваюць, глушаць...
Слуцкім пасам бяжыць, зігаціцца дарога,
боты б'юць па ёй дактылі[1], б'юць анапесты[2],
крэсяць рыфмы да змогі...
А мне сніцца...
«Мы выйдзем»[3] — граюць трубы, дзьмуць рогі...
Сакавік...
Менск...
Высокае места[4]...

*[1955]*

## ВЫ ПАЙШЛІ ПАМІРАЦЬ

«Мы пайшлі паміраць, каб жыла Беларусь».
Гэтак звалася драма, якую прад светам
вы зайгралі тады (ападаў на пару
лістапад і на вецце, на рунь і ў разоры).
Вы зайгралі «на біс» без суфлёраў, без рад,
без куліс, без кінкетаў —
дзіўныя акторы.

Рэквізіт ваш быў просты:
рызман палявін
паабапал, пры ўзлессі — гасцінец
сацьмелы,
шчытна ўбіты ў шчыт ельніку месяца клін,
золь на вейках, сівы, важкі подал шынелю,
жменя куль, трохлінейкі рамень праз руку
і бандаж у крыві —
бел-чырвоны і белы.
Трыццаць ночаў і дзён вы гулялі... Адны...
І ніхто, аніхто вам не біў у далоні,
хоць гучней раз у сто,
як званоў перазвон,
сэрцы нечыя білі вам там, па-над лоняй
недатканых красён, перасталай дзяжой,
колкай голкам, што ў шво за слязіма
не лучыць.
над калыскай
ставочнай, паўночай ужо,
неспакойна вам білі, балюча...
Але ўпойны, салодкі быў смак перамог,
спеў крыві,
маладая узлётная радасць!
Дык і гралі вы з верай, што ўрадзім,
што Бог...
Ды крыжы, што гужамі над пражай дарог
прараслі,
што каханне...
Гралі вы, ажно роем дапалі мяжы,
ўжо не воі тады,
а трагічныя здані,
аж хапілі ссінелыя вусны вады
з набрынялай, счарнелае
Лані[1]...
Тут —
далі вам заслону, і вы перайшлі
Рубікон свой няслаўны, а гэткі славуты,
каб, як здаўна, зноў кону пытацца: «Калі»? —
неабутыя,
шчасце тачыць для абутых,
верадзіць вашай верай людскія вуллі,

ў рукі хухаць, у пясці... й маўчаць,
хоць баліць,
у замкнёныя стукацца дзверы.
Мітусь год; сцірты спраў
прытрусілі крыжы,
што над пражай дарог,
папрысушвалі раны...
Але чын «тых, што йшлі паміраць»,
будзе жыць,
аж не кінуць хінуць між збажын,
на світанні
пакаленні
калені ў крыві, у гразі
прад табою, святою, Айчына,
аж ты, Маці, гаркіх не сцалуеш слязін
з вейкаў,
вуснаў
ды ранаў
змагальніка-сына.

***1956***

## СЫНЫ Й МАЦІ

*У Слуцкія ўгодкі нашым блудным*
*сыном прысвячаецца*

Як згусткі крыві, пурпурныя лісткі
губляе лістапад — кульгавы старац з кіем...
І зноўку устаюць у думках случчакі,
героі,
гэткія, як мы тут,
не такія...
Мы — Бацькаўшчыну любім шчыра ўсе.
Так прысягае з нас, прынамсі, кажны сяння.
Хто сніць яе
сівым аўсяннем у расе,
хто —
крыжам з галіны над наспаю пясчанай...
Хто зноў —
крыніцаю у зрубе, што аброс

па бровы мохам цёмным,
хто — рачулкай,
дзе мые й мые косы вербалоз,
хто —
        міртай на вакне ў вузенечкім завулку...
А хто —
        ужо й не сніць...
Што ж купіш тут за сны,
хай найбалей сабе у свеце залатыя?

Шукаюць сыці, сыці
        блудныя сыны,
айчыны пестуны, дуронікі,
і тыя...
Напяўшы цяглiцы, адны і ночы й дні
палююць лусты тлустае нясцішна,
зноў іншыя
        пад ногі камяні
кідаюць — незнарок маўляў —
        сябром калішнім.

Што ім Твае ніўя,
рамонкі на мяжы,
сасоннікі,
        зязюль куванне на світанні,
што, Маці, ім Твае ці раны, ці крыжы,
калі ўсцяж прагаю працятыя іх сянні?
Усе
        ад усяго, што ім не тхне грашмі,
з нясмакам шчырым лена вернуць пысы,
й Ты, Маці-Беларусь,
        і Твой упойны міт —
для іх адно сівы,
даўно астыглы прысак.
Ты ж...
        Ты ж усё стаіш...
        выцягваеш далонь
і просіш...
белая сама з пакуты, стыду...
Ці многа з іх Табе хай марны грош дало?
Не стой жа, не прасі!

Вазьмі мяча ці дзіду
ды бі іх, Маці, бі і дзідай і мячом
у сэрцаў шэрае, амшэлае каменне,
бі,
аж павісне рук зламанае суччо
і зросяцца крывёй замлелыя калені,
аж схіліцца сцяблом падцятым на плячук
мяккая шыя,
крык заціснуўшы удушны,
аж скруціць сцяглы боль агідны,
а ўваччу
шасцівым пабачком заварушы́цца вусціш!
Была галоднай Ты...
Ці даў хто на пару
Табе кусок? Ці стан
Твой ахінуў рызманнем?
О, Маці,
Маці,
Маці-Беларусь!
Дык бі іх,
бі за ўсё,
за ўчора і за сяння!
За тое, што сваіх,
маўляў ваўкі руей,
за горла ўзяўшы, йрвуць,
нязгодныя, а згодна,
за здраду бі і зман, і ёлкі супакой,
няхай за ўсіх крывёй
Ты ўся плывеш заўсёдна!
Ды...
выслізнуўся меч з нядужае рукі...
Закрыўшы вочы зрэбнай палатнінай.
Каторая ужо праз доўгія вякі —
сумуе Маці
й гэтая
па блудным сыне...
А над слязьмі яе
пурпурныя лісткі
зрывае лістапад — крывавы старац з кіем, —

і ўпарта устаюць у думках случчакі,
герої,
гэткія, як мы тут, не такія.

*1957, Нью-Ёрк*

## КАЛАСЫ

Прапяяў пявун раз, і яшчэ раз...
Трэйчы...
Ўхутаў попел вуглі, зрасянела трава,
узялося на свет, —
а Хрыстовыя плечы
бізуну не дадзела крывавіць ды рваць...
Так устаў новы дзень, захлынаўся:
«Вараву!»[1]
Прыглядаўся, як пільна мые рукі Пілат[2],
і лічыў — і збіваўся— град кропляў крывавы:
на Свяцейшым Чале,
і адводзіў пагляд...
Крыж. Нясцерпны цяжар. Спёка даўкая. Вочы
Матчыны... Пот. Веранічын ручнік...
Аж нарэшце —
Гальгота[3]
й боль, што вырвацца хоча
дзіка, крыкам з грудзей,
ды на іх
камяні.
У каменні сівым
супачыла слабое,
без крывінкі, слухмянае Цела,
камень
да яго прыгарнула вялізарны
боязь,
свет прыгас, прыцямнеў...
Ды ці сходаеш дзень?
Ён устаў,
ён расцвіў,
весні, водарны, чысты,
серабрыстай лілеяй у пырсках расы.

Дзень ускрос,
як Хрыстос,
што Рукою Прачыстай,
ідучы, бласлаўляў
у палёх каласы...
Узняліся за ноч яны порстка над руняй
і спявалі,
аж песняй брыняла зямля.
Усміхаўся ім ветла ускрэслы равуні[4],
пахіляўся
і свет веснавы бласлаўляў.
Бласлаўляў,
каб далі хлеб галодным, не камень,
каласы,
каб сінелі ў жытох васількі,
каб у кажнай дарозе
Бог крочыў із намі,
а мы
з верай нязвернаю крочылі
з Ім!

*[1958]*

## І БЫЛА ТАМ ВЯСНА...

...але вочы іх былі стрыманы,
дык не пазналі Яго.

*Паводле Лукі св. Евангелле*

І была там вясна,
як наша,
хай не лозы цвілі, а міндаль:
распалялі зялёныя пашы
весніх красак пурпурны вугаль,
па далінах бляялі ягняты,
маткам тулячыся да ног,
і буйных белых зор зярняты
рассыпалі лілеі ў лагох...
Срэбна-шэра
курэў гарэшнік,

шнур алівак і вінных лоз...
А вясне напярэймы, сцежкай,
ціха йшоў
                    уваскрослы Хрыстос.
Сам —
            нясцерпнае ззянне —
                                    у ззянні,
смерцяй смерць растаптаўшы ушчэнт.
Ён ішоў, і нязгойныя раны
на чале ірдзянелі яшчэ...
У дзіўны́м, у святым захапленні
Богу-Сыну малілася ўсё —
агародж прыдарожных камені,
маладых ячмянёў калассё,
цёплы вецер, што згортваў з дарогі
вір пялёсткаў... і сонечны пыл...
і трава, што прабітыя ногі
цалавала, схіліўшы сцяблы...
А пасля —
                пацягнууся шляхамі,
ў скрыпе рогату, крыкаў, калёс,
і народ...
            Толькі хто з іх, няўцямных,
знаў, што побач —
                        ускрослы Хрыстос?
Праплывалі,
                сляпыя,
                        міма
Боскіх цёплых, пясцівых рук
юнакі з залатымі вачыма,
сцені старцаў, сагнутых у крук,
ды ніхто не схінуў каленаў,
да далоняў святых не прынік,
хай прад сцерплай ад слёз Магдаленай[1]
на імгненне і ўзнік Садаўнік.
І ніхто не азваўся:
«Равуні»,
сам не верачы ў шчасці вачам,
смарагдовых пальмовых галінаў
                                наламаўшы,

не выбег страчаць...
Падцікаўся нячутна вечар,
сіні змрок...
І не бачыў ніхто
з недарэчных сыноў чалавечых,
як мінаў іх,
раз сто,
Хрыстос,
як ішоў Ён, схіліўшы на грудзі,
светлы твар Свой,
паўз весняй хвалы...
Гора,
гора,
о гора вам, людзі,
бо і сяння
сляпыя вы!

*[1958]*

## ТВАЁ ІМЯ

Маці родная, Маці-краіна,
Не усцішыцца гэтакі боль.[1]

*М. Багдановіч*

О, Беларусь,
о, Беларусь мая!
Імя Тваё — такі пякучы сымбаль болю!
Ды шчыра ўсцяж яго
багаслаўляю я:
із ім я —
чалавек,
у долю і ў нядолю.
Пранізанае ім, маё жыццё брыдзе,
маўляў мяжой ціхой,
ярамі вуліц змрочных,
і не баліць мне, што вітае дзень
мяне чужою мовай,
а чужымі снамі — ночы...
Дзіўны ён, гэты боль,
і дзіўна лёгка з ім:

прысыпаўшы пяском друз прагі і завісці,
ён
раннямі мяне ды мескай мітусні
няспынную кіпень
мяккой лагодай хрысціць.
Ён змеркамі з мяне пясціва ўмее зняць
важкую стому, кроў
зайскрыць узноў да працы,
зняверу, там, на дне,
даўкія крыўды дня
парваць,
каб ім і мне як разам не зыграцца.
І сны —
мне явай скрозь,
а сяння явы — сон,
ссыпаецца з душы лушпінне людскай звягі...
Імкліваю Вяллёй пяе сівы Гудзон[2],
мурамі Вільні таюць небасягі...
І ўкласці я хачу на струны,
як Баян,
шнур пальцаў — лебядзёў,
і граць,
і граць з жадою.
О, Беларусь,
о, Беларусь мая,
паўз боль пякучы граць
Табе,
Табою!

*[1958]*

## У ГУШЧАРАХ

У гушчарах, затканых імглою,
шэрым змрокам, на золку, ў зару
ахвяруем Табе мы сабою
кожны дзень, кожны час, Беларусь.

І няма ў сэрцах жаху, ні жалю,
мы адвагай змагарнай гарым:

не чужыя жануць нас удалеч,
але Ты нас вядзеш да зары.

І мы верым, яна разгарыцца,
ўстане зноў над краінаю дзень,
бо не стане змагар, не скарыцца
прад нягодай ніколі, нідзе.

Хмараў дым над галовамі тае,
вецер дыхае мятай, быллём.
Беларусь, Беларусь залатая,
За Цябе, за Цябе мы ідзём!

*[1958]*

## КАБ НЕ МАЦІ...

Шмат на сцежках людскіх мітусні,
шмат няпраўды гаркое і болю.
Ад маленства ўжо — сэрцы ў агні,
ад маленства ўжо — крыўды нас колюць.

Ледзьве выцягнеш рукі ў жыццё, —
ўсё не хлебам, каменьмі нам плаціць.
Не дало б яму рады дзіцё,
каб не неба, не сонца,
не маці.

Маці... Мама... як сціпла гучыць
гэта цёплае, цёплае слова,
ды ўсе жалі, ўсе жахі начы
перад ім пахіляюць галовы.

Маці! Колькі ж ты раз да зары
над схварэлымі намі сядзела,
сцень палёгкі сачыла ў твары́,
грэла вуснамі сцерплае цела...

Колькі скрозь пагубляла ты слёз,
гэткіх чыстых, гарачых і шчырых,
калі гналі нас прага і лёс
ад цябе, з ветрам сінім у вырай!

Мама! Любая! Ты не крыўдуй
на нас, птушак няспынных, крылатых:
із ТВАІМ я імём іду
ў свет, СВАЕ гадаваць птушаняты!

*[1958]*

## ТЫ НЕ АДНА

Ты не адна,
о, Случчына,
ні першай
ты не была у нас, ні на табе — канцы.
Нядолю й славу нашую не прыцярушыць
стынь.
Ублытаны яны нат у чужыя вершы —
Монтэ-Касына[1]
і Катынь[2]...
І, неаплаканых слязою жоўтай воску,
іх — слуцкіх ці наваградскіх — ляжыць
ці мала ўжо уздоўж бязмежнае мяжы
зямлі, у нетры тайгавай, на ўскраі родных
вёскаў...
Крыжы бо ўсюды
і крыжы...
Было ўсяго у нас: паходаў трубы, горны
баёў, распаленых дачырвана, мячы,
нязможныя пад Воршай[3], і мячы
Грунвальда[4]...
Шлях да мораў торны...
І Каліноўскага[5]
пачын...
Быў Сакавік...
Але...
і вал счарнелых целаў
у палынох сівых над Ворсклай[6]...
Амсціслаў[7]...
Вядроша[8]... Быў вякі чужым папас,
паплаў...
І быў — ды й ёсць — Усход, крывавы
і дадзелы,

што лёс на каркі
нам усклаў.
Хто нас не прадаваў, не браўся йрваць
з карэннем,
хто парасткаў зялёных не таптаў?
Ці ўвосень не па іх галосе Палата,
ўздыхае прадзед Нёман, і старэнна
складае сказ народ...
Хай так...

Ды мы — жывыя ўсцяж, нат тыя, што
памершы,
і заўтра ўжо мо зноў лынуць у бой байцы,
жаўнерскай песні губячы гасцінцам
шумяльцы,
бо — не адна ты, Случчына, у нас.
Ні першай
ты не была,
ні на табе й канцы.

*1960*

## ЖАЎЦЕЕ ЛІСТ

З гарачынёю, нічым нязменнаю,
бачу ўзноўку —
жаўцее ліст,
і з падковы нябёснай
жменяю
зораў сыплюцца вухналі[1].
Я спрабую рукой разжаленай
запыніць яе, восень:
«Не!»
Ды жаўцей адно пеніць вяршаліны
ветру восеньскага кіпень.
У вузлы павязаўшы цяглiцы,
з пальцаў рук настаўляю тын, —
ды й праз шчыліны ніткай цягнецца
павучынаю
сум густы.

Б'ю у жоўтыя грудзі пясцяю,
аж дзіўлюся сабе сама, —
ды адно серабрана засціцца
свет —
асенні ўстае туман.
І рука
лістам жоўтым
падае...
Кіслай рошчынай пахне трава...
Восень, тайка мая непарадная,
што ж,
давайма узноў сябраваць!

*[1963]*

## ВОСЕНІ

*

Даруй, што цябе не бачу,
калі, у вясне па грудзі,
лугамі брыду наўдачу:
узноў ты маёю будзеш.
На жарты ж і сіне сяння,
і ветраў зялёных зграя.
Міне ўсё — й далоняй шклянай
на шыбах ты ўзноў заграеш.

*

Хто ж мне, як не ты, разгарнула
зрудзелы папірус узлессяў,
дзе густа, як нітка на шпулю,
лягла ліста жоўтага песня?
Табою я толькі па свеце
сваю абнашу, залатую,
хай стрэчны настырлівы вецер
злым жартам са мною жартуе.

*

Ёсць дзіваў так шмат на свеце,
дзіўнейшых за ўсе дзівосы...

Мне ж
дзівам найбольшым —
вецце,
якое залоціць восень,
далоні чырвоных клёнаў
жывыя, людскія быццам,
асенніх асін калоны,
якім я магла б маліцца.

*

Дык як тут не жыць мне табою,
ледзь верасень
жоўтай журбою
на мескія ссыплецца брукі?
Я ж толькі лісток прыжаўцелы,
табе,
без крыві і без цела,
вятрамі укінены ў рукі.

*[1963]*

## ГЭТАК БУДЗЕШ ТЫ МНОЙ

Параслі, быццам футрам рудым, узбярэжжы:
хмызнякі ды лазоўе,
і ўсё залатое...
Восень, восень, калі ж
напалам перарэжам
мы з табою і ўцеху, і смутак упойны?
Гэтак будзеш ты мной,
з маёй смагай і жалем,
я ж табою,
зыркою і перапялёстай.
Будуць людзі гукаць цябе проста
«Наталяй»,
а мяне клікаць «Восеняй»
гэтак жа проста.
Ты пачуеш, як моцна цвікі убіваюць
варагі і свае мне у цёплае цела,

я ж пазнаю,
як душыць імжака сівая
ліст па лісце на клёнах,
як ніцма іх сцеле.
І пачну я
табой
паміраць на галінах
звонка, шчыра, і жоўта, і зырка-чырвона,
а ты —
мной угарышся у вершах і чынах,
я — рудым пусталістам,
а ты — пустазвонам.
А мо, сэрцам змяняўшыся,
буду я: «восень,
што за ўсе залацей»,
ты ж — найбольшым паэтам.
Пахінуся табе недажатым калоссем,
ты — заплачаш мне песняй,
пачатай не гэтта...

*[1963]*

## ІЛЬВЫ

Дзень,
залаты, як мёд пчаліны.
Яму б —
васковая вуза
палёў асенніх, дзераза
дарог і вогнішчы асінаў,
а не муры,
граніт сівы,
што сочаць ночна і надзенна
два львы на цокалях каменных,
із німбам грыў ля галавы.
Ім прыкра... горка... Лапай шэрай
сляпыя вочы не накрыць,
не рынуць глыбаю згары
на мора каркаў,
каб стамерна

сплаціць бяздумнай грамадзе,
што пнецца,
топчацца па пятах —
вось-вось сляпыя кацяняты —
за ўсё —
за гон, за гуд, за дзень...
Мінаюць вёсны... Сушыць спека
бетонны горад, ажно дно
відаць... Ураз кульгае зноў
аднекуль восень злым калекам...
Ледзь свет канчае асянец —
зіма,
і ў ка́менныя шыі
вянкі ўгрызаюцца важкія,
як з церняў, ведамы, вянец...
Ільвы ж —
на варце: мур за імі —
вуле́й, дзе людскіх думак мёд
збірае свет па годзе год,
аж сам із імі не загіне.
Няхай! Каменню — што па ім?
Парой,
як рупны бацька сына,
злупцуе дождж рудыя спіны,
пакінуць галубы ўспамін,
парой
нялетняя дурніца
падыдзе з кніжкай пад руку
і ў пысу пусціць дыму скрут
цару звяроў... І трэ карыцца...
Парой...
Ды ўсё ж бывае й ноч.
Не, не такая, як на свеце,
з мігценнем зор, із цёмным веццем,
із цішай...
але ўсё-ткі ноч.
Ільвы адны... Сцяж камяніцаў,
як рэбры скал... Зубоў ашчыр
шырэй... дзічэй... У цемры — жыр,
мчыць лёгкі статак навальніцай!

І прорвы ляпаў ловяць дых
зямлі сухое і гарачай,
сціскае цяглiцы удача,
яны не ў месце —
ля вады!
Адлі сцюдзёны камень грываў
у пальцах ветру не шасціць,
не пахне тропамі ў трысці,
трапёткай, цёплаю спажывай.
Няма
ні лётных антылоп,
ні скал, апырсканых крывёю.
Над мескай пожняю сівою
цягае восень сонца сноп...

*[1963]*

## НЕ ПЕРШЫЯ

Зноў восень...
Свая ўжо...
Зноў журам загуслым
сівее вада, абляпіўшы прычалы...
Узноў, як ні трэш, праступаюць на хустцы
ўспамінаў
часіны, з якіх пачыналі.
Не першых
сюды нас кон з ветрам прыгушкаў,
выгнаннікаў з торбаю, сэрцам і кіем,
з прыдушанай мовай,
адзінай, што душы
адныя адным адчыняе.
Такія,
не першыя,
мы запынілі пагоню
натоўпу чужога за ўдачай і хлебам,
у ходзішча ўросшы,
з душой пад адхонам,
зляканай усмешкай...
Не першыя, дзе там!

Паўвека таму, над густою вадою,
стаялі, як мы тут,
дзядзькі з-пад Налібак[1],
дзяўчаты з-пад Шчары[2] грамадкай рудою
й дзівіліся шчыра нязнаным сялібам.
Раслі аж у неба камлі небасягаў,
на пядзю ніжэйшых, мо праўда, як сяння,
ды ўсё ж недасяжных вачом і развагам
іх, гэткіх звычайных, жытнёвых, аўсяных,
што ўчора
нагбом, набрынялаю жменяй
асот і куколь з каласамі зразалі,
рыпліваю сошкай гарнулі каменне
і роднаю песняй разгойдвалі далеч.
Трымцелі калені ад тыдняў пакуты
на хвалях,
няхоцькі слязіліся вочы.
Стаялі й сачылі,
як кагаркі скрутам
кідаюцца ў морак,
крыллё у ім мочаць.
Шарэлі карэлыя, ўбогія клункі
пад першым сутоннем у новай айчыне,
і горкаю кагаркай плакалі думкі
па згубленай,
гэнай,
што з сэрцаў не скінеш...
А сяння зноў — мы...
А назаўтрае — мерка
яшчэ... і яшчэ (хто ж бадзягаў запыніць?)...
Аж хтосьці, калісьці,
апошні ўжо,
змеркам
прыльгне да сляпога,
апошняга тыну.

*[1963]*

# АДВІТАННЕ

Вось і яшчэ адну восень
я адвітала, у цішы,
сэрцам і целам з камення.
Тутка па ёй не галосіць
ані прадонне, ні ўзвышшы,
ані суддзя наш найвышшы —
наша дзіўное сумленне.
Тут
залатую хаваюць
моўчкі, ледзь першы жаўтавы
ліст залунае над мурам,
зычаць нябожчыцы раю,
хрыплагалоса гугнявяць,
свечкі таненькія ставяць,
місы з сытою ды журам...
Плач ці не плач —
не паможаш,
клёнаў назад не адзенеш,
дзён залатых не ссукаеш,
сіверу не адварожыш,
сэрцаў людскіх не адменіш,
як ні выцягваеш жмені, —
праўда ўжо скрозь такая.
Зраніш адно, навярэдзіш
пальцы, і пясці, і рукі
у неразумным змаганні.
Вось я
шнур пацерак з медзі
з шыі зняла без прынукі:
хай нас асенняй дакукай
не харашаць
і не раняць.

*[1963]*

## АХВЯРЫ

Канала
пад нудным снегам
ліхтарні намоклай, млоснай,
яна, залатая кунега
йшчэ ўчора,
канала восень,
цягнула бязлістыя рукі
у сцень, размываны імглою,
шукала лістоў — адхукаць
каб матчынаю тугою.
Але адляцелі дзеці,
ляглі, дзе заспела доля:
на ходзішчы,
ў шэрай шчэці
ламанага ветрам голля,
парваныя на рызманне,
распятыя на каменні,
а ўсё — для пустога зману,
асенняга ззяння жмені.
Мы гэтак іх судзім, людзі,
лісты ж... нат пад нашым ботам
мо радасць нялюдскую студзяць
адзінага ў неба ўзлёту.

*[1963]*

## ГЭТА Ж ВОСЕНЬ

Восень
адыходзіць з нашых вуліц
просім
пакідае нашы справы
сціхлі
недажоўклых ліпаў гульні
іхных рук-галінаў шум рудавы
дзіўна
а чаму ўсё залатое
ліўні

зор уночы парк раздзеты
неба
перад вечарам і тое...
трэба
гэта ж восень
восень гэта

*[1963]*

## ЗОРКА

Сутань
хустку ўскінула на места.
Хустка вогкая,
намоклае й каменне:
ўдзень паплаквалі, пацягваючы, хмары,
да муроў прыпаўшы цяжкімі грудзіма.
На змярканні
сціхлі ўсё ж, пусцілі
пакрысе іх восеньскія жалі.
На бруку́ распластаваюць рукі,
учарнелыя ад старасці ды стыні.
Вочы лужынаў
заплюшчаны нашчыльна,
адчыніць —
адчыняць хіба сонцу.
Ды ўзняла адна ўгару
знянацку вейкі,
у прадонь зірнула...
і ўляцела
ёй у вока срэбная пылінка,
сіні
зоркі нейкае
аскепак.
Гэткі сіні,
гэткі найсінейшы,
ажно брук навокал — стаўся небам,
і ўзяліся дугі чыркаць ногі,
каб не растаптаць драбочак сіні,
хай драбніцаю для іх —

стаптаць, скамечыць
і канаць пакінуць
цела брата.

*[1963]*

## МНЕ РУПІЦЬ

Я выходжу наранні на места
з ношкай, сіняй такой, за плячыма
(гэта сны, недаснёныя сяння).
Напярэймы бягуць мне завулкі,
спехам гасячы ночныя свётлы,
і ўстае над засмечаным брукам
зігатлівая, тут нават, восень.
Мне чутно, як пад таннай апраткай
сэрца стукае,
бачу, як рукі —
вёслы горнуць сівое паветра,
чую крокі важкія, хай следу
на вільготным пяску не дагледжу.
Што ж,
няхай прамінае бясследна
йшчэ адна,
зноўку жоўтая, восень.
Я ж іду ля тых самых будынін,
я ж тапчу тыя самыя пліты
камянёў, цагліны́ ды асфальту,
што й заўжды —
і ў дажын, і увесну...
А што клён залатых завушнічак
начапляў
ды што звоняць а звоняць, —
дык на тое ж і восень... Мне рупіць —
ці яшчэ адна, гэткая, будзе
для мяне,
для жывое —
жывая.

*[1963]*

## ГОСЦЯ

Зноў восень, зноўку ты з намі
ўсюды —
ў садох... на сумленні...
ходзіш прыціхлымі днямі,
ў жоўтым лісці па калені,
сочыш,
ці гнёзды пустыя
ў дрэвах раздзетых, ці вырай
клiністы
восеньскай стыняй
крылаў не зраніў прысталых,
яблык шукаеш у голлі,
важыш у жмені арэхі,
прымаразь срэбную полеш
золкам на сцежках,
на стрэхах,
лёд першы ў прыгаршчах крышыш,
гэткі званкі а ламлівы,
грэеш далоні ў вагнішчах
незагасільных галінаў...
Зорацца з жалем старыя
ў ззянь залатых узлессяў:
восень ім,
час, што ў вырай,
іх лебядзіная песня.
Сэрца не мае да госці
й моладзь — зялёныя сосны:
што каму рупіць восень
скрозь, калі ў сэрцах вёсны?
Мала баліць пазалота
дзён вераснёвых
і рэшце:
свету ж
абы умалотна,
тлуста, бяздумна і ўсцешна.
Дык не чутно мо й паэту,
як б'е ў званы пад шнуроўкай

восені сэрца
ў такт свету
й нашым
узноў а узноўку?

*[1962—1963]*

## ВЫРАІ

А вясны —
ўсё няма і няма.
Увушшу звоняць белыя пчолы,
быццам
ім
сакавік пераймаць,
а не лозам
у мокрых пастолах.
У мурох, праўда, дзе і жаўцець
гэткім
злітым вясновым гудам?
Мне тут
неба шматок найчасцей
на ўсе жалі бывае астудай.
Ды мінуў сакавік без яго,
адкаціўся яечкам чырвоным
дзень вялікі...
Фальшывіць фагот
ветру
зноўку на прываконні.
Стогне сівер,
не-не, а пагляд
скасавурыць усё-ткі ў далéчы...
Ці не вырай мінуў далягляд,
мчыць,
узняўшы вясну на плечы?
Мкні ж суладна,
ускіды крыл

ашчаджай,
першы госць пярэсты:
ў сэрцы ўбіўся,
як боль,
снежны пыл,
не разбі ж нам
вясну
над местам!

*[1964]*

## ЧАС — НЕ ЧАС

Сіня. Сонца. Падсохлыя брукі.
Беспрычынныя стрэчных усмешкі.
Радасць
рупіць раскінуць рукі,
дзесь за светы падацца пешкі.
Цешаць
першыя пырскі зыркія
весніх крокусаў, пупышкі веццяў,
галубоў шчыры юр
і такія
думкі —
хоць іх
рассып ты па свеце!
Дзе ні глянеш —
вясна,
ды якая!
Не саступіш —
папхне, пераківе!
Марны скверык — раскінуўся гаем,
неба латка — бязмежжам сінім!
Песцяць сэрца й худыя вазоны,
й брукі ў белі паперкавай лускі,
і ўсё чыста —
бо вецер з Гудзона
сяння нейкі зусім беларускі!
Больш не хочацца быць
песімістам,

што ўсю людскую зведаў аблуду...
Асыпацца асеннім лістам
час — не час,
а яшчэ ж
не буду!

*[1964]*

## ГМАХ ІМПЕРЫІ

Жмені, поўныя наквецi у каштанаў,
яе поўна ўвaччу людзей.
І ўсе
гэтак вясёла бягуць,
не прыстануць,
ці шчаслівы тут хто, ці не.
Ён стаіць...
Срэбны. Велічны. І дзівосны.
Найдзіўнейшы мо ў свеце узлёт.
Дзесьці доле гудуць,
як у непагадзь сосны,
плошчы,
брукі,
натоўп.
Мкне нястрымна натоўп,
хай заплюшчацца вежы,
хай аглухнуць на золку пляцы.
Ён стаіць, склаўшы крылы,
і дзесь на ўзбярэжжы
сочыць першы прамень залаты...
Упіліся у далеч, ледзь бачную,
вочы:
месты й месты...
сівы акіян...
Што яму
да натоўпаў,
да ўсмешак дзявочых?
Далячынь
ці ж на іх памяняць?

Хай калечаць гарбы ношкай
важкай мурашкі,
хай аблытваюць вобмацкам свет,
хай рыпяць грудзі места
хрыпліва і цяжка —
болем іх
не яму ж утравець!
Найбуйнейшыя слёзы людскія
не варты
найдрабнейшых у продані зор!
Із зямлёй
ён
наважыў парваць не на жарты,
ён у сіню ўзляцець
даў зарок!
Ды закутае ў сталь і у камень
карэнне
моцнай воляй натоўпу унізé.
І гарыць дзіда срэбная гневам,
і пеніць
хмараў весніх нястрэсены снег.

*[1964]*

## СОН

Папырскаў крышку дождж,
ляны, вясновы, цёплы,
яшчэ й цяпер
галлё
ягоны чуе смак.
Вісела доўга
на адной з галінаў
сонца,
ды перадумала
й сарвалася у ноч.
Бяруцца слацца моўчкі нанач
клёны,
не надта ўжо шумлівыя і ўдзень:
тут — не яны шумяць

лісцём, птушыным звонам,
ні шчыгел, ні жаўна
сюды не заляціць.
Шуміць, гудзе, грыміць
вялізны молах —
горад,
нат найдзічэйшы джаз
такі не выб'е рытм.
І спаць,
прадаўшы ўжо
не толькі што
пшаніцу,
але й душу, —
не кажны тут дапне.
Сон тут —
маўляў той джаз:
парваны
і пачварны,
ціхім андантэ[1] вейкі не спаўе.
Прахопішся —
крычаць каты на панадворку,
імчаць пажарнікі, грукочуць цягнікі...
А так хацелася б прысніць:
між яблык спелых
вісіць бляшаны ветаха ражок,
сінеюць азярцы туману на атаве,
сцюдзёна плюхаецца срэбра
у вядры...
А каміны
ужо сцяжкі ўзнімаюць дыму,
што пахне бульбаю й бяростай,
плывучы
насустрач цішыні перадусходняй...
Мамэнт —
і горлейкі ўзвіюцца паласкаць
расой салодкаю і звонкаю
жаўронкі!
Не цалавала рук
нікому я ў жыцці.
Табе ж,
мая зямля,

я цалавала б ногі
за цішу, за туман, за жаўрукоў —
за ўсё,
чаму я ўжо, відаць,
не выйду
напярэймы.

*[1964]*

## ПЕРШЫЯ КРАСКІ

Іх —
пазбірала я ўсе —
зернятка па зярнятку.
Але куды ж панясеш
скарб гэты —
веснюю згадку?
Згаснуць у змрочных мурох
вочы іх сіняй дзіцячай,
нат не паспее пяро
слоў на паперы зыначыць.
Хай
п'юць усмак сяння ззянь —
дзіва ў расшчэліне мескай.
Наквець растрэсці
і звяць —
наканавана й пралескам...

*[1964]*

## ДАБРАНАЧ!

Часіна́ —
і ў сутонні дагарыць
сонца брыг,
пад ветразьмі, ў разгоне.
Ужо лічаць вочы —
раз —
дык зоры угары,

а раз —
зоры йшчэ зырчэйшыя
ў Гудзоне...
Студзіць твар,
руды з гарачыні,
хвалі шэрае крылом
у доках
                травень...
Упілілі пільна карані
караблі
                ў ваду,
бы ў глебу травы...
Адбіваецца
каменьчыкам аб тын
іхных трумаў
плёхат
                хваль прыплыву...
Адчыніўшы шырака раты,
узбярэжжы дыхаюць хрыпліва.
Мітусяцца зыркія агні
светлячкоў —
мо фараў, мо рэкламаў...
Не сумуе
аніхто
                па дні,
што тугой
ці мала сэрц папляміў.
Мо журбу з іх
змые ўрэшце ноч?
Што ж, дабранач!
Набрынялі вейкі...
Вартых снення сноў
                                        не снілі мы даўно, —
можа, сёння ўсё ж
прысніцца
                    нейкі?

*[1964]*

## РАДАСЦЬ

Як прагна смокчуць сонца
берагі,
дзе ў пене гінуць веснія
прыплывы.
Вітаюць радасна бурлівы іх загін
сівыя кагаркі
ды траваў грывы.
Казыча пяты босыя пясок.
Ён белы, быццам снег,
і гэтаксама йскрыцца,
у хвалях
зрэбнае палошчучы крысо
ўзбярэжжаў:
раз — сумысля,
раз няўпрыцям.
Ці ўцеху
і сваю
на вецер мне аддаць?
Гурт ветразяў
імкне
кудысь за далягляды...
Вясна,
вятры,
і я,
й зялёная вада —
ўсё сёння ў слове акрыялым
«радасць»!

*[1964]*

## ГАЛІНА

Увіхаецца вецер растрэсці
і красу
й весніх думак жмут...
Хай жывеш
у вялізным месце, —

запыняюцца
                                        вёсны й тут.
Трэба толькі расплюшчыць вочы
так,
што й сонца нап'ецца з іх, —
і на ўсе галасы
заплюскоча
ўсё,
што надзіць гэтта ў маі.
Перакінецца праз агароджу
недзе
яблыні белай гучок,
загарыцца —
і чару не зможа
ні счарнелых муроў ламаччо,
ані брамаў шчарбатых ляпы,
дзе ад рання да рання
змерк,
ані аўтаў
                        раздзьмутыя храпы,
што усюдную чуюць
смерць.
Аж запынішся перад гэткім
дзівам веснім,
ружовым сном,
рукі выцягнеш,
                                        але ў сетку
пальцаў
водар сплыве адно.
Закалышацца,
кіне цвету
ў вочы прыгаршчы
галіна́, —
і да сутані ходзіш
светам,
быццам ты — гэта й ёсць
вясна.

*[1964]*

## ЧАЛАВЕК ЧАЛАВЕКУ БРАТ

*Homo homini lupus est*[1].

Чалавек чалавеку — воўк.
Першы ў гэтую праўду хрэст
маіх дзён
развіваў сувой.
А паслей —
хто хацеў, хрысціў
ці вадою, ці без яе,
й крыўд набрала я до у трысці —
у жыцці,
аж яшчэ стае.
Глуха шасталі дні — сцяблы:
па зіме —
зноў сяўба... жніво...
Не збываўся тых слоў палын:
«Чалавек чалавеку — воўк».
Не гублялі іх чары рук,
сэрца
ў кратах крывых рабрын...
На сваім я гарбе ўгару
узняла іх,
праўдзівых,
тры.
Ды, ўсе ў белі,
ішлі вітаць
і лагчыны й сады
мой сум.
Сіняй руняй плылі жыта,
асыпалі мне ўслед расу.
Ападаў
на мае сляды,
па расе,
дрэў барвовых ліст,
спавіваў,
як брылі гады,
ў чар нязвыклы маё
«калісь».
Прытулю
да вачэй далонь —

...і ўжо межаў відаць слупы.
Дзіў,
што іншы ўсё,
што было,
церушыць мне на вейкі
пыл...
І,
паціснуўшы пальцы вясне,
хай на ростань з ёй
не пара,
я шпурляю ў ігрушаў снег:
«Чалавек чалавеку — брат!»

*1964, Нью-Ёрк*

## ЁН ГРАЦЬ НЕ СЦІХНЕ

Зноў Дваццаць Пяты Сакавік,
Дзень Беларускі,
наш,
усіхны.
Зайграў Ён павадкай крыві
калісьці ў нас,
і граць не сціхне!
Хай Ён усцяж яшчэ не наш,
І Беларусь хай
пад адхонам, —
інакшага
у нас нямаш,
каб за Яго маліцца Кону,
каб за Яго
ўзнімаць з тугой
вянкі далоняў,
вейкі,
сэрцы,
каб так, як мы тут,
на Яго
чакаць, наўсуперак няверцам.
Ці ж дзіва,
што не ў лістапад

Айчына ўскрэсла,
а увесну,
калі вятры імкнуць наўзгад,
а ў кратах рэбраў шчасцю цесна,
калі зялёны, цёплы сок
спружыніць парасткі й галіны,
а першы вырай у крысо
нябёс урэзваецца клінам,
калі такая ўсюды сінь,
аж вочы ў ззянне ўзняць няможна,
о, Беларусь, —
чаго маніць —
Ты з намі
ўсцяж,
у думцы кожнай,
бо зноў на свеце сакавік,
зноў Сакавік
у снох усіхных.
Нязрыннай павадкай крыві
Ён грае ў нас
і граць не сціхне!

*[1964]*

## РАДАСЦЬ

Адтрымцела — у гневе — зямля...
Сплыў натоўп, правіць свята, у сховы...
Змрок прыпоўз на Крыжовы Шлях,
твар паклаў на слядох Хрыстовых...
Чорны ветразь накрыў магіл
скальных шчэрбы, муры, гасцінец...
Нат Гальгота —
вось-вось вуглі
познай весняй пагары скіне.
Тлее жухла йшчэ толькі крыж,
той, з якога із плачам
Сына
цела Маці зняла... Гарыць
ён, як боль Ейны,

ці астыне...
І здаецца крыжу — не, крыжом
(два ўсцяж злыдняў трымаюць поруч) —
не стрываць
ані ім ужо,
ні шырокаму свету — гора...
Ён сканаў —
дык сканала усё.
І дармо той сявец ці араты
ніву кратаў, дармо ля красён
гнулі пругкія плечы дзяўчаты,
ткала парасткі весняя ноч,
слалі кагаркі гнёзды на скалах,
адплывала на ловы чаўно, —
ўсё дармо,
бо ж Яго не стала!
Ды ці ж знаюць,
хай ноч, хай сявец,
што ад Госпада
наканавана?
Басаног па сцюдзёнай траве
міраносіцы беглі
саван
зняць з прабітага Цела, зрасіць
і слязьмі, і пахошчамі раны, —
а Сын Божы —
ці ж веры дасі! —
уваскрос!
Уваскрос! Асанна!
Крылы вецер раскінуў, узняў
над крыжамі й паплыў
даляглядам
весціць радасць Вялікага Дня —
Уваскрошання светлую радасць.
Радасць скрозь,
бо ж на свеце вясна,
сонца, наквець, вясновыя ліўні...
Расшуміцца й Табе яна,
край мой родны
і незабыўны!

*[1964]*

# ПАМЯЦІ КАМПАЗІТАРА МІКОЛЫ КУЛІКОВІЧА[1]

Яшчэ адзін із нас дапяў, як мог, канца...
Пайшоў... Не вернеш...
Ды пакінуў песні.
Хай Творцы ўжо няма, — як рэзвы вецер весні, —
нам іх не запыніць, ім крылляў не прыцяць...
За іх
апошняй ніткаю чаплялася жыццё
Ягонае,
яны — знялі свайму музыку
з грудзей апошні камень,
іх ён клікаў,
ужо нямы, набыўшыся ў гасцёх
у мачахі-зямлі...
А у мястовай мгле
ўставала дзіўнае крыху, хай сплаканае ранне,
і вецер золкі места больш не раніў,
а нейкаю ціхой лагодаю пылеў.
На свет бо ўжо вясна збіралася: снягі
плылі уздоўж дарог нітамі ручаінаў
і плечы радасна, чакаючы пачыну,
распраствалі сады, і руні, і лугі.
А Ён — любіў вясну, хай мескую,
з лядком
вячорных лужын, з капяжамі,
з новым
уздымам сілаў творчых, з перазвонам
сугуччаў новых, весніх, за вакном.
І вось —
яшчэ адну, апошнюю, пражыць
не собіла музыку... Недзе ў нейкай
далечы, накшыя над ім заходзяцца жалейкі,
інакшыя яму спяваюць крапяжы...
Ён — адышоў ад нас...
Яшчэ, яшчэ адзін,
што над будзённасцяй,
над шэрасцяй, стаялі,
што жыць не ўмеў,

што ўдосыць крыўдаў, жаляў
напіўся, хай яму іх талент саладзіў...
Але... Няма музыкі...
Ён — дапяў канца...
Але жывуць, звіняць,
гучаць музыкі песні.
Не дайма ж ім
няпамяцяй і плесняй
накрыцца.
І — як Ён сканаў —
сканаць!

*29 лістапада 1970*

## ЛЮРДАЎСКАЯ ПЕСНЯ

Над спелым калоссем спяваюць званы,
аб дзіве дзіўнейшым скрозь весцяць яны.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Ледзь сонца ўзнялося над сеткай палёў, —
пайшла Бернардэтка у лес па галлё.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Аж раптам гарачы, нястрымны віхор
ад скал Масабельскіх нізрынуў на бор.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Нясцерпнае ззянне шугнула да хмар
і папараць-кветкай успыхнуў гушчар.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Схіліліся нізка да сцерпнай зямлі
і ніцыя зёлы, й дубы-каралі.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Замерла дзяўчына, прыльгнула да пня,
не смее павекі у ззянне узняць.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Нарэшце зірнула — за зоры святлей —
праменная Дзева стаіць на скале.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Кашуля — як снег той, як неба паяс,
аблічча, як вёсны ціхія у нас.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Зярняты ражанцу зіхцяць на руках,
і белыя ружы услалі ёй шлях.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Схінула калені ў пакоры дзіця,
трымціць, як над плёсам сцяблінка трысця.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

І вуснамі ссохшымі шэпча, бы ў сне:
«О, будзь міласцівай да нас, да мяне!»
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Ды згінула З'ява... Сацьмела скала...
Чакала малая, шукала й пайшла.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай Марыя.

Назаўтра, ледзь ранак усплыў над зямлёй,
не спіць Бернардэтка, ірвецца ў гаслё.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Туды, дзе учора, між скалаў, адна,
Чароўную Постаць вітала яна.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Дазволь мне, матуля, ісці да Яе,
мне радасць дзіўная чакаць не дае»!
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя

І лёгкаю птушкай памкнула ў туман.
І зноўкі ёй Дзева з'явілася там.
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Што хочаш? Скажы, — моліць Дзеву дзіця, —
«Твая ж я уся, пакуль стане жыцця».
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Прыходзь да мяне і сяброўак бяры,
два тыдні із вамі я буду ў бары».
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Табе ж прыракаю я, любка мая,
ціхое жыццё й нябёсы пасля».
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Так сталася, й дзеці паверылі Ёй,
Ды цяжка даць рады няверы людской...
Авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя!

*[1970]*

## МІЖ БЕРАГАМІ

Няцямным немаўлём я пяты памачыла
упершыню ў кіпень ракі майго жыцця.
І вось — другі ўжо бераг шэры неўпрыцям
расце перад вачмі...
                    Ён — прыме на спачынак.

А я б — яшчэ плыла,
                    няхай між берагамі
каменне і віры, і дна глыбінны жвір...

Ці раз параненая імі да крыві,
не паддалася ўсё ж, не пала я ў змаганні.

Рака, рака жыцця!
У градаў гнеўнай пене,
у зернятах пяску на плёсах залатых,
бурлі ж павек між берагамі ты
і ў грудзі — ўжо не мне —
а змене бі па змене!

*1971, Рочэстэр*[1]

## ЖЫВІ!

*У 200-я ўгодкі Злучаных Штатаў Амерыкі*

Ты нарадзілася ў змаганні,
ці мала праліла крыві.
За волю ўсіх стаіш Ты й сяння,
як і калісь, Тваім світаннем —
жыві ж, Амерыка, жыві!

Вядзі сыноў да праўды, шчасця,
калоссем залаці прасцяг.
Няхай жа моц Твая не гасне,
а чорны дым вайны не засціць
ані Твой шлях,
ні зорны сцяг!

*[1976]*

## КРЫЖ[1]

Як вокам скінуць —
сцяг пушчаў сініх...
За пушчай далеч, яшчэ сіней...
А тут, на ўзвышшы, стаіць над намі
наш Крыж прыгожы, маўляў у сне...
Шмат чулі свету крыжы маленняў,
шмат просьбаў, выкліканых бядой.

Прыйшлі й мы ў прошчу сагнуць калені,
свяціць не нечы ўжо крыж, а свой.

«Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу», — маліўся хор,
і ўторыў натаўп, і спелай нівай
хіліўся, ветру наперакор.

А вецер дужаў, кудысь аблокі
зусім па-восеньску ўжо плылі.
Маўчала прошча, унізе ж далёка
сінелі зараснікі й палі.

«Магутны Божа», — без слоў прасілі
мы ўсе, а, рукі узняўшы ў выш,
стаяў нязрушна на ўзгорка схіле
ён, гэткі родны ўжо сэрцу Крыж.

Тут — дождж імгненна каменне спляміў,
рассыпаў кроплі ў траве, ў лісці...
Няйнакш —
і Нехта дзесь там, над намі,
наш Крыж вадою святой хрысціў.

*1988*

## МАЛАЧАЙ

(На смерць сябра юнацтва)

Памёр... няма... і анідзе у свеце
не пакрыжуюцца ўжо нашыя шляхі,
хай восень зноў спляце нам залатыя сеці,
хай зазяленяцца узноў вясновыя лагі.

Якое слова дзіўнае, няўцямнае — «ніколі»,
якое жудаснае слова — «анідзе»,
як заміріцца з тым, што не сустрэцца болей
нам у жыцці з Табой
ні ў шчасці, ні ў бядзе?

Любіў, Ты — як і я, — блукаць па пералесках,
спыніцца ў гушчары, скамечыць мох мяккі,
яшчэ й яшчэ чытаць ад крэскі й да крэскі
балады, што дубы збіралі праз вякі,
а там ужо змяркannem
выйсці ў поле
і жыць, як гаварылі нам, малым:
«як набяжыць»,
не крыўдаваць, калі нас часта хтось і ўколе,
ні — абы што — хапацца за нажы.

Мой сябра дарагі!
Нялёгкімі гадамі
нам давялося жыць,
відаць, наш кон такі.
Ды мы брылі. Ступой
ішоў і кон із намі,
аж запыніў Цябе кіўком рукі.

Стаю… ужо адна…
Скрозь — тае снег счарнелы.

Журчыць у раўчаку ручай…
Ну, што ж, бывай!
Ужо мо й там, дзе Ты,
тчэ парасткі нясмела
прадвеснік весніх дзён
зялёны малачай!

***Красавік, 1989***

## ЧАРНОБЫЛЬ

Весні ранак...
Ужо на парозе
я спыняю знянацку хаду:
надта ж хараша зноўку бярозы
карагоды на ўзгорках вядуць!

Іх імклівыя рукі на сіні
далячынь ткуць празрысты узор.

Курапаты, Чарнобыль, Катыні
ім не засцяць ні вёснаў, ні зор.

Мне ж... мне мроіцца іншае ранне:
хлопчык з пужкаю... статак... раса...
Ўпершыню ў поле выгнаў ён сяння...
красавік... Люба ў сонцы гайсаць!
Сонца ж — скрозь! Уваччу, у лазовым
жоўтым пухам прыбраным галлі,
нат у шчаснасці той, без назову,
ад якое аж сэрца баліць!

І няўпрыцям нікому з худобы
чалавечай, што стоены сцень,
чорны сцень... найчарнейшы...
Чарнобыль —
ужо крые, накрыў іхны дзень,
што з худой пастушковае жменькі
хутка выпадзе пужка, што ён,

як і безлічы меншых маленькіх,
моўчкі прыме пакутлівы скон,
што узноў над маёй Беларусяй
прарасце, забуяе бяда,
што...
Ды лепей вазьму памалюся,
да людскога і свой боль дадам.

Божа! Божа! Адзіны ў Сусвеце,
што ўсё знае, ўсё можа, зрабі ж,
каб за нас не пакутвалі дзеці,
не яны каб, а мы неслі крыж!

*[1992]*

## СВЕТЛАЕ ПАМЯЦІ Б. ВЕРЖБАЛОВІЧ[1]

> Смерць не гасіць святла, яна толькі гасіць лямпу, бо прыйшло світанне.
>
> *Р. Тагор[2]*

Мы знаем — час плыве,
па кроплі кропля, ў змрок.
У кволай чары рук яго не утрымаеш.
Налета — ў цішыні
прысадаў і муроў
ён расцвіце мо зноў,
але ўжо іншым маем...
Дык так сплялося, што —
ці хочацца, ці не —
ісці кудысь Туды
нам з часам па дарозе.
Вось мы й брыдзём сабе,
і ў плаўкім тумане
абапал —
то цвітуць, то адцвітаюць лозы.
Парыпвае, хрумсціць
падмоклы, востры жвір,
Сабакам верным сцень
туляецца пры боку.
І добра...
Толькі менш
тых зораў у крыві
і зораў уваччу
із кожным новым крокам...
«Memento mori», — гуў калісь,
загнаны ў кут
жудою небыцця,
наш свет па цёмных норах.
Яшчэ й цяпер парой
на зблытаным утку
бярэ ён зноў снаваць
сваё «Мэмэнто моры».
Ды іншыя мы ўжо...
У вецер із зарой
імкнёмся мы з вясной зялёнаю

у згодзе,
бо ведаем, што хоць калісьці
і памром —
«Жыццё — нішто, як смерць,
а смерць — жыццё!»
I годзе.

*[1943—1996]*

## ЗОРКА

Ноч была, як, здаецца, і ўсе
у далінах ссівелых Юдэі[1]:
Стыг пуцінамі пыл пакрысе,
і сляды, і надзённыя дзеі...
Брала моўчкі ў абдымкі сутонь
гліну й камень парогаў... вуголле,
гэн і гэт недагаслы агонь...
студні... ніўкі... пальмовае голле...
Найдаўжэй мо не спаў Віфлеем[2]:
не хапіла вады там сягоння
ні людзям, ні вярблюдам,
хай сем
вадаёмаў у месце... I ганіў,
кляў уголас прыбылы народ
доўга ўладу, парадкі, аж сцішыў
сон прысталы Давідавы[3] род:
патанула і места у цішы...

Ды няхай і была, як усе,
гэта ноч, —
а ў нябёсных суквеццях,
як лілея у срэбнай расе,
ззяла зорка, нязнаная ў свеце.
Хто тут бачыў такую калі?
Нат дзяды, цягам год гаратлівых,
час-часом зрок узняўшы з зямлі,
не спасціглі шчэ гэткага дзіва.
А яна
зігацела, маўляў
само сонца. Плыла й зігацела,

аж святлом налілася зямля,
хваляваннем дзіўным затрымцела.
Палі пастыры ніцма ў палёх,
пазбіваліся ў гу́рты авечкі,
ветры й тыя стулілі крыллё —
затрымаліся
зорка... і вечнасць...

Бо ў пячоры за мескай сцяной
гэтай ночай
сышліся ўсе згадкі,
ўсе чаканні, жылі што даўно:
Нарадзіла Марыя
Дзіцятка!

О, маленькая светлая ззянь
на трысці ды саломе,
Табою
з цемры, з вусцішы чорнай рыззя
свет устаў,
свайго шчасця не ўтоіць.
Глянь,
сагнулася зло, папаўзло
ў ноч
з-пад сэрцаў людскіх, з-пад парогаў,
Нарадзілася!
Ззяе святло!
Слава ж,
слава на ўзвышшах — Богу!

*[1996]*

## ЗОРКА

Заплятаюць зоры белыя узоры
У бяздонні неба... Ціша... цішыня...
Поўныя пакуты стромкіх хвояў хоры
Гімн співаюць ночы... Ціша... цішыня...

Не шумяць галіны маладой асіны
Аб адвечных страхах, векавой жудзе,
Толькі у лагчыне, дзе туман лёг сіні,
Часам ночны вецер глуха загудзе.

Ўслухайся у словы ветравае мовы,
Ўслухайся у шэпты хвояў маладых:
Многа казкаў дзіўных, песняў пераліўных
Чуткаю душою зразумееў бы ў іх...

— Тут былі калісьці, — зварухнуўшы лісці,
Пачынае вецер, — не лясы-палі.
Над ракою дзесьці, год таму ўжо дзвесце,
Між высокіх жытаў вёскі залеглі.

Там, у нізкай хатцы, жыў хлапец пры матцы,
Сам прыгожы, светлы — нібы дзень вясной,
А пяяў так звонка, што аж чула сонка,
Голас меў жаўронка, птушкі палявой.

Чуць світае ранкам, а у полі Янка
Ўжо ідзе за плугам і папар арэ...
Паліць сонца з вышы, ўсё замрэ — не дыша,
А яму і люба, толькі йдзе, пяе.

Ўвечары да хаты цягнецца араты
Адпачыць на сене ці пад кажухом,
А Янук гуляе, дзеўкі забаўляе,
Песні ім спявае недзе за сялом.

После, ноччу, ў поле пад лісцё таполі
Прывядзе ён коні, сядзе на зямлі,
Коней даглядае, месячык вітае,
Дзівіцца і лічыць зорныя агні...

Часта ў Божым моры ірваліся зоры,
Як зближалась восень, маці горкіх мар.
Ўніз яны злятаілі, гаслі, прападалі
У бяздоннях неба між калматых хмар.

Кажуць, што не зоркі, ангелаў пацёркі
Ў восеньскую ночку сыплюцца дажджом:
Гэта лятавіцы, злыя чараўніцы
На зямлю злятаюць, ой, не за дабром!

Зоры ёсць такія — ясныя, ціхія...
Душы праклятыя там жывуць, чуваць...
І за крыўду гэту да сканчэння свету
Пакляліся мсціцца — людцаў чараваць.

Спрыкрыцца праклятай жыці незанятай,
Засумуе часам — зоркаю зляціць.
Скінецца дзяўчынай і брыдзе пуцінай
Грэх па людзях сеяць, хлапчукоў звадзіць.

Варажыла ночка, жаляў, чараў дочка,
Агарнуўшы мглою сіняю прастор.
У душу прасіўся, спевам дзіўным ліўся
Смутных ночных гукаў ціхі перабор...

Лёг хлапец у полі пад лісцём таполі
І цягучай песняй скалыхнуў цішу.
Выліваў маркоты, сумы адзіноты,
Раз'ядаў слязамі горкімі душу...

У нябесным полі ярка, штораз болей
Зігацелі зораў белыя агні,
Разрываліся зоры, гінулі ў прасторы,
Гаслі над зямлёю, гаслі на зямлі.

Вось агнём зарніцы зорка-чараўніца
У вачох бліснула і зляцела ўніз.
Толькі след бліскучы, агнявы, мінучы
На мамэнт праз неба ніткаю павіс.

Глянуў хлопец — дзіва: пасвятлела ніва,
Зорка над зямлёю, над лісцём ляціць.
Глянуў і падняўся, ледзь перажагнаўся,
А ўжо тая зорка перад ім стаіць.

З цемры непрыветнай твар дзяўчыны светлай
Выплывае моўчкі і глядзіць, глядзіць,
Апусціўшы вочы, мо спытацца хоча:
«Што сумуеш, хлопча, што табе баліць?»

Вочы у дзяўчыны — возера глыбіні,
Ад павек кладзецца сіняваты цень.
Валасы дзяўчыны — зорныя тканіны,
Серабрыста-белы месяца прамень.

Лёгкае убранне з мглы правіднай рання
Абвілося хмаркай каля белых ног...
Ўся яна ірдзіцца, квола серабрыцца,
Як адна з тых зораў, што раскідаў Бог.

«Хто ты?» — «Я дзяўчына з хмарнае лагчыны, —
Зазвінела ціха, бы званкі ў траве, —
А пачула песні, вабяць так балесне, —
І прыйшла у поле... слухаць... да цябе.

Пей гучней, я сяду»... Слухае загаду,
Заспяваў, заліўся, сэрцайка дрыжыць...
А дзяўчына-зорка ўсё смяецца горка
І вачмі-бяздоннем жудасна блішчыць...

Скончыў Янка гранне: «Дзеўчынка-каханне,
Для цябе пайду я на мучэнні, здзек.
Будзеш мая жонка — аджыве старонка,
Рассвятлее доля: палюбіў навек!

Пэўна, знаеш чары, калі таюць хмары,
Калі гінуць цені ад тваіх вачэй.
Без цябе мадзеці не магу на свеце,
Будзь маёю, любка, падыдзі бліжэй».

Не жалейка плача, стогне небарача,
Не, не ночны вецер жаласна гудзе, —
А з грудзей дзявочых спеў ліецца ўночы,
Кроіць сэрца болем, слёзы гора лье...

Пабялелі сеці месяца на вецці,
Паляцелі зоры з чорных Божых рыз,
Тонкія таполі застагналі з болі,
Апусцілі вецце распачліва ўніз.

А душа канае... Але тут змяняе
Сваю песню дзеўча на вясёлы тон...
Расплыліся хмаркі, выплыў месяц шпаркі,
Зазіялі зоры белым жамчугом.

Белыя бярозы, што гублялі слёзы,
Загудзелі светла, радасна, як смех.
Прабудзіліся кветкі, аджылі палеткі,
Ўсё пайшло круціцца, як узімку снег.

Скача месяц белы, скачуць зоркі смела,
І дзяўчына скача з Янкаю, пяе...
Валасы сплятае, нібы птушка тая,
Ўсё лягчэй нясецца, ўсё вышэй плыве.

Ад зямлі паволі сілай дзіўнай волі
Адлятае... ўецца сінім матылём,
Над густой пшаніцай зззяе заранiцай,
А хлапец трымае, з ёй імкнецца й ён.

«Ой, пусьці, хлапчына, — просіцца дзяўчына, —
Не сваёю воляй я ляту да зор!»
Але дарма б'ецца, яго страшыць, рвецца:
Як каршун з галубкай, праляцелі бор.

«Ой, пусці!» — «Загіну, а цябе, дзяўчына,
Не пушчу, хай будзе, што захоча Бог».
Ды запелі пеўні дзесь у вёсцы, пэўне,
Ірванулась любка — затрымаць не мог...

Шуганула ў неба залатыя глебы,
Задрыжэла зоркай — чыстаю расой.
І дагэтуль зззяе, ночкамі гуляе,
Аж пакуль не ўбачыць сонца над сабой.

А хлапец рвануўся — ў небе апынуўся.
За плячамі крыльцы шэрыя ўзраслі.
Жаўранкам, што золкам будзіць нівы, долкі,
Жаўранкам узняўся ў вышу ад зямлі.

Спяць яшчэ пракосы, дрэмлюць ніў палосы,
А малы жаўронак ўжо ляціць, ляціць:
«Цірлі, цір, вярніся, цірлі, адзавіся!»
Да зары вячэрняй жаласна звініць.

Толькі, як у горы, сном нялёгкім зморы
Ён засне у ценю жытніх каласоў, —
Выплывае зорка і смяецца горка,
І хлапца-жаўронка зводзіць, злая, зноў.

Бо як спіць — смяецца, але чуць прачнецца,
З песняю памкнецца ў неба, да яе, —
Ў зораў карагодзе, ў золаце усходу,
Ў чырвані аблокаў зорка прападзе...

*1924*

## ДЗЯЎЧЫНА

Нехта ўжо лесам ідзе і спявае,
йдзе і спявае, няхай яшчэ росы
стаюць няхутка у сонцавых косах,
хай коле ў ногі атава сівая...
Восень, дык сонца ўстае неахвоча:
ой, і дадзела ж асенняя праца!
Ледзь вып'еш росы, адразу трэ брацца
йрваць павучынне туману, падскочыць
чырвеняй спляміць асіннік, у полі
высушыць бульбу ў баразнах, і бэру
цукрам наліць, і даць сіні у меру
ў небныя ночвы... Не скончыш ніколі!
Нехта ўсё ж лесам ідзе і спявае —
белая хустачка, босыя ногі...
Колькі арэхаў ля самай дарогі,
гэткіх буйных, залатых!
[illegible] І зрывае

дзеўка арэх мімаходзь, а пад світкай
сэрца-ткі б'ецца, аж коле у грудзі:
каб не дазнаўся хто толькі, бо будзе
кпіць з яе вёска, над цэпам ці ніткай,
хоць уцякай дзе...
Ды вось ужо й полка
ставу мігціць між камлямі... Дзяўчыну
вусціш спыняе, бо «сам» каля млыну,
ледзь не ўпусціла з гасцінцам кашолку.
Дзіва! Млынар, кажуць людзі, вядзьмарыць,
моц нелюдская у целе старэчым:
кроў замаўляе, варожыць ды лечыць —
гасіць агніцу, шле трасцу на ймшары...
Ды ці йшчэ гэтак старога агудзяць?
Кажуць, дзяцюк ці адзін ваўкалакам
з дзедавай ласкі ўжо бегае ракам,
кажуць...
Пабачыў. Хай будзе, што будзе.

Госцю вядун із усмешкай вітае,
ейныя думкі як быццам гартае.
Белы, высокі, калматыя бровы,
твар, як і лес той, пажоўклы, васковы,
белая вопратка, лапці, аборы
і найдзіўнейшае — вочы, як зоры...
Голасам ветлым, ціхім, глухаватым
дзеўку вітае старэча. У хату —
кажа — не просіць, валей над вадою
сеўшы, напіцца усмак сырадою
восенскіх ранняў... Што з ёю, пытае,
моўчкі йдзе ў сенцы, дзе цемра густая,
кій свой бярэ, кола кіем абводзіць,
з дзеўкай яго тры разы абыходзіць,
місу прыносіць сцюдзёнай вадзіцы,
кідае прыгаршчы зёл ці карыцы,
кажа дзяўчыне ў ваду углядацца,
ходзіць ды ходзіць...
«І важкая ж праца,
лепш дзірваны рэзаць спёкай нарогам», —
думка апошняя ў дзеўкі, й нябога
дзеду утроп пачынае хістацца,

ажно няма ўжо й чаго прыглядацца,
толькі здалёк із нязнаных далечаў
словы плывуць, цемру й цішу калечаць...
«Ўстану я ды выйду ў лес-бор паволі,
з лесу-бору выйду ў чыстае поле,
стану я плячыма там да заходу,
стану белым тварам там да усходу...»
Словы мацнеюць, агортаюць, душаць...
Звон б'е дзяўчыне ў скроні, у вушы,
круціцца свет... А старэчыя вочы
сочаць скрозь нешта, а голас — шапоча:
«Абтулюся хмарамі сівымі,
абаткнуся зорамі малымі,
абмачуся чыстаю расою,
абсушуся сонцавай касою...»
Шэпча стары ўжо губамі аднымі
словы, што людзі завуць «ключавымі»:
«Не змяніць тых слоў, ні даказаць нікому,
ні старому, ні някемліцы-малому,
іх замкну я дзесяцьма замкамі,
заключу іх дзесяцьма ключамі,
а ключы па лесе расцягаю,
на дне возера-прадоння пахаваю...»
Скончыў вядун, уздыхнуў ды дзяўчыне
піць падае, хай адыдзе, астыне.
«Шчаснаму, — кажа ёй, — дзякуй дзянёчку,
калі у пакутах ды радасці дочку —
пэўна ж цябе — прывяла на свет маці:
долі шчаснейшай — людцом не зазнаці.
Толькі хлапцоў сцеражыся, бо гады
з шчасцем і з тым, а дадуць сабе рады...»
Вусцішна краснай... Замлела, збялела,
п'е — й як заплача, ні пала, ні села!
Плачучы, сыр з палатніны вымае,
дзеду дае — і бяжыць...
Абыймае
ўзноў яе ціша асенняга рання,
шэлях пажоўклага лесу, чаканне
шчаснага кону, што дзед напрарочыў,
аж... абсыхаюць дзявочыя вочы.

Восень на свеце... Імгла палавая
пасмай віецца, ўстае над лагчынай...
Вусцішна ўсё яшчэ, млосна дзяўчыне,
зноў яна песню, адлі, запявае.
Вецер узняўся, ў твар сіверам коле,
й люба дзяўчыне, хай босыя ногі...
Лузаць арэх, мімаходзь, ля дарогі
толькі ўзялася, —
і вось ужо поле!

*[1924—1925]*

## ЛЕБЯДЗІНАЕ ВОЗЕРА

Тут былі калісь бары з імшарамі,
з цёмнымі, хваёвымі гушчарамі,
у вянку, заплеценым вярбінамі,
возера ляжала тут глыбіннае,
па вадзе пусціўшы твані шэрай вязь,
а у возеры тым жыў сам Лебядзіны князь.
Жыў ён, князь, з лябёдачкамі-жонкамі,
жыў ён, князь, з малымі лебядзёнкамі.
Ой, была ж ім, птахам, тутка волечка
і ўначы, і ўдзень, і самацветам-золачкам:
у трысці адны яны кахаліся,
гадавалі дзеткі, расставаліся...
Ды прыйшлі канцы жыццю іх вольнаму.
Людзі збройныя аднойчы з места стольнага
у бары гушчарным заблукаліся,
тры начы, тры дні з борам змагаліся...
Скрозь дрыгва із нетраю не зводзяцца, —
ажно выйшлі, досвіткам, на возера...
Бачаць — вось ляжыць яно, нязведнае,
місай серабранаю бяседнаю,
адбівае неба, хмары ў чырвані,
бор сівы, як быццам з казкі вырваны...
А сярэдзінаю — лебедзі ўжо плаваюць,
туманы разгортаюць сівавыя,
пёркі абтрасаюць свае снежныя,
у суцішы ранічнай кунежацца...

Людзі, што ж, як людзі... Сэрцы гэткія
выкавала доля ім, як з клеткі бо
вырвуцца — ўсіх крыўдзяць, мест спагадаю
свет заліць... Мячом жывуць ды звадаю...
Скрадам ля вады яны цікаліся,
ціха у трысці яны згукаліся,
стрэлы павыцягвалі калёныя,
лукі панацягвалі з праклёнамі
і пабілі матак з лебядзёнкамі,
ажно пух ускрыў ваду сівой пялёнкаю.
А пабіўшы, сталі злыдні цэліцца
у самога князя — трэ ж асмеліцца!
Слалі стрэлы ў грудзі яго белыя,
слалі стрэлы ў вочы яго смелыя,
пёры чыстыя няўзнак скачалі ў гразь...
І сказаў тады ім Лебядзіны князь:
«Гэй людцы́, людцы вы неразумныя,
горка мне за вас, агорклых, сумна мне...
З цецівы навошта стрэлы слалі вы,
аж пабілі ўсё маё да каліва,
кроў пусцілі дзеткам маім дробненькім,
білі ў сэрцы белыя лябёданькам?
Будзьце ж вы, людцы, навек праклятыя
за злабу, за сэрцы за зацятыя.
Не наліць ніколі вам іх літасцяй,
будуць век яны чужой крывёй нясытыя,
будуць век жадой гарэць няўгойнаю,
біць, губіць усё, што супакойнае.
Ні звяру, ні птушцы вы не будзеце
век братамі, ўсіх вакол загудзіце,
пойдзеце й за моры з акіянамі
біцца із бязвіннымі, рахманымі...
Воля ваша... воля незавідная,
быць сабе і ўсім усюды злыднямі...
Беце ж... Але хто калі вось так, як сяннейка,
тут над возерам крывёй зноў абрасяніцца,
лебедзя заб'е ці каляной стралой,
ці ў сіло узяўшы над вадой цвілой,
хто заб'е — дык сам із ім загіне ён
смерцяй гэткаю ж, загіннай, лебядзінаю».

Так сказаўшы, выплыў князь сярэдзінай,
паглядзеў на кроў, на пёры белых лебедзяў,
скалануў крыламі лебядзінымі —
і затануў сінімі глыбінамі...
Выйдзе ён, як людзі скрозь пазводзяцца,
выйдзе ён з прадоннейка, разводдзейца,
затрапеча крыламі магутнымі,
кіне ў неба словамі пакутнымі,
белай пенаю запеніць плёсы чыстыя
і віры з глыбінамі празрыстымі,
скалане нат продань-сінь паднебную, —
і на роўнядзь срэбную — ўсе срэбныя —
плаўна выплывуць лябёдкі белапёрыя
з лебядзінаю малечаю вясёлаю.
Будуць над мінулым яны суд судзіць,
суд судзіць агулам ды прысуд прасіць.

*[1925—1926]*

## ВЯДЗЬМАК

*Расказваюць людзі: было неяк раз у Налібоцкай пушчы паляванне. Паз'язджаліся паны, сабралі леснікоў, зрабілі вялікую аблаву — шмат ваўкоў забілі. Дык вось, як пачалі пасля з ваўкоў скуры здзіраць, — у аднаго ваўка і знайшлі пад скурай суkenку белую, вэлюм, вяночак міртовы, — усё, як у маладой; а другі ізноў воўк быў пад скурай, як сват, ручнікам падперазаны. Кажуць, што гэта даўно некалі адзін злы чараўнік — вядзьмак, раззлаваўшыся, што не папрасілі яго на вяселле, — абярнуў усю свадзьбу ў ваўкоў.*

Сонна ківаецца вецце сасонак,
Гінуць у змроку камлі залатыя,
Вецер паветра нагрэтае мые
Свежасцяй вечара... Ціха і сонна...

Ціха і сонна у змрочным гушчары.
Шэрай вужакаю сцежка спаўзае
З мхоў запляснелых, з вячорнага гаю
Й гіне ў лагчыне глыбокай — у яры.

Цёмна у яры-лагчыне нат летам.
Неба блакітнага там не відаці,
Нават не шле туды сонейка-маці
Касаў бліскучых, нагрэтых.

Дзікія травы, шыпшына, маліннік,
Ягаднік буйны і лопух шырокі
Ночкаю летняй, ціхой, чарнавокай
Яр той заткалі, расшылі...

Там, пад крывою скрыпучай асінай
Ў хаце падгніўшай хавае аблічча
Знахар магутны, вядзьмак-чараўніча,
З дзіўнае зляплены гліны.

Злы ён вядзьмака... Ягоныя вочы
Шлюць на нябачных усякае ліха,
Жудасна нават прамовіць паціху
Імя ягонае ўночы.

Моцны ён знахар... нячыстая сіла
Чорнай душою яго заўладала,
З сілай нялюдскай вядзьмаку спазнала.
Ў злым — уладар ён, асілак...

Кажуць паціху, што ў цёмным гушчары
Ён як праз пень ці калоду кульнецца,—
Шэрым ваўком-ваўкалакам памкнецца
Ў нетры... Вялікія чары!

Ў жыце ён круціць улетку заломы,
Быдла марнуе, людзей уракае,
Жоўтаю свечкай васковаю тае
Той, на кім гнеў ён спагоніць...

Трудна й дзівіцца, што кожны сыходзіць
Злому з дарогі, гасцінцы падносіць,
Пільна на свадзьбы, на хрэсьбіны просіць,
Нізка схіляецца, годзіць...

Толькі ж гадзі не гадзі, а заўсёды
Знойдзе няшчасце да людцаў дарогу.
Пройдзе дзянёчкаў ці мала, ці многа, —
Кожны з бядой у заводзе.

*

У вёсцы далёкай, ля самых магілак
Новая кузня стаяла і хата.
Жыў там каваль, да работы заўзяты,
Лоўкі, здаровы, асілак...

Смелы ён быў, не баяўся нічога,
Кпіў сабе з гора, смяяўся з нядолі.
Эх, не гадзіў ён, як кажуць, ніколі
Віламі чорту, а свечкаю Богу!

Вось і надумаў каваль ажаніцца
(Знудзіцца ж век дзецюком векаваці),
Просіць даўно ўжо старэнькая маці.
Цяжка ёй з працаю біцца.

Добра... із стрэчным сабраліся братам,
Медны званок пад дугой падвязалі,
Новыя світкі наклалі і далей —
Вечарам ціхім у сваты!

Ў хату ўвайшлі, ўсім далі «пахвалёны»,
Селі на лаве... Вядомае дзела...
Сват тут пачаў аб скацінцы нясмела
Гутарку клеіць, аб лёне...

Слова за словам... Што ж, ясная справа!
Чыстую хустку на куце паслалі,
Пляшку з глыбокай кішэні дасталі...
Выпілі... будзе забава!

Выпілі болей... Што ж, будзе вяселле,
Хлопец — як явар, дзяўчына ж — як ліпка,
Стан яе гнуткі, а смех яе сыпкі,
Эх, прыварожыць без зелля!

*

Свадзьбу гуляці ўзялісь на Пакровы.
Цэлую вёску ў царкоўцы бы згледзіў,
Ўсіх папрасілі, радню і суседзяў,
Толькі вядзьмаку — ні слова.

«Будзе ўжо, досыць чмута нагасцілі, —
Кпіў малады, — хай бурчыць у бярлозе,
Ногі ён зломіць на нашым парозе,
Глупства ўсё, казкі ці былі!»

Праўда, прасіла сынка каваліха
Ў свадзьбу паклікаць вядзьмаку старога...
Толькі ж ідуць маладыя дарогай
Іншаю... кпяць яны з ліха.

Так і прайшоў без вядзьмакі, на згубу,
Першы дзянёчак, вясёлы і хмельны.

.......................................................................
Шпарка шнур госцяў разгульных, вясельных
Едзе з музыкай ад шлюбу.

Мкнецца вяселле па гразкай дарозе,
Мокры пясок раскідае й камечыць.
Гойкае сват з ручніком цераз плечы —
Сыплецца ліст з вербалоззя.

Коні званкамі мядзянымі звоняць
Ў возе, прыбраным у кветкі, істужкі.
Рэжуць музыкі прыпеўкі-частушкі,
Свадзьба пяе і гамоніць...

Гучна, вясёла... ды раптам ірвуцца
Песні ў паветры... Збялелыя твары
Пільна штось сочаць у цёмным гушчары,
Коні храпуць і грызуцца!

Жудасным зданем, пануры, высокі,
З пушчы выходзіць... гасцей аглядае,
Йдзе да калёс, дзе сядзіць маладая,
Злосны вядзьмар чарнавокі.

— Што, не хацелі на вашым вяселлі
Мецi вядзьмаку, дурныя галовы?
Хрыпла шапнуў ён, і гэтыя словы
Дзіўнай жудой зазвінелі.

— Што, не хацелі? Дык я, маладыя,
Ў госці прашу вас з раднёю, з музыкай,

Гэй жа, вылазьце! — Заґойкаў, засыкаў...
...Выючы глуха, ваўкамі рудымі

Скочыла свадзьба і ў змроку вячорным
Ўслед паняслася за злосным вядзьмакам,
Шэрым мацёрым ваўком-ваўкалакам,
Пушчай разбеглася чорнай...

Кажуць, што й сяння, ў асеннія ночы,
У хрыплай мелодыі воўчага вою
Спеў-прычытанне чуваць маладое,
Поўны распачы, нямочы.

Кажуць, што воўчая свадзьба над гацяй
Плача па-людску... Таму мо і раніць
Нашае сэрца, хвалюе й туманіць
Воўчага вою пракляцце.

*1937*

## МУЗЫКА

От, такі быў музыка чарадзейнік,
што захоча — усё з сэрцам
зробіць.

***З казак беларусаў-палешукоў***

На Палессі, дзе ўвосені просяцца
сосны плачам прыглушаным, дзікім,
над вадою, ў асмаленай восеці,
жыў калісьці чароўны музыка.
Наша маці-зямля беларуская
нарадзіла музыкаў ці мала,
а ніхто так, як ён, не выпускаваў
хараства з расспяваных цымбалаў.
І ніхто
так, як ён, не атручваў
далікатнай пяшчотай іскрыпкі,
каб усе свае думкі пякучыя
яна
песняй расказвала сыпкай.

Граў музыка вяселлям
і хрэсьбінам,
галасіў над труною сасновай.
Зносіў людзям паўнюткія рэзгіны
гукаў спеўных,
і знаных, і новых.
Мог зрабіць
із салодкага — горкае,
з жалю палкага — выцвісці шчасцем.
Ледзьве пальцамі струны паторкае —
ўмеў душу ён людскую украсці!
Так хадзіў ён па свеце
з расхрыстаным
сэрцам, з поўнымі жменямі песняў,
дзень па дні адкідаў, пералістываў,
сяння тут —
а назаўтрае — дзесьці.
І ў сваім падарожжы,
захоплены
хараством серабраных сузор'яў
ці вячорнае медзі растопамі, —
забываўся,
што сяння,
што — ўчора.

Аж тут рынулі чорнаю хмараю,
разліліся чырвонаю плямай
дні інакшыя:
з жудзяй, з пажарамі,
з горкай мглою дымоў над палямі...
Смерць...
Руіны...
Крыжы і пажарышчы...
Роспач, голад,
калецтва, жалобы...
Аб прыгожасці тут не размарыша!
Граць, спяваць —
на якую хваробу!
Занямовеў музыка...
Спалоханы,
з непатрэбнай іскрыпкай пры сэрцы

мерыў гора ён доўгімі крокамі,
і хацеў,
і баяўся памерці.
Ўсюды, ўсюды
крывавымі зданямі
уставала насустрач
сягоння.
Свет увесь быў суцэльнаю ранаю,
бессэнсоўным
і велічным сконам!
Стаў музыка пад спаленай хвояю,
цесна йскрыпку прыціснуў, ударыў —
жудкім гімнам тузе незагоенай
далучыўся да гулу пажараў.
Скрозь мацнелі акорды,
скрозь дужалі,
ўгору йшлі з шэптаў лісцяў пажоўклых
да грымотаў... Аж ніткаю кужальнай
абарваліся рэзка...
і змоўклі...
Дзіка крыкнуў музыка
(сугуччамі
адгукнуўся асіннік асенні),
і разбіў сваю йскрыпку пявучую
аб сівое-сівое каменне...

Мгла лягла на рудыя папелішчы,
спавіла свет калекі
й музыку...
І падзеўся ён недзе ў мяцеліцы
п'яным п'яных падзей...
Не прыклікаць.
Хай, галуб, выйдзеш,
выйдзеш на досвітку
на засланае лёнам аўсянне...
Лёгкі ветрык разгортвае вопратку,
навакола —
бой сценяў і ззянняў,
небам — хмары шыпшынна-ружовыя,
ў сэрцы —
ціхае, яснае свята...

Ды музыку гарачымі словамі
не прыклічаш...
Не пойдзе па хатах...
І не будзе цудоўнай пяшчотаю
песціць зноўку пявучую йскрыпку —
роспач,
жахі крывава-смяротныя
засыпаць песняй лёгкай і сыпкай!

*1942—1943*

## ЗНІЧЫ[1]

(Фрагменты)

### Уступ

Памутнела й жыццё і навокалле,
мала цешыць ды мала й баліць.
Як калісьці, дзяцьмі сінявокімі,
не імкнём мы у сонца, ў палі,
не трывожым сон соснаў лопатам
жвавых, босых, дзіцячых ног,
не губляем слядоў бясклопатна
на гарачым пяску дарог.
Сядзеш, возьмеш пяро —
з нейкім скрыгатам,
цераз сілу рве аркуш яно.
Дзіва — горкія сяння мы сіраты,
з хаты вырванае звяно.
Не суцешыць нас звонкай лірыкай:
з найзванчэйшай — жыцця ж не звіць.
Дні ідуць, а мы з лёсам не змірымся,
штоначы снім далёкіх, сваіх...
Дзе яны?
Нават след іх з папелішчаў
пасціралі, змялі ўжо вятры,
і зноў знічам пурпурным,
велічным,
незагаслым
душа гарыць.

Не суцішыш яе, не адчэпішся
ад таго, што ўстае праз туман.
А ці лірыка гэта, ці эпіка —
я не ведаю і сама.

I

Зазлавала вясна,
была золкая, позняя.
Не хацелі красы апранаць —
бо й каму на уцеху — палі.
Пасля Юр'я адно
жоўты пыл захістаўся над лозамі
і спакойнаю сіняй вадой
паплавы за сялом заплылі.
Тры дні цёплы туман,
як кудзеляю, нівы укручваў.
Тры дні ў мгле пераймаў
з залатымі ключамі ключар.
І калі ўрэшце сонца ўзышло
над зямлёю зялёнай, пахучаю, —
трапіў свет да вясны у сіло:
выйшлі ўсе чараўніцу страчаць.
Не стрывала, панесла надзей
плойму й Зоська ў палі перад вечарам,
ды ля весніцаў стала...
Ну й дзень!
Хоць каго б, раззалочаны, звёў!
(Хутарок Дзянісоў у кустох,
можа, стая ад вёскі, над рэчкаю.
Калі ў золаце й лозы і лог,
колькі пчолаў там і салаўёў!.
Вось і сяння — пяюць!
Не суняць!)
А няхай іх, з палотнамі.
Пазбірае... Вясна!
Раз жа ў год так буяе зямля!
Хай з дакорам авечкамі котнымі
пад рукою і мэкаюць весніцы,
а часінку ў лазе, у алешніках
так і паліць туга пастаяць.

— Зоська!
— Божухна, Ясь!
Напалохаў!
Ды што ты?
Знямовіўся?
— Уцякайце... ідуць!
— Хто?
— Хутчэй, уцякай... ды... старых...
Бачыш? Сценкай... Зігцяць...
Тыя ж, з трупімі пруцца галовамі...
Й салаўёў і усплескі зары
жах іржавым лязом пераціяў...

*

Зазванілі вёдры на трывогу ў сенцах,
зарыпелі дзверы восецяў сляпых.
Гул пайшоў па вёсцы:
ад гасцінца сценкай
ружавеў празрысты, залацісты пыл...
Ружавеў, аж мглою зацярушыў вочы
і паклаўся важкім волавам ля ног,
як зайгралі марша радасна, ахвоча
кулі па застрэшшах, па старых платох...
Енкі,
плач,
звон шыбаў,
брэх сабак,
праклёны,
трэск варот, нагамі выбітых з шуллі, —
колькі ж гэткіх дзікіх, жудасных сімфоній
чужынцом на нашай створана зямлі!
Каб сабраць усе іх, каб узяць і грымнуць
бурай перуновых дысанансаў —
свет
задрыжэў бы, ўспыхнуў...
і з чырвоным дымам
гвалт, і зло, і крыўда адплылі б навек!
— Гэй, —
пайшлі па йстопках,
па свірнох, —
дзе сала?

І ў худыя плечы угрызаўся штых.
— Што? Няма? Паглядзім!
Партызаны смаляць
парсюкоў вясковых штоначы, а ты...
— Ўсіх старых — у цэркву.
Ды і баб з малымі!
Маладых...
— Гэй, матка, дзе твой партызан?
— Я адна, паночку, я...
— Ну, досыць слініць,
ведзьму разам з тымі —
раўс, і пад паркан!
Пацяглі салому на царкоўны ганак...
Зноўку дождж сталёвы ў пыл завулка лёг...
Ноч сышла нарэшце...
ймглой змачыла раны,
напаіла вусны, спырскала пясок...
А калі, прыкладам штурхаючы ў спіну,
павялі ў няволю моладзь паўз палі, —
вёску, нібы свечку, прад абліччам сіняй,
ледзь расцвілай ночы злыдзень падпаліў.
І да золку, цемру ірвучы на пасмы
(заляканы ветах у пагары знік),
паланеў у неба шырака, нязгасна,
велічны,
крывавы,
зыркі,
зыркі
зніч.
А над ім ірдзеўся золатам найшчыршым,
рукі разгарнуўшы, распрастаўшы — крыж.
І сцішаў звуглелых Хтось Найвышні
з вышы:
— Хай сатлелі целы,
дух ваш — не згарыць.

*

Дзянісы не згарэлі... Сцярог
Бог сялібу над рэчкаю шпаркаю.
Але Зоська і Гэлька ў кустох
не пасочаць ужо салаўёў.

Нават клунка узяць не далі.
Маці следам і бегла і плакала,
ды ці можна такіх умаліць?
Па крыжох перацялі — і ўсё...
Ноч не спалі... Ў лазе
калаціліся, пацеры шэпчучы.
А у вочы узапар глядзеў
праз лазоўе здзічэлы вагонь.
Жаль аж дух пераймаў...
Раз, яшчэ неяк звечара,
Ясь прыходзіў... Пабачыў — няма —
і зноў скочыў у начную тонь.
Ночы!
Ночы мінулай вайны!
Колькі вас пурпуровай пагараю,
плачам, сагамі гвалту й маны
так пад стрэхамі хат адцвіло!
Прыйдзе час...
Вас у песні ўплятуць.
І атрутай,
і помстай,
і караю
вы ўзрунееце й нейдзе,
і тут.
І не будзе больш так, як было!

II

Лета выдарылася сухое, навальнічнае.
Часта хмарылася, білі перуны.
Пашчапалі дуб стары
над ніцаю каплічкаю.
Але што яны у дні вайны?
Трэці дзень ужо й пылеў і гуў разгублена
старавечны, у сівых бярозах шлях.
Гуў і ўночы ён, аж наквецъ жоўтых лубінаў
нейкі жах ці жаль няўхопны ахапляў.
Ледзьве ранне — ў небе мак таўклі сталёвыя
камары, звінелі над сялом,
і ківалі мужыкі галовамі,
і шчырэй хрысцілі грудзі за сталом...

Дзянісы не слухалі за працаю,
як гулі у звон глухі палі.
Мо таму, што радасцяй гарачаю
і тугою напаіў іх — ліст.
Першы ліст!
(Шкада і Зоські, ведама,
але Гэля — горкае ж дзіця.
Ці даўно збірала казкі дзедавы?)
Ясь дарогаю яго, не вытрываў, расцяў.
«Мамачка, не плачце...
Нам із Гэляю
добра й працаваць, не цяжка тут ані.
Толькі дзіўна ўсё... А гэтаю нядзеляю
ліст дазволілі вам выслаць...
Хіба сніць
мы маглі аб гэткай радасці?
Каханыя,
страх падумаць, як вы жывяцё.
Патрывайце... Ведайце, із вамі мы
думкай скрозь. Мо сходаем жыццё.
Не сумуйце ж,
мы тут — не галодныя.
Як дзядуля, тата? Ў хаце Ясь?
Здароў?
Ну, бывайце...»
А унізе: «…родныя,
прышляцё мо нам хоць трошкі сухароў?»
Плакалі старыя... перачытвалі
кажны сказ па дзесяць раз...
Сяло ж,
як мурашнік пад вырваным бурай выкратнем,
і жыло з глухой трывогі... й не жыло.
Аж аднойчы,
ледзьве серп замурзаны
маладзік у Нёман акунуў, —
запалала чырвана і спуджана
неба летняя начная муць.
Закурэлі хвойнікі, што пасмамі
далягляд імкнулі аплясці.
І усім да болю стала яснае:
сенаванню сёлета — канцы.

Мала хто спаў гэтай парнай ночаю.
(Утрымаюць, не? Каб іх пярун!)
І з надзеяй, ледзьве, праўда, сточанай,
спаглядалі вочы угару.
А назаўтрае віталі раніцу
галасы нядоеных кароў:
ўсімі сцяжкамі і межамі у паніцы
«фронт» імкнуў шумліва паўз двароў.
Гуд машын,
ірзанне,
крыкі, тупанне
сотняў ног, падкутых жаляззём,
пыл і дым,
вазы з жывымі й трупамі, —
ўсё змяшалася у пекла ля паўдзён.
Адыход сачыла вёска із пярэклецяў,
з-за парканаў безлічай вачэй.
Жучкі вылі, пеўні кукарэкалі,
дзеці браліся усхліпываць, пішчэць.
Хто з сякерай тупаў,
хто падмазваў,
сам не знаючы навошта, перадок.
А гарматы аж канаді спазмамі,
і шчымелі сэрцы... Незнарок...
Бо яшчэ не села сонца на куросадні,
сонца жутлае, чырвонае, —
загад
выгнаў вёску на гасцінцы босыя,
і парыпалі вазы — пад далягляд.
Не хацеў Дзяніс сваю аселіцу
у бядзе кідаць, і то каму?
Ды прыйшлі...
Спрачацца ж ці асмелішся?
А і дзеці ў свеце. Каламуць,
глум такі пайшлі цяпер,
што й не пабачыцца!
Маці ж плача вось па іх ці мала дзён...
Дык сабралі воз
і, вёскі не загачыўшы,
пацягнулі сонцу наўздагон.

— Ну, бывай, хай спалены, разбураны,
родны кут! Надоўга, назаўжды?
Што чакае там, дзе змрокі бурыя,
дзе густы, пякучы, чорны дым?
Жвір сухі і колы й ногі мералі,
сэрцы ж упіраліся — не йсці.
Нахінаючыся, грудкі глею шэрага
бабы ўкручвалі ў ражкі хусцін.
Аж ірваліся яны, каптан расхрыстаўшы,
у разору рынуць і загаласіць:
«Ой, жытцо маё сівое, каласістае,
для каго спяліш ты каласы?
Хто цябе із песняю журліваю
будзе шчыраю рукою зажынаць?»
Але вось і ўзгорак...
Сцяўшы сківіцы,
раз апошні глянулі назад.
А ўнізé —
ўнізе між канапляннікаў,
чыста выбраных навалаю гайні, —
паланеў ужо, паўнеба ахапляючы,
велічэзны
пурпуровы
зніч.
— Хто там стаў? Далей!
Глядзець — няма калі.
Із чырвонай цемры выплыў цёмны сцень.
Крык... усхліп глухі... і зноў заплакалі
колы,
колы,
колы
ў тумане.
Доўга дні, мо й тыдні, як шырокая
Крывічанская зямля, —
уцекачы
палівалі, мерачы далéчы крокамі,
крываной слязой крывавыя знічы.
А яны...
Яны шугалі у бязмежнае,
быццам з жыл сыноў Тваіх, мой Край,
жывая кроў,

пакідаючы і сэрцамі і межамі
нязмывальнае нікім,
нічым
таўро.

III

Плылі, плылі дымы над сцерплай
Беларусяй.
Змяталі след па тых, што мусілі пайсці.
З пабітых шыб, з пустых саней
глядзела вусціш.
А ліпень, хоць бы што, іх сонцам залаціў.
Пад хатай Дзянісоў —
як мур, быллё буяла
ды ластаўкі крыллём чыркалі цішыню.
І веяла з пустых кутоў старой навалай
і новаю,
якой — і ім не абмінуць.
Але...
Адны пайшлі, а тых — яшчэ чакалі.
Ніхто, ніхто не спаў у хаце... Палатно,
кажух, што лепшы — ўсё ў жытох лягло
высталых,
якіх не кратаў серп, хоць выраслі сцяной.
З аселіц, позна ў ноч, прыгнуўшыся, старыя
чырвонымі вачмі сачылі далячынь.
А той, хто не хацеў ізноў гнуць долу шыю,
сышоў на дно лясных урочышч і лагчын.
Пайшоў і Ясь...
Лясы!
Чароўнае багацце
радзімае зямлі! Ці раз вы ўжо, ці два
былі асочаным выгнаннікам і хатай
і сховам, што яшчэ нікога не удаў?
Штогод, ледзь сакавік на рэках скрышыць
крыгі,
чужыя вас чужым шлюць і свяціць і грэць,
ды вы — ўсё жывяцё...
І ўсё-такі ж застыглы
ваш супакой, ваш гарт
і мхоў сівая шрэнь.

Сачылі далячынь старыя й дасачылі...
Кружылі пчол раі над жоўтай пенай ліп,
асыпаныя залацістым пылам,
ледзь калыхаліся жытнёвыя палі.
У сонцы, лена мух зганяючы, драмалі
пад ганкам Лыскі...
Зманны супакой!
А перад вечарам ужо вялізны Сталін
ківаў над гмінай ву́самі й рукой.
— Хадзяін дома? Не?
— Няма... забралі немцы.
— Забралі? — І нагой, што моцы, у вушак.
— Ну, выхадзі!
Дадай, давай у сенцы,
няма тут месца для фашыстаўскіх сабак!
У сенцах — крык... і стрэл...
Зноў — стрэл... і крык...
Нічога,
мо іншым чым старых і бабаў частаваць?
Ужо й не разабраць, пагараю вячорнай
ці цёплаю крывёй чырвоніцца трава?
Пад могілкамі — суд.
Крыжы магілаў ніцых
глядзяць, як дзяк худы павіснуў на суку.
І надарма заход зігціць і залаціцца:
нікога
ні з жуды, ні з жалю не раскуць.
А па судзе, ўначы, залапаталі крыллем
чырвоным пеўні, і...
і над бязмежжам ніў,
над грабянямі стрэх,
над пенай ліп расцвілых
шугнуў жывой крывёй
вялізны,
зыркі зніч.
Аж на лясное дно ляглі пагары пасмы.
Лес сотняю вачэй угледзеўся ўгару.
А ён гарэў, гарэў,
магутны,
незагаслы,
правечны зніч —
мая Радзіма — Беларусь!

*

Беларусь, Беларусь зялёная,
палыменны, балючы сон.
Із табою гарым сягоння мы
і не згаснем, так дай нам, кон.
З намі Ты, хоць драты калючыя
аплялі нашу ростань,
Ты
ў нас жывеш і шумлівымі пушчамі,
і бязмежжам жытоў залатых.
Ты...
далёка, але і блізка, тут.
Дзе ў нас Ты, а дзе мы — не пазнаць.
Не згадаць,
ці ў нас — вёсны Твае цвітуць,
ці мы, Край наш, —
Твая вясна.
Хай мутнее й жыццё і навокалле,
лёс не праўдзіць, а толькі маніць,
хай тугой сяння доля галёкае, —
за Цябе мы
нязгаслы
зніч!

*[1948]*

## КОСЫ

### Слуцкая аповесць

*Беларускай маці*

У калысцы Паўловай усё пачалося:
два гады яна хатай хлапцу была.
За калыскай,
за хатай
спявалі восі,
жаўрукі і дзяўчаты...
На ўскраі сяла,
ледзь пастукае вецер у шыбы пальцам,

13 Зак. 634

балбатаў і рукой сонцу трос вятрак,
ды гулялі ў вайну із галёканнем мальцы,
да жыцця накладаючыся няўзнак...
За калыскай,
за хатай
былі дарогі,
ногі босыя й срэбны, як росы, пыл,
і далёкіх бароў буразатыя рогі,
і на пожнях нябёс — балачын снапы...
Ды ўсё гэта — пасля...
Ссаў малы сысолку
і лавіў пясткай сонца плыўкі агонь,
аж аднойчы,
як маці змяняла полку,
кос паводка лынула маломуў твар.
А была яна гэткая залатая,
столькі чыстага ззяння у ёй было,
што здалося хлапцу, быццам тае, тае
ён,
ад пятаў маленькіх па ўпарты лоб.
І, не ўмеючы шчасцю знайсці адтулін,
учапіўшыся пальцамі ў шоўк сыпкі,
ён заплакаў так дзіка, што шызыя гулі
узняліся стралой з падваконня ў блакіт.
Гэтак
сталіся матчыны косы цацкай
улюбёнай, найлепшай у Паўлюка.
Навучыўся ён хустку скідаць знянацку,
навучыўся зіхлівыя пасмы сукаць.
А калі шанцавала, што й сонца у косы
заплялося —
нячасты у хаце госць, —
ну й даваў ён і косам і сонцу чосу!
Песціў, торгаў, ірваў — і смяяўся чагось.
Як тады спрытна йскрыліся шэрыя вочы,
расплывалася ямінка на барадзе!
Гэткай шчырай уцехі,
як моцна ні хочаш,
із сабою у сталасць не прывядзеш.

*

Ужо лётаў Паўлюк із аладкай пшоннай
у руцэ,
частаваў ёю куры, ката,
прабаваў на калматым Мурзу конна
гарцаваць,
лапатаць нават штосьці стаў, —
як прыйшлі бацьку браць у салдаты.
Горка
маці плакала, й плакаў Паўлюк за ёй,
за плячо, хтось вусаты, ўсё бацьку торкаў,
каб хутчэй,
а ён — хустку вязаў... з зямлёй...
Паляцелі тады із далéч нязнаных
галубамі лісты,
аж іх кон і змог:
у густы гаалян[1], за фанзай[2] глінянай,
як казалі,
бацька навечна злёг...
Ноч кароткай была ўжо, відаць, а можа,
і здалося чамусьці тады хлапцу,
бо спявала да золку так неяк прыгожа
яму маці,
што рады не даў заснуць:
«Люлі, люлі, мой сынок,
люлі, люлі, галубок,
ходзіць ночка па двары,
лічыць зоры угары,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а, а-а, люлі.
Спі, сіротка, заўтра зноў
зловім сонцава чаўно,
паплывём з ім на загон,
дзе ўзрунеў зялёны лён,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а, а-а, люлі.
Будзе там палоць лянок
з мамкай бедны мой сынок,
люлі ж, люлі, любы, спаць,

а я буду падпяваць,
а-а, а-а, люлі,
а-а, а-а, люлі».
А тады,
маці скінула хустку,
і сцені
над Паўлом заліла ззянь нялюдская кос.
Найзырчэйшае пасма злавіў ён у жменю
і у сны, смеючыся,
з сабою панёс.
Як упрэжаныя ў малатарню коні,
ўсцяж у кола йшлі,
ў кола,
у кола гады...
Шчэрбы й раны зямлі,
памяць здзекаў і сконаў,
не паспеў шчэ аплесці зялёны дым
дзеразы ды чабору...
Гасцінцамі дзесьці
ўсё цягаўся ў зброі, без зброі народ.
Не, не ласваў няўсцішнага свету, не песціў
дзевяцьсот і дваццаты, зацяты, год.
Дні міналі ступою, пад гуд малатарняў,
стукат пранікаў, хрумст капусцяных лістоў...
Выбраў з маткай Паўлюк бабім летам прыпарным
бульбу, ніву засеяў...
На рэбрах платоў
пайшлі польку-трасуху выскокваць сарокі,
часта-густа скідаючы збан ці стаўбун,
і, ззалеўшы сядзець над вадой, незнарокам
сям-там восеці люлькі пабралі ў губу...
А у Слуцку на рынку — насыпала шчодра,
ўдосыць восень багацця —
любуйся, купляй!
Хай шэсць год дратаваная ботамі ордаў,
шчэ радзіла, сваім на спажыву, зямля.
Пад мурком
ластаўчынай нямоўчнаю стайкай
маладзіцы паселі вянком на зямлі.

Бела ў золаце сечкі паблісквалі яйкі,
ў сінім кужлі сыры спачывалі, цвілі
зырка макам чырвоным і вусны, й пацёркі
журавін ды брусніцаў у лубках,
грыбоў
белагрудых вянкі тхнулі соладка й горка
мохам, шыльнікам...
Шчырых дзіцячых зубоў
не маглі прычакацца арэхі...
А побач,
за шнурком маладзіц, быццам сена стагі
на балоце зрудзелым, паселі, з-пад лобу
пазіраючы, знахаркі-бабы. Багі
хай іх знаюць, калі столькі зёл ды карэння
насушылі яны:
мак, палын, дзівасіл,
бэз, крушына — ўсё бранае пільна, старэнна
у сівым гушчары, ў залатым калассі.
За бабулямі —
ў тон з чыстым, звонкім таварам,
языкамі званілі ўзапар ганчары.
Іх паслухаць,
дык гэткіх макотраў, паджарых
гладышоў, гэткіх місаў — не мелі й цары!
Йшчэ далей — бандары, груды ночваў ды дзежак,
лес густы аглабель, грываў конскіх, калёс,
а нарэшце —
званіц шылаватыя вежы
і нябёс засянелых рассінены плёс...
Прыпазніліся маці з Паўлом. Давялося
абы дзе ўціснуць кошык брусніцаў.
Глядзець
Павал рынку пайшоў.
Як жнівамі калосся,
назбіралася ў Слуцку на рынку людзей!
Абмінаючы кошыкі, місы, кадушкі,
праціскацца ўзяў Паўла туды, пад муры,
дзе над натаўпам світак і на́мітак
гушкаў
вецер спеў,
як сам лернік із лерай, стары:

«А ў нядзельку раненька,
ўзышло со-о-нца хмарненька,
ўзышло сонейка над борам,
па-над Селецкім таборам.
А ў таборы трубы граюць,
на нараду заклікаюць.
Сталі рады адбываці,
адкуль Воршы здабываці...»
Ды ці леры, ці песні сцягацца із гулам
маладых галасоў слуцкіх местаў і сёл?
Завярнуў да вазоў маладзён, прачула
пах вітаючы яблык, саломы і кол...
Аж, ужо ля паўдзён,
як — Паўло й не заўвеціў,
шчыра з дзядзькам таргуючы ў жыда брусок,
белым птахам
аднекуль з асенняга веццяя
сплыў на мур белакрылы адозвы лісток.
«Дзеці Случчыны!» —
гэтак наверсе стаяла,
а нарэшце —
«Усе — родны край бараніць!»
І увомірг лынула людская навала
расплятаць чорных літараў дробную віць.
Хай птушына адна на муры бялела —
паляцела, як белых гусей ключы,
паўз вазы, паўз галовы й муры, паўз аселіц,
цішыню
буднай мітусяй трасучы.
Маладосцяй усё налілося... Коні
стоцьма вушы наставілі, леры басы
загулі із нячутаю моцаю, з гоняў
рэзвы вецер прыбег, пазырчэлі лясы...
А тады —
ўсхваляваўся ўвесь рынак морам.
Як той прысак з-пад попелу, ўспыхнулі ўраз
сто гамонак-агнішчаў, здалося —
гавора
дробна, тонка нат звонкіх збаноў гара!
Стаў Паўлюк, быццам з сэрца вымаючы штосьці...

А тады,
над брусніцамі, «мама, — сказаў, —
я пайду... запішуся... Не будуць госці
нескліканыя зноў, як гарох, нас лузаць!»
Не пярэчыла маці Паўлу нічога,
не заплакала,
як па бацьку калісь.
Звечарэла адно ўсё ўваччу ёй, дык логам,
не прадаўшы брусніцаў, дамоў пайшлі...
Аглядаліся пільна:
паілі карову,
разбіваючы тонкі ў карыце лядок,
сечку рэзалі, цэбрам насілі палову —
неўпрыцям, —
і прыпоўз скульсь вужакаю змрок.
Хоцькі, не — давялося хавацца у хату...
Ціха ў хаце,
сасновай труне,
было.
Моўчкі тупала маці у сенцах, латаў
моўчкі нейкі хамут ля акна Паўло.
Спаць паклаліся рана,
ды доўга чамусьці
Бай[3] у ботах чырвоных іх вокны мінаў...
Зноў агонь запалілі, сцюдзёную вусціш
па кутох разганяючы, й так, давідна
блізу, шыбы лізалі —
знадворку вечар,
а ад хаты — газніца, суседзям наўздзіў.
Аж,
да печы прыцінуўшы сцерплыя плечы,
маці ціха прамовіла ў цемру:
«Ідзі...»
З вёскі йшло іх шасцёх,
бо і вёска — адно
хат з паўкопак ды шэры вятрак на узгорку.
Кінуў байкі вятром балбатаць ён даўно
і даўно ўжо гарэзнай рукою не торкаў
сонцу ў вочы...
Не мальцы ж — гуляла вайна

у вайну ўжо каторую восень на посных
жоўтых пожнях...
Шасцёх. Кажны — дзёрзкі юнак,
нават шосты, Самусь, дзядзька Паўлаў і хросны.
Колькі дзён, колькі ночаў чакалі:
загад
меўся вояў, як пастыраў трубы той статак,
пазбіраць і у поле павесці...
Ўсулад
із дрыготкімі гэтымі днямі па хатах
маткі, жонкі ды сёстры не зналі, дзе рук
ім прыкласці,
не смелі даткнуцца тыкеля,
а й на госцікаў глянуць,
каб слёзаў з раку
з неслухмяных вачэй не сыпнула капеляй...
Аж
прыбрыў і загад, уначы касцяком
пасінелай рукі дробна ў шыбы пастукаў...
(Кляў, яго несучы паўз калюгі,
цішком,
валасны рассыльны, інвалід сухарукі.)
Выйшла хлопцаў правесці ўся вёска...
Сілком
хтось дзень восеньскі нібы ўціскаў у сялібы...
Голлем — з крыкам кружылі вароны... Як ком
шкумацця плыў над шызымі рэбрамі скібаў
у палёх і над вёскай — сутунак густы...
Выйшлі — аж за аселіцу... Слёзаў ды ўсхліпаў
не таілі ўжо бабы... Крывіла раты
нат малечы бяздумнае стайка пад ліпай...
Не было развітанню канцоў.
Хай сваіх
бараніць выпраўляліся хлопцы сягоння,
а не бацьку-цара,
не замовіць штыхі,
каб не джгалі,
не змусіць і кулі — не раніць...
Выняў дзядзька Самусь рыўком люльку з губы,
ўзняў пад пашкі, падкінуў
малую Крыстыну,

цмокнуў цётку й пайшоў да вазоў,
а тады
адарваўся і Павал ад маці... За сынам
ірванулася, горкая, ўслед: над усё
ёй здалося найвышшым — яшчэ раз прыпасці
да рабое бравэркі, абвіць, бы драсён,
цела хлопца рукамі... Йшчэ момант адкрасці...
Вецер косы расплёў, чуў Паўлюк, ля яго
апавіў... У іх сетцы і скроні, і шыя...
І знянацку ўпякло юнака, як агонь:
косы срэбныя,
не залатыя.
«Люлі, люлі, мой сынок,
люлі, люлі, галубок,
ходзіць ночка на двары,
лічыць зоры угары,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі...»
А насустрач, наўзверх —
«Ці не дудка мая, —
весялуха мая, ды ух! я!
весяліла мяне —
на чужой старане, —
весяліла мяне, ды ух! я!»
Што ж...
жаўнерская песня за косы дужэй:
паплыла, павяла, адарвала...
Часіна —
сціх нат пошчак далечай дрыжэць,
расцяганы воронім кагалам...

*

Ён стаяў перад імі, высокі, худы,
у даўгім шынялі,
вочы ў вочы з хлапцамі
Першай Слуцкай брыгады...
Як выцвілы дым
пажарышчаў,
над Грозавам[4] слаўся слаямі
рэдкі ранні туман (спрабавала у ім
гаманы пуціну знайсці торную сонца)...

І казаў камандзір:
«Перад вамі баі,
можа, раны, мо й смерць... (Шчупаком у палонцы
раптам бліснула сонца, зайграла ў штыхох...)
А за што, хто спытае? Дык вось...
Там, у хаце,
блізу кажны пакінуў з вас маці. Дай Бог
ёй уцеху... Вялікае шчасце — мець маці.
Бо няма, хлопцы, ў свеце ахвяры такой,
на якую не рынецца маці — за сына.
Так і сын... Добры сын за яе супакой
нават сэрца, здаецца б, трапёткае выняў!
А ёсць Маці, усіхная Маці
у нас —
Ёсць Айчына...
Дзіўны край, бунтарны й рахманы,
край — жывы і ў крыві, і ў вагні,
край — папас для чужых,
край — нязгойная рана...
Вы прыйшлі сюды сяння Яе бараніць,
вашу Маці, Айчыну (заторгаў сцягамі
дзесь на ўзлессях народжаны вецер)...
Сыны!
Хай жа будзе жаўнерскае шчасце із вамі!»

*

Ноч заспела ў сяле...
Кінуў дзядзька Самусь
на куль на тарпе свой шынель даўгаполы,
доўга, вобмацкам, слаўся... ўмасціўся —
і шусь!
у шасцівае логава з Паўлам пасполу.
Пахла пылам, мышамі...
Па гоньце страхі
ночны вецер качаўся цяжкою кацёлкай...
Сморгаў грудзі чысць кашаль нудны, сухі...
Выплыў Паўла з прадоння
аж недзе ўжо золкам.
Сніў ён сон...

Ды ці сніў?
Яшчэ ўсцяж на губах
чуў ён солань крыві, боль выкручваў плечы,
гналі кажнаю жылкаю радасць і страх...
Вешчы, дзядзька б сказаў...
Выпаўз Паўла па нечых
целах з цемры і выйшаў у іскрысты свет.
Ноч ужо дацвітала... Апырскала жораў
срэбрам прымаразь, срэбрам лягла па траве,
быццам скінуў з нябёс хтосьці долу ўсе зоры...
З дзервянога вядзерца пры студні глядзеў
ветах,
голкамі йльдзянымі колючы ў вусны.
Аж усцешыўся Паўла сцюдзёнай вадзе,
нахінуўся і ў пысу прост месяца плюснуў.
Сон...
Вілася кудысьці дарога... Вышэй,
і вышэй, і вышэй без канца і без краю...
Пяўся ёю, далёк, цяжка месячы глей,
дзядзька хросны... маленькі... вось-вось — і растае...
«Дзядзька!» — крыкнуў Паўлюк, але вусны чамусь
зацяліся, і кліч не даў рады праліцца...
Ірвануўся юнак: «Годзе, дзядзька Самусь,
пачакай!»
Ды ўжо згінуў той знічкаю ніцай...
Выбег Паўла на шлях, здаганяць,
але тут
апляла яго маці знячэўку рукамі,
трохлінейку з пляча, з рамяня каліту
цягне з плачам, а вецер прадзе і сукае
пражу срэбную косаў ля Паўлавых ног,
што ўжо й кроку па шпулі гасцінцу не ступіць...
Плача маці,
і просіцца Павал дарог
недаткнёных даткнуць... А з імшарышчаў, з купін
хтось выходзіць на шлях,
хтось — такі залаты,
ажно слёзы ў хлапца накіпаюць на вейках.
Маці... зноўку яна?

Не. У косах густых
ані сівае ніткі, і моцаю нейкай
яна срэбныя тыя
змятае набок,
як вятры дым блакітны з бульбянішч асенніх...
І выпроствае плечы балючыя, крок
па-жаўнерску раўнуе ўжо Паўла, і сценем
усплывае у думцы імя той, залатой
памагальніцы
аж над каханне узняцца:
хто ж, калі не яна, іх вядзе за сабой,
што, — казаў камандзір, —
а свяцей і за маці?
Так, у сне, й ён пайшоў — не ўгару, ў далячынь.
І не з дзядзькам — адзін...
Не у восень — у травень...
Бо ішла з ім Яна, йшла удзень і ўначы,
залатая Яна —
ў паняверцы ці славе!
Дзядзька сну не ўзлюбіў, а чаму — не сказаў.
«Ат, мара́», — збыў, тытунь уціскаючы ў люльцы.
Дык патроху ўвіла яго дзей дзераза,
быццам новая пража старую на шпульцы.
Першы хрост быў адной з іх...
Спявалі, нагой
адбіваючы такты па бубнах дарогаў.
Золкі вецер нёс нізка над бурай смугой
пералескаў ірваныя хмары,
аж логам
нехта стрэліў... Раз... болей...
і скрозь узялі
бзыкаць кулі гундосымі, злымі чмялямі.
Вомірг —
шлях, як змяло, а на мокрай раллі
пачала разлівацца ўшыр цёмная пляма...
Лёг Паўло у раўку, доўга, доўга цаляў,
аж і стрэліў, стуліўшы чамусьці павекі.
Цела церпла й кудысь адплывала, маўляў
апаілі яго чараўнічыя лекі.

Але ўспомніўшы ў жаху — за што, за Каго,
Паўла сціснуў замок...
Як сталёвыя, рукі
ўраз зайгралі, і ў тон, як вучылі...
Мо год,
можа й два, як у сне, ён так стукаў бы й стукаў,
ды аднекуль даткнулі аглухлых вушэй
словы свойскай каманды, знімаючы ўрокі.
Глянуў Паўла:
ўздымалася рыжая шчэць
быльнягу перад ім на якія два крокі...
Побач — нехта зіркаў на яго... На твары
пахудалым блукала і гасла усмешка...
Не пазнаў у ім дзядзькі Паўлюк да пары,
аж не выняў Самусь люлькі,
й сіняю сцежкай
не паплыў у нямую чамусь цішыню
едкі дым тытуню...
А тады — із разораў
чорных хмараў здзьмуў вецер дзікую гайню
ашалелых, аслеплых, успененых зораў.
Ўвачавідкі —
у бель апрануліся лог,
быльнягі, глей размоклы і шэрыя спіны
шынялёў...
Прытуліўся, грудзіма прылёг
Павал з ленаю стомай да белае стыні...
Ды снег стаяў адразу... Раллі грабяні
зачарнеліся зноў найчарнейшаю чэрняй.
А услед —
буйна ўзноўку, з пляча, не спыніць,
сеяць вецер пачаў жмені белага зерня...
І калі ўрэшце выйшлі жаўнеры на шлях, —
ён ляжаў перад імі, натхнёны і чысты,
і шасцелі над хлопцамі сеці галля
белым, белым і кволым,
як казачным, лістам.

*

Пацягнуліся дні перамогаў і змог,
сконаў тут, між сваіх,
і тых, горшых, без сведак...
Каб хацеў апісаць іх паэт,
ён бы мог
сваю слуцкую песню пачаць хай і гэтак:
«На Міколу быў фэст у сяле.
Пераймаць
звон званоў не пайшла — бо Міколы ж няма —
Васілёвая Настка. (У бурай траве
мо, прыціхлы, ляжыць ён і ўжо не жыве?)
Усю ноч над сацьмелаю пасмай лясоў
узгаралася й гасла нябёсаў крысо,
і дрыжэлі у сполаху шыбкі вакна,
і ўсю ноч іх спалох разважала яна.
Грэх штосьць святам рабіць,
ды як збыцца наўды?
Можа, выцягнуць бегчы із студні вады?
Зазваніла на ганку вядро аб вядро,
бо пабачыла Настка пад прызбаю кроў.
А тады —
шэры сцень праслы плоту абняў, —
і... не стала для Насткі зімовага дня...
Ледзь звінелі, пад вецер, званы у царкве...
Твар без кроплі крыві,
кроў на йлбе, галаве...
«Дай напіцца — і ўсё... Пастаю — і пайду,
каб яшчэ й на цябе не наклікаць бяду...»
Абхапіла дзяўчына яго, павяла
ад сцяны да сцяны, ад шула да шула,
падала смаглым вуснам напіцца вады...
А мяцеліца, белы ўзмятаючы дым,
белай ніткай услед зашывала сляды...
Ў варыўні ў Васілёў быў пад насцілам склеп.
Дзе тут лепшяга схову шукаць у сяле?
За кадушкай з качаннем паслала пасцель,
спавіла галаву ў палатняную бель,

а тады:
«Не збаюся ні куль, ні агню,
а нікога, нікога не пушчу ў варыўню,
не пушчу,
хай пасля накладу галавой,
бо ты ж любы, ты любы, ты любы мой!»
А ён...
Так вось ці накш, чым далей — імклівей:
ці ж пазнаць, што паэта спляце ў галаве?
Або можна і так:
«Ад сутоння да ранкаў,
ад паўдзённай гудзьбы да паўночнай глухмені
із бярозмі на ўзлессях гулялі ў хаванкі
сцені ў доўгіх шынелях, з вінтоўкай у жмені.
Раз-паразе грымела пагрозліва, здзекла
над стаптанаю руняй,
і сценям пад ногі
выбухала чырвонае й чорнае пекла,
разрываючы целы і пасмы дарогі...
Доўга чадныя хмары тады калыхалі
раны ўзнятых суглінкаў і стогнаў захлісты,
і сукруху асталых —
аж вецер у галі
ўжо зімовых нябёс — узмятаў усё чыста.
Так бывала не раз, і не два...
Закарэлі,
загніліся у ботах жаўнерскіх анучы,
але сэрцы цвілі
й доўга, доўга — не прэляй,
а юнацтвам, а верай
тхнулі песняй над Случай[5]...»

Ды прыцішыў, парваў іх
ля Цімкавіч[6] бой.
Што ён будзе — ўсе знялі... Паволі, ступой,
надыходзіў ён — пэўны, важкі, неадхільны.
Помніў Паўла:
ішлі а ішлі адвідна.
Ноч накрыла ля вёскі...

Кранаючы дна,
засынаючы, ён, з-пад павекаў няшчыльных
бачыў дробную зорку яшчэ паміж хмар,
што глядзела яму проста ў вочы...
Ўзапар
колькі раз раптам вухнула нешта на шосе,
і у ноч нехта ўбіў быццам вогненны клін:
загарэліся зырка гумнішчы, палі,
нат прадонне ўгары — як смаляк занялося.
Падхапіліся хлопцы... Паветра гуло...
Недзе з цемрадзі, слізкай, як чорнае шкло,
білі мерна і ўпарта па гумнах гарматы.
Над галовамі, ў пырсках суквеццяў дзіўных,
расцвіталі ракеты...
І Маці
й сыны
выйшлі ў бой, як на доўга чаканае свята.
Полк у пекла адразу ныркнуў з галавой.
Роў, і скрыгат, і рогат, і лязг, як крывой
абчырцілі жаўнерскую гушчу знянацку.
Вомірг лучыў і Паўла ў шалёны рапсод:
нібы ў сне, кляў кагосьці ў няпамяці рот,
нібы ў сне, цела ймкнула кідкамі, абмацкам,
па грудох, па кусці,
бо ўсёй праўды ў жыцці —
не аддаць, не пусціць,
біцца, біцца і біць
кіпцюрамі, зубамі, як куляў не стане!
А тады —
ўсё злілося ці ў цемрадзь, ці ў ззянь.
Не было, нат, здаецца, й скрылька жаляззя
на ўсім свеце,
які б ці не пёк, ці не раніў!
Шмат пазней дзесь —
гарматны разрыў і чарга
з кулямётаў прыгнулі ўсіх нізка... Загад
быў іх кінуў якраз у атаку... Віднела...
Глянуў Паўла — усе. Хросны войкнуў знарок,
а тады засмяяўся: «Жывыя, сынок»,

ды ўжо ўзяўся паўзці,
калі пругкае цела
раптам дзіўна змякчэла, лягло на руку,
быццам сноп абабіты, пусты на таку,
і чырвоная пена
шкумятамі буйнымі, як з пыскаў каня
наравістага, лынула...
Моўчкі прыўзняў
штось чужое,
не дзядзьку ўжо, з груды пляменнік…
Бой не згас і у сонцы. У барвовай смузе,
пабывала таксама ў штыхох, балазе,
яно ўстала, ды зараз — і сплюшчыла вочы...
Аж... нястала нікому ні куляў, ні сіл...
Нежывых падабралі аж толькі уночы.
Не было у сяле ні царквы, ні папа,
дык палеглых у Семежаве[7] хавалі.
На сялянскіх вазох, за ступою ступа,
ў шлях апошні пайшлі яны...
Рэзвыя хвалі
ветру ў дні тым плылі а плылі з-пад паўдня
на бязлістыя ліпы, ў прасветы званіцы,
і таму мо — званы не было як суняць,
скрозь званілі, званілі, званілі й спыніцца
не маглі, пакуль ветру вышою і слёз на зямлі...
А іх — стала над брацкай магілай...
Адпявалі — пад небам.
У цэркву б не ўнёс
і часціны тых, што без крыві і без сілаў
у настылы пясок палягалі на сон...
Вокам скінь —
хвалявалася людскае мора.
Сваякі ці чужыя — свае ўсе спакон
веку.
Паўла з сябрамі, із сцягам, дазорам
стыг наперадзе.
Вецер ірваў, церабіў
паніхіды ўрачыстыя й простыя словы:
«Са святымі... ўпакой... Тваіх... душы... рабы...

іжа... несць... ні балесць... ні пячаль...»,
і галовы,
як налітае жыта, хінуліся ўніз.
І ўзноў сніў Паўла
ўсмешку, узрывы, світанне
і як выпала люлька ў крыві далані...
А святар, хор — рыдалі апошнім рыданнем...
Раптам
сплыў сцяг із ветрам і... «хросны Самусь!» —
ледзь не рынуўся ў яму Паўлюк, толькі ж словы:
«Тым, што йдуць паміраць, каб жыла Беларусь» —
замялі ўзноўку свет яму й тых, што ў палове
залатога пяску паляглі за Яе.
Не, такім ён не бачыў шчэ дзядзьку ніколі...
Што ж,
«жыцейскае мора» ужо ж не пяе
яму песняў жыцця, дык — спачыў у патолі.
Вецер рос і дужэў...
Гаслі свечкі ў руках,
каб разліцца ўзноў жоўтай, трапёткаю плямай...
Аж і лынуў плач вусцішны вёскай на шлях:
заспявалі апошнюю «вечную памяць».
Ой, і быў гэта плач!
Хто адплакаў яго
ля вясковай царкоўкі над брацкай магілай
у той памятны дзень —
дай жа гэткаму Бог
слязіны ўжо ніколі ніводнай не выліць!
А назаўтрае
рушылі ў новы паход.
Невясёлы ён быў, як сутунак старэчы.
І калюгі і сэрцы надобра сцяў лёд:
білі кулі па хлопцах не ў грудзі ўжо —
ў плечы...
І вось — бліснула жутла між лозамі Лань.
Паўла ведаў: бяда,
ды не важыўся верыць,
што канцы, што не ў золак шлях іхны, а ў тхлань,
адпаўзаюць... асочаным, раненым зверам...
Цераз Лань бег бярвеннем насланы масток.

Густа біў па ім вораг з цяжкіх кулямётаў,
але трэ было йсці,
і пайшлі, мерны крок
не змяняючы, строем, за ротаю рота.
Паўла чуў, што аж выскачыць, хіба, з грудзей
яго сэрца, й дзівіўся:
няўжо ён баіцца?
Кулі ж білі па іх, па мастку, па вадзе,
рассыпаючы пырскі,
маўляў касавіцай
з-пад касы стракатлівы дождж конікаў мкнуў.
І пабачыў Паўлюк паўз лазовыя сеці,
што вада пачала чырванець...
Вось загнуў
першы вораг, па той бок, за засені веццяў.
Парадзелы, знік следам за першым — другі...
Але тут —
сталі йрвацца над Ланяй шрапнелі,
і жаўнеры ляглі.
Аж, пусціўшы кругі
па вадзе, нехта кінуўся ў хвалі, і целы
зачарнеліся скрозь па рацэ.
Да вады
поўз ужо і Паўлюк,
аж хтось моцна, з разгону —
чуў яшчэ ён — ударыў яго, і гады
ён кудысьці ляцеў,
аж спачыў пад адхонам
у рудым лазняку...
Хто ж там зноўку пяе?
Гэта ж маці... Вось... скінула хустку, і сцені
над Паўлом заліло ззянне — косы яе...
залатыя ... ў малой... залатыя... у жмені...
«Люлі, люлі, мой сынок,
люлі, люлі, галубок,
ходзіць ночка па двары,
лічыць зоры угары,
люлі, люлі, заўтра зноў
зловім сонцава чаўно,
паплывём з ім на загон,

дзе ляжыць пасланы лён,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі.
Укарэў, шчарнеў лянок,
як жаўнерык, мой сынок,
люлі ж, любы, люлі, спаць,
а я буду падпяваць,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі».

Ой, як мулка...
Каб легчы зручней, каб нажом
хтось не поркаў з уцехаю злоснай у плечы, —
спаў Паўлюк бы даўно сном нязбудным, ужо
злёг бы, з пасмай у жмені, малеча, навечна.
«Мама... дзе ты?»
Ды сціхла, чамусь не вядзе
калыханкі, тугія не цягне пачопкі...
Не плывуць з ім у сон,
як трысцё па вадзе,
пасмы косаў...
Дрыгвою дрыготкаю, топкай
ціша ў вушы паўзе... рэжуць рукі нажы...
Не нажы... Пасмы, косы... пякуць у далоні,
быццам прыгаршчы прыску набраў...
«Не кажы
ім так тузаць, шастáць па калючым аржонні,
гнаць на вусціш, на боль...
До! Іду ўжо, іду!»
І, адкінуўшы ранец, падранай шчакою
жвір барознячы жорсткі,
пад мост, пад ваду
цяжка Паўла папоўз,
хай вужакай зыркою
поўз за ім след крывавы на бэлькі, на наст...
Ці мо проста у чорную пастку над Ланяй.
Ну й няхай...
Паплыве, як чаўно, без стырна,
перайманы працяглымі крыкамі каняў...
Але косы... ці ж знойдзеш із імі спакой?

Цягнуць, срэбныя, цягнуць,
не выблытаць пальцы
з пасмы, гэткай няўступнай а гэткай мяккой....
Яшчэ крышку... йшчэ пядзя... й лёг Паўла над вальцам
бэлькі...
З дзёгцю ўнізе ўпіліўся, глядзеў
проста ў твар яму нехта знаёмы сурова:
вусны сцятыя... ямінка на барадзе...
шчокаў чорных правал... кроў на скронях, на бровах...
Ну, і вочы...
І ўбачыў знячэўку Паўлюк
у вачох гэтых столькі нялюдскай пакуты,
што папоўз ён узноўку, у пясці рук
заганяючы стрэмкі
і боль з імі люты...
Мост не меў ні канцоў, ні пачатку, відаць...
Ды праскочыў Паўло яго б хлопчыкам босым...
Сяння ж, пядзя па пядзі, ён поўз, як вада
побач, блізка...
Не поўз бы даўно, каб не косы.
Пад тым берагам — праслы гарэлі... Сцяў рот
Паўлу шчыльна пал шумны, задушлівы, дымны,
і не чуў ён ужо,
як на струшчаны лёд
каляінаў,
апырсканы іскрамі, грымнуў...
Дзесь, пасля —
былі нечыя рукі, і смоль
чорнай ночы, і гуд-грукат крокаў па грудах,
і няўмольны кляцьбой, ні малітваю боль,
і прадонне, і дно...
і нарэшце — прабуда.

*

А над Ланяю
змерклі палі пакрысе...
Супачылі гасцінцы ад рыпу калёсаў,
гуду, груку.
Сплывацца, гусцець
сталі праслаў гарбы над суцішаным плёсам,

што йшчэ мостам былі дзе-нідзе...
З-пад маста
выйшла ноч... Разгарнула лазоўе над целаў
шкуматамі... схінула ў спагадзе пастаць,
дакранула прымкнёных павек, паглядзела
на скрасаных жаўнерскіх абліччаў крамні,
на прымерзлую кроў пад брызентамі ранцаў,
уздыхнула...
й мільёны, мільёны грамніц
затрымцелі над шляхам
апошнім
паўстанцаў.

*1959—1960, Нью-Ёрк*

# УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ[1]

## Лібрэта гістарычнай оперы ў чатырох актах

Дзейныя асобы

Князь Полацкі Усяслаў
Глеб — сын Усяслава
Слава — жонка Глеба
Стары Баян
Лада — ягоная ўнучка
Князь Кіеўскі Ізяслаў
Князь Пераяслаўскі — ягоны брат
Княгіня-ўдава Праксэда — сястра Ізяслава
Палавецкі хан
Першы блазан
Другі блазан
Паслы Ізяслава
Няня Славы
Ка́ты, баяры, святары, манахі, госці,
дружына, стольнікі, народ, хор

Падзеі адбываюцца ў XI стагоддзі ў Полацку — сталіцы Крывіцкага княства, а таксама над ракою Нямігаю і ў Кіеве.

## АКТ ПЕРШЫ

Вялікая святліца са скляпеннямі ў княжым палацы ў Полацку.
У глыбіні ўздоўж сцяны багата засланыя сталы.
На падвышэнні на пачэсным месцы ў крэсле з высокаю спінкаю сядзіць вялікі князь Полацкі Усяслаў.
Усяславу — год 40. Гэта высокі прыгожы мужчына з доўгімі кучаравымі валасамі, павязанымі на лбе павязкаю, каб схаваць таямнічы знак, які князь мае ад нараджэння на лбе.

Па правай руцэ князя сядзяць госці — б а я р ы з нядаўна падбітага Усяславам Ноўгарада. За плячыма гасцей — узброеныя дзідамі д р у ж ы н н і к і. Уздоўж стала ходзяць п а д ч а ш ы я, снуюць с л у г і. Ля ног князя, на дыване, сядзяць д в а б л а з н ы ў рагатых шапках са званочкамі, у блазнаўскім пярэстым убранні. Воддаль ад стала, на нізкім зэдліку, засланым скураю, сядзіць сівы, стары Б а я н. Ён перабірае струны гусляў. Праз вузкія высокія вокны на святліцу падаюць яркія промні веснавога сонца.

Х о р

Гэй, падымем угору
Серабраныя чары,
Хай нам струны ракочуць,
Хай нам звоняць мячы.
Адплацілі мы шчыра
Груганам чарнакрылым,
Спяць яны пад шчытамі
На крывавай зямлі.
Гэй, падымем угору
Разам з чарамі сэрцы,
Хай успеняцца пенным
Залацістым вiном.
Хай ніколі не звянуць
Прад варожаю моцай,
Хай віхураю стогнуць,
Палымнеюць агнём!

У с я с л а ў

Сябры мае, я падымаю чару
За Наўгародскі край, за дарагіх гасцей,
Няхай жывуць яны із намі ў вечнай згодзе!

Госці кланяюцца.

Х о р

Няхай жывуць.
І слава, слава ім!

Першы блазан

*(цягне пусты кубак)*

Князю, а нам з Мікіткам!

*(Скачучы.)*

Ой, Мікітку, мядку хочацца,
Піў бы, піў бы ўсю ночачку!

Усяслаў

*(да стольніка)*

Налі ім! Хай паскачуць!

Стольнік налівае блазнам віна.

Першы блазан

Мікітка, за што мы піць будзем?

Другі блазан

За князя!

Першы блазан

За князя? За якога? За Кіеўскага?

Другі блазан

Ша, ша! Маўчы!

*(Махае са страхам рукамі.)*

Не выклікай воўка з лесу!

Першы блазан

І наш воўк зубаты, ды яшчэ які!

Другі блазан

А бяззубы зубатага загрызе!

Першы блазан

Цур цябе! Загрызе — дык сам здохне! Хі-хі-хі!

Другі блазан

Ха-ха-ха!

Цалуюцца, куляюцца з рознымі выкрутасамі.
Усе, смеючыся, сочаць за імі.

Блазны
*(разам)*

Ой, воўк, чужы воўк нашага з'есць!

Усяслаў

Хто ж гэты воўк?

Блазны
*(разам)*

А хто галовачку мае,
Той хай сам і адгадае!
Хі-хі, ха-ха!

Усяслаў
*(да Баяна)*

Гэй, дружа мой, стары вешчы Баяне!
Пацеш нас песняю!
Хай госці ведаюць, якіх музык і песняроў
На славу родзіць нам Крывіцкая зямліца.
У кожным з нас, ці князь, ці земляроб ён, —
Пяснярская душа!
Палонім свет мы й песняй, і мячом булатным!

Баян
*(летуценна)*

Наш край... Прайдзі ўвесь свет,
Такога не знайсці!
*(У задуменні перабірае струны і пачынае.)*
О, князю наш, Дажбожы ўнуча!
Як сокал той, ты ловіш ветры
У сеці крыл сваіх магутных!
Сваймі жалезнымі палкамі
Ты заступіў шляхі паганым,
Замкнуў заблочаныя брамы
Дняпру-Славуцічу і Дону!
Па ўсіх краёх імкнуць, бруяцца

Струмені гневу твайго, княжа!
Ледзь свет — ты турам златарогім
Радзімы межы пакідаеш,
А ўжо апоўначы сягаеш
Мячамі брамаў Наўгарода
І, як віхор магутны, бурны,
Ты славу Ізяслава крышыш!
За шчасце земляў Крывічанскіх,
За родны Полацак,
За наш чароўны край Крывіцкі,
За князя-воя, за дружыну
Я клічу тройчы: «Слава, слава, слава!»

Усяслаў
*(падымае чару)*

Няхай Крывіцкі край жыве!
Няхай жыве наш Полацак!

Усе

Жыве, жыве!

Усяслаў

Гэй, стольнікі, яшчэ віна дружыне!
Яны — сябры мае!
І з імі з краю ў край
Я стэпы палавецкія дзікія перамераў!
Я з імі у баях адным агнём гарэў,
Крывёю ворага ўпасполу упіваўся!
І дзідаў іхных мур не раз мяне
Ад смерці бараніў,
А срэбны звон мячоў вяшчаў мне перамогу!
Я за дружыну п'ю!

Хор

Няхай жыве наш князь!

Усяслаў

Яшчэ віна! Музык! Дзяўчат!

Х о р

Мы уступім на ранні
Ў залатыя страменні,
Воды рэкаў раскропім
Лесам вёслаў і дзід.
Скрышым сцены цвярдыняў
І чырвоную брагу
Вып'ем прагна і додна
Ўсе, усе, як адзін!

Стольнікі прыводзяць грамаду д з я ў ч а т у белых сукнях із белымі павязкамі. Сярод іх Л а д а. За імі прыходзіць апрануты паляўнічым х л о п е ц з лукам і калчанам са стрэламі. Дзяўчаты пачынаюць спяваць павольную песню.

Л а д а

Ой, на моры лябёдачка купалася,
Ой, на беражочку белая сушылася.

Д з я ў ч а т ы

А ёй сокал крылле чысціў,
Усе лябёдачкі дзівіліся.

Л а д а

Не дзівіцеся, лябёдачкі,
Не дзівіцеся вы, белыя, —
З гэтым сокалам даўно знаюся,
З гэтым сокалам морам плавала.

Д з я ў ч а т ы

А белая лябёдачка,
Дзе крылле падзела?
А ці бура прыламіла,
Ці сонца пасушыла?

Л а д а

Мяне бура не ламіла,
Мяне сонца не сушыла,
Мяне малайцы спаймалі
Із сабою забралі!

Дзяўчаты

Ой, на моры лябёдачка купалася,
Ой, на моры белая купалася.

З дзяўчат спадаюць белыя сукенкі, яны застаюцца ў класічных касцюмах. Пачынаецца балет-гульня. Лябёдкі вядуць карагод, сярод іх адна лябёдка. За імі сочыць паляўнічы. Ён спрабуе злавіць лябёдак. Яны разбягаюцца. Толькі адна не паспела і папалася ў рукі паляўнічага. Спачатку ён хоча забіць яе, але, захоплены ейнай прыгажосцю, хапае яе і нясе.
Пасля гульні ўсе з прыемнасцю абступаюць дзяўчат.

Усяслаў

Добра, гожа!
*(Да стольніка.)*
Віна усім налі!
*(Да Лады.)*
А ты хадзі сюды, пяюння!
Не бойся, не пакрыўджу... Хто ты?

Лада

Завуся Ладай я...

Усяслаў

Ладай?
*(Задуменна.)*
Ладай...

Да іх падыходзіць Баян і абнімае Ладу.

Баян

Яна мая ўнучка, княжа... Я выпесціў яе...
Бацькі малой даўно пагінулі
З рукі наезнікаў стэповых.

Усяслаў

Прыгожае дзіця. Хай застанецца з намі.

Баян адводзіць Ладу.

Усяслаў
*(у задуме)*

Яна завецца Ладай. Так звалася й яна,
Дзяўчына, аб якой я жэрабя кідаў
Калісь даўно, даўно, калі яшчэ бурлела
У жылах кроў, як сок бярэзінаў вясной!..
Не варта ўспамінаць мінулых вёснаў дні!
Яны тугу распальваюць і гасяць
І кроў, і пал баёвы... Не...
Не варта ўспамінаць мінулых вёснаў дні!
Гэй, віна, хай звоняць чары!

Блазны куляюцца ля князёвых ног.

Першы блазан

Хай звоняць чары!

Другі блазан

Хутка зазвоняць і мячы!

Першы блазан

Хі-хі!

Другі блазан

Ха-ха!

Усяслаў

Гэй, дзяўчаты, вясёлую спявайце!

Лада з дзяўчатамі спяваюць і скачуць.

Дзяўчаты

Віўся хмель па балоце,
Ой, дзід-лада, па балоце.
Ой, прывіўся даваротаў,
Ой, дзід-лада, да варотаў.

Прасіў хмель зеляненькі,
Ой, дзід-лада, зеляненькі,
Ды да мяне маладзенькай,
Ой, дзід-лада, маладзенькай.
Прасіўся хмель начаваці,
Ой, дзід-лада, начаваці,
Белай раніцы чакаці,
Ой, дзід-лада, ды чакаці,
Каб праз вокны у святліцы
Ой, дзід-лада, у святліцы
Красну сонцу пакланіцца,
Ой, дзід-лада, пакланіцца.
Ой, ой...

Уваходзіць баярын і кланяецца князю.

Баярын

Ласкавы княжа! Паслы із Кіева стаяць
Пад брамаю і просяць паслухання.

Другі блазан

Ваўкі ідуць!

Першы блазан

Ваўкі ідуць! Хі-хі!

Другі блазан

Ха-ха!

Усяслаў

Што ж, добра! Паслухаць нам цікава,
З чым прыслаў іх князь Кіеўскі.
*(Устае.)*
Прыбраць усё!
*(Да баярына.)*
Паслоў прасіць сюды,
Павінны іх прыняць мы тут як след, з пашанай!
За мной, баяры!

Усе выходзяць з У с я с л а в а м. Лада, як зачараваная, глядзіць яму наўздагон.

Л а д а

Нікога... Усе пайшлі за князем...
Зірнуў ён на мяне...
І, як пярун вясновы, пранізаў сэрца мне.
Ажно й цяпер яно трапеча, як ніколі не трапятала!
Я ўся гару, гару! Як дзіўна!
*(Пяе.)*
Наш князь, быццам сонца,
Усіх саграе,
Пяшчотаю вочы ён поіць мае...
Ах, ён, быццам сонца
Увесну, зіхціць,
Яму мы складаем пад ногі жыцці...
Ён смела нам раіць
У кожнай бядзе,
Вачэй не ўхіляе
Ніколі, нідзе...
Яму аддала б я
Усе сілы свае,
Пяшчотаю поіць
Ён вочы мае!

Шукаючы Ладу, у святліцу шпарка ўваходзіць Б а я н.

Б а я н

Ты тут, дзіця! А я цябе шукаю ўсюды.
Што ты тут робіш?
*(Лада маўчыць, апусціўшы вочы)*
Нешта ж арлічка мая ўсхваляваная?
Ну, што з табой? Аднак тут нельга заставацца:
Паслоў прымаць тут будзе князь.
Чутны ўжо крокі.
Чуеш? Хадзем хутчэй!

Спяшаючы, вядзе з сабой Л а д у.

Паволі ўваходзіць пышна прыбраны Усяслаў з баярамі і дружынаю і сядае на пасад. Адчыняюцца другія дзверы, і баярын уводзіць кіеўскіх пасло ў.

Пасол
*(кланяецца Усяславу)*

Спадар усёй Русі, князь Ізяслаў вітае
Цябе, о князь!

Усяслаў

І я вітаю вас, паслы.
З чым прыбываеце вы ў нашую сталіцу?

Пасол
*(падае грамату)*

О, мудры Усяслаў! Шле гэту грамату
Табе наш князь!

Усяслаў

*(чытае, пасля горка ўсміхаецца)*
Нязгоду хоча змыць старую Ізяслаў.
З Крывіцкаю зямлёй ён хоча
Жыць, як сябра...
*(Гнеўна.)*
Каб толькі мы прад ім скарыліся усе!
*(З насмешкай.)*
Сварыцца на мяне князь Ізяслаў,
Што Ноўгарад я ўзяў
І не спытаў яго, ці гэта ён ласкава мне дазволіць.

Пасол
*(ліслівa)*

Прасветлы князь з табою супакою хоча, княжа.
Так, Ізяслаў стаміўся ваяваць...

Раптам з шумам адчыняюцца дзверы і ў хорамы ўваходзяць Глеб, Слава і колькі дружыннікаў у плашчах, стомленыя і запыленыя.

Глеб, Слава
*(разам)*

Абарані нас, ойча-княжа!
Не дай нам згінуць марна.
Ратуй нас, ойча!..

Усе спалоханыя

Глеб

О, ойча-княжа, зверам лютым
Знянацку вораг пераскочыў
Мяжу Крывіцкае зямліцы:
І Койданаў, і Менск, і Слуцак у агні!
Яшчэ я чую крык і плач сірот і ўдоваў
І бачу чорны дым, і полымя, і кроў!
Князь Кіеўскі вядзе сюды на нас і войска
кіяўлянаў,
І полаўцаў дзікіх з-над Дона і Данца.

Усе
*(з пагрозаю)*

Князь Кіеўскі!

Слава, Глеб
*(разам)*

Агнём палалі храмы,
Гарачы чорны дым лізаў байніцы і дамы.
Віхура лётных стрэлаў
Праз мглу, і ноч, і змрок
Шукала нашых сэрцаў,
Касіла родных нам,
Аж кроў у жылах стыла!

Усе
*(з абурэннем)*

Агнём палалі храмы...

Усяслаў
*(устае, гнеўна)*

Ці чуеце, паслы?

Паслы

О, княжа, гэта ўсё няпраўда...

Усяслаў

Дось! Годзе! Я цярпеў даволі,
Маны больш слухаць не хачу.
Ваш князь...

Глеб

*(перабівае)*

Ён мой пасад спаліў,
Маіх падданых выбіў!

Усяслаў

І смее йшчэ паслоў прад вочы мае слаць!

Першы блазан

Кажы, о князю!

Другі блазан

Кажы, о князю!

Першы блазан

Паслам галовы... зняць!

Другі блазан

Зняць!

Першы блазан

Хі-хі!

Другі блазан

Ха-ха!

Усе

Далоў паслоў! У поруб!

*Усяслаў ірве грамату і топча яе нагамі,
а паслам паказвае на дзверы.*

Усяслаў

Гэй! Склікайце веча!
Няхай нас з Ізяславам рассудзяць Бог і меч!

*Заслона.*

## АКТ ДРУГІ

*Плошча ў Полацку. Пасярэдзіне вечавы звон, каля яго — лобнае месца. Ззаду плошчу замыкае сабор св. Сафіі. Сіняе неба і веснавыя хмары. З-за парканаў і сценаў дамоў цягнуцца асыпаныя белым і ружовым цветам галіны дрэваў. Сонца хінецца да захаду. На плошчы сядзіць стары* Баян. *Каля яго* народ. *На авансцэне* Слава з няняй.

Баян і хор

Маладая маладзіца
Ой, ды борам ішла *(2 разы)*,
Ды каня ў руках вяла.
Узлажыла, ой, на косы
Залаты шалом.
Ой ты, Лелю мой,
Залаты цяжкі шалом.
Прывязала ды да стану
Ой, булатны меч.
Ой ты, Лелю мой,
Прадзедаў булатны меч.

Слава
*(на фоне хору)*

Ой, як мне сумна, няня!
Ізноў мой любы муж
Сягоння ў бой ідзе,
Мяне у роспачы кідае!..
Ці прычакаем мы калі
Канца і бітвам і крыві?

Сумна мне...
Любы, любы, штось прарочыць
Сэрца мне.
Штось мяне і ўдзень і ўночы
Долу гне!
Ці параю я з трывогай
І з сабой,
Як адойдзеш ты дарогай
На той бой?
О, мой любы, ты зноў мяне кідаеш.
О, як баюся я!
Ці ты вернешся, мой любы,
Да мяне?
Ці ў яры не знойдзеш згубы
Дзесь на дне!?.

З'яўляецца Г л е б. Слава кідаецца да яго і абнімае.

Г л е б

Ты ўсё сумуеш, галубка?
Дарэмна, будзь мужнай!

С л а в а

О, Глебе мой!
Любы, любы, штось прарочаць
Знакі, сны,
Ўся дрыжу я, ўся гару я
У агні!

Г л е б

О, галубка, на нас перамога
Чакае ў чужой старане,
Крывіцкае сэрца не знае трывогі,
Не плач, не турбуйся ж па мне!

С л а в а

Хай бароніць цябе доля,
Асцярожным будзь, саколе!

Г л е б, С л а в а
*(разам)*

Не турбуйся. Усміхніся!

Г л е б

Вернецца да цябе любы.

С л а в а

Ці ты дзе не знойдзеш згубы?

С л а в а, Г л е б
*(разам)*

Ці ты вернешся, мой любы,
Ці ў яры не знойдзеш згубы?

Г л е б

Я вярнуся!

С л а в а

О, мой любы!

Г л е б

Зноў з табою...

С л а в а

Зноў са мною...

Г л е б

Будзем разам.

С л а в а

Будзем разам.

Г л е б

Галубка мая!

С л а в а

О, любы ты мой!

Слава, Глеб
*(разам)*

Навек твая!
Навек мая!

На плошчу выбягаюць блазны, іх абкружае народ.

Першы Блазан

Хі-хі!

Другі блазан

Ха-ха!

Першы блазан

Хі-хі-хі-хі!

Другі блазан

Ха-ха-ха-ха!

Першы блазан

Каму смех, каму слёзы!

Другі блазан

Каму слёзы, каму смех!

Першы блазан

Хі-хі!

Другі блазан

Ха-ха!

Блазны
*(разам)*

Ды у месяца два ражочкі роўненькіх,
Ды ў света-князя два блазночкі родненькіх.
Ды звянчаліся блазны ў нядзельку,

Ой, пашлі блазночкі ў сяцёлку,
Распыталіся, разгукаліся!

П е р ш ы  б л а з а н

Ці ўдалася, ці ўдалася, брат, жаніцьба твая?

Д р у г і  б л а з а н

Ажаніла малайца ды чужая старана!

П е р ш ы  б л а з а н

Ды булатныя мячы.

Д р у г і  б л а з а н

Ды ліхія крумкачы.

П е р ш ы  б л а з а н

Досыць маю крумкачоў!

Д р у г і  б л а з а н

Чуеш, чуеш, звон мячоў?

Н а р о д

Што яны плятуць? Што такое?!

Б л а з н ы
*(весела спяваюць)*

Дзылі-дзылі, дзыньгі-дзыньгі,
Крумкачоў мы пойдзем выгнаць.
Дзыньгі-дзынь, іх у гушчарах
У крывавай лазні ўпарым!
Дзылі-дзылі, дзыньгі-дзыньгі, ой!

Усе смяюцца. Шум. Гоман. Пачынае гучаць вечавы звон.
Раптоўная цішыня.

Н а р о д

Чуеце, чуеце? Веча!

Першы блазан

А што, ці мы не казалі?

Другі блазан

Ці мы не казалі?

Смеючыся, уцякаюць.

Народ

Што гэта здарылася,
Пажар, вайна, няшчасце?
Чуеце гоман, трывожныя крыкі?

Бабы

Ой, божачка! Праўду казалі блазны нам!
Ой, гора нам!

На плошчы паказваюцца світа і князь Усяслаў

Народ

Глядзіце! Дружына, баяры, сам князь!
*(Народ кланяецца князю.)*
Будзь здароў, прасветлы
Княжа Полацкі!

Баян

Няхай жыве наш князь!

Народ

Няхай жыве наш князь!

Усяслаў узыходзіць на падвышэнне і рухам рукі сцішае народ.

Усяслаў

Народзе мой! Прывык з табою я дзяліцца
І радасцю, і горам!..
Князь Кіеўскі падступна увайшоў
У межы нашыя... Наш край заліў крывёю!
Палае Слуцак, Менск, дымяць руіны сёлаў,
А рэкі ў берагох крывавай пенай плешчуць!

Ці ж можам мы цярпець, каб вораг люты рваў
Жывое цела нашае краіны? О не, о не!

Н а р о д

О не! О не!

У с я с л а ў

Ды скажа, можа, хтось: ужо даволі войнаў,
Ужо ў цяжкіх баёх стаміўся наш народ?

Н а р о д

Не схілім галавы
Прад Кіевам, не схілім!

У с я с л а ў

Так! Пад чужацкі меч
Не лягуць крывічы,
Як безбаронныя авечкі!

Н а р о д

Вядзі нас, княжа наш!

Г л е б

Вядзі нас, ойча!

Н а р о д

Вядзі на кіяўлян, у бой!

У с я с л а ў

Хай будзе так!
*(Знімае шапку, за ім — усе.)*
Дык з Богам!

Н а р о д

У бой, у бой!
Хай жыве Крывіцкі край,
Хай жыве наш Полацк!

Баян

Няхай жыве наш князь!

Народ

Слава, слава, слава!

Князь і за ім усе скіроўваюцца ў сабор.
На плошчы застаюцца Лада, Баян і група жанчын.

Лада
*(услед князю, палка)*

Няхай жыве наш князь! У бой!

Баян

Каб я быў маладым
І дужым, як калісь...
Ляцеў бы й я у бой
На крылах, як той сокал!
Ды й я цяпер пайду,
Пайду, унучка.
Там, дзе мой князь,
І я павінен быць!

Лада

А я, о дзеду, як жа я?
Чаму я не магу
На ворагаў ісці
Сягоння із дружынай?
Чаму я не магу
Сваё жыццё аддаць
За князя, за краіну?
Хто ведае, мо я
Сваім мячом яго
Абараню ад смерці!
Мо з ран ягоных кроў
Мне мяккім шоўкам кос
Надарыцца абцерці?..
Навошта мне краса?
Нашто дзявочы стан,
І сінь вачэй, і губ

Чырвоныя пялёсткі...
За шалом, за меч булатны
Я ўсё б гэта аддала!
Чаму ж я не магу
На ворагаў ісці, чаму?

Баян

Ты ж дзяўчына! Куды табе з намі?

Лада

О, дзеду мой!
Я не магу адна,
Адна тут заставацца,
І я хачу быць там,
Дзе будзеш ты і князь!
Хто ведае, мо мне
Суджана лёсам
Абараніць цябе
Ад смерці?.. Вазьмі мяне!

Баян

Што ты, што ты, дзетка,
Дажбог з табой! Ты… ад смерці?
Вось калі б хлопцам ты была, арлічка,
Цябе б я ўзяў...

Лада
*(просячы)*

Вазьмі... Я сплёты кос
Схаваю пад шаломам...
У рукі я вазьму
Булатны востры меч
*(горача)*
І буду бараніць
Крывіччыну і князя
І з радасцю за іх
Сваё жыццё аддам!

Б а я н
*(любуецца ёю)*

Кроў мужных крывічан
У жылах тваіх грае.
Яе не загасіць...
Хай будзе так... Хадзем!

Л а д а, Б а я н
*(разам, урачыста)*

Дажбожа, ясны, магутны, светлы,
Мячам крывіцкім пашлі ўмалот,
Дай пастаяці, дай нам памерці
За край наш родны, за наш народ!

За сцэнай чуваць трубы.

Л а д а
*(радасна)*

Дык возьмеш?

Б а я н

Ціха... Хадзі!

Л а д а і Б а я н выходзяць.

У с я с л а ў
*(выходзячы з сабора)*

На конь!

Г л е б

На конь!

Праходзяць за сцэну.

Д р у ж ы н а
*(за сцэнай)*

На конь!

У с я с л а ў

Хай нам паможа Бог!

Д р у ж ы н а
*(за сцэнай)*

Гора ворагам, гора,
Гора шызым варонам,
Гора галіцам чорным,
Груганам, крумкачам.
Будуць зверы лясныя
Ад зары да змяркання
Кроў іх злізваць на ўзлессях,
Косці ў полі крышыць.

Ж а н ч ы н ы
*(галосяць)*

Ой вы, родненькія
Нашыя саколікі,
А куды вы сабраліся ад нас?
Што ж мы тутка пачнем
Із дзіцяткамі,
Хто маленечкіх гадаваць будзе?

Г л е б выходзіць на плошчу, шукаючы Славу, каб апошні раз развітацца, бачыць жанок і чуе іхняе галашэнне.

Г л е б

Вы чаго? Ці ж так выпраўляюць
Мужоў крывічанкі?

Жанчыны памалу сцішаюцца.

Д р у ж ы н а
*(за сцэнай)*

Мы уступім сягоння
Ў залатыя страменні,
Хай нам стрэлы спяваюць,
Хай нам звоняць мячы.
Эх, адплацім мы шчыра

Груганам чарнакрылым,
Эх, ад нашае помсты
Не дамо уцячы!

Слава ўбягае і, заўважыўшы Глеба, кідаецца да яго.

Слава

Любы мой, саколік мой!

Глеб
*(абнімае яе)*

Не плач, мая галубка,
Чакай мяне... Бывай!

Хутка далучаецца да войска. Выбягаюць, куляючыся, блазны.

Першы блазан

Дык як, Мікітка, а?

Другі блазан

Як? Хіба ж паваюем!

Першы блазан

Хі-хі!

Другі блазан

Ха-ха!

Смяюцца і куляюцца. Войска павольна і ўрачыста праходзіць у глыбіні праз сцэну.

Дружына
*(на сцэне)*

Пастаім за Радзіму,
За крывіцкую славу!
Моцна станем на межах
Мурам целаў і дзід,
Скрышым гордых чужынцаў

І чырвоную брагу
Вып'ем прагна і додна
Усе, як адзін.
Гэй, на бой, гэй, у поле,
Сэрцы ўгору падымем,
Хай успеняцца пенным
Залацістым вінном.
Хай ніколі не звянуць
Прад варожаю моцай,
Хай віхураць віхурай,
Палымнеюць агнём!

За войскам паказваюцца Б а я н, апрануты па-паходнаму, і Л а д а, пераапранутая маладым дружыннікам.

*Заслона.*

## АКТ ТРЭЦІ

Стаўка Кіеўскага князя Ізяслава на рацэ Нямізе. Ноч. Палае шмат вогнішчаў. У глыбіні сцэны войскі саюзнікаў. Справа — шацёр Ізяслава. Пры адчыненні заслоны ўваходзяць І з я с л а ў, П р а к с э д а, п а л а в е ц к і х а н і к н я з ь П е р а я с л а ў с к і.

**І з я с л а ў**

Мы б'ёмся трэці дзень,
А ўсё няма канца —
Не зломім крывічоў!

**П р а к с э д а**

Няўжо ж яны мужней
За нашых вояў б'юцца?
І што дае ім моц?

**І з я с л а ў**

Ах, колькі раз ужо
Яны ў крыві каналі,
Ды з новай сілаю ізноў ішлі у бой!

Князь Пераяслаўскі

Усё чортаў чарадзей, князь Усяслаў!
Нядарма носіць на чале паганскіх чараў знак...

Праксэда

Знак? Які знак?

Князь Пераяслаўскі

Ат, кажуць — зорку, сонца...
І меч не бярэ яго,
Стрэлы не бяруць!

Праксэда

Князь! Чарадзей!
Імя мне даспадобы!..
Ані стрэлы, ані меч
Не бяруць яго!

Хан
*(хітра)*

Ні стрэлы, га! Ні меч, га!
Дык ёсць яшчэ сіло... а ха-ха-ха-ха!

Ізяслаў, Праксэда
*(разам)*

Сіло? Ой, што надумаў ты?

Хан

Дзе сілаю не ўзяць,
Там хітрасцю трэ браць!
Паклічце вы яго
Сюды на перамовы...
Дык прыйдзе ён
І трапіць у сіло... а ха-ха-ха-ха!

Праксэда
*(убок)*

Так будзе мо найлепш...

Князь будзе тут,
Яго пабачу я.

І з я с л а ў

Не, гэтаму не быць,
Хоць ён і вораг мне,
Ды — вой, а вой і я!

П р а к с э д а, х а н
*(разам)*

Каб толькі князя ўзяць,
Была б і перамога на нашай старане.

У с е
*(разам)*

Ці не шкада крыві, ці не шкада людзей?
А ўсё ён, чарадзей!
Так, скончылі б мы бой,
Крывавы і смяротны.
*(Да Ізяслава.)*
І валадаў бы ты
Крывіцкаю зямлёй...
Хай прыйдзе ён,
І трапіць у сіло.

Х а н выходзіць.

І з я с л а ў
*(доўга змагаецца з сабою, нарэшце, рашыўшыся)*

Хай будзе так...
*(Да князя Пераяслаўскага.)*
Ты, князь, ідзі з баярамі ў стан крывіцкі
І Усяслава прасі ад майго імя на перамовы.
А нам, каб як той час правесці, —
Віна сюды... Ідзі!

К н я з ь П е р а я с л а ў с к і выходзіць.
З'яўляецца х а н з г р у п а й п а л а в е ц к і х ж а н ч ы н.
У руках чара з віном.

Хан

Жанкі, віно і ноч,
І цёплы вецер з Дона,
Агні і звон мячоў,
І спеўны стрэлаў svіст...
Га... Вось яно жыццё —
Непераможнае, салодкае, дзікое!..

Жанчыны пачынаюць павольны ўсходні танец, за імі выбягаюць палавецкія воі і скачуць з мячамі і стрэламі, нарэшце ўсё сплятаецца ў дзікі карагод, а тады паступова памалу зноў пераходзіць у павольны рытм. Нарэшце ўсе разыходзяцца. Застаецца адна Праксэда.

Праксэда

Зноў набліжаецца ноч,
Млосная, сіняй расцвілая...
Будзіць усё... што даўно
Зблякла, прыціхла, забылася...
Поўніцца сэрца маё
Палкай тугою удовінай.
Шчасце нясеш ты мне, лёс,
Ці мо блізкія паховіны?
Маладосць мая, дзявочасць
Прамінаюць з года ў год,
Сэрца ж просіць, сэрца хоча
Шчасця, любасці, пяшчот!..

Цікаючыся і аглядаючыся,
нячутна да Праксэды падыходзіць хан.

Хан

Мроіш, княгіня?.. І то —
Час перапёлцы у сеці... а ха-ха-ха'
Усё маеш ты — красу, уладу, багацце,
А мроіш, каб хто цябе ды паланіў а ха-ха-ха!

Праксэда
*(з горкай усмешкай)*

Ці ўжо не ты, князёк?

Хан

Ну, а чаму б не я?
Ты мне даспадобы, ільвіца.
Хоць зараз з табой бы памчаў
Я ў стэп, дзе кавыль серабрыцца,
І вусны б твае там узяў...
Хадзі да мяне, кахай і пануй!

Праксэда

Тваёй дванаццатаю жонкай?
Не, хане мой, о не...
Каханнем нат тваім
Дзяліцца и не буду!

Хан

Га! Дык не будзеш? Ой!
Сягоння спелая, як персік, ты,
Ды хутка, бач, і пераспееш...
Што тады? А ха-ха-ха-ха!

Праксэда

Што? Возьмеш ты мяне
І тады, мой палкі хане...
Але сягоння — не,
Яшчэ сягоння — не!

Чуваць трубы. З'яўляецца Ізяслаў.

Ізяслаў

Ідуць!

Праксэда, хан
*(разам)*

Ідуць!

У суправаджэнні князя Пераяслаўскага і паслоў уваходзяць Усяслаў і Глеб. Воддалі — Баян і Лада.

Усяслаў
*(да Ізяслава)*

Цябе вітаю я, о княжа Ізяславе!

Ізяслаў

І я цябе ў сябе вітаю, Усяслаў!

Праксэда
*(падыходзіць да Усяслава і аглядае яго)*

Вось ты які, Усяслаў,
Даўно жадаю цябе пабачыць,
Само імя тваё, як казка,
Вось ты які! Чарадзей!

Усяслаў

*(перабівае, да князя Ізяслава)*
Што хочаш ад мяне?

Ізяслаў

Хачу з табою згоды...
Шкада крыві!

Хан і князь Пераяслаўскі
*(разам)*

Шкада!

Усяслаў

Шкада яе і мне!

Ізяслаў

Цудоўна! Замірымся, і ўсё!
*(Падае руку.)*

Праксэда
*(сама сабе)*

Сапраўдны сокал!

Усяслаў
*(не прымаючы рукі, коратка)*

Што ж хочаш?

Ізяслаў

Ты Ноўгарад пакінуць мусіш!

Усяслаў
*(з пагрозаю)*

Што ж яшчэ?

Ізяслаў
*(з прытворнай пакораю)*

Нічога больш!

Глеб
*(парыўна)*

О, ойча!

Усяслаў
*(рухам рукі затрымаў Глеба)*

Хацеў бы сам-насам
Парадзіцца я з сынам!

Ізяслаў
*(пераміргнуўшыся з саюзнікамі)*

Няхай... Твая, князь, воля...

Хан
*(да Праксэды)*

Што, прыляцеў сакол?
А мы яго...
*(Паказвае знакамі.)*
А ха-ха-ха!

Праксэда

Не для цябе ён, хане!

Усе выходзяць. Усяслаў і Глеб адны.
Усяслаў моўчкі ходзіць па сцэне.

Глеб

О, ойча! Дык няўжо ж
Саступіце вы ім?

Усяслаў

Шкада крыві гарачай, крывічанскай!

Глеб

Я чую штось нядобрае!

Усяслаў

Ідзі назад у стан,
Збяры маю дружыну
І там чакай...
Дам знак — вядзі яе сюды!

Глеб

Дык, значыцца, і вы не верыце ім, ойча?

Усяслаў

Будзь мужны, як той тур.
А хітры — як той змей!
Ідзі ж і так зрабі, як я казаў!

Глеб хутка выходзіць.
Да Усяслава падбягаюць Лада і Баян.

Баян

О князь, хадзем адсюль!

Лада

Хадзем адсюль, хадзем, мой князю!

Усяслаў
*(да Баяна)*

Ты тут, стары...
*(да Лады)*
А ты хто?
Твой голас чуў я дзесьці
І бачыў твар ірдзяны...
*(прыглядаецца)*
Няўжо ж?

Лада

Так, гэта я!
За край свой я з дружынай меч узнесла!
О князю мой, хадзем адсюль!..

Баян

Хадзем.

Баян, Лада
*(разам)*

Чуем, чуем, штось благое
Нам прарочыць гэта ноч.
Сэрца б'е жудой глухою,
Лепш хадзем адгэтуль проч!
Ідзе бяда,
Паўзе бяда,
Цябе, цябе вартуе.
Князю, сэрца маё чуе,
Ці з высокіх быльнягоў,
Ці з далечаў цёмнарунных,
З чаратоў, з лазнякоў
Ідзе бяда,
Паўзе бяда,
Цябе, цябе вартуе.
О, кінь усё, хадзі із намі
Туды, ў крывіцкі родны стан, не вер ім, не вер!
Чуем, чуем, штось благое
Нам прарочыць гэта ноч,
Цёмная ноч.

Усяслаў
*(разам з імі)*

Мы ж не ў станах палавецкіх —
У стане кіеўскіх князёў.
Але ў сэрцах іхных —
Ноч глухая...
Так, мо бяда мяне вартуе,
Мо сапраўды сэрца чуе,
Як з высокіх быльнягоў,
Із далечаў цёмнарунных,
З чаратоў, із лазнякоў
Ідзе бяда,
Паўзе бяда,
Мяне, мяне вартуе.
Ах, кіну ўсё, пайду за вамі
Туды, ў крывіцкі родны стан...
*(Задумваецца.)*
Ды не, князь Полацкі не ўцячэ прад марай!
*(Аглядаецца.)*
Толькі ж чую: штосьблагое
Мне прарочыць гэта ноч,
Цёмная ноч...

Непрыкметна ў гэты час убягаюць вoi Ізяслава, абкружаюць Усяслава, Баяна і Ладу. Пачынаецца барацьба.

Лада

Ратуйце, ратуйце!

Воі адкідаюць Ладу і звязваюць Усяслава і Баяна. Уваходзіць Ізяслаў, Праксэда, хан і князь Пераяслаўскі.

Хан

Папаўся сокал у сіло, ха-ха-ха.

У с я с л а ў
*(да Ізяслава гнеўна)*

Ты ашуканец, а не князь!

І з я с л а ў
*(панура)*

Вядзіце князя!

П р а к с э д а

Ён будзе мой, будзе мой!

*Заслона.*

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

Поруб у Кіеве. Сцены з тоўстых бярвенняў, маленькае акенца ледзь прапускае святло. Пад акенцам нары, на іх вязка саломы. Злева скутыя жалезам дзверы. На нарах, закуты ў жалеза, сядзіць У с я с л а ў. Пры адчыненні заслоны чуваць крокі. Уваходзіць П р а к с э д а.

П р а к с э д а

Спіць... Закуты ў жалеза...
Ды і ў жалезе ён — сакол.
З адвагі я слыву,
Ды нешта сэрца б'ецца
Так дзіўна у грудзях...
Брат Ізяслаў даўно у стэпах палавецкіх
Прабуе паўстрымаць вандроўнікаў дзікіх.
Ён не параіць мне ні ў чым...
Сама павінна я сабе параіць...
Яго я мушу мець!
І буду мець!
*(да Усяслава)*
Якога зелля ты даў Праксэдзе,
Што цэлы год яна
Сумуе па табе?..
Усё аддала б я за тваё каханне...

Я пышная, я гордая —
Скаруся прад табой,
Каб ты прытуліў мяне
Хоць на імгненне...
Так! Усяслаў, будзеш ты
Усё ж ткі мой.

Усяслаў
*(ціха)*

Хто тут?

Праксэда

Прачнууўся, крывічанін!
Мо ўрэшце скажаш штось мне, горды сокал?

Усяслаў

Што ж маю я табе сказаць?

Праксэда

Сказаць? Дык слухай!
Ты даспадобы мне і мусіш быць маім!

Усяслаў
*(насмешліва)*

Няшмат, княгіня, хочаш!

Праксэда

Ну што ж, няшмат ці шмат —
Ты мусіш быць маім!
Я не скарылася яшчэ
Ні перад кім, ніколі,
Але з ахвотай я
Скаруся прад табой!

Усяслаў

Ідзі... Што хочаш ты ад князя ды без княства,
Ад сокала без крыл?

Праксэда

Цябе хачу я, так — маім будзь, а тады...
Зноў знойдзеш ты і княства, гонар, сілу, славу!

Усяслаў

Нат гэтым ты мяне не купіш, кіяўлянка...
Мяне вы здрадай узялі,
Мяне тут доўгі год трымалі...
І хочаш вось, каб быў тваім я...
Не... ніколі!

Праксэда

*(палка)*

Ах, каб ты прытуліў мяне
Хоць на імгненне,
Каб я пачула моц
Тваіх пяшчотных рук
І ўбачыла, як кроў
Твой горды твар фарбуе,
Як загараецца
Ў вачах тваіх агонь!
Як тваё сэрца
Трывогай б'ецца...
Ах, Усяслаў, будзеш ты,
Будзеш мой!

Усяслаў

Каб я прытуліў цябе
Хоць на імгненне,
Каб ты пачула моц
Маіх пяшчотных рук
І каб пабачыла,
Як кроў мой твар фарбуе
І як загараецца
Ў маіх вачах агонь...
О не, ніколі!
Не, не, я не буду тваім,
Не буду твой!

П р а к с э д а

Дык не?

У с я с л а ў

Не!

П р а к с э д а

Пабачым! Гэй, сюды!

У поруб уваходзяць к н я з ь П е р а я с л а ў с к і, б а я р ы н і к а́ т ы.

К н я з ь П е р а я с л а ў с к і
*(насмешліва)*

Вітай гасцей, крывіцкі княжа!

Усяслаў панура маўчыць.

Маўчыш? Ну, зараз загаворыш!

Ківае на баярына. Той падыходзіць і тузае Усяслава за ланцуг. З вуснаў Усяслава вырываецца глухі стогн.

Б а я р ы н

Ці адракаешся ты ад Полацка свайго?
Ці палачан сваіх прымусіш ты
Паддацца нам, Кіеву?

У с я с л а ў

О не!

К н я з ь П е р а я с л а ў с к і
*(з пагрозай)*

Не?

У с я с л а ў

Не, не!
Вы здрайцы... Хай я памру,

Ды не скаруся вам.
А край мой вольным быў
І вольным застанецца...
Хай вас карае Бог
За кроў, за здзекі, за усё!

Князь Пераяслаўскі

Дык, ты... ты так?
Гэй, каты! На дыбу з ім, на дыбу!

Кáты кідаюцца да Усяслава. Праксэда ў жаху.

Праксэда
*(да князя Пераяслаўскага)*

О, пачакай!
*(Адпіхвае князя Пераяслаўскага.)*
Чакай, кажу!..
Яшчэ гадзіну, дзве
Дамо яму падумаць,
Адумаецца ён, я знаю!

Князь Пераяслаўскі
*(неахвотна)*

Бяда з жанчынамі...
Хай так!

Робіць знак кáтам, тыя адыходзяць.

Праксэда
*(да Усяслава з кпінай і пагрозай)*

Бывай, крывіцкі смерд!
І помні, ты ў нашай моцы!

Усе выходзяць. Праксэда затрымліваецца.

Праксэда
*(да Усяслава)*

Ці чуў? Ты ў нашай моцы!
*(горача, ціха)*
Я так хачу... Ты мусіш быць маім!

Хутка выходзіць. Усяслаў застаецца адзін. Цішыня.

Усяслаў

Год доўгі і цяжкі
Ў няволі я праседзеў...
Ах, цэлы доўгі год
Без сонца, без святла,
Без радасці. З глухой тугой у сэрцы.
З атрутай у крыві...
Хто ж назаве жыццём
Змярканні, ранні й ночы,
Што перажыў я тут, далёка ад сваіх,
Далёка ад маёй Крывіччыны ўлюбёнай,
Блакітнай і сівой Крывіччыны маёй!

*(прыслухоўваецца)*

Ды што гэта ? Зноў звон...
Зноў звон святой Сафіі...
Ўсцяж кліча ён мяне,
Удзень і уначы!
Ледзь вочы я самкну, забудуся — ён звоніць,
Ледзь вочы адчыню — ён звоніць, звоніць зноў:
«Вярніся, княжа мой,
Вярніся, мы чакаем!»

*(Устае, з тугой.)*

Ах, каб ды волю мне,
Каб з выраем вясновым
Мне вырвацца туды,
На волю, ў далячынь,
І поўнымі грудзьмі
Зноў піць зялёны вецер
З сасоннікаў сівых
Крывіччыны мае!
Каб зноў із краю ў край
Задонскія бязмежжы
Мне птахам мераць зноў,
Дзікім агнём гарэць,
Зноў узнімаці меч
Жалезнаю рукою
І бачыць славу й моц радзімае зямлі!
Ах, каб ды волю мне...

Каб волю! Волю, волю...
Каб вырвацца ізноў туды... у далячынь!
*(Падае на салому.)*

У поруб уваходзіць Л а д а, пераапранутая дружыннікам, прыносіць хлеб і пітво, Усяслаў не падымае галавы.

Л а д а
*(з пяшчотаю да Усяслава)*

З'еш штось, о княжа мой,
Ці выпі мёду!

У с я с л а ў
*(здзіўлена)*

Мёду?..
*(Глядзіць доўга на Ладу.)*
Ды хто ты?

Л а д а

Ці ж мяне не пазнаеш ты зноў,
Спадару княжа?

Скідае шалом і рассыпае на плячах свае залатыя валасы.

У с я с л а ў

Ты? Як? Ты тут, дзіця...
Хто ж цябе прыслаў?

Л а д а

Я — ад тваіх...
О княжа, ўвесь народ
Гатовы бараніць цябе,
Пакуль ім стане сілы.
А сын твой, княжыч Глеб,
Падняў народ крывіцкі
І хутка будзе тут.
І полаўцы ідуць на Кіеў,
Крывёй заліты стэп!

Князь Ізяслаў не паўстрымае іх,
Акрыўся ён няславай...

Усяслаў

О мой народзе!

Лада

Жыццё аддасць ён за цябе!

Усяслаў

Ну, дзякуй за навіны...
Здаецца, Ладай зваць цябе?

Лада

Так... Ладай!

Усяслаў

Як дзіўна... Трэці раз
Ты на маім шляху...
І гэтак ты свой край мілуеш,
Што яго мячом бароніш?

Лада

Так... Люблю мой край
Я горача і шчыра...
Але й цябе, й цябе мілую, княжа, я,
Ля вогнішча, ўначы,
Пад Воршай і Нямігай
Я трызніла табой.
З тваім імём на вуснах
Ішла я з новай сілай
За родны край у бой!

Усяслаў

Эх, дзяўчына!.. Я пеража́ў сваё...
Шкада тваё вясны
Для сокала без крылаў!..

Лада
*(палка)*

Нічога мне не трэ!
Твайго кахання я
Не важуся прасіць...
Не выпрасіш яго ні просьбай, ні слязьмі...
Сэрцу не загадаеш!

Усяслаў

Арлічка... Арлічка...
*(Усміхаючыся, з пяшчотай бярэ ў пальцы пасмы Ладзіных валасоў і нахіляецца да яе.)*
Мо спляла на мяне
Ты гэту сетку з кос,
Каб зноў з табою я ўспомніў
Вёсны, мінулыя даўно?

Лада

Бурліць, палае кроў,
Як цёмны сок бярозаў.

Князь

Тады бурлела кроў,
Як цёмны сок бярозаў.

Лада

А сэрца б'е і б'е
Так дзіка, нецвяроза.

Князь

І сэрца біла ўсцяж
Так дзіка, нецвяроза...

Лада

І хочацца на ўсё
Забыцца на зямлі...
І толькі быць адно тваёй,
Адно цябе любіць!

К н я з ь

Ты хочаш усяго
Забыцца на зямлі
І быць адно маёй,
Адно мяне любіць!..
Дык хадзі, агнём кахання
Маё сэрца запалі,
Хай палае знічам сяння
Для радзімае зямлі!

Л а д а

Хай напоіць гартам цела,
Хай спалучыць нас з табой,
Змые з душаў сум, нясмеласць,
Кіне нас ізноў у бой!

К н я з ь

Хадзі ж сюды, бліжэй,
Падай мне вуснаў наквець...

Л а д а

О князю, любы мой,
Бяры іх — я твая!

Прытуляюцца. Здалёк чуваць крокі і галасы.

У с я с л а ў
*(адрываецца ад Лады)*

Ізноў яны. Ідзі, арлічка!

Л а д а хутка накладае шалом і выходзіць. Праз хвіліну ў поруб уваходзяць к н я з ь П е р а я с л а ў с к і, б а я р ы і м а н а х і.

У с е

Крывіцкі княжа!
Настаў апошні час!
Адрачыся... Скарыся...

Князь Пераяслаўскі

Народ крывіцкі ўжо выракся цябе...
Ў вязніцы сын твой пакутуе даўно,
А Полацак на вечы крыж Кіеву
На вернасць цалаваў!

Усе

Адрачыся! Скарыся!

Усяслаў
*(з абурэннем)*

О не! Няпраўда гэта! Мана!

Усе
*(у замяшанні, да сябе)*

Скуль ведае ён гэта?..
Скуль ведае?

Усяслаў

Мой народ увесь за мяне!
Сын мой Глеб ідзе на Кіеў.

Усе

Цур, цур! Ці чулі?

Усяслаў

А полаўцы пад брамамі стаяць...
Ваш князь Ізяслаў акрыўся
Злой няславай...
*(насмешліва)*
Што?

Усе
*(у забабонным страху хаваюцца па кутах)*

Ён воўкам уначы у Полацак ляціць,
Ён вешчымі вачыма праз горы й рэкі бачыць,
Ён — чарадзей... Ён — дзіў!

К н я з ь  П е р а я с л а ў с к і

Цур мяне, цур мяне!

Уцякаюць. Раптам убягаюць  Л а д а, Г л е б  і  С л а в а
і кідаюцца да Усяслава. Ён абнімае іх.

С л а в а, Г л е б
*(разам)*

О войча, войча...
Ты вольны!
Хан палавецкі разбіў Ізяслава,
Акрыты няславай, ён з поля ўцёк.
Ля брамаў кіеўскіх стаяць орды хана,
Ад іх паратунку няма.
Народ абураны паўстаў супраць князя,
Веча паслоў сваіх шле да цябе,
Каб іх ратаваў ты ад ганьбы й няславы,
Каб кіеўскі прыняў пасад!

Чуваць гул, шум, звон мячоў і гукі трубаў.

С л а в а

Чуеш?

Л а д а

Гудзе народ!

Г л е б

Натоўп сюды ідзе.
*(разам да Усяслава)*
О княжа, любы наш!

Ломячы краты і дзверы, у поруб уліваецца натоўп  б а я р,
д р у ж ы н н і к а ў, с в я т а р о ў. На чале — стары Б а я н.
Пасля прыводзяць звязанымі  П р а к с э д у  і  к н я з я
П е р а я с л а ў с к а г а.

Баян

О князю наш, Дажбожы ўнуча,
Як сонца, ты між намі ззяеш
І дорыш нам жыццё і шчасце!
Хай Бог дае табе, о княжа,
Шмат доўгіх, шчасных, ясных год!
Хай з табой жыве, красуе
Крывіцкі слаўны наш народ!

Лада кідаецца да старога Баяна.

Натоўп

Прасветлы княжа!
Ратуй нас! Княж у нас!
Ўжо полаўцы ля брам...
Ўся на цябе надзея!
Ратуй нас, княжа!
Табе мы аддаем пасад
Князёў нашых вялікіх!
Ратуй нас ад няславы,
Ратуй, ратуй, ратуй!

Падаюць да князевых ног.

Усяслаў

Як казка ўсё...
З вязніцы — на пасад!
Але, відаць, так хоча кон!
Дарма адмаўляцца!
*(урачыста)*
Пасад вялікакняскі
Кіеўскі — прымаю я!

Натоўп

Прыняў, прыняў!

С л а в а, Л а д а, Г л е б, Б а я н

О, любы ойча!
О, любы княжа!
О, ясны князю!

У с я с л а ў
*(гледзячы ўдаль)*

Я буду княжыць вам,
Але й табе я княжыць буду,
Крывіччына мая!
Чакай мяне, чакай!
Я шчэ пачую вас,
Званы святой Сафіі!

Н а т о ў п

Няхай жыве прамудры Усяслаў,
Вялікі князь Кіеўскі!

Усяслаў ківае, каб развязалі Праксэду і князя Пераяслаўскага.

П р а к с э д а
*(горка)*

Ты перамог, крывіч!

Х о р

Княж на славу нам, княжа,
Княж на пострах суседзям
І магутнай рукою
Моц паганых крышы!
За цябе мы сягоння
Уздымаем з надзеяй
Нашы шчырыя сэрцы,
Нашы дзіды й мячы.
Хай жа вечная згода
Ўсіх на свеце утуліць,
Хаб не будзе ні войнаў,
Ні бяды, ні крыві.

Хай нам пеннаю брагай
Дні і годы сплываюць!
Гэй, жыві ж, Усяславе,
Чарадзейскі крывіч!

У часе спявання сцэна цямнее, і пасля некаторае паўзы ў яркім асвятленні паказваецца плошча ў Полацку. Шуміць, гудзе натоўп баяраў, дружыннікаў і народу. Усе чакаюць. Нарэшце на белым кані з'яўляецца Усяслаў. За ім — Слава, Глеб, Лада і Баян. Народ вітае свайго князя.

Народ

Хай жыве Крывіцкі край!
Хай жыве наш Полацак!

Баян

Няхай жыве наш князь!

Пераліўна гучаць званы св. Сафіі.
На цвінтары царквы святары сустракаюць Усяслава.

Народ

Слава! Слава! Слава!
Хай жыве наш княжа,
Вялікі Усяслаў!

*Заслона.*

*[1942—1944]*

*Мікола Гусоўскі*[1]

# ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА

I

Будучы ў Рыме, з вялізным натоўпам пасполу,
Бачыў аднойчы я гульні, што ўсе з захапленнем віталі:
Жорсткую бойку быкоў, гледачам на пацеху.
Лётныя стрэлаў раі ды бліскучыя дзіды
Ранілі целы жывёлаў і боль ім чынілі нясцерпны,
Аж вар'явалі ахвяры, іх лютасць, як пена, ўскіпала...
Тут вось, пакуль я глядзеў на быкоў ашалелых,
Спуджаных болем ды пляскам далоняў з трыбунаў,
З нашых сказаў хтось: «Зусім як на ловах зубровых!»
Я пагадзіўся і ўслед тутка ж пачаў успаміны
Ходанняў, дзіўна падобных, із волатам-зверам.
Як у той прыказцы, мне ж мой язык і пашкодзіў:
Услед атрымаў я загад без адмовы й адкладу
Выліць у верш мой спамін пра зубровыя ловы.
Бачыце, я — між паэтаў прыпадкам абраны —
Песню складаю аб нашым звяры невядомым,
Дзівам з вякоў захаваным пад зоркай паўночнай...
Ён, што абвешчаны ў свеце крывавым забойцам,
Часта ў мяне выклікаў смак жуды ці агіды,
Мне так нясвомы, і сорам прызнацца, што скуру
Часам уцёкамі я ратаваў, ажно людзі
Ўслед мне плявалі, бо ў нас баязліўцаў не любяць.
Тут, з ганаровым заданнем, ды большаю мо небяспекай,
Змушаны буду я выявіць зручнасць са зброяй,
Гэтак нязвычнай руцэ, муштраванай на луку.

Ўзяў, дрыжучы, я пяро і баюся пад гэтым цяжарам
Ці мо палегчы, няўдольнасць засведчыўшы гэтым,
Ці, можа, дзёрзкасцяй страх патаптаць і скарыцца
Волі вялікага мужа, каму забавязаны ўсім я.
З гэтаю думкай буджу я крыніцу натхнення:
Рынь і памкні жыццядайнай вадою Айчыны,
Піць дай пасеву майму на некраненым полі!
Бо ж на зямлі Італьянскай, даўней нам не знанай,
Мне загадалі тварыць маю песню, — з пакорай
Я пагадзіўся і вось — пільна узяўся за працу,
Нат без надзеі, што ўсё будзе ў ёй дасканалым.
Ўсё ж запытацца хачу я, і болей нічога,
Як, чытачу мой, даць рады з пяром неслухмяным?
Ведаў дасюль я ж адно лёт апераных стрэлаў,
З гэтых бачын устае уваччу вобраз бою,
Сутычкі смяротныя, рой дзідаў імклівых, гудлівых...
З лукам мне радзіць лягчэй, а табе — із пяром наравістым.
Роўнымі быць мо маглі б мы з табой у майстэрстве.
Што ж, як не ўсё мне удасца, дык права за вамі:
Рвеце бязлітасна сказ чужаземца-няўмекі:
Ёсць падабенства ў пяра і стралы — у абодвух
Роўныя джалы, й калі іх напоіш атрутай, —
Ранкі даволі малой, каб паранены згінуў.
Вейкі стулю й быццам бачу іх стойбішча знову:
Ельнік правечны і ён, паміж елкаў схаваны.
Грозны, пануры, як бор, як бароў небяспека.
А зараве, зарыкае, — і ў верш уварвецца
Рэхам раскоцістым гром, — вось і гармонія песні.
Хай яна поўніць радкі, аж прыгледзімся пільна.

2

Пушчаў далёкай Літвы[2] тут нязнанаму дзіву.
Целам сваім маналітным ён гэткі вялізны,
Што, калі з ранай смяротнай падзе на калені й сканае,
Трох паляўнічых маглі б сесці на лбе між рагамі.
А параўнаць паспытацца ягоную шыю ці пысу —
Дык параўнанняў, баюся, такіх і не знойдзеш.
Жмут барады рыжым вехцем тырчыць з гарлавіны,

Поўныя злосці застыглай і полымя вочы,
Грыва калматая з плечаў магутных спадае,
Лоб, і грудзіну, й калені цалкам накрывае.
Возьмем калі ж螺 параўноўваць малое з вялікім,
Ды як падыдзе мясцовае ў нас параўнанне, —
Гэта казёл барадаты з распасвеным целам.
Вось ён які, наш бізон, што ў нас зубрам завецца!
Поўсці прысмажанай ён, чорнай з бурым, як быццам
Водбліск закалкі ад горна мінулых стагоддзяў.
Дзіўна, ды ў кнігах пісалі аб ім недакладна,
Я ж не павінен уявай псаваць тут натуру.
Дзе ж гэта бачыў хто рожкі у зубравых храпах?
З выгляду зубар не праўдзіць свае апісанні,
Што прыпісаць усю моц намагаліся пысе.
Не, не такі прыгажун мой, бароў нашых слава!
З кнігаў вучыў я славянскіх наш свет старавечны,
З граматаў рускіх, пісаных скрозь літарай грэцкай.
Вязь абэцадла народ наш для собскай карысці
Ўзяў бо у грэкаў, ды роднае гутаркі гукі
Ў літары ўліўшы чужыя, сабою застаўся.
Кожны ж народ з глыбокай сваёй даўніною,
Хто б ён ні быў, а на ім старавечча адбітак...
Ды, як наш зубар, звяра мо няма ўжо на свеце,
Толькі пад зоркай Паўночы іх лёс захаваў нам.
Пліній[3] пакінуў свае апісанні і зубра, і тура:
«Ў пушчах правечных Паўночы вядуцца быкі», — нам ён кажа,
(Зубрам завуць іх у нас), — старавечныя сведчаць:
«Створаў дзічэйшых няма, чымся гэты выраслы
Вольна на травах урочышчаў цар над звярыма».
Людзі у роднай зямлі запэўняюць, што ў свеце
Слава аб ім не прайшла, што нідзе ён не знаны.
«Люты, дзікі, да бізона падобны, грывасты, —
Пліній нам піша, — а больш — вам хто іншы раскажа!»
Не сумняваюся, будуць папрокі: «Дзівосныя казкі!»
Што ж, ці адзін не дасць веры ў вялізазнасць звера...
Хто хваляваннеяў у пушчах паўночных не зведаў,
Той не паверыць, і хай супярэчыць, бо, праўда, —
Як ты раскажаш. Спрачацца ж і дурань патрапіць.

3

Шмат мог сказаць аб зуброх кожны ў нас паляўнічы.
Што ж да мяне — паляваць ■ ўжо, хіба, не буду:
Час хваляванняў мінуў і жыве толькі памяць
Сумнага сэрца... Вяртаюся думкай туды я,
Ўдзень і ўначы пасткі памяці зноў расстаўляю,
Сочачы пільна за кожным каштоўным імгненнем,
Згубленым некалі, сяння ж, на жаль, незваротным.
Што з тых спамінаў! Вярнуць даўніну немагчыма.
Гонішся следам за згубленым часам, смяротны,
І не здагоніш — забіты... Няхай сабе й гіне,
Часу бурліваму волі сваёй не накінеш...
Што ж ■ чакаю? Пара ўжо за працу мне брацца.
Вусцішна ўсё-ткі: начытчыкаў чым ты задзівіш?
Зведалі ўсё яны, столькі згарнулі бачынаў!
Хай сабе спраўдзяць па кнігах, які з сябе зубар,
Але ды будзе вядомы і мой ім дадатак:
Тайніцу крыюць бары, й напішу я пра справы,
Што не знайсці вам ні ў кнігах, ні ў граматах даўных.
Нават і Паўлюс Дыякан, у Дзеяннях тых Лангабардскіх,
Нам аб памерах зубровага цела не кажа,
Піша адно, што на скуры забітага звера
Спалі — там дзесьці — пятнаццаць ажно паляўнічых!
Не захапляўся ніколі ні скураю я, ні рагамі,
Як разбіралі на ловах у пушчы здабычу...
Я паляўнічыя сцежкі разведаў з маленства,
Зведаў цяжары жыцця, яго працу й турботы,
Собіла ж мне, бо — із Рэчы Пасполітай родам, —
Край мой гушчарны, не ў прыклад паэтам даўнейшым,
Крокам наважным з канца у канец перамераць.
Змалку вучыўся я ў бацькі майго — зверalоўцы —
Сцішнай хадою прасочваць лясныя гушчары,
Зоркасцяй вока у логаве звера высочваць...
Кемлівасць, нюх — паляванне без іх — гэта кпіны:
Ступіш із ветрам, а звер ужо счуяў, схаваўся.
Колькі ж ён поту сагнаў з мяне ўзімку, у сцюжу,
Дзіды з пляча прымушаючы кідаць з разгону!
Колькі я сконаў злічыў, зграй брахання начуўся
Дзіцем яшчэ, брыдучы следам лоўчага-бацькі!

Сцяміў усё: скуль выходзіць мядзведзь із сям'ёю,
Як і калі йдзе вяпрук на папас у дуброву,
Пасткі як трэба стаўляць на ласёў палахлівых,
Каб як пятлі не заўважыў і ў сетку ускочыў.
Бачыў і чуў, як ад стрэлаў трымцела паветра,
Цяжка, з бурчаннем на снег асядала здабыча,
Бачыў, як коннік мільгае ў гушчары, як пырскі
Зыркай крыві і яго й гурбы снегу чырвеняць.
Вось жа ж у гэткіх прыгодах у нашай старонцы
Часта быў з іншымі роўны я ў справах лавецкіх:
Рэкі лясныя, Дняпра паўнаводнага стрыжань
Конна з буланым адольваў у гоне за зверам.
Што ж, прызнаюся: ахвотна ўбаку б я застаўся,
Ды адставаць ад сяброў у нас ганьбай лічылі.
Колькі нягод паспытаць давялося мне ў пушчах літоўскіх,
А без хвальбы гавару, быў я і спрытны, і лоўкі.
Творчасць ляснога майстэрства, мой плод недаспелы,
Ты, чытачу мой, сарві з кроны ягонай нястройнай.
Мэта мая — цябе ўзяць на прыроды улонне,
З ёй пазнаёміць і з норавам дзікага звера.

4

Хай хіжакам не раўня, ўсіх іх наш зубар люцейшы,
Але людзей не кране, як яго не зачэпяць:
Толькі няспынна глядзіць, рух найменшы цікуе,
Пільна на варце стаіць і сябе, і сямейкі.
Створаў смялейшых няма ў гушчарах нашых родных.
Бачыш часценька — пасецца спакойна, а вочы
Сочаць усё, касавурацца ўправа і ўлева.
Ты аж замёр, звералоўца, ты шчэз між кустамі,
Дзе там! Ён бачыць! Міргнеш — і прыкмеціць адразу.
Шоргат слабенькі, няўзнак трэсне сучок пад нагою, —
Вушы свае натапырыць, уміг страпянецца!
Калі не заззяе твой меч і не бліскае дзіда,
Смела мінай у яго на ваччу — не зачэпіць,
Толькі ўтаропіцца тупа й стаіць нерухома,
Вокам праводзіць цябе, аж пакуль не схаваўся.
Розна бывала... Здаралася з ім сутыкнуцца:
Спыніць хаду, гляне скоса — і болей нічога.

Але як собіць на самку з цялём напароцца,
Ледзь зварухнешся, ухопіш за зброю з гарачкі, —
Ўвомірг раз'ярыцца й бор агалосіць рыканнем,
Знакам шалёнага гневу: як смееш трывожыць!
Ды як адбой ты заб'еш і прабуеш уцёкаў,
Выйдзеш з бяды непамяты, ўздагон ён не рыне!
Люба сачыць зубранят: скачуць, малеча, дурэюць,
Маці й падлеткаў сваёй жвавай гульнёю лякаюць.
Зубар — ён кемлівы звер, хай сабе вось і цяляты:
З першага кроку ва ўсім маці яны пераймаюць,
Бегаюць следам, заўжды пасвяцца побач старэйшых,
Скачуць праз выкратні, пні, дробныя рожкі прабуюць,
Як напаткаюць звяра́, зглядзяць карча ў бураломе,
І — у гульні й барацьбе — целы з маленства гартуюць.
Бо ж і спачыну, як трэ, хіба ніколі не знаюць.
Хай волат наш трывалкі, намаганняў вялікіх
Зверу каштуе пыніць сваё ймкненне да руху.
Ўсцешна глядзець, як ляціць ён у бегу імклівым
Рэдкім узлессем або балацянай сцяжынай,
З месца ірве, як падкінуты нечаю прашчай,
І у імгненне, ўсё цела назад павярнуўшы,
Ловіць нагамі памёт, што яшчэ у паветры,
Ды зазбівае яго, каб слядоў не пакінуць.
Але нічым не зраўнаць гэтак частыя ў статку
Бойкі быкоў за саміцаў у гульнях бяскроўных.
Свята Венеры[4] спраўляюць зубры ў лістападзе
Кожнае восені, часта вяселлі трываюць
Тыдзень ці больш. І у часе такой насалоды
Чуецца толькі, як скрозь, заклікальна й пяшчотна,
Пушча рыкае, а ў подыху кволым паветра
Лістам трапёткім шасцяць векавыя дубровы...
Хто гэта бачыў і чуў — будзе сведчыць напэўна:
Музыка нашых лясоў саладзей, чымся лера,
З поклічам ейным не ў лік нат грымотныя трубы,
Хорам жа ж гукаў лясных строга й стройна кіруе
Голас нястрымнай крыві, мне за ўсё наймілейшы!
Як доўга зубар жыве, не скажу, бо не знаю,
Хто ж вядзе ўлік даўгавечнасці гэткага звера?
Пішуць, аднак, быццам недзе, памечаны ў статку,
Быў правадыр двухсотгодні, прыкметны із грывы
Чорнай, як ноч, з сівізною бялявай на чолцы.

Гэткай прыкметаю нібы назвалі ўвесь статак.
Калі паданні даўнейшыя праўдзяць дакладна,
Вока згубіў у сутычцы ён, быў аднавокі.
Гэта магчыма. Ці ж з правам сумлеўным — бо дужы
Бой ці адзін пачынае, а спрэчкі прычына
Аж праз гады толькі робіцца яснай, хай шрамаў
Уладалюбы не могуць пазбыцца да скону...
Я не скажу й колькі год, непрызнаны, у статку
Зубар той жыў, але ў гэтых народных паданнях
Ёсць напаміны занадта ўжо доўгага часу:
Выдумкай погалас часта вушам дагаджае.
Я ж тутка права не маю пісаць, што не знаю:
Тым, для каго я пішу, да душы толькі праўда.

5

Шлях, мой чытач, быў намечаны загадзя намі.
Шлях у лясы, што хінуцца пад подыхам ветру,
На лугавіны расцвілыя, дзе на прыволлі
Мірна пасуцца звяры, карыстаючы з права.
Стойбішча дружна бароняць зубры, і старожа
Пільна глядзіць, каб у статку быў добры парадак.
Дужы з нядужым уладай дзяліцца не будзе,
Моц бо й дазнанне — адны могуць даць панаванне.
Ўсюды, у статку зубровым, загоне, дарозе,
Пэўне ж, адольвае ў бойцы смяротнай дужэйшы
І без трывогаў ні ймгнення ў барох не мінае.
Смыль панавання злабу скрозь крывавую родзіць,
Кожны таму паядынак а канчыцца смерцю.
Той, хто слабога пабіў, дастае ўзнагароду,
Ну, а пабіты, калі не сканаў, невясёлы
Разам із жонкай са статку ідуць у выгнанне.
Зубар, што статак пакінуў, адгэтуль баіцца
Нават рагаціны, ў статку ж заўжды быў спакойны.
Часам не грэбуюць статкі й самотнікам-зубрам,
Гэткіх прымаюць чароды блізу без замінкі.
Калі ж у бойцы лясной памірае сужонак,
Вернасць сяброў нечаканая смерць парушае:
Ўдоваў выгнаных ізноўку у статак прымаюць.
Княжы наказ, што бароніць і маці, і нашчадзь,
Множыць тым самым багацце ды скарбы краіны.

6

Знае народ, што лясы нашы — скарб неацэнны,
Ён не змяняе яго нат на золата. Морам
Чэргі чужых караблёў па яго да нас цягнуць,
Дзівы вязуць нам багатых заморскіх тавараў.
Шчодрая вільгаць з прыродных у лесе жаролаў
Цёплым дажджом палівае ўраджайныя нівы,
Рэкі у свет спрытна лес наш сплаўляюць плытамі,
Што, як масты, заляглі паміж землямі княства.
Глебы багатыя працы цяжкое не просяць,
Толькі ў жніво скрозь пярэсцяцца жнеямі нівы, —
Статкі ў суцэнні узлессяў пасуцца на волі,
А у лугох — табуны скакуноў хутканогіх.
Дар нашых ніваў, лясоў прадаем мы за мора
Іншым краям і, няхай мы раўня па багацці,
Цэнім заморскае менш, чымся родныя пушчы.
Княства Вялікае нашае — край дабрадзейны,
Больш, чым красу ў сваім моры зялёным хавае.
Ён — і складніца жывіцы, й смалы карабельнай,
Скуркаў куніцы, і мёду, і воску, й дзічыны.
Так што чужынцы-купцы трасянуць калітою
Могуць цяжкой, не скупіцца на торжышчах нашых.
Знойдуць усё: і сасну карабельную, й дубу
Сціргы, й драніцу на дахі чужым багацеям
Тамка, дзе лесу няма. Нашы пушчы надзіва
Борзда растуць. Не знайсці ґэткіх волатаў-соснаў,
Пэўне, нідзе. Шчодра нас надарыла прырода!
Водараць пахамі краскаў лясныя узлессі —
Месца ўлюбёнае вёскаў на гульні ды йгрышчы,
Бортнікі нашыя дуплы дзяўбуць у камлішчах
Дрэваў старых і ўжо маюць вуллі неўзабаве.
Вёснамі — птушкі лясной не палічыш у пушчы,
Б'юць яе стрэламі ў нас, а часамі й мушкетам,
Тых певуноў, аб якіх яшчэ Пліній нам піша,
Ў пушчы без ліку. У нас тут іх клічуць глушцамі.
Птушка важкая, вагою гуся перавысіць,
Пах асаблівы глушцоваму мясу ўласцівы.
Большай уцехі нямаш, чымся бачыць, як певень,
Трапна падбіты, падскочыць... і падае долу!

З цягі нясе паляўнічы дзве нібы здабычы:
Страву для цела, адлі і спажыву для духу.
Дзе ні паткнешся — майструюць ці сеткі, ці пасткі:
Гэтай не зловіш — у гэную трапіць дзічына.
Лесу закон скрозь адзін для здабытчыка-лоўцы!
Гэткім прырода наш край надарыла багаццем,
Што лішкі тутка даюць нам свабоду здабычы:
Ёсць у ашчадных удосць і птушыны, і звера,
Процьма марнуецца. Бачыў я сам нерастоўі,
Поўныя дохлае рыбы, што сетку мінула.
Горш із даглядам: дзічэюць сады год па годзе,
Збожжа не родзіць на нівах, нязжатых улетку...
Наша Айчына — краіна загадкаў і дзіваў!
Можа, так Бог загадаў, каб усё было вольна,
Мо з чараўнічае моцы расце ўсё, каб згінуць?
Часта з трывогаю думаеш: чым растлумачыць
Сілу, што свомая зёлам паўночным ды словам,
Песняў уплывам магутным? І часам здаецца
Гэта ўсё казкаю мне чараўніцы Медэі[5]...
Словы мае — найшчырэйшая праўда. Я знаю,
Жорстка карае Хрыстовая вера паганых,
Тайна звязаных із моцамі зла чарадзеяў.
Як іх даюць, з памагатымі, на катаванне!
Хопіць таго, каб пайшлі пагалоскі ў народзе:
«Ён, бач, вядзьмар і ціхцом із нячыстым вядзецца!»
Схопяць уміг бедалагу, павяжуць і рукі і ногі
Й кінуць з высокага берага ў вір галавою!
Бачаць, што топіцца, — што ж, вінавайца — бязвінны,
А як не топіцца, лічаць, што вінны напэўна!
Гэткія кары ці раз назіраў я: ў прадонні
Б'ецца ахвяра звязаная з хваляй, прабуе
Рынуць у вір з галавою, а натаўпы прагна
Ходанне гэтае сочаць, клянуць, гарлапаняць!
Бачачы гэткае, я камянеў ад уразы, —
Мрсцілася, быццам вада — не вада, як заўсёды.
Суне вось хваля, здаецца, — канцы... праглынула...
Не, не кранула, ўцякае... жыве йшчэ ахвяра!
Справядлівейшы агонь: і чарадзея, і ведзьму
Ён пажарэ ўсё адно як агідных зладзеяў...

Мо што да словаў маіх вы займелі сумневы?
Верце! Ў Літве адбываецца гэткае яўна.
Я толькі праўды трымаюся, хай, як вядома,
Нат у звычайныя выдумкі, бабскія казкі
Верыць гатовыя часта й разумныя людзі.
Кіньма жа казкамі трызніць, спрабуем цяжару
Трошкі лягчэйшага: знойдзем бароў насалоду.
Шчодра табе, чалавеча, адкрыла прырода
Свету прывабнасць, а дзе ж твая будзе падзяка?
Першапачатная гожасць і траваў і дрэваў,
Статкі лясной зверыны, баравая дзічына, —
Ўсё захапляе а цешыць мужоў дабрародных,
Пасля паходаў прыбылых увосені ў пушчу
Папаляваць, адпачыць ад вайсковых цяжараў.
Праца й спачын тут — найлепшая страва для духу,
Цела гартуе яна і старэчую немач
Аж на даўгія гады адганяе і гэтым
Спраўнасць захоўвае й век падаўжае смяротным.
Гэта дазнаннем пацверджана: сунецца старасць,
Цела ж здаровае, слых непрыглушаны, вуха
Ловіць найменшыя шэляхі, добрае й вока
Мэту бясхібна здалёку ужо прыкмячае.
Практыкай лепшай для вока ці лекам для вуха
Ловы лічу я із іхнай няспыннай старожай.
Вуха і зрок — памагатыя нам у прыгодзе,
Калі, прыкмеціўшы лоўчага, зубар злаўчыцца,
Каб вас адолець не спрытам, дык моцай сваёю.
Ён, што з прыроды напорысты, кемлівы, грозны,
Ўзагрудкі пойдзе, й нічога ўжо вас не ўратуе...
Зжыўшыся з лесам, дасведчыўшы сам усё гэта,
Я ўваскрашаю так вобраз праўдзівы і знаю,
Што для каго — гэта праўда, а хто не дасць веры.
Хай будзе й гэтак... Я песню на суд справядлівы
Гэта стаўляю. Няхай яе згодна із правам
Тыя асудзяць, што працаю сталай у музы
Ўменне займеў лепш цаніць і пісаць, чымся тутка
Сам я, і ў часе кароткім, і спехам, накідаў.

7

Вецер падзьмуў, і залівісты брэх у гушчарах
Чутны мацней. Колькі шчырае жарсці ў нас будзяць
Водгукі ловаў! Як сэрца трапеча, пачуўшы
Шум у вяршалінах дрэваў! Плыве ён, як хваля,
Раз — ападае, раз — зноўкі ўзносіць у неба.
Злое рыканне чуваць, нечы віск... Што за ліха?
Гэта ўзнялі медзвядзя у бярлозе ці хтосьці
Раніў стралой вепрука... Не пабачыў — не скажаш,
Як атрыманыя раны й магутнага зубра
Могуць раз'юшыць, і звер, вар'яцеючы, глуха
Ровам гушчары ўстрасае, раззявіўшы ляпу.
Гнеў у вар'ята яго абярнуў, ён — жахлівы!
Зрок, спадылба, злосна кідае іскры наўкола!
Аж камянееш з жуды, калі горлам прадонным,
Хрыпла рыкаючы, гойсае ён паміж дрэваў,
Хочучы растрыбушыць вас, — страшэнная з'ява!
Варта яму аказацца — й турботаў без ліку
Ўраз у цябе: і трывога, й жуда, і наважнасць!
Ці ж апануеш ты ўсё гэта ў буры пачуццяў,
Ці зразумее цябе, хто іх сам не дасведчыў!
Праца нялёгкая ў нас, ды ці хто параўнае
Нашыя клопаты з важкай бядою Айчыны?
Як тутка лекі знайсці, яе немачы сходаць?
Думкі, адлі, павяртаюць да ўдачаў лавецкіх,
Больш бо здароўя для цела у іх, чымся ў леках.
Кожны спяшаецца справамі ловаў заняцца,
Сцёгны свае натаміць несупыннай хадою.
Як жа ж у змрочных барох гэткай працы цурацца,
Злую нуду не гнаць прочкі здаровай размінкай?
Выкпіўшы ўсіх эскулапаў, лавец гэтым самым
Чуе сябе юнаком, дай, нарэшце, мікстуры
Сродак у нас не адзіны, аж чэрава пухне
Й вусцішна нават, што лопне ад зелля знячэўку!
Сівер паўночны — драбніца для моцнага духам,
Лоўца зацяты дасць рады й турботе й нягодам.
Неперабарлівы, нат і без ласых прысмакаў
Ён і здаровы й пад'еўшы, аж думаеш часам,
Ці не аддаць перавагі жыццю звералоўцы?
Часу нястача пыніць мае гэтта развагі,

Ўсё-ткі апіс палявання на грознага звера
Я папярэджу паданнем народа Паўночнага краю:
Зубар — змагар, браць яго трэба ўзагрудкі, сілай,
Не ашуканствам: стралою здалёк ці мушкетам.
Вераць спрадвек бо ў народзе: ён пушчу пакіне,
Калі ў сутычцы ўжываеш не моц ты, а хітрасць.
Пэўне, паданням старым хай якога народа
Свомае ўсё растлумачваць таемнаю сілай,
Праўды ж у казках няшмат, я лічу, бо каб нават
Гэткае штосьці й было — гэта выпадак толькі.
Я, адкідаючы домыслы, тое пяру давяраю,
Што давялося самому дасведчыць ці бачыць.
Мне ці ж баяцца казаць аб трафеях Дыяны[6]
Або адной із паплечніцаў ловаў багіні!
Мо прыгадаць тутка трэба і лук Апалона[7],
Стрэлы у цёплай крыві пранізанага звера!
Ўсе усхваляюць Юпітэра[8] або Юнону[9],
Я ж паважаю Ісуса і Госпада Бога,
Сэнсу не бачу у блытанні праўды із байкай.
Мець ■ хацеў бы дазвол, хай сабе і ў скароце,
Праўду ўсім тым расказаць, хто высочвае дзівы
Ды старадаўніх памылкаў ману паўтарае.
Праўда — ўнутры. Пэўне, Плоцкі наш біскуп Эразмус[10]
Тых не пахваліць, хто Госпада Бога зніжае.
Ён толькі тое у хорам святы дапушчае,
Што і прыстойна, і ў згодзе із станам святарскім.
Я, служка верны ягоны, вось тутка й прабую
Словы ўжываць, што майму спадару даспадобы.
Гэта прычына, чаму ў маю песню трапляе
Штосьці з рэлігіі нашай. Вы ў ёй не шукайце
Ні асалодаў жыццёвых, ані весялосці —
Лёд і снягі закавалі крыніцу натхнення,
Краскаў нямашка на гэткім няўробленым полі.

8

Ўлетку ў сутычках усобіцаў собскіх па шыю,
Нашыя ратнікі маюць узімку спачынак
І ўзнагароду: звярыныя ловы у пушчы.
Ці не ў Літвы пераняў Марс[11] стары ейны звычай —
Нат спачываючы, меч гартаваць на марозе?

Войны й сутычкі! Яны у мяне выклікаюць
Гнеў і пакуты. Адны, год па годзе, сам-насам,
Йдзём ваяваць мы за ўсіх, за святое братэрства.
Вораг наш край аблажыў, каб ушчэнт, із карэннем
Знішчыць і нас, і Хрыстовае ймя у краіне.
Злодзей-чужак уварваўся у нашыя межы,
Весціць нахабна, што йдзе ён не дзеля здабычы,
З Божым іменнем адно і ад Божага ймення
Топіць людзей у крыві ды выпальвае сёлы...
Там, дзе арда пабыла — скрозь адны папялішчы
Ды груганнё і сабакі здзічэлыя. Лепей
Тутка ж сканаць, чымся жыць пад пятой пераможцы
Доляй нявольніка, век пад ярмом і ў пакутах...
Караю Божаю нехрысцяў нам не спалохаць:
Вера й парадкі чужыя у іх у пагардзе.
Пынячы орды грудзіма сваймі, як заставай,
Мы падупалі, мячы нашы целы пасеклі,
Кроў наша льецца ракой, пераймаючы поступ
Зграяў варожых, тымчасам — шчыты нашы ў шчэрбах
Скрозь ад няшчадных удараў, бо ворага зброя
Над галавою не нашай адно, і ахвяры
Нашы па тое адно, каб сябрам даць нагоду
Сілы сабраць ды ўлучыцца у бой із ардою.
Нашых суседзяў бяда шчэ як след не кранула,
Певень чырвоны іх стрэхаў стральчастых не кратаў,
Іхнія дні ціхамірна мінаюць і сяння,
Толькі таму, што наш край палымнее ў пажарах.
Ім — памагчы б нам, яны ж выступаюць у згодзе
Шчыльнай з чужынцам у словах і чынах, мяркуюць
Вомірг на нашым загіне узняцца, пыхліўцы!
Можа, шалёныя ўсё-такі ўсім, што тут гінуць,
Некалі лекі й прапішуць, ды будзе запозна!
Мае хто вочы — пабачыць, а вушы — пачуе:
Недзе грыміць, перуны ды маланкі ўжо блізка!
Прага захопаў, міні варагоў стараною,
Смягнуць калі ж, хай міжсобку грызуцца зацята!
Хай скрозь насякне зямля іхнай чорнай крывёю, —
Нашы снягі напіліся ўжо нашай чырвонай!
Смага падбояў для іх жа саміх нарыхтуе

Путы грымлівыя й ім і нашчадкам навечна!
Што наканована — будзе! Гаспод непадкупны:
Прыйдзе і помста і кара на ўсякую погань.
Час ахінуцца, ачуцца! Няхай яшчэ зводдаль
Бура грыміць, але чорная, грозная хмара
Борзда імкне... І нашэсце — падобнае смерці.
Розумам жах небяспекі, як сам не пабачыў,
Сцяміць няможна, ды заўтрашні дзень пад пагрозай...
Ты ж, наш суседзе, адкажаш, калі твае месты
Й сёлы пачнуць разлягацца і плачам і стогнам,
Каяцца будзеш: дзе ж нашыя моц і адвага
Гэта былі? Як маглі мы сваёю ахвотай
Шлях адчыніць пагарджаным усімі паганцам?
Ім, што палон і нялюдскую долю рыхтуюць
Нам, і суседзям, і нават далёкім народам!
Як жа ж маглі мы наклікаць навалу, якое
Хопіць і дзецям, і ўнукам, і праўнукам нашым!

9

Што ж распачаць, наракаць нам? Усё разумеем...
Ціха у пушчы. Няхай жа ж пачуецца зноўку
Гусаўца[12] голас аб нашых вялізных жывёлах!
Як меркавалася, пойдзем у нетры лясныя,
Там, згодна правілаў нашых адвечных лавецкіх,
Складзена сценка із сцятых таўшчэзазных дрэваў,
Што углыбкі адыходзіць на дзесяць-пятнаццаць
Міляў італьскіх, з мноствам драбнейшых адсекаў.
Тых, што ў сярэдзіну трапяць, сцяна абкружае,
І безупынна старожа глядзіць, каб праходы
Былі зачынены й звер з агароджы не выйшаў.
Лёгка увойдзеш, а выйсці — не выйдзеш: пільнуюць.
Звер патрапляе ў загон без вялікіх турботаў,
Нат не прыкмеціць, што выхады ўраз завалілі
Моцнай завалай. На пасбішчы быццам спакойна,
Мы ж, паляўнічыя, звера з загона цікуем.
Ён ужо ў пастцы, і мы паляваць пачынаем.
Страх — нам нішто, хай навокала скрозь небяспека:
Сябра дзесь побач, а прыйдзе бяда — і нямашка.
Верны слуга спадару у сутычцы — не помач,

Клічу ў сумятні ні бацька, ні сын не пачуюць!
Собскую справу сваймі ты бароніш рукамі,
Кон свой трымаеш у іх жа, а выпусціш — згінеш.
Важыш жыццё бо, а схібіш — пра літасць забудзься...
Існасць загаду ўсім ясная — наступ наперад,
Перамагчы ж, па магчымасці, трэба бяскроўна.
Выручыць конь хутканогі, адскочыць ад смерці,
Толькі у гэтым ратунак і ў гэтым надзея!
З намі наш князь, ён кідаецца ў гушчу змагання:
Хто ж бы даў послух нясмелым, пайшоў з баязліўцам!
Як перад боем з татарамі зброя асілка
Мужнасць у воях распальвае — знак перамогі, —
Так і на ловах літоўскіх адвага старэйшых
Іхнай удачы у ходанні й славе не шкодзіць.
Чую: няўзнак зноў пяро маё з простай дарогі
Гэта сышло, каб табе, ойча наш Жыгімонце[13],
Славу аддаць, прыгадаць дасягненні у справах
Важных у хаце й важнейшых мо йшчэ па-за хатай.
Гэта не проста, мне ў гэтым ніхто не паможа,
Тут бо, за межамі пушчаў, маўчыць твая слава,
Тутка нялёгка цябе ўсхваляваць, дык дазволю
Усё ж прыгадаць твае ходанні з ворагам хай бы...
Нам бы — ціхога жыцця, ну, а словаў ніхто не шкадуе.

10

Вось ён стаіць у гушчары, варожыць, што будзе!
Долі чакае... Яго й апяем мы у песні.
Часта у вершы апісваюць цэлыя статкі,
Мы ж на адным ім увагу із вамі запынім,
Сілаў не стане сказаць аб усіх бо, ні часу!
Збаю, але аб адным, што, бяды не пачуўшы,
Ў пастцы, ў мяне на ваччу, апынуўся знячэўку:
Выхад старожа замкнула і рынулі стрэлы.
Імі увомірг апераны, ён ірвануўся
Й трапіў на дзіды, што лоўцы сыпнулі з засады,
Шыю, бакі пранізалі. Напаснікаў зрокам
Палячы, волат зароў, раздзімаючы храпы,
І, як віхор, закруціўся, падскочыў, памчаўся.
Коннікі з гіканнем мкнуць наўздагон, пераймаюць,

Тупат да зораў шугае, а зубар, як бура,
  Йрве праз паляну, наперадзе — сценка, з разгону
Хоча яе пераскочыць, на жаль, завысока!
  Стаў, як укопаны... Як ратавацца? А ў цела
Зноўку убілася з сыканнем нечая дзіда.
  Лютасць кіпіць, палымнее пагляд і бруіцца
Зыркая кроў із глыбокай гарачае раны...
  Дзе ж варагі: ён шукае, гатовы змагацца,
Змяць іх, раструшчыць, і першыя ўдары кіруе
  Ў зграю сабак стогалосых, дзярэ, раскідае,
Потым — імкне на людзей із жахлівым рыканнем.
  Людзі — уроссып, наслепа кіруючы коні.
Хрыпам, рыканнем, галёканнем поўніцца пушча!
  Лоўцам скакаць напрасткі няма сэнсу й надзеі,
Можна адно ратавацца, адскочыўшы набак:
  Гнеў і разбег паўз лаўцоў яго мо перакіне,
Велічы ж гэткай нялёгка звярнуцца у бегу!
  Конны ланцуг замыкаецца. Звер мітусіцца:
Цяжка разгон паўстрымаць, пачынаючы наступ.
  Целам важкім налятае ён бурна, падскокам,
Бачыш — угрэўся, сапе, а калматая грыва
  Б'ецца на ветры, і ўвесь ён — нястрымнае ймкненне!
Доўга яшчэ звер з ровам бушуе ў загоне,
  Сочыць, на кім бы памсціцца, гарачку спатоліць,
Зрок яго люты спаліць вокал мог бы ўсё чыста,
  Й прыкладам гэта праўдзівым пацверджу я зараз:
Нехта з мушкетам, вядома, не простага роду,
  Стрэліць дазволіў сабе ў зверыну — і пацэліў.
Голлем схаваны, бач, песціў дурніца надзею
  Выцалець неяк і толькі сачыў із трывогай,
Скуль спадзявацца нападу... Зайгралі сабакі:
  Блізка напаснік! Аж, ломячы з трэскам ламачча,
Снег раскідаючы, ў хмарах бялявае пары
  Звер аказаўся знянацку, абкружаны зграяй,
І затрымаўся, сабаку адкінуў ды зрокам,
  Поўным шалёнай злабы, утаропіўся ў хвойнік, дзе ў жаху
Бедны стралец здрыгануўся: няйначай, прыкмеціў!
  Хай ад яго быў наш зубар даволі далёка,
Страх чалавека уразіў: бядак із мушкетам

Так, як стаяў, і сканаў з аднаго перапуду!
Дзіву даваліся людзі з канцоў баязліўцы,
Труп небаракі застыглы знайшоўшы назаўтра.
Чулі яны, што забіць можа зрок базіліска[14],
Ды вось памёр жа ж бяздольны, някранены зверам,
Гэты юнак, баязлівага нораву й сэрца!
Сам я быў сведкам здарэння, яшчэ не забыўся
Нават напісу, што нехта зрабіў на магіле:
«Тут пахаваны Лаўрук, што забіты не зубрам —
Выглядам толькі ягоным. Ці ж лёс вінаваціць?»

11

Бачыў я шмат, ды найбольш мяне ўсё ж уражалі
Звера падскокі — о, гэтая лютасць дзікая!
А як не можа знайсці, што б скрышыць ці раздзерці,
Храпы свае раздзімаючы, ловіць паветра,
Нюхам сваім найтанчэйшым уцягвае пахі!
Ўсё, што жывое ці мае адзнакі жывога,
Топча, прабуе на рогі узняць, пакалечыць,
Вінных шукае, хто важыўся раніць асілка.
Скокі ў два-тры дастае нехлямягу-ахвяру,
Дзікім рыўком падкідае ўгару, прабівае,
А недабітага, хай гэта конь або коннік,
Зноўкі на рогі бярэ ды камечыць няшчадна,
Ажно пакуль небараку ушчэнт не раздушыць.
Кроў застывае, як гэткую бачыш расправу:
Стаў конь дыбка, ашалелы, з распораным брухам,
Коннік завіс у страменні, крывёю заліты, —
Вось наляцеў, абярнуў абаіх і з-пад насту
З мешанкі кроў адно льецца цурком неўзабаве.
Як на бярлог медзвядзя, на дзіка ён нарвецца,
Ўвомірг парве, аж шмаццё разляціцца па дрэвах!
Часам траляліся нам і казлы у гушчарах —
Лютага зубра ахвяры на сцежцы вузенькай.
Тыя, хто бачыў ягоную сілу, мне сведкі:
Хай ён з разгону з аленем ударыцца часам, —
Скрозь адаб'е ўсё нутро — і вантробы і сэрца
Параскідае вакол па лапчастых ялінах.
Цяжка ўявіць, не пабачыўшы, гэткую з'яву:

Птушкі драпежныя ймкнуць на баёвішча з граем,
Дзёрзка дзяруць на шматкі яшчэ цёплыя часткі
Цела павіслай дзесь высака ў голлі ахвяры...
Неверагодна, а бачыў: конь, зліты крывёю,
Б'ецца, канаючы, коннік жа ўдоль галавою
Недзе вісіць угары... А бывала й такое:
Ўзняў ён на рогі каня, але гэтак, што коннік
Проста з сядла шугануў на сасну, цалюсéнькі!
Прыкладаў стане, ці мала іх ведае пушча,
Лішнія ж словы зніжаюць давер да расказу.
Той, хто зубровую лютасць не бачыў, не здольны
Сведчанням верыць, як прэ ён, раве, ашалелы,
Быццам бурлівая хваля ў часы навальніцы,
Як ад грымотнага рыку страсаецца пушча,
Аж пад нагамі зямля і ўздыхае, і стогне!
Але хай сцяміць, што помстаю гнеў не спатоліць, —
Будзе храпці перарывіста, голаў пахіліць,
І па рагох кроплі свежай крыві забруяцца
Проста у гурбы... не знаю, ці знойдуцца словы,
Каб апісаць нам належна жахлівую бойку.
Ён, быццам ветру удары, і дужы, і спрытны,
Ўвомірг змяняецца ў смерч, ураган, і, вядома,
Скон будзе доляй таго, каго бура заспее.
Снег палымнее й дыміцца на месцы забойства,
А на кустох ды на дрэваў сукох чырванеюць
Рэшткі ахвяры, й зусюль крыважэрныя птушкі
Плоймай лятуць за сваім дабрадзеем рагатым.
Ён жа ж, што кінуў быў, зноў падыходзіць,
Успора рагамі яе, пераверне, зноў кіне...
Скончыў, забіў, але ўсё-ткі усмак не памсціўся:
Цела ў шматах, растаптаныя косці, ды злосна
Гэтую мешанку пора ды трэ ён рагамі.
Коннікі ж звера прабуюць узноўкі раз'ярыць
І ў абцугі ўзяць: галёкаюць, дзідамі колюць...
Гэта бядой пагражае ці рэдчас, хай кожны
І спрытны, бо кон падвядзе — і загіне
Нат найспрытнейшы. Найлепш у сядле раўніною
Гнацца з гайнёю за зверам, ды іншая справа —
Пушчаю ймкнуць, дзе ўсё можа прытрапіцца часам:

Там і калоды гнілыя, і выкратні, й ямы,
Норы барсучыя, пні, прыхаваныя снегам,
Коўзкая лужына — бачыш, і конь спатыкнуўся,
Голле зламанае, лапы даўгія хваінаў, —
Ўсё гэта пасткі, з каня бо зляціш і загінеш:
Зубр не змарудзіць, імгненне — парве на часціны
Цела бяздушнае й высака ў голле закіне.
Цудам адважны ж ад звера ўхінецца, адскочыць.
Той налятае узноўкі, ажно і заколе.
Каб апісаць мог я тутка, адкінуўшы дробязь,
Толькі важнейшыя рысы лясное пачвары,
Хто яго ведае, стала б мне словаў ды часу
І як даўгая была б мая гэта паэма!
Судзячы ўсё апісанае, гэтыя ловы
З лікам вялізным забітых былі б мо шаленствам,
Змыць што не лёгка было б пачынальніку й славай,
Толькі ж усё гэта мела карэнь у княжэнне
Вітаўта[15], князя вялікай Літоўскай дзяржавы.
Тымі гадамі, калі моц слабела айчыны,
Трэ было ўздыму, вось князь наш бязмежныя пушчы
Ў стан баявы й абярнуў, дзе б нарошчываць сілы.
Часам спакойным, прадбачачы прышлыя войны,
Вояў сваіх рыхтаваў ён на ловах звярыных,
Чым прымушаў забываць пра нястачы й нягоды!
Ён — міратворца й баёў заразом пачынальнік,
Будучы князем, сваёю аголенай зброяй
Ставіў запын варагом і блізкім і далёкім.
Нават татарын, схіліўшыся ніцма, слухмяна
Лук свой зламаны яму аддаваў, зразумеўшы,
Што хай збіраў ён калым на прасторах літоўскіх,
Сам жа ж агіднай літоўскай здабычай рабіўся.
З тымі лічыўся князь толькі, каго, ўпадабаўшы,
Сам выбіраў, нат ардой кіраваў, захацеўшы.
Князю і ўсходні сусед слаў лісты з прапановаю згоды,
Хай і з багацця ды моцы Маскоўскія зналыя землі.
Турак і той прысылаў яму часта гасцінцы
З думкай таёмнай яго задабрыць ну і помсты
Князя літоўскага неяк не выклікаць часам, —
Трох, што трымалі ўвесь свет у трымценні ды жаху,
Прад ліцвіном пахіляліся моўчкі з пакорай.

12

Слаўнае гэта прызнанне не вырасла ў пушчы:
Шырыўся пошчак аб ім і усцяж і усюды,
Станам ваяцкім было тады кожнае поле,
Дні супакою — спачынкам між войнаў кароткім.
Конскія ў коле сусцігі, стральба на дакладнасць,
Скрозь, дзе ні глянеш, — спаборніцтвы, лукаў трымценне:
Моцы адзнака, і пэўнай рукі, і адвагі.
Лучнік, спакойна пацэліўшы ў клін жураўліны,
Правадыра у крыло патрапляў, не даткнуўшы
Цела птушынага. У небе, на дрэве, у хвалях —
Птушка — найлепшая мэта для стрэлаў, і білі
Ў пушчах яе, балатох, а тады ў падарунак
Князю давалі, ад сэрца, не для ўзнагароды.
Ў ловах нястомных жыццё — людзі мелі за гонар.
З першай парошай чароды лавецкія князя
Звера сціскалі у пушчы і, поўнячы нетры
Гоманам, крыкамі, гналі пад стрэлы ды дзіды.
Спрытна высочваць звяра у бярлогу лічылі
Справай штодзённай, а вырыне з логава, густа
Стрэламі ўкрыты ды рыне на смелага з рыкам,
Лоўкім ударам падняць яго трэба, й асядзе.
Гульні былі й прыямнейшыя — гонкі на спрытнасць,
Слаўная справа, калі мо за сотняю стадый
Мэту ўсталёўвалі: конна пакрыўшы адлегласць,
Перамажы ў хутчыні ды ва ўменні, спаборнік!
Толькі ў грамадах вось гэткія ўцехі бываюць!
З месца імкнуць скакуны чарадой, табунамі,
Ў лёце чуваць адно тупат ды коняў хрыпенне,
Вось, вось дапялі пярэдніх, зраўняліся ў гоне!
Зрок гаспадарскі злавіўшы, скакун падстаўляе
Пану спіну і з налёту ў імгненне мяняюць
Коннікі месцы на конях, адно ізлятаюць
Плоймай птушын калчаны ў пёрх стрэлаў, крыж-накрыж!
Цёмнаю ночай ізноў выдумляліся гульні,
Дзе пасароміць бы мог баязліўца адважны,
Ўсім пераможцам давалі заўжды ўзнагароды,
Ну, а хто схібіў, заслужваў і сорам і кпіны.
Часам ішлі аб заклад, што было шмат цяжэйшым:

Рэкі адолець шырокія ўплынь, хай чакаюць
Гушчы чаротаў плыўца, і віры, і глыбіні,
Б'ецца рака белагрываю хваляй у строму,
Рвецца з шаленствам дзікім і драпежным на бераг.
Звычай у коннікаў быў свае лукі ды стрэлы
Ўкручваць у клунак з адзежай і гэтак сухімі
Потым выносіць на бераг... Вось рынулі коні,
Пырханне чуеш адно, бачыш вушы ды храпы,
А на стырне, упіліўшыся ў грывы, мільгаюць
Конных галовы. Свабоднаю левай рукою
Кожны грабе, памагае каню выбірацца.
Ўсім нагароды давалі: вышэйшыя — лепшым,
Рэшце ж, як хто заслужыў. Неміналі нікога.

13

Выпрабаваныя доляй не раз і не двойчы,
Воі мастоў не шукалі, а рэкаў запыны
Перамагалі на конях, сухою выносячы зброю:
Княства для прышлых рыхтуючы войнаў, карысна
Гэтак адным рыхтаваннем ды працай патрапіць
Боязі й жахі змагчы і з нястачамі зжыцца.
Князь, ваяўнік найгартоўнейшы, большага шчасця
Нат не шукаў, чымся ўсцяж гартаваць сваё войска.
Годнасцяй першай лічылася ў князя адвага.
Сочачы пільна, знаходзіў ён сам адважнейшых
І на аглядах адразу й абдорваў іх шчодра,
А баязліўцаў, няхай і з багатага роду,
Не шанаваў, і была іхнай доляй няслава.
Вось як судзіў ён, суровы, але справядлівы,
Тонкім чуццём прыкмячаючы праўды адзнаку!
Злая мана перад ім пасцілалася ніцма,
Сам абвяшчаў ён прысуд, вінавайцы ж, як кажуць,
Тутка ж з пакорай праступствы свае прызнавалі,
Кары ды смерці прасілі — вяроўкі на шыю, —
Ведалі добра бо — літасці тут ім не будзе.
Горай за ўсё ілжасведкаў князь меў у пагардзе,
Іх аддаваў на жахлівыя ён катаванні, —
Суд справядлівы не смейце ашуківаць княжы!
Поглядам лютым услед выкрываў вінавайцу,

16 Зак. 634

Аж прызнаваўся ў мане парушальнік прысягі.
Жорсткі прысуд быў удзелам засуджаных, іх бо,
Ў скуры зашыўшы звярыныя, кідалі проста
Злоснай гайні ваўкадаваў, што іх трыбушылі.
Жорсткая кара чакала за хабар і суддзяў.
Недзе было, што гасцінцам суддзю падкупілі
Й княжы наказ абмінуць нешчасліўца наважыў.
Выкрыты быў ён, жахліва пасля катаваны
І, як навука для іншых, парваны на часткі.
Кожную сквапнасць князь нішчыў з карэннем, і гэтым
Сяння і заўтра заслужана славіцца будзе.
Справаў бліскучых ці мала заладзіў ён, гэта
Кожнаму ясна, як з песні маёй, паміж іншым.

14

Меў селянін адзін клопат — араць сваю ніву,
Сэрцы ж сялянскія князь гартаваў паляваннем.
Звер здабываўся ўсяляк, і найлепшай здабычай
Тая была, калі звера у стан прыганялі
Без пакалечанняў, ранаў, блізу што без шкоды.
Гэта лічылася скрозь дасягненнем найвышшым,
Ну, а з нядбайных маглі і спагнаць па загаду.
Трэба сказаць, што сяляне стараліся добра,
Ўсе даручэнні выконвалі пільна, адважна,
Нат і зуброў пакладалі да ног валадарскіх.
Што так бывала заўжды, я усё-ткі не веру,
Цвердзяць старыя, адлі, быццам гэта ўсё праўда.
Але пра кемнасць народную ў стаўленні пасткаў
Трэба сказаць без сумневу, што гэта — мастацтва!
Сценку з падвойных бярвенняў, падобную кліну,
Ў пушчы стаўлялі, рассоўвалі шырака перад,
Потым звужалі патроху, а ў сценцы засовы
Спрытна хавалі пад голлем ялін і травою,
Каб небяспекі не вычуў як звер асцярожны.
Ў світцы чырвонай лавец-заклікайла ўдоўж кліна
Раптам імчыць, меч зіхціць над яго галавою.
Зубр гэта бачыць, крывёй наліваюцца вочы, —
Ды парушальнік спакою ўжо згінуў, расстаяў:
Ёсцека лазы бо ў сценцы, лавец і схаваўся.

Звер, разагнаўшыся ў гоне, тым часам трапляе
Проста у пастку: засовы увомірг дарогу
Пыняць яму і наперадзе й ззаду — злавілі!
Бегма бягуць са схаванкаў лаўцы, абкружаюць
З крыкам пачвару, пятлю закідаюць на шыю,
Сцягваюць шчыльна раменне, а заднія ногі
Путамі моцнымі вяжуць, хаду запыняюць.
Непераможаны зброяй, атрадамі вояў не ўзяты,
Тутка таймуецца звер адно зменлівым конам...
Цела магутнага зубра скруціўшы вяроўкай,
Цягнуць яго, як гару, й дзікім жахам працяты,
Пеніцца люты асілак, але паддаецца,
Йдзе, дрыжучы, паўз натоўпы людскія ў няволю.
Звера, у табар прыгнаўшы, развязваюць, гоняць
Потым у чыстае поле, каб мэтай жывою
Коннікам княжым ён быў — біце стрэламі й дзідай
Ды набывайце каштоўнае гэтак дазнанне!
Як запэўняюць, не толькі на стрэлах і дзідах
Клалі знакі, але мэту жывую знакамі
Густа пярэсцілі, й той, хто дакладна пацэліў,
Узнагароджваўся ўслед як найлепш, бо за князя
Вітаўта тых адзначалі, хто цела жывёлы
Дзідай умеў пранізаць і глыбока й дакладна.
Вітаўта княжання час, я мяркую, названы
Найпрыгажэйшым не толькі з прычыны ваяцкіх
Княжых удачаў, але мо й таму, што над грошы,
Ўдачы ды славу стаўляў Вітаўт духа багацце,
Глыбака верыў у праўду Ўсямоцнага Бога...
Першы з народамі княства прыняўшы хрышчэнне,
Веры старое усе асудзіўшы памылкі,
Зманных паганскіх бажкоў ён спаліў і паставіў
Хорамы Богу Ўсявышняму. Быўшы пабожным,
Шчодра й святарства дарыў ён майном і зямлёю.
Славу пяяць адлі Вітаўту слаўнаму годзе!
Хай неахвотна, ягоныя дзеі мінаю
Тут я, бо зноў захапіўся, а трэба трымацца
Пільна згаданае тэмы — паўночнай краіны.
Дый пра зуброў быў бы час ужо скончыць спаміны,
Ходзячы ўкола, бо ўшчэнт я ад іх адхіліўся,

А, паміж намі, час быў бы вярнуцца да ловаў!
Крыкам, пагоняй загнаны і стомлены зубар
Здаўся, знясілеў нарэшце, астыгла і знікла
Лютасць, маўляў зразумеў звер, што скон ужо блізка.
Ўвесь упацеў ён і дыхае цяжка і з хрыпам,
Ногі ўжо ледзве трымаюць, і цела абмякла,
Вось-вось, глядзі, спатыкаецца, ўпадзе і сканае,
Гасне злаба уваччу, што яго паланіла...
Коннікі коні вядуць у гушчар, не марудзяць.
Вось смелым крокам, як звычай ім кажа, выходзіць
Сцяг юнакоў скончыць звера ва ўпор, вока ў вока,
Ўдарам клінкоў, і стаяць із дзіўною адвагай
Тварам да смерці хлапцы і з надзеяй на славу.
Вось узняліся клінкі, рассякаюць паветра:
Кожны заве да сябе спахмурнелага звера,
Ён жа, знясілены ўшчэнт, а усё ж ірвануўся
Слепа на постаць лаўца, й той адскочыў за дрэва.
Зубр развярнуўся, нацэліўся й раптам з разгону,
Быццам маланка, ў магутнае дрэва ўдарыў.
Голле ляціць у бакі, з трэскам сыплюцца трэскі,
Смерцяй лаўцам пагражае камель надламаны.
Пільна, малойчык, глядзі, уважай, бо нязважным
Гэтае месца наўрад ці на схоў надаецца!
Трапіла бачыць мне: смелы адзін паляўнічы
Меч упусціў, калі звер набліжаўся падскокам
Проста на дрэва, дзе той, скамянеўшы, стаіўся,
І каб сам лёс не прыйшоў бедаку з дапамогай,
Гэты юнак, пэўне, трапіў бы смерці ў абдымкі.
Шчасцем, аднак, было гэтае дрэва сасною,
Шапкай вялізнаю снегу прыкрытаю, вось жа
Як здрыгануўся камель, страсянулася й голле
Й белая снежная хмара згары сыпанула.
Смелы лавец знік на ймгненне ды зараз
Рынуў наўцёкі паўз белую ймглу — ратавацца!
Моцна ўжо ж кпілі сябры з юнака і з нягоды,
Быццам ад смерці ўцякаць — гэта сорам і ганьба,
Як і ў змаганні — да хуткай імкнуць перамогі.
Грымнуў удар — упіліся рогі у дрэва,
Ўзяўшы ў абоймы камель... Ды стрывала карэнне
Хвоі-асілка у пушчы ўрадлівым суглінку.

А як сасна баравая — быць пэўным яе немагчыма,
Хто за ёй стоіцца, з ёю ж пасполу і рыне.
Гэнае й буры з вятрамі не вывернуць, гэта ж
Гіне парой пад імпэтным зубровым ударам.
Ну ж і відовішча! Мкнецца сасну перакінуць
Зубар, здрыгаецца, кружыць, бадзе, у шаленстве
Слепне і розніцы болей не робіць між дрэвам
І чалавекам, рагамі камель разбівае,
Быццам ён — вораг, і пэўне ж мяркуе: забіты!
Нат не разрозніш у мітусі пары ды снегу,
Дзе паляўнічы, дзе — зубар шалёны, — абодвы,
Ёсць аднак розніца ў лютасці кожнага звера:
Шмат з іх і ў бойцы захоўваюць зрок непамыльны.

15

Ўсе яшчэ, думаю, ў памяці маюць здарэнне,
Што тут было за гадоў караля Аляксандра[16].
Гэта няшчасце магло б патапіць каралеўства
Ў горкіх слязах, ды Бог зліtаваўся — гора мінула:
У пушчы памост збудаваны быў моцны ў чатыры,
А можа, й болей падпораў — сачыць паляванне.
Ў коле магнацтва ды фрэйлін сама каралева
Тамка сядзела, ўнізé ж ледзь трывала юнацтва,
Каб найхутчэй паказаць свае спрыт ды адвагу
Ў бойцы з магутным і дзіка раз'юшаным зверам.
Жэўжык амур, на старой затаіўшыся хвоі,
Лук нацягнуў і наслепа пацэліў у сэрца.
Што ж, забаўляйся, свавольнік, гуляй у ахвоту,
Толькі не сяння, не ў пушчы! Юнак-паляўнічы,
Прыпадабацца каханай сваёй захацеўшы,
Зробіць мо рыцарскі жэст і напэўна загіне
Тут праз цябе нечаканай, бяздумнаю смерцяй!
Вось і зубры паказаліся з лоўчых гайнёю.
Ўсе на памосце замерлі і з месца ўзняліся.
Колерам зыркай вясёлкі блiснулі апраткі,
Золатам тканы узор па чырвоным і белым.
Ледзь гэта зыркасць у вочы дзікія шугнула
Правадыра, ён прыстаў, і ўпіліся паглядам
У варагоў. І загасла увомірг цікавасць,

Бо не скажу, каб відовішчам цешыцца гэткім
Тыя маглі, што злабою звяроў не кіруюць,
Гэта — нязвычна. Тут тупат пачуўся здалёку,
І паміж дрэваў, падскокам, прамчаўся, як вецер,
Статак зубровы, цаляючы ў гурт паляўнічых.
Раптам на луг, у няпамяці гневу, ўварваўся
Зубар-асілак, жахлівай крывавячы ранай.
Ён прыпыніўся, затрос галавою, прыкмеціў
Зыркасць страёў на памосце й пачаў прыглядацца,
Быццам пазнаць намагаўся асобныя твары:
«Цешыцца смерцю маёю сышліся? Чакайце ж,
Вось пакажу я вам смерць, што й вякі не забудуць!»
Тутка зароў ён, дзьмучы у магутныя храпы
(Гэта сігнал небяспекі для кожнага ў статку),
Скончыў, ударыў рагамі і выбіў падпору.
Мост затрашчаў, і каб, воляю кону, ударыў
Зубар яшчэ, ўсё бы рынула, шчодрай крывёю
Зліўшы зямлю ды фарбуючы стромыя рогі.
Не, не магу я ўявіць нат, ушчэнт скамянеўшы,
Што б нарабіць мог звер гэта успененай пысай!

16

Быў ён загнаны усё-ткі й паранены. Чэзне
Гневу шаленства у ім, хай мо лютасць не згасла:
Сцёбае злосна хвастом, ажно свішча паветра,
З ляпы ж вужакай віецца язык велізарны,
Ды вырываецца хмараю пара із храпаў.
(Моц непаўстрымную сцюжа бадзёрыла пэўне,
Але ж ужо, хай мароз, і яна занікае.)
Дыхае важка, трымціць звер, бо гнеўная лютасць
Бродзіць шчэ ўсё-ткі пад скурай, у чэраве спеклым,
Пеністым потам кіпіць, ды прыгледзься — і бачна:
Згоднасці ў рухах нямаш, а ўздыхне — і на грыве
Космы падскочаць, — адразу ж іх вырве са злосцяй,
Б'е капытамі па бруху, рве, тузае цела.
Ліст скаланецца пажоўклы на голлі дубовым —
Рыне на дрэва, націсне, паломіць на трэскі,
Сцень мільгане, шугане між галінамі птушка, —
Топча, бадзе тое месца, за сценем нясецца...

Тысячы розных нягодаў, прыгод, успамінаў
Раптам вяртаюць цябе ў дні твае маладосці!
Чую я хібу у складзе сваім, раз-паразе
Сказ мой драблю і ў адцягванне быццам гуляю,
Словам пустым захапляюся... Будзь жа ж цярплівы
І пачакай абурацца, чытач мой, — развязка
Блізка ўжо: лоўчы за дубам, а зубр наступае.
Вось ён ля дрэва, ўпрытык паляўнічы і зубар,
Ані паўкроку ў бакі, дык трымайся, бо схібіш —
Зразу ж цябе, безбароннага, рогам дастане.
Круцяцца, нібы ў танку, й паляўнічы і зубар,
Скачуць з абодвух старонаў навокала дуба.
Лоўчы мяркуе клінком пад лапатку патрапіць,
Звер языком яго ўчэпістым мацае, ловіць.
Ну, а не дай Бог, падчэпіць за полы — і годзе, —
Скон непазбеглы: памне, забадае, загубіць.
Каб як ад гнуткай змяі языка адкаснуцца,
Спрытны лавец коле звера кароткім ударам —
Захад адзіны, дзе й стрэлы клінку саступаюць, —
Бачыць лавец, што з часінаю кожнай слабеюць
Ногі пад зубрам, падцягненасць цела знікае.
Зноўкі, адлі, страпянуўся, бадзе звер — хавайся!
Чуеш, як духам гарачым цябе прыпякае з-за дуба,
Бі! І клінок яшчэ раз патрапляе бясхібна.
Важка, ахутаны парай, асеў звер, канае.
Недзе ўжо іншы раве, й каб з ахвяраю скончыць,
Трэ праявіць літасцівасць — дабіць не чакаўшы,
Спрытным, апошнім ударам, наблізіўшы гэтым развязку.

17

Рог затрубіў. Пераможца у коле сяброўскім.
Жарты, уцеха. Ля ног звер, ужо ўтаймаваны.
Ў пушчы хаваецца іншы, ды я не прабую
Рынуць пагоняй за гэным, бо час падганяе.
Годзе забойстваў! Разбуджаны розум трывогу
Кажа ўладарна мне ўзняць, развітацца з разбоем.
Дось ужо Марсу ў крыві тапіць свет хрысціянскі,
Веры асновы ўстрасаючы скрозь і усюды.
Сяння хісткая яна, нат на полі змагання,

Губяць яе варагі ці свой меч рассякае,
Даўшы чужынцам на здзек, на загін. Застаецца
Толькі ўсяго, што на літасць нябёс спадзявацца.
Ды, патануўшы ў злачынствах, ці нам даваць веры
Ў хуткую змену, ратунак, — не смеем нат думаць!
Спіць бо сумленне зямлі ўладароў непрабудна,
Іхныя ўчынкі, на жаль, — не клапоты аб свеце.
Рупіць балей ім за ўсё, каб мячы баявыя
Лепш навастрыць, як мага больш пазносіць галоваў.
Бойкі, напады, міжсобіцы, братазабойствы —
Вось іх заняткі й сапраўдная ўцеха для духу.
Гінуць з абодвух бакоў вoi ў гэткіх сутычках,
Што бо князям слёзы людскія, кроў і пакуты,
Ім — панаваць каб адно, захаваць сваю ўладу,
Вось і злачыняць, і з лёсам падданых гуляюць.
Ворагі, бачачы гэткае, кпіны з нас строяць:
Княжы высокі пасад ёсць зарукай апекі,
Ну, а яны, як ваўкі, йрвуць і ка́туюць ніцых.
Вось да чаго можа лютасць сляпая давесці,
Глыбака ў сэрцы з жалеза злаба ўкараніцца!
Лютыя сваркі ды бойкі, злабу, варажнечу
Ўцяміць нялёгка, ў адказнасці ж, горы — народы.
Але бяды ўладаром да спакою людскога
Ёсць ці на свеце хто гэткі чуллівы, каб меч свой
Нашай крывёй не мачыў ужо, толькі ж у княстве
Гора дагэтуль пануе й скрозь нішчацца людзі.
Туркам бязлітасным цэрквы ганьбуюцца, месты
Паляцца й вёскі, і орды чужыя палоняць
Нашу зямлю, гасяць смагу бязвіннай крывёю
І сысункоў, і старых ды агіднасці чыняць:
Ўлонне цяжарных жанок успароць ятаганам[17] —
Гэта забава для вылюдкаў, што ж ты ім зробіш,
Як, абарону зламаўшы, забраўшы ў нас зброю,
Ім ці ж баяцца, што голы паўстане нявольнік!
Ой, як сляпы наш народ, як бяздольныя людзі!
Мы — яшчэ натаўп, князі ж па-даўнейшаму душаць
Кожную, дробную нават, праяву бунтарства,
Ймкнуцца ці гэтак, ці так знесці кожнаму галаў,
Хто за правы свае ўстаць і за Бога патрапіць.

Як толькі Госпад, наш Збаўца, у ззянні нябёсаў
Бачачы гэткія з'явы зямныя, знаходзіць
Гэта пабожных, што вераць у Божае слова!

18

Дзева Марыя, калі Тваё ймя я накрэсліць
Тутка наважыў, рука затрымцела у жаху.
Ніцы нявольнік Твой, я прад Табой із маленнем
Кленчу, не знаючы, што мне сказаць, а што змоўчаць.
Вось, я маўчу, але знаю — гаднейшая ўсіх Ты,
Каб галасамі стварэнняў зямных маліцвенна
Свет зазвінеў, пеючы Табе вечную славу.
Розум не знойдзе, язык наш не вымавіць словаў
Пышных удось, да Цябе каб належна звярнуцца!
Верачы ў любасць Тваю, разумеючы ўсёдараванне,
Дзева, Тваё, прад Табою згінаю калены,
З сэрцам трапёткім, збялелым, зламаны бярэмам
Важкіх грахоў, і з пакораю ніцай прабую
Вымаліць, Дзева, Тваю ■ над намі апеку.
Знаю, ці ж мне да Цябе з гэтай просьбай звяртацца,
Толькі ж малю — заступіся, бо ж Бог чалавеку
Ўзвышнай Цябе Апякункай прызначыў. Як сонца
Свяціць паставіў, і Ты нам — памога й апека.
Як пад матулі крыллём мае схоў птушанятка,
Гэтак звяртаемся й мы пад Тваё апякунства,
І як дзіця — немаўля маці туліць і песціць,
Так утулі Ты і нас, Твае дзеці, што гінуць.
О, найсвяцейшая, чыстая Дзева Марыя!
Послух дай нашым маленням, ратуй нешчаслівых!
Зрок свой звярні на палі нашы й нівы, дзе войны
Жорсткія ймкнуць, быццам хваля марская па хвалі,
Глянь Ты, якое бясчынства мячы нам спраўляюць
Над хрысціянамі, хай вера іхная ў згодзе
З Сынам Тваім, хай жадаюць яны супакою.
Розум здаровы вярні ўладарам нашым, Дзева,
Каб абавязкі забытыя успомнілі знову.
Ўсе ж яны ў гэтым вар'яцкім, разбэшчаным свеце
Ў словах адно міратворцы, ваўкі жа ж ва ўчынках.
Не прычакаць нам, пакуль яны працверазяцца,

Край наш тым часам злы вораг палоніць і гоніць
    Бедных людзей безбаронных на здзек і пакуты.
О, запыні пал варожы няхай бы на ймгненне!
    Час не стаіць, і адцягванне горшае смерці!
Папскі пасад Адрыяна быць можа памогай,
    Дык не чакай, о, Марыя, хай з ветрам паверне
Ветразі ён і прыпыніць мячы варажнечы,
    Хай ён пакажа сляпым і дурным небяспеку
Ды пакарае ўсіх вінных уладай закону,
    Гэтак, каб той, хто не спэцкаў яшчэ сваё ймення.
Меч наш усюды й заўжды кіраваў справядліва
    І ўладара ўзгадаваў бы з сябе, што патрэбны
Кожнаму конча сягоння ў хаосе сусветным.

# *Успаміны*

## АЎТАБІЯГРАФІЧНЫ НАРЫС

Мне часта прыходзіць на думку: ці чалавек ужо родзіцца паэтам, музыкам, мастаком, ці ён родзіцца проста здольным, і абставіны ўжо вырашаюць потым, на працягу часоў, кім ён станецца?

Я думаю, што хутчэй гэта апошняе.

Я, напрыклад, насамперш пачала маляваць. Ад найменшых год мяне цікавіла ўсё навакол, асабліва колеры. Яшчэ зусім малым дзіцём я гадзінамі магла глядзець на вячэрняе неба, сачыць у ім змену адценняў, затрымлівалася перад цікавага кшталту дрэвам, незвычайным тварам. Як толькі я навучылася трымаць аловак у руках, мне захацелася перадаваць гэта ўсё на паперы. Не было паперы — і я пэцкала вокладкі кніжак, драпала кійком гладкія сцежкі нашага саду, за што мне часта даставалася. Разумеецца, малявала я няўдольна, па-дзіцячаму, аднак памятаю, дарослыя, знаёмыя бацькоў, разглядаючы мае дзіцячыя малюнкі, казалі: «У ейных постацях ёсць рух» або: «Цікавыя малюнкі як для дзіцяці». З гадамі расло і маё ўменне. У школе я крыху пазнаёмілася і з тэорыяй, і з перспектывай. Мае малюнкі з гіпсавых галоваў і маскаў былі найлепшыя ў класе. У мяне былі таксама вялікія здольнасці да перадачы падабенства. Памятаю, будучы ў 5-м класе гімназіі, я намалявала вуглём партрэты ўсіх маіх сяброўак, як казалі, вельмі падобныя. Мне вельмі хацелася маляваць. Часам па некалькі дзён мяне праследвалі які малюнак ці постаць, бачаныя мною. Як сёння, памятаю адзін такі: сільветка[1] вёскі на ўзгорку, стрэхі, коміны, зарысы дрэваў, зусім чорныя на фоне зырка-чырвонага вячэрняга неба. Я не супакоілася, пакуль не намалявала яе, як умела. Памятаю таксама, што адбіццё мастка з колькіх бяроза-

вых жэрдкаў у ціхай вадзе нейкай безыменнай рачулкі доўга мучыла мяне. Я мусіла намаляваць яго з памяці. Тады супакоілася. І гэтак было праз усё дзяцінства, год да 14-ці. (Я доўга была дзіцём, маючы 14 год, я яшчэ з усёй уцехаю гуляла ў лялькі.) Хто ведае, каб мяне вучылі, я б, можа, сталася мастаком, а не паэтам. Аб вершах я тады і не думала. Гэта прыйшло пазней.

Тады раптам мне захацелася ляпіць. Зажадалася страшэнна. Я проста плакала і прасіла маці дастаць мне гліны. Уначы сніла яе пад рукамі, мяккую, паслухмяную. Сніла, што ляпіла і — усё галовы: нейкага старога, нейкай дзяўчынкі з прыгожай шыяй. Я некалькі тыдняў проста хварэла, што не магла здзейсніць свайго раптоўнага жадання. Гліны не было дзе дастаць, дый каму, апрача мяне, была яна тады ў галаве? Вучыць мяне маляваць бацькі таксама не мелі магчымасці. Давялося ператрываць і гэтае жаданне, дзіўна моцнае. Але таемная сіла, што жыла ўва мне, упарта шукала выйсця. І яно ўрэшце знайшлося. Сталася гэта пад уплывам нашае настаўніцы літаратуры ў Яраслаўскай гімназіі, дзе я тады вучылася із маёй сястрой. Прозвішча ейнае я даўно забылася, але памятаю яе і сёння як жывую. Гэта была цікавая постаць. Жанчына паўдзённага тыпу, з вялікім тэмпераментам, яна вельмі любіла літаратуру, асабліва народную творчасць. Гэтую любоў да фальклору яна патрапіла прышчапіць і нам, некалькім сваім улюбёным вучаніцам, сябрам заснаванага ёю гімназійнага літаратурнага гуртка (ведама, расейскага, як і ўся гімназія). Хоць, можа, гэта і гучыць даволі дзіўна, але я думаю, што каб не яна, я, можа, ніколі не сталася б якраз *беларускай* паэткай.

Недзе ў 1917 годзе наш гурток (я была ў ім адной з наймаладзейшых) наважыў выдаваць літаратурна-мастацкі часопіс. Не памятаю, як ён зваўся. Маім абавязкам было маляваць для яго вокладкі, што я і рабіла вельмі сумленна. На кожным нейкі краявід з памяці, акварэляй. У нас не было ні машынкі, ні шапірографа, дзяўчаты з прыгожым характарам пісьма перапісвалі яго ў 5-ці экземплярах. І я мусіла маляваць для кожнага нумара 5 розных вокладак. Памятаю, як сёння, што на адным быў восеньскі кляновы лісток, падняты недзе на яраслаўскім бульвары. Пісаць я яшчэ не пісала.

Але якраз у гэтым часе мне пачалося хацець паспрабаваць свае сілы і на гэтым полі. Мае старэйшыя сяброўкі (з 7-га і 8-га класаў) змяшчалі ў нашым часопісе свае вершы пад Бальмонта[2], Гумілёва[3], Ахматаву[4]... Бальмонта я не надта любіла, ён

выдаваўся мне нейкім няшчырым, штучным. Ахматаву, наадварот, я ў душы лічыла бясстыднай і не любіла таксама. Але Гумілёў мне падабаўся. Падабаліся і вершы маіх сяброўак, што наследавалі яго. Я ім страшэнна зайздросціла. Так балюча было хацець, а не патрапіць пісаць, як яны. Я ўжо не была дзіцём, як зусім нядаўна. Я ўжо займела сваіх «герояў». Адным з першых маіх «ідэалаў» быў Юлій Цэзар[5]. Але пасля я перанесла мае сімпатыі на Антонія[6] дзеля ягонае дзіўнай, мала яшчэ зразумелай гісторыі з Клеапатрай[7]. Пасля прыйшлі Рычард Ільвінае Сэрца ды іншыя героі вальтэр-скотаўскіх раманаў[8]. Грунт да таго, каб стацца паэтам, пакрысе падрыхтоўваўся. Хутка я проста стала тужыць, калі гэта можна так назваць, каб напісаць верш. Вядома, ніхто аб гэтым не ведаў.

Я мела нейкую дзіўную натуру ад самога маленства. Я не ўмела быць шчырай, не ўмела дзяліцца ні з кім сваймі перажываннямі. Я цешылася, я цярпела, я хацела таго ці іншага, я зайздросціла сёстрам, сяброўкам, я вельмі кахала маці, некаторых настаўнікаў, але ўсё гэта паціху, у сабе. Ніхто ніколі не ведаў маіх думак. Я ніколі не спавядалася маці з сваіх дзіцячых перажыванняў, хоць мае сёстры, асабліва малы брат, расказвалі ёй усё чыста. Дык вось, хаваючыся ад усіх, я пачала прабаваць пісаць. Спачатку йшло не зусім добра, бо я хацела напісаць не проста верш, а верш не горшы, а лепшы ад спатыканых у нашым часопісе. І вось урэшце я напісала яго. Ён зваўся, памятаю, «Хмары» («Облака» па-расейску). Ці быў ён добры — не ведаю, але рытм у яго быў, як належыцца. Другім маім вершам быў «Поўдзень». Гэта быў ужо сапраўды добры верш, не горшы за тыя, што ўвайшлі пасля ў мой зборнік «Пад сінім небам».

Я сталася паэткай. Аб гэтым хутка даведаліся і ў класе, і ў гімназіі. Здавалася, засталося толькі цешыцца славаю. Але справа абярнулася зусім па-іншаму. Я пісала, але ўсё здавалася мне благім, нявартасным, хоць іншыя і хвалілі. Пахвалы цешылі, але было і сорамна, бо здавалася, што хваляць няшчыра. Гэтак са мной і дагэтуль. Мне ніколі не падабаецца тое, што я напісала, бо гэта толькі як бы частка, як бы цень таго, што я хацела напісаць. А таго, што *хочаш* напісаць, ніколі не ўдаецца цалкам. У галаве адно, хочацца гэта перадаць, а словаў на гэта няма, проста не існуе. Тварэнне заўсёды спалучана з нейкім незадавальненнем. Наагул, сам працэс творчасці рэч вельмі цікавая і дзіўная.

Не ведаю, як у іншых паэтаў, але я адрозніваю колькі фазаў у самым працэсе творчасці. Першая — гэта як бы ўступ, падрыхтоўка. Вось жыве сабе чалавек спакойна, працуе, ходзіць, гаворыць, думае, кахае, ненавідзіць. Звычайна, як усе людзі. Але вось пачынаюць з'яўляцца ў галаве нейкія радкі, урыўкі вершаў, абразы. Пачынаецца нейкі непакой. Хочацца хутчэй адрабіць штодзённую працу, быць вольнай, пазбавіцца ўсіх, быць *аднэй*, каб узяць пяро ў рукі. Хочацца пісаць. Раней ці пазней гэты момант настае. (Хоць калі ўмовы не спрыяюць, а ў мяне гэта здаралася і здараецца, на жаль, вельмі часта, настрой мяняецца, і робішся зноў звычайным чалавекам.) Бярэш пяро і пачынаеш пісаць. Гэта другі перыяд працэсу — тварэнне. Гэты момант, безумоўна, незвычайны. Нават фізічна адчуваеш змену. Твар гарыць, па целе прабягаюць дрыжыкі, чуешся як бы хворы. Калі пішаш, сам не ведаеш, што ў рэшце рэшт выйдзе. Часта бывае, што хочаш адно, а паміма тваё волі выходзіць зусім іншае. Страшэнна прыкра, калі трэба перарваць пісанне. Нервы так напружаны, што ледзьве тады не плачаш. Але калі ніхто не перашкаджае і не перарывае і ёсць магчымасць «выпісацца», настае трэці этап. Чытаеш напісанае, і яно здаецца незвычайным. Кроў яшчэ не астыла, дык і кожнае слова прымаецца нагарача. Адным словам, здаецца, што верш удаўся, і доўга яшчэ, астываючы, паўтараеш у памяці той ці іншы радок, жывеш сваім творам. Ведаючы сябе, я ў такім выпадку хаваю напісанае і варочаюся да жыцця. Назаўтра перачытваю напісанае, і тут находзіць новая фаза: страшэннае незадавальненне з напісанага, да некаторых выразаў дык адчуваеш проста агіду ці стыд. Верш выдаецца дрэнным, нічога не вартым. Рукі не падымаюцца правіць. У нецікавым настроі, густа закрэсліўшы тое ці іншае найбольш невыноснае слова, хаваеш свой твор як надалей. Ды мінае зноў колькі часу. Варочаешся яшчэ раз да напісанага. І цяпер чытаеш яго зусім як чужы твор. Крытычна, нахалодна. Робіш папраўкі, дапісваеш, вычыркваеш, шліфуеш. Верш урэшце гатовы (хоць я магла б у гэтым часе правіць яго бясконца). Ён ужо як бы не мой. Цікава, што толькі ў гэтым астатнім перыядзе творчасці заўважаеш, хоць не заўсёды, удалыя сугуччы ў вершы ці іншыя рэчы, што стварыліся несвядома. Часам у гэтым жа часе ўзмацняеш ужо свядома, без тваё волі створанае. Але бывае, што і нічога не заўважыш і толькі, калі хто з крытыкаў зверне на гэтае ўвагу, — пабачыш і

здзівішся. Але ўсё гэта, напісанае тут, на самой справе зусім не тое, што ад мяне патрабуецца.

Пастараюся цяпер трымацца бліжэй тэмы «Аўтабіяграфічны нарыс». Звычайна гэткія творы пачынаюцца проста: «Я нарадзілася ў ... годзе ў сяле ці месце такім ці гэткім». Я вельмі не люблю такога шаблону, але няма рады, давядзецца трымацца яго па магчымасці найбліжэй.

Па праўдзе, я сталася беларускай паэткай толькі ўвосень 1920 года, дык пастараюся факты да гэтага моманту пералічыць як найкарацей, каб шырэй спыніцца якраз на 1920 годзе, на часох, так важных у маім жыцці, — Вільні, 1-ай Віленскай беларускай гімназіі.

Дык вось, нарадзілася я пад канец 1903 года (самай восеньню) у месце Баку на Каўказе, на Каспійскім моры, дзе бацька мой быў тады начальнікам Бакінскай мытнай акругі. Але калі мне не было яшчэ і двух год, бацьку майго перавялі на захад, спачатку на Валынь, а тады ў Вільню. Вільню я і лічу сваёй сапраўднай Бацькаўшчынай, бо толькі тут я пачала памятаць сябе, пачала жыць свядомым жыццём, тут я вырасла, вучылася, пазнала добрае і благое, і гора, і радасць. Вільню я люблю, і па ёй толькі сумую. Мае бацькі былі, фактычна, няроўнай пары і па гадох, і па розніцы ў паглядах, і па народжанні. Але абое яны стварылі добрую сям'ю для нас, дзяцей. Мы чуліся шчаслівымі ў маленстве. Я, праўда, хіба найменш, мо таму, што, як я ўжо казала, я не ўмею дзяліцца сваймі перажываннямі з іншымі і мяне праз гэта не так любілі. А мо гэта было таму, што я была найстарэйшая і з мяне найбольш патрабавалася.

Маці старалася зрабіць усё, каб даць нам найлепшае развіццё і асвету, зрабіць нас не лялькамі, а людзьмі. (Бацька зусім нашым выхаваннем не займаўся, пакідаючы гэтую справу матцы.) Часам маці нават перадавала ў гэтым сваім імкненні. Каб не развіць у нас перадчасна так званага па-расейску «кокетства» (страшэнны грэх у матчыным разуменні), нас апраналі вельмі сціпла, валасы (а мы, усе дзяўчаты, мелі іх вельмі доўгія і прыгожыя) заплятаді туга і гладка ў косы, не дазвалялі сябраваць абы з кім, нікуды не пушчалі адных, не вучылі танцаваць, а наадварот, тых дзяцей, што танцуюць, высмейвалі і г. д. Але затое нас вучылі ўсяму, што было магчыма: музыцы, мовам. Маці вучыла нас сама, рыхтуючы ў гімназію, і вучыла шмат шырэй, чымся патрабавалася праграмай. Мы любілі вучыцца і ведалі шмат больш, чымся нашыя аднагодкі. Маючы 4 гады, я

ўжо зусім добра чытала, а не маючы 10-ці год, я бліскуча здала ўступны экзамен і паступіла адразу ў другі клас Віленскае Марыінскае гімназіі, што месцілася тады на Лукішскім пляцы і дзе была пасля Літоўская гімназія.

Як я ўжо казала, нас трымалі ў хаце досыць строга, але толькі пад некаторымі паглядамі. Кожнае лета мы выязджалі пад Вільню на дачу. Бацька ездзіў штодня на службу, маці з ім, бо з ягоным здароўем было тады не надта добра. Цэлы дзень мы былі вольныя. Раніцою, праўда, трэба было пазаймацца (гадзіны музыкі, гадзіны французскае мовы), але затое пасля мы маглі гуляць, колькі хацелі. Пры нашай дачы быў вялікі стары парк, дзікі, як пушча. Мы і праводзілі там усе вольныя гадзіны. Як там было добра, прыгожа, таемна! Мы лазілі па дрэвах, па кустох, прыглядаліся птушкам, мурашкам, шукалі грыбоў ды ягад, і з гэтага часу якраз я вельмі палюбіла прыроду, палі, лес — усё прыгожае. Нас было ў сям'і чацвёра, тры сястры і брат, усе адно пад адным, так што брат быў на 3,5 гады за мяне маладзейшы, сёстры ж адна на год, другая на 2. Фантазія ў нас усіх была вельмі багатая, не дзіва, што мы чуліся незвычайна добра без іншых сяброў і не тужылі ні па кіно, ні па тэатрах. У гімназіі і я і сёстры вучыліся аднымі з лепшых. Мае працы з мовы заўсёды чыталіся настаўніцай як прыклад перад усім класам.

Калі я скончыла трэці клас, нам давялося пакінуць Вільню, бо пад места падыходзілі немцы (дагэтуль я блізу што не адчувала вайны, хоць сям'я наша была настроена вельмі патрыятычна), усе ўрадавыя ўстановы прымусова эвакуяваліся, і нашая гімназія таксама выехала з усімі нашымі дакументамі некуды ў Расею.

Мы апынуліся «ў бежанцах». Трапілі мы ў горад Яраслаўль над Волгай. Гэты горад быў вельмі прыгожа паложаны на высокім беразе, меў шмат цікавых старых цэркваў, і я яго вельмі палюбіла. У гімназіі, куды мы паступілі, я атрымала шмат для майго развіцця. Але аб гэтым ужо пісала і не буду паўтарацца. Тут мы дачакаліся і перажылі і першыя часы рэвалюцыі, і апошнія дні вайны, і крывавае Яраслаўскае паўстанне ўлетку 1918 года, калі выгарала большая частка горада, і бальшавіцкія рэпрэсіі. Рабіць у Расеі не было ўжо чаго, і бацькі наважылі варочацца ў Вільню, дзе мы былі пакінулі ўсю маёмасць. Але гэта была нялёгкая ў тыя часы справа. Давялося варочацца этапамі. Спачатку нам давялося пераехаць у Вялікія Лукі Пскоўскай губерні, вярней, на вёску пад гэтым невялікім местам. Тут мы

былі прымушаны пражыць блізу год. Пасля мы пераехалі ў Дрысу на беразе Дзвіны. Але праз Дрысу якраз пайшоў фронт. На адзін бок сталі палякі, на другі — бальшавікі. Места згарэла, мы ўцяклі на вёску ды тут і засталіся зімаваць. Праўда, у Дрысе была гімназія, і мы нават туды паступілі ў сёмы клас, але пад вечным абстрэлам ні вучыцца, ні жыць было немагчыма.

Сёння, з перспектывы часу, я бачу, што месяцы, пражытыя пад Дрысаю на вёсцы, літаральна ў голадзе і холадзе, выйшлі мне на вялікую карысць. Справа ў тым, што тут я ўпершыню сутыкнулася, і то зусім беспасярэдне, з беларускаю вёскаю і найчысцейшай беларускаю моваю. Мы жылі ў невялікай сялянскай хаце разам з гаспадарамі, лянівым Юркам і ягонаю спрытнаю, злоснаю, але вельмі працавітаю жонкаю. Тут я пачула ўпершыню і беларускія песні, і беларускія казкі. Я вельмі ўсім гэтым зацікавілася, і вёска, і людзі, і песні, і мова падабаліся мне незвычайна.

Самымі Калядамі нам удалося перабрацца ў нейкае мястэчка, якое хутка занялі палякі, і цяпер мы маглі варочацца ў Вільню. Я не ведаю і не памятаю, як мы трапілі ў цягнік, як доўга ехалі. Кажуць, тыдні два. Стаялі страшэнныя маразы... Усюды было поўна войска, палякаў. Не было чаго есці, не было дзе дастаць вады. Мы ўсе захварэлі на гішпанку. Так і ляжалі ў гарачцы ў няпаленым таварным вагоне. Тады я аб гэтым не думала, але сёння з болем успамінаю, што мусілі перажыць мае бацькі, тым больш што на трэці дзень па прыездзе ў Вільню памерла мая сястра Галя, якую маці найбольш любіла, ды і мы трое, я, сястра і мой брат, ледзве перажылі тую гішпанку. Я хварэла месяцы два, але выдыхала неяк.

Мы трапілі на кватэру да людзей, што прымалі ўдзел у жыцці беларускага грамадства. Дачка іхная вучылася ў 8-м класе 1-е Віленскае беларускае гімназіі. Як толькі мы крыху паздаравелі, а маці перажыла першае гора па смерці мае сястры, яна пачала старацца неяк наладзіць нашае жыццё. Бацька быў ужо стары і хворы і не мог шмат памагчы ёй у гэтым. Праз нашых гаспадароў маме ўдалося ўладзіцца працаваць на амерыканскую дапамаговую кухню ў Беларускай гімназіі. Гэта былі вельмі галодныя пасляваенныя часы, і кухні такія былі адчынены пры ўсіх школах, каб дакармліваць дзяцей і моладзь. Працуючы там, мама пазнаёмілася і пасябравала шмат із кім з настаўнікаў, і ў выніку гэтага пад вясну 1920 года мы ўсе трое былі прыняты

ў гімназію. Як я цешылася, што хоць у голадзе і холадзе, але я магла ізноў вучыцца!

З вялікай ахвотай узялася я за вывучэнне беларускае мовы, ужо знаёмае мне з вёскі пад Дрысаю. Першаю кніжкаю, з якою я сутыкнулася ў гэтыя часы, яшчэ перад паступленнем у гімназію, была кніжка апавяданняў Максіма Гарэцкага, а асабліва апавяданне «Лірныя спевы». Праўда, кніжка гэтая не была мо адпаведнаю, каб з яе вучыцца беларускае мовы, зусім не ведаючы яе, але мне яна была якраз найлепшым лемантаром. Не буду тут шмат пісаць аб Беларускай гімназіі. Я аб гэтым пісала некалі ў малым успаміне, змешчаным у часопісе «Наперад»[9].

Затрымаюся крыху толькі на тым, калі і як я пачала пісаць па-беларуску. Як я ўжо ўспамінала, я паступіла ў гімназію пад вясну 1920 года. Мне давялося шмат вучыцца, бо я блізу два гады не вучылася. Лацінская мова была для мяне зусім новаю, і з матэматыкі давялося вельмі шмат даганяць. Я шчыра ўзялася за навуку. Часу на вершы не было. Я мусіла здаваць экзамены з усіх прадметаў. Частку з іх я здала яшчэ перад канцом года, рэшту, як матэматыку і фізіку, мне адлажылі на восень. Я так цешылася, што зноў магу вучыцца, што, каб зрабіць прыемнасць настаўнікам, наважыла як найхутчэй навучыцца па-беларуску. Нашым настаўнікам літаратуры ў 7-м класе быў Максім Гарэцкі. Постаць ягоная з самага пачатку была для мяне ахіненая нейкім рамантызмам. Аўтар кнігі, што мне спадабалася, пісьменнік... Настаўнік літаратуры, якую я так любіла... Як тут было застацца зусім халоднаю, абыякаваю? На змену Юліям Цэзарам і Рычардам Ільвіным Сэрцам прыйшоў, зусім зразумела, Гарэцкі, першы жывы чалавек, які мне падабаўся (а мне было тады ўжо 17 год!). Ці дзіва, што гэта сталася яшчэ адным стымулам як найлепшага пазнання і апанавання беларускай мовы? Я доўга не адважылася гаварыць аб тым, што і я пішу, Гарэцкаму. Зрэшты, якая з гэтага была б карысць? Гарэцкі... і расейскія вершы! І я маўчала і вучылася, і чытала.

А тым часам надышло лета. У Вільню нахлынулі бальшавікі, пасля — літоўцы, то адны, то другія. Ці ўтрымаецца гімназія? Як будзем жыць? Гэтыя пытанні трывожылі ўсіх. Але я была яшчэ замаладая, каб праймацца глыбей жыццёвымі справамі, хоць і адчувала іх вельмі балюча. Трэба было вучыцца і працаваць, каб пражыць. Мама не магла ўсіх пракарміць, бацька працы дастаць не мог нідзе, сястра і брат былі замалыя. Заставалася толькі я. Вось я і давала ўсё лета лекцыі, пераважна з моваў,

маці таксама рыхтавала дзяцей да экзаменаў, пераважна ўсё з нашае Беларускае гімназіі. Жылі мы вельмі дрэнна. Памятаю, што ўсе мы чакалі з нецярплівасцю, калі падвечар да мяне прыходзіў на лекцыю адзін нейкі кавалер з нашага класа, якога я падганяла з моваў, бо ён плаціў адразу за кожную лекцыю, і мы тады за гэтыя грошы куплялі хлеб на вячэру. І памятаю, як адзін раз ён не прыйшоў, бо захварэў, і мы мусілі ісці спаць галодныя. Але ўсё гэта было нішто ў параўнанні з прагаю жыць, якою я тады была поўная аж па берагі, хоць навонкі і выдавалася вельмі паважнаю і настаўнікам, і сяброўкам. Так, паміж страхам і надзеяю надышла ізноў восень. Гімназія не зачынілася. Пачалася навука. Я ўжо так добра апанавала беларускую мову, што прымала ўдзел у «Паўлінцы»[10] Янкі Купалы, якую ставілі на адчыненне заняткаў, гуляючы ролю Агаты, і, як кажуць, няблага. Заахвочаная ўдачаю, я спрабавала пісаць па-беларуску вершы. І як ні дзіўна, у мяне адразу пайшло вельмі гладка.

Першым вершам, які я напісала па-беларуску, быў верш «Хай жаўцее, сціхае сад з кожнай гадзінай», другім — «Светлы дзень дагарае над сумнай зямлёю». Перапісаўшы іх чысценька, я сабралася з адвагаю і падала іх Гарэцкаму пасля лекцыі. Ён узяў, паглядзеў на мяне, сказаў «цікава» і пайшоў. Увечары таго ж дня, а было гэта ў суботу, у нас мелася быць, як заўсёды, вечарынка, рэферат ці выступ хору, а тады танцы. Мы сабраліся ўсе, селі. Людзей было шмат, бо на нашыя вечарынкі прыходзілі не толькі вучні гімназіі, але і ўсе наагул беларусы-віленчукі.

Раптам на эстраду выйшаў Гарэцкі і папрасіў слова на пару хвілінаў. Усе думалі, што ён хоча зрабіць якую заўвагу вучням, так думала і я. Але што са мной сталася, калі я пачула, у чым справа. Гарэцкі звярнуўся да публікі так: «Я хачу вас сёння пацешыць, асабліва тых, хто любіць беларускае слова. Дай Бог, каб я не памыліўся, але мне здаецца, што ў нас сёння нарадзілася паэтка, большая і за Цётку[11], і за Буйлянку»[12]. І тут ён выняў паперкі з маймі вершамі і прачытаў іх слова ў слова, без ані адной папраўкі. Людзі пачалі пляскаць, усе сталі глядзець на мяне, а мне здавалася, што я памру са стыду. Але ўсё абышлося як найлепш.

Тут я хацела якраз выправіць тую памылку, якая лічыць першым маім вершам «Восень» («Як не любіць мне восень залатую») у зборніку «Пад сінім небам». Верш гэты напісаны пазней за ўспомненыя тут і ёсць першым, не напісаным, а першым надрукаваным маім вершам. Увосень 1920 года ў Вільні не вы-

ходзіла беларуская газета і вершаў не было дзе друкаваць. Апрача таго, я была яшчэ замаладая паэтка, а Гарэцкі застрогі крытык, каб так адразу і друкаваць мяне. Паміж іншага, гэта была адзіная ягоная пахвала, сказаная, праўда, не мне, а людзям, хоць і ў маёй прысутнасці. Ён ніколі маіх вершаў, калі я давала іх яму, не хваліў, а толькі рабіў заўвагі, казаў, што трэба было б выправіць, змяніць. Сам ён папраўкі і зменаў ніколі не рабіў. І яму за гэта вельмі ўдзячная. Ён навучыў мяне паважна і крытычна ставіцца да кожнага слова і цаніць мову, ейную чысціню і прыгажосць. Але хоць Гарэцкі ніколі не хваліў мяне, а толькі ганіў, я адразу навучылася адчуваць, што яму падабалася, а што не, і ніколі ягонай крытыкай не праймалася. Наадварот, мне хацелася пісаць усё лепш і лепш, каб яму спадабалася. Памятаю асабліва той дзень, калі я паказала яму верш «Балотніца», першы з цыкла «Зачараваны кут». Як ён цешыўся, хоць нічога асабліва не хваліў, як ён доўга гаварыў аб тым, якою цудоўнаю, багатаю крыніцаю ёсць народная творчасць і як яе трэба шанаваць і ўмела, асцярожна выкарыстоўваць, як ён радзіў паважна заняцца ёю і больш пісаць такіх рэчаў, як «Балотніца»!

Адным словам, пасля рэкламы, зробленай мне Гарэцкім на вечарынцы, я зрабілася слаўнаю ў гімназіі. Малыя з малодшых класаў глядзелі на мяне з пашанаю, настаўнікі таксама нейк інакш адносіліся да мяне, сяброўкі пышніліся мною. Жыццё сталася радасным, цікавым, поўным сэнсу, дарма што не было часта чаго есці, дарма што і прышласць нічога не абяцала лепшага... Навука, творчасць, сяброўкі, жыццё гімназіі аж па берагі поўнілі мае дні.

У 1921 годзе ў чэрвені я скончыла адной з лепшых 8-мы клас. Настаўнікі, а найбольш Браніслаў Тарашкевіч[13] (гэта былі часы гэтак званае Сярэдняе Літвы[14]), уладзілі мяне настаўніцаю ў адной з беларускіх пачатковых школаў у Вільні. Я пачала зарабляць, хоць і сціпла, але стала. У хаце ўсе павесялелі. Удзень я вучыла ў школе (на праваслаўных могілках), а па абедзе хадзіла на лекцыі ў універсітэт. Сюды ж прыходзіў і мой будучы муж, з якім я пазналася яшчэ будучы гімназісткай на адной з нашых суботніх вечарынкаў. Хутка сталася так, што, праслухаўшы адну ці дзве лекцыі, мы апыняліся ў Бернардынскім садзе або на Замкавай гары. У хаце ўсе былі, аднак, перакананыя, што я пільна вучуся, хоць мо і дзівіліся часам, што лекцыі так доўга зацягваюцца.

Роўна праз год, 28 верасня 1922 года, я выйшла замуж, і назаўтра мы з мужам выехалі з Вільні, каб ніколі туды на стала не вярнуцца. Два гады пазней я была ўжо маці двух хлапцоў.

Быць жонкаю і маці — рэч зусім для паэзіі не спрыяючая. Я часам сама дзіўлюся, што я ўсё ж не кінула пісаць, што пішу і да сёння. Сямейнае жыццё дазваляла мне вельмі рэдка адрывацца, аддаваць час творчасці. Штодзённыя жыццёвыя клопаты не даюць часу быць аднэй, мець супакой і спакойныя, нічым іншым не занятыя думкі, каб магчы тварыць. За кожную часіну для пісання мне даводзілася ходацца, кожную вытаргоўваць, аплачваць прыкрасцю і непаразуменнем. Дый сабрацца з думкамі, стварыць належны настрой было блізу немагчыма ў хаце, поўнай дзіцячага крыку і тупату. Ды дарма, я хутка навучылася лавіраваць, выкручвацца паміж мужам, дзецьмі, кухняй і... вершамі.

У 1927 годзе я надаўжэй прыехала ў Вільню і падрыхтавала тут да друку свой першы зборнік «Пад сінім небам». У гэтым жа часе я займалася перакладам «Дзядоў»[15] Адама Міцкевіча. Пераклала 1-ю частку, 2-ю і пачала 4-ю. Пераклад, як казалі, удаўся вельмі добра. Частка яго была надрукавана ў адным з віленскіх беларускіх часопісаў, ці не ў «Беларускіх гонях»[16], але цэласць загінула недзе — у друкароў ці рэдактараў, і яе, на жаль, так і не ўдалося нідзе знайсці.

Першыя паўтара гады пасля замужнасці мы пражылі ў Слоніме, над самай Шчарай. Я доўга не магла прывыкнуць да вайсковага польскага асяроддзя, у якім апынулася. Усё было такое чужое для мяне. Трэба было хавацца з сваёй беларускасцю. Адзіны чалавек у Слоніме, з якім мы маглі адвесці душу, быў Гальяш Леўчык[17], паэт, стары слонімец. Мы неяк раз сустрэліся з ім, і ад гэтага часу ён стаўся нашым частым госцем.

Улетку гэтага ж першага года муж адправіў мяне да свае сям'і на вёску ў Доры Валожынскага павета. Тут я правяла месяцы тры, а пасля ездзіла сюды кожнае лета. «Вакацыі» ў Дорах вельмі шмат далі мне для развіцця мае творчасці. Я пазнала тут найчысцейшую беларускую мову, песні, звычаі, пабывала на вяселлях, хрэсьбінах, зжылася і з людзьмі, і з прыродай. Шмат песняў я запісала, а мелодыі вывучыла на памяць. Шмат год пазней я напяяла іх кампазітару М. Шчаглову, калі ён пісаў на маё лібрэта оперу «Лясное возера». Мелодыі гэтыя — пасля скамарохаў у 2-м акце — «Ой, борам, борам, баравіною» і «Ой, гара з гарой разлягаецца», дзве вясельныя песні з 3-га акта оперы.

Пасля паўтарагадовага пабыту ў Слоніме мужа перавялі на Паморʼе. Гэта сталася ў 1924 годзе. На Паморʼі, вельмі далёка і ад Вільні і ад Дораў, мы пражылі шмат год: 13 год у Хэлмне, вельмі прыгожым, поўным зеляніны і паркаў гарадку над Віслай, і год у Равічы, на самой мяжы з Нямеччынай. Жыццё гэтае ўсе гэтыя гады мала спрыяла паэтычнай творчасці. Праўда, ■ ўжо асвоілася і з польскай мовай, і з жыццём вайсковае сямʼі. Нішто ўжо не дзівіла мяне. Я і сама ўсёй душой навучылася аддавацца і танцам, і фліртам, і вечарынкам. Але пісаць я пісала няшмат. Адарваная ад беларускага асяроддзя, я толькі крыху і здалёк чула аб здарэннях і перажываннях, што хвалявалі яго. Аб чым жа я магла пісаць? Толькі аб тым, па чым я сумавала — па Вільні, па беларускіх барох, палёх, песнях. Былі такія гады, калі я не ведаю, ці напісала хоць пару вершаў... Праўда, былі і іншыя, шчаслівейшыя, калі я пісала больш.

Цікава, наагул, што пабуджае да творчасці, якія здарэнні ці перажыванні ў жыцці паэта спрыяюць ягонаму росту, развіццю, плоднасці? Гэта цяжка прасачыць. Аб сабе я магу сказаць адно: жанчыне наагул вельмі цяжка быць паэтам. Яна, асабліва звязаная сямʼёй, можа пісаць, толькі маючы або вельмі ўпарты талент, або стойкую натуру, або тэмперамент, які не паддаецца так лёгка абставінам і чужым уплывам, а робіць сваё. Шэрая будзёншчына — гэта магіла для ўсялякае творчасці...

Успамінаючы мінулыя гады, я магу сцвердзіць, што напісала найбольш я тады, калі найменш была звязана сямейнымі і хатнімі абавязкамі і калі мела найбольш перажыванняў. Перажыванні, цяжкасці, хоць цяжкія, жудасныя, даюць чалавеку нешта такое, што пабуджае ў ім натхненне, творчую сілу. Таксама і калі паэт чуе, што творамі ягонымі цікавяцца, што яны патрэбныя, — сіла ягонае творчасці адразу шугае ўгару. Наадварот, калі адчуваеш і сябе і свае творы нікому не патрэбнымі, наступае поўнае знеахвочанне, поўны заняпад усялякага паэтычнага натхнення. Чаму гэта так? Ды, пэўне, такая ўжо людская натура. Паэт не становіць выняткам з агульных законаў, наадварот, усё людское, і благое і добрае, ярчэй жыве ў ім. Адно справа ў тым, ці патрапіць ён маскавацца. Не будучы сапраўдным чалавекам, не можна быць паэтам. Не перажыўшы ўсяго, што перажываюць людзі, таксама не можна быць сапраўднай творчай адзінкай. Перажыванні для паэта — гэта той жа хлеб. У галодныя гады ён дае з сябе менш, у гады, багатыя на ўражанні, ён творыць больш. Але мне здаецца, што ўсе гэтыя раз-

важанні маюць мала агульнага з тэмай... Таму пераходжу ізноў да свае аўтабіяграфіі.

Гады паміж 28—34-ым былі мала плоднымі гадамі для творчасці, хоць я жыла ўсе гэтыя гады вясёлым, бесклапотным жыццём. Штогодна адведзіны Вільні, пару месяцаў у Дорах, у сэрцы Беларусі, адны падтрымлівалі мяне. Дзеці падрасталі, часу я мела штораз больш. Матэрыяльныя ўмовы жыцця таксама год у год паляпшаліся, гульня ў брыдж, ці бясконцыя вечарыны, ці балі крыху прыеліся. Я ізноў вярнулася да паэзіі. Шмат чытала. Згодна з заўвагай Антона Луцкевіча (А. Навіны)[18], у маёй творчасці з'явіліся новыя ноты.

У 1935 годзе я ўпершыню ўзімку наведала Вільню. Чытала тут свае вершы. Ізноў цесна сутыкнулася з усімі старымі знаёмымі, пазнала новых. Максім Танк[19] і ягоная творчасць зрабілі на мяне вялікае ўражанне. Я пачала пісаць верш па вершы. У выніку з'явіўся мой другі зборнік — «Жоўтая восень». Фактычна не з'явіўся, а быў падрыхтаваны да друку, хоць свету так ніколі і не пабачыў. Не ведаю, ці гэты факт, ці штось іншае, але нешта ж было прычынай таго, што я зноў трапіла ў поўны занядад. У 1937, [19]38 гадох я, здаецца, нічога не напісала, хоць і не памятаю, калі гэта з-пад майго пяра выйшла злашчасная «Князёўна», якая столькі крыві напсавала Танку, а таксама і дзве другія мае паэмкі: «Вяселле» (пра ваўкалакаў) і «Лілейкі», якія я зусім забылася сёння і якія, здаецца, загінулі без следу. Мне, аднак, здаецца, што рэчы гэтыя не былі такія ўжо благія, і адзіны грэх за імі быў, што яны не ішлі крок у крок, маршам па халодным бетоне із сучаснасцю.

Так пачынаўся 1939 год.

Вайна заспела мяне з дзецьмі, ужо ў гэтым часе вялікімі хлапчукамі 14 і 15 год, у Дорах, вярней, у Вільні, дзе я была ў гэтым часе пры хворай маці. Сям'я нашая за гэтыя гады моцна стаяла. У 1923 годзе, пару тыдняў пасля нарадзінаў майго старэйшага хлапца Яраслава, сёння нябожчыка таксама, памерла мая сястра Оля, вельмі здольная дзяўчына, вучаніца Беларускай гімназіі ў Вільні. У 1926 годзе памёр бацька. Засталіся маці і брат Сяргей. Доўга давялося ім ходацца з бядою, пакуль Сяргей нарэшце скончыў вучыцца і атрымаў пасаду пры Віленскай універсітэцкай бібліятэцы. Пасада гэтая хоць і аплачвалася сціпла, але давала пэўнае ўтрыманне. Здавалася, скончыліся вечныя матэрыяльныя клопаты, можна было б жыць. Але маці ўжо гэтага не патрапіла. Апошнія дні перад выбухам вайны яна

дагарала ад сухотаў. Гэтая хвароба забрала блізу ўсю нашую сям'ю. Брат быў ужо жанаты. 20 жніўня, пару дзён да вайны, у іх нарадзілася першае дзіця, дачка Людміла. Братавая была ў шпіталі, я — пры маме, дзеці — у Дорах, муж — у палку ў г. Пултуску[20], дзе мы жылі ад 1937 года.

Пачалася вайна. Сувязь з ім перарвалася адразу і надоўга.

15 верасня мама памерла. Хавалі яе якраз у часе бамбардзіроўкі Вільні немцамі. Ледзь апусцілі ў магілу — пасыпаліся бомбы. А назаўтра прыйшлі ў Доры бальшавікі. Баючыся, што лёс адрэжа мяне і ад дзяцей, я адна ночай пехатой пайшла з Вільні ў Доры (больш за 120 км). І дзіўна: прывыкшы да дабрабыту і выгодаў за апошнія гады, я ані не баялася. Паклала свае рэчы ў мех і пайшла праз Ліпоўку на Ашмяну. Ісці было страшна. Цемра, усюды пажары ад бомбаў, пад нагамі ямы, нейкая злавесная цішыня... Але такая ўжо ў мяне нейкая недарэчная натура: калі няма чаго, — я і баюся, і хістаюся, і капрыжу, але як здарыцца бяда, — усё як рукой адымае: і страх, і хістанне, і слёзы, раблюся адважнай і дужай.

Ішла я з прыгодамі. Пад Вішневам[21] папалася бальшавікам. Яны затрымалі мяне, як падазроную асобу, ды да таго ж жонку афіцэра, і з колькі іншымі арыштаванымі, пасадзіўшы на воз, прывезлі ў НКВД у Валожын. Тут гутарка была кароткая: распранулі, абшукалі і пасадзілі ў турму. Пакуль справа высвятлялася, што я ніякі не злачынца супраць улады, я праседзела ў голадзе і брудзе 5 дзён. Затое калі выпусцілі, як я ляцела 17 кіламетраў з Валожына ў Доры! Тут мяне ўжо і чакаць перасталі. Хтось бачыў мяне, арыштаваную, у Валожыне і наказаў іншым. Але на гэты раз усё абышлося добра.

Выпадкі разгортваліся. Бальшавікі надобрае аселі ў нас. Хоць у Дорах на разе ўсё было па-старому, я наважыла ехаць з дзецьмі ў Вільню, куды мяне клікаў брат. Цягнікі ўжо зноў хадзілі. Нашыя запрэглі каня і завезлі нас з дзецьмі ў Маладзечна. Увечары мы былі яшчэ раз у Вільні. Тут я пражыла з дзецьмі ў брата колькі месяцаў.

Жыць было цяжка. Я, адарваная ад мужа з першага ж дня вайны, апынулася без грошай. Калі Вільню занялі летувісы, і Доры былі адрэзаны. Брат апынуўся без пасады і грошай з маленькім дзіцяняткам і хворай жонкай, сам цяжка хворы. (Пасля мамінай смерці выявілася, што і ён цяжка хворы на сухоты.) Як было жыць? Я зварачалася ў Беларускі камітэт, але там мне памагчы не маглі таксама. Заставалася адно — варочацца

ў Доры, дзе хоць быў пакуль што кавалак хлеба і якая бульбіна, каб не памерці з голаду. Шкада было хлапцоў, яны так схуднелі. І я наважылася. Падала заяўку ў бальшавіцкую рэпатрыяцыйную камісію аб дазволе ўезду на тэрыторыю, што была пад саветамі. Атрымала дазвол. 31 снежня, напярэдадні Новага года, я з хлапцамі пакінула яшчэ раз Вільню і апынулася ў Савецкім Саюзе.

Спынілася я на разе ў Вялейцы, дзе жыў брат мае братавае. Тут хлапцы маглі хадзіць вучыцца ў гімназію, ці дзесяцігодку, як яна ўжо звалася. Доры былі таксама блізка, і мне заўсёды маглі адтуль падкінуць тое-сёе з харчоў. Апрача таго, у Вялейцы быў Танк, які абяцаў уладзіць мяне тут на працу. Так і сталася. Праз колькі дзён я ўжо працавала разам з Танкам і ягонаю жонкаю Любай у рэдакцыі вялейскае «Сялянскае газеты», хлапцы паступілі ў 8-мы клас вялейскае дзесяцігодкі, а з Дораў прыбыў на санках першы транспарт добрых рэчаў, аб якіх мы былі забыліся за гэтыя пару галодных месяцаў у Вільні. Жыццё пачало наладжвацца. Мы вельмі пасябравалі з Танкам і ягонай Любай. Праца была прыемная (я была стылістам), хоць вельмі цяжкая. Працаваць даводзілася шмат. Калі дзе прамаўляў тав. Сталін або іншы які вялікі чалавек, пакуль радысты прынялі прамову, машыністы перабілі, я прастылізавала, мінала блізу ўся ноч. Як часта я варочалася дахаты стомленая да смерці пустымі вулачкамі Вялейкі, а вакол дрэвы і платы трашчэлі і страялі ад страшэннага марозу! Ды што зробіш. Усё трэба было цярпець, бо я хацела, каб хлапцы мае маглі вучыцца, хай і ў савецкай школе, і не былі галодныя, як у Вільні.

На пачатку сакавіка мяне і Танка запрасілі ў Менск. Прымаў нас Саюз беларускіх пісьменнікаў. Тут я пазнала Янку Купалу, Змітрака Бядулю і шмат іншых. Нас прымалі, паказвалі Менск. Уражанні нашыя былі з усяго нецікавыя (былі мы ўтраіх: я, Танк і Машара), ды аб гэтым мы гаварылі толькі тады, як заставаліся адны. Але ў Саюзе пісьменнікаў мне падабалася, нават Алесь Кучар[22] здаўся мне не такім ужо благім, як аб ім я чула, хоць Танк і Машара ўрачыста заявілі мне аднаго вечара, што спусцяць яго са сходаў, бо ён занадта пачаў быў «ухажываць» за мною. Той самы Кучар зрабіў Танку цікавую заўвагу, калі мы раз ішлі Савецкай вуліцай. Танк, вядома, як Танк, ішоў, смяяўся, голасна гаварыў па-беларуску, бо па-іншаму ён ці ўмеў. А Кучар спалохаўся: «Ведаеце, — звярнуўся ён да яго, — не гаварыце так голасна па-беларуску, у нас гэта не прынята». І гэта ў сэрцы Беларусі — Менску!

Найбольш спадабаўся мне Бядуля. Ён вельмі сардэчна і пасяброўску да мяне аднёсся і сам абяцаў дапамагчы ў справе мужа. (У гэтым часе я ўжо ведала, што ён даваяваўся да бальшавіцкага палону і сядзіць у Старабельску ў лагеры.) Купала здаўся мне нейкі як быццам не ў сабе. Маўклівы, сумны. Коласа я не бачыла, але чула ягоны голас у тэлефоне. І ён, і голас, і справа, па якой ён званіў, мне не падабаліся зусім.

У Менску было страшэнна сцюдзёна, мы добра-такі намерзліся там, бо нідзе нічога не апальвалася, апал скончыўся, бо на календары была вясна і паліць «не палагалася», а што стаяў мароз у 20 градусаў, нікога не хвалявала.

Пару дзён пасля звароту з менскіх «гасцей», аднае прыгожае раніцы, калі я толькі ўставала з ложка, каб ісці ізноў у рэдакцыю пасля недаспанае ночы, у нашыя дзверы пастукалі ўзброеныя энкавэдысты. Яны з месца абшукалі мяне, дарма, што я была яшчэ нават без сукенкі, і загадалі мне зараз жа збірацца з хлапцамі, куды — яны не сказалі. Хлапцы былі ў школе. Па іх пайшлі два энкавэдысты із штыкамі «наперавес». Два іншыя тым часам абшуквалі пакой, дзе мы жылі, і ўсе мае небагатыя рэчы (уся нашая маёмасць засталася была ў Пултуску, дзе і загінула).

Хоць гімназія, перарobленая бальшавікамі ў «дзесяцігодку», і была на іншым канцы горада, энкавэдысты вельмі хутка прывялі хлапцоў. Мне тым часам дазволілі апрануцца, разумеецца, пад наглядам вартаўнікоў, пасля асабістага абшуквання мяне энкавэдысты ўзяліся за перагляд нашых сціплых рэчаў. (Вайна заспела мяне і хлапцоў у Дорах, не было ніякай магчымасці трапіць у Пултуск, дзе мы там жылі, каб забраць хоць бы неабходнае. Аб мужу ж я ведала толькі адно, што пайшоў ваяваць і трапіў у савецкі палон.) На падлогу вывернулі валізу, сцягнулі з лавы, на якой была мая пасцель, коўдру і падушкі, усё ператрэслі. Забралі альбом з фатаграфіямі, кнігі, лісты. Ярку (старэйшаму хлапцу) удалося схаваць колькі фатаграфіяў пад кашуляй на грудзёх, рэшта так і загінула. Пасля перагляду рэчы і пасцель абы-як звязалі ў клунак, і неўзабаве мы ўжо стаялі ў машыне, якая імчала вуліцамі Вялейкі. Шмат такіх машынаў можна было пабачыць у гэты сцюдзёны, золкі дзень 13 сакавіка ў горадзе!

Усіх высыланых звозілі на станцыю і ладавалі ў даўжэзны тавдровы цягнік. Уся станцыя была поўная людзей. Вартаўнікі грубыя, брутальныя; сплаканыя, напалоханыя жанчыны (іх ды

дзяцей было 99%); сваякі і знаёмыя, якія, дарма што бальшавіцкія запалохванні, прыбеглі праводзіць сваіх блізкіх у далёкую нязнаную дарогу, усё гэта мітусілася, пхалася, крычэла і плакала. Энкавэдысты шчыльна абкружылі цягнік, але ўсё ж той і гэты з натоўпу прарываўся, падбягаў да дзвярэй вагонаў, падаваў тую ці іншую забытую рэч, бутэльку малака, яшчэ раз развітваўся. Нас — ніхто не праводзіў. Нам — ніхто нічога не падаваў, хоць мы і ехалі ў вялікую дарогу, не маючы пры сабе нават кавалка хлеба. Ды ці да хлеба тады было? Пачуццё страшэннай крыўды сціскала горла... А людзей усё прыбывала і прыбывала. Было сцюдзёна. Ішоў дробны дождж... Вясна ў гэтым чорным годзе не спяшалася прыйсці на змену небывала вострай і марознай зіме!

Толькі позна ўвечары цягнік рушыў з месца. Усе плакалі. І гэтыя, сцісненыя шчыльна, як быдлё, у цёмных, брудных вагонах, і гэныя, абапал рэйкаў, што ўсцяж адганяліся прыкладамі энкавэдыстаў, нябачаны ў імглістай цемры вялікі маўклівы натоўп. Плакала і я, уткнуўшыся ў клумак з пасцеллю, плакала так доўга і балюча, аж заснула, закалыханая мерным стукатам колаў.

Падарожжа нашае трывала блізу 3 тыдні. Цяжка сёння паверыць, што знайшліся сілы ператрываць усе злыбеды, што выпалі на нашую долю пад час гэтага жудаснага падарожжа. Ехалі мы ўвесь час пад моцнаю эскортаю брутальных энкавэдыстаў, у шчыльна замкнёных вагонах, у пацёмку, у холадзе і голадзе. Есці нам упершыню далі толькі на трэці дзень, калі мы мінулі межы Беларусі. Тады ж нас на часіну выпусцілі «пад вагон», не выпускаючы, аднак, ні на імгненне з-пад нагляду. У нашым вагоне было 30 чалавек, жанчын і дзяцей, у іншых шмат больш, да 40. Усе ціснуліся на бруднай падлозе, на клунках, ахінуўшыся, чым мага. З аднаго боку былі зроблены з дошчак як бы нары, дзе таксама сядзелі і ляжалі людзі. Вокны нашага вагона былі забіты бляхай, але праз пару дзён хлапцом удалося адарваць цвікі і прыпадняць яе. Зрабілася крыху відней, і можна было па чарзе глядзець на мінаныя шэрыя, нявеtлыя ваколіцы савецкага раю.

Ды што значыць чалавек! Мінула колькі часу, першая роспач крыху прытупілася, і ў нашым вагоне завёўся такі-сякі лад. Усе пасябраваліся, зжыліся... Перасталі плакаць ці, лепш кажучы, плакалі кожны сабе, паціху, у куточку. Дзеці павыцягвалі нейкія цацкі, пачалі шумець. Моладзь, а яе ў нашым вагоне было

шмат, хлапцоў і дзяўчат у веку ад 12-х да 17-х год, узялася нават спяваць, часам нат жартаваць і смяяцца, хоць ніхто не ведаў, калі і дзе будзе канец нашаму жудаснаму падарожжу. Але ў іншых вагонах было горш. Найменшыя дзеці (былі такія, двухтыднёвыя) паміралі. Не было не толькі што малака, нават вады, каб даць ім. Раз на двое сутак, апоўначы, цягнік прыпыняўся на вялікіх вузлавых станцыях, і дзяжурныя па вагоне хадзілі пад вартай па хлеб і зупу. Гэта было ўсё, што мы даставалі, каб не памерці. Так, праехаўшы вялікі шматок Расеі, мы перасеклі Урал, вельмі прыгожы ў сваім суровым каменным харастве, і апынуліся ў бязмежных стэпах Заходняе Сібіры.

Пачыналася вясна... Снег блізу згінуў. Абапал чыгункі, як вокам кінуць, рудзелі бясконцыя прасторы ссохлае леташняе травы. Дзе-нідзе на даляглядзе бялеліся рэдкія бярозавыя пералескі. Было страшэнна пуста, сумна і безнадзейна. Я ўвесь час сядзела ля вакна і глядзела на кавалачак сіняга неба, што было відаць у шчыліну... «Толькі вясною бывае неба такое сіняе, толькі вясною бываюць далі такія чыстыя...», — настырліва, у тахт колаў, звінела ўвушшу. Гэты верш, што ўвайшоў пазней у зборнік «Сягоння», нарадзіўся якраз аднае вясновае раніцы ў цягніку, што вёз нас у далёкую ссылку праз аднастайныя сібірскія стэпы.

Пасля 20-х дзён пакуты мы дасягнулі нарэшце мэты. Цягнік, які ўжо ад колькі дзён, не даязджаючы Новасібірску, звярнуў быў проста на паўдня, спыніўся на маленькай стэпавай станцыі на беразе нежывога салёнага возера. Нас выгрузілі і машынамі развезлі па бяскрайніх прасторах. Наш вагон, усе разам, трапіў у глухую калгасную вёску Дзмітраўку, дзесяткі кіламетраў (больш за 70) ад чыгункі. Тут мы доўга сядзелі на вуліцы, у пяску, не ведаючы, што рабіць і куды йсці. Нас проста скінулі з машынаў сярод сяла, і ўсё. Калі сцямнела, мясцовыя калгаснікі, украінцы, перасееленыя сюды яшчэ царскім урадам, якія дагэтуль маўклівым натоўпам прыглядаліся нам здалёк, пасмялелі, падышлі бліжэй. Тыя, што мелі мягчэйшыя сэрцы, запрапанавалі начлег. Нам пашанцавала. Нейкая старая забрала нас да сябе, дала есці. Пашанцавала яшчэ некаторым. Але і былі такія, што начавалі на двары.

Назаўтра прыехалі з раённага НКВД. Сабралі нас усіх у сельсавеце. Доўга перапісвалі нас, дапытвалі, а нарэшце сказалі, што мы не маем права нікуды з нашае вёскі выходзіць, што маем штодня а 7 гадзіне раніцы мэльдавацца ў сельсавеце і

што... мусім сабе радзіць, як патрапім. «У каго няма грошай, а яны, пэўне ж, ёсць у кожнага, вы ж «памешчыкі», — сказаў адзін з энкавэдыстаў, — той можа ісці «пабатрачыць у калгаснікаў». Нам да вас справы няма, і працы мы вам ніякай даць не можам, пакуль вы не «перевоспитаетесь» і не «раскулачитесь».

І мы пачалі шукаць заработкаў, старацца хоць як-колечы наладзіць жыццё. Заработкі знайшліся. Справа ў тым, што ўсе калгаснікі, не вылучаючы старое, у якой мы начавалі першую ноч і якой было ўжо 80 год, штодня мусілі хадзіць на працу ў калгас. Працавалі яны ад цямна да цямна далёка ў стэпе. Але ў хаце, аднак, трэба было даваць рады, праца і тут была. Трэба было нацягаць вады каровам апаўдні (студні ў Дзмітраўцы былі страшэнна глыбокія, і вады ў іх было мала), пачысціць хлявы, вымазаць хату (хаты ў Казахстане, абсалютна бязлесным, усю-ды з гліны, і прынамсі раз на год іх трэба нанова абмазваць, каб не развалiліся ад дажджу і сонца).

І вось калгаснікі пачалі нас наймаць, каб выконваць за іх гэтую працу, тым больш што НКВД афіцыйна гэтага не забараніла, хоць і сказала неафіцыйна, што калі хто з мясцовых жыхароў будзе дапамагаць «палякам», дык таго вышлюць «на Камчатку». Мы за посцілку і два ручнікі нанялі кватэру ў аднаго калгасніка, гэта значыцца, месца ў хаце, дзе можна было спаць на глінянай падлозе, і ўзяліся за заработкі, каб не загінуць. Капалі гліну, мясілі ў ямах із сечкай, лазілі на стрэхі, мазалі іх глінай, правілі каміны, рабілі «саман» (цэглу з гліны, мяшанае з сечкай), цягалі ваду са студняў. За гэтае нам плацілі пшаніцай, давалі хлеб, часам нават малако. Бульбы і ніякага варыва ў Казахстане мы не бачылі. Кажуць, калі ўдасца, бывае, добры год, дык родзіць там і бульба, і нават кавуны, але пры нас год быў зусім засушлівы, і нічога на гародах не толькі не вырасла, але нават і не ўзышло. Так-сяк мы пачалі новае жыццё.

Мясцовае жыхарства і само жыло ў вялікай нястачы. Шмат якія калгасы год у год галадалі. У нашай Дзмітраўцы было, праўда, крыху лепш. Леташні год быў выняткова ўраджайны, і кожны меў запас пшаніцы, але не было ні адзежы, ні абутку, ні пасцелі, ні посуду. З нашае посцілкі гаспадары пашылі сабе па кашулі, і гэта было для іх велізарнае свята. Спалі яны на голым гліняным прыпечку, падаслаўшы пад галаву брудную падраную ватоўку, скіненую толькі што з плечаў, хадзілі блізу босыя, дарма што стэп быў поўны атрутных скарпіёнаў, не мелі ні лыжкаў, ні нават лаваў.

У працы, у тузе прамінула спякотнае, паспаленае казахстанскае лета. Ні разу за ўсе летнія месяцы не было дажджу. Зямля папопалася, голы, пусты і так стэп зрудзеў і ссох дарэшты. Пагражалі няўрода і голад. У калгасе быў страшэнны непарадак і хаос. Валы здыхалі, трактары псаваліся. Калі што, раней пасеянае, і ўзышло, і даспела, — так і марнавалася на карані, бо не паспявалі зжаць і звазіць. Сена часткаю згарэла ў стэпавым пажары, часткаю зазімавала пад снегам. Калгасная скаціна засталася без корму на зіму.

У калгасах па той бок чыгункі, у Алтайскім краі, пачаўся голад. Ад раніцы і да вечара праз нашую вёску пацягнуліся працэсіі галодных сібіракоў-калгаснікаў, што жабравалі пад вокнамі хлеба. Але хлеба і ў нашай Дзмітраўцы ўжо мала ў каго было. Пад вясну шмат хто захварэў на цынгу. Што ж казаць аб нас! Дарма, што цяжкой працай мы зарабілі былі крыху хлеба, нам давялося пазнацца гэтаю зімою і з голадам, і з холадам. Зімавалі мы ў глінянцы, якую самі сабе змайстравалі і абмазалі з разваліна ў старое закінутае хаты, што калісьці належала да будынкаў нейкага раскулачанага і выгнанага з вёскі кулака (такіх разваліна ў, адных сценаў, было ў нашым сяле вельмі шмат). Там было цёмна, цесна і сцюдзёна. Была, праўда, печка, што вечна курэла, але паліва было мала. Дроваў у Казахстане няма. Паляць там сухім палыном, саломай і «кізякамі» (высушаным каровім гноем). Усю восень мы хадзілі далёка ў стэп ірваць палын, які расце там вышэй чалавека, і хоць пакалечылі і паранілі рукі аб калючае цыбур'ё, а крыху апалу прызапасілі. Хадзілі таксама ў стэп, дзе пасвіліся калгасныя каровы, збіраць высушаныя гарачым сонцам «кізякі». Аднак ні палыну, ні «кізякоў» на ўсю даўгую сібірскую зіму не хапіла. А зіма гэтая была сапраўды жудасная — ветраная, маразяная, завейная. Тыднямі трымалася страшэнная сцюжа (50 градусаў і больш), дзьмуў безупынны ледзяны вецер з Паўночнага акіяна, па стэпе мяло снег. Восем чалавек калгаснікаў (у тым ліку тры жанчыны) з нашае вёскі замерзлі на працягу зімы, заблудзіўшы ў мяцеліцу («буран») каля собскіх хатаў. Замерзла і шмат «ссыльных» з іншых вёскаў, але мы ўсе цудам дачакаліся вясны, хоць шмат хто захварэў на цынгу. Усю зіму мы праседзелі ў нашай зямлянцы ўпацёмку, бо не было ні газы, ні свечак. Адзін раз, памятаю, столькі было выпала ўначы снегу, што нас зусім засыпала, і толькі праз суткі калгаснікі-суседзі адкапалі нас. Ды ўсё ж мы жылі і нават ніколі асабліва не кідаліся ў роспач. Відаць, ні го-

лад, ні сцюжа, нястачы ці цемра не патрапяць зламіць чалавека.

У лютым, у канцы, калі ўжо дні пабольшалі і летуцелася аб блізкай вясне, зімовая манатоннасць перарвалася для мяне адным здарэннем. Прыязджала НКВД, перапісвала ізноў усіх, а мне загадала ўзяць хлеба на тры дні і з паштаром ехаць у раён. (Пошту ў нашае сяло вазіў з раёну, за 40 кіламетраў, гарбаты паштар-калгаснік на санках, запрэжаных ледзь жывою сівою канягаю.) Вядома, мы ўсе вельмі такім загадам усхваляваліся, але не было рады, трэба было збірацца ў дарогу. Дасталі кавалак хлеба, пазычылі велізарны кажух і старыя валёнкі (маразы, хоць і вясна блізка, трымаліся ўсцяж вялікія), і назаўтра досвіткам я паехала з паштаром у раён. Ехалі мы суткі, бо конь быў слабы, давялося начаваць у нейкім чужым калгасе. Раённае НКВД пратрымала мяне ў страху і няведзе цэлы дзень, а ўначы, ізноў санкамі, адправіла ў «вобласць», даўшы ліст да самога начальніка абласнога НКВД у горад Паўладар. Дарогаю пачалася адліга, у Паўладары вуліцы абярнуліся ў рэчкі. Прабрыўшы са станцыі да горада пехатою ў сваіх валёнках добрых колькі кіламетраў, я прастудзілася і захварэла. Начальніка НКВД у горадзе не было. Агледзеўшы мой ліст, мне сказалі прыйсці назаўтра. Але куды было дзецца? Я з гарачкаю пабрыла па горадзе. Хадзіла аж дацямна. Нарэшце адважылася пастукацца ў нейкую хату ў канцы аднае доўгае вуліцы і то толькі таму, што далей ісці было немагчыма — велізарная лужына, сапраўднае возера, залівала ўсю вуліцу. І здарыўся цуд. Старая жанчына, што жыла ў хаце, адразу прыняла мяне пераначаваць і нават напаіла гарбатаю і паслала мне добрае ложка! Я вылежалася і адпачыла, а назаўтрае ізноў пайшла ў НКВД. Сядзела я там, галодная, цалюткі дзень. Начальнік прыняў мяне толькі ў дзесяць гадзін увечары і, доўга не гаворачы, перадаў мне ліст і грошы на дарогу і загадаў з першым жа цягнікомехаць у Маскву. Я была страшэнна і здзіўленая, і зацікаўленая. Баялася я ўжо менш. Бо калі б мяне меліся арыштаваць, як я раней думала, дык нашто было гэта рабіць аж у Маскве, а не тут, на месцы?

І вось я паехала. Кажух пакінула на станцыі, але валёнкі цягнула на нагах, дарма што ад вільгаці яны размоклі і зрабіліся велічэзнымі. Ад прастуды застаўся кашаль, які мучыў мяне праз усё падарожжа. На шосты дзень я шчасліва заехала ў Маскву, знайшла па адрасе на канверце ліста маскоўскае НКВД (на Лу-

бянцы), ізноў запаўняла там бясконцыя анкеты, адказвала на бясконцыя пытанні. Энкавэдысты стараліся намовіць мяне, каб я падпісала развод із маім мужам, але я адмовілася. І падумаць толькі, што муж мой быў якраз у гэтым часе там, на Лубянцы, можа, праз якую сцяну ад мяне, а я і не падазравала гэтага! Наагул, і па сённяшні дзень я не ведаю, нашто мяне маскоўскае НКВД выклікала аж з Казахстана? Ці яны хацелі паглядзець на мяне, ці намовіць на развод, ці яшчэ што. У рэшце рэшт яны сказалі мне, што за мяне «ходатайствуют» важныя асобы і што я, магчыма, буду звольнена з высылкі, а пакуль што маю ехаць назад у Казахстан і аб усёй справе маўчаць. Я так і зрабіла. НКВД завезла мяне на станцыю, купіла білет і пасадзіла ў цягнік. Праз тыдзень я была ўжо ў нашым раённым мястэчку.

Пагода змянілася. Пацяплела. Пачалося вясновае разводдзе. Па вуліцах імкнулі ручаі, усюды была вада, вада, а я была ў сваіх цяжкіх, намоклых валёнках! Пошта не ездзіла, усякае спалучэнне з нашай далёкай Дзмітраўкай было перарвана. І я наважыла йсці дахаты пехатою праз стэп, бо ў раёне мне не было куды дзецца. Цяжка было ісці ў кажуху, што цягнуўся па зямлі праз мокры, падобны да кашы, снег. Навокал была шэрая маўклівая пустка-стэп. Дарогу было ледзь знаць. Пад нагамі хлюпаў мокры снег, над галавою было шэрае неба.

Я мінула дзве вёскі, адну з іх кіргізскую (казахскую). Тут нейкі незнаёмы кіргіз, што стаяў на вуліцы, запрасіў мяне да сябе словамі: «Ты ссыльны? Дык хадзі да мяне чай піць». Я была вельмі стомленая і піць мне страшэнна хацелася, я пайшла за кіргізам. Ён прывёў мяне ў гліняную хатку, падобную да хатаў у нашай вёсцы, толькі ніжэйшую і звонку не пабеленую і бяскшталтную, як куча гною. Але ўсярэдзіне было досыць чыста. Жонка кіргіза згатавала вады ў мядзяным катле, і ўся сям'я села на падлозе вакол нізенькага століка. Мне падставілі куфэрак, каб выгадней сесці. Чай кіргізы п'юць з цікавых місачак, падобных да вінных чарак, завуцца яны піяламі. Адпачыўшы ў добрага кіргіза (усе яны цярпець не могуць бальшавікоў, адгэтуль і сімпатыі да іхных ахвяраў), я яшчэ шпарчэй, наколькі дазвалялі кажух і валёнкі, пайшла мясіць мокры стэпавы снег.

Калі цямнела, я даходзіла да вялікае вёскі, найбліжэйшае да нашае, зрабіўшы за дзень 32 кіламетры. Тут я пераначавала ў адной сям'і, таксама вывезенай з Вялейкі, а назаўтра пабегла апошнія 8 кіламетраў. Я не была ў хаце больш двух тыдняў, дык не дзіва, што мне рупіла хутчэй пабачыць хлапцоў. Валёнкі

так панаціралі мне ногі, што я ўжо не дала рады цярпець, скінула іх і апошнія 5 кіламетраў ішла босая па снезе і вадзе. Ногі зрабіліся чырвоныя-чырвоныя, і ані не было холадна, а што найдзіўней, дык я не толькі не прастудзілася, але і рэшткі папярэдняй хваробы як рукой зняло! Праз тры тыдні, ці мо крыху больш, з раёна прыйшла папера, што мы звольнены і можам варочацца «на прежнее местожительство». Уручылі нам гэтую паперу а гадзіне 1-ай уночы, а ў 6 гадзін мы меліся быць гатовыя да выезду! Ясна, што ўсю ноч мы не спалі, пакаваліся, раздавалі рэчы сябрам па няшчасці, збіралі ад іх лісты да сваякоў, даручэнні. І вось ізноў мы стаялі на машыне і імкнуліся праз стэп, але ўжо дахаты!

Быў першы сапраўдны вясновы дзень. Стэп прачынаўся да жыцця, пачынаў зелянець... Недзе ў тумане гулі трактары, стэпавыя птушкі пішчэлі і цвіркалі на ўсе галасы. На душы было радасна, і радаснае было ўсё навокал. Дзён праз дзесяць пасля мы былі ўжо ў Дорах, дзе заспелі вялікія змены. Нашых высялілі з дома, там зрабілі школу, зямлю адабралі пад калгас. Сад увесь памерз, не засталося ні яблынькі... Усюды гаспадарылі чужыя людзі. Але дарма, мы былі ў хаце, і ўсё! Дні праз два мне прыйшоў загад ехаць у Беласток. Хлапцы засталіся ў Дорах. У Беластоку я адшукала Танка (ён, не ў прыклад іншым, быў мне нават напісаў ліст у Казахстан, не пабаяўся, за што я была яму вельмі ўдзячна), і той уладзіў мяне на кватэру і на працу ў рэдакцыі газеты. Тут я і працавала да выбуху вайны, гэта значыць, якіх тыдняў пяць.

Калі першыя бомбы пасыпаліся на Беласток, я наважыла не заставацца тут, баючыся, што лінія фронту можа надоўга адрэзаць мяне ад Дораў, тым больш што пару дзён перад гэтым я атрымала ад дзяцей радасную вестку, што муж мой прыйшоў дахаты, звольнены з Лубянкі, дзе, як мы цяпер толькі даведаліся, ён праседзеў паўтара гады. У месце была паніка. Савецкія ўладары ўцякалі як мага. Каб дастацца на цягнік або самаход, — і мовы быць не магло. Заставалася ісці пехатою. Я спакавала свае нешматлікія рэчы ў торбу, ускінула яе на плечы і, як толькі пачало цямнець, выйшла гародамі на шашу і пайшла на ўсход. Чырвоная армія ўцякала. Тысячы машынаў, танкаў, тачанкаў, гарматаў імкнуліся ў шалёным тэмпе таксама на ўсход, спіхаючы адно аднаго ў канавы, ломячы прыдарожныя дрэвы і паркаsuccны. Ззаду палымнела чырвонае зарыва пажараў. Ад пылу цяжка было прадыхнуць, ад гуду гуло і звінела ўвушшу. Прайшоў-

шы пару кіламетраў полем уздоўж шашы, я сустрэла дзяўчыну з валізкаю ў руках, якой яна не магла даць рады цягнуць. Мы разгаварыліся. Яна была беларуска, вучылася ў Беластоку і цяпер уцякала дахаты, за Ваўкавыскам, на вёску. Нам было ў адну дарогу, і мы наважыліся ісці разам. Мы і пайшлі. Жудасная была гэтая дарога. Некалькі дзён мы былі шточасіна на валасок ад смерці, бо немцы бамбілі шосы і лясы без перасціханку. Адна бомба разарвалася так блізка ад нас, прытуленых у страху пад хвойкаю, што мяне раніла асколкам у шчаку. Ранка была малая, і я нават не звярнула на яе ўвагі, заціснула хусткай, каб кроў не капала і пайшла далей, але пад вечар шчака ўспухла і пачала нарываць, а назаўтра я ўжо мела вялікаю гарачку. Мы не мелі з сабой нічога есці. Вады таксама нідзе на дарозе не траплялася. Тры дні мы не елі, а замест вады ссалі хустачкі, намочаныя ў балоце, напатканым тут і там у лесе. На шашу выйсці баяліся, бо немцы ўсцяж білі з паветра па адступаючых савецкіх частках, і ўся шаша была перааранная ямамі ад бомбаў і засыпаная трупамі. Уночы вакол свяцілі жудасна пажары. Ад гарачкі мне ўсё здаваліся нейкія здані. Кожны куст здаваўся то танкам, то гарматаю, дрэвы прымалі постаці байцоў, што нацэльваліся проста ў мяне. Гэта быў вельмі цікавы стан, і я здавала сабе з яго ўвесь час дасканала справу, хоць і не магла нічога парабіць, каб мне не здавалася. А тым часам ногі нашыя, паміма волі, ішлі ды ішлі. У аднэй вёсцы недалёка Свіслачы стомленасць, аднак, зваліла нас нарэшце з ног. Мы папрасіліся ў нейкае жанчыны ў гумно, ляглі ў саломе і так моцна заснулі, што не чулі нічога... А тым часам вёску збамбардавалі, адзін канец яе пачаў гарэць, а неўзабаве з'явіліся на выгане першыя нямецкія танкі. Давялося перачакаць змену. Мы праседзелі ў вёсцы два дні, а калі нямецкія танкі і вайсковыя часткі прайшлі, — пайшлі іхным следам.

Неўзабаве дзяўчына мая прывяла мяне ў сваю вёску. Тут я гасціла ізноў два дні, а пасля ўжо адна пайшла ў далейшую дарогу. Ледзь не ўтапілася, пераходзячы праз Свіслач па рэштках спаленага моста. Паслізнуўшыся на абвугленым бярвенні, я звалілася ў ваду, але ў апошні момант ухапілася за нейкую бэльку і з вялікай цяжкасцяй вылезла. Навокал не было ні душы. Абсушыўшыся збольшага на беразе, я пайшла лесам далей. І гэтак я йшла пехатою да Ліды, а ад Ліды ўжо ўздоўж чыгуначных рэйкаў да Багданава, адтуль на Валожын, начуючы ў гумнах, жабруючы па хатах хлеба ці якое стравы. Затое ў Дорах я

ўжо адпачыла! Праўда, тыдні два я ўсё роўна не магла хадзіць, бо падэшвы ног нарывалі. Давялося ўсё больш ляжаць у гумне, у халадку, і адпачыла я дасканала.

А жыццё не стаяла. Навокал рабіліся і страшныя і цікавыя рэчы. Праляцеў фронт, бальшавікі паўцякалі, калгасы раскідаліся, усё пачало варочацца да ранейшага. Угары кружылі, як тыя каршуны, самалёты. Уздоўж даляглядаў паўзлі дымы, уначы неба было страшное і чырвонае. «Гэта гарыць Менск», — гаварылі людзі, спакойна сянуючы, жнучы, сеючы, як быццам не было нічога гэтага — ні вайны, ні самалётаў, ні пажараў.

Але ж век заставацца ў Дорах, сенаваць, жаць, сеяць, як усе вакол, не хацелася. Палажэнне было няпэўнае, што ёсць, а што яшчэ будзе, ніхто тут не ведаў. І вось я пачала намаўляць нашых не баяцца, а з'ездзіць у Менск, паглядзець ды паслухаць, што чуваць на свеце. Нарэшце малодшы мужаў брат, найсмялейшы, згадзіўся з'ездзіць са мной у места.

Калі я ўпершыню пабачыла Менск, прыехаўшы на госці ў Саюз пісьменнікаў із Танкам і Машарам, ён мне зусім не спадабаўся. Было тут, праўда, колькі зусім новых, вялікіх, прыгожых будынкаў, як Дом урада, гатэль «Беларусь» і іншыя. Але побач з імі, прытуліўшыся да іх, стаялі старыя, шэрыя хаткі. Паркаў і наагул дрэваў у цэнтры горада было мала. Ходзішчы і вуліцы былі не ў парадку, вулічны натоўп па-савецку шэры. Да таго ж стаяла яшчэ зіма, дарма што гэта быў ужо пачатак сакавіка. Усюды была халадэча страшэнная, таму што па плану горад пераставаў апальвацца з пачаткам сакавіка, а ці была ўжо вясна, ці маразы да 20° — гэта нікога з уладаў не трывожыла. Трапіўшы ў Менск цяпер, я сапраўды не пазнала яго: як вокам кінуць, цягнуліся руіны, руіны і руіны. Чорныя пажарышчы, здавалася, яшчэ курыліся. На першы пагляд гэта быў нежывы, памерлы горад. Я хадзіла па вуліцах і, дзіўная рэч, пачынала любіць апусцелае места, пачынала любіць ягоныя руіны і пагарэлішчы, дарма што сэрца сціскала сумам і вусцішай.

У выніку мае паездкі ў Менск і маіх ад яе ўражанняў пару тыдняў пазней мы з мужам апынуліся ў Менску, дзе адчынялася магчымасць, хоць пад ботам акупанта, рабіць беларускую працу. Мы атрымалі кватэру на былой Ленінградскай вуліцы, муж пачаў працаваць, а я глядзела з вакон нашага 4-га паверха на разбіты Менск і сумавала. Хлапцы засталіся ў Дорах, і я не мела ніякіх сямейных абавязкаў, бо я нават і не варыла ў хаце. Было сумна і нудна. Усё перажытае за апошнія гады, маё са-

мотнае ходанне з жыццём пасля выбуху вайны, Казахстан, жудасныя здарэнні, апошняе пешае падарожжа з Беластока, — усё гэта толькі цяпер сапраўды адчулася, зразумелася ясна і востра. Мяне агарнуў нейкі дзіўны непакой. Гэткі стан трываў колькі дзён. А тады крыніца натхнення, удосыць напоеная перажытым, пазнаным і перацярпелым, выбухла. Так нарадзіўся першы верш гэтага новага перыяду мае творчасці — «Паўшым». (У Казахстане ■ не напісала ні радка. У Беластоку ўжо збіралася апошнімі днямі ўзяцца за пяро, пачатак абразка «Стары Сымон» круціўся ў галаве, ды выбух вайны не даў мне здзейсніць жаданае.) За «Паўшым» з'явіліся «Сягоння», «Трэба быць песняром і цяпер» і колькі іншых.

Якраз у гэтым часе муж запрапанаваў мне пайсці на працу ў рэдакцыю «Беларускае газэты»[23], якая пачала выходзіць у Менску. На самым пачатку свайго жыцця ў Менску (я прыехала да яго крыху пазней) ён жыў разам з рэдактарам газеты сп. Антонам Адамовічам на адной кватэры і быў аб ім вельмі высокай думкі. Мне і самой хацелася пайсці працаваць. У хаце было так сумна цэлы дзень аднэй. Адно я баялася, ці патраплю працаваць у *гэтай* рэдакцыі. Праўда, я працавала ўжо ў Вялейцы і крыху ў Беластоку, і працавала добра, але такая ўжо мая натура, што я ніколі недаацэньваю сваіх сілаў і магчымасцяў. Заўсёды мне здаецца, што я чалавек нецікавы, усё раблю і ўмею горш за іншых, а шчыра кажучы, не ўмею і не патраплю нічога. Да таго ж я вельмі нясмелая, і пайсці куды ці пастарацца аб чым, ці, Божа барані, папрасіць каго аб чым, — для мяне рэч вельмі прыкрая і цяжкая. Апошнія гады, праўда, давялося мне штодня і штогадзіны перасільваць, адольваць гэтую сваю дурную натуру, бо што было б і са мной, і з хлапцамі, каб я так і сядзела дзе на печы? Але колькі я перажыла праз гэта, ніхто, апрача мяне самой, не ведае.

Дык вось, я дні два збіралася ісці ў рэдакцыю, баялася, як мяне там сустрэнуць, што скажуць. Баялася Адамовіча. Ён, як некалі Гарэцкі, здаваўся мне нечым вышэйшым, нейкім жыхаром Алімпа, ці што. Але ў рэшце рэштаў я ўзяла перапісаныя начыста апошнія вершы і ўсё ж пайшла. Сэрца маё моцна білася, калі я ўваходзіла ў цесны пакойчык, дзе тады рэдакцыя месцілася. Там было моцна накурана і, як мне здалося, было аж зашмат людзей. Пазнаёміліся... Я перадала Адамовічу вершы. Ён параглядзеў іх моўчкі, а тады голасна зачытаў прысутным верш «Паўшым», а пасля «Сягоння». Мне зрабілася смялей і

весялей. Я падумала, што калі Адамовіч чытае вершы супрацоўнікам, дык хіба яны добрыя. І ўся мая нясмеласць згінула. Праз некалькі дзён, калі рэдакцыя газеты перанеслася ў собскае памяшканне недалёка пляца Волі, я пайшла на працу. Спачатку я сядзела зусім адна ў вялікім пустым пакоі. Працы фактычна не было, ці мо мне яе не хацелі даць, не ведаю. Я пачала займацца сваёй пісанінай. Сядзела ля вакна, перакладала лібрэта да оперы «Кармэн»[24], нанова перакладала «Евгения Онегина»[25] для тэатра, які таксама ў гэтым часе пачаў быў сваю працу. Дзень ішоў па дні, і я зусім уцягнулася ў творчыя справы. Сёння я разумею, што мне таму і не давалі нічога рабіць у рэдакцыі, апрача адчэпнага, дробных перакладаў, каб я магла спакойна займацца сваім пісаннем, але тады мне было крышачку крыўдна.

Праз нейкі час у той пакой, дзе я сядзела, унеслася рэдакцыя газеты «Голас вёскі»[26]. Супрацоўнікі «Голасу вёскі» паказваліся там, праўда, рэдкавата, але я забрала ўсе свае паперы і перайшла, хоць мяне ніхто і не запрашаў, у пакой нашае газеты. Каля печы, бо з восенню рабілася ў нашай рэдакцыі ўсцяж халадней, я паставіла сабе маленечкі столік і там і працавала ўжо ўвесь час. Побач майго століка стаяў стол сп. Адамовіча, сапраўднага рэдактара «Беларускае газэты», а насупраць ля вакна стол Ул. Казлоўскага[27], афіцыйнага ейнага рэдактара. Добра было мне працаваць там! Каб так усё жыццё, я не ведаю, ці хапіла б паперы дзеля запісання ўсяго, што я магла б стварыць. Адчуваліся поўны супакой, прыхільнасць навокалля і шчырае сяброўства людзей, асабліва сп. Адамовіча. Колькі ўсяго, добрага і благога, перажылі мы разам у нашай рэдакцыі, колькі цікавага бачылі і чулі, колькі раз і хваляваліся і цешыліся, а часам, хоць, праўда, вельмі рэдка і коратка, нават і сварыліся за тое ці гэтае.

Гэны час я заўсёды буду ўспамінаць як найпрыхільнейшы для мае працы.

Адамовіч пазнаёміў мяне з «Узвышшам»[28], аб якім я дагэтуль мала чула, даў мне прачытаць усе нумары часопіса і зборнікі вершаў узвышэнцаў. Уплыў гэтага знаёмства, мне здаецца, можна прасачыць у тым ці іншым з маіх тагачасных вершаў, хоць пабачыла гэта я толькі цяпер, перачытваючы днямі свой зборнік «Сягоння». Але ці гэта такі ўжо грэх, тым больш што грэх зусім несвядомы, узніклы з вялікага разумення і мастацкага задавальнення, хай судзяць іншыя.

У рэдакцыю безупынна прыходзілі наведальнікі. Хто ні прыязджаў у Менск з правінцыі, абавязкова заходзіў сюды. Тут, як і належыцца сапраўднай рэдакцыі, мы заўсёды мелі ўсе навіны і чуткі. Я ціханька са свайго кутка прыглядалася гэтаму ўсяму і прыслухоўвалася. Слухала і пісала. Хатняе нашае жыццё таксама ў гэным часе ажывілася. Прыехалі з вёскі хлапцы, завязаліся знаёмствы. Тэатр наш, які я вельмі палюбіла, таксама даваў шмат прыемнага. І хоць жылося вельмі галадна, холадна і цёмна, бо ў разбітым, знішчаным вайною Менску ўсяго не ставала, чалавек аж гарэў жаданнем жыць і тварыць.

Неяк у гэтым часе да мяне звярнуліся з прапановай напісаць лібрэта да новае оперы, якая мелася быць пастаўленая ў нашым тэатры. Працаўнік аддзела мастацтва пры Гарадскім камісарыяце сп. Ільінскі, чалавек вельмі несімпатычны, але які знаўся на мастацтве, так схарактарызаваў мне тое, чаго ад мяне вымагалася: «Лібрэта оперы, — казаў ён, — павінна быць пабудаванае на рамантычным каханні з трагічным эпілогам. Нават сентыментальнасць тут не пашкодзіць». Вось я і занялася рамантычна-сентыментальнымі планамі. Пасля доўгіх хістанняў я наважылася ўзяць за сюжэт оперы маё «Лясное возера» з цыкла «Зачараваны кут» у зборніку «Пад сінім небам». У тварэнні оперы брала ўдзел блізу ўся рэдакцыя, бо, калі лібрэта было скончана, прынята і пісанне музыкі, даручанае кампазітару М. Шчаглову, кожны крок наперад, кожная новая арыя праслухоўвалася і абмяркоўвалася ў нашым рэдакцыйным пакоі. Я ж проста не магла дачакацца кожнага новага акта! Упершыню я чула свае радкі жывымі, звязанымі з мелодыяй.

Ды не толькі лібрэта оперы было мною напісана. Я ж напяяла сп. Шчаглову мелодыі шмат якіх песняў, сустраканых у оперы. Усё гэта былі беларускія песні, якіх я навучылася ў Дорах ад вясковых жанчынаў. Песні гэтыя — гэта ў другім акце песня скамарохаў, у трэцім акце ўсе вясельныя («Ой, борам, борам», «Ой, гара з гарой разлягаецца» і іншыя). Тэксты іншых народных песняў, сустраканых у оперы, я ўзяла са зборніка Раманава[29] («Завіванне бярозкі» з 4-га акта, напрыклад). Які гэта быў чароўны час, і як я люблю і Менск, і рэдакцыю, і людзей, што былі тады са мной, за ўсе тыя гарачыя творчыя імкненні, якія я тады перажывала!

Прэм'ера оперы чакалася з біццём сэрца, кожная перашкода жыва перажывалася! Пасля «Ляснога возера» я ўзялася за пераклад «Затонутага звона» Г. Гаўптмана[30]. Гэта была ўжо рэч

шмат цяжэйшая, але ўдалася і яна. «Затонуты звон» падабаўся мне даўно, цяпер жа, перакладаючы, ■ часамі была як бы ў нейкім трансе, словы самі нізаліся ў радкі. Асабліва месцы, якія я любіла, перакладаліся лёгка. Іншыя зноў аніяк не выходзілі. Усё здавалася не тое, не хапала слоў у мове, каб перадаць адчуванае. Велізарнай прыемнасцю была кожная ўдача, кожная перамога. Ізноў жа мае дарагія сябры, асабліва сп. Адамовіч, заўсёды дапамагалі мне ў працы, то падказваючы патрэбнае якраз слова, то радзячы нейкую змену ці папраўку. І ўсё гэта ў цягу працы, якой заўсёды ў рэдакцыі было аж зашмат. Бо так ужо злажылася, што, хоць супрацоўнікаў было шмат, адны сядзелі над сталом крукам дацямна, а іншыя прыходзілі сюды толькі абмяняцца чуткамі ды плёткамі, канчаючы свой гэткі «працавіты» дзень за чаркай у аднэй із шматлікіх менскіх піўнушкаў, таксама свайго роду ваенная своеасаблівасць горада!

Так прамінулі 41-шы і палова 42-га года. Аднаго дня я атрымала ліст з Нямеччыны. Гэта быў ліст ад майго брата, які жыў увесь гэты час із жонкай і дзіцём у Вільні, а ў саракавым годзе ўцёк у Нямеччыну, ратуючыся ад бальшавікоў. Ліст быў вельмі трагічны, як бы развітальны. Брат пісаў, што ён цяжка хворы і вельмі хацеў бы пабачыцца са мной і перадаць мне апеку над сваёй сям'ёй.

Я вельмі пранялася весткаю аб цяжкой хваробе брата, і мы пачалі стараннi аб дазвол на выезд у Нямеччыну, што было тады рэчай вельмі цяжкой. Урэшце ўсімі праўдамі і няпраўдамі, але дазвол быў дадзены, і я выехала ў Берлін, а адтуль у Лейпцыг, дзе жылі мае. Брата я ў Лейпцыгу не застала, ён быў у санаторыі Reisengebirge. Доўга не думаючы, я паехала туды. Як бедны цешыўся, калі пабачыў мяне! Тым больш што гэта была для яго вялікая неспадзеўка. Я прабыла ў гарах тры дні, кожны дзень наведваючы санаторыю. Стан брата быў цяжкі. Ад'язджала я з цяжарам на сэрцы. І не дарма. Не мінула двух дзён па маім павароце з гораў, як братавая мая атрымала паведамленне, што брат памёр. Праз гадзіну мы абедзве ехалі ізноў у горы. Цяжкія гэта былі часіны, і мы з братавай шмат паплакалі, пакуль пахавалі нябожчыка. Плакалі і вярнуўшыся ў Лейпцыг.

Тэрмін майго пропуска падыходзіў да канца. Як ні сумна было пакідаць сваіх, трэба было варочацца ў Менск.

Па дарозе я затрымалася на пару дзён у Берліне. Беларускі камітэт наладзіў тут мой літаратурны вечар. Др. Тумаш прачытаў рэферат, а я — цэлую вязанку сваіх вершаў. Наведала я і

Берлінскую оперу, але, дзіўная рэч, наш сціплы Менскі тэатр, мо таму, што свой, падабаўся мне шмат больш, чым усё, што я бачыла ў Берліне. Тут, дарма што вайна, дэкарацыі былі сапраўдныя, галасы спевакоў добрыя, але ім не хапала чагосьці, каб закрануць мяне, — душы. У нас жа ў Менску, хоць і заслона і дэкарацыі былі знішчаныя, па-ваеннаму бедныя былі і дэкарацыі і касцюмы, але кожная арыя, кожны дуэт даходзілі да сэрца.

Адпачыўшы крыху ў Берліне пасля сумных дзён у Лейпцыгу, я, ужо нідзе не затрымоўваючыся, прыехала проста ў Менск. Як я цешылася яшчэ ў цягніку, набліжаючыся да яго, з якой прыемнасцяй пабегла ізноў у родную рэдакцыю, з якою прагаю села за працу! А працы чакала шмат. Усё пераважна для тэатра. Цяпер быў на чарзе «Цыганскі барон» [Ё. Штрауса], «Разбіты кубак» Клейста[31], «Зачараваная жалейка» Моцарта[32] і «Вольны стралец» Вебера[33], не лічачы драбнейшых рэчаў і перакладаў, якія былі патрэбны для тэатра блізу штодня. Праца для тэатра — пробы, праслухоўванні — незвычайна падабалася мне. Каб гэта залежала ад мяне, я б да канца жыцця не хацела ніякае іншае. Тут, у тэатры, чуеш свае словы, сваю працу жывымі, злітымі з мелодыямі, так што яны і самі робяцца мелодыяй. А без гэтага каму яны, гэтыя словы, патрэбны? Хто ўмее цаніць ці любіць вершы? Дробная жменька людзей мо і прачытае іх, мо і зразумее, і на гэтым усё. Прачытаныя, яны забываюцца, яны паміраюць. А колькі ёсць людзей, што анічога не разумеюцца на паэзіі? Якія сваёй «мудрай» крытыкай патрапяць давесці нават цярплівага з натуры паэта да роспачы? Не, я сапраўды дзякую лёсу, што ён хоць коратка, а даў пачуць мне мае словы са сцэны, даў ім жыццё, кроў і цела. Хай жа сёння спачываюць у супакоі!

Так ішлі дні, тыдні, месяцы. І надышоў дзень 22 чэрвеня, найгоршы, найцяжэйшы дзень у маім жыцці. Наш Ярак[34], якога я так любіла, быў разарваны мінаю, падложанаю ў тэатры. Разам з ім загінула шмат, шмат іншых. Немагчыма было, здаецца, перажыць гэныя дні, а трэба было. І я сапраўды не ведаю, каму я павінна дзякаваць за тую сілу, той дзіўны гарт, які даў мне ператрываць гэты час спакойна, — лёсу, Богу? Пахаванне ахвяраў бальшавіцкага тэрору было ўрачыстае, ды я мала што памятаю. Памятаю толькі, што трунаў было 14. Памятаю, што свяціла сонца і што я плакала і плакалі ўсе вакол...

На другі дзень пасля пахавання я пайшла ў рэдакцыю, як штодня да гэтага хадзіла. Праца спачатку не ішла, глухі боль не

даваў з'явіцца натхненню. Але жыццё не чакала. На наступны дзень прыйшоў у рэдакцыю сп. кампазітар Шчаглоў і нясмела папрасіў мяне напісаць яшчэ адну арыю для княгіні Праксэды для 3-га акта оперы «Усяслаў Чарадзей». Я ў гэтым часе пісала лібрэта якраз для оперы, заснаванай на аўтэнтычных гістарычных дадзеных, якія толькі мне ўдалося знайсці ў Менску. Я ўзялася за пяро і сама здзівілася, калі словы пачалі плысці адно за адным. Гэтая любоўная арыя — адна з найпрыгажэйшых у оперы. За арыяй Праксэды, памятаю, трэба было дапісаць арыю Усяслава з 4-га акта, пасля перакласці пару рамансаў і, сама не ведаючы як, я ізноў усёй душой аддалася працы, ізноў навучылася хвалявацца, перажываць, шкадаваць і цешыцца, хоць я думала, што ніколі ўжо нічога гэтага не патраплю. Аднаго я не навучылася аж да сёння: сапраўды, усёй душой цешыцца. Хай сабе радасць будзе як найбольшая, хай усе вакол смяюцца і смяешся сама, — недзе на дне, глыбака жыве вечны ўспамін, і немагчыма яго пазбыцца. Але што ж? Можна жыць і не цешачыся. Я гэта і раблю.

Калі лібрэта да оперы «Усяслаў Чарадзей» было канчаткова скончана, уверцюра і найлепшыя арыі і дуэты былі выкананы спевакамі і поўнай аркестрай у студыі Менскага радыё. Прысутных было шмат гасцей. Ці спадабалася ім опера, не ведаю. Мне яна не магла не падабацца, бо быў гэта зноў мой твор, які я цяпер па-сапраўднаму чула і перажывала. Асабліва падабалася мне якраз успомненая ўжо тут арыя Праксэды і арыя Усяслава «Год доўгі і цяжкі ў няволі п праседзеў». Кампазітар зразумеў, як ніхто, змест словаў і перадаў іх у музыцы, таксама, як гэта было і ў «Лясным возеры». Адно, што там была пяшчотнасць кахання, туга і пакора перад лёсам, а тут гераічныя і трагічныя матывы хадання за родны край і трыумф перамогі.

Столькі ўсяго перажылося на працягу колькіх год, пражытых у Менску, што немагчыма, здаецца, і апісаць усяго. Няма рэчаў больш ці менш важных, кожная падзея, кожнае здарэнне мусілі пакінуць след і ўва мне, і ў маіх творах. Хутка пасля выбуху ў тэатры загінуў ад міны, падложанай у ягоны ложак, найвышэйшы прадстаўнік акупацыйнае нямецкае ўлады гаўляйтэр Кубэ[35], а тады міны пачалі ўзрывацца штодня, асабліва вечарамі.

Аднаго дня, а было гэта ўжо восенню, хоць надвор'е і было цёплае і прыгожае, аднаму з нашых супрацоўнікаў Лявону Савёнку[36] спатрэбілася пяро. Скрыначка з пёрамі ляжала ў адной

з шуфлядаў Адамовічава стала. Сп. Адамовіч, які часіну перад тым вярнуўся з радыёстудыі, адчыніў шуфляду, і раптам ягоны моцны, не пераляканы, ■ як бы трыумфальны крык «Ёсць!» паставіў на ногі ўсю рэдакцыю. Усе мы кінуліся да стала. У шуфлядзе, на месцы скрыначкі з пёрамі, ляжала нейкая іншая, незнаёмая, падобная да скрынкі ад цыгараў. «Міна», — зразумелі ўсе. Рэдактар Казлоўскі хацеў нават выняць яе, але ўсе запратэставалі. Адамовіч сказаў усім выйсці са злашчаснага пакоя, ■ нехта паляцеў па паліцыю, якая была паблізу, паведаміць аб знойдзенай цацы. Праз колькі часінаў прыйшоў паліцыянт і, дарма што мы ўсе пратэставалі і папераджалі яго аб небяспецы, выняў міну разам з шуфлядай і вынес на вуліцу. Мы ўсе, збіўшыся ў маленькі статак, усцяж стаялі на сходах. Раптам шыбы задрыжэлі ад моцнага выбуху. Мы выбеглі на вуліцу. Так, як і трэба было спадзявацца, міна ўзарвалася ў руках паліцыянта і забіла яго на месцы. Усхваляваныя, мы не адважваліся варочацца да працы. Ясным было, што я і сп. Адамовіч, а праўдападобна таксама і сп. Казлоўскі і Ф. Аляхновіч[37], які якраз быў у гэты дзень гасцём у нас у рэдакцыі, цудам пазбеглі смерці. Некаторыя нашыя супрацоўнікі так напалохаліся міны, што блізу зусім перасталі наведваць рэдакцыю. Я ж, прыходзячы ў рэдакцыю заўсёды першая, пільна аглядала ўсе куткі нашага пакою, за печай і пад шафай, спадзеючыся знайсці чароднага гасцінца ад невядомых (а мо і знаёмых, хто ведае) «прыяцеляў».

Сп. Аляхновіч начаваў той вечар у нас. У нас жа жыў тады і М. Шкялёнак[38]. Цэлы вечар, за чаркай у чэсць цудоўнага выбаўлення, мы ўспаміналі здарэнне, вельмі не штодзённае якніяк нават на тагачасныя менскія ўмовы. Міна, што каштавала жыцця маладому хлапцу-паліцыянту і раману Вольгі Зубко[39], які ляжаў у шуфлядзе пад мінай, яшчэ больш наблізіла да сябе рэдакцыйных сяброў, як бы звязала іх. Я, напрыклад, дзе б ні была і што б ні было, заўсёды буду чуцца блізкай ці, лепш сказаць наадварот, заўсёды буду чуць сп. Адамовіча блізкім, як ніхто, да мяне. Усё тое, што мы разам пражылі ў Менску, немагчыма забыць, нават каб і хацеў.

У хуткім часе пасля здарэння з мінай сп. Адамовіча выслалі на працу ў Нямеччыну. Відаць, ён пачаў рабіцца невыгодным акупантам. Сумна зрабілася ў рэдакцыі пасля ягонага ад'езду. У нашым вялікім пакоі сядзелі толькі я і сп. Казлоўскі. Працы адразу прыбыло ў тры разы. Я ўжо блізу не мела часу на твор-

чыя імгненні, трэба было рабіць пераклады, папраўляць артыкулы і наагул рабіць усю звычайную рэдакцыйную працу. Так прамінуў, здаецца, тыдзень. Аднойчы каля паўдня мы заняліся з рэдактарам пераглядам спадчыны па сп. Адамовічу. З усіх шуфлядаў ягонага стала мы павыцягвалі цэлыя горы рукапісаў і пачалі перабіраць іх, адкладаючы адны набок, іншыя ў кошык.

Раптам у пакой увайшоў сп. Караленка, наш супрацоўнік, а тады і Лявон Савёнак і пачалі са збянтэжаным выглядам расказваць, што ў іхны пакой увайшоў нейкі чалавек, які трымаецца вельмі падазрона, пытаючыся аб рэдактары. Калі яго выставілі за дзверы, ён не пайшоў, а застаўся стаяць у калідоры, быццам некага падчэкваючы. Сп. Казлоўскі, былы вайсковы, быў смелы і нічога ў жыцці не браў паважна. «Глупства», — сказаў ён толькі і, не думаючы, выбег на калідор, прычыняючы за сабою дзверы. Хвіліны праз тры ў калідоры пачуліся стрэлы. Усе мы рынуліся з пакоя. Каля дзвярэй ляжаў скрываўлены рэдактар. Мужчыны выскачылі на вуліцу ўздагон за забойцам. Я не ведала першы момант, што рабіць. Нашыя машыністкі пачалі страшэнны лямант і плач. Але тады я пабегла да тэлефона і зазваніла ў камісарыят, просячы да тэлефона нашага цэнзара Штэтэра. Ад хвалявання я ледзь магла гаварыць. Праз колькі хвілінаў Штэтэр, Шкялёнак і яшчэ іншыя былі ўжо ў рэдакцыі. Казлоўскага, які яшчэ жыў, але быў непрытомны, забралі ў шпіталь, дзе ён і памёр увечары, а нас доўга дапытваліся, як і што. Нашыя мужчыны, што кінуліся былі лавіць забойцаў (іх было двух), злавілі толькі аднаго, гэтага самага падазронага тыпа, што стаяў у калідоры. У кішэнях у яго знайшлі колькі ручных гранатаў, якія ён меў у разе якое перашкоды кінуць у наш рэдакцыйны пакой. Гэтак яшчэ раз удалося ўцячы ад небяспекі і смерці. Бедны Казлоўскі, хлапец вельмі добры па натуры, хоць і не надта вялікага розуму, адзін палажыў за нас усіх галаву.

Гэты другі ўжо напад на нашу рэдакцыю вельмі ўсхваляваў усіх нашых супрацоўнікаў. Усе нашыя мужчыны абвесцілі, што працаваць у гэтым памяшканні, праўда, вельмі выгодным для гэткіх нападаў, яны больш не будуць. З гэтым усе і разышліся па хатах. Але мне было неяк няёмка, што газета не выйдзе ў сераду (яна выходзіла 2 разы на тыдзень). Я думала, што калі забойства ўчынілі бальшавіцкія партызаны, дык бальшавікі будуць вельмі цешыцца, што дапялі свае мэты, спынілі выхад

газеты. Мне вельмі не хацелася, каб яны яшчэ і з гэтага цешыліся.

Прыйшоўшы дахаты, я сказала аб гэтым Шкялёнку, які таксама ў гэты дзень раней вярнуўся з працы, і папрасіла яго дапамагчы мне выдаць наступны нумар, тым болей што шмат матэрыялаў я мела ў сябе, а пераклады можна было заўсёды зрабіць з нямецкіх газетаў, якія таксама былі ў хаце. Шкялёнак, вылаяўшыся на адрас некаторых нашых мужчынаў з рэдакцыі, прызнаў мне рацыю, і, павячэраўшы, мы селі за працу. Працавалі мы да трэцяй гадзіны ночы (ніхто нам не перашкаджаў, мужа, як і ў дзень першага замаху на рэдакцыю, у хаце не было, ён блізу ўсю гэтую восень і зіму быў у раз'ездах па правінцыі), але газету зрабілі.

Назаўтрае ўвесь матэрыял быў перабіты на машынцы, і сын мой, які таксама працаваў у нашай рэдакцыі, завёз яго ў друкарню на Камароўку. У сераду газета выйшла, як заўсёды. Трэці паверх нашае рэдакцыі быў замкнёны. Працавала толькі адміністрацыя і экспедыцыя ўнізе. Я і Шкялёнак перанесліся ў камісарыят, дзе было бяспечна і можна было спакойна працаваць. І так неяк само склалася ад гэтага часу, што рэдактарам газеты стаўся Шкялёнак, а «падрэдактарам» — я. На разе іншых супрацоўнікаў, апрача машыністкаў, якія размесціліся ў адміністрацыі, не было. Але цяжкасцяў з выдаваннем газеты не было. Шмат матэрыялаў было ў запасе, шмат надыходзіла штодня ад нашых супрацоўнікаў з правінцыі. Пераклады рабіла я, часам яшчэ хто-колечы. Праўда, трэба было вельмі шмат працаваць, але я так была ўжо ўцягнулася ў працу, што мела ад яе толькі прыемнасць. Зразумела, што ўсякае «вершапісанне» мусіла спыніцца, бо не было на яго часу.

Гэтак мінула восень, надышла зіма, вельмі лагодная гэтага года, падзея ішла па падзеі, а мы жылі, працавалі. Цёмная, імглістая была гэтая зіма. Рана цямнела. Варочаліся мы са Шкялёнкам дахаты ўжо глыбокай ноччу, хоць было гэта рэдка пазней 7-й гадзіны. На вуліцах было пуста і панура. Абавязвалі ваенныя гадзіны руху на вуліцах. Пасля 6-е нідзе ўжо не спатыкалася ні душы. За кожнай руінай цікаваўся, здаецца, забойца, за кожным паваротам чакала, здаецца, смерць. Ды гэта так і было папраўдзе. Тэрарыстычныя акты множыліся. Пасля Казлоўскага быў забіты старшыня горада, стары беларускі дзеяч, вельмі разумны і мілы чалавек В. Іваноўскі[40]. Міны ўсцяж яшчэ выбухалі то тут, то там. Ці ж дзіва, што, даходзячы дахаты, заўсёды ўздыхалася з палёгкай?

Зіма гэтая была сумная. Папярэдне прыязджаў і даў колькі канцэртаў у нашым тэатры Забэйда-Суміцкі, штораз новыя прэм'еры абагачалі тэатральны рэпертуар. Блізу ў кожнай пастаноўцы была і мая праца, і гэта цешыла. Тэатр быў месцам адпачынку па ўсіх турботах і небяспеках дня. Гэтай жа апошняю зімою тэатр, зруйнаваны трагічным выбухам 22 чэрвеня, доўга стаяў зачынены, а пасля яшчэ даўжэй рамантаваўся. Але рэпэтыцыі ішлі. Рыхтавалася опера «Усяслаў Чарадзей» — мая і Шчаглова, а з драматычных рэчаў «Загубленае жыццё» Тодара Лебяды[41].

Гэтаю зімою таксама заснавалася Цэнтральная Рада[42]. Шкялёнак меў штораз меней часу для газеты. Рабленне цэнзуры перайшло на мяне, дабор матэрыялу ў вялікай меры таксама. Бывалі нават моманты, калі, каб не затрымаць выхаду газеты, я ў роспачы ў апошні момант хапалася за пяро і «прадукавала» перадавіцу. Можна сабе ўявіць, да чаго яны былі падобныя! Але ўсё ж газета расла. Павялічыўся памер, большая частка матэрыялу друкавалася петытам. Праўда, можа, з мовай і не заўсёды было ў парадку, але я шчыра старалася зрабіць яе добрай, прыпамінаючы, наколькі патрапіла, усе тыя словы, якія ўжываліся ў ёй за часоў рэдактарства сп. Адамовіча. Я слухала і кожнае рады ягонае, прысыланае мне ў лістох з далёкае Нямеччыны, але ён не заўсёды бываў з мяне задаволены і рабіў мне горкія вымоўкі, ведама, таксама ў лістох. Ды людзям газета падабалася. Карэспандэнцыя нашая так вырасла, што не хапала шуфлядаў на рукапісы, прысыланыя нам з усіх куткоў Беларусі. Я цешылася.

Гэты апошні год меў вялікі ўплыў і на развіццё майго характару. Я набралася смеласці і пэўнасці, пачала верыць у свае сілы. Усё здавалася мне лёгкім і магчымым, усе нашыя людзі — добрымі і цікавымі. Жыццё, дарма што я зазнала ў ім столькі благога і страшнога, — вартым жыць! А падзеі разгортваліся... Тэрор акупантаў, паленне нашых вёскаў, нішчэнне людзей, набліжэнне фронту — усё выклікала пачуццё вусцішы. У адказ на яго і я, і ўсе вакол намагаліся працаваць і тварыць: хай будзе, што мае быць заўтра, абы сёння зрабіць як мага больш. Побач з гэтай гарачкавай працай вельмі пашырылася і ажывілася жыццё, я б сказала, асабістае. Ладзіліся частыя вечарыны з выступамі артыстаў, з гарэлкаю. Вялікдзень мінуў шумна і вясёла, сапраўдны «пір перад чумою».

У травені мы ўсе вялікай грамадою ездзілі ў Вільню на юбілей Віленскае беларускае гімназіі, вазілі артыстаў, спевакоў з нашага Менскага тэатра ў Вільню. У пачатку чэрвеня група беларускіх мастакоў-артыстых і паэтаў аб'ехала з канцэртамі гарады Слонім, Баранавічы, Нясвіж. Усюды беларускія песні і беларускае слова прымаліся горача, так што нават я, выступаючы, забыла сваю нясмеласць. Пад канец чэрвеня ў Менску быў скліканы Другі Усебеларускі кангрэс[43]. Беларусы з усіх куткоў Беларусі, а нават і з замежжа з'ехаліся ў Менск. Пасяджэнні адбываліся ў тэатры, а ўвечары тут ішла прэм'ера «Загубленага жыцця». У нервовым, ажыўленым настроі Менск дажываў апошнія дні свайго творчага жыцця.

Фронт быў ужо зусім блізка. Ледзь цямнела, пачыналі гусці сірэны, і праз усю ноч працягвалася бамбардаванне горада. Памятаю ноч пасля заканчэння кангрэса. Прыехала была якраз з Прагі Ларыса Геніюш[44], затрымалася ў нас. Стомленая вялікім напружаннем мінулага дня і працаю, я перапрасіла госцю і пайшла спаць а гадзіне 11-й. Ларыса Геніюш, якая вельмі любіла пагутарыць, засталася з маім мужам у сталовым пакоі. Ледзь я паспела распрануцца, — загулі сірэны. Мы выйшлі ў склеп пад домам, а тады на вуліцу. Была гадзіна, можа, другая. Неба на ўсходзе пачынала святлець. Так ціха і чароўна супакойна было там, угары, дзе дапаляліся зыркія зоры, што дзіўна непраўдзівым, абсурдальным здалося мне раптам усё — і далёкія выбухі бомбаў, і гуд супроцьпаветраных гарматаў, і нашая групка ля ўвахода ў склеп. Я звярнула Ларысе Геніюш на гэта ўвагу, і яна прызнала мне рацыю. Гэта была нашая перадапошняя ноч у Менску, хоць мы і не ведалі яшчэ, што так хутка прыйдзецца пакінуць яго.

Назаўтрае апаўдні ўсім нам было загадана сабрацца з неабходнымі рэчамі ў Цэнтральнай Радзе. Пачаліся гарачкавыя зборы, часу не было ні на што. Увесь двор перад радаю выглядаў як цыганскі абоз. Мяхі, вузлы, людзі, дзеці... Усе да ночы і праз усю ноч чакалі дарэмна на магчымасць выезду. Ледзь сцямнела — бомбы пасыпаліся на Менск. Далёкі гул гарматаў усцяж набліжаўся. Ужо і шыбы акон дрыжэлі і звінелі бесперапынку. На сэрцы было трывожна і тужліва. Раніцою ўдалося атрымаць дазвол на ладаванне. Цягнік стаяў дзесь далёка за местам. Толькі позна ўвечары ён адышоў. Начавалі мы пад самым горадам. Над чыгункаю, над местам, прост над галавою, як здавалася, гарэлі «свечкі», кіненыя з бальшавіцкіх самалётаў, вакол ірва-

ліся бомбы. І так было праз усю дарогу. І за намі, і па баках, і наперадзе палымнела над лясамі пагара. Цягнік часта спыняўся: дарогу пераразалі партызаны. Самалёты кружылі над рэйкамі нізка-нізка, і выбухі бомбаў уздымалі ўгару слупы чорнае зямлі і дыму. На сэрцы была дзіўная пусціня. Аднойчы трагічны выпадак ледзь не зрабіў канцы назаўсёды і з падарожжам, і з намі. Пад цягнікам узарвалася міна, 11 вагонаў, у якіх ехалі жаўнеры РОА[45] із сем'ямі, былі разбітыя на трэскі. Ахвяраў было вельмі шмат. Ледзь гэта сталася і мы падняліся на ногі (у нашым вагоне нас толькі пакідала на падлогу і аб сцены), паляцелі на ратунак. Што за жуда гэта была! Трупы, раненыя з адарванымі нагамі, напаўрасцісненыя, крыкі, стогны. Помню адну жанчыну, якая з разбітым ротам і з рассечанай барадой, уся ў крыві, з языком, які целяпаўся дзіўна, не зважаючы на собскі боль, бегла, трымаючы на руках і паказваючы ўсім дзяўчыну гадоў чатырох, просячы мычэннем (гаварыць яна не магла) ратаваць яе. Мы агледзелі дзіця. Яно было зусім здаровае, толькі напалоханае. Як яна ўсцешылася! Мужчыны затое страшэнна крычалі. Асабліва адзін расейскі жаўнер, якому тут жа на траве нямецкія санітары, а мо і дактары, адразалі нагу, ведама, без ніякага наркозу. Побач паміраў нейкі немец. Але ўсё гэта ўжо не рабіла ўражання. Столькі трупаў і крыві давялося мне бачыць на працягу апошніх гадоў, што я, хоць і моцна ўсхваляваная, але магла заставацца на вока зусім спакойнаю. Да вечара раненых пазабіралі, памерлых паскладалі і прыкрылі. Мы начавалі ў полі, на ўзлессі. Стаялі тут і ўвесь наступны дзень. Нарэшце, на трэці дзень, калі ўжо цямнела і чырвоныя і зялёныя сігнальныя ракеты партызанаў пачалі, як штоноч, узвівацца із трэскам над лясамі, прыбыў нейкі адмысловы паравоз, нас перавялі на іншы шлях, і цягнік рушыў з месца. Абапал чыгункі рваліся гранаты. Ноч была цёмная і сцюдзёная. Але я не зважала ні на выбухі, ні на стрэлы, ні на агні партызанскіх ракетаў. Змучаная ўсімі здарэннямі апошніх гадзінаў, я моцна заснула, заціснуўшыся ў куток паміж клумкамі. Назаўтрае мы мінулі Беласток, тады — Варшаву. Уначы спыніліся на мяжы. Цэлы дзень стаялі ля нейкае сенажаці, павыходзілі з вагонаў, памылі ў канавах і пасушылі на сонцы адзежу...

Наступным этапам быў Кёнігсберг. Адтуль рушыліся на Берлін. Тут нас падзялілі. Парассылалі па розных лагерох. Муж вярнуўся назад. Я з сынам і сям'я кампазітара Шчаглова трапілі ў невялікі лагер у лесе пад Форстам. Тут, хоць умовы жыцця

былі даволі прымітыўныя, а харчаванне недастатковае, мы адпачылі як належыцца. Паветра было прасякнутае смалою, пяскі і хваёвыя зараснікі цягнуліся на кіламетры вакол. За шашою пачынаўся цудоўны, увесь у красках і красуючых ліпах горад Форст, адзін з найпрыгажэйшых невялікіх нямецкіх гарадкоў, якія мне давялося бачыць. Тут я прабыла з месяц часу. А тады паехала працаваць у газету «Раніца»[46] ў Берлін.

Берлін мне спадабаўся яшчэ ад першага майго быцця ў ім — у 1942 годзе. Цяпер жа, зруйнаваны і спалены, як і наш Менск, ён стаўся яшчэ бліжэйшым мне. Працы я мела шмат, але мела і час на творчую працу. Спрыялі гэтаму ўмовы жыцця. Я не вяла ніякае гаспадаркі ў хаце, цэлы дзень была за домам, жыла шумным часамі, а то і ціхім, працавітым рэдакцыйным жыццём. Тут, у Берліне, я напісала большую частку вершаў, што маюць увайсці ў мой зборнік «Не астыць нам».

Апошнімі часамі жыццё ў Берліне зрабілася блізу немагчымым. Частыя налёты, бамбардаванні, пажары не давалі магчымасці працы. Нарэшце пасля налёту 3 лютага, калі ўвесь цэнтр Берліна абярнуўся ў мора агню, мы наважылі пакінуць горад. Ночай, у поцемках, нам удалося з бою, праз вокны, убіцца ў нейкі цягнік на адной са станцыяў на паўдзённай ускраіне Берліна. Муж застаўся пры Радзе. Ехалі ізноў мы, Шчагловы, Кахаsucceeds Каханоўскія. Пасля доўгага вандравання па розных нямецкіх гарадох нам пашэнціла прыпыніцца ў маленькім гарадку Амбергу, недалёка чэшскае мяжы. Умовы, у якіх мы як уцекачы, а да таго яшчэ і аўслендэры[47], апынуліся, былі вельмі цяжкія. Мы спалі на падлозе, на саломе, усе разам. Не мелі ніколі цёплай вады, не мелі гарачае кавы ці проста звычайнага вару раніцамі. Ледзь не галадалі. Але гумару, як і заўсёды, не трацілі і духам не падалі. Я нават з прыемнасцяй, як мілы ўспамін, захоўваю сёння ў памяці гэтыя галодныя і халодныя амбергскія часы. Тут заспеў нас канец вайны і прыход амерыканцаў.

Пачаліся новыя радасці і новыя трывогі. Усе мы баяліся бальшавікоў, вывазу «на родину». Але, дзякуй Богу, усё скончылася добра. У чэрвені знайшоўся муж, аб якім я нічога не ведала, жывы і здаровы заявіўся ў нашай школе, дзе мы ўсцяж яшчэ спалі на падлозе, але ўжо на сеннікох! Хутка Шчагловы (ад гэтага часу Куліковічы) і Каханоўскія пераехалі ў Рэгенсбург, дзе ў гэтым часе заснаваўся быў Беларускі камітэт. Мы пераехалі ў Рэгенсбург пазней, восеняй. Тут, у лагеры, ізноў знайшлася магчымасць культурнае працы.

Адбываліся канцэрты, паседжанні, рэфераты, літаратурныя вечары. Увесну нашая нацыянальная група, побач з іншымі нацыянальнасцямі, узяла ўдзел у культурнай алімпіядзе, якая трывала колькі дзён. Мы, беларусы, дзякуючы выступленням нашых артыстаў, якім таксама пашчасціла цэлымі і здаровымі перажыць канец вайны, атрымалі адно з першых месцаў. Я была ў гэтым часе «культурным рэферэнтам» і мела шмат працы, але і шмат задавальнення з гэтага.

Хутка пасля алімпіяды сп. Куліковіч із тэатральнаю групаю з удзелам блізу ўсяе нашае гімназійнае моладзі, паставілі Купалле. Паказ выйшаў вельмі цікавы. Пад цёмна-сінім вячорным небам, у дэкарацыях із сапраўдных елкаў і бярозаў, над уяўленаю рэчкаю і з сапраўдным мастком і сапраўднаю асакою і трысцём, — уся акцыя здавалася сапраўднаю, жывою. Моладзь папраўдзе і скакала праз агонь, і смяялася. Чараваў танец «кветкі-папараці». «Купалле» ішло ў нас колькі вечароў, і штодня ўвесь вялікі панадворак паміж нашымі будынкамі быў поўны. Рэгенсбургскія часы былі найяснейшымі часамі на працягу даўгіх гадоў лагернага жыцця.

Калі нас перавезлі ў Міхельсдорф пад Камам, усё скончылася. Міхельсдорф выглядаў улетку нішто сабе. Сенажаці, рака, лясы, — усё цешыла вока. Але ўзімку, а асабліва ўвосень, тут было да роспачы шэра і нудна. Ці ж дзіва, што і людзі зрабіліся і шэрыя, і нудныя, і благія, спадлелі, за лішнюю банку кансерваў ці фунт мукі адракаліся і свайго сумлення, і свае людское годнасці? Разумеецца, дарма, што ўвесь гэты бруд навокал, дарма, што людзі, якія былі на Бацькаўшчыне адно беларусамі, падзяліліся тут, сталіся смяротнымі ворагамі, дарма, што ўсялякія інтрыгі і перашкоды, — культурная праца йшла і далей. Я ўсцяж яшчэ была культурным рэферэнтам, а нават і пасля, калі не была ўжо ім афіцыйна, дапамагала да ладжання канцэртаў, паказаў. Гэтыя нашыя паказы, заўсёды на высокім мастацкім узроўні, пра што мы са сп. Куліковічам і іншымі шчыра дбалі, ды нашая гімназія былі адзінымі яснымі момантамі ў лагерным жыцці гэтых год. Ведама, было яшчэ змаганне, ды я брала ў ім адно пасіўны ўдзел або, лепш кажучы, не беспасярэдні. Я тварыла, працавала з моладдзю, пасля выкладала ў гімназіі на працягу трох год, і гэта было маё змаганне.

Сутыкацца тварам у твар з брудам, з людскім спадленнем я не ўмела і не хацела. Але перажывала я гэта ўсё вельмі балюча. Тут я таксама ўпершыню навучылася ненавідзець ці, лепш ка-

жучы, глыбака пагарджаць некаторымі. І я адкрыла ў сабе яшчэ адну рысу характару, да гэтага мне не знаную: я не ўмею зусім, без рэшты, дароўваць людзям учыненыя імі крыўды ці подласці. Чалавек, які зрабіў мне гэта, пераставаў існаваць для мяне як чалавек. Я думаю, што гэта благая рыса, але нічога не параю, такая я ўжо сталася.

Што да творчасці, дык я напісала параўнальна мала за гады лагернага жыцця. Шэрасць жыцця, нястача жывых, яркіх уражанняў, малая зацікаўленасць лагерных жыхароў паэзіяй наагул не заахвочвалі да пісання. Нашыя «ўзвышшы» былі цалкам захоплены палітычным змаганнем, «нізы» ходаліся за кожную пару порткаў ці камашаў з магазіна. Ці ж маглі вершы, нават найлепшыя, супрацьставіцца гэтым дзвюм магутным сілам, што рухалі наперад (а часта-такі і далёка ўзад) жыццё лагера? І я пісала толькі, калі гэта было патрэбнае, вершы на Новы год, на розныя гадавіны.

Адзін толькі кароткі момант на працягу гэтых год вярнуў быў мне забытае натхненне. У выніку гэтага з'явілася вязанка вершаў «Знічы», часткова надрукаваная ў часопісе «Сакавік»[48]. Праўда, пачынаючы «Знічы», я не жыла ў лагеры, а працавала як «Welfare» ў дзіцячай санаторыі ў Ляме (у гарах, 40 км ад Кама). Але канчала я іх у Міхельсдорфе. Была позняя вясна, пачаткі лета. Кожную вольную часіну я праводзіла ў лясох. Каб не гэты лес, не ведаю, што сталася б са мной за гэтыя гады жыцця ў лагернай турме. Лес ратаваў мяне. Там толькі я чулася сапраўдным чалавекам, чыстым, дужым, здольным да працы і змагання. Там нараджаліся мае вершы, там я была сабой.

Урэшце ў выніку зацятага змагання нас выдзелілі ў асобную групу і перавезлі ў лагер Віндзішбергердорф. Гэта быў вельмі прыгожы лагер. На схіле высокага ўзгорка, з трох бакоў акружаны чароўным борам з высокімі хвоямі, што так таемна, вусцішна гулі ў ветраныя восеньскія ночы, поўны сонца, ветру, з чароўным відам на даліну ракі Рэгену, на горы з руінамі замкаў, лагер гэты прымірыў мяне з жыццём, даў мне сілы да новае працы, да новых імкненняў. Было, праўда, і тут ходанне, але яно не засціла ўсяго, як у Міхельсдорфе, дзе на кожным кроку даводзілася сустракацца з людскою нізасцю. Таксама і культурную працу, якой усяляк перашкаджалі там, супакойна можна было весці тут. Штомесяц мы ладзілі канцэрты, я пісала бясконцыя мантажы і «скочы», малявала дэкарацыі, замучвалася на рэпэтыцыях. Жыццё ізноў пачало набіраць сэнсу.

Так мінуў няпоўны год, і нас перавезлі ў Розенгайм. З вакон нашага пакоя на даляглядзе, як вокам скінуць, вырасталі сінія, белыя і ружовыя горы, чароўныя ў сваім хараcтве. Я вельмі палюбіла іх і магла глядзець на іх гадзінамі. Аднак тут, у Розенгайме, як і ў іншых лагерох, як ва ўсіх лагерох наагул, умоваў для паэтыцкае працы не было. Вечны шум, крык на калідорах і за сцяной, вечныя лагерныя навіны і здарэнні не давалі таго супакою, тае магчымасці самазаглыбення, якія неабходныя дзеля гэтага. Да таго ж, тут ужо панаваў настрой эміграцыйны. З дня на дзень чакаліся ашурансы[49], афармленні, СІС, камісіі і г. д. Падсумоўвалася ўсё мінулае, падкрэслівалася таўстой рысаю, выводзіўся вынік, і адгортвалася новая, чыстая бачына ў кнізе жыцця — развітанне з Еўропаю, выезд за мора і жыццё тут.

На гэтай, крыху ўжо запісанай сёння бачыне, я і спыняюся. І чакаю, што будзе далей...

*[1952—1979]*

## БІЯГРАФІЯ ФРАНЦА КУШАЛЯ

Францішак Кушаль нарадзіўся ўначы з 2 на 3 (16 н. ст.) лютага 1895 года на Грамніцы, як казалі, у вёсцы Першаі[1], у каталіцкай беларускай сям'і на паўночным ускраі Налібоцкае пушчы. Бацька — Вінцэнты Кушаль, селянін з дзядоў-прадзедаў — меў у Першаях 6 дзесяцін зямлі. Маці, Антаніна Іваноўская, была з недалёкае ад Першаёў вёскі Канюшаўшчына. Але дзед Франу́ка, як звалі яго ў сям'і, памятаў яшчэ добра часы уніі, якую ўсе старыя людзі вельмі хвалілі, калі не было розніны паміж цэрквамі й можна было, як яны расказвалі, ісці да споведзі ці дзіця хрысціць, «як хочаш — ці ў папа ў Даўбенях, ці ў ксяндза ў Першаях». Вінцэнты Кушаль меў 6 дзесяцін зямлі на трох нівах, аддеглых адна ад аднае на пару кіламетраў. А сям'я ўсцяж расла. Роўна што два гады з'яўляўся на свет новы прадстаўнік роду, і ўсе хлапцы, Францішак быў чацвёртым па чарзе. Пасля яго нарадзіліся яшчэ два хлапцы, а тады наапошку й дзве дзяўчынкі. Гэткую сям'ю, дарма што бацька й маці працавалі ад цямна да цямна, пракарміць было цяжка. Дараблялі, працуючы на пана — графа Тышкевіча, які меў у Першаях вялікі двор. Узімку загатаўлялі дровы й звозілі іх у двор, а

ўлетку касілі бясконцыя графскія сенажаці спярша на 5-ю, а пасля 1904—1905 гадоў на 4-ю капу. Гэта значыцца, што панскі аканом лічыў гатовыя складзеныя копы й кожную 5-ю ці 4-ю прызначаў таму, хто сенаваў, а рэшта звозілася ў панскія пуні.

Калі малому Франуку, які быў пастушком, як і кажнае беларускае сялянскае дзіця, пачынаючы ад 6 год, пайшоў дзесяты гадок, ён пайшоў у Пяршайскую народную школку, вельмі хутка навучыўся чытаць і незвычайна палюбіў кніжкі. Рос ён хлапцом амбітным і ўпартым, вельмі любіў школьную навуку, а сялянскае працы, да якое яго прывучалі змалку, адзін з усіх братоў, не любіў. Дзеля гэтага ў 1910 годзе бацька згодна з парадай пяршайскага настаўніка наважыў аддаць Франука вучыцца. Адзіная магчымасць вучыць дзіця было новаадкрытае ў м. Івянцы (20 кіламетраў ад Першаёў) гарадское вучылішча.

І вось Франуку пашылі з даматканага сукна жакетачку, падлаталі замалыя ўжо старэйшаму брату боты, набралі харчоў на 2 тыдні (булку хлеба, кавалак сала, збан кіслага малака, круп, мукі) і завезлі ў Івянец. Экзамены ў вучылішча Франук добра здаў, і бацька наняў хлапцу кватэру, прачытаў яму належнае казанне й паехаў. Гэтак пачаліся Франуковыя школьныя гады. Школу ён вельмі палюбіў, бо, на шчасце, настаўнікі там падабраліся вельмі добрыя, і вучыўся ён адным з першых. Але амбіцыя хлапца цярпела. Івянецкія мешчанчукі, апраненыя ў форсныя чорныя мундзерчыкі, жорстка кпілі з сялянскага хлапца ў самадзялковым пінжачку й завялікіх ботах. Ягоную пярэстую жакетку празвалі яны чамусьці «свінкай», а ў зашырокія халявы ботаў кідалі паперкі й каменчыкі. Франц мусіў цярпець гэтыя здзекі, баючыся бацькі, але вялікая нялюбасць да малых крыўдзіцеляў і наагул івянчанаў засталася ў яго на ўсё жыццё.

Тым часам бацькі яго даведаліся, што недалёка ад Івянца, каля Каменя, прадаюцца напалову ачышчаныя ад лесу дзялянкі. Цана была даступная, бо зямля, не вельмі ўраджайная наагул, патрабавала шмат працы, каб нешта радзіць. І вось Кушалі наважыліся прадаць родную сялібу ў Першаях і заміж 6-х дзесяцін купіць у в. Забор'е 16, блізу палова з іх пад лесам. Прадалі не адно зямлю, а й хату, скаціну, усё, пакінулі адно цельную кароўку й каня. На новым месцы ўсё трэба было пачынаць спачатку. Але два старэйшыя хлапцы ўжо падраслі й маглі працаваць разам з бацькам, дык праца закіпела. Да 1914 года, калі пачалася вайна, зямля ўжо была ўробленая, сенажаці пакарчаваныя, да старое хаты дабудаваны новыя сені й святліца, бо лес быў свой. А маці развяла на новай гаспадарцы цэлую птушы-

ную гаспадарку. Налібоцкая пушча пачыналася зараз за хатай, і куры, гусі ды індыкі харчаваліся й пладзіліся там усё лета як дахацелі і адно пад восень, з вялікім прыплодам, варочаліся дахаты. Суседзі дзівіліся ўдачы Кушаляў. Заборская зямля патрабавала гною й нястомнае працы, а не ўсе былі гэткія працавітыя й пільныя. Пайшла была нават байка, што Кушалю «спорнік (казачнае стварэнне накшталт вогненнага змея) уначы праз комін скарбы зносіць».

Вайна зацягнулася. Спярша старэйшы Франукоў брат пайшоў ваяваць (найстарэйшы меў адну нагу крыху карацейшую, накульгваў, і ў войска яго не ўзялі). А ў 1915 годзе прыйшла чарга й на Франука. Дзеля таго, што ён меў скончанае гарадское вучылішча новага тыпу, якое давала правы 6-ці класаў гімназіі, яго адразу адаслалі здаваць прыёмныя іспыты ў Віленскае ваеннае вучылішча, эвакуяванае ўжо тады ў Палтаву. Праз год ён скончыў яго з чынам прапаршчыка, прайшоў кароткі стаж у палку недзе аж у Астрахані й у ранзе падпаручніка быў адразу адасланы на фронт.

Адрэзак фронту, куды ён трапіў, быў недалёка ад родных мясцінаў, бо пад Крэвам. На фронце Францішак Кушаль нязменна (нават дахаты наведацца ані разу не пусцілі) прабыў у цяжкіх баёх год з гакам. Тым часам пачалася рэвалюцыя... Бясконцыя мітынгі, камітэты, балбатня агітатараў, што скончыліся здзекам над старэйшым камандным складам, забойствамі і, урэшце, поўным развалам.

Прыканцы 17-га ці напачатку 1918 года Франук у ранзе штабс-капітана вярнуўся дахаты. Яшчэ ў войску ён пачуў пра развіццё беларускае справы й вельмі ёю захапіўся, тым болей што яшчэ шмат раней ён ужо быў знаёмы з «Нашай нівай», чытаў і разносіў яе людзям («Наша ніва» прыходзіла ў вёску пачкамі на імя ні то настаўніка, ні то фельчара, ні каго іншага, а той ужо пасылаў давераных хлапцоў яе дастачаць людзям). Пачуўшы ад некага, што ў Менску адчынілася беларуская кнігарня, Франук наважыўся пайсці ў Менск пехатою разведаць, як і што. Менск быў ад Забор'я кіламетраў 70. Маладыя ногі лёгка справіліся з дарогай.

У Менску дапытацца беларускае кнігарні было няцяжка. Там Франук сустрэўся з Алесем Гаруном[3]. Гарун зацікавіўся юнаком, наладаваў яму мех кніжок.

Неўзабаве Франук ізноў пайшоў у Менск, а тады — з галавою кінуўся ў беларускую справу. Быў удзельнікам беларуска-

га з'езда ў Горадні[4], а калі ў Менску (што быў тады пад палякамі) была дазволена адмысловым дэкрэтам Пілсудскага[5] арганізацыя г. зв. Беларускае вайсковае камісіі[6], Францішак Кушаль увайшоў у ейны склад. Усё гэта апісанае нябожчыкам падрабязна ў серыі артыкулаў, змешчаных у 50-х гадох у газеце «Беларус».

У 1919 годзе пачалася польска-бальшавіцкая вайна, у выніку якое Менск быў заняты бальшавікамі. Беларуская вайсковая камісія была эвакуявана з Менска ў Лодзь і тут неўзабаве развязана.

Франук прыехаў у Вільню, шукаючы якое-колечы працы. А ў сям'і ягонай адбыліся тым часам вялікія змены. У 1920 годзе, увосені, памерла ад тыфусу ягоная маці й наймалодшая 10-цігадовая сястрычка Марыля. Цяжка перажыўшы страты, бацька неўзабаве даведаўся ад свае сястры Явуты, што была замужам у вёсцы Доры (6 кіламетраў ад Першаёў), быццам граф Тышкевіч, знеахвочаны спаленнем бальшавіцкім войскам свайго Дорскага фальварка, наважыў яго распрадаць сялянам суседніх вёсак. Явута й іншыя сваякі, што ўсё па-даўнейшаму жылі ў Пяршайшчыне, угаварылі «старога» Кушаля прадаць свой заборскі хутар і вярнуцца ў родныя мясціны. З дапамогаю Франука, які, будучы ў Вільні, хадзіў па адвакатах ды судох, Кушалям удалося дастаць доўгатэрміновую пазыку ў банку й купіць у Дорах 50 дзесяцінаў, «цэнтр» былога графскага фальварка з напаўзруйнаваным домам і няспаленымі хлевам ды гумном. Арганізавалі талаку, і пераезд адбыўся без перашкод яшчэ да восені, тым болей што на заборскі хутар знайшоўся пакупнік, «амерыканец», які вярнуўся з далярамі з Амерыкі на бацькаўшчыну пасля вайны. Дорская зямля не ішла нават у параўнанне з заборскай, і новыя хутаране, пераважна жыхары вёсак Доры, Зарэчча, Сярэдняе Сяло, што раскупілі 1000 дзесяцінаў былога графскага фальварка, хутка пабагацелі.

Кушалі ўсёй сям'ёю (два старэйшыя браты былі ўжо жанатыя) зажылі разам, адрамантавалі дом, паставілі новыя гаспадарскія будынкі, развялі сад. А Франук тым часам, параіўшыся з беларускімі дзеячамі, наважыўся далей набываць вайсковыя веды, уступіў у польскае войска. Прайшоўшы шматмесячнае перашкаленне ў польскім ваенным вучылішчы ў Рэмбертове, ён быў прызначаны ў 80-ты Слонімскі пяхотны полк, ажаніўся й пераехаў у 1922 годзе ў Слонім. У Слоніме пабыў ён крыху больш года, а тады быў пераведзены для пэўнасці далей ад род-

нае Беларусі, на Польскае Памор'е. Беспасярэдняй прычынай пераводу было выпісванне з Вільні беларускіх газет ды часопісаў, якія дзеля таго, што ўсе афіцэры кватаравалі ў казармах над Шчарай і сваіх асобных адрасоў не мелі, прыходзілі на адрас палкавое канцылярыі. І вось, на пачатку 1924 года, сям'я Кушаляў, бо ўжо з'явіўся быў на свет маленькі сынок, апынулася на Памор'і ў 66-м палку імя Ю. Пілсудскага ў старым і вельмі прыгожым гарадку Хэлмне (па-нямецку Сціт). Тут давялося пражыць аж 13 год. Тут Кушаль скончыў курс цяжкіх кулямётаў у Торуні, быў камандзірам кулямётнае роты ў палку, камандзірам афіцэрскага курса перашкалення для падхарунжых, камандзірам падафіцэрскае школы, а тады — выхаваўцам і камандзірам роты ў 2-м Кадэцкім корпусе, спярша ў Хэлмне, а тады ў Равічы, у Пазнаншчыне. З Равіча, ізноў жа за сувязь з беларускаю справаю й выпісванне беларускае прэсы, Кушаль быў пераведзены з Кадэцкага корпуса ізноў у 13-ты пяхотны полк у Пултуску пад Варшавай. Тут заспела яго вайна, адступленне на ўсход, савецкі палон, Старабельскі лагер палонных, Чырвоны Бор пад Катынню, арышт, Лубянка, 2-я сусветная вайна, вызваленне (перад самай вайной яго перавезлі з Лубянкі ў Валожын — «по месту жительства», быццам на «перагляд справы»).

У першы ж дзень вайны энкавэдысты збеглі, і г. зв. «заключённые» ў бальшыні паўцякалі таксама. Валожын ад Дор усяго 16 кіламетраў, так што з першымі нямецкімі самалётамі Франук Кушаль, худы й абадраны, апынуўся ў роднай хаце. А неўзабаве ён ізноў улучыўся ў беларускую справу і ўжо на пачатку верасня ці нават напрыканцы жніўня быў у Менску, дзе арганізаваў і ўзначаліў спярша паліцыйную школу, тады 3 курсы перашкалення беларускіх афіцэраў, беларускія аддзелы пры Самапомачы[7], а нарэшце — Беларускую краевую абарону й Афіцэрскую школу ў Менску. Арганізацыя ўсіх гэтых адзінак падрабязна апісана нябожчыкам у ягоных успамінах, ці, як ён сам называў іх, «гісторыі беларускага вайсковага руху пад нямецкай акупацыяй ». Успаміны гэтыя, пісаныя ўзімку 1944 года ў Берліне, знаходзяцца цяпер у Беларускім інстытуце навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку. Ведаю, што нейкі час яны перахоўваліся ў сп. Шукялойця[9]. У каго яны цяпер — не ведаю дакладна.

## ЛІСТАЮЧЫ БАЧЫНЫ МІНУЛАГА

> Усё далей сплывае ўдалеч, у змрок
> той край, дзе люба усё...
> О, Беларусь!
> хай так, мы з верай
> цябе і ўдалеч панясём![1]

Не адно паэт, што пісаў гэтыя радкі, але, плывучы ў далёкую, нязнаную Амерыку, думала гэтак і бальшыня выгнаннікаў-уцекачоў, «перамешчаных асобаў», ДП, як афіцыйна называлі нас тады акупацыйныя ўлады у зруйнаванай вайной Нямеччыне. І сапраўды: апынуўшыся тут, мы неяк не пачуліся разгубленымі, цалкам самотнымі між чужымі, бо згуртавалі нас яшчэ ў Нямеччыне у большыя ці меншыя грамадкі гэтак званыя лагеры ДП, арганізаваныя дабрадзейнымі арганізацыямі дзяржаваў-пераможнікаў у трох акупацыйных зонах Нямеччыны — амерыканскай, ангельскай і французскай.

Адным з першых найбольшых гэткіх лагераў быў лагер у Рэгенсбургу, старым і прыгожым нямецкім месце над Дунаем. Побач з «перамешчанымі асобамі» з амаль усіх краінаў Усходняе Еўропы знайшла тут прытулак і вялікая беларуская група.

У складзе ейным былі навукоўцы, пісьменнікі й паэты, выдатныя кампазітары, оперныя спевакі, артысты сцэны ды балета, а што, можа, было найважнейшым для нас у тую пару, — група вельмі добрых педагогаў-настаўнікаў. Было ў ёй і ці мала дзяцей ды моладзі. Трэба было даць ім нейкую «спажыву для душы», для духу ў дадатак да «спажывы для цела», аб чым рупіліся прыгаданыя ўжо вышэй дабрадзейныя арганізацыі.

І вось у Рэгенсбургу была неўзабаве адчынена нашымі энтузіястамі, на чале з др. Аляксандрам Орсам, Беларуская гімназія імя Янкі Купалы[2].

Як некалі, гады таму, адчыненую ў Вільні напрыканцы 1919 года Першую Віленскую беларускую гімназію ахрысцілі пазней ейныя гадунцы, а за імі і ўсё беларускае грамадства, «кузняй беларускага духу», гэтак і Беларускую гімназію імя Янкі Купалы смела можна назваць гэтым самым слаўным іменем. Бо хто ведае, ці б мелі мы сёння на чужыне гэткую моцную творчую грамаду, што годна рэпрэзентуе Беларусь ужо больш чым паўвека, каб не яна?

Сталася гэта вельмі проста. У 1946 годзе, неяк пад восень, беларуская група была перанесена з перапоўненага шматнацыянальнага лагера ў Рэгенсбургу ў меншы, але паводле складу ўжо чыста беларускі лагер Міхельсдорф каля невялікага баварскага гарадка Кам. Пераехала з намі ў Міхельсдорф і Беларуская гімназія імя Янкі Купалы. У склад ейных настаўнікаў запрасілі й мяне выкладаць нямецкую мову ў 2-м і 3-м класах і французскую ў старэйшых. З падручнікамі было спярша цяжкавата, але неўзабаве праца наладзілася. Міналі дні й тыдні, і я шчыра палюбіла сваіх вучняў. Дапамагло мне як настаўніку яшчэ й тое, што я была вызначана ў нашым лагеры г. зв. культурным рэферэнтам, што планаваў і праводзіў, у згодзе з педагогамі гімназіі, лагерную культурную працу, а гэта — сцэнічныя выступы, лекцыі ды канцэрты. У кожнай гэткай імпрэзе брала вялікі ўдзел і нашая моладзь, амаль выключна вучні гімназіі. Гэтыя якраз пастаноўкі неяк задзіночвалі, лучылі мяне з маймі хлапцамі й дзяўчаткамі, што было мне вялікай дапамогаю і ў класе.

Воляю добрага лёсу ў нашым лагеры апынулася шмат выдатных працаўнікоў мастацтва, між імі кампазітары Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Мікола Равенскі, оперная спявачка Барбара Вержбаловіч, Наталля Чэмярысава, артысты драмы й балета, пісьменнікі ды паэты. Усе яны вельмі ахвотна ўлучыліся ў культурнае жыццё лагера, бо ж «не адным хлебам жыве чалавек». А побач з прафесійнымі артыстамі ў культурным жыцці лагера заўсёды брала ўдзел і нашая моладзь, вучні малодшых і старэйшых класаў гімназіі імя Янкі Купалы.

Памятаю, як яшчэ ў Рэгенсбургу было зладжана, пад кіраўніцтвам нашых прафесійных мастакоў, вельмі ўдалае Купалле, з удзелам, можна сказаць, не толькі нашае школьнае ды гімназіяльнае моладзі, а ўсяго нашага лагера: хто, з дазволу, ведама, лагерных уладаў, цягнуў з недалёкага лесу елачкі ды бярозкі, каб упрыгожыць сцэну, хто пасыпаў ейныя негабляваныя дошкі пахучым аерам, нарваным у балотцы за лагернымі будынкамі, хто майстраваў на сцэне сапраўднае вогнішча, бо якое ж гэта Купалле без вогнішча! А вучні старэйшых класаў гімназіі, пераважна дзяўчаты, лёталі за сцэнай, як тыя матылі, прымяраючы свежаадпрасаваныя вышываныя беларускія кашулі ды хвартушкі.

І якое ж прыгожае атрымалася, памятаю, гэтае Купалле, і ці мала спрычынілася да гэтага якраз і нашая гімназіяльная моладзь!

А якую казу змайстравалі пры дапамозе кампазітара Равенскага старэйшыя вучні гімназіі на Каляды 1946-га, здаецца, года, і як весела пад музыку, адмыслова напісаную кампазітарам, каза гэтая тупала, трасучы галавой, па лагернай залі!

Асабліва, аднак, запамяталася мне адна гэткая нашая імпрэза — мантаж, падрыхтаваны намі з кампазітарам Куліковічам з нагоды чародных угодкаў абвешчання незалежнасці Беларусі 25 сакавіка 1918 года.

Ужо, як далёкі сон, бачу я нашую больш чымся сціплую лагерную залю-сталоўку, прымітыўную сцэну, а на ёй, размешчаны паўколам, наш лагерны вучнёўскі хор. Пад гукі музыкі, напісанай нястомным кампазітарам Куліковічам да мае «Песні каліноўцаў», рады хору паволі разыходзяцца і на цёмнай сцэне відаць сцяну, закратаванае турэмнае вакенца, а пад вакном стол зблізу дапаленай ужо свечкай і пахіленую над ім постаць... Кастуся Каліноўскага.

— Беларусы, браты мае родныя, — паволі пачынае чытаць нізкаватым пранікнёным голасам «Каліноўскі» — вучань нашае гімназіі Вітаўт Кіпель, — з-пад шыбеніцы маскоўскай даводзіцца мне сягоння да вас пісаць, і, можа быць, раз астатні... — і цёмная заля замірае... Не памятую ўжо, хто даручыў яму гэтую ролю, хто вучыў яго дэкламаваць гэтыя словы, але й голас і інтанацыя ягоныя былі гэткія натуральныя, гэткія праўдзівыя, што ўсім нам у сціхлай залі здавалася, што не наш Вітаўт, а сам ён, Кастусь Каліноўскі, чытае тут нам свой апошні «Ліст з-пад шыбеніцы». І калі прагучэлі апошнія словы ліста, у змрочнай залі было ціха, як не было ў ёй, хіба, ніколі...

Незвычайную гэтую цішыню парушылі, аднак, гукі музыкі, і хор пачаў паволі выходзіць ізноў на сцэну, засланяючы і турэмную камеру, і постаць таго, хто аддаў за народ свой жыццё.

Палыном і быллём параслі нашы нівы,
як ні б'ёмся, ні гнёмся над імі у крук,
плён збіраюць паны з маскалямі, не дзіва,
што гаруе народ Твой і Ты, Беларусь!

Гукі песні мацнелі:

Але годзе! Мы ўстанем! Ціхім раннем, на ўсходзе,
ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару
і ў сталёвым ад кос і ад песняў паходзе
возьмем волю сабе і Табе, Беларусь!
..............................................................................

Гэй, смялей, гэй, далей, не лякаймася смерці!
Нашы целы і славу сыны падбяруць,
хоць і зложым на пожнях гарачыя сэрцы,
але Ты будзеш жыць і расці, Беларусь[3].

Мінула шмат гадоў ад гэнага памятнага вечара, ды мне здаецца, што каб не яно, не слова «Беларусь», якім жылі тады мы ўсе, і настаўнікі, і гадунцы Беларускае гімназіі імя Янкі Купалы, не было б на амерыканскай зямлі, ані ў іншых далёкіх краінах свету гэткае жывое й дзейнае беларускае эміграцыі.

Так, «кузня беларускага духу» — інакш гімназію імя Янкі Купалы не назавеш!

***1992***

# *Гутаркі з Наталляй Арсенневай*

## «ПРЫВІТАННЕ ЎСІМ, ХТО ВАРТЫ, КАБ ЯМУ ПЕРАДАВАЦЬ ПРЫВІТАННЕ...»

(Гутарыў Леанід Пранчак)

*Перад тым як наведаць Наталлю Арсенневу, мне вельмі хацелася завітаць у кліўлендскі «Полацак». І я паехаў па самым доўгім шляху — праз Нью-Джэрсі, Пенсільванію, Агаё... Калі да Рочэстэра, дзе жыве паэтка, заставалася некалькі гадзін язды, паваліў страшэнны снег, разгулялася першая зімовая завіруха. Нічога не заставалася, як перачакаць нягоду ва ўтульнай хаце Кастуся Калошы і Сяргея Карніловіча. За акном — непраглядная снежная завея, зусім такая, як і ў Пранчаках... Ад гэтага падабенства шчымела сэрца... Было светла і сумна. З такім настроем я патэлефанаваў у Рочэстэр, каб папярэдзіць спадарыню Наталлю, што наша сустрэча адкладваецца...*

*Трубку зняла сама гаспадыня, уважліва выслухала мяне.*

— Шкада, што не прыедзеце, хацела ўбачыцца з Вамі і адказаць на Вашы пытанні. Але ж завіруха не можа перашкодзіць нашай размове. У апошні час у мяне бывае шмат гасцей. І з Беларусі, і тутэйшых беларусаў. Вяду вялікае ліставанне, крыху пішу...

*— Сёння раніцай я быў у царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе. Служба закончылася спяваннем Вашай малітвы.*

— У нас заўсёды так. Кожная служба на эміграцыі так заканчваецца — і ў праваслаўных, і ў каталікоў.

— *На Беларусі яе называюць «Магутны Божа».*

— Так? Сапраўдная назва гэтага верша «Малітва». Пад гэтым тытулам ён надрукаваны і ў маім зборніку.

— *Вы яго напісалі ў эміграцыі?*

— Не, у Менску ў 1943 годзе. Калі стварылася Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква[1], да мяне звярнуўся архіепіскап Філафей з просьбай напісаць верш, які б мог стаць беларускай малітвай. Я напісала верш, які пачынаўся словамі: «Магутны Божа, уладар Сусветаў...» Але Сінод не зацвердзіў іх у якасці малітвы.

— *Чаму?*

— Сказалі, што верш замала рэлігійны і зашмат палітычны, занадта беларускі. У кіраўніцтве Беларускай аўтакефальнай царквы тады было толькі некалькі беларусаў. Астатнія — расейцы. Ім малітва і не спадабалася.

— *Цікава, а калі Мікола Равенскі паклаў яе на музыку?*

— Тады ж.

— *Цяпер на Беларусі гэты твор разглядаюць як адзін з варыянтаў дзяржаўнага гімна. Вы ведаеце пра гэта?*

— Я чула. Але не ведаю, што там вырашылі. Да мяне даходзілі чуткі, што пры абмеркаванні «Малітвы» некаторыя дзеячы закідаюць, што яна надта рэлігійная і мала палітычная. Усё наадварот, як у 43-м годзе.

— *Спадарыня Наталля, акрамя «Малітвы» шмат Вашых вершаў сталі песнямі...*

— Так. Я шмат працавала калісьці ў гэтым напрамку. Любіла пісаць рамансы, лібрэта, нават тэксты на гатовую музыку. Найболей песняў на мае словы стварылі Мікола Равенскі, Мікола Куліковіч, Эльза Зубковіч. Беларуская мова вельмі песенная, музычная, напеўная.

— *Цяпер на Беларусі вядуцца дыскусіі наконт норм правапісу. Якім правапісам карыстаецеся Вы?*

— Старым. Тым, якому навучыліся яшчэ ў Віленскай гімназіі. Я за тое, каб мяккі знак у беларускай мове застаўся. Гэта недапушчальна, калі ў адной мове паралельна існуюць дзве школы правапісу. Павінна застацца адна. Тая, якая найбольш поўна і дакладна перадае беларускасць нашай мовы.

— *Спадарыня Арсеннева, растлумачце мне сваю таямніцу: як Вам, рускай па нацыянальнасці, удалося так глыбока пранікнуць у беларускую душу, беларускае слова?*

— Я ніколі не думала над гэтым. Але я заўсёды любіла Беларусь, яе людзей, яе мову і песню. З асалодай і захапленнем некалі слухала беларускую мову на вёсцы. Асабліва мову старых людзей. Ад іх я вучылася жывой мове.

*— А на эміграцыі дзе Вы слухалі жывую мову?*

— Толькі ва ўспамінах.

*— Ці ўзнікала калі-небудзь думка пачаць пісаць па-англійску?*

— Ніколі. Не было такой духовай патрэбы.

*— Думаць па-беларуску ў чужым асяроддзі, напэўна, нялёгка?*

— А ў мяне не было чужога асяроддзя. Я жыла сярод беларусаў. Беларускае асяроддзе заўсёды было ў нашай сям'і.

*— Амерыканцы не перакладалі Вас?*

— Здаецца, не. Хіба што я не ведаю.

*— Затое апошнія два-тры гады Вы шмат друкуецеся на Бацькаўшчыне. Гэта прыемна?*

— Гэта добра. Але гэта не я друкуюся, а мяне друкуюць.

*— Што б Вам хацелася, каб там выйшла ў першую чаргу?*

— Усё, што варта ўвагі чытача. У Менску выйшла анталогія «Сум па Радзіме»[2]. Там шмат маіх вершаў, узятых з ранейшых выданняў. Гэта, можа, пакуль што найбольш поўная мая публікацыя. Але ў той анталогіі вельмі дзіўны падбор вершаў і аўтараў...

*— Спадарыня Наталля, каго, на Вашу думку, з эміграцкіх паэтаў і пісьменнікаў пакуль зусім не ведаюць на Беларусі?*

— Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне. На маю думку, лепшы паэт беларускага замежжа — Алесь Салавей[3]. Вельмі шкада, што ён ужо навечна адышоў ад нас. Больш тонкага лірыка, чым Алесь Салавей, у беларускай паэзіі няма. Хіба што Максім Багдановіч. Некалі я была ў захапленні ад творчасці маладога паэта Лявона Случаніна[4]. Ён прыехаў у 1944 годзе на эміграцыю і недзе прапаў...

*— Ён жыве ў Беларусі, у Салігорскім раёне, здаецца...*

— Што Вы кажаце? Дык ён жывы!

*— Так!*

— Вельмі прыемна. Я шкадавала, што ён згубіўся, і думала, што ён загінуў. Перадайце яму прывітанне і мае самыя найлепшыя пажаданні.

— *Спадарыня Наталля, ці былі часы, калі Вы не пісалі зусім?*

— Я пісала заўсёды.

— *Вам як паэтцы патрэбен чытач?*

— Так, і ён у мяне быў. У першую чаргу беларуская палітычная эміграцыя. Я духова надтрымлівала яе на чужыне.

— *А масавы чытач, калі так можна казаць,— на Бацькаўшчыне?*

—У 50—80-х гадах гэта было немагчыма, і я да гэтага не імкнулася. Я проста пісала.

— *Паэзія была для Вас заробкам?*

— Ніколі! За свае вершы ў Амерыцы я не атрымала ні цэнта. Калі выходзіў мой зборнік «Між берагамі», я сама дала на яго выданне тысячу даляраў.

— *У Беларусі Вашы вершы вельмі папулярныя. Іх чытаюць, імі захапляюцца. Вы чакалі, что калісьці так будзе?*

— Ведаеце, я ніколі не цаніла таго, што пісала, не прыдавала сваёй паэзіі ніякага значэння, пакуль не выйшла кніга «Між берагамі». Я перачытала свае вершы, і мне ўпершыню здалося, што яны нечага варты.

— *Ці ўдаецца чытаць што-небудзь з сучаснай беларускай паэзіі?*

— Цяпер чытаю шмат. Прысылаюць па пошце, перадаюць праз знаёмых. Чытаю з задавальненнем.

— *50 гадоў мінула, як Вы пакінулі Беларусь. Сумуеце?*

— Сумую. Але не так, як раней. Я ніколі не спадзявалася, што расстанне будзе цягнуцца так доўга...

— *Ніколі не збіраліся ў Менск?*

— Не думаю, што ў маім веку мне ўдасца трапіць на Беларусь. Але паглядзім, што там будзе далей...

— *Спадарыня Наталля, мне прыемна было пагутарыць з Вамі. Шкадую, што не вочы ў вочы...*

— У нас атрымалася вуха ў вуха. Тым не менш, мне таксама спадабалася наша размова. Усяго Вам добрага. Будзеце ў Менску, — перадавайце прывітанне ўсім, хто варты, каб ім перадаць прывітанне.

*1994*

18 Зак. 634

## «Я — САМЫ ЗВЫЧАЙНЫ ЧАЛАВЕК, ЧАСЦІНКА МАЙГО НАРОДА...»

(Гутарыў Мікола Ваўранюк)

*— Паважаная спадарыня Наталля, напачатку дазвольце павіншаваць Вас ад імя чытачоў і сяброў рэдакцыі «Нівы»[1] з Вашым юбілеем. Жыццёвы лёс закінуў быў Вас на нейкі час і ў наш Беласток.*

— Так, у 1941 годзе, пасля таго, як вызвалілі мяне з Казахстана, працавала я два месяцы ў абласной газеце ў Беластоку, але ейнага загалоўка не памятаю. У Беластоку жыў тады і Танк, аднак у газеце ён рэдка бываў, бо ўвесь час раз'язджаў, займаўся арганізацыйнай дзейнасцю.

Аж тут пачалася новая вайна, бальшавікі ўцякалі, наступалі немцы. Я прайшла тады пехатою з Беластока на Валожыншчыну, скуль паходзіў мой нябожчык муж (гэта каля 400 кіламетраў). Нагледзелася я тады на розныя жахі — тысячы людзей у дарозе, бомбы, выбухі, смерць... Я ўжо не магла пісаць так, як раней:

> Нібы жоўтая восень,
> стаю над жыццём
> і гляджу на яго,
> хоць навокал — змаганне.
> Мае вершы —
> над сонным балотам трысцё,
> ймгла сівая асенняга рання...[2]

Бо ж сапраўды, я раней сапраўднага жыцця не ведала. Жыла ў параўнаўча добрых умовах, мела мужа, двое дзяцей, ніколі раней не была ні галоднай, ні бяздомнай. А тут давялося сустрэцца з такімі жахамі! Мне сярод натоўпаў уцекачоў здавалася, што засталася я адна-адзінюткая, бездапаможная ў свеце. І неяк згінуў тады ўвесь страх, спаткання твар у твар з вайною я ўжо не баялася. Таму ў адным з вершаў я пісала:

> Лёс мне казаў сяння быць
> амазонкай,
> меч даў у рукі, а сэрцу адвагу...[3]

*— Але якраз у Вашай творчасці амаль адсутнічаюць апісанні асабістых, выключна вашых перажыванняў.*

— Я ніколі не лічыла сябе нечым выключным. І ў той цяжкі час я была часцінкай народа, я цярпела не болей, чымсьці тысячы іншых людзей. Таму я, лічу, не магла замкнуцца толькі ў сабе і пісаць адно пра асабістае.

Думаю, што ўсе мы тады адчувалі супольнасць справы. Гляньце на нас, тых, што апынуліся ў Амерыцы, на эміграцыі. Якім бы цяжкім ні было жыццё пры немцах, мы і ў тагачасных умовах стараліся зрабіць як найболыш. Мы змагаліся за адчыненне беларускіх школаў, стваралі тэатр, адным словам, арганізавалі сваё беларускае культурнае жыццё. Людзі галадалі, шмат чаго не ставала, але ж трэба было неяк жыць. Усе мы імкнуліся будаваць Беларусь!

***— Ці той дух зарадзіўся ў Вас у часе нямецкай акупацыі, ці жыў ён ужо і раней?***

— У нас, у Заходняй Беларусі, я лічу, што масавы адраджэнскі рух, абуджэнне свядомасці ў народзе, вялікі ўздым наступіў яшчэ ў час Грамады[4]. Потым палякі Грамаду задушылі, усё зноў пачало паступова заміраць. І вось, з прыходам немцаў, мы наважыліся яшчэ раз спрабаваць. І гэты дух у бальшыні з нас ужо не згас і дагэтуль.

Калі збярэцца нас тут хаця некалькі чалавек, мы дыскутуем, спяваем беларускія песні і адчуваем, што мы — народ, нармальнае грамадства. А ў Менску бяда, людзі нават па-беларуску не гавораць.

***— Які перыяд у сваім жыцці лічыце найважнейшым, што са свае творчасці найбольш цэніце?***

— Ведаеце, я неяк пра сваю творчасць раней не думала ў катэгорыях мастацкае вартасці. Не аналізавала яе. Прыходзілі ў галаву нейкія вобразы, я іх і запісвала. Праўда, бальшыню сваіх вершаў я пісала, як кажуць, «па натхненню», але калі патрэбны былі песні для нашых жаўнераў, для СБМа[5], скаўтаў, — іх я гэтаксама пісала. Толькі потым, перачытваючы іх нанава, я адчувала, ці напісала я сапраўды добры верш. Для прыкладу, песня «У гушчарах» пачала мне падабацца, калі яе ўжо масава спявалі. Падабаліся вершы народу — пачынала і я іх любіць.

Перакладала я таксама і шмат рэлігійных песняў, калядак, твораў для тэатра. Памятаю, у менскім тэатры ставілася драма Герхарта Гаўптмана «Затонуты звон», якая мне вельмі падабалася і пра якую апошнім часам крыху забыліся.

Паэзія як быццам была маім ратункам, заглушала тую кашмарную рэчаіснасць, у якой мы змушаныя былі жыць. Па ўсёй

Беларусі ішло змаганне між немцамі і савецкімі партызанамі, а цярпеў ад гэтага наш народ. Потым пачалі гарэць нашы вёскі. Жахі гэтыя я апісала як магла ў паэме «Знічы».

У часе мае працы ў менскай «Беларускай газеце» знайшлі міну — о так, як ад мяне да вас — за пяць хвілін перад тым, як мела яна ўзарвацца. І каб яна ўзарвалася, ад мяне нічога не засталося б. Відаць, памерці мне тады не было суджана. Таксама ці раз вярталася я з працы познім вечарам. Іду адна пасярод руін, пра якія гаварылі, што там хаваліся партызаны. І таксама нічога благога мне неяк не сталася. Перад вайною я б ніколі не наважылася на нешта такое. Так, сапраўды тады «лёс мне казаў быць амазонкай».

Вось таму я і лічу, што найбольш вартасныя мае творы — гэта творы ваеннага часу. Тады, як ніколі ні раней, ні пазней, я адчувала сябе адной, хоць і маленькай, часткай нашага шматпакутнага беларускага народа.

*—Хто з людзей, з якімі даводзілася Вам тады супрацоўнічаць, запамятаўся Вам найлепш?*

— Найбольш супрацоўнічала я з кампазітарам Міколам Куліковічам, з якім мы супольна рыхтавалі оперы. Найлепшымі з іх я лічу «Усяслаў Чарадзей» і «Лясное возера». Што датычыць маіх сяброў па пяру, найбольш цаніла я Алеся Салаўя. На маю думку, гэта быў вельмі здольны малады паэт. Быў яшчэ адзін таленавіты паэт, якога я цаніла, — Лявон Случанін.

*— Ці пазнейшае Ваша жыццё і творчасць лічыце натуральным працягам таго, што распачалі ў час вайны?*

— Так. Хаця і ў Нямеччыне, і ў Амерыцы жылося нялёгка, але я ніколі не кідалася ў роспач. Калі мы сюды прыехалі — не так, як сённяшнія эмігранты, якія адразу патрабуюць дапамогі, — мы нічога ад нікога не патрабавалі. Кожны з нас браўся за любую працу, якая яму траплялася, каб хутчэй стаць незалежным, каб нічога нікому не быць вінаватым. Я трапіла на кансервную фабрыку. Не скажу, каб праца была надта прыемная, салёная вадкасць раз'ядала скуру на руках, але неяк пра гэта не думалася. Потым перайшла я на фабрыку цукерак, ну там было ўжо крыху лягчэй. А найдаўжэй працавала я на трыкатажнай фабрыцы, дзе мы вязалі світары.

*— Працавалі Вы таксама на Радыё «Свабода».*

— Апошнія некалькі год перад выхадам на пенсію. Ну, там было ўжо зусім лёгка. Пісала я там пераважна скрыпты пра розныя беларускія культурныя падзеі ў Амерыцы. Але гэта

было, так сказаць, ужо «пад старасць». Наогул жа я ніколі не цуралася ніякай працы. Вы мяне маглі б паставіць дзе заўгодна, хоць капаць бульбу, хоць што-небудзь іншае рабіць — я ўсё рабіла з задавальненнем. Як казалі саветы, «вкалывала честно».

Вось, як бачыце, я — хоць і паэт — самы звычайны чалавек, частка грамадства, частка майго народа. А ў тым, што хтосьці становіцца творцам, ці то паэтам, ці мастаком, ці кампазітарам — вялікая загадка. Часта бывала, што пасля цэлага дня на фабрыцы вярталася я дахаты падземкай, а ў галаве паўставалі нейкія вобразы, паяўляліся абрыўкі сказаў, нараджаліся вершы. Таксама ўначы. Я нават клала каля ложка кавалак паперы і алавік, каб, прачнуўшыся, пакуль засну зноў, злавіць гэтыя вобразы, каб не ўпусціць іх. Паэтычная творчасць — гэта, паўтараю, нейкая загадка, якой я растлумачыць не бяруся.

*— Сардэчна дзякую Вам за размову. Жадаю ўсяго найлепшага, перш за ўсё моцнага здароўя і новых творчых дасягненняў. Што б Вы, на заканчэнне, параілі маладым беларусам?*

— Я падрабязна не ведаю ўмоваў, у якіх даводзіцца ім сёння тварыць. Я жадаю ім аднаго — шчырага жадання будаваць шчаслівую будучыню свае Бацькаўшчыны.

## «Я ВЕЛЬМІ ВЫСОКА ЦАНЮ СУЧАСНУЮ БЕЛАРУСКУЮ ПАЭЗІЮ...»

(Гутарыў карэспандэнт газеты «Беларус»)

*— Калі ў Вас прабудзілася жаданне пісаць? Пад чыім уплывам, пры якіх абставінах захацелася Вам самой выказвацца творча?*

— Я вельмі рана і ўжо на ўсё жыццё палюбіла кнігі, палюбіла чытанне. Як і калі я навучылася чытаць — не памятаю. Але калі мне споўнілася пяць год, а маёй сястры Галіне чатыры (мы абедзьве нарадзіліся ў тым самым месяцы, у верасні; дата 20 лістапада, што паданая ў маім зборніку, — памылковая), маці выпісала нам дзіцячы часопіс «Золотое детство», які й быў маім верным сябрам на працягу ранніх дзіцячых гадоў аж да тае пары, калі я, рыхтуючыся да паступлення ў гімназію, пазнаёмілася

з паэтамі й пісьменнікамі расейскай літаратуры XIX ст. — Пушкіным[1], Лермантавым[2], Някрасавым[3], Тургеневым[4], Л. Талстым[5] ды іншымі. Побач з імі я вельмі рана палюбіла навукова-фантастычныя творы Жуля Верна[6], прыгоды Брэта Гарта[7], Джэка Лондана[8] ды шмат, шмат іншых тагачасных пісьменнікаў. Усе яны, без сумлеву, пакінулі свае ўражанне на душы дзіцяці. Ці дзіва, што калі я пачала падрастаць, дык мне захацелася пісаць, тым больш што ў галаве ў мяне было заўсёды поўна розных варыянтаў прачытанага. Але вершы я пачала пісаць шмат пазней, ужо будучы ў гімназіі.

*— Чым Вы тлумачыце тое, што ў Вашай ранняй творчасці дамінуе прырода, як канва Вашых пачуццяў і настрояў?*

— Над гэтым пытаннем трэба, хіба, спыніцца крыху даўжэй. Мне здаецца, што хай навонкі я была ад самага маленства зусім нармальнай дзяўчынкай, што й гуляла з захапленнем у гульні з сёстрамі і сяброўкамі (нат лазіла з імі ўлетку па дрэвах!), у сапраўднасці, у душы, я чулася найлепей, калі магла быць сама: думаць недзе ў кутку аб прачытаным, летуцець, што гэта я — гераіня прачытаных аповесцяў. Асабліва блізкай была мне ў гады падрастання Пушкінава Таццяна (паэма «Яўгеній Анегін»):

> Тиха, печальна, молчалива,
> Как лань лесная, боязлива,
> Она в семье своей родной
> Казалась девочкой чужой...

Баязлівай я хіба не была, але праз усё маё жыццё я была вельмі нясмелая, як ні намагалася гэтага не паказаць, перамагчы. Яна, гэтая нясмеласць, спрычыніла мне ў жыцці ці мала прыкрасцяў і шкоды. Азіраючыся назад, я магу цяпер прызнацца, што, каб не гэтая пракудная рыса майго характару, я магла б шмат больш зрабіць у жыцці, асабліва навонкі, стацца калі не лепшай, дык шмат больш вядомай свету паэткай. А будучы нясмелай, няпэўнай свайго таленту і магчымасцяў, я старалася быць як найбольш незаўважанай, вось як я сама пісала ў вершы «Маладым паэтам» пра свае жаданні: «Стаяць над жыццём і глядзець на яго, хай наўкола змаганне...»

Але вярнемся да Вашага пытання: «Чаму ў ранняй маёй творчасці канвой маіх пачуццяў і настрояў сталася прырода?» Вось якраз жа таму, што прырода была сугучная і майму характару, і маім адчуванням. Захопленая хараством, чарамі прыроды, у

гадах маёй ранняй творчасці асабліва, я не чулася ні самотнаю, ні сумнаю, ні няпэўнаю. У лесе, у палях, «пад сінім небам» я была спакойнаю і вольнай, як нідзе.

А людзей я сапраўды пазнала і зразумела шмат пазней. Тады і яны побач з прыродай увайшлі ў маю творчасць і нат хіба як пераможцы.

— *Вы называеце Максіма Гарэцкага сваім «першым крытыкам і суровым настаўнікам». Што Вам запамяталася з ягонага выгляду, настаўленняў літаратурных і нацыянальных?*

— Максім Гарэцкі быў крытыкам своеасаблівым. Ён ніколі не казаў проста, калі яму што не спадабалася, адно колькімі спакойнымі словамі ці сказамі дапамагаў мне самой зразумець, у чым мая памылка. Бачыла ці спатыкала Максіма Гарэцкага або на лекцыі ў класе, або прыпадкам у калідорах школы, бо быў заўсёды вельмі заняты, але было між намі нейкае вельмі няўлоўнае паразуменне, і не трэба было шмат словаў. Хваліў ён мяне рэдка. Адно што яму падабалася, гэта мае вершы-балады, якія ўвайшлі пазней у зборнік «Пад сінім небам» у раздзеле «Зачараваны кут» (што й не дзіва для аўтара «Патаёмнага»[9]).

— *Які ўплыў меў на Вас Антон Луцкевіч?*

— Антон Луцкевіч, які пераняў у Гарэцкага выкладанне беларускае мовы ў нашым 8-м класе, не быў мне гэткім блізкім, як Максім Гарэцкі. Ды выкладаў ён без таго запалу, без тае любасці да роднага слова, як Гарэцкі. Адно што ён любіў і добра, да апошняга радка ведаў і высока цаніў, была творчая спадчына Максіма Багдановіча. Багдановіч як паэт, што не выйшаў непасрэдна з вёскі, быў, відаць, шмат бліжэйшы Луцкевічу, чымся, скажам, Мацей Бурачок[10] ці нават і Якуб Колас. Але ў выкладах сваіх ён заўсёды быў вельмі дакладны, стрыманы і справядлівы. Ён заўсёды быццам некуды спяшаўся, і не было ў ягоных лекцыях таго агню, што ў лекцыях ягонага папярэдніка.

— *Ці на Вашым творчым шляху былі ў Вас спакусы (якія ішлі звонку) пісаць у іншай мове (расейскай, польскай) і што Вас пакінула пры беларускай мове?*

— Мо гэта крыху дзіўна, але гэткае спакусы ці націску на мяне з таго ці іншага боку ніколі не было. Думаю, што мала хто з чужых, сярод якіх давялося мне жыць, наогул ведаў, што я пішу, да таго ж па-беларуску. Беларускую мову я ніколі не збіра-

лася кідаць, яна была і ёсць мая родная мова, дык як жа я магла яе пакінуць?

*— Хто, апрача Максіма Багдановіча, быў найбольш блізкі Вам з беларускіх паэтаў? Якія дачыненні былі ў Вас з іншымі паэтамі Заходняй Беларусі? Ці Вы сачылі за іхнымі творамі? Як Вы разумелі сваё месца ў літаратурным жыцці той пары?*

— Апрача Багдановіча я любіла Змітрака Бядулю[11] і некаторыя вершы Янкі Купалы. Ведама, я захаплялася і дзівілася моцы ягонага магутнага таленту, але бліжэй майму сэрцу былі гэткія ягоныя вершы, як «Песня сонцу» ці «Маладая Беларусь». Што ж да маіх найбліжэйшых сяброў, паэтаў Заходняй Беларусі, дык неяк навесну 1921 або 1922 года (баюся памыліцца) я сустрэлася ў Вільні з паэтам Уладзімірам Жылкам[12]. Ён мне адразу вельмі спадабаўся як чалавек. Я была тады якраз пад уражаннем кагадзе надрукаванага ягонага верша (не памятаю ўжо дзе):

> Ў маім жыцці яшчэ вясна
> Мінула ў вечнасць назаўсёды...

Я адразу адчула, што гэты Жылкаў верш куды лепш за мае тагачасныя і таму пазірала на яго з пашанай, хай Жылка і быў блізу маім аднагодкам. Згаданыя ўспадоба і пашана да Жылкавае творчасці засталіся ў мяне назаўсёды і завяршыліся ўражаннем ад прачытання (гадоў 20 пасля) ягонага несмяротнага «Тэстамента».

Больш, на жаль, я з Жылкам не сустракалася. Ён выехаў у Прагу, а тады — у Савецкі Саюз, а я выйшла замуж і пакінула Вільню на доўгія гады, хай і вярталася туды часам на кароткія наведзіны.

Што ж да тагачасных паэтаў Заходняй Беларусі, дык Максіма Танка, з якім я сустрэлася ўжо шмат пазней, я таксама адразу прызнала як лепшага за мяне тады паэта. Ранні Танк быў, безумоўна, пад ці малым уплывам Сяргея Ясеніна[13], з творамі якога я толькі што тады пазнаёмілася. І Ясенін, і Танк, гэткія падобныя ў адным, а гэткія розныя ў іншым (Ясенін, прыкладам, не быў змагаром), былі вельмі сугучныя мне (у глыбіні, калі можна так сказаць, а не вонкава). Пад іхным, прызнаюся, уплывам я і развіталася канчальна з «нашаніўскаю парою» мае творчасці ды ўвайшла, перш крыху нясмела, у паэтычную сучаснасць.

З творамі ж гэткіх волатаў, як Уладзімір Дубоўка[14] ці Язэп Пушча[15], я тады яшчэ не сустракалася.

Апрача Танка давялося мне пазнаёміцца ў Вільні і з іншымі лепшымі паэтамі Заходняй Беларусі — Машарам[16] і Васільком[17]. Ні Васілька, ні нат Машару не можна было аднак раўнаваць ані да Танка, ані да Жылкі, ані, хіба, і да тагачаснае мяне.

*— Вам давялося пражыць на Беларусі не больш як 25 год, калі не лічыць штогодніх кароткіх «наездаў». Здалёк ад Беларусі, што Вас найбольш вабіла да яе?*

— Усё... А найбольш ейная нейкая свойскасць, блізкасць. У Заходняй Польшчы, дзе мне давялося пражыць большую частку нашых год выгнання, нат васількі, здавалася, цвілі не гэтак, як у нас. Я пісала ў 1925 годзе:

Краскі любыя, памяткі іншых палос,
белых дзічкаў на межах,
сцяжынак-шляхоў,
краскі — памяткі песняў званкіх жаўрукоў
пад паветкаю сініх нябёс...

Там, у родных палёх, вы не гэтак цвілі,
гэткі смутак не ймгліўся у вашых вачох,
гэтак хутка ваш стан не хінуўся, не сох,
краскі роднай, далёкай зямлі![18]

*— Які ўплыў зрабіла на Вашу творчасць вайна?*

— Я думаю, што найлепш і найдакладней можа адказаць на гэтае пытанне мой верш «Сягоння», якім якраз я і «прывітала» першыя ваенныя дні.

*— Якое было Вашае стаўленне да нямецкае акупацыі Беларусі, да нямецкіх акупацыйных уладаў?*

— Кажная акупацыя — гэта блізу заўсёды гвалт, няволя. Колькі ж іх, гэтых акупацыяў, перажыла ўжо працягам гісторыі нашая Бацькаўшчына! Гэтак і чародная, нямецкая, акупацыя Беларусі 1941—1944 гадоў каштавала нашаму народу незлічоных ахвяраў, пакутаў і крыўдаў.

Мне здаецца, аднак, што савецкая партызанка ані не лепш ставілася да беларускага жыхарства, чымся нямецкія ўлады. Нішчылі нас і з аднаго боку, і з другога. Ведама ж — вайна. [...]

*— Як Вы разумелі наогул ролю паэта ў жыцці, паколькі Вы звярачаліся ці раз да гэтае тэмы ў вершах «Паэту», «Хто ён, паэт?», «Імкні, паэт!», «Каб паэты маглі», «Паэтам» ды іншых?*

— На гэтае пытанне адказаць не гэтак лёгка. Паэты маюць дар паэтызаваць праявы жыцця, жыццёвыя здарэнні, благія ці добрыя, усё тое, што даводзіцца людзям бачыць і перажываць.

І гэтая паэтызацыя перажыванага робіць яго больш зразумелым, наогул лягчэйшым да ўспрыняцця людзьмі. А парою, асабліва ў часіны натхнення, паэты патрапяць нат уплываць сваймі вершамі на людскія паводзіны, кіраваць людскою грамадою, як рабілі гэта старадаўнія прарокі, адным словам, як сказана ў маім вершы «Паэт»:

Вучыць прысталых дыхаць шырэй,
шугаць, за родны край гарэць.

— ***Чым можна характарызаваць Вашую паэзію перыяду эміграцыі? Ці Вы разрозніваеце ў гэтай фазе перыяд «нямецкі», калі жылося ў пераходных лагерных умовах, і перыяд «амерыканскі» — часы сталага асялення?***

— У вершах перыяду «нямецкага», як Вы яго называеце, ды ранняга «амерыканскага» пераважае ў мяне туга па Бацькаўшчыне, параўнанні яе да чужыны, што й не дзіва, бо бальшыня нас, апынуўшыся за межамі Беларусі, яшчэ доўга жылі дый жывём родным краем. І толькі пасля, пакрысе, Бацькаўшчына, як жывая рэчаіснасць, пачала ў паэтавым адчуванні адплываць як быццам у нейкую казачную далячынь. Як казка жыве яно ў сэрцах і паэтаў, і не паэтаў да сяння: «Беларусь, Беларусь залатая» ці «Беларусь, Беларусь зялёная, палыменны, балючы сон!»

— ***Які ў Вас кантакт з паэзіяй сучаснае Беларусі?***

— Сягоння блізу ніякі. Калі я жыла ў Нью-Ёрку, дык сістэматычна чытала і «Полымя»[19] і іншыя менскія выданні. Калі ж выехала «ў правінцыю», амаль усё гэта, на жаль, абарвалася. Але, мяркуючы з таго, што ўдаецца мне ўсё ж час ад часу пачытаць, я вельмі высока цаню паэзію сучаснае Беларусі, нязгасную любасць да Бацькаўшчыны, якая ў ёй жыве.

— ***У Вашай творчасці ваеннага і паваеннага часу Вы ўспрымаецеся чытачом як паэт мужнага духу, пясняр жыццёвага актывізму. Ці лёгка давалася Вам гэтая бадзёрасць? Якія цяжкасці, сумненні, перашкоды даводзілася Вам сустракаць на жыццёвым шляху?***

— Тое, што Вы называеце «бадзёрасцю», гэта проста адна з своеасаблівых рысаў майго характару: хай па прыродзе сваёй я вельмі нясмелая, штось прымушае мяне адразу ставіцца наперакор каму б ні было ў выпадку гвалту, крыўды, несправядлівасці. Наогул я магу шмат што сцярпець, але не крыўду ці несправядлівасць, чаму — сама я не ведаю. А гвалтаў і несправядлівасці ў ваенных гадах было навокала — процьма. [...]

***1983***

# Лісты

## 1. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

***31 жніўня [1923—1924 гг.],***
***Слонім***

Глыбокапаважаны паночку!

Толькі ўчора атрымала ў Слоніме Ваша пісьмо. Яно блізка месяц падарожнічала, пакуль знайшло нас. Спяшаюся паслаць Вам, што магу даць за такі кароткі срок. Я ж амаль цэлы год нічога, нічога не пісала і толькі цяпер ізноў прынімаюся патроху за працу. Трудна цяпер саздаць, стварыць настрой для працы паэтычнай, часу мала, не часу, але жыццё перашкаджае, дробныя жыццёвыя [*неразб.*] не даюць углыбіцца, памарыць, а без гэтага нічога не пішацца. Пасылаю тут другую частку «Dziadów» Міцкевіча і некалькі вершыкаў. Можа, што й выбераце. Выбачайце, што так доўга не адказывала і што нічога добрага паслаць не магу.

Паважаючая Вас

*Н. А.*

## 2. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

***6 верасня 1923 г.***

Вельміпаважаны пане Луцкевіч.

Яшчэ на прошлым тыдні выслала па Вашаму адрасу некалькі вершаў почтаю, але не ведаю, ці атрымалі. Здараецца ў Вільню адзін знаёмы, якога я й прашу даведацца, ці дайшоў мой ліст. Калі яшчэ не позна й калі нічога з прысланых раней рэчаў не падходзіць, пастараюся даць што-небудзь яшчэ. Выбачайце

яшчэ раз, што спазнілася з прысылкаю. Калі «Альманах»[1] выйшаў ужо, была б надта, надта ўдзячная, атрымаўшы адзін экземпляр.

Шчыра паважаючая Вас

*Н. Кушаль.*

## 3. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*[1924 г.]*

Шаноўны паночку!

Надта дзякую Вам за ўсё, што зрабілі, каб атрымоўваць газету. Спадзяюся, што будзе даходзіць. Толькі ў адрасе малая памылка: вуліца наша не Млынарская, але Млынская, хоць мне здаецца, што гэта вагі не мае. Пасылаю пакуль што тое, што маю гатовае, бо часу саўсім няма. За якія месяцы паўтары, калі троха падрасце наш малодшы хлапец, можна будзе, нарэшце, паважна ўзяцца за працу. Пасылаю адну рэч большую: «Лебядзінае возера», якая, распачатая надта даўно, яшчэ ў Вільні, толькі нядаўна дачакалася канца. Напісана яна быццам у народным духу, не ведаю толькі, насколькі мне гэта ўдалося. Апроч «Лебядзінага возера» гатовых большых рэчаў не маю, шмат, праўда, пачатых, няскончаных, неадшліфаваных, на іх калейка потым. Дробных вершыкаў пасылаю некалькі, тое, што ўдалося перапісаць на разе. Далейшае тлумачэнне «Дзядаў» — спіць. З III часткі ператлумачыла пралог, першую сцэну (імправізацыя), пачала 3-ю сцэну і затрымалася. Чакаю на натхненне, бо без ахвоты нічога не тлумачыцца. Не ведаю нават, ці варта далей перакладаць (акты II, III і т. д.), бо гэта ўсё надта далёка ад жыцця беларускага. Што датычыць зборнікаў «Зах. Беларусі», то яшчэ зімою, у лютым, здаецца, атрымала 1-ю кніжку. Болей нічога не мела. Не ведаю, ці гэта ўсё, ці, можа, яшчэ выйшла што? Змест надта добры, але мне здаецца, што для шырокага агулу троха зацяжкі, асабліва стацці характару філасафічнага. Кніжка гэта толькі для інтэлігента, селяніну яна мала прагаварывае да душы, але й гэтыя кнігі нам патрэбны, бо якая ж літаратура абмяжоўваецца літаратураю для народа? Троха часу — і на іх знойдуцца чытэльнікі. Як вядзе сваю працу гімна-

зія? Я нічога, нічога не ведаю вось ужо скора год. Улетку спадзяюся прыехаць у Вільню, толькі што надта далёка закінуў нас лёс наш беларускі... Яшчэ раз дзякую за ўсё, за ўсё. Муж шле Вам шчыры прывет. Цяпер надта сумна, бо муж на стралецкіх курсах у Торуні[1] і толькі часам прыязджае на адзін дзень. А дзень гэты так хутка злятае.

З шчыраю пашанаю

*Н. Кушаль.*

## 4. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*18 студзеня 1926 г.,*
*Хэлмна*

Вельміпаважаны пане Луцкевіч.

Пасылаю першую частку «Дзядоў»[1] і імправізацыю Канрада з III часткі, аб якой мы гаварылі яшчэ летам, калі я была ў Вільні. Цяпер перакладаю IV частку «Дзядоў», т. што скора ўся кніжка, так званыя «Віленскія Дзяды» (частка I, II і IV), будзе пераложана. Першая частка ўся састаўлена з адрыўкаў, надта слаба паміж сабою звязаных, — перакладала згодна з арыгіналам, толькі ў адным месцы, у вершы «Рамантычнасць», дапушчана некалькі строчкаў вольнага перакладу: замест міцкевічаўскіх нарцызаў і лілеі, ці рожы, устаўлены вершык аб дубку і каліне, які не выглядае так сентыментальна. Апроч «Дзядоў» пасылаю Вам яшчэ свае вершы, сабраныя за мінулыя чатыры гады. Няхай ляжаць у Вас, калі будзе магчымасць, — надрукуюцца. Толькі прасіла б аб аднэй рэчы: калі не будзе магчымасці выдаць цэлай кніжкі (усе вершы разам), дык лепей пачакаць, каб не разбіваць цэласці зборніка. Многа вершаў там яшчэ нідзе не друкаваных, якія можна будзе таксама выкарыстаць у выданнях перыядычных. Можа бы Вы перагледзелі ўвесь зборнік і вершы слабыя па Вашаму погляду выкінулі, за кожную раду буду надта ўдзячна, а месцы няўдалыя пастараюся перарабіць. А пакуль што я і муж шлём Вам шчыры прывет.

Астаюся з глыбокай пашанай

*Наталля Кушаль.*

## 5. ВІТАЎТУ ТУМАШУ

*[1950-я гг.]*

Вельмі паважаны спадар доктар, перасылаю Вам поштаю, як Вы прасілі, другую палову майго нарыса. Ці будзе ў ім тое, што Вам ды іншым трэба, я не ведаю. Мне здаецца, што гэта хутчэй не нарыс, а ўспаміны. Але спадзяюся, што Вы выцягнеце з іх, што патрэбна, а што не патрэбна, дык можна і ў кошык. Датаў у гэтым нарысе (ці ўспамінах) мала, я датаў не люблю, бо жыццё ж не ў датах, а ў перажываннях, у тых, аб якіх пішацца, ці ж не? Але ўсе патрэбныя даты лёгка можна падставіць, бо падзеі гэтыя яшчэ вельмі нядаўныя і жывуць у памяці ўсіх.

Не так даўно, на адным з рэфератаў сп. Адамовіч[1] сказаў, што мы ўжо людзі скончаныя і нічога больш не створым. Я б не хацела, каб так было. Мне яшчэ хочацца і жыць, і стварыць штосьці-небудзь добрае, лепшае ад усяго таго, што я стварыла дагэтуль. Бо, шчыра кажучы, мая літаратурная спадчына вельмі ж бедная як на такі вялікі працяг часу. І хоць перажыла я шмат і благога і добрага, але здаецца, што і перажыла замала.

Будзем жа спадзявацца, што гэта яшчэ не канец і што праз пару год удасца дадаць да сённяшняга майго нарысу яшчэ хоць пару цікавых бачын. На гэтым канчаю, перасылаю Вам рукапіс, а далей ужо рабіце Вы.

Дык будзем працаваць і жыць, хай будзе, што будзе!

З пашанаю

*Н. Арсеннева.*

## 6. МАСЕЮ СЯДНЁВУ

*11 жніўня 1966 г.,*
*Нью-Ёрк,*

Даражэнькі Масей!

Толькі сёння сабралася табе адказаць. Перш — была на вакацыях (ездзіла да Влодка[1] на два тыдні, у Рочэстэр), а пасля праца не давала думаць і займацца чым-небудзь па-за ёй. Але цяпер крыху палягчэла, ды і «бос» — Запруднік[2] — неўзабаве вернецца із сваіх даўгіх вакацыяў. Тваё ўпаўнаважанне на з'езд інстытута спазнілася, але яго далучылі да іншых упаўнаважанняў, да пратаколаў, і ўсё ў парадку. З'езд прайшоў добра. «Ко-

надні»[3] будуць друкавацца, як толькі збярэцца матэрыял. Ты пішаш, што ў цябе нічога няма. Няма і ў мяне, але ёсць колькі пачатых вершаў і агульная думка, так што, думаю, нейкі невялікі цыклік склеіць удасца. Хутка вазьмуся за іх. Ведаеш сам, як цяжка пісаць, калі штодзённасць забірае ўвесь час і ўсе думкі. Каб напісаць што добрае, трэба сапраўды, як гэта рабіў Пушкін, замкнуцца недзе ў глушы, каб нішто не рупіла й не замінала. А ў нашых варунках гэта абсалютна немагчыма. Трэба зарабляць на кавалак хлеба. Муж ужо год як на пенсіі. Пенсія «Сошыял Сэкюрыты»[4] вельмі малая, дык зарабляю на нашае жыццё я адна. І аб паэзіі думаць няма калі. А калі й не працуеш, дык розныя надзённыя справы блытаюцца й забіраюць і час, і думкі, і ўсё. Не, раней паэтам усё ж куды лепш жылося. А мо гэта толькі беларускім паэтам не спрыяе лёс? Ну, але рады няма, трэба, як кажуць, «жыць, як набяжыць», нічога не параіш. Дарагі Масейка, чыркані мне калі слоўка, як будзеш мець час і ахвоту, гэта неяк падбадзёрвае мяне, не дае зусім закінуць пісанне. А так навокал чужыя, якім заўсёды ўсё роўна, ці паэт я, ці не, ці напішу я што яшчэ, ці не напішу. І гэткае раўнадушша, гэткая абыякавасць — найгоршае «заахвочванне» для мяне. Адно слова, як казаў калісь, даўно ўжо, Шчаглоў-Куліковіч: «Стымулу няма»!

Твая *Н. Арсеннева.*

## 7. ВІТАЎТУ ТУМАШУ

*[1970-я гг.]*

Даражэнькі спадар Доктар,

нарэшце сабралася вам адпісаць. Матар'ялаў да перакладу ў мяне цяпер хіба хапае. Ідэалам, праўда, быў бы так званы падрадкоўнік – даслоўны пераклад прозай кожнага лацінскага радка, але я разумею, што пры нястачы ў нас сапраўдных лацiністых гэта немагчыма. І таму трэба абысціся тым, што ёсць. Каспровічаў[1] пераклад бліжэйшы да арытметыкі, чымся да паэзіі, у ім чамусьці шмат чаго няма. Думаю, што пры карацейшым радку яму даводзілася выпушчаць некаторыя падрабязнасці. Але, ведама, калі «на чорна» перакладу ўсё, буду карыстацца й Каспровічам. Перакладаць, заглядаючы ў кажны радок, я не ўмею. Бо, калі чалавек занурыцца ў пераклад, словы

ў сказе неяк самі пачынаюць імкнуць, і перарываць іхны імпэт, штораз заглядаючы ў пераклад чужы, спрычыняешся да таго, што перарываецца натхненне й трэба нанова «разаграваць машыну». Ну, а калі будзе скончана праца, дык «на халодна» можна будзе й пераглядаць, і параўноўваць, і папраўляць. Дагэтуль я пераклала 272 радкі. Ад Калядаў, у студзені, блізу нічога не пераклала, розныя клопаты і іншае не давалі часу спакойна ўзяцца за працу. За тыдзень мяркуем ехаць у Фларыду, там — Вялікдзень, шмат за гэты час не зробіцца. Але тады спадзяюся зноў памкнуць наперад. Я перакладаю «Зубра» з прыемнасцяй. Да душы мне й размер верша, зусім быццам вецер плыве на вершалінах дрэваў у пушчы. Гусоўскі, відаць, быў сапраўдным паэтам [...]

## 8. ВІТАЎТУ ТУМАШУ

*[1970-я гг.]*

Даражэнькі спадар Доктар,

з вялікім спазненнем адказваю на Вашыя лісты ў справе «Песні пра зубра». Пераклад Семяжона[1] прачытала пару разоў. Ён добры з аднаго боку, але немагчымы — з іншых. Першае, ён цалкам супярэчыць асведчанням аўтара «Песні». У адным месцы сам Гусоўскі кажа, што ён стараецца ўжываць толькі гэткія словы й выразы, якія будуць даспадобы ягонаму апекуну й працадаўцу біскупу Эразму Плоцкаму[2] і «ў згодзе із станам святарскім». А ў Семяжона раз-пораз гэткія выразы, як «нагой у азадак», «здрэйфіў», «адвальваў не скупа» (гэта Вітаўт[3] — святарству!). Гэтаксама ў яго поўная супярэчнасць з аўтарам у паглядзе на князя Вітаўта. Для Гусоўскага Вітаўт — ідэал, якім ён захоплены, а ў Семяжона Вітаўт — «князь-вар'ят», із «шалёнай прыхамацяй», «факельшчык войнаў са слабым, а з дужым — анёл-міратворца». Тэндэнцыя тут гэткая выразная, што нават не патрабуе аніякае праверкі з лацінскім тэкстам. Калі я скончыла чытаць, у мяне застаўся вялікі нясмак, ну й пратэст. У расейскім перакладзе нічога гэткага няма. Пераклад гэты спакойны, у меру паэтычны і амаль заўсёды ў згодзе з аўтарам «Песні». Вітаўта Парэцкі[4] нідзе не лае. Дый мова ягоная скрозь «у згодзе із станам святарскім» [...]

## 9. РАІСЕ І ВІНЦЭНТУ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧАМ

*[Без даты]*

Даражэнькія Спадарства!

Вельмі дзякуем за шчырыя спачуванні ў нашым горы й сардэчныя запросіны пагасціць у Вас. Выбачайце, што адказваю на іх з гэткім страшэнным спазненнем, аж і лета тымчасам мінула. Але ў мяне так былі неяк апусціўшыся рукі, што проста не магла сябе змусіць нават адпісаць на ліста. Дык выбачайце. Цяпер пакрысе пачынаю адыходзіць, хоць нервы яшчэ вельмі не ў парадку й магу плакаць проста праз глупства, прыкладам, дзеці не слухаюць часам ці міжсобку паб'юцца (бо часам жа і гэта здараецца), і я ўжо плачу, не магу стрымацца. Ці ліст атрымала ад Яні[1], піша пра тое, як яны там жывуць, як ідуць справы, а я тут ад усяго адарвалася, адна (у грамадскім сэнсе), — і я ізноў лію слёзы. Але пакрысе ўсё ж неяк ідзе, здаецца, на лепшае. Гэта праўда, што за гэты год давялося шмат перажыць: развітанне з Нью-Ёркам і ўсім (і ўсімі), да чаго там прывыклі й зжыліся за столькі год, зусім новыя й нялёгкія абавязкі. Тут хвароба, Влодкава аперацыя, ну і нарэшце — гэтак неспадзяваная смерць, усё гэта цяжка перажыць было... Дапамагла звычайная праца, гаспадарскія клопаты. Хоць сэрца разрывалася, але трэба было утрымліваць дом у парадку, варыць, мыць, глядзець дзяцей. Дзеці добрыя, але, ведама, як дзеці, яшчэ ж малыя, і паб'юцца, і пасварацца, і папэцкаюцца. А тут яшчэ апошнія два гады Тусінай[2] хваробы, дык не было імі як паважна заняцца, уся ўвага была хворай. Натачцы[3] ж было ўсяго тры гадкі, як Туся захварэла! Але дзякуй Богу, растуць добра. Ната пойдзе ўжо ў 1-шы клас школы сёлета, а Пецек[4] перайшоў у 4-ты клас свае прыватнае каталіцкае школы. Вучыцца добра. Натачка таксама вельмі здольная, дык Бог дасць, вырастуць з іх добрыя людзі. Лета правялі ў сябе, жывем, як у парку, дый парк вялікі пад бокам. Нядаўна Влодак меў вакацыі, дык на тыдзень ездзілі ў горы над возера, ад нас недалёка. Надвор'е трапілася добрае, дык добра адпачылі і накупаліся. У Влодка шмат працы, дык нікуды больш няможна было рушыцца. Ён жа ж, як хварэў, каля 2-х месяцаў не быў на працы. Дык яшчэ раз дзякуй. Шчырыя прывітанні.

Вашая *Н. А.*

19 Зак. 634

## 10. РАІСЕ І ВІНЦЭНТУ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧАМ

*1977 г.*

Даражэнькія!

Спадзяюся, што Вы яшчэ не на вакацыях. Бо мы з Наткай заўтра едзем у Kats Kill Mountains[1], туды, дзе Яніна дачка Юлька Андрусышына[2]. Яны там замовілі нам пакой да паловы жніўня. Яня нараіла, кажа, што там вельмі добрае паветра, можа падлечыць мой бранхіт. У нас усё па-старому, а што датычыць мае кнігі, дык я ўжо страціла ўсялякую надзею на ейны выхад. Адамовіч яўна яе сабатуе. Ну, але Бог з ім! Вярнуўшыся з вакацыяў, паспрабую яшчэ раз нешта рабіць. Наагул, апошнім часам я нешта ў прыгнобленым настроі. Мо вакацыі дапамогуць? Моцна Вас цалую.

Ваша *Наталка.*

## 11. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ[1]

*8 студзеня 1988 г.*

Даражэнькая!

Вярнуўшыся ад знаёмых з Канады ў мінулым тыдні, заспела Ваш ліст, ён чакаў тут на мяне амаль тры тыдні, дык спяшаюся на яго адказаць. Перад усім, вельмі цешуся, што пакрысе знаёмімся, пачынаем перапісвацца, чуцца адной роднай сямейкай. Я тут, у Рочэстэры, чуюся часта вельмі самотнай. Беларусоў тут амаль няма. Але трымаю ўсе гэтыя гады (ужо 20) шчыльную сувязь з Нью-Ёркам і больш-менш у курсе ўсіх нашых спраў. Жывём мы таксама вельмі сціпла й супакойна, выгадавала сыну таксама парачку — унука і ўнучку. Але яны яшчэ не жэняцца, хоць унук ужо жыве асобна і ўжо другі год працуе. У нашым Рочэстэры жыццё плыве вельмі супакойна. Гэта досыць вялікае места (каля 300 000 жыхарства), ёсць вялікі універсітэт, палітэхніка й кансерваторыя, але мы амаль ніякага ўдзелу ў жыцці горада не бяром. У нас тут лепшыя (як для мяне) разрыўкі — возера Антарыё, колькі паркаў, якія больш падобныя да лесу, адным словам, прыгожая, жывая прырода.

Ці паверыце, у парку, што да нас блізка, шмат грыбоў, сапраўдных «нашых» баравічкоў! І наогул, вакол вельмі прыгожа,

не верыцца, што жывём у такім вялікім месце. Больш, пакуль што, нічога не пішу. Калі гэты ліст атрымаеце, напішу больш.

*Н. А.*

## 12. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*1 лістапада 1988 г.*

Даражэнькая!

Даўно ўжо, яшчэ ў верасні, атрымала ад Вас другі ліст, ішоў ён вельмі хутка, а доўга не адказвала таму, што чакала адбіткаў Вашых вершаў з цыкла «Еўфрасінні Полацкай», якія мне абяцалі прыслаць з Нью-Ёрку, а тады рыхтаваліся да г. зв. Сустрэчы беларусаў, якія адбываюца тут што пару год. Сёлетняя (18-я) была, бадай што, найбольшая, прыехалі на яе людзі з ўсяе Амерыкі, з Еўропы, нават з далёкай Аўстраліі. Супала наша сустрэча з 1000-годдзем хрысціянства на Беларусі. У сувязі з гэтым беларусы Амерыкі выдалі паштоўку «Крыж Еўфрасінні», якую пасылаю ў гэтым лісце й Вам, а ну ж дойдзе. Гэта была б цудоўная ілюстрацыя да Вашага верша «Крыж».

У праграме сустрэчы было высвячэнне з гэтае нагоды вялікага драўлянага Крыжа ў Прошчы, якіх 200 кіламетраў ад Таронта ў Канадзе. Тут некалі, яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя, замучылі і забілі двух французскіх манахаў-місіянераў (Канада тады належала Францыі). З гадамі гэты прыгожы ўзгорак над лясамі й азёрамі стаўся Прошчаю, куды прыходзілі людзі з сваімі бедамі й просьбамі, маліліся. Ля падножжа ўзгорка вырас гарадок. У самой Прошчы пабудавана вялікая й вельмі прыгожая капліца. А тады эмігранты з усяго свету пачалі будаваць і стаўляць у памяць сваіх пакінутых родных краінаў на гэтым узгорку свае Крыжы і помнікі. Цяпер тут ёсць 40 гэткіх памятак, не было толькі беларускае. І вот сёлета ўдалося сабраць грошы й паставіць на самым шчыце ўзгорка й беларускую памятку — высокі Крыж, вельмі прыгожы, хоць просты, драўляны. Выглядае ён цудоўна, а ўнізе — лясы й азёры, куды ні глянеш. Сустрэча трывала тры дні, а на трэці паехалі ў Прошчу асвяціць Крыж «за долю й шчасце Беларусі». Наш Крыж найвышэй на ўзгорку, бо пакуль што апошні, суседзямі нашымі, крыху ніжэй, югаславы й філіпінцы. Пасылаю Вам прысвечаны гэтай урачыстасці верш, які, як і Ваш, завецца «Крыж», ук-

ладаю яго ў гэты ліст, можа, дойдзе. Быў на сустрэчы Сакрат Яновіч[1] з жонкай Таняй, з Беластока, быў ён і ў Прошчы. Вельмі мне спадабаліся. Прыязджалі ў ЗША Оля Корбут[2] з мужам, але ў Канадзе не былі. Яны зведалі ўсе нашы беларускія асяродкі. Данчык, унук мае найбліжэйшай сяброўкі Яні, якая жыве ў Нью-Ёрку, ездзіў з імі па ўсёй Амерыцы як перакладчык. [...]

Калі мой гэты ліст атрымаеце, зараз адпішыце, хацелася б, каб Вы атрымалі паштоўку. А пакуль што бывайце здаровы.

Ваша *Н. А.*

## 13. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*22 кастрычніка 1989 г., Рочэстэр*

Даражэнькая!

Не крыўдуйце на мяне, што гэтак доўга не адпісвала на Ваш ліст, але мае хатнія абставіны гэтак склаліся, што ўсё давялося адкласці набок. Справа ў тым, што жыву я з сынам, 20 год таму давялося мне кінуць усё наладжанае жыццё ў Нью-Ёрку, кватэру, працу, сяброў і ехаць да сына ў Рочэстэр — ён застаўся з двумя нялетнімі дзецьмі на руках пасля смерці жонкі й прасіў мяне дапамагчы яму з імі. Ён у мяне застаўся адзін (старэйшы загінуў у часе вайны ў 1943 годзе), й я не магла яму адмовіць, кінула ўсё й прыехала да сына, выгадавала дзяцей (хлапцу было тады 8, а дзяўчыне 4 з паловай гады), і вось ужо й сын праз колькі месяцаў выходзіць на пенсію (яму якраз споўнілася 65 год), і дзеці выраслі, але й мне ж ужо мінула 20 верасня 86 год! Так што, здавалася б, цяпер я магла б ужо уздыхнуць свабодна, але насунулася іншая бяда: бацькі мае нябожчыцы нявесткі, якія жылі дагэтуль у добрым здароўі ў Фларыдзе і якіх мы наведвалі штогод у іхняй там блізу курортнай мясцовасці (ім аднаму 86, а другой 82 гады), раптам пачалі хварэць, і мне давялося туды ехаць іх даглядзець, бо сын мой не мог кінуць працы, а ўнучка таксама працуе, ды й што яна там магла б дапамагчы!

Вось я й была там усё лета, справы ў іх зусім дрэнныя, чым гэта ўсё скончыцца, не ведаем, а тут захварэла і ўнучка — на ейную машыну, калі яна ехала з працы, наехаў нейкі п'яніца, і ў выніку ў ейнай спіне былі пашкоджаны 4 пазванкі, боль быў страшэнны, не магла ні ляжаць, ні сядзець, цэлы месяц не пра-

цавала. Цяпер лепш, ужо працуе, пакуль што паўдня, але я ізноў занятая хатняй працай і ўсімі хатнімі справамі, не гаворачы ўжо аб маральных перажываннях. Я, ведама, не скарджуся, у жыцці ж усяк бывае, але ўсё ж лепш, каб усіх гэтых клопатаў не было.

Але цяпер, даражэнькая, ужо купіла вялікі канверт і бяруся высылаць Вам маю кніжку, тым больш што ў міжчасе выйшаў дазвол на перасылку ў СССР літаратуры (кніг, журналаў і г. д.). На мінулым тыдні атрымала ліст з БССР ад В. Аксак[1], між іншым, яна піша, што бачыла й чытала маю кніжку «Між берагамі», «добрыя людзі далі пачытаць» — яна піша. «Між берагамі» выйшла ў свет год 10 таму, невялікім параўнальна тыражом, і засталося іх ужо вельмі мала, у мяне асабіста ўсяго тры экземпляры, адзін пасылаю Вам. Рэшта, колькі іх там ёсць, — собскасць Беларускага інстытута навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку (старшыня Вітаўт Кіпель). Ведаю, што ён выслаў некаму у Менску пару раз па 5 кніжак і яны там ходзяць па руках, «добрыя людцы даюць чытаць», як піша Валя Аксак. Вось, здаецца, пакуль што і ўсё.

У нас сёлета было вельмі гарачае й засушлівае лета, дык грыбоў, на жаль, зусім не было. А цяпер ужо сапраўдная восень! Дрэвы стаяць усе ў золаце й гэтак прыгожа, што аж сэрца сціскаецца!

Вашая *Н. Арсеннева.*

## 14. ЛЕАНІДУ ПРАНЧАКУ

*Травень 1990 г.*

Даражэнькі спадар Пранчак!

Днямі атрымала ліст ад Данчыкавай мамы Юлі Андрусышынай, а з ім і Ваш ліст з «гарачымі прывітаннямі з Беларусі». Ліст, відаць, вельмі доўга недзе вандраваў, але ўсё ж патрапіў, куды трэба. Колькі магу, пастараюся, хоць адно больш-менш, выканаць Вашу просьбу. [...]

Ваенныя падзеі ды горкія дазнанні апошніх мінулых год прымусілі мяне пакінуць і Менск, і працу ў чэрвені 1944 года. 1945 г. сустрэў мяне з сынам у Берліне, а тады ў невялікім гарадку Амберг у Баварыі, дзе мы й прычакалі канца вайны. З мужам я сустрэлася зноў адно ўлетку 1945 года. Далейшыя гады пісанню вершаў не спрыялі. Правялі мы іх у лагерах для

г. з. «перамешчаных асобаў» (DP). А калі пачаўся выезд гэтых «перамешчаных асобаў» у розныя краіны свету, як Аўстралія, Амерыка, Паўдзённая Амерыка, Бельгія, Ангельшчына, Францыя, мы трапілі ў ЗША, куды й прыбылі 15 чэрвеня 1950 г. Трэба было пачынаць новае жыццё, шукаць працы, уладкоўвацца. Нас, праўда, прывезлі, але далей даваць сабе рады мы мусілі ўжо самі, ніхто ў тыя часы нам не дапамагаў. Але, дзякуй Богу, ужо праз 2—3 дні па прыездзе я пакавала ў слоікі агуркі на фабрыцы кансерваў, а сын паліраваў сталы на нейкай нямецкай фабрыцы мэблі. Колькі тыдняў пасьлей уладкаваўся на працу й муж, як «elevator operator», абслугоўваў ліфт у Medical Center у Брукліне. Ужо праз пару месяцаў мы пачалі станавіцца на ногі, займелі сваю невялікую кватэру, й жыццё паплыло сваім чародам, і сваё, прыватнае, і грамадскае, беларускае, бо прыехала нас ужо ў Амерыку (пераважна ў Нью-Ёрк і ваколіцы) вялікая досыць беларуская грамада. Усе стараліся трымацца разам ці, прынамсі, трымаць сталую лучнасць. Пачалі тварыцца свае, беларускія арганізацыі: Беларуска-Амерыканскае задзіночанне, пасьлей Беларускі інстытут навукі і мастацтва ды інш. Трымаемся, дзякуй Богу, мы сціслай грамадой і цяпер, калі створаная тут ужо «Беларусь у Амерыцы» і ў Аўстраліі, і ў іншых краінах. І ніякага дзіва няма, што мы «захавалі», як вы пішаце ў адным з вашых пытанняў, беларускую мову. Міжсобку, мы паслугоўваемся ёю штодня, заўсёды, яна ў нас «жывая» й тут.

Думаю, што гэтая мая зацемка дапаможа вам у вашай працы. Я не палітык і ніколі ім не была й нат больш — палітыкі не люблю, але «фенамену замежжа», як Вы яго называеце, на маю думку, мо не было б наагул, каб не папярэдзілі яго гады нямецкае акупацыі. Гэтыя жахлівыя, нялюдскія гады, якія каштавалі нашай бацькаўшчыне і ўсім тым, што іх пераЖылі, безліч ахвяраў, як гэта не дзіўна, а спрычыніліся ў вялікай меры да адраджэння беларускае нацыянальнае сведамасці, нішчанае і душанае і на ўсходзе й на захадзе (і ў Польшчы і ў СССР). Немцы ж ані не цікавіліся, якой мовай паняволеныя імі людзі гавораць, чытаюць, пішуць, нікога за гэта не каралі, і таму беларускія патрыёты адразу з гэтага скарысталі й узяліся за працу, пачалі намагацца перад акупацыйнымі ўладамі дазволу на адкрыццё беларускіх школаў, хай сабе адно пачатковых пакуль што, на ладжанне культурных імпрэзаў, хораў, канцэртаў і г. д. І здарылася, дарма што вайна, жорсткі прыгнёт, спантанічнае адраджэнне беларускае сведамасці, асабліва ў Заходняй Беларусі. Акупацыя трывала гады 4, але колькі ж было зроблена за гэтыя

гады ў галіне нацыянальнае сведамасці, культуры! І вось гадунцы гэтых цяжкіх год якраз і склалі па скончэнню вайны тую масу, тую хвалю беларускае эміграцыі, што расплылася працягам паваенных гадоў па свеце й складае той «фенамен беларускага замежжа», аб якім Вы прыгадваеце. І ацэньваю я яго, ведама, дадатна, бо ён нас з вамі лучыць у адно.

Вы пытаецеся таксама, над чым адмыслова ■ працую сяння? Дык вось — над нічым адмыслова... і над усім. Мне ж ужо неўзабаве, у верасні, пойдзе 87-мы год! Парадкую «спадчыну» і адгукаюся на ўсё, чым жыве нашая тут беларуская грамада, лаўлю таксама, часам із сумам, часам з радасцяй, весткі з бацькаўшчыны — Беларусі. Жыву я тут далекавата ад большых цэнтраў беларускае эміграцыі, хоць і трымаю з ёю шчыльную лучнасць. Вочы мае ўжо не тыя, што былі, рукі таксама, дык пісаць на машынцы мне цяжка. Спадзяюся, аднак, што маю тут пісаніну вы разбярэце й яна будзе Вам дапамогаю ў вашай працы. А пакуль што — бывайце здаровы.

Вашая *Н. Арсеннева.*

## 15. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*10 лютага 1991 г.*

Даражэнькая!

Учора атрымала ад Данчыкавай бабці, а маёй сапраўднай сяброўкі Яні, ліст і Вашу кніжку «А на Палессі». Пакуль кніжка да мяне нарэшце трапіла, мінула гэткім чынам шмат месяцаў. Яня піша, што яна нечага шукала й знайшла кніжку на дне бюрка. Відаць, Данчык, якому кніжку перадала Вера Бартуль[1], паклаў яе яшчэ ўлетку ў шуфляду й забыўся аб ёй. Ведама, у маладых «вецер у галаве», — як Яня піша. Вельмі цешуся, што ў рэшце рэштаў кніжка ўсё ж у мяне й вельмі, вельмі Вам за яе дзякую. Мне вельмі падабаюцца Вашыя вершы пра нашую даўніну, пра Ефрасінню Полацкую, пра Усяслава Чарадзея, Лазара Богшу[2]... Як шкада, што Вас не было на Сустрэчы беларусаў у Кліўлендзе сёлета. Гэта была сапраўдная сустрэча пасля столькіх год накіданай нам варажнечы, жалезных заслонаў, маны... Я, хоць усяго пару тыдняў пасля досыць цяжкае аперацыі, усё ж наважылася таксама на яе, сустрэчу, пацягнуцца, і не шкадую, бо так цудоўна было пачуцца й нам, і нашым сябрам-

беларусам з-за мяжы, з Менску, адным непадзельным цэлым, дзецьмі аднае Бацькаўшчыны — Беларусі!

Сустрэча, аднак, мінула, і засталіся адно ўспаміны і невясёлая штодзённасць. Увесь апошні год крыху хварэю, прычапілася нейкая трасца з роду вірусавых захворванняў, чхаю, кашляю, глытаю антыбіётыкі, а хвароба трымаецца. Ну, можа, як прыйдзе вясна, пацяплее, пачуюся лепш, увесь вольны час аддаю перапісцы, адказам на лісты з Беларусі, а таксама з Польшчы. Усе просяць матэрыялаў з мае біяграфіі або кніжкаў, але я й сама ніякіх матэрыялаў не маю, бо за часы вайны ўсё, што мела, пагублялася, і засталіся адно ўспаміны. Дзякуй Богу, што памяць мая мне яшчэ добра служыць, хоць мне ідзе ўжо 88-мы год! З гэтае прычыны не крыўдуйце, калі не заўсёды мо ў пару адказваю маім карэспандэнтам (у тым ліку й Вам) на лісты ці просьбы, стараюся рабіць, што магу, а з кожнага гэткага ліста вельмі цешуся, бо веру, што жыве Беларусь і будзе жыць!

Вашая *Н. А.*

## 16. ЯНКУ ЗАПРУДНІКУ

*4 красавік 1991 г.*

Даражэнькі Янка, праз якія колькі тыдняў надыдзе сумная гадавіна Чарнобыльскае трагедыі. Даўно хацела прысвяціць ёй хоць пару радкоў, але ўсё то адкладала, то губляла ўжо напісанае. На жаль, запраўды добры верш пра Чарнобыль напісаць цяжка, калі наогул магчыма, занадта гэта для нас, беларусаў, вялікая трагедыя, дык пасылаю, што патрапіла напісаць маё пяро, ці варта ж гэты «твор» друкаваць — рашай сам.

Чаму ж я ўпляла ў верш хлопчыка — гэта крыху дзіўна. Справа ў тым, што якраз калі ў Чарнобылі здарылася бяда, мне прысніўся дзіўнаваты сон: снілася сенажаць, мокрая, але ўжо зялёная, босы хлопчык, пастушок, які адганяў пужкай худую *чорную* кароўку з адным адламаным рогам. Я, у сне, хацела крыкнуць, каб ён кароўку не біў, але тут зрабілася цёмна, і я прачнулася. Наранні я расказала сон маёй унучцы, і мы дзівіліся, якія глупствы могуць прысніцца чалавеку, пры чым тут кароўка, пастушок? Але пасля, калі ўжо пра Чарнобыль пачалі пісаць дзень па дні ўсе газеты, я доўга не забывалася пра майго «пастушка» і чорную кароўку, таму і ўпляла гэта ў верш.

Ну, а пакуль што, бывай.

Прывітанні.

Твая *Н. Арсеннева.*

## 17. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*20 студзеня 1992 г.*

Даражэнькая!

Атрымала сёння Ваш ліст, ішоў больш за месяц, але ў нас гэта не дзіва ў перадсвяточны час. Летась адзін ліст з калядными віншаваннямі я атрымала перад самым Вялікаднем у Вялікую пятніцу. Вельмі Вам спачуваю, што хварэеце, бо кожнае нездароўе адразу адбіваецца і на самапачуцці, і на настроі. Я таксама мушу кожную восень ці зіму перахварэць, вось і цяпер толькі-толькі пачынаю ачуньваць ад нейкае зацяжное прастуды, моцна кашляю й чуюся не асабліва вясёла, бо якая тут весялосць, калі ў носе хлюпае, у горле дзярэ, на грудзёх — камень, а з вачэй — слёзы, так што й паперу, на якой пішу, ледзь відаць! А да вясны яшчэ гэтак далёка! Дагэтуль надвор'е было досыць магчымае, на Каляды выпала крыху снегу, але было параўнальна цёпла, але вось ужо з тыдзень, як стаіць вялікі мароз, і снег ідзе амаль кожны дзень. Ну, але дзень ужо падаўжэў, прынамсі на паўгадзіны, і ў мяне крыху палягчэла на сэрцы. А на Грамніцы, да якіх ужо толькі два тыдні, дзень ужо прыбудзе на цэлую гадзіну! Не смейцеся з мяне, але я заўсёды адчувала й адчуваю нейкую лучнасць з прыродаю й залежнасць ад усяго, што робіцца навокал. Думаю, што адчуваеце гэтак і Вы.

Вы пішаце, што ў Вас цяпер вельмі цяжкое жыццё... Мы тут, асабліва я, вельмі ўсе гэтыя падзеі[1] перажываем, баюся, што ўсё гэта здарылася захутка, баюся, ці не заманіцца, што людзі будуць яшчэ больш пакутваць, і неяк не магу, не ўмею цешыцца, што Беларусь ужо не БССР, а Belarus, як пішуць цяпер тут усе газеты, і шмат хто дзівіцца, што ў маёй паэзіі я як быццам аптыміст, а вось цяпер гляджу на сучаснасць хутчэй песімістычна. Ну, але дай Божа, каб усё скончылася добра й каб і Вы там, і мы тут маглі нарэшце ўздыхнуць свабодна.

Цалую моцна, выбачайце, што так накрэмзала, але ўсё вінаваты тая мая прастуда й слёзы з вачэй.

Вашая *Н. А.*

## 18. ВАНДЗЕ МАХНАЧ

*5 кастрычніка 1992 г.*

Даражэнькія.

Даруйце, што так доўга не адказвала, але склалася на гэта колькі прычынаў, а найпаважнейшая з іх — мае вочы. Яны вельмі пагоршалі апошнім часам, так што правым вокам амаль нічога не бачу, лекар-акуліст сказаў, што трэба рабіць аперацыю (катаракты), вызначыў быў аперацыю на 8 траўня, але тады сказаў, што лепш яшчэ пачакаць, і я пайду да яго аж 2 ліпеня. Увесь гэты час я павінна нічым не турбаваць вочы, што я і раблю. І праўда, бачу крыху лепей, вось і гэты ліст зусім добра пішацца, а то не магла нават ліста напісаць, адна літара лезла на другую. Карыстаю з гэтае нагоды і пасылаю Вам пераклад. Старалася перакласці як найбліжэй да арыгінала. Найгоршая бяда — са словам «Дзева». Але перагледзела беларускія пераклады малітваў і богаслужбаў, і там гэтае слова сустракаецца, дык я яго і тут пакінула. Слова «маленні» таксама можна было б замяніць, думала — «малітваў», але выходзіць неяк занадта празаічна, напісала «пад Тваю ласку», але яшчэ горш, дык няхай застануцца «маленні». Таксама — «Богородица». Добра выходзіць — «Маці Божая».

> Пад Тваю міласць аддаемся,
> Маці Божая Дзева,
> не адкінь нашых шчырых маленняў
> і ратуй ад бедаў нас,
> адна Ты чыстая і багаслаўлёна,
> Ўладарніца нашая,
> Маці Божая.

Калі што яшчэ ад мяне будзе патрэбнае — пішыце.
Шчырыя прывітанні.

*Наталля Арсеннева.*

# ДАДАТАК

Генадзь Бураўкін

## СПАДАРЫНЯ НАТАЛЛЯ

*Некалькі прыватных згадак*

Доўгія гады яна была для мяне своеасаблівай легендай, калі цяжка зразумець, дзе канкрэтны, рэальны чалавек, а дзе рамантычны вымысел ці хітрая плётка. Адны гаварылі пра яе як пра выдатную паэтку, прыгожую, інтэлігентную жанчыну. Іншыя ж з адкрытай нянавісцю называлі яе прыслужніцай гітлераўскіх акупантаў і здрадніцай. І цяжка, амаль немагчыма было разабрацца, колькі праўды ў гэтых афіцыйна ці неафіцыйна прызнаных меркаваннях. Нават заўсёды дэмакратычны і шчыры Максім Танк і той толькі напусціў туману, аднойчы з мілаю сваёй усмешкаю і гарэзінкаю ў сініх вачах адказаўшы на мае роспыты: «О-о, Арсеннева — асоба няпростая...»

І вось так здарылася, што мой службовы лёс, нечакана перакінуўшы мяне цераз акіян, даў магчымасць не толькі начытацца вершаў Наталлі Арсенневай, а і сустрэцца з ёю самою.

Першы раз я пабачыў яе ранняй восенню 1990 года на традыцыйнай Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі непадалёк ад Кліўленда, у толькі што пабудаваным культурным цэнтры «Полацак». Быў цёплы сонечны дзень. Была святочная гамана даўніх знаёмцаў-эмігрантаў. Была радасная ўзрушанасць ад таго, што ўпершыню на сустрэчу прыехала вялікая маладая грамада з Беларусі. І было агульнае прадчуванне блізкіх і жаданых перамен у выстылым ад доўгага ідэалагічнага супрацьстаяння свеце...

Як нядаўна прызначаны пастаянны прадстаўнік БССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый я з пэўнай асцярогай азіраўся па баках, каб не натрапіць на якога-небудзь вядомага паліцая ці запіснога варожага «прапагандыста», і заўважыў, як каля некаторых людзей цеснымі купкамі збіраліся своеасаблівыя «клубы». У цэнтры аднаго з іх была чарнявая, сярэдняга росту жанчына ў белай вышыванай блузцы з гордай,

ышчэ даволі стройнай паставай. Па ўсім было відно, што яна тут — знакамітасць, славутасць і звыкла прымаць знакі ўвагі і захаплення.

«Ці не Арсеннева?» — падумалася адразу ж, і я ўжо не выпускаў яе постаць з поля зроку ў віратлівым бязладдзі і мітусні першых хвілін арганізацыйнага ўладкавання ў зале.

Да таго часу я ўважліва прачытаў салідны том яе вершаў у цвёрдай сіняй вокладцы, выдадзены ў 1979 годзе нью-йоркскім Беларускім інстытутам навукі і мастацтва, і, можна сказаць, няблага ведаў Арсенневу як паэта, паэта глыбокага і цэльнага. Аднак маё ўяўленне аб яе зямным «партрэце» было яшчэ залішне расплывістым, каб з ходу сцвярджаць, што ўгледжаная мною жанчына і ёсць славутая паэтка.

Але гэта была яна. Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель, з якімі я паспеў скантактавацца ў першыя месяцы сваёй дыпламатычнай працы, пацвердзілі мне гэта і пазнаёмілі нас. Пагутарыць толкам тады так і не ўдалося, бо безупынку да яе падыходзілі даўнія прыяцелі, цягнулі ўбок журналісты, ды і асаблівай адкрытасці ў нораве Н. Арсенневай, як я пасля пераканаўся, не было. Доўгае і цяжкае жыццё навучыла яе насцярожана ставіцца да новых людзей, тым больш калі яны маюць афіцыйны статус і прадстаўляюць дзяржаву, якая не хоча ведаць ні яе лёсу, ні яе твораў. Мы перакінуліся некалькімі ветлівымі словамі, усміхнуліся адзін аднаму і ціха разышліся без дамоўленасці аб будучых сустрэчах. Я паспеў разглядзець яе ўжо не малады твар, уважлівыя, разумныя вочы, сурова сцятыя вусны, дужыя, працавітыя рукі. І — адчуў моцную волю і па-мужчынску ўладарны характар. Такім было першае, абсалютна відавочнае ўражанне.

У многім пацвердзілі яго, хаця і тое-сёе папpавілі, удакладнілі, нашы наступныя сустрэчы, калі можна было, дзякуючы гасціннаму дому Бартулёў, няспешна пагаварыць, распытаць адзін аднаго, паразважаць. Зноў мяне ўразілі ясны, халодны розум Арсенневай, яе стрыманасць і пэўная дыпламатычнасць у ацэнках, што, на першы погляд, не надта пасавалася з яе маляўнічымі, настраёвымі вершамі. Але ў поўнай меры адкрыліся і тонкае пачуццё гумару ды бязлітасная самаіронія. Спадарыня Наталля (так прасіла яна называць сябе) любіла вострае слова, ахвотна пакеплівала са свайго ўзросту і творчай неактыўнасці. Яна даволі добра ведала беларускую паэзію 60—70-х гадоў, прыгадвала некаторыя імёны, як кажуць крытыкі, маладых на той час паэтаў — Рыгора Барадуліна, Дануты Бічэль, Анатоля Вярцінскага... Найноўшых аўтараў яна ўжо амаль не называла і шкадавала, што не мае магчымасці ўважліва сачыць за літаратурным працэсам у Беларусі. Пра Танка гаварыла неахвотна, хаця з павагаю і прыязнасцю.

Я, безумоўна, пацікавіўся яе маладымі віленскімі гадамі, узаемаадносінамі з Максімам Гарэцкім. Вочы Арсенневай імгненна загарэліся, яна хораша, светла ўсміхнулася і глыбока ўздыхнула:

— Гэта быў выдатны чалавек ва ўсіх адносінах. Ён, можна сказаць, вызначыў маю паэтычную дарогу. Яго лічу сваім настаўнікам...

А ўзаемаадносіны... Мы абодва былі маладыя, рамантычныя. Ён мне падабаўся. А я яму? Не ведаю. Я была залішне маладая і наіўная, каб асмеліцца на нешта большае, чым павага і сімпатыя. Ды і хлопцаў каля мяне круцілася многа...

Пра мужа свайго, Францішка Кушаля, прафесійнага вайскоўца і палітыка, пасады і выступленні якога непрымірымыя савецкія прапагандысты ахвотна прыпаміналі і ёй, Арсеннева старалася амаль не ўспамінаць. Магчыма, не сумнявалася, што тое-сёе са зласлівых публікацый пра яго было вядома і мне, а хоць неяк апраўдвацца не ў яе характары. А магчыма, лічыла ўсё, звязанае з гэтым чалавекам, настолькі асабістым, інтымным, што не хацела дапускаць да яго мала знаёмага чалавека. Наогул, у мяне склалася ўражанне, што Арсеннева вельмі многае хавала ў сабе і не любіла выпускаць на людзі. Пра свайго абранніка яна сказала толькі, зноў жа па-маладому ўсміхнуўшыся:

— Стройны быў, абыходлівы, у прыгожай вайсковай форме. Чаго ж болей хацець дзяўчыне?..

Пра высылку ў Казахстан не распавядала зусім, а пра жыццё ў акупаваным фашыстамі Мінску ўспамінала скупа і неахвотна. Гітлераўцаў не любіла і не пускала іх не толькі ў сваю душу, а і ў вершы. (Гэта я магу засведчыць: услаўлення захопнікаў, прыняцця іх рэпрэсій у творах яе я не знайшоў.) Пра адну трагедыю тых ваенных часоў яна ўспомніла літаральна некалькімі сказамі і пасля надоўга горка замоўкла.

Гаворка ішла пра гібель яе старэйшага сына Яраслава пры выбуху ў Мінскім тэатры 22 чэрвеня 1943 года. Міну заклалі партызаны, водгулле выбуху было гучным — і ніхто з нашых суровых летапісцаў народнага змагання з ворагам не захацеў хоць на хвілю ўбачыць жаночую, матчыну роспач. Сямейная бяда таксама была запісана ў чорны абвінаваўчы прысуд Арсеннявай. Не хачу нікога папракаць: часы былі жорсткія, змаганне было смяротнае, — але зразумець гора маці магу і ацаніць тое, што яна ў сваіх вершах так і не паслала праклёнаў «лясным салдатам», — таксама.

Сам я, у свае шэсць гадоў, пабыў на роднай Расоншчыне ў акупацыю і малым заложнікам эсэсаўцаў, і галодным бежанцам, і напалоханым падлеткам з цёмнай сырой зямлянцы і нагледзеўся рознага... Былі мы тады воляю лёсу па розны бок «барыкад», але зразумець пачуццё няшчаснай маці я здольны...

Жыццё са сваёй сявенькі ўдосталь адсыпала Наталлі Арсенневай і чыстых зярнят радасці і ўдач, і сухой гірсы бяды і выпрабаванняў. Перажытага ёю хапіла б на дзесятак лёсаў — і дзіву даешся, як гэта ўсё не зламала, не сагнула яе, не патушыла ў вачах вясёлага агню надзеі і лагоднасці. Атожылак таленавітага лермантаўскага роду (бацька яе — з тых Арсенневых, што па жаночай лініі даў свету геніяльнага рускага паэта), яна праз гады захавала шляхетную годнасць і нават велічнасць. На жывапісных партрэтах у яе паставе нездарма ёсць нешта ад «царс-

касці» Ахматавай і «значнасці» вялікасвецкіх прыгажунь. Яна ніколі не дазваляла сабе быць ці выглядаць слабой, залежнай, разгубленай.

Калі на вечарыне, прысвечанай яе дзевяностагоддзю, яе запрасілі на сцэну і я паспрабаваў дапамагчы ёй узняцца з-за стала, яна горда адвяла маю руку і сказала нават пакрыўджана:

— Вы што, Генадзь? Я сама...

І пайшла пад воплескамі, прамая, элегантная і гордая. І бліскуча чытала на памяць свае даўнія вершы. І нізка кланялася бяседзе з падкрэсленым высакародствам і артыстызмам... А ўсяго за нейкі год перад тым яна перанесла цяжкую складаную аперацыю...

Я, безумоўна ж, запытаўся ў Арсенневай, ці збіраецца яна наведаць родную Беларусь, Валожыншчыну, вёску Доры, прырода і людзі якой на доўгія гады нашапталі ёй так многа выдатных паэтычных радкоў. Яна пахітала сумна галавою і спакойна, як даўно абдуманае, сказала:

— Хацела б. Вельмі. Ды не змагу. Фізічна... Позна...

На сваёй кніжцы «Між берагамі» яшчэ пры першай нашай сустрэчы яна напісала мне: «Хай жа ж нішто не дзеліць больш нашыя берагі!»

І я рады, што яна сёння стаіць на высокім беразе нашай літаратуры — знакамітая паэтэса Арсеннева, гожая і мужная спадарыня Наталля...

*1995*

Раіса Жук-Грышкевіч

## МАЕ ЎСПАМІНЫ ПРА НАТАЛЛЮ АРСЕННЕВУ-КУШАЛЬ

Быць у бліжэйшых адносінах з Наталляй Арсенневай-Кушаль я мела гонар і шчасце дзякуючы таму, што мой муж Вінцэнт і Наталля Арсеннева былі сябрамі яшчэ з пачатку 20-х гадоў, з часоў Віленскай беларускай гімназіі. У вершы «Дарагому Вінцуку — сябру юнацтва», прысвечаным ягоным сямідзесятым угодкам жыцця, Наталля Арсеннева кажа:

...Вось Базыльянскія муры.
У класе — цішыня густая...
А мы,
да позняе пары,
з табой наш часапіс складаем...
..................................................
І хай ты прэзідэнт цяпер,
хай муж дастойны, санавіты, —
а для мяне Ты ўсцяж, самперш —
сябрук ціхі і працавіты.

Не той, што шлях пакут, дакук,
прайшоўшы,
нас тут сяння госціць,
а ў шэрым фрэнчыку Вінцук
з тых вечароў,
з той маладосці...

Сяброўства Наталлі Арсенневай і Вінцэнта Жук-Грышкевіча трывала да смерці Вінцука, калі Наталля Арсеннева зноў яму напісала:

Памёр... няма... і анідзе у свеце
не пакрыжуюцца ўжо нашыя шляхі,
хай восень зноў спляце нам залатыя сеці,
хай зазяленяцца узноў вясновыя лагі.
.......................................................................
...як зʼмірыцца з тым, што не сустрэцца болей
нам у жыцці з табой
ні ў шчасці, ні ў бядзе?

Раней, у 60-х і 70-х гадах, мне з мужам часта прыходзілася бываць у Нью-Ёрку, і не раз мы гасцілі ў спадарства Кушаляў у Брукліне, а пасля па дарозе дамоў заязджалі да іх у Рочэстэр. Некаторыя сябры жартавалі, што Рочэстэр належыць больш да Канады, чымся да ЗША. У 1965 годзе пры ЗБК арганізаванае было Згуртаванне беларускіх жанчын Канады. Жанчыны запрасілі паэтку Наталлю Арсенневу быць ганаровай сяброўкай іхняй арганізацыі, на што яна ласкава згадзілася. А вясной 1969 года запрасілі мы — сяброўкі ЗБЖК — яе ў Таронта на прысвечаны ёй і ейнай творчасці літаратурны вечар. Імпрэза была люднай і надзвычай удалай. Бралі ў ёй удзел не толькі беларусы з розных месцаў Канады, але і з ЗША. Былі даклады пра творчасць паэткі, яна расказала пра сваё жыццё, удзельнікі імпрэзы дэкламавалі яе вершы, усе разам пяялі ёйныя песні. Зрабілі мы супольную фатаграфію. Паэтка атрымала падаркі — чырвоныя ружы і салодкія прысмакі. Знаёмства і цяснейшая сувязь замацаваліся. Бывала паэтка ў нас на розных імпрэзах. У часе святкавання тысячагоддзя дзяржаўнасці Беларусі ў 1980 годзе яна афіцыйна адкрыла выстаўку, што была наладжана з нагоды свята.

Былі шчаслівыя часіны і тады, калі Наталля Арсеннева са сваёй унучкай Натай ездзілі з намі на летнія канікулы на раку Атаву. Там у лодцы, на неабсяжным прасторы вады «пад сінім небам» цешыліся мы жыццём і светам, чыстым, як званок, паветрам, а на захадзе сонца разам з ім услаўлялі Усявышняга. Там злоснымі хвалямі бушаваў не раз вецер, грозна кідаў з боку на бок лодку. А ў цёмнай глыбіні ракі жыравалі на меншую рыбку шчупакі. А шчупакоў прынадамі на кручок лавілі рыбакі.

Там над ракой Атавай хадзілі мы з паэткай па лясах у грыбы. У тым жа развітальным вершы яна кажа Вінцуку:

Любіў і ты — як я — блукаць па пералесках,
спыніцца ў гушчары, скамечыць мох мяккі,
яшчэ й яшчэ чытаць ад крэскі і да крэскі
балады, што дубы збіралі праз вякі...
.............................................................................
Мой сябра дарагі!
Нялёгкімі гадамі
нам давялося жыць,
відаць, наш кон такі.
Ды мы брылі. Ступой
ішоў і кон із намі,
ды запыніў цябе кіўком рукі.
Стаю... ужо адна...

Ды пакуль гэта сталася, паэтка на працягу 1987 і 1988 года цесна супрацоўнічала з намі ў пабудове Беларускага памятнага крыжа ў канадыйскай Прошчы паўночна-амерыканскіх пакутнікаў у Мідляндзе (Антарыё). Яна была прысутнай 5 верасня 1988 года на асвячэнні Крыжа і апела падзею адзначэння намі тысячагоддзя хрысціянства ў Беларусі вершам.

За год прыйшоў час на першае паломніцтва да Беларускага крыжа. Прыехала з Рочэстэра Наталля Арсеннева, але не стала ўжо ейнага сябры, кіраўніка пабудовы Беларускага крыжа, Вінцука Жук-Грышкевіча. 14 лютага 1989 года «кон запыніў яго кіўком рукі». На гэтым скончылася сяброўства Наталлі з Вінцуком, а ўзмоцнілася яно між Наталляй Арсеневай і мною. Ужо разам з ёю ў паразуменні з айцом Аляксандрам Надсанам ды дырэктарам Прошчы а. Джэймсам Фарэлам, таксама ўжо нябожчыкам, мы зрыхтавалі для Прошчы ў Мідляндзе беларускія малітоўныя карткі. Яна зрэдагавала ў цяперашняй беларускай мове малітву Францішка Скарыны з «Малой падарожнай кніжкі» (Вільня, 1522) і зрабіла пераклад малітвы да паўночна-амерыканскіх пакутнікаў з ангельскай на беларускую мову. Кожны год у чэрвені перад паломніцтвам да Крыжа Наталля Арсеннева прыязджала да мяне ў Бэры на тыдзень рыхтавацца і быць удзельнікам паломніцтва. Прыязджаў праводзіць паломніцтва і айцец Аляксандар Надсан з Лондана, Англіі. Кожнай раніцы ў нашай сталовай перад святымі абразамі Укрыжавання і св. Еўфрасінні Полацкай адпраўляў ён літургію. Тады маліліся мы і за супакой душ св. пам. Францішка Кушаля і Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Ішлі гады. І з года ў год з тым самым энтузіязмам і запалам прыязджала Наталля ў паломніцтвы: другое, трэцяе, чацвёртае, пятае , і здавалася, што так яно будзе заўсёды. Але гэта толькі здавалася. Прыйшоў час, і Наталля кажа: не магу прыехаць. Нешта нездаровіцца. «Нічога, Наталька, — кажу, — на наступны год прыедзеш!» Просіць Наталля перадаць усім прывітанні і шкадаванні, што не можа быць разам з намі. Прыйшоў 1996 год, набліжаецца важнае, 8-е паломніцтва. Важ-

нае тым, што ў часе яго адбудзецца высвячэнне помніка памяці ахвяраў камуністычнага тэрора ў Беларусі. У тэлефанічнай гутарцы гаворым аб гэтым з Наталляй Арсенневай. Ізноў яна кажа — мусіць, не змагу прыехаць... Ізноў яна перадае паломнікам свае прывітанні і шкадаванні, што не можа быць разам з намі. Паломнікі выслалі ёй свае прывітанні на падпісанай усімі паштоўцы Беларускага крыжа. Пасля, калі ў тэлефанічнай гутарцы я расказвала пра паломніцтва, пра тое, што мы яе ўспаміналі, яна мне кажа: «Трэба было табе прачытаць верш «Крыж»...»

Таму я ведала, што ў часе паховінаў паэткі абавязкова трэба было прачытаць ейны верш, запяяць «Магутны Божа», што мы і зрабілі. І веру, што ці то Святы Дух, ці дух Наталлі Арсенневай натхніў святара запрапанаваць мне прачытаць у касцёле верш паэткі, што я з удзячнасцю зрабіла. Таму я і тут цытую ейныя вершы. Ведаю, што яна гэтага жадала б.

Прыйшла зіма і вясна 1997 года. Звоніць унучка паэткі і кажа: «Благая вестка. Баба ўпала, зламала бядро і руку. Цяпер яна ў шпіталі». Падала ўнучка Ната нумар тэлефона, куды можна званіць да бабулі. Падумала я сабе: палом бядра дабра не варожыць. Вінцук на чацвёрты дзень пасля такой прыгоды памёр. Сэрца не вытрывала. Але Наталля Арсеннева мела моцнае сэрца і, як здавалася, жалезнае здароўе. Хутка пасля аперацыі звоніць ізноў унучка і кажа: «Добрая вестка. Баба ўжо магла стаць на свае ногі і зрабіла некалькі крокаў. За тыдзень, лекар казаў, пойдзе дамоў». Званіла я ў шпіталь. Наталля гаварыла пра сваё гора і цяжкасці, але была добрае надзеі. Вярнулася дамоў і памаленьку стала пры дапамозе апірышча хадзіць. А думкі ейныя ўсцяж кружылі вакол з'яўлення ў «Запісах» ейнага перакладу на беларускую мову паэмы Гусоўскага «Песня пра зубра» і выхаду з друку ў Мінску кнігі ейнай паэзіі. Ды, як то бывае, бяда паганяе бяду. Да ўсяго гора паэтка траціць зрок. Шукае ў лекараў дапамогі, а тыя нічога добрага не варожаць. Бядуе мне па тэлефоне, што з вачыма няма паправы. «Няўжо яно так і застанецца, няўжо я зусім аслепну?!.» Ды ўсё не траціць надзеі. І думкі сабе не дапускае, што, можа, гэта прыходзяць ёй канцы... Церпіць болі ў паломах і цемнату ў вачох. «Але фізічныя болі я магу пераносіць, — кажа, — мне найцяжэй з духовымі. Чуюся такая сама і пакінутая прыяцелямі і сябрамі. Здаецца мне, што я адна на ўсім цалюськім свеце. Ніхто не пазвоніць... Што чуваць з Нью-Ёрка?»

— У Нью-Ёрку амаль нікога не засталося, — кажу ёй, — шмат хто з тваіх сяброў і калісьнейшых супрацоўнікаў адышоў ужо на той свет.

Кожны раз, як канчаем гутарку, яна дзякуе, што яе не забываю, і просіць далей не забываць... Званіла я да яе кожную суботу, а пасля і часцей.

Прыходзяць лісты з Беларусі, не можа на іх даць адказу. Просіць мяне напісаць зацемку ў «Беларусе» пра ейную трагічную сітуацыю.

Зацемка мела водгук. Галена Скурат з Канады піша цёплы ліст да мяне і да паэткі, запэўняе яе аб нашай да яе пашане і любові.

У цёплыя сонечныя дні захапляецца Наталля: «У нас сёння такі цудоўны дзень! На душы лягчэй, толькі вось нічога не бачу. Бачу толькі зарысы стала, крэсла, і што нехта стаіць. Болей нічога. Па галаве ходзяць усцяж фразы, рыфмы... Пісала б, каб бачыла...» Пазней стала наракаць на вялікае аслабленне і што нічога есці не можа.

Ізноў візіта ў лекара, ізноў даследаванні, ізноў благая навіна. 25 чэрвеня лекары зрабілі дыягназ рака, які ўжо разышоўся па целе. Засталося два-тры месяцы жыцця, кажуць.

«Што рабіць?! — пытаецца Наталля ў мяне. — Засталося мне толькі тры месяцы жыцця!» Кажу ёй: «Дзякуй Богу за такое даўгое і творчае жыццё. Ты пакінеш па сабе не абы-які след. Усё тое, што ты напісала, застанецца назаўсёды. Цешся і дзякуй Богу за гэта!» Яна прызнае, што пражыла амаль 95 год, але гэта ніякае для яе [не] апраўданне, што за тры месяцы павінна памерці. Не, хоць цела слабее, ды дух дамагаецца жыцця!

Цяпер я старалася тэлефанаваць да яе часцей. Паэтка стала моцна слабець і гутарыць ёй зрабілася цяжка. Пазваніла я неяк, тэлефон узяў сын. Пытаю, ці магу гаварыць з ягонай мамай. Кажа: «На жаль, не, мама надта слабая. Не зможа ўстаць, падысці да тэлефона».

«Перадайце ёй, калі ласка, ад мяне прывітанні і маю да яе любоў», — кажу.

«Пачакайце!», — кажа Уладзімір. Па нейкім часе, калі ўдалося ім там перанесці тэлефон да ложка, слабенькім голасам адазвалася Наталля. З цяжкасцяй вымаўляла слова за словам. «Не забывай!..» — былі яе апошнія словы, ейная апошняя просьба...

«Цябе, Наталька, я моцна-моцна люблю і ніколі, ніколі цябе не забуду», — былі мае апошнія словы да яе жывой. Я ведала, што гэтым я абяцала ёй прыехаць на паховіны. Хто ведае, мо яна пра гэта і прасіла?.. Пазваніла я праз дзень ці два. Сын сказаў, што мама ў шпіталі, у коме — непрытомная. А ў пятніцу, 25 ліпеня, роўна праз месяц пасля злавеснага дыягназу, пазваніў Уладзімір, што ў 5 гадзін раніцы памерла мама. Вечны ёй супакой!

Абяцала я спадару Кушалю паведаміць беларускае грамадства Канады і перадаць вестку ў ЗША. Пазваніла ў Лондан, у Англію, айцу А. Надсану, які адслужыў паніхіду. Замовіла кветкі ад Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады, а тым самым і ад сябе, і на другі дзень, у суботу, выехала ў Таронта, а стуль у нядзелю зранічкі накіравалася аўтобусам у Рочэстэр. А другой гадзіне дня была я ўжо ў пахавальным доме, дзе між кветак у дамавіне спачывала цела нашае слаўнае паэткі — Наталлі Арсенневай. На твары яе быў супакой і дастойнасць. Над целам яе прачытала я паніхіду (пераклада на беларускую мову а. А. Над-

сана). Гэтак калісь дома ў Пружанах, у Беларусі, суседзі збіраліся чытаць бесперапынна над целам нябожчыка малітвы. Малілася я за яе і дзякавала Богу, што дазволіў мне ў гэты апошні час быць з ёю — нашай паэткай Наталляй Арсенневай. І было ў мяне такое адчуванне, што моцны дух Наталлі з намі, кіруе намі і кажа нам: «Цяпер, пазбыўшыся знішчанага жыццём і хваробай цела, я вольная і мацнейшая, як калі!»

*Бэры, 1997 г.*

## НІЗКА ДУМАК З ЮБІЛЕЙНАГА ВЯНКА

Пры нагодзе залатога юбілею літаратурнай дзейнасці Наталлі Арсенневай на адрас Беларускага інстытута навукі й мастацтва надышло колькідзесяць прывітальных лістоў і тэлеграм. У іх, побач самых прывітанняў і пажаданняў, адлюстроўваецца і літаратурна-мастацкае ды нацыянальна-грамадскае асэнсаванне пісьменнікамі, рэлігійнымі і грамадскімі дзеячамі гістарычнай ролі і значэння творчасці паэткі-юбіляркі. Ніжэй прыводзім некаторыя з іх:

**Юрка Віцьбіч** (ЗША): «У сваім асабістым годным пераймання жыцці, Вы як чалавек зазналі шмат цяжкіх выпрабаванняў, але толькі загартаваліся ў іх, і як пяснярка-змагар сталіся не да параўнання з тымі песнярамі, што апынуліся ля манастырскіх брамаў, шукаючы цішы і спагады...»

**Кастусь Акула** (Канада): «Ваш выдатны юбілей... свята ўсяго беларускага народа... Вашыя творы гучалі на сцэнах тэатраў, з Вашымі словамі беларускі жаўнер ішоў у бой, беларускі юнак — на працу і навуку. Вашымі словамі нашыя вольныя святыні і сяння хваляць Усявышняга, просячы ягоных вялікіх ласкаў. Ваш шчодры талент і руплівая праца адчынілі перад намі ці адны дзверы ў свет мастацкай паэзіі і навучылі бачыць новыя гарызонты мастацкага хараства, зглыбіць чалавечую душу і пазнаць наш духам вялікі і таленавіты народ...»

**Масей Сяднёў** і **Рыгор Крушына** (Германія): «Бацькаўшчына ўракла цябе, і ты прынесла ёй найвялікшы дар — сваё таленавітае, натхнёнае, ветлае слова. Гэтае слова Тваё будзе жыць, пакуль будуць жыць «насельнікі зямлі вячыстай...»

**Уладзімір Глыбінны** (ЗША): «Вы — жывы прыклад жыцця, пражытага не дарма, а на спажытак іншым, а праз гэта і сабе на большую ўцеху. Багдановічаў мастацкі запавет у Вашай асобе здабыў сабе надзейнага спадкаемцу. Мы ўсе ганарымся Вамі і Вашымі творамі».

**Янка Садоўскі** і **Аляксей Грыцук** (Канада): «Нашае найвышэйшае прызнанне высокаму ўзроўню Вашае творчасці, у якой, як у вянку, прыгожа ўплеценыя поруч ідэі служэння Красе, Людству і Бацькаўшчыне...»

Уладыка **Андрэй**, архіепіскап БАПЦ (ЗША): «Паўстагоддзе Вашай літаратурнай творчасці дало беларускаму народу вялікі скарб, які не толькі існуе, але і плённа працуе на славу Божую праз Вашыя рэлігійныя гімны, якія спяваюцца ў царкве на дабро і спасенне душ нашых вернікаў».

**Аўген Смаршчок**, протаіерэй БАПЦ (Бельгія): «Вітаем у Вас не толькі аўтарку глыбокапабожных слоў малітвы «Магутны Божа», але і волата пяра, якім Вы, як мячом Багдановіча, «білі ў сэрцы» слабавольных і несвядомых... Вашы вершы... былі і застаюцца гордасцю беларускай паэзіі як перад сваімі, так і перад чужымі».

Архімандрыт **Леў Гарошка** (Італія): «Вы знайшлі багатую красу пад сінім небам Беларусі, далі бадзёрыя песні беларускім жаўнерам, уславілі Магутнага Бога прыгожымі гімнамі і настроілі беларускую ліру на сучасны лад... Шмат прыгожага і магутнага Вы ўнеслі ў беларускую паэзію... Веру, што і далей Ваша творчая іскра будзе ясна ззяць на літаратурнай ніве...»

Старшыня Рады БНР, др. **Вінцэнт Жук-Грышкевіч**, школьны сябра юбіляркі (Канада): «У самыя цяжкія дні яна давала нам духовае падтрыманне і пацеху сваёй паэзіяй. Абдарала нас сваім натхненнем і верай у тое, што жыве Беларусь: клікала нас да змагання за Беларусь.

Ці ж можна забыцца на такія перлы паэзіі, як «Магутны Божа», «Пясняр», «Сталёвы звяз», «Жыве Беларусь» і шмат, шмат іншых?..

Зярняты ідэй свабоды, праўды, хараства і справядлівасці, засееныя ў ейнай душы 50 год таму ў Базыльянскіх мурах у Вільні такімі сейбітамі, як Максім Гарэцкі і Антон Луцкевіч, далі незвычайны і багаты ўмалот. Ганарацца і цешацца ім усе гадунцы Віленскай беларускай гімназіі, усё беларускае грамадства, уся Беларусь...»

Др. **Язэп Сажыч**, камандзір беларускіх ветэранаў на чужыне (ЗША): «Дазвольце ад імя беларускіх ветэранаў выказаць нашу глыбокую ўдзячнасць за Вашу творчасць для беларускіх вайскавікоў і змагароў у форме малітваў, патрыятычных і вайсковых песень, якія нас узмацавалі і надалей падтрымоўваюць на духу, бо карыстаемся імі і да сяння».

**Мікола Нікан** (Аўстралія): «Магутны Божа — які так часта слухаем, спяваем, які ўжо нам увайшоў у кроў — хай Вас узнагародзіць і дазволіць словам Вашым — праўдай стацца!»

**Мікола Скабей**, старшыня Беларускага цэнтральнага камітэта ў штаце Вікторыя (Аўстралія): «Творчасць Ваша наогул, а «Магутны Божа», які стаўся рэлігійным гімнам праваслаўных беларусаў у асаблівасці, робіць Вас заўсёды прысутнай сярод нас, нашай блізкай».

*Падрыхтавала Раіса Жук-Грышкевіч*

# КАМЕНТАР

У аднатомнік Наталлі Арсенневай увайшлі ўсе яе найбольш значныя творы розных жанраў — вершы, паэмы, драматургічныя творы, успаміны, эпісталярная спадчына, а таксама пераклад «Песні пра зубра» М. Гусоўскага.

Пераважная частка вершаў друкуецца паводле зборнікаў паэзіі Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам» (Вільня, 1927), «Сягоньня» (Менск, 1944), «Між берагамі» (Нью-Ёрк—Таронта, 1979). Некаторыя вершы надрукаваны ў гэтых выданнях упершыню. Творы, якія не ўваходзілі ў гэтыя кнігі, тлумачацца ў каментары асобна. Датуюцца паводле прыжыццёвых выданняў. У выпадку разыходжанняў за асноўныя ўзяты даты са зб. «Між берагамі».

Тэксты твораў друкуюцца згодна з правіламі сучаснай арфаграфіі і пунктуацыі з захаваннем асаблівасцяў аўтарскай мовы.

Укладальніца выказвае падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы выдання Р. Жук-Грышкевіч, В. Кіпелю, Я. Запрудніку, Л. Юрэвічу.

## ВЕРШЫ

### *Мой родны край (с. 27)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1920, 28 кастрыч. Пазней не перадрукоўваўся. Першы надрукаваны твор Н. Арсенневай.

[1] *Аджыкент* — мясцовасць у ваколіцах Баку.

### *Летуценні (с. 28)*

Упершыню — час. «Маладое жыццё», 1921, № 2.

[1] Эпіграф узяты з верша Я. Купалы «Я ад вас далёка» (1910).

### *Восень («Хай жаўцее...») (с. 29)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1920, 12 лістап.

*«Светлы дзень дагарае над сумнай зямлёю...» (с. 30)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 14 студз.

*Ціха плыў месяц (с. 31)*

Упершыню — час. «Маладое жыццё», 1922, № 3.
Верш падпісаны крыптанімам *Н. А.*

*Люблю я сонца залатое (с. 33)*

Упершыню — час. «Родныя гоні», 1921, кн. 1.

*Крыніца (с. 34)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 4 сак.

*Калі людзі пакрыўдзяць цябе (с. 35)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1920, 6 снеж.

*Ночы й думкі (с. 37)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 11 сак.

*Вясна («З кажнай хмаркі ў небе празрыстым...») (с. 37)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 18 сак.

*Пралескі (с. 38)*

Упершыню — час. «Наш шлях», 1922, № 2—3.

*Восень («Як не любіць мне восень залатую...») (с. 40)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 8 верас.

*Сыплюцца з клёнаў лісты (с. 41)*

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 8 верас.

*На матыў хаўтурнага маршу (с. 41)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1920, 16 лістап.

*Недасяжнае (с. 42)*

Упершыню — зб. «Дэкламатар», Вільня, 1921; пад назвай «Мая душа аж да краёў паўна...».

*У лесе (с. 43)*

Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, № 2.

Верш прысвечаны Ф. Кушалю, мужу паэткі. Кушаль Францішак (1895—1969) — палітычны і вайсковы дзеяч. Сябра Беларускай вайс-

ковай камісіі (1919—1921). Начальнік падафіцэрскай школы ў акупаваным Менску (1941), сябра БЦР, кіраўнік Беларускай краёвай абароны. З 1944 г. — у эміграцыі, удзельнічаў у стварэнні брыгады «Беларусь» (Нямеччына, 1944), заснавальнік Аб'яднання беларускіх ветэранаў (1947). Узначальваў Беларуска-Амерыканскае задзіночанне (1952—1954). Выступаў у друку як ваенны гісторык.

### *Песня («Па вузкіх палосках...») (с. 43)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 7 студз.

### *«Я ішла...» (с. 45)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 1920, 24 снеж.

### *Зачараваны кут (с. 47)*

Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, № 1.

### *Балотніца (с. 49)*

Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, № 1.

### *Лясун (с. 52)*

Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, № 1; пад назвай «Плач старога лесуна».

### *Красавік (с. 53)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 22 крас.

Верш прысвечаны Максіму Гарэцкаму (1893—1938), беларускаму пісьменніку, выкладчыку Віленскай беларускай гімназіі, дзе ў 1920—1921 гг. вучылася Н. Арсеннева.

### *Увечары (с. 55)*

Упершыню — час. «Наш шлях», 1922, № 2—3.

### *«У небе палаюць чырвоныя хмары...» (с. 56)*

Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1921, № 1.

### *Шэпты ночы (с. 57)*

Упершыню — час. «Маладое жыццё», 1922, № 2.

Верш падпісаны крыптанімам *Н. А.*

### *Няўжо (с. 57)*

Упершыню — час. «Маладое жыццё», 1922, № 2.

Верш падпісаны крыптанімам *Н. А.*

*Лес шумеў (с. 58)*

Упершыню — зб. «Выпісы з беларускай літаратуры». Мн., 1923.

*Мэта жыцця (с. 58)*

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 21 ліп.

*Памяці Ядвігіна Ш (с. 59)*

Упершыню — час. «Наш шлях», 1922, № 1.

Гэтым вершам Н. Арсеннева адгукнулася на смерць беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш. (1869—1922).

*Каб крылы... (с. 60)*

[1] *Хэлмна* (Хэлм) — горад у Польшчы, адміністрацыйны цэнтр Хэлмскага ваяводства.

*Шчасце (с. 61)*

Упершыню — час. «Студэнцкая думка», 1925, № 1.

*Вяселле (с. 62)*

Упершыню — зб. «Выпісы з беларускае літаратуры». Мн., 1923.

*Калыханка (с. 64)*

Верш пакладзены на музыку кампазітарам Эльзай Зубковіч.

*Родны край (с. 65)*

Упершыню — газ. «Каляда», 1924, 24 снеж.

У зб. «Пад сінім небам» — пад назвай «Край».

*Вячорны абразок (с. 67)*

Упершыню — газ. «Каляда», 1924, 24 снеж.

*Вячорнаю парою (с. 69)*

Упершыню — час. «Родныя гоні», 1927, кн. 1; пад назвай «Вечар неба фарбуе ў гарачыя тоны...».

*«Сонца вяснянае ў золаце косаў...» (с. 70)*

Упершыню — газ. «Звязда», 1927, 21 жн.; пад назвай «Вершы мае».

*На сенажаці (с. 71)*

[1] *Доры* — вёска ў Валожынскім раёне, дзе часта бывала Н. Арсеннева ў бацькоў мужа.

*Васількі (с. 71)*

Упершыню — газ. «Каляда», 1924, 24 снеж.

*Вясною (с. 73)*

Упершыню — газ. «Каляда», 1924, 24 снеж.

*Ішла вясна (с. 75)*

Упершыню — час. «Родныя гоні», 1927, кн. 4.

*На парозе (с. 75)*

Упершыню — газ. «Калядны звон», 1926, 28 снеж.

*Першы снег (с. 76)*

Упершыню — час. «Нёман», 1932, № 1 (беларускі часопіс, выходзіў у Вільні, рэдактар П. Сергіевіч).

*Вячорная містэрыя (с. 78)*

Упершыню — «Беларускі народны каляндар». Вільня, 1929.

*Зімовая ноч (с. 80)*

Упершыню — час. «Нёман», 1932, № 1.

*Завея (с. 81)*

Упершыню — час. «Калосcе», 1935, кн. 1.

*Новая зіма (с. 82)*

Упершыню — час. «Калосcе», 1935, кн. 1.

*Вечар («Вецер вячорны на клёнах...») (с. 83)*

Упершыню — час. «Нёман», 1932, № 4.

*Ноч («Згас у хмарах заход прамяністы...») (с. 84)*

Упершыню — «Беларускі народны каляндар». Вільня, 1929.

*Вясёлка (с. 86)*

Упершыню — час. «Родныя гоні», 1927, кн. 5.

*У задушкі (с. 86)*

Упершыню — час. «Калосcе», 1935, кн. 4.

[1] *Задушкі*, або Задушны дзень — згодна з каталіцкім календаром дзень памяці памерлых, прыпадаў на 2 лістап.

*Зімою (с. 89)*

Упершыню — час. «Калосcе», 1937, кн. 1.

*Часіны творчасці (с. 90)*

[1] *Равіч* — горад у Польшчы, дзе служыў Ф. Кушаль і дзе пэўны час жыла Н. Арсеннева.

*Асенні вечар (с. 91)*

Упершыню — час. «Шлях моладзі», 1937, № 14.

*Асенняя элегія (с. 92)*

Упершыню — час. «Калоссе», 1937, кн. 4.

*Восень у гаі (с. 94)*

Упершыню — зб. «Рунь веснаходу». Вільня, 1928.

*Ночныя гадзіны (с. 95)*

[1] *Штафета* — эстафета.

*Вугорскія скрыпкі (с. 96)*

Упершыню — час. «Калоссе», 1937, кн. 3.

*Напрадвесні (с. 98)*

Упершыню — час. «Калоссе», 1936, кн. 2.

*Ноч («Ад зораў — аж бела...») (с. 98)*

Упершыню — час. «Калоссе», 1936, кн. 3.

*Ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве (с. 99)*

Упершыню — час. «Калоссе», 1937, кн. 1.

*Паэт (с. 100)*

Упершыню — час. «Калоссе», 1937, кн. 1.

*Маладым паэтам (с. 101)*

Упершыню — час. «Беларускі летапіс», 1936, № 1.

*Палеглым (с. 103)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1942, № 6; пад назвай «Паўшым».

*У сонечны дзень (с. 106)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 3 траўня..

*Не хочацца (с. 109)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 28 кастрыч.

### *Не заплачу болей (с. 113)*

[1] *Прала пачась...* Пачась (пачаскі) — рэшткі пры часанні лёну, канапель, пянькова пачась.

### *Краіне (с. 117)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 5 лют.

### *Ярылаў конь (с. 121)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 8 ліп.

[1] *Ярыла* — у славянскай язычніцкай міфалогіі бог вясновай урадлівасці.

### *Зоры Сітца (с. 122)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 11 кастрыч.

[1] Эпіграф узяты з верша А. С. Пушкіна «Паэт» (1827).

### *Хто ён, паэт? (с. 124)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 10 чэрв.

[1] *Рафаэль* Санці (1483—1520) — італьянскі жывапісец і архітэктар.

### *З выраю (с. 126)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1944, № 1—2.

### *Восеньскія чары (с. 127)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 10 снеж.

### *Кроплі золата восень губляе (с. 128)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 25 снеж.

### *Вось толькі выпішуся трохі (с. 129)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 29 лістап.

### *Песня каліноўцаў (с. 130)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 22 сак.
Верш пакладзены на музыку М. Куліковічам-Шчагловым.

### *Ткалля (с. 131)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 17 траўня.

### *Сталёвы звяз (с. 133)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 14 траўня.

### *Пустацветы (с. 134)*

[1] *Гіпакрат* (каля 460 — каля 370 да н. э.) — старажытнагрэцкі лекар, рэфарматар антычнай медыцыны.

### *Вы хочаце (с. 135)*

Упершыню — час. «Новы шлях», 1944, № 5.

### *А ўсё ж будзем жыць (с. 136)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 17 снеж.

### *Жыве Беларусь! (с. 137)*

Упершыню — час. «Беларускі работнік», 1944, № 34.

### *У дажынкі (с. 138)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 3 кастрыч.

### *Пакуль жыцця (с. 141)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1943, 20 лют.

### *Досыць (с. 142)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 3 траўня.

### *Слоў не трэба шукаць (с. 143)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 27 жн.
[1] *Вега* — адна з самых яркіх зорак Паўночнага паўшар'я.
[2] *Стралец* — задыякальнае сузор'е.

### *Годзе! (с. 144)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 23 снеж.

### *Салаўі (с. 145)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 4 ліп.

### *Туга (с. 146)*

Верш пакладзены на музыку кампазітарам М. Куліковічам-Шчагловым.

### *Элегія (с. 147)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 17 кастрыч.

### *Сутункі (с. 148)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 23 снеж.

### *Песня (с. 150)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 3 верас.

[1] *Забэйда-Суміцкі* Міхал (1900—1981) — беларускі оперны спявак (лірычны тэнар, адзін з яркіх прадстаўнікоў еўрапейскай вакальнай школы), спяваў у Харбінскай оперы, удасканальваўся ў Мілане, саліст Пазнанскай оперы, з 1937 г. — Варшаўскага радыё, з 1940 г. — Народнага тэатра ў Празе. Спяваў беларускія народныя песні, творы беларускіх кампазітараў. У 1963 г. наведаў Беларусь. Апошнія гады жыў у Празе, дзе і пахаваны на Альшанскіх могілках.

### *Мяцеліца (с. 151)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 20 снеж.

[1] *Каляды* — народнае зімовае свята, працягвалася з 24 снежня да 6 студзеня (ст. ст.).

### *Вечар у Вільні (с. 152)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 15 кастрыч.

[1] *Пярун* — галоўны бог язычніцкага пантэона, бог грому, навальніцы.

### *Абсяванае (с. 153)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 12 ліп.

### *Устань, пясняр (с. 154)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1942, 24 траўня.

Верш напісаны на 25-я ўгодкі смерці Максіма Багдановіча (1891—1917).

### *Харaство (с. 155)*

[1] *Пятрарка* Франчэска (1304—1374) — італьянскі паэт, заснавальнік італьянскай нацыянальнай паэзіі.

### *З камарынай песняй (с. 157)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1943, 12 чэрв.

### *Нашым паэтам (с. 158)*

[1] *Гамер* — старажытнагрэцкі эпічны паэт.

[2] *Шарль* Бадлер (1821—1867) — французскі паэт, папярэднік французскага сімвалізму.

### *Лятуць лісты (с. 160)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1943, 3 лістап.

### *Чаго тужыць (с. 162)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1943, 8 верас.; пад назвай «Пашто тужыць» з прысвячэннем Л. Геніюш.

[1] Эпіграф узяты з верша Л. Геніюш «Над Зальвянкай» (1943).

### *Прысяга (с. 165)*

Упершыню — час. «Моладзь», 1949, № 7.

Верш пакладзены на музыку М. Куліковічам-Шчагловым (вядомы і пад назвай «Беларусь, наша Маці-Краіна»).

### *Велікодным раннем (с. 166)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1943, 24 крас.

[1] *Ікар* — у грэцкай міфалогіі сын архітэктара Дзедала, разам з якім на крылах з пёраў, змацаваных воскам, падняўся ў неба і пераляцеў з вострава Крыт на пабярэжжа Малой Азіі, потым у Сіцылію.

### *Мы — моладзь (с. 168)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1943, 22 чэрв.

### *Малітва (с. 171)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1943, 6 кастрыч.

Верш пакладзены на музыку кампазітарам М. Равенскім (1886—1953). Беларуская рэлігійная місія ў Парыжы апублікавала «Малітву» з нотамі асобным выданнем.

### *Студзень (с. 173)*

Упершыню — час. «Шыпшына», 1946, № 1.

[1] *Троя* — старажытны горад на Паўночным Захадзе Малой Азіі, вядомы з грэцкага эпаса.

[2] *Раланд* (?—778) — удзельнік паходу Карла Вялікага ў Іспанію ў 778 г., загінуў у бітве з баскамі ў Рансельванскай даліне. Герой французскага гераічнага эпасу «Песня пра Раланда».

### *О, родны край! (с. 174)*

Упершыню — час. «Шлях жыцця», 1946, № 6.

### *Смела, наперад (с. 176)*

[1] *Амазонкі* — у грэцкай міфалогіі жанчыны-ваяры.

### *Імкнуць дні (с. 181)*

[1] *Форст* — горад у Германіі на рацэ Нейсе.

### *Не (с. 181)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1944, № 48.

[1] *Пегас* — у грэцкай міфалогіі крылаты конь, які стаў сімвалам паэтычнага натхнення.

### *Не плачце (с. 183)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1944, № 49.

### *Звініць мядзянымі званамі (с. 185)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1944, № 40.

### *Без песні жураўлінай (с. 186)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1944, № 42.

### *Уночы (с. 187)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1944, № 39.

### *Сустрэча (с. 188)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1944, № 41.

[1] *Ост* — работнікі з Усходу ў гітлераўскай Германіі, насілі нашыўкі на рукаве з надпісам «Ost», сярод іх было шмат беларусаў.

### *Бацькаўшчыне (с. 189)*

Упершыню — час. «Беларускі работнік», 1944, № 43.

### *Прыйдзе час (с. 189)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1954, № 24.

### *Уцекачы (с. 190)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1944, № 43.

### *Сівой вярбой (с. 192)*

Упершыню — час. «Шыпшына», 1946, № 1.

### *Здагонім сонца (с. 192)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1944, № 52.

### *Хоць даводзіцца сяння плакаць... (с. 195)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1954, № 8—9.

### *Лепш піць да дна (с. 197)*

[1] *Ваал* — адзін з галоўных багоў у рэлігіі Фінікіі, Старажытнай Сірыі і Палесціны ў II—I тысячагоддзях да н. э.

### *О, шыпшына мая, Беларусь! (с. 201)*

Упершыню — час. «Крывіцкі светач», 1946, № 9—10.

[1] *Scherzo* — музычная п'еса ў хуткім тэмпе з вольнай зменай музыкі.

### *Такі наш Кон (с. 202)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1954, № 15—16.

### *Пачакай (с. 205)*

Упершыню — газ. «Раніца», 1945, № 8.

### *Ноч («Трасецца свет ад гуду танкаў...») (с. 206)*

[1] *Вечны Жыд* (Агасфер) — герой сярэднявечных сказаў, яўрэй-вандроўнік, асуджаны Богам на вечнае жыццё і вандраванне за тое, што не даў Хрысту адпачыць (па іншых версіях, ударыў яго) па дарозе на Галгофу.

[2] *Амберг* — горад у Заходняй Германіі.

### *Буду сяння (с. 207)*

Упершыню — час. «Сакавік», 1947, № 1.

### *Снежань (с. 208)*

Упершыню — час. «Зніч», 1951, № 16.

[1] *Рэгенсбург* — горад у Заходняй Германіі на рацэ Рэген.

### *І сніцца мне (с. 209)*

Упершыню — час. «Звіняць званы святой Сафіі», 1946, № 3.

### *Лявоніха (с. 210)*

[1] *«Лявоніха»* — беларускі народны танец.

### *Калумб (с. 211)*

[1] *Калумб* Хрыстафор (1451—1506) — іспанскі мараплаўнік, кіраваў марской экспедыцыяй у пошуку кароткага марскога шляху ў Індыю, перасек Атлантычны акіян і ў 1492 г. высадзіўся на востраве Сан-Сальвадор (афіцыйная дата адкрыцця Амерыкі).

### *Маці (с. 213)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1948, № 16, травень.

### *Ён дайшоў (с. 213)*

Упершыню — час. «Шыпшына», 1946, № 2.

### *Слава (с. 215)*

Упершыню — час. «Наперад», 1948, № 12.

### *У гасподзе падуанскай (с. 217)*

Упершыню — час. «Медычная думка», 1946, № 1.

[1] *Падуя* — горад у Паўночнай Італіі, славіўся сваім універсітэтам, дзе вучыўся Ф. Скарына, які абараніў там вучоную ступень доктара лекарскіх навук (1512).

[2] *Палата* — прыток Заходняй Дзвіны.

### *Восеньскае (с. 218)*

[1] *Міхельсдорф* — горад у Германіі.

### *Скрозь золата (с. 221)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1948, № 6.

### *Лістапад (с. 222)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1948, № 46—47.

### *Мы ішлі... (с. 223)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1947, 27 лістап.; пад назвай «На Слуцкія ўгодкі».

### *Моладзі (с. 224)*

Упершыню — час. «У выраі», 1947, № 1.

[1] *Матурысты* — выпускнікі гімназіі, якія атрымалі пасведчанні (матуру).

[2] Беларуская гімназія імя Я. Купалы дзейнічала ў 1945—1950 гг. у Заходняй Германіі (спачатку ў Рэгенсбургу, затым у Міхельсдорфе, з чэрвеня 1949 г. — у Бакнангу).

### *Зняважаным сцягом (с. 228)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1948, № 19, 5 чэрв.

### *Вер! (с. 229)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1948, 2 траўня.

### *25-ты Сакавік (с. 230)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1950, 25 сак.

Верш пакладзены на музыку кампазітарам М. Куліковічам-Шчагловым.

[1] 25 сакавіка — дата абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 г.

### *Развітанне (с. 231)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 11—12.

20 Зак. 634

### *Над паўстанцкаю магілаю (с. 232)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1952, № 16.
[1] *Дзяды* — свята памінання продкаў.

### *А бераг далёка (с. 234)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 11—12.

### *Каб сэрцы вікінгаў мы мелі (с. 236)*

[1] *Вікінгі*, або варагі — скандынаўскія воіны, якія з рабаўнічымі мэтамі нападалі на ўсходнеславянскія і іншыя краіны.
[2] *Грамніцы*, або Стрэчанне — зімовае свята народнага календара.

### *У мурох (с. 239)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 11—12.

### *Ізноў восень (с. 241)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 15—16.

### *Спякота (с. 242)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 11—12.

### *Каб мой гнеў (с. 243)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 15—16.

### *Гары, заход! (с. 247)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 21.

### *Мой скарб (с. 247)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 21.
[1] *Тамаш Няверны* — апостал Фама з ліку 12 апосталаў, які не быў пры ўваскрасенні Хрыста, не паверыў у гэты цуд.

### *Няма калі (с. 248)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 21.

### *Залатое (с. 249)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 21.

### *Над морам (с. 250)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 21.
[1] *Адысей* — у грэцкай міфалогіі цар Ітакі, герой паэмы Гамера «Адысея».

[2] *Калхіда* — старажытнагрэцкая назва Заходняй Грузіі.

### *Меставы вечар (с. 251)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 21.

### *Гадзіннік (с. 251)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1952, № 25—26.

### *Імкні, паэт! (с. 260)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1954, № 4—5.

### *Каб паэты маглі (с. 261)*

[1] *Арфей* — у грэцкай міфалогіі спявак, сын музы Каліёпы, які спевамі зачароўваў людзей.

### *Вясна («Ячменным асцюком у вочы коле дзень...») (с. 263)*

Упершыню — час. «Конадні», 1954, № 1.

[1] *Пакровы* — старажытнае земляробчае свята беларусаў, адзначалася 1 кастрычніка (ст. ст.) як свята заканчэння палявых работ.

### *Лета (с. 264)*

Упершыню — час. «Конадні», 1954, № 2.

[1] *Ілля* — у народным календары свята ў гонар біблейскага прарока Іллі (20 ліпеня паводле ст. ст.) азначала канец лета.

### *Магнолія (с. 266)*

Упершыню — час. «Конадні», 1954, № 1.

## *Брамы*

[1] *Сяднёў* Масей (1915—2001) — беларускі пісьменнік, з 1944 г. жыў у эміграцыі.

### *Няёмка мне (с. 267)*

Упершыню — час. «Конадні», 1955, № 3.

### *Альфа й амега (с. 269)*

[1] *Альфа і амега* — літары грэцкага алфавіта; у пераносным сэнсе — пачатак і канец, аснова, сутнасць.

### *Прошча (с. 272)*

[1] *Прошча* — месца (крыніца, возера, камень і г. д.), надзеленае, паводле ўяўленняў вернікаў, надзвычайнымі сіламі і ўласцівасцямі.

[2] Вострая брама ў Вільні раней называлася Медніцкай. Да брамы з боку горада ў канцы XVIII ст. дабудавалі капліцу, дзе знаходзіцца

абраз цудатворнай Божай Маці, звонку над брамай — выява герба Вялікага Княства Літоўскага Пагоня.

## З цыкла «Прывіды»

### Заміж прадмовы (с. 273)

Цыкл вершаў упершыню — час. «Конадні», 1955, № 4.

[1] *«Мне бацькаўшчынай цэлы свет...»* — эпіграф узяты з верша Я. Купалы «...О так! Я — пралетар!..» (1924).

### Завулак (с. 274)

[1] *Роса* — адно з прадмесцяў Вільні, дзе ёсць завулак Роса, а таксама могілкі Роса.

### Дамок (с. 274)

[1] *Пакагонта* — магчыма, персанаж індзейскай міфалогіі.

[2] *Панары* — гарыстая мясцовасць у ваколіцах Вільні.

### Увесну (с. 275)

[1] *Чысты чацвер* — паводле праваслаўнага календара адзначаецца за тры дні да Вялікадня.

### Готык (с. 276)

[1] *Садом і Гамора* — паводле Бібліі, два гарады, жыхары якіх вялі распуснае жыццё і за гэта былі спалены агнём, пасланым з нябёсаў. З агню Бог вывеў толькі праведнага Лота з сям'ёй.

[2] *Святая Ганна* — касцёл св. Ганны ў Вільні.

### А мне сніцца (с. 277)

[1] *Дактыль* — трохскладовая стапа з націскам на першым складзе ў сілаба-танічным вершаскладанні.

[2] *Анапест* — трохскладовая стапа з націскам на трэцім складзе ў сілаба-танічным вершаскладанні.

[3] *«Мы выйдзем...»* — словы з верша Макара Краўцова (1890—1939) «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», які быў пакладзены на музыку У. Тэраўскім і стаў папулярнай песняй у Заходняй Беларусі.

[4] *Менск... Высокае места...* — Верхні горад у Мінску — сучасная плошча Свабоды (узнік у XVI ст. на месцы Кузьмадзям'янаўскай гары, на суседнім з Нямігай узвышшы).

### Вы пайшлі паміраць (с. 277)

[1] *Лань* — рака ў Мінскай вобласці.

### *Сыны й маці (с. 279)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1957, 24 лістап.

### *Каласы (с. 282)*

[1] *Варава* — паводле Бібліі, разбойнік, які адбываў пакаранне за забойства ў вязніцы. У час суда над Ісусам Хрыстом народ, навучаны ворагамі Хрыста, стаў крычаць і патрабаваць, каб Пілат вызваліў не Ісуса, а разбойніка Вараву.

[2] *Понтый Пілат* — пракуратар Іудзеі (прызначаны ў 293 г.). Чыніў жорсткія суды ў Іерусаліме. Паводле яго загаду быў укрыжаваны Ісус Хрыстос.

[3] *Гальгота*, Галгофа — гара паблізу Іерусаліма, дзе згодна з хрысціянскім веравучэннем быў распяты Ісус Хрыстос. Узысці на Галгофу — прыняць пакуты.

[4] *Равуні*, раві — так звярталіся іудзеі да сваіх настаўнікаў.

### *І была там вясна (с. 283)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1958, № 14—15; пад назвай «Вялікдзень».

[1] *Магдалена* — Марыя Магдалена вяла грэшнае жыццё, пакутавала ад цяжкай хваробы. Ісус Хрыстос вылечыў яе, і яна стала яго вернай вучаніцай, якая змяніла грэшнае жыццё на праведнае. Адна з раўнаапостальных жанчын-міраносіц.

### *Тваё імя (с. 285)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1958, № 11—13.

[1] Эпіграф узяты з верша М. Багдановіча «Пагоня».

[2] *Гудзон* — рака ў ЗША. Упадае ў Атлантычны акіян, у яе вусці месціцца г. Нью-Йорк.

### *У гушчарах (с. 286)*

Верш пакладзены на музыку М. Куліковічам-Шчагловым.

### *Ты не адна (с. 288)*

[1] *Монтэ-Касына* — гара на адлегласці 80 км ад Неапаля, паблізу якой у 1944 г. адбылася бітва паміж арміяй вермахта і войскамі хаўруснікаў па Антыгітлераўскай кааліцыі.

[2] *Катынь* — лясны масіў у 30 км ад Смаленска, дзе паводле рашэння ЦК ВКП(б) ад 5.03.1940 г. органамі НКУС у красавіку–траўні 1940 г. расстраляны каля 4,4 тыс. польскіх афіцэраў.

[3] *...нязможныя пад Воршай...* — маецца на ўвазе бітва пад Оршай у 1514 г., у выніку якой 40-тысячнае войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з Канстанцінам Астрожскім разграміла ўдвая большае войска Маскоўскай дзяржавы.

[4] *...мячы Грунвальда...* — маецца на ўвазе Грунвальдская бітва 1410 г. паміж аб'яднаным войскам Польскага Каралеўства і ВКЛ з аднаго боку і прафесійным войскам наймагутнейшай у тагачаснай Еўропе мілітарысцкай дзяржавы — Тэўтонскага ордэна. Адбылася 15.07.1410 г. у трохкутніку вёсак Грунвальд — Таненберг (г. Стэмбарк) — Людвігсдорф (Людвігова); цяпер Ольштынскае ваяводства Польшчы. Крыжакі былі пераможаны.

[5] *Каліноўскі* Кастусь (1838—1864) — нацыянальны герой Беларусі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гг. у Беларусі і Літве.

[6] *Ворскла* — рака на Украіне, каля якой у 1399 г. адбылася бітва паміж войскамі ВКЛ і Залатой Арды.

[7] *Амсціслаў...* — маецца на ўвазе бітва пад Мсціславам 1386 г. паміж войскам ВКЛ і войскам князя смаленскага Святаслава Іванавіча. Перамагло войска ВКЛ.

[8] *Вядроша* — рака на Смаленшчыне, каля якой 14 ліпеня 1500 г. адбылася бітва паміж войскамі Маскоўскай дзяржавы і ВКЛ.

### *Жаўцее ліст (с. 289)*

Упершыню — час. «Конадні», 1963, № 7.

[1] *Вухналі* — пляскатыя цвікі, якімі прыбіваюцца падковы.

### *Не першыя (с. 294)*

[1] *Налібакі* — вёска, цэнтр сельсавета ў Стаўбцоўскім раёне.

### *Вырai (с. 301)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1964, № 89.

### *Сон («Папырскаў крышку дождж...») (с. 304)*

[1] *Андантэ* (літаральна — які ідзе крокам) — умераны тэмп у музыцы, які адпавядае спакойнаму кроку.

### *Чалавек чалавеку брат (с. 310)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1964, № 90.

[1] *Homo homini lupus est (лац.)* — чалавек чалавеку воўк.

### *Ён граць не сціхне (с. 311)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1964, № 3—4.

### *Памяці кампазітара Міколы Куліковіча (с. 314)*

Друкуецца паводле рукапісу, які зберагаецца ў архіве Раісы Жук-Грышкевіч.

Упершыню — газ. «Беларус», 1971, № 165, студзень.

[1] *Шчаглоў-Куліковіч* Мікола (1896—1969) — кампазітар, адзін з арганізатараў Мінскага опернага тэатра, дырыжор яго сімфанічнага

аркестра. З 1944 г. — у эміграцыі, з 1950 г. — у ЗША. Аўтар опер «Лясное возера» (паст. 1942), «Усяслаў Чарадзей» (паст. 1943), абедзьве — на лібрэта Н. Арсенневай, аперэты «У вырай», кантаты, сімфоній, песень і рамансаў на словы Я. Купалы, М. Багдановіча, Н. Арсенневай, М. Кавыля, У. Дубоўкі, У. Жылкі і інш.

### *Між берагамі (с. 317)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1971, № 176.

[1] *Рочэстэр* — горад у ЗША, дзе Н. Арсеннева жыла з сям'ёй сына Уладзіміра; там памерла і пахавана на мясцовых могілках побач з магілай мужа.

### *Жыві (с. 318)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1976, № 230—231. Ліп.

Друкуецца паводле аўтографа з архіва Раісы Жук-Грышкевіч (Таронта).

### *Крыж (с. 318)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1988, № 352.

Друкуецца паводле выд.: Жук-Грышкевіч Р. Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, 1993.

[1] Маецца на ўвазе Беларускі крыж, які быў усталяваны ў Канадзе (Мідлянд) 5 верасня 1988 г. да 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі. На ўрачыстасцях прысутнічала і Н. Арсеннева.

### *Малачай (На смерць сябра юнацтва) (с. 319)*

Друкуецца паводле выд.: Жук-Грышкевіч Р. Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча (Таронта, 1993), дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Жук-Грышкевіч* Раіса (нарадзілася ў 1919 г. у Пружанах, жыве ў Канадзе) — старшыня Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады, жонка В. Жук-Грышкевіча.

[2] *Жук-Грышкевіч* Вінцэнт (1903—1989; вучыўся разам з Н. Арсенневай у Віленскай беларускай гімназіі) — доктар філасофіі, быў актыўным дзеячам беларускай эміграцыі, старшыня Рады БНР (1971—1982), доктарскую дысертацыю абараніў па творчасці Янкі Купалы.

### *Чарнобыль (с. 320)*

Друкуецца паводле газ.: Літаратура і мастацтва, 1992, 6 сак., дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Светлае памяці Б. Вержбаловіч (с. 322)*

Друкуецца паводле выд.: Беларус, 1996, № 431. Студз. Першапачатковы варыянт упершыню — «Беларуская газета», 1943, 10 ліп; пад назвай «Memento mori».

[1] *Вержбаловіч* Барбара (1916—1996) — беларуская оперная спявачка на эміграцыі.

[2] *Тагор* Рабіндранат (1861—1941) — індыйскі пісьменнік, мастак, грамадскі дзеяч.

### *Зорка (с. 323)*

[1] *Юдэя,* Іудзея — назва паўднёвай часткі Палесціны.

[2] *Віфлеем* — горад на поўдзень ад Іерусаліма.

[3] *Давід* — цар ізраільскі, які праславіўся ратнымі подзвігамі.

## ПАЭМЫ, ВЕРШАВАНЫЯ АПАВЯДАННІ

### *Зорка (с. 327)*

Упершыню — зб. «Заходняя Беларусь», Вільня, 1924.

Сюжэт твора ўзяты з апавядання рускага пісьменніка А. Амфітэатрава (1862—1938) «Лятавіца».

### *Дзяўчына (с. 331)*

Упершыню — час. «Студэнцкая думка», 1925, № 2.

### *Лебядзінае возера (с. 334)*

Упершыню — час. «Студэнцкая думка», 1926, № 1.

### *Вядзьмак (с. 336)*

Друкуецца паводле час. «Шлях моладзі», 1937, № 5. С. 8, дзе апублікавана ўпершыню. Пазней балада не перадрукоўвалася.

### *Знічы (с. 343)*

Упершыню — час. «Сакавік», 1949, № 1.

[1] *Зніч* — святы непагасны агонь у язычніцкіх культах славян.

### *Косы (с. 353)*

Упершыню — газ. «Бацькаўшчына», 1958, № 431—432. Ч. 1.

Тамсама ў 1959 г. (№ 451—452) паэма была апублікавана цалкам. Аўтарка змяніла і дапоўніла першую частку.

[1] *Гаалян* — хлебны злак роду сорга з высокім сцяблом, пакрытым лісцем.

[2] *Фанза* — сялянская хата ў Кітаі.

[3] *Бай* — міфічная істота дзіцячага фальклору, якая расказвае байкі, казкі.

[4] *Грозаў* — вёска ў Капыльскім р-не; 2-гі Грозаўскі полк — адзін з двух палкоў войска БНР, які ўдзельнічаў у Слуцкім паўстанні 1920 г.

[5] *Случ* — рака, прыток Прыпяці.

[6] *Цімкавічы* — мястэчка ў Капыльскім р-не.

[7] *Семежава* — вёска ў Капыльскім р-не. Адзін з цэнтраў Слуцкага паўстання 1920 г.

# ДРАМАТУРГІЯ

## *Усяслаў Чарадзей (с. 378)*

Упершыню — «Беларуская газета», 1944, 18, 22, 25 сак.

Друкуецца паводле час.: «Спадчына», 1999, № 3.

[1] *Усяслаў* Чарадзей (?—1101) — князь Полацкі (1044—1101), адзін з герояў «Слова пра паход Ігаравы».

# ПЕРАКЛАДЫ

## *Мікола Гусоўскі*
## *Песня пра зубра (с. 429)*

Упершыню — «Запісы Беларускага інстытута навукі й мастацтва (БІНіМ)», Нью-Ёрк, 1996.

Пераклад зроблены ў 1978—1982 гг.

[1] *Гусоўскі* Мікола (1470—80 — пасля 1533) — беларускі паэт-гуманіст і асветнік эпохі Адраджэння, адзін са стваральнікаў новалацінскай усходнееўрапейскай літаратурнай школы, дзеяч славянскай культуры, прадстаўнік рэнесанснага рэалізму, папулярызатар гісторыі і культуры Беларусі на сусветнай арэне. Аўтар паэм «Песня пра зубра», «Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы», «Жыццё і подзвігі св. Гіацынта».

[2] *Літва* — Літвою ў XVI ст. і пазней называлі землі Цэнтральнай і Заходняй Беларусі і паўднёва-ўсходняй часткі цяперашняй Літвы. Яны ўтваралі гістарычнае ядро Вялікага Княства Літоўскага. Літва ў больш шырокім сэнсе — тэрыторыя ўсяго княства.

[3] *Пліній* (61 ці 62 — каля 114) — рымскі пісьменнік. З твораў захаваліся збор пісьмаў у 10 кнігах і пахвальная прамова «Панегірык» у адрас імператара Траяна.

[4] *Венера* — у рымскай міфалогіі багіня вясны, садоў, пазней атаясамлівалася з грэцкай багіняй Афрадытай і лічылася багіняй кахання і прыгажосці.

[5] *Медэя* — у грэцкай міфалогіі чараўніца. Вобраз яе адлюстраваны ў літаратуры, музыцы, жывапісе.

[6] *Дыяна* — у рымскай міфалогіі заступніца паляўнічых, апякунка парадзіх.

[7] *Апалон* — у грэцкай міфалогіі сын Зеўса, апякун мастацтваў.

[8] *Юпітэр* — у рымскай міфалогіі вярхоўны бог. Адпавядае грэцкаму богу Зеўсу.

[9] *Юнона* — у рымскай міфалогіі адна з вярхоўных багінь, жонка Юпітэра.

[10] *Плоцкі біскуп Эразмус* — маецца на ўвазе біскуп Эразм Вітэліус (1474?—1522) — мецэнат і апякун паэта, паўнамоцны каралеўскі пасол ВКЛ і Польшчы ў Рыме з 1518 да 1521 г. (сакратаром у яго быў М. Гусоўскі). Закончыў Кракаўскі універсітэт, з 1503 г. — біскуп Плоцкі. На яго труніцы ў рымскай царкве св. Марыі выбіта васьмірадковая эпітафія, напісаная Гусоўскім.

[11] *Марс* — у рымскай міфалогіі спачатку бог палёў і ўраджаю, потым бог вайны. Лічыўся бацькам Ромула і Рэма — заснавальнікаў Рыма.

[12] *...хай жа пачуецца ў свеце Гусаўца голас...* — голас аўтара, М. Гусоўскага.

[13] *Жыгімонт* — маецца на ўвазе Жыгімонт І Стары, вялікі князь і кароль (1506—1548).

[14] *Базіліск* (Васіліск) — міфічны пачварны змей. Як паведамляў Пліній, ён быў надзелены здольнасцю забіваць не толькі ядам, але і позіркам, і дыханнем.

[15] *Вітаўт* (1350—1430) — князь Гарадзенскі, Трокскі, вялікі князь ВКЛ (1392—1430), сын Кейстута, унук Гедзіміна. Адзін з самых выдатных дзяржаўных дзеячаў ВКЛ.

[16] *... караля Аляксандра...* — Аляксандр Казіміравіч (1461—1506), вялікі князь ВКЛ (1492—1506), кароль польскі (1501—1506), сын Казіміра IV, унук Ягайлы. Быў жанаты на дачцэ вялікага Маскоўскага князя Івана III Алене Іванаўне.

[17] *Ятаган* — крывая шабля ў народаў Блізкага і Сярэдняга Усходу.

## УСПАМІНЫ, ГУТАРКІ, ЛІСТЫ

### *Аўтабіяграфічны нарыс (с. 461)*

Упершыню — «Беларуская мемуарыстыка на эміграцыі». Нью-Ёрк, 1999.

[1] *Сільветка* (польс. sylwetka) — сілуэт.

[2] *Бальмонт* Канстанцін Дзмітрыевіч (1867—1942) — рускі паэт-сімваліст.

[3] *Гумілёў* Мікалай Сцяпанавіч (1888—1921) — рускі паэт.

[4] *Ахматава* Анна Андрэеўна (1889—1966) — руская паэтка.

[5] *Цэзар* Гай Юлій (102 ці 100 — 44 да н. э.) — рымскі дыктатар, палкаводзец.

[6] *Антоній* Марк (каля 83 — 30 да н. э.) — рымскі палкаводзец, прыхільнік Цэзара.

[7] *Клеапатра* (69—30 да н. э.) — апошняя царыца Егіпта (з 51 г.), з дынастыі Пталемеяў. Была каханкай Ю. Цэзара, пасля 41 — Марка Антонія (з 37 г. — жонка).

[8] *Скот* Вальтэр (1771—1832) — англійскі пісьменнік.

[9] *«Наперад»* — часопіс, які выдаваўся беларусамі на эміграцыі з 1948 г.

[10] *«Паўлінка»* — п'еса Янкі Купалы, напісаная ў 1912 г. (паст. у 1913).

[11] *Цётка* (Алаіза Пашкевіч; 1876—1916) — беларуская паэтка.

[12] *Буйло* Канстанцыя (1893—1986) — беларуская паэтка. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1968). Аўтарка верша «Люблю наш край», які стаў беларускай народнай песняй (муз. М. Равенскага).

[13] *Тарашкевіч* Браніслаў (1892—1938) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, філолаг, літаратар. Акадэмік АН Беларусі (1928). У 1920 г. загадчык беларускага сектара дэпартамента асветы Сярэдняй Літвы. У 1921—1922 гг. дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, дзе ў тыя гады вучылася Н. Арсеннева.

[14] *Сярэдняя Літва* — Усходняя Літва, паўафіцыйная назва ў 1920—1922 гг., тэрыторыя Віленскага, Трокскага, Свянцянскага, Лідскага, Ашмянскага і Браслаўскага паветаў, захопленых у кастрычніку 1920 г. войскамі польскага генерала Л. Жалігоўскага. Гэта стварыла Віленскі канфлікт 1920—1939 гг. Каб надаць выгляд законнасці далучэння да Польшчы гэтых тэрыторый, у 1922 г. польскі ўрад арганізаваў выбары ў так званы Часовы сейм Сярэдняй Літвы, паводле рашэння якога ад 20.02.1922 г. Сярэдняя Літва ўвайшла ў склад Польскай дзяржавы.

[15] *«Дзяды»* — драматычная паэма Адама Міцкевіча (1798—1855) — польскага і беларускага паэта.

[16] *«Беларускія гоні»* — віленскі беларускі часопіс, выдаваўся ў 1920—1930-я гг.

[17] *Леўчык* Гальяш (сапр. Ляўковіч Ілья; 1880—1944) — беларускі паэт.

[18] *Луцкевіч* Антон (літ. псеўданім А. Навіна; 1884—1946) — беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, адзін з ідэолагаў беларускага адраджэння і заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады, газеты «Наша ніва», ініцыятар абвяшчэння незалежнасці БНР, дырэктар Беларускага музея ў Вільні (1921—1939). Працаваў выкладчыкам Віленскай беларускай гімназіі.

[19] *Танк* Максім (1912—1995) — беларускі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі.

[20] *Пултуск* — горад у Польшчы, дзе з 1937 г. жыла Н. Арсеннева з сям'ёй (па месцы службы мужа).

[21] *Вішнева* — мястэчка Ашмянскага павета, цяпер вёска ў Валожынскім раёне.

[22] *Кучар* Алесь (1910—199) — беларускі крытык, драматург.

[23] *«Беларуская газета»* — выдавалася ў Мінску ў 1941—1944 гг. з дазволу і пад кантролем нямецкіх уладаў.

[24] *«Кармэн»* — опера французскага кампазітара Ж. Бізе (Bizet; 1838—1875).

[25] *«Евгений Онегин»* — раман у вершах А. С. Пушкіна (напісаны ў 1823—1831 гг.).

[26] *«Голас вёскі»* — выдавалася ў акупаваным Мінску ў 1941—1944 гг.

[27] *Казлоўскі* Уладзіслаў (1896—1943) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, паэт, публіцыст, быў рэдактарам «Беларускай газеты», друкаваўся пад псеўданімам У. Казлоўшчык. Застрэлены савецкімі падпольшчыкамі ў Мінску.

[28] *«Узвышша»* — літаратурна-мастацкі часопіс. Выдаваўся ў 1927—1931 гг. у Мінску.

[29] *Раманаў* Еўдакім (1855—1922) — мовазнавец, этнограф, фальклярыст, археолаг.

[30] *Гаўтман* Герхарт (1862—1946) — нямецкі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1912).

[31] *Клейст* Генрых фон (1777—1811) — нямецкі пісьменнік.

[32] *Моцарт* Вольфганг Амадэй (1756—1791) — аўстрыйскі кампазітар.

[33] *Вебер* Карл Марыя фон (1786—1826) — нямецкі кампазітар і дырыжор.

[34] *Яраслаў* (1923—1943) — старэйшы сын Н. Арсеневай. 22 чэрвеня 1943 г. падпольшчыкі заклалі міну ў Мінскім гарадскім тэатры, дзе сабралася беларуская моладзь. Загінулі 14 чалавек, у тым ліку і Яраслаў, было шмат параненых. Пахаванне адбылося на Вайсковых могілках.

[35] *Кубэ* Рыхард Паўль Вільгельм (1887—1943) — кіраўнік цывільнай акупацыйнай адміністрацыі ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну (Генеральны камісар Генеральнай акругі Беларусь).

[36] *Савёнак* Лявон (Крывічанін Лявон, Свэн Леанід; 1897—1947) — празаік, журналіст, дзеяч беларускай эміграцыі.

[37] *Аляхновіч* Францішак (1883—1944) — беларускі драматург, празаік, паэт, публіцыст, тэатральны дзеяч, акцёр. Аўтар кнігі «У кіпцюрох ГПУ» (1937).

[38] *Шкялёнак* Мікалай — юрыст па адукацыі, першы віцэ-прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР). Рэдактар газеты «Раніца» да 1942 г. і рэдактар «Беларускай газэты» пасля забойства У. Казлоўскага. Расстраляны бальшавікамі ў 1947 г.

[39] *Зубко* Вольга (літ. псеўданім Таполя Вольга) — празаік, паэт. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт, настаўнічала, працавала карэктарам у Дзяржаўным выдавецтве. У час нямецкай акупацыі жыла ў Мінску, працавала ў рэдакцыі «Беларускай газеты». У 1944 г. эмігравала, жыла некаторы час у Ватэнштэце, працавала разам з Хведарам Ілляшэвічам, у 1948 г. вярнулася на Беларусь, была асуджана на 15 гадоў ГУЛАГу. Пасля зняволення жыла ў Мінску, спрабавала пісаць. Яе празаічныя занатоўкі і вершы ў 60-х гг. друкаваліся ў газеце «Голас Радзімы», але былі адмоўна ўспрынятыя на эміграцыі.

[40] *Іваноўскі* Вацлаў (1880—1943) — беларускі палітычны і грамадскі дзеяч. Доктар тэхналагічных навук (1909). Заснавальнік Беларускай рэвалюцыйнай партыі (БРП, 1902), займаўся выдавецкай дзейнасцю, член ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ, 1904—1905), стварыў у Пецярбургу першае беларускае выдавецтва — супольку «Загляне сонца і ў наша аконца» (1906), супрацоўнічаў з газетамі «Наша доля» і «Наша ніва». Удзельнік Усебеларускага з'езда 1917 г. у Мінску. У 1918 г. — міністр асветы ва ўрадзе БНР, выпускаў літаратурны штотыднёвік «Рунь». У 1922—1939 гг. — прафесар Варшаўскага політэхнічнага інстытута, з 1939 г. — Віленскага універсітэта. У 1941 г. нямецкімі акупацыйнымі ўладамі прызначаны бургамістрам Мінска, з 1943 г. — старшыня Беларускай Рады даверу, намеснік старшыні Беларускага навуковага таварыства.

[41] *Лебяда* Тодар (сапр. Шырокаў Пятро, 1914—1970) — беларускі драматург, паэт, празаік, публіцыст.

[42] *Беларуская Цэнтральная Рада* (БЦР) — дапаможны дарадчы орган, цэнтральная інстанцыя беларускай адміністрацыі на акупаванай тэрыторыі Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Створана з дазволу акупантаў у 1943 г. з Беларускай рады даверу пры Генеральным камісарыяце Беларусі. У БЦР уваходзілі 14 чал. Прэзідэнт БЦР — Радаслаў Астроўскі.

[43] *Другі Усебеларускі кангрэс* — кангрэс Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР). Адбыўся 27.06.1944 г. у Мінску з дазволу і пад наглядам германскіх акупацыйных уладаў. Кангрэс прызнаў правільным рашэнне Рады БНР ад 25.03.1918 г. аб канчатковым разрыве з бальшавіцкай Масквой, пацвердзіў, што голас Масквы і СССР у беларускіх справах не мае законнай сілы, прызнаў БЦР на чале з Р. Астроўскім «адзіным праўным прадстаўніком беларускага народа і ягонага краю».

[44] *Геніюш* Ларыса (1910—1983) — беларуская паэтка, празаік.

[45] *РОА* (Русская освободительная армия) — антысавецкае ваеннае фармаванне, створанае нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады вайны. Кіраваў РОА А. А. Уласаў, па імені якога ўдзельнікі РОА названы «ўласаўцамі».

[46] *«Раніца»* — газета, выдавалася ў Берліне (1939—1945) на беларускай мове пад кантролем германскіх уладаў. Выходзіла 1—4 разы ў месяц.

[47] *Аўслендэры* (ням. auslander) — чужынец, іншаземец.

[48] *«Сакавік»* — беларускі часопіс. Выдаваўся на эміграцыі ў Нямеччыне (1946—1949), рэдактар Ант. Адамовіч.

[49] *Ашуранс* (англ. surance) — страхоўка.

### *Біяграфія Францa Кушаля (с. 501)*

Друкуецца паводле выд.: Кушаль Ф. Спробы стварэння беларускага войска. Мн., 1999, дзе апублікавана ўпершыню.

[1] *Першаі* — вёска ў Валожынскім раёне.

[2] *Тышкевічы* — шляхецкі магнацкі род герба Лялiва ў ВКЛ.

[3] *Гарун* Алесь (сапр. Прушынскі Аляксандр; 1887—1920) — беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч.

[4] *Беларускі з'езд* — з'езд беларускіх дэлегатаў Віленшчыны і Гродзеншчыны (9—10 чэрвеня).

[5] *Пілсудскі* Юзаф (1867—1935) — польскі палітычны і дзяржаўны дзеяч.

[6] *Беларуская вайсковая камісія* — орган па фармаванню беларускіх аддзелаў у польскім войску ў 1919—1921 гг. Утворана ў 1919 г. у Вільні Цэнтральнай беларускай радай Віленшыны і Гродзеншчыны паводле дамоўленасці з начальнікам Польскай дзяржавы Ю. Пілсудскім.

[7] *Самапомач* — Беларуская народная самапомач (БНС) — дабрачынная нацыянальная арганізацыя на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі пад час Другой сусветнай вайны. Дзейнічала пад кантролем акупантаў.

[8] *Беларуская краёвая абарона* (БКА) — вайсковае фармаванне на акупаванай Беларусі. Дзейнічала з дазволу немцаў. Мэта БКА — арганізацыя беларускага нацыянальнага войска. Узначальвала БКА галоўнае камандаванне на чале з маёрам Ф. Кушалем.

[9] *Шукелойць* Антон — дзеяч беларускай эміграцыі, старшыня Беларуска-Амерыканскага задзіночання (БАЗА) у Нью-Ёрку. Заснавана ў 1949—1950 гг.

### *Лістаючы бачыны мінулага (с. 506)*

Друкуецца паводле газ.: Беларус, 1992, ліп.— жн., дзе апублікавана ўпершыню.

[1] *Усё далей сплывае ўдалеч, у змрок той край, дзе люба ўсё...* — цытата з верша Н. Арсенневай «Развітанне».

[2] Беларуская гімназія імя Янкі Купалы была заснавана ў снежні 1945 г. у нямецкім горадзе Рэгенсбургу (потым пераехала ў Міхельдорф). Дырэктар — Аляксандр Орса (нарадзіўся 1896 г. у Нягневічах, вучыўся на прыродазнаўчым факультэце Карлавага універсітэта ў Празе, абараніў дысертацыю ў 1928 г., атрымаў тытул доктара), працаваў затым у беларускай гімназіі ў Наваградку, пад час вайны быў акруго-

вым школьным інспектарам Наваградскай акругі. На эміграцыі з 1944 г. У гімназіі імя Янкі Купалы выкладаў прыродазнаўства і геаграфію.

[3] *Палыном і быллём параслі нашы нівы...* — цытуецца верш Н. Арсенневай «Песня каліноўцаў», напісаны ў Мінску ў 1942 г.

## *Прывітанне ўсім, хто варты, каб яму перадаць прывітанне* (с. 510)

Друкуецца паводле выд.: Л. Пранчак. Беларуская Амерыка. Мн., 1994, дзе апублікавана ўпершыню.

[1] Спробы стварыць Беларускую аўтакефальную царкву рабіліся на Беларусі ў 1920-я і ў 1942—1944 гг. З 1948 г. БАПЦ дзейнічае на эміграцыі.

[2] *«Сум па Радзіме»* — маецца на ўвазе анталогія «Туга па Радзіме. Паэзія беларускай эміграцыі» (Мн., 1992; уклад. Барыс Сачанка).

[3] *Салавей* Алесь (сапр. Радзюк Альфрэд; 1922—1978) — беларускі паэт, жыў і памёр у Мельбурне.

[4] *Случанін* Лявон (сапр. Шпакоўскі; 1914—1995) — беларускі паэт. У гады вайны жыў і працаваў на акупаванай тэрыторыі. Быў асуджаны на 15 гадоў зняволення, да 1973 г. жыў у Варкуце, потым вярнуўся на радзіму.

## *«Я — самы звычайны чалавек, часцінка майго народа...»* (с. 514)

Друкуецца паводле газ.: Ніва, 1994, 30 студз., дзе апублікавана ўпершыню.

[1] *«Ніва»* — беларуская газета, выдаецца ў Беластоку (Польшча).

[2] *«Нібы жоўтая восень, стаю над жыццём...»* — цытата з верша Н. Арсенневай «Маладым паэтам», напісанага ў 1936 г. у Равічы.

[3] *«Лёс мне казаў сяння быць...»* — цытата з верша Н. Арсенневай «Смела, наперад», напісанага ў 1944 г. у Мінску.

[4] *Грамада* — Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ), легальная рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя працоўных Заходняй Беларусі ў 1925—1927 гг., у якую ўваходзіла каля 120 тыс. чалавек Грамаду ўзначальваў Цэнтральны камітэт на чале з Б. Тарашкевічам, С. Рак-Міхайлоўскім. У 1927 г. Грамада была афіцыйна забаронена польскімі ўладамі.

[5] *СМБ* — Саюз беларускай моладзі, маладзёвая грамадская арганізацыя на акупаванай Беларусі ў 1943—1944 гг. Падпарадкоўвалася БЦР, кіраўнікі — Мікола Ганько і Надзея Абрамава.

## *«Я вельмі высока цаню сучасную беларускую паэзію...»* (с. 517)

Друкуецца паводле газ.: Беларус, 1983, лістап.— снеж., дзе апублікавана ўпершыню ў сувязі з 80-годдзем Н. Арсенневай.

[1] *Пушкін* Аляксандр Сяргеевіч (1799—1837) — рускі пісьменнік.

[2] *Лермантаў* Міхаіл Юр'евіч (1814—1841) — рускі паэт.

[3] *Някрасаў* Мікалай Аляксеевіч (1821—1877) — рускі паэт.

[4] *Тургенеў* Іван Сяргеевіч (1818—1883) — рускі пісьменнік.

[5] *Талстой* Леў Мікалаевіч (1828—1910) — рускі пісьменнік.

[6] *Верн* Жуль (1828—1905) — французскі пісьменнік.

[7] *Брэт Гарт* (1836—1902) — амерыканскі пісьменнік.

[8] *Лондан* Джэк (сапр. Джон Грыфіт; 1876—1916) — амерыканскі пісьменнік.

[9] *«Патаёмнае»* — апавяданне Максіма Гарэцкага, напісана ў 1913 г., упершыню друкавалася ў час. «Варта», 1918, № 1.

[10] *Мацей Бурачок* — псеўданім Францішка Багушэвіча (1840—1900), беларускага паэта, празаіка, публіцыста.

[11] *Бядуля* Змітрок (сапр. Плаўнік Самуіл; 1886—1941) — беларускі пісьменнік.

[12] *Жылка* Уладзімір (1900—1933) — беларускі паэт.

[13] *Ясенін* Сяргей Аляксандравіч (1895—1925) — рускі паэт.

[14] *Дубоўка* Уладзімір (1900—1976) — беларускі паэт, празаік, перакладчык.

[15] *Пушча* Язэп (сапр. Плашчынскі Іосіф; 1902—1964) — беларускі паэт.

[16] *Машара* Міхась (1902—1976) — беларускі пісьменнік.

[17] *Васілёк* Міхась (сапр. Касцевіч Міхал; 1905—1960) — беларускі паэт.

[18] *«Краскі любыя, памяткі іншых палос...»* — цытата з верша Н. Арсеневай «Васількі».

[19] *«Полымя»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца з 1922 г. у Мінску.

### *1. Антону Луцкевічу (с. 523)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы (ф. 21, спр. 278, арк. 29). Публікацыя А. Сідарэвіча.

[1] Маецца на ўвазе паэма А. Міцкевіча «Дзяды», якую на той час перакладала Н. Арсенева.

### *2. Антону Луцкевічу (с. 523)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы (ф. 21, спр. 278, арк. 26). Публікацыя А. Сідарэвіча.

Не выключана, што гаворка ідзе пра вершы для зборніка «Заходняя Беларусь» (у лісце ён названы альманахам), які выйшаў у 1924 г.

### *3. Антону Луцкевічу (с. 524)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы (ф. 21, спр. 278, арк. 27—28). Публікацыя А. Сідарэвіча.

### *4. Антону Луцкевічу (с. 525)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы (ф. 21, спр. 278, арк. 30). Публікацыя А. Сідарэвіча.

### *5. Вітаўту Тумашу (с. 526)*

Друкуецца паводле выд.: Беларуская мемуарыстыка на эміграцыі. Укл. Лявон Юрэвіч. БІНіМ, Нью-Ёрк, 1999.

[1] *Адамовіч* Антон (1909—1998) — гісторык і літаратуразнавец, празаік, дзеяч беларускай эміграцыі, аўтар прац па літаратуры, гісторыі, эканоміцы і культуры Беларусі. Аўтар уступнага артыкула да кнігі Н. Арсенневай «Між берагамі» (1979).

*Тумаш* Вітаўт (1910—1998) — дзеяч беларускай эміграцыі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Беларускага інстытута навукі і мастацтва (1951), галоўны рэдактар часопіса «Запісы» БІНіМ (1970-я гг.), газеты «Беларус». Узначальваў Фундацыю імя П. Крэчэўскага, даследаваў гісторыю еўрапейскага і беларускага кнігадрукавання, сувязі Беларусі з краінамі Балтыі, Польшчай, дзейнасць С. Буднага, В. Цяпінскага, Г. Хадкевіча, П. Мсціслаўца, Я. Карскага і інш. Аўтар прац у галіне скарыназнаўства, а таксама: «Міцкевіч і беларуская плынь польскае літаратуры» (1957), «Гістарычная канцэпцыя Вацлава Ластоўскага ў працах сучасных гісторыкаў» (1975), «Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў Беларусі» і інш.

Ліст суправаджаў «Аўтабіяграфічны нарыс», напісаны па просьбе В. Тумаша.

### *6. Масею Сяднёву (с. 526)*

Друкуецца паводле выд.: Сяднёў М. Масеева кніга. Мн., 1994, дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Влодак* — Уладзімір (нар. 1926), сын Н. Арсенневай.

[2] *Запруднік* Янка (сапр. Вільчыцкі Сяргей; нар. 1926) — гісторык, публіцыст, паэт, актыўны дзеяч беларускай эміграцыі.

[3] *«Конадні»* — літаратурна-мастацкі часопіс, выдаваўся БІНіМам у 1954—1963 гг.

[4] *Соцыял Сэкюрыты* — сацыяльная пенсія ў ЗША.

### *7. Вітаўту Тумашу (с. 527)*

Друкуецца паводле час.: Arche, 2001, № 6, дзе апублікаваны ўпершыню Л. Юрэвічам.

[1] *Каспровіч* Ян (1860—1926) — польскі паэт і перакладчык «Песні пра зубра» на польскую мову.

### *8. Вітаўту Тумашу (с. 528)*

Друкуецца паводле час.: Arche, 2001, № 6, дзе апублікаваны ўпершыню Л. Юрэвічам.

[1] *Семяжон* Язэп (1914—1990) — беларускі перакладчык. За пераклад «Песні пра зубра» ў 1982 г. атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

[2] Маецца на ўвазе Вітэліус Эразм (1474?—1522) — паўнамоцны каралеўскі пасол ВКЛ і Польшчы ў Рыме з 1518 да 1521 г. Быў мецэнатам і апекуном М. Гусоўскага. На яго труніцы выбіта васьмірадковая эпітафія, напісаная Гусоўскім.

[3] *Вітаўт* (1392—1430) — вялікі князь ВКЛ.

[4] *Парэцкі* Якаў (1913—1992) — беларускі літаратуразнавец і перакладчык. Пераклаў (разам з Я. Семяжонам) «Песню пра зубра» на рускую мову.

### *9. Раісе і Вінцэнту Жук-Грышкевічам (с. 529)*

Друкуецца ўпершыню паводле рукапісу, які захоўваецца ў архіве Р. Жук-Грышкевіч.

[1] Маецца на ўвазе Яніна Кахаоўская.

[2] *Туся* — нявестка Н. Арсенневай, жонка яе сына Уладзіміра.

[3] *Натачка* — унучка Н. Арсенневай.

[4] *Пецек* — унук Н. Арсенневай.

### *10. Раісе і Вінцэнту Жук-Грышкевічам (с. 530)*

[1] *Kats Kill Mountains* — горная мясцовасць у Канадзе.

[2] *Андрусышына* Юлія — з роду Каханоўскіх, маці Багдана Андрусышына (Данчыка), беларускага спевака (нар. у 1958 г. у Нью-Ёрку).

### *11. Дануце Бічэль (с. 530)*

Гэты і наступныя, аднасаваныя Д. Бічэль, лісты друкуецца паводле газ. «Наша слова», 1998, 13 і 23 верас., дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Бічэль* Данута (нар. 1938) — беларуская паэтка, жыве ў Гродна.

### *12. Дануце Бічэль (с. 531)*

[1] *Яновіч* Сакрат (нар. 1936) — беларускі пісьменнік, жыве на Беласточчыне.

[2] *Корбут* Вольга (нар. 1955) — беларуская спартсменка, жыве ў ЗША.

### *13. Дануце Бічэль (с. 532)*

[1] *Аксак* Валянціна (нар. 1953) — беларуская паэтка.

### *14. Леаніду Пранчаку (с. 533)*

Друкуецца паводле выд.: Пранчак Л. Беларуская Амерыка. Мн., 1994.

Ліст-адказ на анкету Леаніда Пранчака.

[1] *Пранчак* Леанід (нар. 1958) — беларускі паэт і журналіст.

### *15. Дануце Бічэль (с. 535)*

[1] *Бартуль* Вера — адна з актывістак і кіраўніц беларускага жаночага руху ў ЗША.

[2] *Богша* Лазар — полацкі майстар-ювелір XII ст.

### *16. Янку Запрудніку (с. 536)*

Друкуецца ўпершыню паводле рукапісу, які зберагаецца ў архіве Янкі Запрудніка.

Запруднік Янка (сапр. Вільчыцкі Сяргей, вядомы як паэт Сяргей Ясень; нар. 1926) — беларускі гісторык, палітолаг, публіцыст, паэт, крытык, актыўны грамадска-палітычны дзеяч. Доктар гістарычных навук. З 1957 г. жыве ў ЗША. Аўтар кнігі «Беларусь на гістарычным скрыжаванні» (1993).

### *17. Дануце Бічэль (с. 537)*

[1] Маецца на ўвазе абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь (1991).

### *18. Вандзе Махнач (с. 538)*

Друкуецца ўпершыню паводле рукапісу, які захоўваецца ў архіве Р. Жук-Грышкевіч.

## ДАДАТАК

### *Генадзь Бураўкін. Спадарыня Наталля (с. 539)*

Друкуецца паводле час. «Крыніца», 1996. № 11—12.

### *Раіса Жук-Грышкевіч. Мае ўспаміны пра Наталлю Арсенневу-Кушаль (с. 542)*

Друкуюцца ўпершыню паводле рукапісу, які захоўваецца ў архіве аўтаркі.

### *Нізка думак з юбілейнага вянка (с. 547)*

Друкуецца ўпершыню.

